Падпісны індэкс: **74813**
Чытайце «Дзеяслоў» у Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**



Ілюстрацыі на вокладцы Сяргея Пісарэнкі:
на 1-й стар.: «Куточкі маіх згадак», 2017 г.;
на 4-й стар.: «Восень», 2015 г.



Пасведчанне аб рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 631 ад 28 жніўня 2009 г., выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Заснавальнік — ГА «Літаратурна-мастацкі фонд «Нёман».
Юрыдычны адрас: вул. Кузьмы Чорнага, 18-2, 220012, г. Мінск.

Адрас рэдакцыі:
220025 г. Мінск-25, а/с 91
e-mail: dzieja@tut.by
www.dziejaslou.by
Тэл.: 200-80-91.

Здадзена ў набор 20.08.2017 г. Падпісана да друку 26.09.2017 г.
Фармат 70х108 $^1/_{16}$. Папера афсетная. Друк афсетны.
Аб'ём — 22 ул.-выд. арк. Наклад 700 асобнікаў. Заказ №

Паліграфічнае выкананне: сумеснае таварыства з абмежаванай адказнасцю «Медысонт».
ЛП № 02330/20 ад 18.12.2013.
Вул. Ціміразева, 9, 220004, Мінск.

Кошт нумара – па дамове.
Для дзяцей, старэйшых за 16 гадоў. 16+

№5 (90)
/верасень-кастрычнік/ 2017

дзеяслоў

ЗМЕСТ

паэзія

## Кірыла Тураўскі



...пільнуй
сябе ад ляноты,
ад многага сну,
пільнуй
ад лясаў-балясаў,
ад смехаў і абгавораў,
ад змяну і звадаў,
ад зайздрасці і хітрыні...

# Абралі жыццё самаперашае

Пытаешся, выпытоўца,
чаму такое жыццё прымаю,
што мець
не маю двара – ні жонкі,
ні самсных дзяцей,
што, мяса
на вусны не беручы,
заўсёды пашчуся,
што ў шчырай галечы,
у чорным уборы,
ў напратцы-валасяніцы
сябе трымаю,
што адымаю
сябе ад людскіх размаітых
гаворак і спраў, –
на ўсё гэта,
ўхваліўшы, што выяўляеш
цікавасць не марную да жыцця
Божых рабоў,

*Перастварыў*
*Алесь РАЗАНАЎ.*

адкажу адказам
не філасофіі, што здасягае
ёсціну з розуму,
не красамоўства,
што тчэ з угадак
дыялектычныя ўзоры,
але самою
праўдзіваю прастатою
Святых Пісанняў.

Звярніся, прашу цябе,
і пачуй,
што кажа кніга Быцця,
а яна кажа,
што самапершы,
створаны Богам,
жыхар на зямлі Адам
спачатку быў сам,
без жонкі,
і сам пачатак
зямнога жыхарства быў,
вось жа, бязжонны.
Калі ж далася
жонка Адаму, з ёю
пярэйдзе ў другі пачатак
жыцця свайго – й шлюб
яго знакавацьме.
Дагэтуль
быў ён як мы, адсамнік,
а з жонкай пабраўшыся,
стаўся злюдны,
як вы, і ўвайшоў
грэх у яго іство.

У цноце
ён быў любаваны Богам
і ў шлюбе
быў любаваны таксама,
пакуль не ўгнявіў
Бога сваім грахом.
Вы, што жэніцеся
і што ў самсці
знаходзіце насалоду,
не папікайце
манаства бязжонствам,
не абгаворвайце,
як і мы
не дакараем вас шлюбам,
бо не з-за жонкі
загінеце, а з-за граху,
і збавенне
займееце не праз жонку,
а праз дабраіснасць.
Жонка
адно да труны
застаецца вам жонкаю,
а збавенне,
як і душа, – назаўсёды.
Жонка
і дзеці ад вас
адлучацца смерцю,
а добрыя справы ўзыдуць
на суд Божы з вамі.

Мы ў першым
жыцці аднаходзімся –
у старэйшым:
яно – у цноце;
вы ў тым, што выйшла з яго, –
у другім.
У шлюбе
вы звязваеце сябе жонкаю,
і турботы,
што вынікаюць з яго
непазбежна,
як вязняў,
палоняць вас.

Дзіўлюся
й дзівуюся: ў гэтым веку
жонка табе да мяжы –
датуль,
дакуль застаешся ты тут,
далей,
калі пераходзіш у век наступны,
яна пакідаецца;
і хіба толькі
жыццё, што ёсць тут, –
жыццё?!.

Узгадайма,
ці не адняўся
ад жонкі сваёй –
не памёр ад яе – Аўраам
праведны?!.

І, адняты,
тады быў Богам прыняты,
каб з Ім назаўсёды застацца.
Гэтак і ты
рупся, каб перайсці
змагчы ад зямлі да Бога,
ад жонкі ў бязжонства,
з часовай сялібы
у вечную!
Не выпадкова
ў жыцці выяўляюцца
распадзелы,
а людзі, ім адпаведна,
у іх: яны
азначаны Богам,
і Богам
створаны мы і вы.

З Паўлам,
бязжонным апосталам,
слова кажу:
табе трэба
рупіцца, каб дагадзіць
жонцы,
а нам, каб стацца
угоднымі Богу самому
й самой душы.
І таму, што Бог
асноўца абедзвюх дзеляў,
тое, што тут выкладаю,
ўспрымі
розумам і душой –
і, з увагай
Пісанне чытаючы, у дапатопных
часах спаткаеш
бязжоннага Авеля,
сына Адамавага,
што прыносіў
Богу ахвяру: чыстай,
убачыш, была яна.

Здзівы
наблізяцца да цябе
й судаткнецца
з табою глыбачыня, калі
розумам і душою
увойдзеш у тое,
што кажацца.

Ўведай,
хто большы з абодвух:
ці Аўраам
шлюбны, ці Мелхеседэк
бясшлюбны,
цнатлівец,
спадобны Божаму Сыну
чынам сваім,
святар
Бога Ўсявышняга,
што Аўраама,
выйшаўшы, багаславіў?
Апостал
без двому аб'явіць:
меншы
багаслаўляецца большым.

Захочаш
постаць за постаццю напаткаць
іншых святых,
угледзься –
выйдзе
з людской грамады
Самуіл-прарок, што з юначых
гадоў беззаганна
у цноце служыў царкве.
Тады ўгледзь
трох юнакоў і з імі
збожнага Данііла:
у Вавілоне,
калі апынуліся там,
сваімі
дзівоснымі дзеямі
ўславілі Бога.
Хіба хто
забараняў ім пабрацца,
як іншыя ізраільцяне,
шлюбам?
Аж не – абралі
жыццё самапершае і ўзнялі
бязжонную славу
вышэй за з'яву
самсных дзяцей.

Хто зможа згасіць
і адвесці ад веры
сямігалінны свяцільнік
сямёх юнакоў Макавейскіх?

Сямёх юнакоў, што, з боскім
законам з'яднаныя,
прынялі
пакуту дзеля яго,
юнакоў,
што ў цноце і ў чысціні
узгадаваны былі – праўдзівей
ад царскіх дзяцей.
Насампраўдзе пераўзыходзяць
іхнія жыцці жыццё
нават цара Саламона:
ён упрыгожыў
золатам,
срэбрам
і камянямі каштоўнымі храм,
а яны сваёю
данінаю самаахвярнай
самі ўпрыгожыліся і заззялі
сваімі душамі ў гэтым свеце
ярчэй за сонца само –
вянок
пакутніцкі з імі.

О слава гожая цноцтва!
О родзе духоўны,
выдатнейшы за цялесны!
О чыстае семя веры,
што прарастае
у неўміручасць!

Але калі кажаш,
што шлюб шанотны,
хай вытлумачвае і навучае
цябе, чаго варта што,
Павел, апостал святы.
Пытанне:
Хто ёсць шанотны?
Адказ: Шанаваны
яшчэ не святы,
і святасць
вышэй за ўшану.

Аднак святое
целам і духам цноцтва:
ў ім славіцца Бог.
Міні ўсё астатняе –
ўнікні
у жыцці святых
і ўбач
у вогнена-полымных словах
прарока Ілллю, рупатліўца
Божага, што асягаў
у дзеях сваіх надзвычайнае,
што быў замкнуў
і адамкнуў нябёсы:
ў пустыні былі
сялібай яму дубровы.
Затым
угледзь Елісея прарока,
што жыў на гары
і з Богам
гутарыў у бязмоўі,
што незлічоным
войскам анёльскім
быў абваколены.

Гэтаксама
ўгледзь постаць,
якой аб'явіўся
хрысціцель Гасподні,
у целе анёл,
Іаан Папярэднік:
ён быў ахінуты
вопраткай валасяною
і скураным
пасам аперазаны.
Бязмяснай
была яго спожыць,
і сам ён быў
гарлівы слуга перад Богам
і перад людзьмі,
найвышэйшы сярод прарокаў.
Хто ж бы
забараніў яму есці,
калі зажадаў бы, мяса?
Хіба закон?
Але ж не, бо ў царскіх
дамах мясаедцаў,
і едакоў крывяной спажывы,
і жоналюбцаў было
болей, чым багалюбцаў.
Калі асуджацьме
ён цара Ірада,
узгадаем
словы Хрыстовы, што Іаан
ні хлеба не есць,

ні віна не п’е,
а што спажывае,
адкажам, дык мёд,
дык алей...
І згадаем
тут яшчэ Іаана і Паўла
апосталаў –
паслядоўцаў
Хрыстовых адданых.

Злучы
астатняе з гэтым і ўведай,
адкуль выводжу
пачатак бязжонны і што
звязваецца з жыццём
чорным і посніцкім.
У раі,
у даўнія дні,
не было чуваць, каб жывёлы
на ежу калоліся,
рэзаліся,
забіваліся – й кроў
тады не лілася:
ў спажытак
Адаму заўжды былі
зярняты шчодрых раслін
і плады
дрэў шчырадайных.

Апостал
кажа прытым пра тых,
што, ў памкненнях
заўзятыя, забараняюць
жаніцца і адвяртаюць
ад спожыці – ці сябе
маючы ў думках,
ці поснікаў –
быў з імі дружны,
ці цнотнікаў –
іх адзначыў
ухвалай сваёй:
Нежанаты
дбае, як мае ўгадзіць
Госпаду.
Ды хто кажа задужа
сурова, што шлюб нягожы,
а ежа, каб есці,
не вартая, –
той чужы
Божаму Духу.

Не спакушайся,
угодніча самсці:
збавенне не ў мясе –
гнаі вантробным,
не ў рызах каштоўных –
хіба ў іх знойдзеш Хрыста?
І ў шлюбе,
любячы жонку альбо дзяцей
больш за Хрыста,
Хрыста
не станешся варты.

Вось жа,
не шлюбу цябе Хрыстос
вучыць, а цноцтву,
а посту,
а змірнасці,
не дзецяроднасці,
а самароднасці,
а ўстрыманню:
дасюль
усе нараджаліся і шлюбаваліся,
але жыццё
наступнага веку не гэтакае –
прадвыяўляе
табе Ён яго вымоўна
Сваім жыццём.
Бо тады,
ва ўваскрэсенні, кажа,
ні жэняцца, ні выходзяць
замуж, а на нябёсах
жывуць, бы анёлы Божыя.
Ты ж прымі
Ягоны дарунак –
Хрыстос дае
табе сама лепшы,
а рэчы
гэтага свету –
ты меў іх ужо
і маеш яшчэ: не досыць?!.

Пачуй
апостала: Самсць і кроў
не могуць успадкаваць
Царства Божага.

Не кажу
табе, што шлюб дрэнны
ці што заганны,
але кажу, што цяжкі,
што стратны,
што шматтурботны,
і не кажу, каб браўся
з грахом
і не браўся з жонкай,
а зычу,
каб пераймаў
апостальскае жыццё й
станавіўся
яго спадкаемцам.
Бо лепш,
не трымаючыся ўстрымання,
жыць з жонкаю ў шлюбе,
чым упадаць у грэх.
Збожны,
калі пераможаш жадобу
і асвяцішся душою;
спазнаючы, спазнай,
што Хрыстос
хоча, каб ты духоўным
стаўся – ад путаў
гэтага свету вольны.

Будзь вучань,
аднак не таго
другога, зямнога Адама,
што запавет,
дадзены Богам, парушыў
і быў
выгнаны з райскага саду,
а ўследуй
Адаму нябеснаму – першаму:
ты й хрысціўся
ў імя Яго, каб увайсці
ў жыццё вечнае.
Хто, аднак, любіць –
чытаем – бацьку,
ці маці,
ці жонку сваю,
ці дзяцей
больш, чым Мяне, нягарты
Мяне; хто ж хоча
быць вартым, няхай
адмовіцца ад сябе
і возьме свой крыж –
і ідзе
следам за Мной,
бо хто хоча
душу сваю ўратаваць,
яе страціць,
хто ж страціць
душу сваю дзеля Мяне
і Евангелля – уратуе.

Якая карысць чалавеку,
калі здабудзе
ўвесь свет, а змарнуе
душу сваю?
Да таго ж,
якою такою цаною
яе ацэніць і коштам
азначыць якім?
З душою
сваёй таясамячыся,
скажы мне,
з якога радовішча славу
намерваешся здабыць?
Ці зрэшты, умілаваны,
з самога сябе наказу
ісці за Хрыстом
не займеў?
Бо цесны
той шлях і скрушны,
гаворыцца, што вядзе
ў жыццё вечнае,
і наадварот:
шырокая тая брама,
прасторная, што ў пагібель
уводзіць.

І звыш таго
скажу табе тут: пільнуй
самога сябе і пільнуйся
Цара надмоцы,
ў чыю руку
запавяшчаешся ты
і сама
зямля да яе канцавінаў;
Ён прыйдзе
судзіць гэты свет
і адплату
ўсім мецьме з Сабой,
правасудца.

Пытацца
пытаешся пра адзенне,
якое носім, – пра нашы
чорныя,
бедныя,
валасяныя,
жабрачыя рызманы:
патрэбу
у іх адчуваеш,
знаходзіш
у іх насампраўдашні змест?!.
Я ж не маю
патрэбы ў прывабных,
у маляўнічых,
у каляровых уборах – імі
вас аздабляе, ва ўцеху вам,
свет.
Але ўсе, хто хоча
умалітовіць Бога й дарэшты
выспавядацца,
выкаяцца ў грахах,
ад апратак
святочных ды светлых
апратваюцца і на сябе
нацягваюць зрэбніну-валасяніцу –
адзенне скрухі,
адзенне змірэння;
перад усім
яно самаробнае,
перад усім
самае чыстае:
рабаванне
яго не заплямiла,
здзерства не зачапіла,
і слёзы галетнікаў скрыўджаных
не акрапілі.

Давыд,
цар Ізраільскі, ў час
спаду свайго напіша,
што апрануўся
у зрэбніну і ўспакорыў
постам душу сваю –
гэткім чынам
у посце,
у зрэбніне,
у спакоры,
ў жалобе
ды ў бедаванні шукаў
ён міласці Божай,
як гэтаксама
цар у Ніневіі горадзе,
калі ўведаў
пра вырак Божы,
і гэтаксама як шматпакутны
Іоў, калі
згінуў набытак яго і дзеці
загінулі: ён тады
абстрыг валасы галавы сваёй
і, ў гнаішчы
седзячы, вымаўляў
жальбы свае да Бога.

У пакаянні,
калі бязмоўе
у іх увайшло і яны ўвайшлі
душою ў змірэнне,
успомніў
Гасподзь іх,
пачуў малітву
іхнюю – і ачысціў
іх ад грахоў,
і свой гнеў адвярнуў ад іх.
Гэтаксама
і чарнарызцы,
у дбанні сваім
адцураючыся ад зману
гэтага свету, ўсе дні
упрысвячаюцца Богу –
ў грахах вызнаюцца
і ад рукі іярэйскай
прымаюць пострыг,
каб як унутрана,
так і знадворна, са свету
вырозніваюцца.

А пострыг ёсць вобраз:
як валасы
на галаве адстрыгаюцца,
гэтак мусяць
табой ад цябе
адатнуцца твае
грэшныя звычаі,
самсныя жады,
собскія волі;
што мецьмеш у вызнам –

вянец
на макаўцы самай.
Астатнія валасы,
абнаваколеныя, застаюцца
нагадкай, каб пастрыжэнец
не пакідаў
рупіцца ў Госпадзе
і намагаўся,
памятаючы наступнасць,
займець нябесны вянец –
нятленны.

Ў дадатак
да сказанага пра пострыг
пачуй і Божыя словы,
Майсеем занатаваныя:
Упрысвячэнец
перад дзвярыма бажніцы
збору
хай абстрыжэ галаву
свайго ўпрысвячэння
і валасы
ўскладзе на агонь
пад ахвярай збавення.
Таксама
пачуй пра тое ж
у Дзеях апостальскіх:
Павел,
пабыўшы ў Карынфе досць
дзён,
развітаўся
з сябрынаю і адплыў
у Сірыю – з ім
Акіла й Прыскіла, – згодна
з упрысвячэннем абстрыгшы
ў Кенхрэях сабе галаву.

Пра тое ж
сведчаць старэйшыны,
што сышліся
ў Ерусаліме ў доме
Іакава й Паўлу
выснавалі наказ:
Збярэцца
напэўна народ –
бо дачуюцца,
што ты прыйшоў;
зрабі ж,
што мы табе скажам:
тут у нас ёсць
чатыры мужы, што маюць
упрысвячэнне,
узяўшы іх,
з імі ачысціся і заплаці
выдаткі за іх,
каб яны абстрыглі
галовы свае.
Тады Павел,
узяўшы мужоў тых і з імі
ачысціўшыся, назаўтра
ўвайшоў у бажніцу
і абвясціў,
што скончаны дні ачышчэння
й адплата
сплачана цалкам
за кожнага з іх.

Калі кажаш:
гэты закон і гэты
зарок напісаўся Майсеем, –
мусіць дадацца:
а Богам запавяшчаўся.
Ён паказаў
нам шлях пакаяння
і тых, што ідуць
гэтакім шляхам, найменаваў
назарэямі.
І Самуіл,
і Ілля,
і Самсон,
і Іаан Папярэднік,
і сам Хрыстос валасы
адпускалі расці,
бо мелі асвечаныя галовы.

Кажа ў пасланні апостал:
Калі адпускае
мужчына свае валасы,
не ў шаноту
гэта яму.
Не ў шаноту, але не ў грэх,
бо што ў людзей нешанотна,
шанотна ў Бога.
Пра тое, як хлапчукі
напасміхаліся з Елісея,
прарока, у кнізе

чацвёртай Царстваў
гаворыцца:
І пайшоў
адтуль у Ветыль,
і калі ён ішоў
дарогай, малыя дзеці
выйшлі з паселішча й смехі
чынілі з яго,
і казалі яму: ідзі,
пляшывы, ідзі-і!..
Ён азірнуўся,
убачыў іх
і пракляў
іх імем Гасподнім –
і выйшлі
тады дзве мядзведзіцы
з лесу і разадралі
з іх сорак два дзіця.
Адсюль
ён пайшоў на гару Карміл,
а адтуль
вярнуўся ў Самарыю.

Бачыш,
ганьбуюць прарока
з-за плешыны,
і за гэта
іх губіць Бог!
Хто ганьбуе
ўпрысвечанае, і сёння
гневае Бога і дадзяе
пострыгу й чыну адсамнаму.
Што адбылося,
умілаваны? Той ведай,
якая ў табе, зразумей
несуадпаведнае:
за малую
віну навярнулася кара
вялікая на дзяцей.
Не білі яны яго,
не шпылялі,
не кідаліся камянямі, ніяк
не заранілі цела ягонага,
ды аднак
сваімі наўмыснымі словамі,
неразумцы,
знячцівілі чын
галавы прароцкай –
асвечанай – і адплату
наклікалі на сябе.

І калі ў хлапчукоў,
малалеткаў, што недабралі
розуму, адбірае
Бог за правіну-ўчынак
жыццё, няхай
асцерагаюцца тыя,
што ў розуме, ганяць
чын Елісейскі, сутны
на Божых адсамніках,
каб не прыклікаць
за тое – якой невядома –
бяды.
Аднак збожны
адсамнік, які
нячцівіцца светам, –
у Бога
здабудзе ён пашаноту,
што з часам
не згасне і не міне.
Нячціўцы
шукаюць жа пашаноты
сабе адно тут,
на зямлі.

Належыць
адсамнікам шанаваць
кожнага чалавека
і ўсіх людзей: у любові
станешся дасканалы!
Самі ж ушаны,
што ад людзей даецца,
прымаць не павінны.
А што павінны, дык памятаць
статут манаскі,
распазнавацца
ў правілы малітоўным
і, дзейснячыся ў самой
малітве, з ёю ўздымаць
да Бога набытак вуснаў.
Кажа прарок: Узнясу
Цябе, Божа мой,
Цару мой,
і навекі-надвекі
імя Тваё багаслаўлю!..

У Бога
просячы аб адпушчэнні
грахоў сваіх і асвячэнні
свету, згадай наказ
апостала, а ён кажа:
Беспярастанна
маліцеся, бо і анёлы
беспярастанна ўдзень і ўначы
выспеўваюць Бога.

Гэтак і чарнарызцам
належыць паводзіцца,
калі хочуць
наблізіцца да свайго
Госпада,
бо святыя
апосталы і пракрокі ў малітву
ўваходзілі не часова
і, ўвасхваляючы Бога
ў псалмах і спевах, Яго
у сэрцах сваіх аднаходзілі.
Будзьце святыя,
бо Я святы, – запавяшчаў
Майсею Гаспадзь.
Ці бачыш,
о светалюбча,
ці заўважаеш,
о чалавеча,
што свет
і ўсё, што на ім, не навечныя,
што цякуць
усе яго з'явы,
знікаючы, міма.
Дужа
дзіўлюся табе, што жывеш,
быццам намерваешся
заставацца
ўвесь век і ўсе леты
у гэтым веку,
а Бог ужо
межы азначыў
і канцавіны акрэсліў:
якія – мусіш
уведаць сам.

Ці не чуў
сказу апостальскага:
Ўсе святыя
быццам вандроўнікі і прышэльцы
былі на зямлі
і не мелі
горада, дзе змаглі б
прыстанак займець, але
будучы спасягалі.
І больш: блукалі
ў гарах і ў пустках,
у логвах туліліся і ў атворах
зямных, хадзілі
у скурах аўчыных адно
ды ў казіных – тыя,
каго не варты быў свет.

Скажы мне,
хіба тваё золата,
срэбра тваё і твае
рызы каштоўныя не пярэйдуць
у нейчыя рукі пасля цябе,
калі сам
не аддасі іх Хрысту
й жабракам Хрыстовым?!.
Якая карысць табе з іх
у труне?
Усім тым,
што ты хаваеш,
адсамнікі грэбуюць
і ўсё тое,
што абцалоўваеш – адцураюць.
Чым можаш хваліцца,
дык хрысціянствам;
кажы
разам з апосталам:
Што ў здабытак
было мне, я залічыў
дзеля Хрыста ў нястачу
і ўсё, што ні меў,
адымеў, як смецце,
каб адно толькі
займець Хрыста.

Зразумей,
што кажа святы
у Хрысце сярмяжнік,
боскі басотнік,
няўрымслівы кажамяка,
што, маючы шыла ў руцэ,
абыдзе,

асведчыць,
асвоіць дакуль магчыма,
як птах паднябессе,
зямны сусвет ды наверне
заблуднікаў да Хрыста
і, сабе нічога
ад свету не патрабуючы,
адно свет
жадаючы збавіць,
пакіне табе наказ –
каб звык жыць
гэтак, як піша ў лісце
да Цімафея: Ніхто,
хто воінам стаўся, сябе
не звязвае справамі купнымі,
каб у сугоддзі
быць з ваяводам
і вольным
ад важданіны жыццёвай.
Пра іх
прамаўляе прарок да Бога:
Хаваеш
Ты іх пад аслонай
аблічча Свайго ад людской
сумятні, у зацішшы
тоіш ад звадлівых языкоў.
Ахінае
сваёю аховаю Бог
адсамнікаў шчырых ад злюдных
непамыслотаў
ды варажнечых
змыслотаў: дык даступіся
і ты да іх!

Запавяшчаў,
умілаваны, табе
Хрыстос не дзяржаву, не горад
і не на тое
цябе паклікаў,
каб, хрысціянін,
прыязніўся з торжышчам,
прадаючы і купляючы,
ці каб множыў маёмасць,
ці каб пашыраў сялібы,
ці каб набываў рабоў,
ці каб, заможны, узводзіў
палацы й муры,
а што
запавяшчаў, дык жыццё
духоўнае: свет не можа
ўмясціць яго, як не змог
прыняць Духа Уцехі,
спасланага на святых
апосталаў.
Кажа Гасподзь:
Прыйшоў
Я не для таго, каб Мне
слугавалі, а каб паслужыць.
Бяруць
гэтую абятніцу
пры пострызе на сябе,
як святое Евангелле запавяшчае,
адсамнікі, і да іх
прамаўляе Пісанне:
Споўні
твае абятніцы Госпаду!

Што да іншых
чыннікаў, меншых,
то і пра іх
уведай што-колечы:
пасам
сябе апярэзваюць скураным
шырокім – ім для ўстрымання
ад збытнай яды ды піты
жываты ўшчымляюць,
як гэта рабіў Іаан;
затуляюць слыхі,
каб чуць не чуць марных
размоў і глумлівых слоў
і душою
не ўпэцкацца ў іх;
захінаюць зрокі,
каб бачыць не бачыць злюдных
вычынаў-вычварэнняў;
на галаву
і на плечы сабе ўскладаюць
крыж з наміткі валасяной,
ці, іначай, клабук,
каб быць
кшталтам унутраным і
знадворным
людзьмі крыжаноснымі –
ў гонар
Хрыста, што свой крыж
нёс, ідучы

на Укрыжаванне: гэтак
у гонар адсамнікам
вобраз крыжа
насіць на сабе з сабою.
Бо слова
пра крыж для згіблых
юродства, – кажа апостал. –
А мне няма чым
хваліцца,
хіба адно толькі крыжам
Ісуса Хрыста,
Госпада нашага, – ім
свет для мяне ўкрыжаваны,
а я для свету.

Яшчэ надзяюць
замест іярэйскіх рызаў
мантыю і, абручэнне
прымаючы са святым
евангельскім вобразам,
у ахвяру
сябе аддаюць – слугаваць
душою і целам Богу
ў цярплівасці і ў вымогах
да скону самога свайго.
Уяўляе
мантыя, бач, азнаку
труны: у ёй
молімся і пахаванне
маем у ёй – у гэтым
адзенні жалобы,
і як няма
вязням, што ў цемры сядзяць
і чакаюць часіны смяротнае,
весялосці, гэтак
праўдзівым адсамнікам свята
няма на зямлі.
На спіну
навешваецца ж параман:
для таго, хто веру
прыняў, ён вобраз
шчыта, а на грудзі –
крыж: як пячатка Хрыстова,
што супраць
ворагаў адмысловай
зброяю паўстае.

Калі ж хочаш нешта
глыбейшае ўведаць
пра чарнарызскі чын,
увайдзі
увагай сваёю ў яго,
прачытай,
што піша статут про пострыг,
знайдзі
у ім абятніцы цярплівасці,
што даюць
Госпаду пастрыжэнцы.
Выходзяць,
хто як, сваёю
сцяжынаю з гарадоў,
са злюду ў пустыню ці ў горы,
каб далучыцца
да гэткіх, як і яны,
пакліканых – навучыцца
Богу служыць,
навыкнуць
прыносіць Яму ў ахвяру
чала свайго пот,
з паклонам
схіляючыся да зямлі,
як Гасподзь
схіляўся ў малітве –
і пот
з чала Ягонага быў
бы кроплі крыві.

Што мусяць
далей – прызвычаіць
цела свaё сілкавацца
не гэтак, як едакі-
чэраваўгоднікі, але ў меру;
ды завязаць
язык ад кляцьбы,
абгаворвання,
брыдкаслоўя,
ды ўзняцца
сабою з сябе – ачысціць
сэрца сваё і вусны свае,
каб здолець
славіць Тварца свайго
і падзяку
узносіць Яму дні і ночы,
а не аблічча
гожыць сваё прад люстэркам,
а не купаць

цела сваё ў купальні,
а не выяўляць
вачам сваім сарамату
сваю, каб не мець
ганьбы перад сабой
і анёламі.

Спаць
спяць прыпынкам, вобмаль:
аперазаныя,
ў рызе,
абутыя,
каб адразу
ўстаць на малітву начную,
і спяць
не ў мяккіх пасцелях,
а на дзярузе
альбо на лямцы,
альбо на скуры якой:
даволі і гэтага,
пад галовы
месцячы не падушкі,
а камень альбо
дрэва якое.

Што да спажытку,
то ён
з зярнят ды алею,
й піта –
што розуму не ацямняе:
гэта вада,
з крыніцы ці гатаваная
і вiном
закрашаная.
Ніякай
жывёлы не колюць – крыві
не праліваюць і абіраюць
заўсёдней маўчанне,
чым гаварэнне.

Гэтак
і разумей чарнецтва:
вачамі
зроку яно скіравана долу,
і ўгору – душою.
У ім
канон пакаяння
і шлях збавення – сцяжына,
якой пераходзяць людзі
са свету ў Айчыну,
са страты жыцця ў жыццё,
што не мае скону,
і ў ім набываюць
духоўнае грамадзянства.
Ўсім ім,
Госпадзе Ісусе Хрысце,
дапамажы
Табе ўгоднымі стацца,
ў малітвы Тваіх святых
прысвячаючыся.
Амін.

А цяпер
звяртаюся да чарнарызцаў:
паслухай, няхай нанова,
о чарнарызца,
што ёсць чарнецтва,
альбо адсамніцтва,
альбо манаства –
у чым яно і адкуль.
Да яго
далучаны, ўведай
ты, што анёльскі вобраз
прыняў-пераняў на зямлі –
анёл
яго перадаў ад Бога
святому Пахому вялікаму.
І таму
малю цябе, умілаваны:
не гавары,
што ў лішак чарнецтва,
што ў марнасць,
што без патрэбы, –
не дадзявай
чыну абранаму: у ім Бог
цябе азначае пазнакай
Сваёю, каб ты
дзейсніўся ў славу Ягоную.

Кажа
сёй-той: не ўратуе
чорная рыза,
а белая не загубіць.
І насампраўдзе,
не рыза ратуе
і не красаванне
рызнае люба Богу.

Збавенне
ў змірэнні набудзеш,
змірэнню ж
да твару змірныя рызы.
Кажа святы Іаан
Лесвічнік: хай заўжды
гэтая скрушная рыза
цябе заахвочвае на малітву,
а з ёй на ўзвышчэнне і слёзы –
запавяшчаўся
ты ў ёй абмыць грахі.
Узгадай
словы прарока: Змірыўся –
і ўратаваў мяне Ён!
І больш: На дабро мне,
што Ты змірыў мяне,
каб навучыўся
я апраўданням Тваім.

Імкніся
і ты, ўмілаваны мой,
дараўняцца
да найвялебных айцоў,
што вякі да цябе
спачылі ў адсамніцкім чыне
святым і ў ім
ураталіся – сталіся
ўгоднымі Богу,
а хрысціянскаму люду
агменямі:
шчыра
яны аддаваліся посту,
дбалі ў малітвах,
зніжаліся ў пакланеннях,
з сябе
сябе здасягаючы,
ў рызы
не аздабляліся,
не дагаджалі самсці,
не дамагаліся славы
гэтага свету,
радзіну сваю апекай
сваёю не выдзялялі,
маёмасці не збіралі,
але няспынна
рупіліся аб душы і ўсімі
набыткамі злюднымі
пагарджалі;
у нэндзе,
галечы,
убогасці добраахвотнай
жылі яны на зямлі.

І ты, што адрокся
ад усяго, мой браце,
ведаеш, распазнаўшы,
што за дарункі
вораг прыносіць,
каб апаганіць і ўпляміць
душу, а гэта:
гонар,
самаўсхваленне,
пыха,
блюзнерства,
пажада,
злосць,
блуд,
узбурэнне,
корць золата,
ўпотай-грэхачыненне
і ўпотай-ежаядзенне –
асцерагайся іх і пільнуй
сябе ад ляноты,
ад многага сну,
пільнуй
ад лясаў-балясаў,
ад смехаў і абгавораў,
ад зману і звадаў,
ад зайздрасці і хітрыні;
не жадай
загадваць, а, слухмяны,
ўзлюбі запавешчанае,
каб паслужыць
бліжнім самааддана.
Ад іх
малітвы прыймаючы,
будзеш
Богам пачуты і ўмілаваны
і дзеля
змірэння твайго табе
Госпадам нашым
Ісусам Хрыстом уздасца
адплата належная –
маеш.

Заўсёды,
калі пачынаю прад Госпадам
выспавядацца
ў грахах сваіх, вызнаю
сябе негадзівым,
сябе ад'емным,
не вартым адплаты,
якой бы яна ні была,
ад Яго.
Дзялюся
з табой браталюбнай парадаю,
браце мой, успрымі –
й чарнецтвуй самааддана:
чарнецтвуй вачамі,
чарнецтвуй вушамі,
чарнецтвуй вуснамі і языком,
чарнецтвуй словамі й спевам,
чарнецтвуй развагай і думкай,
чарнецтвуй рукамі,
чарнецтвуй хадою,
чарнецтвуй душою і целам,
чарнецтвуй адзеннем,
чарнецтвуй у спожыцці,
чарнецтвуй у маласпанні,
чарнецтвуй не ў гонары,
а ў жалобе,
ў балеснасці сэрца,
у слёзах ды ва ўздыханнях,
чарнецтвуй слухмянасцю
і змірэннем,
чарнецтвуй бязжадлівасцю
і ўстрыманнем,
чарнецтвуй постам
і цверазеннем,
чарнецтвуй цярплівасцю
і цярпеннем,
чарнецтвуй братняй любоўю,
чарнецтвуй Госпаду,
а не людзям,
чарнецтвуй Хрысту,
а не супротнаму,
набірай
малітвы, як золата,
нашчаджай
бязмоўе, як перлы,
і вабнатою,
якой захапляецца свет,
і самсцю самой
пагарджай
у чаканні і ў прадчуванні
нябесных сялібаў вечных,
дзе пашанота і слава,
багацце і радасць
угатаваны – адно
вер і будзь верны.

Ператрывай
сквар усяго дня
твайго чарнецтва –
і ўвойдзеш у вечар лагодны
з тымі, з кім працаваў
у вінаградніку, каб прыняць
плату за працу ад гаспадара.
І скажа Гасподзь табе:
Добра,
раб добры і верны!
Ты быў
у малым адданы,
над многім
пастаўлю цябе;
увайдзі
у радасць гаспадара свайго!..
Яму ж суналежаць
слава,
і ўхвала,
і сіла,
і ўлада
з Айцом і Духам Святым
цяпер,
і заўжды,
і навекі вякоў!
Амін.

Уладзімір Някляеў



...вось чаму нарадзілася дачка,

а не сын?..

# Што для чаго?..

Дзіна любіла казаць:
"У вярблюда два гарба,
Патаму што жызнь барба!"

Тадзік слухаў і думаў: "А калі адзін? Ёсць жа вярблюды з адным гарбом. Дык што тады? У жыцці барацьбы няма?"

Ён увогуле любіў паразважаць. Не пра нешта там дробнае: ці аспірын дапамагае ад галавы, ці сама яна балець перастае? – а пра жыццё.

Яму цяжка было сказаць, як ён пра яго думаў. Неяк так, што не пра аспірын і галаву, а пра іх сувязь. Ну і пра астатнія сувязі. Зноў жа не нейкія там... суседа з суседкай. Не. Пра сувязь каранёў і лісця. Неба і зямлі. Імгнення і вечнасці. Ці вунь пылу і дажджу, які пыл прыбівае...

Жыццё не дождж і не пыл. І не сусед з суседкай. А што тады?

Ён перакульваў зямлю і неба, суседа і суседку, гэтакі зрок у яго дзіўны быў, што ён мог круціць тое, што бачыў, як карцінку ў кампутары – і пыл церушыўся на дождж,

праз які сусед і суседка ішлі дагары нагамі. Але гэта нічога не мяняла, ні на што не адказвала...

Для чаго ўсё? Ну, само жыццё і ён, Тадзік, у ім? Той жа вярблюд? Ці малпа? Вось для чаго малпа? Бананы есці? Дык бананы хто заўгодна есці можа. Для нечага іншага... Для чаго?

Пра малпу ён думаў, бо яна на капоце ягонай машыны намаляваная была. Усе пыталі: “Для чаго ў цябе на машыне малпа намаляваная?” – а ён не мог адказаць, хоць сам яе намаляваў. Аднойчы прачнуўся, прысніўшы малпу, і намаляваў яе такой, якой прысніў.

– Але чаму на машыне? На капоце? Ты менавіта так прысніў яе? – дапытвалася Дзіна, калі яны пажаніліся, і ён вёз яе на ўскраек горада, дзе наняў аднапакаёўку, каб не жыць з бацькамі. – Як ты мог прысніць малпу на машыне?

А што яму прысніць было? Машыну на малпе?..

Там, на ўскрайку горада, у іх нарадзілася дачка, якую назвалі яны Алесяй.

Вось чаму нарадзілася дачка, а не сын?.. Не тое, каб ён надта ўжо сына хацеў, але чаму? І чаму яны назвалі дачку Алесяй, а не Дар’яй, як суседзі? Таму што так у галаву прыйшло? А чаму? Гэта ж не аспірын...

Часам ён заблытваўся, думаючы, і тады думаць пераставаў.

– Давай зафарбуем малпу, суседзі глядзяць, смяюцца, – час ад часу чаплялася да яго жонка, але ён не зафарбоўваў. Няхай глядзяць і смяюцца, што ў тым кепскага?

– Хоць як яе завуць? – прывыкла нарэшце да малпы Дзіна. – Бачымся штодня, а ўсё малпа, малпа.

Не ведаў ён, як яе завуць. Імя малпы яму не прыснілася.

Калі Алеся трохі падрасла і пачала вымаўляць першыя словы, дык, убачыўшы малпу, паказала на яе пальчыкам і сказала: “Дзіна”.

– Ну вось, – засмяялася жонка. – Дачакалася. Але чаму Дзіна?

Якраз гэта Тадзіку было зразумела. Астатняе – не.

Чаму жонка засмяялася, калі дачка яе за малпу прыняла? Ці наадварот, але ўсё адно.

Алеся на ножкі стала на другое лета. То не ставала, не ставала, а тут раптам стала – і так пайшла! Гэтак пабегла, што выбегла ў двары, калі ён з працы вяртаўся, проста пад колы машыны. Ён хутка ехаў, бо яго на той працы затрымалі, і ён спяшаў, каб Дзіна што-небудзь такое не падумала, яна кожнага разу, калі ён затрымліваўся, што-небудзь такое думала. А яшчэ ён спяшаў, каб Алесю хутчэй убачыць – і не заўважыў яе! Не ўгледзеў, бо вячаровае сонца, сплываючы з ацынкаванай бляхі на даху, сляпіла вочы, ды Алеся яшчэ й выбегла не з таго боку, з якога ён за стырном сядзеў, і была ў такой незаўважнай сукеначцы, шэравата-жоўтай, як пясок у пясочніцы, у якой перад тым гулялася, і яна злівалася з тым пяском у той пясочніцы, якая таксама не з гэтага, з таго боку была, а Дзіна, жонка, была з гэтага, і Дзіну ён заўважыў, не мог не заўважыць, і паглядзеў на яе, не разумеючы, чаго яна так адчайна рукі ўскінула, і ў гэты момант... у той момант, калі карцінка ў ягоных вачах перакруцілася, як у кампутары, і калі ён Алесю ўбачыў, але ўжо ні ён, ні жонка і ніхто з тых, хто быў у двары, зрабіць нічога не маглі, малпа скочыла з капота машыны і выхапіла дачку з-пад колаў...

*13.03.2017, Мінск*

Андрэй Хадановіч



...Сняцца масты й паромы,
радасці і навалы,
карнавалы, пагромы
й новыя карнавалы...

# Замнога зямнога

### *ДЭТАЛІ*

Калі, зачапіўшы, казалі не “упс”, а “прабачце”,
чыталі кніжкі з паперы й наогул чыталі,
паэт быў піратам, і сцяг матляла на мачце.
Не помню, якой краіны, – гэта дэталі.

Калі пад вышэйшым небам раслі вышэйшыя дрэвы,
ты быў такім бескарысным, што ўсе карысталі,
і, пагасіўшы святло, усе дзевы казалі: “Дзе вы?”
Не помню, якія дзевы, – гэта дэталі.

І мора віна лілося ў глотку твайго рамантызму,
і ты выпіваў усё, герой з граніту і сталі...
А сёння дэталі вывальваюцца з арганізму.
Не помню, якія дэталі, – гэта дэталі.

## *РАНЕЙ*

*Nawet durni...*

**Ст. Е. Лец**

Нават дурні
раней дурэлі культурней.

Нават псіхі
раней мелі меней пыхі.

Нават здрадніцы
трохі больш надзявалі на задніцы,

а мужы-круцялі
ад сораму больш пілі.

Але й ад занудаў калісьці
было трохі больш карысці,

бо меней ад нас
на свой наракалі час.

## *ЕЎРАПЕЕЦ*

Фартуна – цётка сляпая,
з ёй важна не быць дубінай...
Раптам дарогу мужык заступае.
Рукі трымае за спінай.

Фікса. Фінгал. Татуха.
Сіні ўвесь, як тапелец.
Шнар ад вуха да вуха.
Пытае: *“Ты европеец?”*

Справа ідзе да ночы.
Дзядзька глядзіць у вочы.

Стаю, разгублены ўшчэнт.
Што там за спінай – прэнт?
Фінка? Букецік кветак?
Святое Пісьмо для дзетак?

Ляпнеш не тое – і нож,
схібіш у стылі – і куля.
Сказаць яму: “анягож!”
ці ўсё-такі лепш: *“а хули!”*?

А ён глядзіць на мяне:
дык еўрапеец ці не?

Я здуру кажу такое:
“Дзядзька, пакінь у спакоі!”

А ён уздыхае цяжка,
на вуснах нямы папрок.
Рукамі развёў незнарок:
у правай – гарэлкі пляшка,
у левай руцэ – агурок.

Пахітаў галавой:
“Я ж думаў, ты свой...”

Сыходзіць сумна і горда,
абраза і смага пячэ.
Жыхар еўрапейскага горада,
шукае дваіх яшчэ.

*Пружаны, 23 ліпеня 2017*

## ВЕРШЫКІ ПРА НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ

### 1.

Пад дудачку чужую
не танчу – дырыжую.

### 2.

Дзівосная птушка жораў.
Курлыкае без дырыжораў.

### 3.

Будавалі Ӯтопію –
атрымалі копію.

Будавалі Беламорканал –
выйшла лепей за арыгінал.

## (НЕ)РАССТРАЛЯНАЯ ПАЭЗІЯ

Байнэт і сучліт ходзяць ходырам,
ласкава прашу ў наш вулей!
Тут фота з Кляшторным Тодарам
запосціў Таўбін Юлій.

Усе – прыстойная публіка,
ні звадак табе, ні сварак.
Старонку Майсея Кульбака
расшарвае Ізі Харык.

Направа клікнеш – “Узвышша”,
налева клік – “Маладняк”.
Таўбін па-руску напіша –
не дыскрымінуюць ніяк...

Не тое, каб любіш плакаць,
ды штосьці разам з вершам цячэ,
і кожнага хочаш залайкаць,
каб аўтар пісаў яшчэ.

+
Не разбіраўся ў палітыцы.
Проста страляў у патыліцы.

## ЧЫГУНКА (КАВЕР)

Твар правадніцы – цаглінаю.
Рэйкі, платформы і шпалы.
З радыё кавер з Калінаю
льецца на словы Купалы.

Словамі сыплем дарослымі,
лечым дзіцячыя траўмы:
дзеўкі без вёслаў і з вёсламі,
плот, палігон і шлагбаумы.

Згадкамі п’янымі, рэзкімі
раны душэўныя гоім,
з жартамі, часам габрэйскімі,
хоць не ўсё ясна нам, гоям.

Добра гаворыцца ўночы нам
без капюшонаў і кедаў.
“Вып’ем за хлопчыка з лётчыкам,
кажуць, Гагарын іх ведаў!”

Хлопчыкі з ніжнімі месцамі
тостамі крояць размовы:
“За чалавека на месяцы!” –
выпілі. Космас, ты клёвы!

Цемра з кашмарамі-марамі
дыхае ў ноч перагарам.

Шэпчуцца каты з ахвярамі
ў сумнай даліне над ярам.

Песня на штось намякае нам,
суха заходзіць і чэрства...
Вып’ем за Авэля з Каінам
горкай атруты братэрства.

### ДВУБОЙ

Дыскутаваў пра Еўропу, выбары і фашыстку
з простым народам, па-за літаратурным гетам.
Зладзілі: я – этычную, ён мне – этнічную чыстку.
Ён – з бейсбольнаю бітай, я – з французскім багетам.

### ЗЛАЧЫНСТВА І ПАКАРАННЕ

“Дрыготкая істотка я
ці ўсё-ткі маю права?” –
марцуе коцік з коткаю.
...А ў горадзе аблава.

### СПАЧАТКУ

Абуджаешся ў поце. (Жахлівыя сны!)
Вечарэе, бо хтось на абед з’еў твой ранак.
Па вушах увесь час гэтак білі званы,
што нябітых у кухні паменела шклянак.

У пачуццях разруха, у думках бардак,
не палохае пекла і рай не цікавіць...
Ды бярэш пыласос і ўвіхаешся так,
быццам нешта ў жыцці яшчэ можна паправіць.

* * *

Калі ўглядаешся ў люстэрка,
яно ўглядаецца ў цябе –
і прабягае вадамерка
па хвалях-зморшчынах на лбе.

Выява робіцца крывою,
адбітак – дзіўны і не твой,
і вас у люстры больш, чым двое,
і пахне скошанай травою,
а потым іншаю травой.

І падымае валасы вам,
бо чуеш кожным валаском,
як побач, бы Арсеній з сынам,
ідзе бяссмерце з касяком.

* * *

Хутка дождж – і неба на ўсе маланкі
зашпіляецца па чарзе,
і п'яніць залева з першае шклянкі,
і дарогу мне развязе.

Высыхаюць кроплі – і дзень шчаслівы
замаўляе: "Песні пяі!",
і гучаць шпачыныя пералівы,
і ўстаюць з калень салаўі.

Гэты свет не зломкі пальцам рабілі,
не глухі стары дырыжор.
Дык нашто захлынаемся ў кніжным пыле,
калі ўсім нам
пахне чабор?

* * *

Калі неба чыркае знічкамі,
хтось хавае іх ад дзяцей.
Аб'явілі шкоднымі звычкамі
секс, наркотыкі, ямб і харэй.

– Непатрэбны, бы кропка з коскаю,
старамодны, як пан сахі...
– Ці паэзія мая коўзкая?
Ці мой смех занадта сухі?

Нетактоўны, як нож з цыбуляю.
Але хтось насоўку бярэ.
Значыць, гэта камусьці муляе...
Значыць, гэта камусьці трэ...

* * *

Скрыпка трохі нервова
дрэмле ў калысцы-зыбцы.
Сняцца вуліцы Львова
й дахі Берліна скрыпцы.

Сніцца кава па-венску,
сніцца гарэлка па-менску
ў падваротні знянацку,
пуга й пернік па-брацку.

Ля музычнае школы
ўзімку коўзанка й горка.
Руль, педалі і колы.
Крыкі “Дамоў!” і “Горка!”

Сняцца плошчы і рынкі,
сняцца гарышчы й лёхі,
барабаны й катрынкі,
к*а*ты і скамарохі.

Сняцца масты й паромы,
радасці і навалы,
карнавалы, пагромы
й новыя карнавалы.

Пісталеты і маскі.
Пах карыды й карыцы.
Словы старое казкі
аб скрыпачы і скрыпцы.

## *ЛАСТАЎКІ*

Ластаўкі неба цыруюць аблокамі,
ластаўкі неба малююць алоўкамі.

Вецер, лагодна кранаючы ластыкам,
правіць малюнкі аблокам і ластаўкам.

Неба плыве з Міхалішак у Хойнікі.
Ластаўкі з небам гуляюць у хованкі.

Сочыш уважліва... толькі дарма...
за чатырма... за дзвюма... за няма...

## *ДВА ПОГЛЯДЫ*

1917. Валошкі ў жыце.
У Багдановіча.
Зусім як у жыцці.

2017. Валошкі ў жыце.
У жыцці.
Зусім як у Багдановіча.

* * *

Сонца свае далоні кладзе вам на плечы.
Закапацца ў вадзе ці на хвалі пясочку легчы?
Тэмпература за бортам (вашае пляшкі) у норме.
Зняўшы ўсё, застаешся ў антываеннай форме.

## *ЛІЧЫЛКА*

Ноч. Бяссонніца. Мора.
Лічым авечкі-хвалі.
Першая змыла ўчора
замкі, што мы будавалі.

След мой сцерла другая,
трэцяя – твой. За трыма –
пятая набягае,
бо чацвёртай няма.

Шостая дасць у плечы,
сёмая лясне па твары,
восьмая возьме рэчы,
крыжык і акуляры.

А дзявятая прыйдзе –
ў сёмае неба скрадзе.
Сёння плавалі ў Нідзе.
Заўтра ў Нідзе.

## *КОНКУРС МАЛАДЫХ КРЫТЫКАЎ*

Аленка брыдзе па вадзе,
між хваляў – скорыць люб*у*ю,
і голасна патрабуе:
“А дзе глыбіня тут, дзе?!”

* * *

Сам вырашай, ці выглядае хвора
патрыятызм – або снабізм такі?
Жывеш за метраў 800 ад мора –
і бегаеш купацца да ракі.

* * *

Пацягнуўшы за шпільку, выцягваеш вецер у косах,
цёплы травень, начныя купанні і мокры ручнік,

салаўіную песню ўвушшу і маланку ў нябёсах,
твой заплечнік, што з ёй разам знік, і квіток на цягнік.

Пацягнуўшы за дым, маеш восень і вогнішча з хорам,
дагарэлае лісце і клёкат, і згублены клёк.
За аскепак бурштыну – апошні світанак над морам.
За крыло матылька не цягні, там адно матылёк.

* * *

Падае жнівень з метэарытных ног.
Спёку і лівень шле самагонны бог.
Хопіць малому зорнага крыгалому.
Схопішся й за салому, тонучы ў снох.

Час і надвор'е сёння твае зусім.
Нібы сузор'е, на тарзанцы вісім.
Месяц над лесам патанае ў святле сам,
плывучы ўсходнім крэсам нашых летаў і зім.

Зоры, як рыбы ў возеры між трысця.
З кожнае хібы цешышся, як дзіця.
Столькі відзежаў плавае без адзежаў.
Лета без межаў. Межы – толькі ў жыцця.

***ЗНЯМОГА –***

замнога зямнога.

* * *

Прызначыш мне стрэлку ў пясочным гадзінніку – і
схаваныя колісь за шклом адкапаем сакрэты.
Пясочніца часу захлюпае ў два ручаі:
адзін пацячэ на той бераг, а іншы – на гэты.

Твае гарады ні адзін не скарыў маладзён,
ды крочу да замкаў і вежаў з чырвоным вядзерцам,
а ў гэтым вядзерцы – пясочнае печыва дзён,
якое аддам табе, разам з рукою і сэрцам.

Ты ў маміных кліпсах, трыпутнік да локця прыліп.
І я, трохгадовы палоннік вачэй тваіх хітрых,
адкрыў: канца свету не будзе – не выбух, а кліп,
і цітры ў паветры, і крочым да зораў па цітрах.

* * *

Вечар такі харошы,
п’яны і малады.
Добра, што час – не грошы.
Дрэнна, што не заўжды.

Божанька сердабольны
ў небе змяніў дызайн.
Добра, калі ты вольны.
Дрэнна, калі дэдлайн.

Ружавеюць каштаны,
цвелячы і святых.
Добра, што б’юць фантаны.
Дрэнна, калі пад дых.

Шчэццю парос дашчэнту,
ды ідзеш на бульвар.
Добра, калі студэнты
не пазнаюць у твар.

Думкі – звышгукавое,
глупанямое кіно.
Добра, што без канвою,
а дэдлайны – лайно.

Фільм завершыцца файна,
бо ў канцы хэпі-верш.
І да свайго дэдлайну
ты яшчэ пажывеш.

Сяргей Рублеўскі



...літаратурнай справай у нашай старане

наўрад ці пракорміш сям'ю...

# І ўзыду нанова ярыною...

***Апавяданні***

## Федзечка

Калі выставіць вайсковы шэраг, дык Федзечка Патоцкі стаяў бы ў ім апошнім. Калі б наогул быў у гэтым шэрагу. А мусіць жа, не быў бы. У Савецкую армію прызывалі людзей ростам не ніжэй за 150 сантыметраў, а ў Федзечкі столькі наўрад ці набіралася. Таму ж яго і звалі – Федзечка, а не Фёдар ці Хвёдар, як даўней.

Тым не менш ён быў збітым у камячок, здатным на любую сялянскую работу цягавіты мужчына. Паўнадзейны калгаснік.

Як Федзечка скроены, я ўбачыў у дзяцінстве (у гэтым расповядзе я наогул мушу пісаць толькі пра вясковых мужчын, якія засталіся ў памяці з дзяцінства). Тады ж калгаснікі штодзень працавалі супольна, амаль што талакой. Выбежыш на двор пасля сну пагуляць з мальцамі, а

на аселіцы нечакана для цябе вялікая дзея пачалася: вясковыя мужчыны расстаўлены на лузе ў пэўным, хоць і незразумелым табе парадку, і махаюць косамі. А вунь і твой бацька. Дык якія там мальцы, хутчэй бяжыш да яго. Можа, выкасіць з якой імшарыны – салодкае гняздо чмялёў ці імклівага вужыка з жоўтымі «вушкам» спужае... А вунь і Федзечка паблізу косіць, вясковы сусед – сусед і па касьбе.

Час ад часу мужчыны робяць перапынак і сыходзяцца разам дзе-небудзь на ўзгорачку, каб трошкі пасядзець на ветрыку ў духмянай траве, адпачыць і пагаманіць. Сонца ўжо добра прыпякае, працуецца не так рупна, як на досвітку, стома абвівае рукі і ногі... На прыпёку кашулі паскіданыя, так што можна пацікаваць, у каго якія мускулы, ці бугрыстыя...

У Федзечкі была нішто сабе мускулатурка, выразная, цвёрдая, пальцам біцэпс не ўвагнеш... А ростам жа ўсяго на пару вяршкоў большы за каторага з нас.

У кожнай рабоце Федзечка быў дужа акуратны, усё роўна як рабіў яе на ўзор: маўляў, вось як трэба! Пракосы ў яго атрымліваліся нават дужа шырокія, не раўнуючы як у высокіх даўгарукіх мужчын. Успрытнёна махаў коскай!

І з канём ды плугам Федзечка спраўна ўпраўляўся. Выдзіраць з баразны лемех ды перастаўляць плуг на цалік, каб распачаць новую баразёнку, было яму цяжкавата, але не больш, чым каму іншаму.

Гранкі ў яго стаялі, як пад струнку, бездакорна роўненькія. Адпаведна – і высаджаная Тосяй расада.

Калі я бываю ў вёсцы і праходжу вуліцай каля Федзечкавай сялібы, дык міжволі азіраю яго гародчык, дзе высаджвалася «барышное» – морква, бурачкі, радыска... Цяпер тут гаспадарыць яго дачка Ліда і зяць Славік. Гранaчкі таксама нарэзаны роўненька, амаль як раней, але, здаецца, менавіта па «лекалу» цесця. А калі ўгледзецца, дык убачыш, як прывід, цень тых даўнейшых, зробленых маленькім чалавекам гранак.

У Федзечкі ўзорна, кусціста расла бульба, шчыльнай сцяной узнімаўся ячмень... Але земляробства было не галоўнай яго справай. Ён быў выбітны, на ўсю вёску столяр і цесля. Уся яго сяліба была застаўлена акуратна зрубленымі – вянец да вянца падганяўся так шчыльна, што, здавалася, можна і не імшыць – пабудовамі. Варыўня, пунька, адзін хляўчук, другі, лазня... Здавалася не будзе супынку у гэтай чарадзе трохі меншых, чым у рослых мужчын, будыначкаў! На двары ў яго заўсёды ляжалі бёрны, падрыхтаваныя для новага зруба. Нястомны, неўтаймоўны руплівец!

У спецыяльна асобна пабудаванай цёплай майстэрні ў Федзечкі стаяў вялізны стары варштат. Аднойчы мне давялося паназіраць, як ён рыпіць і «крэкча» ад хуткіх рухаў натхнёнага Федзечкі. Разявячы рот, я стаяў, як зачараваны ў парозе, баючыся далей і кроку ступіць, каб не перашкодзіць майстру. Дужа ўражаны, я не ведаў, на што глядзець: як з гэбля спіраллю выкручваецца духмяная стружка ці на Федзечку, які, крок сюды, крок туды, завіхаецца каля варштата, раз-пораз перапыняючы гэты рух, каб крутануць ручку ціскоў ды замяніць адгабляваную дошку на новую. Прытым рухі яго былі вывераны да грамулькі: раз-два – і дошка заціснута, раз-два – і вызвабанена, аніякіх лішніх высілкаў. Ад майстра немагчыма было адвесці позірк.

У Федзечкі быў асаблівы варштат, нямецкі, які нейкім цудам патрапіў у нашу краіну з пераможанай Германіі. А якім цудам – да Федзечкі, я здагадваюся. Побач з нашай вёскай месціўся ваенны гарадок, куды

пасля вайны вярнуліся служыць афіцэры-пераможцы. Відаць, адзін з іх, захоплены работай з дрэвам, вярнуўся разам з трафейным варштатам, а наш вясковы майстар з цягам часу перакупіў яго. Такіх выпадкаў, калі рэчы перакуплялі ці па розных прычынах канфіскоўвалі і прадавалі ў спецыяльных крамах, было нямала.

Сталярнае майстэрства Федзечкі было запатрабавана ўсёю вёскаю. Хто прасіў яго зрабіць ваконныя рамы, хто стол замаўляў, а якая кабета – зэдлік лёгенькі, карову ў хлеве даіць... З Федзечкавай ласкі шчаслівыя сны маленства бачылі ў адмысловых калысках найбольш шчаслівыя нованароджаныя жыхары вёскі.

Спраўна выконваў майстра і журботныя замовы аднавяскоўцаў – рабіў дамавіны: асабліва старанна адгабляваныя, са спецыяльна адкладзеных у свой час на гарышча для высушвання шырокіх сасновых дошак. Балазе ў калгасным лесе старыя, камлістыя сосны былі ў дастатку.

На хаўтурах пакой нябожчыка напаўняўся не толькі прыкра-салодкім пахам тлення мёртвага цела, але і жывым, непадуладным якому-кольвечы наплыву жальбы пахам свежаадгабляванага дрэва. Тым больш, што тады і падумаць ніхто не мог драпіраваць труну якой тканінай. Не мог падумаць пра гэта і Федзечка: хіба можна нават падчас смутку хаваць ад вачэй прыгажосць дрэва, якое пры шчаслівым выпадку магло быць скарыстана і на калыску...

## Лёшка

Лёшка, чалавек з расійскай глыбінкі, прыбіўся да адной маладзіцы і пачаў стала жыць у нашай вёсцы.

Спачатку Лёшка (так за вочы ў нас звалі ўсіх мужчын – Пецька, Віцька, Мішка і аніяк інакш) быў заняты ў калгасе на палявых работах, а потым з напарнікам пасвіў вялізны статак кароў. У адрозненне ад многіх цяперашніх маладых беларусаў, якія лёгка выракаюцца роднай мовы, ён ніколі не ламаў язык на чужы для яго лад, не імкнуўся быць падобным да ўсіх, а гаварыў па-свойму, як ад маці навучыўся. Але мы, маленькія хлопчыкі, паважалі яго не за гэтую, цяпер такую прывабную для мяне звычку. Лёшка першым у нашай мясцовасці ўвёў ва ўжытак зусім інакшую, дагэтуль нязнаную пугу для пасьбы кароў.

О, ягоная пуга! Не тое што нашыя паганялкі, страшныя хіба што для дужа пужлівых жывёлін. У яго ж да кароценькага, акуратна выструганага, з патаўшчэннем на канцы, каб не выслізгвала з рукі, пугаўя, цвічкамі і дротам надзейна прымацоўвалася неверагодна доўгае, мусіць, метраў семвосем, гнуткае і ў той жа час спружыніста-пругкае каровіна страхоцце, складзенае з машынных пасаў і цесна сплеценых шнуроў...

Пугу Лёшка звычайна рабіў з камбайнавых зношаных і таму даступных пасаў. Яны кроіліся адрэзкамі: тоўсты, тоўсты, а тады танег і танег... Пасля пэўнага набору пасаў рабілася плеценая частка пугі з шаўковых, шчыльна сціснутых нітак. Там, дзе пляцёнка прымацоўвалася да пасу, яна была роўная з ім па таўшчыні, а тады Лёшка зноў жа сплятаў яе ўсё танейшай і танейшай і нарэшце зводзіў да танюткай вяровачкі-жыгалкі, можа, у сярнічку таўшчынёй. Вось яна, гэтая жыгаўка, якраз і давалася каровам у знакі, бо менавіта канец пугі скуб поўсць на добра закругленым ад свежай травы баку шкадлівай рагулі. І як красамоўнае сведчанне пастуховай пільнасці выступаў на ім след-пазнака, прыкметны шнар: а ці будзеш?!

Расповед пра адмысловую, можна сказаць, прафесійную пугу будзе няпоўным, калі не дадаць адну адметную дэтальку. Самы кончык пугі пасля цеснага вузельчыка завяршаў расцярэблены ніткавы хвосцік. Менавіта ён і агучваў пругкі лёт каровінага страхоцця. Узмах разняволенай рукі – і з кароценькага пугаўя ўсчынаўся спружыніста закруглены, усё адно як цела ўдава, рух даўжэзнай пасава-ніткавай суцэльнасці. Рывок на сябе – і жахлівы счэп раптоўна спыняецца, аб чым абвяшчае ёмкі, не раўнуючы як стрэл, гук. А калі пастух, накінуўшы на плячо пугу, цягнуў яе за сабой па роснай траве, дык пры ўдары не толькі гучаў «стрэл», але і ўзнімалася над зямлёй воблачка волкага, як туман, пылку. І тады нас, жэўжыкаў, апаноўвала невыказнае захапленне.

Лёшка, чалавек з царскім прозвішчам Раманаў, са сваёй адмысловай пугай уцягнуў у свой час у нашу вёску ніколі нязнанае дагэтуль адчуванне стэпавай неабсяжнасці. І стрэлы пугі пачалі нават перагуквацца з пеўневым кукарэканнем, суладна загучалі ў світанкавым вясковым харале.

Мы, хлопчыкі, бегалі ўвечары на аселіцу, і калі на выгане пастухі падганялі да фермы статак, з імпэтам браліся дапамагаць ім, прасілі даверыць нам пугу, каб падраўняць кароў, а заадно і паспрабаваць абудзіць гучным стрэлам наваколле. І змораныя пастухі, а перш за ўсё Лёшка, адгукаліся на гэтыя просьбы.

А мой сябра, Захаркоў Пятрок, дык і наогул зрабіў мудрэйшы за ўсіх захад. Падчас летніх канікул напрасіўся ў брыгадзіра, які жыў па суседству, накіраваць яго ў памочнікі да калгасных пастухоў. Статак папоўніўся першацёлкамі, і трэба было прызвычайваць іх да жыцця ў гурце, а значыць, хуткія хлапчукоўскія ногі былі якраз дарэчы. Мала таго, што за гэтыя дні сябрук пад наглядам Лёшкі ўволю павучыўся «страляць» з «дальнабойнай» пугі, дык ён яшчэ набраўся нахабства і папрасіў дзядзьку зрабіць і яму акурат такую ж.

У той помны дзень ён бегаў за каровамі (натуральна, з Лёшкавым «інструментам») асабліва старанна, бо мэтр пастуховай справы, пасмоктваючы яблычнае вінцо, сцізорыкам наразаў усё неабходнае для стварэння абяцанай пугі.

...Нам здавалася, што яна бясконца доўгая, такая, што ўвобміг дастане сваім кончыкам-жыгаўкай нават да зубчастай сцяны блакітнага лесу на даляглядзе.

Праўда, лес стаяў і стаяў сабе некрануты, а нашы адтапыраныя вушы куслівы каснічок, калі не атрымліваўся «стрэл» і пуга збівалася са свайго ходу, яшчэ як даставаў. Ай, балюча! Здавалася, яшчэ трошкі – і вуха адваліцца ад рабацінiстага качана.

А яшчэ Лёшка зноў і зноў здзіўляў мяне сваёй нязвыклай, нетутэйшай гаворкай. Прытым словы, нібы своеасаблівым посвістам пугі, ён падроўніваў, падціскаў неадчэпным выслоўем: «возьми же». Здавалася, без гэтай сваёй «пужкі» ён не мог бы звязаць і пару сказаў. Усё адно як словы без яе не злучыліся б у думку, не згуртаваліся, а рассыпаліся б, разбрыліся па глухіх хмызах свядомасці.

«Вчера, возьми же, председатель приезжал. Обещал, возьми же, какого-то электропастуха привезти. И к чему это?»

Іншы раз ён асуджальна і ў той жа час пагрозліва звяртаўся да наравістай каровы: «Возьми же, смотрит она, смотрит... Возьми же, в шкоду она сейчас пойдет... Я тебе!»

Зусім незаўважна і нязмушана залучаў ён у свой слоўны статак нашае звыклае «в шкоду».

Ніколі не думаў, што так трывала злучыць мяне дзіцячая памяць з Аляксеем Раманавым – царом над усімі пугамі свету.

## Іван Міронаў

Двух Іванаў у нашай вёсцы звалі, можна сказаць, на дагестанскі лад: імя бацькоў так прыліпла да ўласнага імя гэтых людзей, што можна было падумаць – гэта іх прозвішчы. Іван Міронаў, Іван Цітаў... Не раўнуючы як Расул Гамзатаў.

Праўда, так звалі іх за вочы, калі і гаворкі не было аб якім-недудзь дакументальным запісе. А калі хто звяртаўся з пільнай просьбай да нашых «дагестанцаў», дык паважліва казалі «Міронавіч» або «Цітавіч».

Іван Міронаў быў суседам.

Калі б нашыя маці ставілі нам каго з аднавяскоўцаў у прыклад – як спраўна весці гаспадарку, як абыходзіцца з людзьмі, як ніколі не казаць лішняга, як не патрапіць пад уладу маркоты, як быць далікатна абыходлівым..., дык самым пераканаўчым узорам быў бы Іван.

Даўгацыбы, сухі, як хорт, тым часам ён быў надзвычай рухавым, вёрткім, спрытным. Твар яго зноў і зноў асвятляла не скажу каб наўмысна лагодная, маўляў, дагаджу, чым магу, але заўсёды ветлая ўсмешка. Яна, як я цяпер разумею, была прыкметай унутранай культуры, настрою душы на прыўкраснае, як мара, пра годнае жыццё. У гэтай усмешцы было пароўну стрыманасці і прыязнасці.

Іван быў адгуклівым чалавекам. Калі мог, дапамагаў абавязкова. А мог ён па вясковых мерках шмат – быў жа не грабарам, як у нас абагульнена называлі ўсіх, хто шчыраваў простым калгасным земляробам. Міронавіч працаваў калгасным токарам, а гэта па тым часе ўсё адно як вучоны інжынер... Апроч таго, ведаў ён і кавальскую справу. Так што побытавых просьбаў ад суседзяў меў шмат.

Але найбольш ён запомніўся мне не за такарным станком, не за кавадлам, а на сваім двары з мятлой у руках. Іван Міронаў быў адзіным чалавекам у вёсцы, які рэгулярна і, мусіць, часцей чым трэба, падмятаў свой двор. Хутчэй за ўсё, тады ў яго рабілася чысцей і на душы.

Хто яго ведае, адкуль у Міронавіча з'явілася такая трывалая звычка. А з другога боку, што дзівіцца, палову ж Еўропы ваеннымі дарогамі прайшоў чалавек, пабачыў свет.

На Дзень Перамогі Іван і мой бацька апраналі свае адзіныя святочныя пінжакі з назаўсёды прышпіленымі на іх узнагародамі і разам ішлі на ўрачыстасць, якая адбывалася на цэнтральнай сядзібе калгаса. Мне было прыемна пазіраць на іх геройскую прыгажосць.

Згадваючы сёння сваіх аднавяскоўцаў, якія ўдзельнічалі ў вайне, я міжволі падумаў, што і мы, хлопчыкі, якія нарадзіліся праз дзесяцігоддзе, а то і менш пасля яе, былі пад куды мацнейшым, чым нам здавалася, уплывам тых набрынялых людскім горам гадоў – уплывам і наўпроставым, і ўскосным, і зусім непрыкметным, далікатным, не раўнуючы як павеў лёгкага ветрыка на запаленую свечку...

Іван Міронаў меў трафейную машынку для стрыжкі. Не варштат, вядома, як Федзечка, але таксама рэч дужа карысную. Я і пасёння чую, як

яна пстрыкае над маёй галавой... Напярэдадні навучальнага года маці вяла мяне да Івана: усаджвала на табурэтку, абхінала прасцінай і такога, злёгку спавітага, аддавала пад уладу вясковага цырульніка. Іван, як было відаць, з ледзь прытоенай урачыстасцю і ганарлівасцю браў у рукі чарадзейную блішчастую машынку і пракладваў на маёй галаве першую дарожку-пракос. Ляцелі на белы покрыў, а тады на падлогу мае мяккія пасмачкі-кудзеркі. Іван, як след прыціскаючы да скуры халодную жалезную пласцінку-коўзалку сваёй машынкі, настойліва сцвярджаў на хлапчукоўскай галове ўсеагульную мужчынскую роўнасць, няхай сабе і навырост.

Праўда, сцвярджаў Іван на маім ці чыім яшчэ вушастым качане гэтую, блізкую да нулявога ўзроўню (стрыг амаль «пад нуль») роўнасць, не цвёрда-абыякавай рукой армейскага цырульніка, а ўсё ж літасціва, бо пакідаў у фрызуры дзіцячую і матчыну ўцеху – невялікі чубок. Чубок гэты быў смешнаваты сваёй просценькай эстэтыкай, але і вельмі кранальны як сімвал хлапчукоўскай неабагуленасці ў вайсковых шэрагах і дзіцячай бестурботнасці.

Сваім часам нашы вясковыя гаспадары амаль што разам адбудавалі на сваіх сялібах невялічкія лазні. Мусіць, надакучыла мыцца супольна, хоць і можна было. У адной калгаснай драўлянай лазні (а было іх дзве на нашу вёску) усё яшчэ спраўна палілася печ, сцены надзейна ўтрымлівалі ўгрэўны дух... Калі і патрабаваўся які рамонт, дык дробны. Але голым людзям, як і вольным, не загадаеш...

Збудаваў сваю лазню і мой бацька, а Іван Міронаў – нават трошкі раней за яго. Калі мы выцеплівалі сваю лазеньку, дык пасля таго, як змывалі кіпенем палок, запарвалі венікі, бацька гаварыў мне: «Схадзі запрасі Івана, можа з намі памыецца...» І такіх запрашэнняў было шмат. З Іванам бацьку было весялей, а мне цікавей. Яны гаманілі, згадваючы сваё ваеннае мінулае, а я слухаў, натапыраўшы вушы.

Аднойчы, калі я ўжо быў падлеткам, і мы сваёй звыклай мыйнай чародкай сядзелі пасля зморнага парання ў прылазніку ды, як выцягнутыя на бераг рыбіны, хапалі ратамі паветра, Іван расчыніў дзверы, каб яшчэ больш асвяжыць нашу камору...

Вялізны белы мёрзлы шар паветра, здавалася, ледзьве праціснуўся праз вольны праём.

– А ў нас на фронце, помню, у першы год вайны люты мароз урываўся ў зямлянку, без прамаруджвання, як цюцька злы, – звярнуўся Іван да бацькі. – А я ў абмотачках, а ногі дзеравянеюць, здаецца і без абцасаў па зямлі раптам грукацець пачнуць...

І тут Міронавіч увагнаў мне на доўгія гады балючую стрэмку пад сэрца:

– Адышоў я ад зямлянкі па сваёй патрэбе, а тут бачу ў шыкоўных боціках афіцэр забіты ляжыць, скурчаны, снегам прыцярушаны... Вярнуўся я, узяў сякерку і, як вар’ят які, хуценька, без перадыху адсек загінуламу ногі па самыя галянішчы. Каля агню адагрэў тыя боты, дастаў парэшткі цела і пераабуўся.

Болей Іван не сказаў ні слова. Ды і што тут скажаш...

Мой бацька, які ў вайну было незнарок праспаў цэлую ноч на складзеных у адрыне трупах, амаль не звярнуў увагі на расповед Івана. А я насіў тую вострую стрэмку-згадку гадоў дваццаць, пакуль не патрапіўся на вочы верш Іона Дзегена, танкіста, які пайшоў на вайну, маючы ад нараджэння 19 гадоў:

Мой товарищ, в смертельной агонии
Не зови понапрасну друзей.
Дай-ка лучше согрею ладони я
Над дымящейся кровью твоей.

Ты не плачь, не стони ты, мой маленький.
Ты не ранен, ты просто убит.
Дай-ка лучше сниму с тебя валенки.
Нам еще наступать предстоит.

...Пакуль не прачытаў.

## Іван Цітаў

Іван Цітаў нагадваў сабой здзекліва абчасанае бязлітаснай сякерай дрэва. Ці трэба гаварыць, што гэта была сякера вайны. Але не ўзнятая над людскімі галовамі, а ўжо роспачна кінутая на зямлю, як да часу непатрэбная рэч. А калі сказаць больш дакладна, параскіданая па наваколлі ў выглядзе мінаў, снарадаў, куль і нават нямецкага «дусту».

Іван Цітаў быў мальцам рызыкоўным і неабачлівым, дык і падарваўся на варожай выбухоўцы. Адарвала Іваньку на абеіх руках кісці, парэшткі рук спрактыкаваныя на фронце хірургі закруглілі ў непрывабныя куксы. Апроч таго, Іван тым выбухам сапсаваў і правую нагу – яна ў яго не сгіналася ў калене і пры хадзьбе яе даводзілася адводзіць убок, кавыляць.

Іван за ўсё сваё жыццё ніколі не курыў. І не таму, што дастаць запалку з пушкі, тым больш падпаліць яе куксамі было надзвычай складана. Але, мусіць жа, не Івану. Проста ён меў прыродную адцуранасць ад захаплення тытунём. А інакш бы...

Сваімі куксамі ён дзівосна, на мяжы магчымага спраўляўся з самымі рознымі побытавымі праблемамі. Толькі яму вядомым чынам Іван зашпільваў вопратку, мянташыў касу, рэзаў хлеб, акуратна, не праліўшы і кроплі, падносіў да роту чарку...

Я ўжо не кажу пра тое, што ён спраўна араў, касіў, хоць і па свойму, з асаблівымі высілкамі. Ад гэтых высілкаў, ад надта вялікага засяроджвання на рабоце Іван, неўпрыкмет для сябе, закапыльваў верхнюю губу і падпіраў яе языком. Гэта было смешна, але мы, дзятва, не смяяліся. Адно што ахалоджвалі ў сабе памкненне хоць чым дапамагчы яму: ведалі – не залюбіць.

За вочы Івана ў нашай вёсцы ды і ў суседніх звалі «Бязрукі» або «Цíток».

Яго жонка Наташа не звяртала асаблівай увагі на калецтва мужа і не пабаялася нарадзіць яму траіх дзяцей, усё адно як для смеласці заўсёды свежай трымала ў памяці думку пра тое, што Госпад, колькі б дзетак не нарадзілася, паспрыяе ўсіх на ногі ўзняць...

З вясковых гаспадынь Наташа, бадай што, раней за ўсіх зацеплівала печ, пачынала ўходжвацца па гаспадарцы. Амаль што сярод ночы, калі світанкавы прамень яшчэ не крануў ценькую шыбіну і ні адзін певень не падаў свайго голасу.

Вокны Іванавай хаты глядзелі ў наш бок, і калі ноччу падчас хваробы мяне зноў і зноў будзіла неадступная немач, маці, каб перавесці на што іншае маю ўвагу, падводзіла мяне да вакна зірнуць на вуліцу. Вось так я і ўбачыў прывітальны, міргаючы, нібы хітрае вока, Наташын начны, праганяючы з душы адзіноту, агонь у печы.

Іван Цітаў быў апантаным рыбаком і меў на сваёй сялібе цудоўна

адштукаваную крыгу – з надзейнай асадай, з моцнай сеткай, з надзвычай рухома счэпленымі крыламі... Больш ні ў каго такой не было. І не дзіва, бо ніхто так, як Іван, не прыкіпеў душою да гэтага віду лоўлі трыма або чатырма рыбакамі. У той час, у 1960-я гады, лоўля крыгай калі і лічылася браканьерскай, дык хіба што тэарэтычна. Ніхто не зазнаў за яе якога-кольвечы пераследу. Іван са сваёй арцелькай заўсёды ў адкрытую нёс паўз вёску крыгу, прыспешваючы крок да возера.

Ціток сам склікаў тую рыбацкую арцельку і вызначаў, дзе і як распачынаць і доўжыць лоўлю...

Мы, маленькія рыбачкі са сваімі арэшнікавымі вудачкамі, звычайна тоўпіліся каля прыстані, дзе лацвей было зайсці ў ваду па мяккім пясочку ды спаймаць каля трыснягу якую ўклейчыну. Калі ж лаўцы крыгай, развінуўшы сваю снасць, заходзілі ў ваду, мы дружнай чародкай беглі да іх. Гэта ж, як ні круці, цудадзейная з'ява: два крылы сціскаюцца – і з «кішэняў» тых крылаў дастаюцца гусцёркі і плотачкі, акунькі і падлешчыкі, а калі дык і ментузок ці лінь і амаль заўсёды – ракі, адвечныя няўклюдныя спадарожнікі рыбы... Тут не трэба цярпліва стаяць ды чакаць, пакуль рыбінка падплыве да кручка з прынадай ды паспрабуе на сваю бяду падторкнутае смакоцце. Тут – заход уздоўж берага, адно крыло крыгі зацягваецца, як мага глыбей, другое са старанным абцісканнем водарасцяў і выпужваннем з іх нетраў рыбін вядзецца па водмелі... Сходзімся, узнімаем разам крылы – на траціну юшкі зачэрпнулі! За лічаныя хвіліны, на нашых вачах...

Людзі, далёкія ад рыбнай лоўлі, і не здагадваюцца, што паназіраць, як ловяць іншыя, палюбавацца жывапіснай прыгажосцю рыбін – усё адно як самаму спаймаць каторую. Мы зразумелі гэта з малалецтва, у тым ліку і дзякуючы захапленню рыбацкім спрытам бязрукага Івана.

У лоўлі ён заўсёды браў на сябе самую цяжкую і адказную ролю – цягнуў крыло крыгі, якое ішло па самай глыбіні, імкнучыся залучыць у сеткавы кішэнь важкую цельпукаватую рыбіну. Як трымаў Іван гэтае крыло, як рухаў яго, бязрукі, па дне, толькі яму было вядома. Іншы раз ён патрапляў у нечаканую яміну, правальваўся, і вада даставала да падбародка, даходзіла да носу, і тады рыбак плыў, часта грабучы сваімі куды менш ёмкімі, чым далоні, куксамі.

Аднойчы мы, рыбацкая драбната, захопленыя добрым клёвам, не заўважылі, як Іванвава рыбацкая арцелька зрабіла свой першы заход, парушыла крыгай берагавую дрымотнасць. Але мы не спяшаліся бегчы разглядваць іх першы ўлоў – краснапёрка, ды прытым ладная, ёмкая, трымала нас на сваім кручку. Так бы і бавіліся, каб раптам не пачуліся воклічы, не пачалася нязвыклая мітусня ў Іванавай арцельцы. Спачатку мы, прыставіўшы каптурыкам да ілба далонькі, старанна ўзіраліся ў аддаленых ад нас рыбакоў, а тады не вытрымалі і кумільгом кінуліся да іх.

На беразе сядзеў Іван і ўсе ягоныя памагатыя, толькі ўпершыню ўзяты ў арцельку падлетак Алеська ляжаў на спіне і з ледзь прыкметнай усмешкай на вуснах глядзеў на высокія аблокі.

Ціток быў увесь мокры, што зусім натуральна, бо толькі ж вылез з вады, але здавалася, гэта ён так упацеў ад хвалявання. Губы яго дрыжалі, нібы ад холаду, хоць было ж спякотна.

– Злучылі мы крылы і пачалі выцягваць крыгу на водмель, а яна як пачне віраваць, пялёхкаць, а тады кусаць, шкуматаць сетку, як звер які... – расказваў Іван ні то сваім таварышам, ні то нам, маленькім рыбачкам, ні то ўсяму свету...

«Звер», вялізны шчупачына, смарагдавы, папстрыканы невялічкімі жоўтымі плямцамі, ляжаў на траве побач з Іванам. Мы, малеча, такіх рыбін на той час ніколі не бачылі, нават у сне. Добра помню, што спіна шчупака, трошкі ўвагнутая пасярэдзіне ад несупыннага таўсцення, нагадала мне карак асілка.

– Кілаграмаў шэсць будзе! З гарантыяй! – задаволена сказаў Іван.

Ён свяціўся радасцю, а з ім і ўсё наваколле: узгоркі, якія насоўгваліся на блакітную роўнядзь паглынальным валам, вялізны калгасны сад, у якім наліваліся сокам зялёныя яблычкі, пацеркі хат суседняй вёскі ўдалечыні, што пераходзілі ў нітачку заімглёнага лесу...

Цяпер мне хочацца думаць, што гэта Гасподзь расшчодрыўся для знявечанага Іванькі на невыказную рыбацкую радасць, каб ён хоць пару якіх дзянькоў адчуў сябе шчаслівым. Нягледзячы на тое, што спадзяванне на шчасце ў ім як у праўдзівым беларусе было звыкла заменена на неўтаймоўнае жыццялюбства і неаслабную, як страшная памяць, трывушчасць.

## Кузьма

Насупраць Кузьмовай хаты быў густа зарослы бэзам невялічкі пагорак, на якім вельмі зручна было сядзець адвячоркам, чакаючы з пашы кароў, абмяркоўваць вясковыя падзеі, гаманіць аб чым-небудзь. Кузьма і сядзеў тут звычайна ў невялікай чародцы сваіх сваякоў-суседзяў. І калі табе трэба было прайсці, напрыклад, да свайго дзеда ў другі канец вёскі, дык даводзілася асцерагацца, абыходзіць той пагорак наўзбоч.

– Сярожка, ну чаго ты забаяўся, чаму ты так адхінаешся, як быццам мы не свае табе, не вясковыя... Хадзі сюды, – украдліва казаў Кузьма, а сам тым часам пакрысе прыўзнімаўся над зямлёй. Якое імгненне – і ён кумільгом, аж пыл курэў, кідаўся за табой, цап – і ты ўжо ў магутных руках вялізнага дзядзькі.

Ён браў цябе на ўлоні, гладзіў па галоўцы – вялікі расці, а тады пачынаў... казытаць, перабіраючы твае скабы, як акардэонныя клавішы. І ты паўвёскі агучваў сваім дробным, звонкім, задушлівым смехам.

І сапраўды, было невычэрпна смешна, бо Кузьма, можна сказаць, выціскаў(!) смех з твайго тулаўца, так што скабы балелі... Назаўтра ты зноў абачліва абыходзіў небяспечны пагорачак.

Тое, што Кузьма Жукоўскі быў не надта далікатным – не дзіва. Адкуль узяцца той далікатнасці ў самага вялізнага, самага дужага, самага высокага чалавека ў вёсцы!

Менавіта гэтая самавітасць стала прычынай таго, што ў 1944 годзе, пасля вызвалення Беларусі, яго заўчасна, у 17 гадоў, мабілізавалі ў войска і адправілі на фронт. Ці то ў метрыкі ніхто не зазірнуў, ці то не было тых метрыкаў, але ў любым выпадку – як не ўзяць у вайсковыя шэрагі такога волата!

Дзякаваць Богу, Кузьма адваяваў спраўна і ацалелы, з ордэнам Чырвонай Зоркі, вярнуўся дамоў. І характар зусім не сапсаваў на вайне. Ён быў лагодным і добразычлівым, гатовым бясконца здзіўляцца свету, як дзіцё.

– Каб гэта знаццё, дык не трэба было б, на добры лад, капешкі раскідваць... – аднойчы, перад пачаткам дажджу, сказаў Кузьма сваім сямейнікам. І я, малы хлопчык, упершыню пачуў і на ўсё жыццё запомніў гэтае нязвыклае, трохі прыкрае, але мілагучнае і сакаўное слоўца – «знаццё».

Змушаны смех і, як кропля дажджу, наталяючае душу слова!.. Гэта Кузьма!

У нашай вёсцы многія мужчыны, як наспеў час, трохі падвучыліся і развіталіся са сваімі калгаснымі коньмі, пераселі на трактары. Кузьму не дужа лёгка давалася механічная справа, ды і ўзяўся ён за яе ўжо сталым чалавекам.

Аднойчы, робячы на сваім «Беларусу» круты паварот на палявую дарогу, Кузьма зачапіў плугамі высозны громаадвод, які стаяў акурат на скрыжаванні дарог, на самым высокім вясковым узгорку. Удар быў такі моцны, што громаадвод гайдануўся з боку ў бок і грымнуўся вобзем. І ад удару разламаўся на тры часткі.

Натуральна, што паглядзець на ўчыненае асілкам Кузьмом дзіва збегліся ўсе хлопчыкі вёскі. Мы вымяралі громаадвод сваімі маленькімі крокамі, балазе, яго кавалкі, дзякуючы прымацаванаму да надзіва доўгай жэрдкі дроту, не разляцеліся ў бакі. Хто б яшчэ падарыў нам такі цуд, апроч Кузёмы?!

Але гэта было напачатку яго механізатарскай кар'еры. З цягам часу Кузьма стаў надзвычай спрактыкаваным, выключна адказным за сваю работу механізатарам. Калі мы, учорашнія жаўтароцікі, выцягваліся ў падлеткавае ўзвышэнне, нашага ўлюбёнца за ўзорнае ворыва бязмерных абшараў узнагародзілі ордэнам Леніна. Але мы, ды і ўсе вяскоўцы, аніяк не маглі прымераць Кузёму да такой высокай дзяржаўнай узнагароды. «Навошта яна яму, калі мы і так яго любім?!» – разважалі па-дзіцячаму.

Я й не ведаю, ці пахварсіў калі Кузьма сваёй высокай узнагародай, ці прышпіліў яе калі без наказу калгаснага кіраўніцтва на лацкан свайго святочнага пінжака... Але і тое праўда – навошта, калі ты цалкам пазбаўлены якога-кольвечы славалюбства ці пыхі?

Але ж ардэнаносец аўтаматычна быў залічаны ў калгасную эліту. А калгас наш на той час насіў імя Эрнста Тэльмана і быў адзін з лепшых у раёне. Настолькі лепшы, што мог наладжваць сяброўскія сувязі з землякамі славутага Эрнста, гэдээраўскімі сельгаскааператарамі.

Дык і пасябравалі, пачалі абменьвацца дэлегацыямі, гаварыць пра поспехі ў сацыялістычным гаспадаранні і выпіваць за здароўе адно аднаго.

З нямецкага боку да нас, як было заведзена, у складзе дэлегацый прыязджалі колькі перадавікоў сельгасвытворчасці, адпаведна ўдзельнічалі ў такіх сустрэчах і нашы найлепшыя работнікі. На законных падставах быў залічаны ў гэтую прадстаўнічую кампанію і наш Кузьма. А трэба сказаць, што ён быў не надта добры суразмоўца і прамоўца, не меў падвешанага, як у нас казалі, языка, засмечваў сваё маўленне розным слоўным пустазеллем, напрыклад густа перасыпаў гаворку словазлучэннем «гэта самае»...

І што дзіўна, Кузьма быў зусім слабы піток. Здавалася б, чалавек з такім выбітным здароўем пры добрай закусі мог бы і пару літраў гарэлкі перакуліць... Дзе там! Не прымала Кузёмава нутро гарэліцу, хоць ты трэсні. А слабым пітакам давяраць лёс міжнародных зносін дужа небяспечна.

...У той вечар, выканаўшы ўсю праграму гасцявання, нямецкія таварышы збіраліся ад'язджаць на радзіму. Заставалася толькі пасядзець на дарожку за святочна накрытымі ў калгаснай гасцёўні сталамі, кульнуць колькі чарак пад паляндвічку, кіндзючок ды ўсмяглыя ў хатняй печы дранікі са смятанай...

Кузьма разам з усімі кульнуў, мусіць, адну лішнюю чарку, дык калі выйшлі на вуліцу і пачалі развітвацца з сяброўскай дэлегацыяй, добра асалавелы Кузёма, паціскаючы рукі, вазьмі ды скажы:

– Ну дык чакаем вас праз годзік, як заведзена, нашы нямецка-фашысцкія

таварышы... – і аздобіў сваю прыязнасць надзіва ветлай, мяккай усмешкай, якая бывае ў вялізных, перапоўненых дабрынёй людзей.

У кіраўнікоў калгаса, усё адно як ад перапаўнення роту, адваліліся сківіцы. Яны дружна захмыкалі, закашлялі, сакратара партарганізацыі нават пачала біць чохаўка, але праз якія паўхвілінкі ўсе схамянуліся, пачалі пераводзіць размову на што іншае, абдымацца, як было відаць, мацней звычайнага...

Абыходлівыя немцы зрабілі выгляд, што не пачулі прыкра знаёмага, на якой мове яго ні скажы, слова, а перакладчык, вядома ж, выплюнуў яго з роту, як мулкі каменьчык.

Што тычыцца Кузьмы, дык той спачатку і не ўцяміў, што здарылася. А калі потым, пасля размовы з сакратаром партарганізацыі, даўмеў, дык замаркоціўся, але, шчыра кажучы, ненадоўга. Пачалалася касавіца, прыпар, ад цямна да цямна на сенажаці, пад'есці няспешна не атрымліваецца, не тое што, дакараючы сябе, думаць пра сяброў-чужынцаў.

Кузьма быў нашым адзіным, на ўсе шчаслівыя гадочкі, незаменным, светлым, як усмешка, сябрам. Можна сказаць, ён нібы па ўзнятым у паветра мастку пераводзіў нас праз дзяцінства ў юнацтва. А мы цешыліся яго дабрынёй і прыхільнасцю.

Помню, як гуляючы ў мячык мы заўважылі на вясковай вуліцы праз якую хату ад нас Кузьму. Дык тут жа паклікалі яго: «Дзядзька Кузьма, дзядзька Кузьма, удар з усяе сілы па мячыку, паглядзім, ці далёка паляціць...»

Наш вялізны сябра гатовы быў хоць чым дагадзіць малым назолам. Дык і ўдарыў, з усяе сілачкі!

Потым мы да самага вечара шукалі ў Захарковай бульбе нашую гумавую радасць, але так і не знайшлі.

Цяпер, калі з той пары мінула амаль паўстагоддзя, бываючы з сябрам Петраком у роднай вёсцы, мы міжволі падыходзім да былога агарода ягонага бацькі Захара, і калі там цяперашнімі гаспадарамі пасаджана бульба, ледзь утрымліваемся ад спакусы пашукаць у ёй свой мячык.

## Юстын

Юстын быў русявы, выразна гарбаносы, вусаты, са светла-блакітнымі, здавалася, спецыяльна прымружанымі дзеля загадзя прыгатаваных хітрыкаў вачыма. Ён не прапускаў міма, не зачапіўшы, ніводнага стрэчнага. Як гэта так, каб не паздароўкацца, не пажартаваць!..

Аднойчы, яшчэ да вайны, у мястэчку Камень Юстын звыкла зачапіў на вуліцы зусім незнаёмага, хутчэй за ўсё прыезджага габрэя з характэрным аблíччам. «О, даражэнькі, ды мы ж з табой браты па носу! Сам паглядзі!» – прывітальна ўсклікнуў гатовы вітацца з усімі на свеце дзед. Габрэй, агаломшаны такім нахабствам («Брат знайшоўся!..»), аж збочыў са сцяжыны ды пачаў адплёўвацца, нібы праглынушы слімака.

Затое Юстынава жартаванне было асабліва радасным для нас, дзятвы. Калі мы чародкай беглі пагуляць на аселіцу і на дарозе сустракалі прыветлівага дзеда, ён, параўняўшыся з намі, прыпыняў падводу і пытаўся: «Адкуль вы, хлопчыкі, з Мосара, гэта ж вунь Мосар наперадзе бачны, я ж правільна еду?» Хаця той вушацкі Мосар быў у зусім іншым баку, за дзясяткі кіламетраў, а дзед, каму ж гэта невядома, – наш, тутэйшы, аднавясковец, нават сусед...

Мы ўсмешліва ўспрымалі жартаўлівыя закіды Юстына, усё адно як хто

загадзя падрыхтаваў нас да таго, што ў чалавечым сумоўї можна вось так раптоўна памяняць накірункі свету, перанесці вёску з аднаго месца ў другое, а чараду маленькіх хлопчыкаў прызнаць за сустрэчных вандроўнікаў...

І для ўчынення такой цудатворнай блытаніны патрэбныя ўсяго толькі словы, словы, словы... з Юстынавых вуснаў.

Дзед, здавалася, адмыслова для нас ведаў колькі старых, як ён сам, показак.

– Дзядулечка, – зноў і зноў тузалі мы яго за крыссё пінжака, – ну раскажы, хаця б адну!..

– Ну якую вам? – задаволена хаваў у вусы ўсмешку Юстын, як быццам ведаў процьму тых показак, і штораз пачынаў з адной і той жа.

«Выправіўся было бацька з двума сынамі ў лес па дровы. Ідуць, сякеры за паясы запхнуўшы, і раптам наперадзе шырокая канава шлях перагароджвае. Бацька разагнаўся і ўвобміг пераскочыў перашкоду. Малодшы сын скокнуў і... уваліўся па пояс. Паглядвае знізу на старэйшага брата і ці то з зайздрасцю, ці то з крыўдаю кажа: «Во наш бацька скокае, як сабака!» Старэйшы брат, як быццам разумнейшы, павучальна пярэчыць: «Хіба можна так пра бацьку казаць?! Скокае і няхай сабе скокае, чорт яго бяры...»

Каб дагадзіць дзеду Юстыну, мы хапаемся за жываты, нібыта заходзімся ад смеху, хоць на самой справе пакуль не дужа разумеем такога гумару. Нам падабаецца сам расповед дзеда, яго ўвага да нас, як да зусім дарослых мужчын.

Мой дзед заўсёды імкнуўся павесяліць, разняволіць людзей не толькі падчас сустрэчы на дарогах, але і на пагулянках, якіх тым часам шмат ладзілася ў вёсцы. Найлепшыя з іх, як нам здавалася, – убоіны! Радасць смакаты свежага сальца, традыцыйнай смажанай пячонкі, свая і трохі падкупленая ў краме гарэліца ў бутэльках, чаркі з тоўстага гранёнага шкла і гамана, гамана, гамана... Сёння ў нас, праз тыдзень – у суседа Васіля, яшчэ праз колькі дзён – у Івана...

А тут і непрадбачаная гулянка – да Сцешы прыехала на госці сястра з Украіны. Радуецца амаль уся вёска! Гасцей поўная хата. Неўтаймоўная весялосць, песні, танцы пад гармонік...

На пачэсным месцы Юстын узнімае чарговую чарку, выпівае і грукае ёю аб стол, прыцягваючы ўвагу кампаніі: маўляў, паглядзіце, як трэба піць – хуценька, адным нагібам, і да дна. Вучыцеся!

Але на яго мала хто звяртаў увагу, бо ўсе так пілі, толькі без грукату.

І тады праз колькі чарак славалюбны Юстын прыдумваў што-небудзь асаблівае, напрыклад, расказваў пра тое, як ён... Леніна аднойчы падвозіў. Той, хто слухаў гэтую гісторыю ўпершыню, насцярожваўся, не мог паверыць сваім вушам.

Трэба сказаць, што Юстын нарадзіўся за пяць гадоў да завяршэння XIX стагоддзя, так што даволі паспытаў і дарэвалюцыйнага жыцця. Хацеў стаць дыяканам, але ў бацькі не хапіла грошай на вучобу. А потым і сапраўды воляй лёсу патрапіў у Санкт-Пецярбург і колькі часу працаваў ламавым рамізнікам.

– А праз год перайшоў у легкавыя, гараджан пачаў вазіць, – распавядаў, узбадзёраны чаканай увагай грамады, дзед.

– Дык як жа з Леніным атрымалася? Што за выпадак такі? – падбухторваў і без таго натхнёнага апавядальніка каторы маладзён.

– Вельмі проста, – доўжыў сваю захапляльную ману Юстын. – Рап-

тоўна ўскочыў да мяне ў брычку прыгожа апрануты панок у капелюшы, барадаценькі такі, ускочыў і хуценька прамовіў: «Гані на Васільеўскі!» Па ўсім было відаць, вельмі спяшаўся. Да... – каб яшчэ больш прыцягнуць увагу слухачоў, як спрактыкаваны актор, рабіў паўзу дзядуля. – А як толькі прыехалі на месца, панок мой саскочыў з прыступкі брычкі, азірнуўся, сустрэўся са мной позіркам і прамовіў наўмысна даволі гучна: «Ленін!», каб не плаціць, і шпарка пакрочыў да бліжэйшага дома...

Мне было крыху шкада свайго дзеда: расповед атрымліваўся такі просценькі, што паверыць у яго праўдзівасць было амаль немагчыма – не ставала зачэпак для ўяўлення. А мне, малому, чамусьці вельмі хацелася, каб слухачы паверылі.

Куды больш значная далучанасць Юстына да сацыяльных пераўтварэнняў адбылася напачатку 1970-х гадоў, калі менавіта ён, дарма што незнарок, прыкметна аслабіў супольнае жыццё вяскоўцаў – паспрыяў будаўніцтву імі на сваіх сялібах прыватных лазняў.

Да таго дня ў вёсцы была агульная калгасная лазня, якую выцэплівалі па чарзе і мыліся ў ёй сталымі кампаніямі, у якія ўваходзілі сваякі, суседзі і проста прыемныя адно аднаму людзі. Падчас мыцця, а бацькі бралі нас з сабою, было гаманліва, весела, як на якой святочнай сябрыне.

У тую пагодлівую майскую суботу настала чарга якраз дзеду Юстыну выцэплiваць лазню для сваёй кампаніі. І ён загадзя, каб паспець да вызначанага часу, узяўся за справу: нанасіў вады і дроў, навёў у мыйным пакоі і ў прылазніку чысціню і парадак. Агонь пры такім абладаванні гарыць асабліва ясна і весела.

І ён гарэў амаль чатыры гадзіны – вада ў вялізнай бочцы ўжо закіпала, палок нагрэўся так, што немагчыма было трываць, калі прыціснеш да яго далоні... Але дзеду гэтага было мала. Яму хацелася нагрэць лазню так, каб яго пахваліў самы зацяты аматар пары камбайнер Арцёмавіч, які штораз, злазячы з палка, прыгаворваў «шоўкаў венік!», дык Юстын і падкінуў у печ яшчэ адно бярэмца дроў. І пайшоў дамоў па тазік, венік, ручнік і бялізну...

Калі ён няспешна, з венікам пад пахай у вызначаны час вяртаўся назад, дык зводдаль убачыў, што каля лазні стоўпіліся людзі і ажыўлена аб нечым гамоняць.

Падышоў бліжэй і ўбачыў, што сярод іх прыкідваюцца і невядомыя службоўцы ў брызентавых касцюмах з каскамі на галовах.

І толькі цяпер Юстын перавёў свой позірк на лазню: замест яе ляжала куча бярвенняў-галавешак... Дзядуля пачаў згадваць: можа ён, стомлены ад недасыпу, заснуў у хаце ці на гарышчы прылёг, калі лазіў па венік... Усё, што адбылося, цяпер здавалася яму зусім нястрашным наступствам сну.

– Ну, Юстын, ты нацэпліў лазню, дык нацэпліў, пара аж да неба ўзнімаецца! – чамусьці ўсмешліва сказаў яму Арцёмавіч, які пад'ехаў на нечаканы сход на сваім матацыкле.

І толькі мой сябра Пятрок быў сапраўды, без якога-кольвечы насміхання, задаволены, бо дзядуля ўсё пагражаў і пагражаў яму за неслухмянства прыкласці да мяккага месца вялізную металічную дужа гарачую лазневую кварту... А дзе яна цяпер!

Дзядуля Юстын быў чалавекам слова і лёгкага пачуцця. Не з тых, хто дае слова і спраўджвае яго, а з тых, хто ім, словам, жыве.

Ён называў мяне як ніхто болей на гэтым свеце – Серужок. Прыемная памяць на ўсё жыццё...

Пад ісподам яго перанятага моўнага досведу, як з цягам часу я высветліў, нібы ў апошнім затулку жыла непадлеглая адцуранню адданасць беларускай мове.

Я ўжо быў студэнтам і аднойчы па вяртанні дадому ўбачыў, як мой дзед-калгаснік робіць аловачкам у сшытак запіс аб зробленай за дзень працы: «Вазив солому», – пісаў ён. Юстын вёў свой улік зробленага, каб можна было ў канцы месяца пракантраляваць дакладнасць адпаведнага ўліку рахункавода і такім чынам не згубіць і якой малой сваёй мазольнай капейкі.

У яго запісе па сутнасці не было памылкі: канчаткавае «в» у скажоным слове «вазив» дзед неўсвядомлена, як уздых ці выдых, скарыстаў у якасці заменніка «у нескладовага». Такім чынам па-руску неўсвядомлена ён перадаў гучанне беларускага слова «вазіў»...

А вось гэтыя словы ён выдыхнуў у чорную бездань пад назвай фашысцкая Германія: «Паночку, бі мяне, бі мяне, паночку!»

У 1944 годзе яго з малодшым шаснаццацігадовым сынам Цімкам немцы ўзялі ў палон як жыхароў вушацкай блакаднай зоны і звезлі ў Германію. Там яны ўдзень працавалі на баўэра, а нанач вярталіся ў канцэнтрацыйны лагер. Аднойчы канваір, раззлаваны тым, што галодны Цімка падхапіў на вуліцы некім кінуты яблык, пачаў люта біць яго прыкладам вінтоўкі.

Вось тады бацька і закрыў сынка, абшчапіўшы рукамі і падставіўшы «паночку» сваю спіну...

Тыя Юстынавы словы Цімка, нібы губкай, увабраў сваёй душою, каб пранесці праз усё жыццё...

А дзед у сваю чаргу праз усё жыццё пранёс непазбыўны клопат аб наедку. Спачатку па звычцы ён больш клапаціўся пра Цімку: запозніцца той, заюшаны працай на электрастанцыі ў ваенным гарадку, з вяртаннем дадому, Юстын абавязкова спытаецца: «А ці пад'еўшы ты, сынок, ці была магчымасць дзе перакусіць?»

А калі дзед набліжаўся да свайго дзевяностагоддзя і свядомаць яго звузілася да самага надзённага, ён ужо ва ўсіх сямейнікаў зноў і зноў, нават без дай прычыны пытаўся: «А ці елі вы што, ці сытыя?»

А хіба мы з вамі мелі б інакшы жыццёвы клопат, калі б амаль год харчаваліся толькі тым, што баўэр намешваў сваім свінням і што, калі ўпотайкі, а калі з дазволу, можна было зачэрпнуць з карыта?

Дзед да самай смерці захаваў прыхільнасць да веселячых напояў. Можа таму, што ў старасці яму больш, чым калі, не хапала весялосці. Ды яе, як вядома, ніколі не бывае замнога.

Помню, як ён прыходзіў да нас і пранікнёным галасам казаў маці, што сёння яму жывот нешта круціць, пад лыжачкай смокча... І, нарэшце, выказваў сваё турботнае:

– Дачулёк, у цябе няма выпадкам чарачкі гарэліцы, каб страўнік трошкі падправіць?..

Чарачка заўсёды знаходзілася. Ці дакарала сябе маці за такую «спагаду», я не ведаю.

А мяне дык на працягу ўсяго жыцця даймае боль віны перад дзедам Юстынам. З таго часу, як аднойчы я, няўцямны хлопчык, схадзіў з ім па грыбы.

Напярэдадні па вёсцы прайшла пагалоска, што пасля дажджу грыбы павытыркаліся і, калі натрапіш на добрае месца, дык уволю параскашуеш. А я ў дадатак ад сваіх сяброў пачуў, што найбольш добрых грыбоў у Лужках, нашым бліжнім лясным урочышчы.

І вось мы ўваходзім у лес: дзед мусіць ісці проста, у чысты бор, а я цягну яго за рукаў, паварочваю на ўтравянелую дарожку ў Лужкі. Дзед Юстын нядоўга ўпарціцца і пагаджаецца з малым упірыстым назолай.

Збочыўшы з дарожкі, мы ідзём па яловых зарасніках і ў пошуках грыбоў больш пільна глядзім пад ногі і па баках...

Неўзабаве наперадзе патрапляецца ўсё больш і больш ляшчынніку на ўзгорках, а тады – алешніку і асінніку сярод куп'я балатавінак – не туды зайшлі з маёй корці...

Хмызы гусцеюць і гусцеюць, і мы пачынаем адчуваць, што, няхай сабе пакуль не цесна, але ўсё ж спавіты павуціннем стомы. І гэта больш з-за таго, што анічога не мяняецца наперадзе – беспрасветны гушчар, высокая трава, у якой блытаюцца ногі, і каб табе знаку якіх грыбоў...

Дзед, відаць, стаміўся яшчэ больш і ўжо пачынае ўсё часцей украдлівым голасам угаворваць мяне:

– Серужок, давай вернемся, сходзім у бор, лісічак на супчык знойдзем, на баравічка якога натрапім...

Я гляджу ў яго бок і гатовы ўжо пагадзіцца з прапановай, але раптам...

Раптам побач з сабой бачу чатыры вялізныя, крамяныя, на тоўстых магутных ножках краснагаловікі. Я мог бы сказаць «падасінавікі», але гэта звузіла б іх пазнавальныя прыкметы. Гэта былі не злучаныя хоць якой асацыяцыяй з дрыготкім дрэўцам грыбочкі, гэта былі абагульненыя на ўвесь свет грыбы-волаты! Яны стаялі непахісна, як праўда...

Я паклікаў дзеда і пачаў хуценька, пакуль ён яшчэ не падышоў, з сарамлівай паспешлівасцю зразаць грыбы. Грыбы мелі некранутую свежасць, былі, як сыр. Я даў адзін грыб, самы вялікі, патрымаць дзеду, астатнія ж пачаў акуратна ўкладваць у сваю кашолку.

– Нішто сабе грыбочак! – прыцмокваў языком дзядуля. – Вось дык удача!

Між тым я наладаваў ужо амаль поўную кашолачку, засталося месца акурат на апошні грыб, які трымаў дзед Юстын. І то гэты грыб трэба было разразаць на часткі.

– Унучак, давай я палову грыбоў панясу. Навошта табе такі цяжар па лесу цягаць. А ў вёсцы я табе зноў перасыплю, каб людзі бачылі, колькі ты сабраў, і дзіву даваліся...

Дзед Юстын так далікатна атуляў увагай маё славалюбства, нібы хукаў на больку. Але ўсё дарэмна, я не аддаў яму і якую адламаную крошку грыба... Так і насіў па лесе поўную кашолку, а дзядуля тым часам – колькі грыбкоў на дне свайго кошыка...

Я нясу і цяпер па жыцці тую да краёў напоўненую кашолку радасці, якой не падзяліўся з родным дзедам... Нясу ўтомлены да смерці, нясу, адрываючы руку, і ні з кім ужо не магу падзяліцца даўно прагорклай радасцю.

## Баніфат

У многіх людзей пара дзяцінства застаецца ў памяці прыемным пахам: навагодняй хвоі, цукерак, скуры чахольчыка, у якім падарылі цудоўны шматлязовы сцізорык... А ў мяне, гэта – пах сена. Як толькі я прылаўчыўся трымаць у руках грабелькі, дык адразу быў далучаны да сямейнікаў на галоўным прыпары года: разбіваў пракосы, падварушваў падвяленую траву, каб хутчэй падсыхала, раскладваў вазы сена, калі быў, мусіць, адзіны раз у жыцці вышэй за бацьку, а ён з віламі – унізе; таксама і ў пуні, калі звозілі

сена, расцягваў яго па кутах, каб болей улезла... Успамін духмяны, дарма што спалучаны са зморнай, выцягваючай жылы працай.

Адзін мой знаёмы свой успамін аб дзяцінстве захаваў у паху лекаў... Не таму што шмат хварэў. Зусім не. Проста непадалёк ад ягонага дома, на той жа вуліцы, месцілася фармацэўтычная фабрыка... Можна ўявіць, як звыкла, незаўважна прыйшла да яго старасць, сумная бальнічная пара...

І вось, згадваючы Баніфата Ульяненку, я зразумеў, што дзяцінства можа затойвацца на доўгія гады не толькі ў прыемным паху, але і ў незабыўных рытмах.

Кожны дзень, уранку і ўвечары, вясковая вуліца напаўнялася размераным тахканнем яго матацыкла: «Тах!» – і рухавік нібы на імгненне задумваўся, ага, прыдумаў – «Тах!» – і далей, як па завучанаму – «тах-тах-тах-тах...»

Больш анідзе і аніколі на працягу жыцця не чуў я такога «тахкання» матацыкла!

І не дзіўна. Баніфат меў не абы-які, а чатырохтактны трафейны матацыкл BMW. Натуральна, што ён «тахкаў» не «па-нашаму», але ж тым больш запамінальна.

Як Баніфат прыбіўся ў нашу вёску, цяпер ніхто не згадае. Казалі, што ў пасляваенныя гады ён быў у шэрагах будаўнікоў дарогі Віцебск-Мінск, якая праходзіць непадалёк, дык і прыліп да саспелай на той час выйсці замуж Зосі.

Баніфат быў нішто сабе хлопец, валодаў кавальскай справай, відны з сябе, трошкі кульгаў пасля вайны, але ж неўзабаве раздабыў згаданы матацыкл, каб хутчэй даставацца ў той ці іншы бок па справах. А калі раптам пачынаў гаварыць па-свойму, дык усё адно як па нашаму, хіба што з невялікай квяцістай акрасай...

Калі ранічкай па вёсцы «тахкаў» Баніфатаў матацыкл, было зразумела, што можна бегчы ў кузню, праз колькі хвілін запяе там сваю бадзёрую песню кавальскі горн, загрукаюць па жалезе ёмкі малаток Баніфата і молат малатабойцы Івана Фёдаркава.

Ты бег па вуліцы да кузні, і тваё сэрца, не раўнуючы як рухавік Баніфатавага матацыкла, грукала аб скабы ўпэўненым, неадпрэчным прадчуваннем радасці.

Кузня нашай паляводчай брыгады месцілася ў невялікай хацінцы з падслепаватым акенцам, з прыкметным комінам, з якога, калі ні глянь, курыўся шызы дымок. У ёй абкоўвалі жалезнымі абадамі драўляныя колы для гужавога транспарта, падпраўлялі на кавадле лемяхі конных плугоў, рабілі розную неабходную драбязу для калгаса і для вяскоўцаў, напрыклад, матыкі або вілкі для саганоў, розныя зашчапкі ды клямкі...

Баніфат, ды і малатабоец Іван разам з ім, былі строгімі, заўсёды панылымі, закурадымленымі ды замурзачанымі, як і належыць кавалям, дзядзькамі. Але ж яны ніколі не забаранялі нам у кузні, няхай сабе і каля дзвярэй, каб не патрапляліся пад руку, паназіраць за іх работай. За тым, як кавалак жалеза пакрысе насычваецца ў горне гарачай чырванню, як ён угінаецца пад ударамі молата, як шыпіць і дыміцца ў сцюдзёнай вадзе...

А калі нашыя кавалі былі ў гуморы, можна было папрасіць у Баніфата дазволу трошкі, хаця б колькі разочкаў панаціскаць на кавальскі мех ды паназіраць, як пад бруёй паветра ў горне з шыпеннем разгараецца вугаль, як увачавідкі вялыя жоўтыя язычкі слабага агню ператвараюцца ў пругкі светла-блакітны магутны струмень...

Доўгі ход кавальскага меха задаваў замест параўнальна дробнага тахкання зусім іншы, паглынальны рытм твайму жыццю. Лубяная пругкая скура выпроствалася, узнімаючы рычаговую ручку высока ўгору, так высока, што даводзілася станавіцца на дыбачкі, каб не выпусціць яе з рук, а тады амаль павісаць на ёй, абціскаючы мех уніз... А сэрца тахкала ў нецярпенні падчас дасягнення гэтых верхняй і ніжняй кропак вагання, паміж якімі зноў і зноў доўжылася тваё нябеснае жыццё.

Калі мы ўпершыню ўбачылі на тэлевізійных экранах мультфільм «Канікулы Баніфацыя», дык міжволі згадалі свайго Баніфата, які, як адкрылася, быў трошкі падобны на знакамітага цыркавога льва. Іншы раз ён, агаломшаны невядомай нам тугою, быў шэры, як зямля, і тады ўжо і думаць страшна было аб якім-кольвечы ўдзеле ў раздзьмухванні горна.

Але кавальская нуда, якая немаведома адкуль бралася, магла так жа непрыкметна і адпусціць гаротніка. І тады Баніфат, выціраючы анучкай з ілба ці то стому, ці то сляды дакукі, гаварыў катораму з нас:

– Ну што стаіш ды блішчыш вачмі ў парозе? Можа, хочаш на агонь пахукаць? Дык не стой колам, бярыся за рукаяць...

Пры гэтым Баніфат даваў меху вольны ход, а сам садзіўся на якую хвіліну на ўслончык каля вакна.

Ну леў, чыста леў Баніфацый!

Калі хто не любіў нашае захапленне Баніфатам і ягоным умельствам, дык гэта нашыя маці, старэйшыя сёстры ды і наогул усе маладзіцы вёскі. Іх непрыязнасць да нашага ўлюбёнца была выклікана жаночай салідарнасцю з Зосяй, якая шмат скардзілася таварышкам на невыносны характар хахла. Як што ні па-ягонаму – хавайся ў цёмны кут, бо ў цябе Баніфат тут жа шпурляне што заўгодна, абы пад руку патрапілася. Асабліва невыносна, казала Зося, тое, што Баніфат займеў звычку шпурляць у яе місы з ежай... Калі згатуеш не так, як патрабуе, боршч, – страва, толькі паспытае, – ляціць тут жа ў качарэжнік. Адхінайся і бяры анучку падціраць распырсканае...

Дайшло да таго, што строгі Баніфат шпурляў у качарэжнік і ўсяго толькі недасоленую ежу.

Маці і бабулі пачалі папярэджваць дачок і ўнучак, гатовых на выданне, каб жаніх, крый Божа, быў не такі, як Зосін Баніфат, а ў адрозненне ад яго – непераборлівы, ешчы. Дык іншым разам здавалася, што гаворка ідзе не пра сужанца, а пра выбар удалага парсючка...

Але што нам тое жаночае вохканне, нам, зачараваным кавальскай справай Баніфата, яго пранізлівымі жыццядайнымі рытмамі!

Толькі адзін рытм гэтага маўклівага чалавека аніяк не дайшоў да нашых вушэй – рытм біцця яго, пазбаўленага далікатнай чуллівасці, салдацкага сэрца.

## Фэлька

Здавалася б памяць пра яго павінна захоўвацца пад імем Фелікс Іосіфавіч Зелянеўскі, а на табе – жыве пад імем Фэлька. Памяць пра нашага калгаснага старшыню, яшчэ даваеннага, калі калектыўныя гаспадаркі абмяжоўваліся абшарамі аселіцы адной вёскі, а ўсе работнікі былі раднёй, сваякамі, суседзямі...

Фэлька ўзначальваў наш калгас і пасля вайны.

Ён заняў ранейшую пасаду па вяртанні дамоў у 1946 годзе – запазніўся,

бо пасля цяжкіх раненняў вандраваў па шпіталях, а тады яшчэ туберкулёз лёгкіх да аслабленага арганізма прычапіўся...

Пасля вайны Фэлька старшыняваў без малага дзясятак гадоў, а потым пайшло ўзбуйненне калгасаў, замена іх кіраўнікоў на больш адукаваных, ідэалагічна цвярдзейшых...

Фэлька, з яго кемлівасцю, якая не аднойчы выратоўвала на фронце, не разгубіўся, а паехаў да кіраўніцтва раёна і папрасіў для свайго калгаса грузавы аўтамабіль – ён загадзя прымерваўся да руля. Лацвей прымервацца, калі ў адным са шпіталяў, дзе лячыўся колькі месяцаў, даволі трывала авалодаў шафёрскай справай.

Існі працаваць брыгадзірам яму не заманулася, а шафёр, адзіны на ўвесь калгас, – не абы якая фігура!

І не толькі для грамады, але і для нас з Петраком, маім яшчэ з той дзіцячай пары надзейным сябрам і Фэлькавым унукам.

Гаражоў для машын і сельгастэхнікі ў калгасе тады яшчэ не было, дык Фэлька ставіў ГАЗ-51 на двары сваёй сялібы, а тут – мы!

Кабіна машыны была для нас як капсула касмічнага карабля: поўная ізаляцыя ад свету праз забеспячэнне ўсім-усім неабходным.

Вось – руль, за яго Пятрок аберуч ухапіўся! Унізе – рычаг пераключэння хуткасці, ручны тормаз... Іх я кратаю, смела гайдаю сюды-туды – Пятрок не паспявае, у яго не такія маланкавыя рухі, як у мяне, да таго ж яму трэба, папуляўшы вочы, сачыць за дарогай, каб не ўехаць у якую калдобіну... Затое ён уціскае па самую плешку педалі счаплення і газу!

Ціснем, круцім, расчыняем і зачыняем вокны, едзем...

Фэлька зусім не баяўся нашай адчайнай «язды», не асцерагаўся, што скруцім, саб'ём рэгуліроўку якой сістэмы ці зламаем што...

Калі і падыходзіў да машыны, дык толькі каб забраць пінжак з кабіны або недачытаную газету, або папяросы «Север», якія ён, нягледзячы на аслабленыя вайной і часткова выдаленыя лёгкія, курыў без меры...

Аднойчы дзед падышоў да кабіны так знянацку, так нечакана – з боку кузава, што калі я на якое імгненне сустрэўся з ім позіркам, дык сумеўся, затое запомніў яго на ўсё жыццё.

З аднаго боку – я ўбачыў звыклага Фэльку, з трохі брутальным абліччам – доўгі нос, здавалася залішне шырокі рот, рабацінне на твары, фрызура «пад бокс», у якой выяўлялася яго гатоўнасць хоць заўтра ісці ў войска...

Напэўна, якраз такім убачылі яго аднойчы на танцах дзяўчаты ў вёсцы Заружанне ды спыталіся ў магчымай Фэлькавай абранніцы Анісі: «Ну як табе гэты кавалер?» «Пасаліўшы можна з'есці...» – коратка адказала яна, а з цягам часу і з'ела.

Але адкрыўся мне тады і зусім іншы Фэлька, носьбіт святла, якога высвечвае мне праз гады памяць.

У азораных блакітам вачах – столькі глыбіннай прасторы, што немагчыма застацца нязрушным – імгненне і, здаецца, яны, як вір, уцягнуць цябе ў таямнічую глыбіню. Ды яшчэ мяккі, як ручнік, голас, украдлівы: «Ну што, рабяткі, гуляеце, ну гуляйце сабе...»

Мне здавалася, што Фэлька любіць мяне гэтак жа моцна, як Петрака!

Хаця, гэта толькі здавалася... Не браў жа мяне з сабой Фэлька, калі разам з калгаснікамі ездзіў выраўноўваць дарогу... А Петрака браў!

Яны ехалі ў кар'ер, жанчыны насыпалі ў кузаў гравій, а тады Фэлька марудна рухаў машыну па дарозе на суседнюю вёску і раз-пораз прыпыняўся, указваючы на тую ці іншую калдобіну, якую трэба было засыпаць.

І жанчыны засыпалі з асаблівай стараннасцю, усё адно як хацелі асабіста спадабацца былому свайму старшыні: старанна разраўнавалі пясочак, абціскалі нагамі, усё адно як масцілі свой уласны двор... У выніку дарога лашчыла вока сваёй роўняддзю – хоць каціся!

Вось так Пятрок, дзякуючы Фэльку, атрымаў магчымасць дачыніцца да гаспадалівага абмацвання і рамонту дарожнай стужкі. Маіх аднавяскоўцаў цапліла жаданне роўненька, нават не кульгануўшы дзе незнарок ад спатыкання, ісці, ісці і ісці па жыцці, аддаляцца і аддаляцца ад вайны...

Але мы, няўцямныя хлопчыкі той пары, не надта хацелі гэтага аддалення. Згадкі пра вайну нават лекавалі нас. Калі прастуджваліся і ляжалі ў ложку з высокай тэмпературай і калі нам рабілася зусім млосна, дык мы прасілі маці даць нам пагуляць з бацькоўскімі або дзедаўскімі ваеннымі ўзнагародамі. І дакументамі на іх адпаведна. Усё адно як па таемнай дамоўленасці гэта стала ў нас трывалай звычкай. І маці прыносілі нам, нямоглым, ордэны і медалькі, нібыта і самі ўзапраўду верылі, што ад іх можна набрацца цвёрдасці духу.

Колькі мы так «згулялі», пазакідвалі ў розныя шчыліны, пагублялі ў хатнім гармідары дарагіх, калі не сэрцу, дык памяці бацькоў і дзедаў, узнагарод – ніхто не ведае...

...Кожную суботу, як толькі дарослыя выцеплівалі лазню, нас, хлапчукоў, апаноўвала адчуванне прыналежнасці да таямнічасці жыцця і выжывання.

З пачуццём гонару ішлі мы, сынкі, з бацькамі мыцца. І выконваць свой хлапчукоўскі абавязак, невялікае, але, як нам здавалася, вельмі важнае паслушэнства – церці спіны сваім бацькам, дзядулям, дзядзькам-суседзям.

Як мы стараліся! Як з усяе сілачкі прыцiскалі да спіны вяхотку або венік, у залежнасці што катораму бацьку падабалася, як імкнуліся дагадзіць родным! Каб скура рыпела, а касцей зусім не адчувалася!..

А яшчэ мы ў лазні аглядалі бацькавы целы і вельмі здзіўляліся, калі заўважалі след дагэтуль нязаўважанага ранення.

– А ў майго татулькі грудная цягліца прастрэляная... Я і не ведаў дагэтуль... Снайпер цэліўся, а бацька незнарок павярнуўся бокам. Куля выйшла пад пахай, там і знак застаўся, невялічкая такая ямачка...

– Дык выходзіць, твой бацька пяць разоў паранены?

– Так і ёсць: тры асколачныя раненні і два кулявыя...

– Цяпер ужо на адно кулявое больш, чым у майго... – бяздумна перажываў каторы хлапчук.

А Пятрок ніколі не ўступаў з намі ў такія размовы. Ён моўчкі ўзіраўся ў пасечаную асколкамі дзедаву спіну, дзе месцамі тоненькая скура, здавалася, толькі ўчора зацягнула рану... Узіраўся і аніяк не мог даўмецъ, чаму дзедаву салдацкую мужнасць амаль не заўважылі і адпаведна не адзначылі камандзіры?..

У сёмым класе, калі Пятрок адчуў, што ўжо здольны напісаць доўгі ліст, падрабязна распавесці пра якую падзею, ён узяўся «ваяваць» за свайго Фэльку. Прыходзіў да яго зноў і зноў і распытваў ды запісваў у вучнёўскі сшытак расповед пра помны бой на Салаўёўскай пантоннай пераправе падчас выхаду з Вяземскага катла на Смаленшчыне ў 1941 годзе. Выцягваў з дзеда словы ўсё адно як цвікі абцугамі – так не любіў той згадваць вайну. Але, дзякуючы настойлівасці Петрака, усё ж мусіў пагадзіцца на цяжкі ўспамін.

У жорсткіх баях за адзіную пантонную пераправу, якая давала магчымасць нашаму войску «вузкай кладачкай» выйсці з акружэння, Фэлька

камандаваў падраздзяленнем, у якое ўваходзіў і кулямётны разлік. Яны замацаваліся на стрэчным накірунку да наступаючых немцаў, якія спрабавалі зноў і зноў знішчыць пераправу, спыніць рух адступаючых. Кулямётчыкі адбілі колькі атак, але неўзабаве ў жорсткім баі ўсе байцы разліку загінулі, і тады камандзір сам лёг за кулямет. Фэлька адбіў тры атакі, як раптам патрапіў пад мінамётны абстрэл... Вось тады і быў ён двойчы паранены кулямі і пасечаны асколкамі.

Калі апрытомнеў, выпаўз на дарогу каля пераправы, дык пачаў махаць рукамі, маўляў падбярыце ў якую машыну, браточкі, але ў сумятні адступлення на яго ніхто не звяртаў увагі. Дзе тут якое месцейка знойдзецца, калі не тое што пакласці параненага, ацалелым і ўвішным недзе хаця б на кукішках прыторкнуцца ў машыне... І каго будзе займаць жыццё аднаго байца, калі лік ідзе на дзясяткі тысяч загінулых у страшнай мясасечцы салдацікаў...

Усё так, але, калі паглядзець, як далей атрымалася, дык і не так.

Фэлька ўспоўз на дарогу, па якой марудна, з працяглымі запынкамі падчас абстрэлаў і з паскарэннем падчас контратак, рухалася калона адступаючых. На шчасце, параненаму ўдалося аберуч учапіцца за бампер легкавіка, які нейкім цудам надарыўся ў калоне, і поцягам апынуцца на другім беразе. Цяпер ужо Фэлька, наадварот, адпоўз наўзбоч ад дарогі і прытуліўся ў свежа ўтворанай выбухам снарада варонцы.

І тут адбыўся яшчэ адзін выратавальны цуд! Міма праходзіў салдацік з гаспадарчага ўзвода і ўбачыў у варонцы акрываўленага, у пасечанай асколкамі, у падранай падчас поцягу праз пераправу форме, а больш дакладна, у лахманах, якія пасля той формы засталіся, таварыша. І прыпыніўся, і са словамі: «Вазьмі, спатрэбіцца...» – кінуў яму глыж масла, а тады накрыў Фэльку непадалёк узнятым з зямлі шынялём...

А шчасце ў тым, што шынель той быў афіцэрскім, а значыць, адметна-прыкметным для санітарнай каманды. І ў шпіталі, дарэчы, Фэлька да пары не казаў, што ён не афіцэр, а ўсяго толькі сяржант...

Як я цяпер думаю, яго выратавальнікам быў не салдат. Ім быў анёлахоўнік!

А Пятрок пра шчаслівае дзедава выратаванне ў сваім лісце, вядома, наогул не згадваў. Свой расповед пра ўдзел Фэлькі ў баях на пераправе ён адаслаў у Міністэрства абароны СССР. І архіўныя дакументы на Фелікса Іосіфавіча знайшліся!

Праз колькі месяцаў яго выклікалі ў райваенкамат і ўручылі ордэн Чырвонай Зоркі. Але Фэлька не выявіў якой-кольвечы радасці. Уся яго радасць, амаль да кроплі, засталася ўтаптанай у каляіну вайны...

Праўда, Петраку падалося, што пасля ўзнагароджання пэўныя змены ў Фэльку ўсё ж адбыліся, яму нават падалося, што дзед пашырэў у плячах... Але я не веру сябру.

## Міколька

У нашай вёсцы жыў стары чалавек, якога аднавяскоўцы звалі Міколька. Не Міколка, як усім вядомага літаратурнага героя Міхася Лынькова, а менавіта Міколька, з напісаннем праз мяккі знак!

Дзе вы чулі, каб барадатага дзядулю называлі, як маленькага хлопчыка, змяншальным імем! Можа, так атрымалася таму, што дзед Міколька быў невысочанькі? А можа, ласкавае імя да яго прыляпілася з маленства,

ды так і затрымалася, як упартая асенняя лісцінка на галінцы, да самай позняй восені...

Калі «лісцінка» абляцела, вясковыя жанчыны казалі адна адной: «Чула, сёння ноччу Міколька памёр?.. Трэба будзе схадзіць на хаўтуры, пакланіцца...» «Царства нябёсаў яму...»

Дзеда Мікольку ў нас ніколі не называлі па бацьку. Несуладна гучала б: напрыклад, Міколька Іванавіч... Я пішу «напрыклад», бо і сапраўды не ведаю, якое ён меў імя па бацьку. Ласкавасць не спалучаецца з якім-кольвечы ўзвышэннем!

Усё маё дзяцінства было напоўнена шчаслівым стаяннем на парогах майстэрняў, цікаваннем за ўмельствам сталяра Федзечкі, каваля Баніфата і... Мікольюкі.

Але ці мае адмысловую назву майстра, які вырабляе гужавы транспарт – калёсы, брыкі, гарбаркі – я і пасёння не ведаю. У нас гэта быў Міколька. Вось і ўся поўная назва...

Каля плыннай крынічкі на аселіцы ён карыстаўся складзеным з цэглы затулкам для вогнішча, на якім у ночвах падагравалася вада для распарвання дубовых брускоў. З іх Міколька выгінаў абады для колаў, выкарыстоўваючы прыстасаванне з сумнай назвай «гнула».

А ў майстэрні ён рабіў для тых абадоў аснову-мацаванне – калодкі і спіцы. Колькі дзён, і гатова – каціся, кола! Але не ў поле, а ў кузню: спачатку кавалю трэба было абкаваць яго жалезам, а тады вярнуць кола Мікольку для зборкі канчатковага вырабу, напрыклад, брыкі.

У розных кутках Беларусі для перавозкі коньмі сена рабілі так званыя драбіны: дзве восі на колах, змацаваныя паміж сабой, у тым ліку і насцілам з дошак, а па баках і сапраўды прыладжаныя пад нахілам драбіны...

Міколька ж, апроч бакавых, устаўляў яшчэ драбіны спераду і ззаду і ўсе змацоўваў зверху звязанымі ў прастакутнік роўненькімі жэрдкамі. Вось гэта была брыка, сена не растрасалася па дарозе...

Наш дзед рабіў мадэрновыя па тым часе гужавыя транспартныя сродкі і з асаблівым гонарам і смакам вымаўляў іх назвы.

Найцікавейшай з гэтых назваў была для мяне «гарбарка». Гэтае слова я ўспрымаў усё адно як няўдалую спробу зрабіць дубовы вобад для кола: гнуў, гнуў майстра распараную ў гарачай вадзе ўпартую драўніну і не сагнуў у кальцо, яна пачала пераможна трашчаць ад нескаронасці, нібы пашчак барабана чуўся – «гарбарка»... Драўлянае слова.

Я, дарэчы сказаць, не знайшоў яго ні ў пяцітомным «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы», ні ў «Віцебскім краёвым слоўніку» Міколы Каспяровіча...

Гарбарка – гужавы лесавоз. Дзве восі злучаліся не брусамі, не дошкавым насцілам зверху, а толькі адной скразной жэрдкай. Гарбарку можна было параўнаць з мурашкай: ногі-колы, а паміж імі – вытанчанае да нітачкі тулава.

Заднюю вось гарбаркі па злучальнай жэрдцы можна было рухаць узад-уперад і замацоўваць на патрэбнай даўжыні. А яе вельмі проста было вызначыць: доўгія жэрдкі ці дровы трэба перавозіць – адцягвай вось назад; кароткія – наадварот, уперад. Больш такіх гарбарак, як у нас, я нідзе не бачыў. Міколька ж быў адзін на свеце!

Шчаслівы працаўнік! Ён штодзень мог пераконвацца ў вялікай запатрабаванасці сваіх узорна змайстраваных вырабаў, якія пад лінеечку былі пастаўлены на брыгадным двары перад клецццю з вупражжу. Калёсы, брыкі, гарбаркі, апроч саняў, якія ўлетку ляжалі акуратна складзеныя пад шахой.

Мужчыны, штораніцы запрагаючы коней, напаўнялі гэтую пляцоўку бадзёрай гаманой. Тут, каля бацькоў і мы, жаўтароцікі, аціраліся, пазіралі і запаміналі на будачыню, якім парадкам запрагаюць коней, імкнуліся пагладзіць, прылашчыць кожны «свайго», гэта значыць, бацькавага каніску.

Майстэрня Міколькі стаяла побач з яго сялібай: а дзе ж яе ставіць, калі сам будуеш.

Такім чынам наш дзед маўкліва сцвярджаў сваё адрознае ад іншых жыццёвае правіла: усё наўкруг маё, усё наўкруг калгаснае, а не звыклае, як брахлівы выраз: усё наўкруг калгаснае, усё наўкруг маё... Майстэрства, маючая душэўны распачатак пажыццёвая праца лёгка перакрочваюць межы ўласнасці.

А я ў дзяцінстве не змог перакрочыць мяжу Міколькавай адчужанасці. Ціхенька заходзіў у яго майстэрню і стаяў, як цень, у парозе. Не хацелася нават, каб ён заўважыў мяне. І дзед амаль што не заўважаў. Зірне бывала, як на вераб'я, а яны таксама заляталі ў майстэрню праз расчыненыя дзверы, ну і ўсё на гэтым. Стаіш і стаі, прыйшоў паглядзець – глядзі...

Дзед не выяўляў да нас, малых хлопчыкаў, аніякай цікавасці, ніколі не сказаў нам прыветлівага слова...

Але сёння, калі мінула столькі гадоў, зусім інакш, чым раней адкрылася мне яго колішняя адчужанасць.

У пару нашага дзяцінства ў калгасе ўсё больш і больш пачало з'яўляцца трактараў, спачатку гусенічных, потым колавых... Было нязвыкла чуць пра новую прафесію, калі наш сусед Васіль пайшоў па просьбе старшыні працаваць плугаром... Мікoлька, вядома ж, хутка зразумеў, што яго справа пачынае зазнаваць незваротны заняпад, што неўзабаве яна стане зусім незапатрабаванай і па сутнасці на ім і скончыцца. Шчыльна спавітаму такімі змрочнымі думкамі, яму балюча было зазіраць у нашыя, напоўненыя нязгасным водсветам світанку жыцця, вочкі, адчуваць нашую свярблівую прагу авалодаць усімі рамёствамі свету...

Пра гэта я згадаў учора, пасля таго, як у мяне пабываў суседскі сын-падлетак, каб па звычцы паказаць свае літаратурныя опусы. А я, хоць і даўно меў намер, але так і не сказаў яму, здалёк азіраючаму будучыню, пра тое, што ён павінен памятаць: літаратурнай справай у нашай старане наўрад ці пракорміш сям'ю. Хіба што здаволіш патрэбу паспавядацца перад Богам словамі, якія нашэптвала табе ў маленстве матуля...

Маўклівы Міколька і думаць не думаў, што з намі, хлапчукамі, за яго размаўляе насцеж расчыненая майстэрня – вэлюмным моракам, запыленымі сонечнымі промнямі, якія дзе-нідзе прабіваюцца праз шчылінкі ў сцяне, непрыкрытымі целамі абструганых брускоў, якія, счэпленыя дротам, вісяць на цвіку ў дальнім куце і, вядома ж, непаўторным духмяным пахам драўніны... Калі б я раней, чым убачыў бярозу наяве, удыхнуў яе пах у Міколькавай майстэрні, дык падумаў бы, што вось гэты пах, а не відарыс, акурат і ёсць праўдзівы, першаісны, рэальны вобраз славутага дрэва, які толькі і можа на ўсё жыццё адбіцца ў свядомасці.

У сярэдзіне 1980-х гадоў бацька з колішняга брыгаднага двара прыцягнуў на нашу сялібу гарбарку. Чаму не калёсы, не брычку, а менавіта гарбарку, застаецца толькі здагадвацца. Можа, яму здавалася, што ў старасці больш, чым калі, давядзецца назапашваць на зіму дроў... Можа, па якой іншай прычыне, але мяне якраз дужа ўсцешыла тое, што бацькаў выбар выпаў менавіта на гарбарку. Ён жа па сутнасці прыцягнуў на сялібу не толькі цудоўны гужавы транспарт, але і не менш прыгожае слова. Быва-

ючы дома, я штораз любаваўся гарбаркай, як сквапны багацей любуецца якім рэдкім дыяментам.

А душу маю напаўняў лёгкі сум, бо я зразумеў, што так нязвыкла ціха завяршылася эпоха калгаснага жыцця, на якую прыпала маё маленства. Не ведаю, які ўнёсак у калектыўную гаспадарку зрабілі мае продкі – можа, каня на аброці прывялі, можа, карову, накінуўшы на рогі пельку... Але калі пачалі разбіраць па сялібах нажытае за дзесяцігоддзі, дык займелі дарма што не новую, – гарбарку! І не абы-якую, а работы найлепшага на ўвесь край майстра – Мікалькі.

## Было і ёсць напачатку

Варта толькі згадаць дзяцінства, як у памяці зацепліваецца ўспамін: пагодлівы красавіцкі дзень, з амаль летнім сонечным прыгрэвам.

Я выйшаў на двор і не змог адарваць вачэй ад бліжэйшага да нашай хаты поля: на ім адзін за адным ішлі за плугамі аратыя, у тым ліку і мой бацька...

Мужчыны-аднавяскоўцы аралі глебу пад ярыну. Над раллёй курылася волкая пара, якая ператварала паветра ў дрыготкі вэлюм. Аратыя праз гэты вэлюм выглядалі як фігуры алоўкавага накіда, ад якога мастак яшчэ не адарваў рукі. Яны ўсё адно як сыходзілі з-пад алоўка, цягнучы далей і далей свае баразёнкі...

Неўзабаве гэты відарыс набыў нечаканую моц і веліч і адбіўся ў маёй памяці на ўсё жыццё.

Бліжэй к паўдзёну сонца пачало прыграваць з яшчэ большай шчодрасцю, і мужчыны, усё адно як па камандзе, раптам прыпынілі на ўскрайку поля коней і, каб лягчэй дыхалася, паздымалі верхнюю вопратку і паўскідалі яе на хмызоўе, усё адно як пасушыць на сонцы. Тым часам самі зноў узяліся араць, цяпер ужо ў белых нацельных салдацкіх кашулях.

Мінула столькі гадоў, і я ўжо з цяжкасцю згадваю, якім парадкам, хто за кім, ішлі яны ў сваіх баразнах. Хаця, пачакайце... Паперадзе Федзечка, за ім Лёшка, а тады Іван Міронаў, а тады, кульгаючы, Іван Цітаў, пасля яго Кузьма, Юстын, Баніфат, Фэлька і Мікалька... Але цяпер я далучаю да іх на падмогу Яначку Шугалея, Міколу Шышко, Пятра Стрэльчанку, Захарку Гамзюка, Сашку Урублеўскага, Васіля Рублеўскага (не Рыгоравіча – гэта мой бацька, а Прохаравіча, нашага суседа), а яшчэ Аўдакіма Валовіча, Федзьку Жыгуна, Васіля Кулакова і Ваську Кулакова (Рыбака), Міхаіла Арцёмавіча, Ладзіміра Перапечку, Лёньку Шугалея, Прохара Рыбачонка, Сямёна Качана, Юзюка Ільяшэвіча, Міколу Шадырку...

І мне здаецца, што аднавяскоўцы, усё адно як старажытныя воі, апранулі белыя кашулі перад апошнім боем.

«Няўжо апошнім, няўжо больш не будзе?» – пытаюцца яны ў мяне. «Не ведаю... – адказваю я. – Мне здаецца...»

Сваёй маруднай, як сялянскі час, хадою яны ідуць, ідуць, ідуць няспынна за плугамі, дзесяцігоддзе за дзесяцігоддзем праз неўзаранае поле...

І праз усё маё жыццё.

Валянціна Аксак



...Час,
прабаўлены ў пеставанні кветак,
не залічваецца ва ўзрост...

# Пакідаю любоў

## *СОНЦА ЎСТАЕ*

На ўзвей-вецер
накінула неба вяроўкі.
Вяроўкі-вяроўкі,
лавіце воўка!
Не злавілі – уцёк.
За поле, за поплаў
пабег на цянёк
ззалелага лесу,
у край-далячынь
пабег той ваўчына
і знішчыўся чын,
куламесы віхурнай,
піліпаўкі нуднай.
Даўжэзная ноч
пагубляла падкоўкі.

Падкоўкі былі,
а цяпер – залатоўкі
зіхцяць у разорах
у водсветах зораў.
Вяроўкі ў стадоле,
дзіцятка ў прыполе.
Куцця распанела
на кутнім стале.
Сонца ўстае.

### АДНОЛЬКАВА

У цябе – лось,
а ў мяне – ласось.
Пачатак такі
пра калядныя радасці
розных стыхіяў
прыдаўся б адразу
для трапнай пародыі,
калі б не кроў
на нашых белых талерках,
што аднолькава прарочыць
пра вечнасць
чырвонага цурка
на целе,
якое зноў нараджаецца.

### БЛІЗНЮКІ

Знешне
яны дужа падобныя:
той – вечаровы,
і гэты – ранішні.
Спрасоння, бывае,
я блытаю іх.
Лагодная ўсмешка,
прыцішаны голас,
прымружная мройнасць
іскрыстых вачэй.
І толькі апоўдні
высокае сонца
праясняе аблуду
праз рэзка раскрылены рух
неўкрыжованых рук
таго, хто заўсёды
стараецца быць
пры левым баку.

## *УСПАМІН ПРА УНІЮ*

За маіх дарагіх бацькоў
Івана і Маню,
і за тваіх
Аляксея й Марыю,
за маю любімую цётку Марусю
і за тваю Вольгу,
за дзядоў і бабуляў
Рыгора і Надзю,
Ляксея і Касю,
за ўсіх
праваслаўных продкаў
малілася сёння,
каб добры Бог
паслаў ім супакой
ва ўспаміне
пра іх спаконвечныя
уніяцкія душы.

## *ЧЫСЦІНЯ*

Бярыце, ешце,
гэта цела маё,
што за вас...
Не клянкай, упэцкаешся,
бачыш, колькі людзей
па гразкай дарозе
сюды ішло...

Піце з яе ўсе,
гэта кроў мая
Новага Запавету,
што за вас...
Куды ты ілбом
проста ў лужыну,
нацякло ж з парасонаў...

Прыносім Табе
Твае ад Тваіх
дзеля ўсіх і...
Ды хоць бы падслала што,
калі ўжо так карціць
распластацца
на гэтым брудзе...

Цябе хвалім,
Цябе благаслаўляем...

Глядзі ты,
нічога не прыстала,
чыстая ўся...

### САМА НЕ СВАЯ

Спазнілася.
Месца маё
пры дальняй сцяне
занятае.
Адтуль
голас стары і настырны
цераз усю святліцу
заглушаў спевы
маладога святара,
да Надсана падобнага.
Рэшту дня пражыла
сама не свая,
слухаўшы раніцай казань
на чыімсьці прыстолку
наперадзе.

### САМА Ў САБЕ

Выпіла азёры
радаснага віна.
Вычаставала рэкі
гаючае вады.
Выплакала моры
маркотных слёзаў.
Толькі піць,
смакаваць
і плакаць –
а плаваць
няма дзе.
Сама ў сабе
не паплывеш.

### ХАЧУ:

даехаць
да кожнай славутай мясціны;
спыніцца
ў кожным чароўным куточку;
дзенніцца
з кожным мілажальным сумоўцам;

ночыць
з кожным каханым бясслоўным.
Тут.

## *ШУКАЮ*

Чырвонае віно
прабегла стрававальным шляхам
і чорным сокам чэмеру
злілося ў прорву белых трубаў.
Здаецца – гэта ўсё,
што адбылося ўчора.
Шукаю сёння іншы каларыт
у замеці закінутага саду.
Сінія ільдзінкі вінаграду,
замерзлая калінавая кроў,
скалелых яблыкаў бурштынкі
між срэбра дурнап’яну.
А вецер гайдануў
струхлелы калаўрот
і запрасіў зірнуць
у глыбіню калодзежа.
Бясколернасць вады і ціша.
Завершаны пейзаж.

## *ПРАДВЕСНЕ*

Прачнулася.
Сонца ў вакно не свеціць.
Праз праспект ад мяне –
любімы цясляр у вязніцы.
Пазаўтра – Дзень Волі.

## *ЦЫРУЮ СЫНАЎ КАПЯЛЮШ*

Цырую сынаў капялюш.
Жоўтая салома
ўсцешана мне лашчыць рукі,
перадае схаванае цяпло
маленькае галоўкі.
Заўтра сонечныя кудзеркі
зноў выб’юцца з-пад брыліка
і ўтвораць новы німб
над даўнім золатам.
Водсветы валошак
праменнямі ад ясных вочак
ахопяць белы свет.

Унук мой пойдзе
вясну гукаць
ў сынавым капелюшы.

### СТУДЗЕНЬ ЗАБЛУДЗІЎСЯ

Хмары сталёвымі лёзамі
рассеклі ззалелае сонца
і гойстрыя аскепкі
падаюць на зямлю.
Адхукваю
скалелыя пупышкі
любімых ружаў,
але на ўсіх маіх мілых
не хопіць дыхання –
студзень
заблудзіўся надоўга.

### ХТО ВІНАВАТЫ

Насенне касмеі
змаркоцілася ў лядоўні,
лілеі
буцьвеюць у кошыках,
ружы
ніца звісаюць з падваконняў,
а я ўсё не маю
хоць якога лапіка зямлі,
каб улагодзіць іх прагу
да сонца.
Бачыце,
хто вінаваты ў тым,
што вясна
ніяк не надыходзіць.

### ЦІ НАЗАЎСЁДЫ

Дрэвам у двары
пасціналі галовы
і яны цяпер
думаюць рукамі,
навобмацак,
бо невідушчыя,
спрабуюць уцяміць –
зелянець ім сёлета
ці ўжо не,
бо вясну
адмянілі.

Цікава,
ці назаўсёды?

### ЧЫСТЫ ЧАЦВЕР

Паедзем сягоння,
мой мілы,
за мур,
далёка-далёка,
у поле,
над якім
пяюць жаўранкі
і ніхто не плача.
Там нашых слёзаў
чакае зямля,
бо ў песнях адных
яна не адмые
ўсю зімовую змогу.

### ПАКУТНАЯ ПЯТНІЦА

Не пакідай мяне,
чуеш, прашу.
Ты – мой апошні,
які мне пазаўтра
зможа абвесціць,
што Хрыстос
уваскрос.

### ІНШЫ СЦЭНАР

Што было б,
калі б Юда
не здрадзіў
і народ не крычаў
“распні”?
Іншы сцэнар.
Чужое свята.

### КРАЯВІД З МОГІЛКАМІ

Хаджу паўпрытомна
па страчаным раі.
Раблю – не раблю,
з пустога ў парожняе
пераліваю,

прыточваю кволую думку
да звялай душы.
Серада дагарае
цяпельцам нішчымным,
сонца вочы на захад
паволі вядзе,
адкрывае прагал
у галінах здзічэлых
і малюе пейзаж,
што разлёгся калісьці
ў Гефсіманскім
аліўкавым садзе.

### *РАХУНКІ РУЖАМ*

Час,
прабаўлены ў пеставанні кветак,
не залічваецца ва ўзрост.
А хохлікі мае нязгодныя
і на пярэймы
ўшчалі складаць
рахункі ружам.
Хронас
збіўся з панталыку.

### *БАГАЧ*

Адшукваю
на дне збуцвелае
дэрматынавае валізкі
бялізну
часоў ранняга студэнцтва,
знаходжу
ў мамінай пасажнай шафе
спаднічку
эпохі Вудстоку,
здымаю з гарышча
апусцелае бабінай хаты
вязаны
пры калысцы першынца
швэдрык,
шмарую тавотам ссохлыя
ў чаканні лепшае долі
шлюбныя чаравікі.
Апранаюся ўрэшце.
І дзякую Богу,
што намовіў мяне

дапасаваць
уборы да твару –
пабагацець
на цэлы век.

### ПАКРОВЫ

Аксамітнай далонькай
Красачка Ўнучка
рэтушуе аблічча
адстаўное красуні
Бабы Карготы.
Павуцінка ўчапілася
ў скроньку ядвабную,
дзве незабудкі
дзівяцца бездані
зелянкавага неба,
якое схілілася
над дзіцячым вазком.

### АДДАЛЯЮСЯ Ў НОЧ

Па левай калдобнай дарозе
расхрысталася ў жарсцях.
Па правай віхлястай сцяжыне
змарнавалася ў ведах.
Узбілася ўрэшце
на жвірысты роўны
наўпроставы шлях.
Ззаду чуцён сіплы спеў
пра прыемнасць і праўду.
Спераду –
ціша,
сутонне,
самота.
Аддаляюся ў ноч.

### ДЗЕНЬ ПРАЙШОЎ

Прытуляла бацькоў,
мілавала каханкаў,
пеставала дзяцей,
залюлёўвала ўнукаў,
толькі з сабой
зноў
не ўдалося
сустрэцца.

### *ЗВАРОТНЫ АДЛІК*

Бабуля.
Маці.
Жонка.
Чалавек.
Дзіця.
Блішчынка.

### *ЗАСТАЛОСЯ ТРОШКІ*

Мне засталося трошкі,
каб
спыніць плынь аблокаў,
дагнаць вецер,
апярэдзіць час.

### *ПЕРАТВАРУСЯ*

У куце святліцы
жагнаюся
на святога Міколу,
просячы ў яго здароўя,
за ўсе ўчыненыя
непамыслоты
літасці малю
ў Маці Божай,
клянкаю
перад шлюбным партрэтам бацькоў,
распавядаю ім
апошнія навіны
ды йду ў сваю летніцу,
дзе вітаюць мяне
фотаздымкі дзяцей,
для якіх нейкім часам
сама
ператваруся
ў новую ікону.

### *ПАКАЛЕННЕ МАІХ ДЗЯЦЕЙ*

Пакаленне маіх дзяцей
навучылася
больш-менш выразна
прамаўляць усе гукі
нашае мовы,
каб мілагучна сказаць
нам сваё фэ.

Пакаленне маіх дзяцей
дарасло,
дзякуй Богу,
да верхняй паліцы
з нашымі кнігамі,
каб шпурлянуць іх
з усмешкай
у сметніцу.
Пакаленне маіх дзяцей
прагрызла,
хоць позна,
чацвёрты зуб мудрасці,
каб спакойна спіхнуць
нас задуменных
са сваёй
хуткабежнай дарогі.
Адбылося?
Ды не.
Яшчэ мушу пажыць,
каб убачыць,
як пакаленне маіх дзяцей
убярэцца ў поўную сілу
і адным махам адкоціць
кутнія камяні
з дому майго.
Не збіраць жа ім
і напраўду
раскіданыя ў полі.

### ПІЛІПАЎКА

Маці Божая ўвойдзе
ў Вострую Браму,
агледзіцца
й выбера месца сабе
на тыльнай сцяне Ваяра.
Абое не зрушацца з тронаў
да самае доўгае ночкі.
Замоўкне наўколле.
Не гойсацьме люд на банкеты.
Не стынуцьме кроў
пад звярынаю поўсцю
і птушак з’інелыя крылы
не скалеюць распростана
ў снежаньскім небе.
Шэсць тыдняў чакання.
Хто народзіцца досвіткам

найкарацейшага дня?
Збаўца?
Збаўца нас
ад граху першароднага.
А Яго
хто пазбавіць ад тых,
хто з расейскаю руляй
разгульвае вольна
ля Нотр-Дам дэ Пары
і ў два крокі сягне
да нашае Вострае Брамы?
Ваяр на кані прыглядаецца.
Шэсць тыдняў адведзена,
каб зразумець –
Дзіця пад прыцэлам
антыхрыста з "калашом".

## ПАКІДАЮ ЛЮБОЎ

Вымываю,
страсаю,
выскрэбваю
боль,
асалоду,
кунегу,
каханне,
раздрай –
тое ўсё,
што смылела,
пякло,
перакручвала час,
у вяроўкі звівала
глузды і душу.
Пакідаю любоў
у радках на паперы,
покуль ранішні госць
не бунтуе
паўночную млосць.

проза

Андрэй Федарэнка



...з усіх бакоў ён чуў:
бейлін, бегін, берляйн, полен, болен,
а ўсё гэта азначала – Берлін...

# Вандроўка

***Апавяданне***

Ён сядзеў на Фрыдрыхштрасэ за столікам каля в'етнамскай кавярні, у якой толькі што паабедаў (востры духмяны суп з крэветак, кавалак смажанай свініны з таксама вострай марынаванай морквaю на гарнір, дзве чаркі моцнай, 70 градусаў, кітайскай рысавай гарэлкі), і вось, без 20 еўра ў кішэні, затое з поўным страўнікам і з лёгкай душою, сядзеў, курыў, расшпіліўшы куртку, паклаўшы на столік побач з попелкай шапку і пальчаткі (жонка б за гэта не пахваліла – кепская прыкмета).

Зіма, снежань, хутка Новы год, а ні снегу, ні марозу. На дрэвах сям-там жоўтае лісце. Пакуль ён абедаў, яшчэ больш пацяплела, нават нейкая пазнака сонца прабілася: не так было відно, колькі ўгадваўся яго дыск, прасвечваў праз смугу аранжава-апельсінавым святлом. Збоку, на газоне, свяцілася блакітная сінтэтычная елачка, пад якой стаялі два пузаценькія лялечныя Санта-Клаўсы – у чырвона-белых

кажушках і шапачках, з белымі барадамі; адзін звычайны, падобны на нашага Дзед-Мароза, другі – негр; для поўнай еўраталерантнасці не хапала яшчэ аднаго – жаночага полу.

"Усё па два, – падумаў ён. – Дзве чаркі гарэлкі, два Санта-Клаўсы, два сябры цяпер са мною".

Ён расслаблена, задаволена, сыта курыў, пазіраў на елачку, на вітрыну насупраць, якая падміргвала, пераліваліся, пульсавала агеньчыкамі, фарбуючы ў розныя колеры тратуар, на машыны, на людзей, і думаў пра эвалюцыю беларускага пісьменніка, дзівіўся, як рассоўваюцца яго геаграфічныя межы. Вось сядзіць ён у цэнтры Берліна, а яшчэ ўчора быў у Мінску, а пазаўчора (ці калі? васямнаццатага? не, дзевятнаццатага, на Міколу) – у роднай вёсцы, калі прыехаў да Тані, стрыечнай сястры, і яны пайшлі на могілкі; была сапраўдная беларуская зіма, мароз, сонца і адначасова снег – падалі з неба рэдкія, буйныя сняжынкі, кружыліся, блішчалі на сонцы – а мы сунемся па цаліку, сястра з палкай паперадзе, я маладушна ззаду, ступаючы ў яе сляды, шкадуючы новых чаравікаў; я і цяпер у іх, у гэтых жоўтых чаравіках, на якіх, канечне ж, хоць нейкія мікраскапічныя родныя пылінкі засталіся... А прыемна так плаваць то ў першай, то ў трэцяй асобе, думаць пра сябе то "ён", то "я".

Раптам крыху запознена пачало дзейнічаць спіртное. Мацней забілася падагнанае тытунёвым дымам сэрца, ажыла кроў, цёплая хваля пайшла ў кончыкі пальцаў ног. Стала беспрычынна лёгка, амаль радасна. Хаця чаму беспрычынна? Наадварот, многа прычын. Гэта і апельсінавае святло, і блакітная елачка, і што хутка любімы Новы год. І што апавяданне яго пераклалі на нямецкую мову, дзякуючы чаму ён тут і апынуўся, запрошаны на кніжную выставу. Што ў яго атрымліваецца спраўджваць дадзенае некалі самому сабе абяцанне: колькі б разоў ні быў у Берліне – абавязкова прайсці тым самым маршрутам, што і некалі ў першы свой прыезд сюды, гадоў 20 назад, таксама на нейкую кніжную выставу, толькі звязаную з драматургіяй. Тады было лета, ён – з картай у руцэ, аглушаны чужагалоссем мовы, зусім непадобнай на тую, якой вучылі іх у школе і ВНУ (хто б мог падумаць, што яна спатрэбіцца? альбо што спатрэбіцца калі-небудзь яму нямецкая драматургія?) – ішоў, куды вочы глядзяць, пакуль не апынуўся перад саменькімі дзвярамі Літаратурнага дома-музея Брэхта (ці Брехьта, як немцы змякчаюць), драматурга! – але не надта здзівіўся, гэтаксама, як не здзівіўся аднойчы ў Маскве, калі, таксама ўлетку, ратуючыся ад невыноснай спёкі, – пеклам патыхала ад дарогі, ад сцен, асфальт нават на ценевым баку вуліцы прыліпаў да падэшваў, – ішоў, думаючы чамусьці пра Гогаля, завярнуў у нейкі стары маскоўскі дворык, і першае, што ўбачыў – пад цяністымі ліпамі чорны бюст даўганосага чалавека, далей двухпавярховы асабнячок літарай П; шыльда на сцяне пацвярджала, што гэта той самы дом, дзе паміраў Гогаль; праз лісце ліп можна было разгледзець комін, з якога вылецелі ў вечнасць "Мёртвыя душы", том другі.

А за сцяной гэтага брэхтаўскага Дома-музея пачыналіся могілкі, больш падобныя на парк: зялёны, ідэальна чысты. Старыя і маладыя дрэвы заглушалі гукі мегаполіса. Заліваліся птушкі. Тут не было вянкоў, пластмасавых кветак, агароджаў у чалавечы рост. Каля абеліскаў і склепаў на зямлі не стаялі мутныя, пажаўцелыя і пачарнелыя, налітыя дажджавой вадой чаркі (з якіх у нас частуюцца нябожчыкі). Былі акуратныя дарожкі, дзе выкладзеныя пліткамі, дзе брукаваныя, дзе высыпаныя рознакаліберным гравіем, які асцярожна і прыемна храбусцеў пад нагамі. Паўз дарожкі цягнуліся вечназялёныя кусты,

жывая агароджа з мірта, самшыта, вастраліста і, здаецца, нават з экзатычнага карлікавага падуба – усё ў форме геаметрычных фігур: прамалінейныя і крывалінейныя, авальныя, як пад лякала, і круглыя, як пад цыркуль; скрозь па зямлі, па кустах, па ствалах дрэў да самай кроны вісеў, віўся, поўз плюшч. У дальнім кутку хавалася лавачка пад бэзавым кустом, не кустом – дрэвам, так раскідаўся, вымахаў гэты берлінскі бэз – вышэй за ліпы і букі.

Потым ён даведаўся, што выпадкова трапіў на Dorotheenstädtischer, знакамітыя могілкі французскіх гугенотаў, што гэта музей-запаведнік, ахоўваецца дзяржавай, што тут пахаваныя Гегель, Томас Ман, Брэхт, Грас... Так яму там спадабалася, такім сваім, запаветным зрабіўся гэты зялёны куточак, лаўка пад бэзам, што ў кожны свой прыезд у Берлін ён пачаў хадзіць сюды – нібы аддаючы даніну сабе цяперашняму, а сабе ранейшаму робячы справаздачу ("добры дзень, ліндэн-ліпа, пазнаеш мяне? – вось я зноў, жывы, дакранаюся да тваіх трэшчынак...").

З кожным разам ён быццам падрастаў. Цяпер, у гэты чацвёрты па ліку прыезд, ён ужо мог быць самому сабе, і сваім нябачным сябрам, не толькі экскурсаводам, а і перакладчыкам, бо нарэшце хоць збольшага пачаў разумець па-нямецку. Маленькая перамога. Нібы вылецелі з вушэй серныя пробкі, ці як пасля самалёта, калі заціснуць нос і моцна выдыхнуць праз вушы: піск, трэск, і вось пачынаюць аддалёк вяртацца знаёмыя гукі і словы. Нарэшце ён вырваўся з моўнага палону, з гэтага манатоннага кашмару, перастаў быць удзельнікам нямога кіно, дзе на яго долю перападалі толькі пейзаж, нацюрморт і дэкарацыі. Узрушаны, узрадаваны, ён цэлы дзень тоўкся сярод людзей у выставачным павільёне, спыняўся каля боксаў, стэндаў і прагна слухаў, прычым цікавіла яго не столькі лексіка, колькі асаблівасці маўлення, інтанацыі, а яны, як адбіткі пальцаў, аказваецца, у кожнага розныя: напрыклад, з усіх бакоў ён чуў: бейлін, бегін, берляйн, полен, болен, а ўсё гэта азначала – Берлін.

Сонца на міг зусім вызвалілася з-пад воблака, ад столікаў, сцен, ад прыпаркаваных машын, ад дрэў леглі ўпоперак вуліцы цені, – і зноў гэтае аранжава-апельсінавае святло перанесла на тыдзень назад, зноў пішчыць пад нагамі малады снег, падаюць, кружацца рэдкія вялікія сняжыны... Свеціць сонца. Снег чысты, зіхоткі, аж балюча на яго пазіраць. Збоку па снезе марудна рухаюцца два цені – дзявоча-падлеткавы Танін (а ёй шэсцьдзесят пяць!), і мой – няўклюдны, гарбаты, бо за спінай рукзак, дзе выпіўка і закуска. Іншая справа, чаго туды ісці такой парою, такім снегам – тым больш я толькі прыехаў, нават за сталом не пасядзелі, – але гэта ўжо мясцовая традыцыя: колькі сябе помню, яшчэ калі матка была жывая, як толькі прыязджаў, перш чым сесці за стол, выпраўляліся на могілкі. Больш за тое – гэты паход яшчэ трэба заслужыць, не кожнага возьмуць; напрыклад, Танін кавалер – Валодзя (жыве ў мястэчку Каменка за 4 км, хоча да Тані ў прымы, цяпер яны пасвараныя, і ён прыйшоў мірыцца), пакараны, як малое дзіця за шкоду, і пакінуты дома.

Таня ў джынсах і ў валёнках, на ёй аранжавая горналыжная куртка-анарак з капюшонам, з-пад якога выбіваюцца махры хусткі-канаплянкі, невядома з якога куфра выцягнутай, бо даўно такіх не выпускаюць. Перад тым, як ступіць, яна мацае палкаю снег.

"Ты пабач, ну! – сама сабе здзіўляецца яна; голас задыханы, але вясёлы, звонкі ў вясковай цішы. – Якая я стала старая шкарбонка, як каракаціца! Хіба я такой была? Я ж не хадзіла, а лётала!.."

Таня ў нашым родзе – блудная дачка, саромная пляма на гонары сям'і. Мне было 5, ёй 15; памятаю нешта імклівае, як агонь, рыжае, як вавёрка, з задзёртым носікам, вострымі зубкамі, над вушамі куцыя коскі з банцікамі; хуліганістая, трохі, а мо і не трохі, без цара ў галаве; як усе такія "адорвы", сябравала з хлопцамі, прычым большымі за сябе, гуляла ў футбол, хакей, у разведчыкаў, у ножыкі, у чыку і ў карты на грошы. Неяк на летнія канікулы паехала ў пасёлак Цыгламень Архангельскай вобласці ў госці да нашага дзядзькі, які працаваў там у порце, ды так дамоў і не вярнулася – імгненна ўляцела ў нейкую гісторыю, нешта звязанае з ранняй, школьнай цяжарнасцю, а ў тыя часы гэта было страшней за вядзьмарства ў Сярэднявеччы. Яе бацькі, а мае дзядзька з цёткаю, Сцяпан і Каця, хадзілі апранутыя ў чорнае, на фальшыва-спачувальныя роспыты адказвалі: "Горэ, чалавеча! Горэ!" І хоць Таня неўзабаве выйшла там замуж – ці за таго самага мясцовага рускага, які яе акруціў і спакусіў, ці за другога – не ведаю, памятаю толькі, што з таго часу ў нашай радні само імя яе пачало вымаўляцца як непрыстойнае слова, і доўга яшчэ потым, калі згадвалі яе пры дзецях, чырванелі, паніжалі голас, прыкладалі палец да вуснаў.

Зрэдку Таня прыязджала ў вёску да бацькі з маткаю, спачатку з дзецьмі – двума белабрысымі хлопчыкамі-пагодкамі, потым з чалавекам, Валодзем, рахманым паморам-русацяпам з белымі вусамі. Пітушчы. Частаваў нас, малых, цыгарэтамі з фільтрам і расказваў, як выпіваў з Высоцкім. Не ведаю, дзе ён пасля падзеўся, казалі, што нібыта раздавіла бярвеннямі на сплаве, ці то яны проста развяліся; як бы там ні было, Тацяна без мужа, з двума векакаватымі ўжо хлопцамі вярнулася на радзіму, у апусцелую хату – да таго часу неяк раптоўна, у адзін год, не стала дзядзькі Сцяпана з цёткай Кацяю, пачала працаваць у парніках у Каменцы (памятаю сярод зімы памідоры, гурочкі, салатавага колеру маленькія качанчыкі капусты). Сыны выраслі, пажаніліся, абодва ўзялі ў жонкі мясцовых беларусак, гарадскіх, з кватэрамі, – а Таня так і жыве ў бацькоўскай хаце адна, ці, як апошні час, з кавалерам.

Цікава, што ў гэтага яе кавалера з Каменкі мала таго, што аднолькавае з першым мужам імя, дык яны яшчэ і знешне падобныя: светлыя валасы, белыя вусы, нават адзін і той жа світэр пад горла, з аленямі на грудзях і з арнаментам на рукавах; толькі што той архангельскі Валодзя быў роўны характарам, а гэты, каменскі, – пераменлівы. Я бачыў яго ўсяго тры разы, і кожны раз у новай фазе. Першая – звычайны мужчына, працуе ў кацельні, трымаецца годна, гаворыць па тэме, не перабівае, але і сябе не дае перабіць, цікавіцца палітыкай, нават вядзе блог у сацсетках. Другая – калі сарваўся на паўгода на заробкі ў Расію, адкуль прыехаў ганарысты, непрыступны, выцягваў з кішэні жмуткі рускіх рублёў і яшчэ больш іх камечыў, піў чамусьці з рыльца, хоць сядзелі за сталом і былі чаркі, падпіўшы, геройнічаў: "да я! да мне!", паплёўваў пад ногі, біў сябе ў грудзі, ледзь не рваў на сабе сарочку... І нарэшце фаза трэцяя – прыніжаны, прысаромлены, пакорлівы.

"...Тыя дзеці, тыя ўнукі, – філасофствуе Таня. – Не едуць, не хочуць, а прыедуць, то ўставяцца ў планшэты, ні лесу не знаюць, ні рэчкі... От пакуль здаровая, ды нічога не баліць, а там каму я буду трэба? Цяпер дзеці не глядзяць бацькоў. Шчаслівы той, хто іх не мае! – і адразу ж выцягвае з кішэні смартфон, каб у соты раз пахваліцца: – Паглядзі, якія ў цябе пляменнікі!"

На матавым экранчыку пры ўсім жаданні нічога не разгледзець, але я і так на памяць ведаю: два амбалы з кароткімі прычоскамі, як у фільмах пра 90-я, два сінявокія, белабрысыя нашчадкі Ламаносава, стаяць – адзін каля

“БМВ”, другі каля “Мерсэдэса”; ведаю таксама, якія яны зухі, спрытныя, удачлівыя, абодва працуюць у Расіі – паўгода там, паўгода дома: цяпер гэта лічыцца (куды мне з маім пісьменніцтвам) неблагой кар’ерай. Няньчачы ўнукаў, Таня прыгаворвае: “Расці, дзіцятко, вялікае, вырасцеш – будзеш, як бацька, у Расію ездзіць...”

Квадратныя могілкі абгароджаны высокім штыкетнікам. Каля плота на пухнатым снезе зусім свежыя заечыя сляды: дзве лапкі-кропкі побач і дзве – адна за адной. Са снегу тырчаць дубцы акацый, побач – такой самай таўшчыні і вышыні высахлыя сцябліны палыну з дробнымі, бы верасовыя, пачарнелымі кветачкамі на канцах.

Памагаю Тані адсунуць варотцы. Тут снегу яшчэ больш, чым на полі, нанесена амаль да паловы штыкетніка, бо ёсць чаму затрымліваць. Магілы дабраліся да самых варот, даўно возяць сюды хаваць з горада, і такое адчуванне, што ўсе гэтыя новыя помнікі, крыжы, агароджы ставяцца і лепяцца абы-як, дзе папала, адно на адно, крыва і коса, не пакідаючы ні сцежачкі, ні праходу.

“Ты пабач, – дзівіцца Таня. – Як я не падумала? Сюды ж не ўлезеш”.

Мы стаім у нерашучасці. Ні ёй, ні мне не хочацца ісці. Тым больш усе Таніны пахаваны ў дальнім ад варот усходнім кутку, мае – у дальнім заходнім.

“Столькі снегу... Яны яшчэ абрыднуць, гэтыя могілкі... Хадзем, мабыць, назад...”

Недалёка, метраў за дзесяць, магіла майго сябра і аднакласніка Сержыка. Вырашаю, раз я ўжо тут, адведаць хоць яго. Ступаю – і адразу правальваюся ў рыхлы снег вышэй каленяў.

“Яны тут не забытыя, – усё нібы апраўдваецца Таня. – Я сюды часта хаджу. І палю, і шышкі вырываю, і акацыі гэтыя сяку – а такое паскудства! – карані, як вяроўкі, самі, як дрот, сякера спружыніць, ссячэш адну, а праз тыдзень на тым месцы дзесяць...”

Сціплы помнічак з гранітнай крошкі. Снег наліп на партрэт, не відаць яго, затое добра бачны залацістыя літары і лічбы, надта мне знаёмыя і не надта прыемныя ў такім месцы – мае год і месяц нараджэння. Нас трое нарадзілася ў адзін год і ў адзін месяц: я, Сержык і Віця Смолер, і былі мы, як браты, жыць не маглі адзін без аднаго, заўсёды разам, усё было агульнае: школа, урокі, кніжкі, рыбалка, гульні... Ніколі не біліся. Але пасля школы – армія, новыя сябры, дзеўкі... Калі з Віцем Смолерам мы яшчэ нейкую сувязь падтрымліваем, зрэдку, у агульны дзень нараджэння, сазвоньваемся (важны, салідны чалавек, рэктар будаўнічага каледжа, у яго дарагая машына, дача ў Крынічным), дык з шалапутным Сержыкам мы ні разу пасля школы не бачыліся, і ў курсе яго дарослага жыцця я быў толькі завочна. У кожны свой прыезд пытаў у маці: “А дзе Сяргей?” – на што атрымліваў пачарговыя адказы:

“– Служыць у Крандштаце!”

“ – Жаніўся!”

“– Развёўся!”

“– У цюрме!”

“– Выпусцілі з цюрмы!”

І апошні раз: “– Дзе Сяргей?”

“– На могілках! Картоплі пайшоў красці, ды ўбілі лапатаю!”

Здымаю пальчаткі; па-дзіцячы пахукаўшы на пальцы, змятаю снег. З авальнага партрэціка на мяне ўважліва пазірае Сержык: падрэтушаваны,

падфарбаваны, да нельга саладжавы – і ўсё адно надзіва падобны на таго, якім быў у 6 – 7 класе, толькі чамусьці ў касцюме і ў гальштуку з недарэчным шырокім вузлом. Сонца коса падае на помнік, асвятляе партрэцік, ад чаго вочы ў Сержыка як жывыя; здаецца, зараз ён падміргне і скажа: “Як я вас?”

Ззаду ля варотцаў Таня гучна, на ўсе могілкі расказвае:

“...Прыду, па матцы паплачу, а па бацьку не буду, ён на мяне сварыўся: то я п’ю, то куру, то гуляю...”

Вяртаючыся назад, справа ад варот заўважаю новую, яшчэ без агароджы, магілку. Прысыпаныя снегам вянкі. На стандартным, звараным з труб крыжы таблічка, на якой белай фарбаю... зноў мой год і месяц нараджэння! Праціраю вочы. Нейкае сапраўднае *le déjà vu*.

“Віця Смолер, – абыякава пацвярджае Таня (яна ж не жыла ж у вёсцы і не ведае, што мы былі, як тры жалуды на адной галіне). – Увосень пахавалі! А багата хавалі! з вянкамі! а людзей-людзей было! Лапатаю ўбілі”, – пацішыўшы голас, паведамляе яна інтымна.

“То не яго”, – машынальна папраўляю.

“Яго! Жонка на почве рэўнасці! Недзе на дачы ў Крынічным! Не спецыяльна, яна і не хацела, ды неяк так махнула з гарачкі, так пацэліла ў спіну, што лёгкае адарвалася! Пахіркаў трохі ў бальніцы ды памер... Ты пабач, ну! – раптам ускліквае яна, павярнуўшыся ўбок вёскі і паказваючы палкаю. – А яно ідзе!”

Валодзя, яе кавалер, ішоў да нас па нашых слядах. Пабачыўшы, што на яго глядзяць, спыніўся. Таня грозіць яму палкаю.

“Я табе пакажу! Збіў мяне на сухрак (што такое “сухрак”?). Хай віну сваю помніць”, – але па голасе адчуваецца, што яна задаволеная: і ў такія гады ў яе ёсць кавалер.

Брыду следам за ёю назад і сам з сябе дзіўлюся. Амаль абыякава на душы. Зусім не агаломшыла навіна, што я ўжо адзін з трох застаўся. Толькі варушацца ў галаве – вось яшчэ адзін нумар будзе выдалены з тэлефона, а таксама – нейкая недарэчная (ці наадварот, дарэчная), гуллівая думка, якую хачу і не магу прагнаць: чаму зноў лапатаю? Што за мода? Ці праўда, што існаваў некалі на Заходнім Палессі суровы спартанскі абрад, жорсткі звычай, які так і называўся – “Лапатня”: старых, нямоглых, слабых заводзіць на могілкі і забіваць лапатаю?

Валодзя, чакаючы нас, стаяў навыцяжку. Нават вусы не тапырацца, а вінавата апушчаны кончыкамі ўніз. Калі мы падышлі, ён, каб паказаць, як каецца, сцягнуў з галавы спартыўную шапачку. Пакуль нас не было, ён напаліў грубку, вымыў падлогу, потым, у хаце, не даваў Тані ў рукі нічога ўзяць: дастаў прыпасы, якія прынёс у брызентавым рукзаку, насмажыў каўбасы, яечні на сале, сам сабраў на стол. Не было ніводнага нашага слова, з якім бы ён імгненна не згадзіўся: “усё так, чыстая праўда, правільна кажаце”. І хоць мы выдатна ведаем, што дастаткова мне паехаць, а яму выпіць, як усё можа змяніцца, – але ж так прыемна мець хоць часовую ўладу над кімсьці, лішні раз папікнуць чалавека, які выпрошвае дараванне.

Увечары выходжу на двор. Марозік. Пара з рота. Цішыня. Ні гуку. Цені ад слупоў, ад плота. Цераз вуліцу чарнее мая хата, у якой даўно жывуць чужыя людзі. Малады сярпок месяца на чорным, з залатымі крапінкамі зорак, небе – не вертыкальны, а нахілены, амаль ляжыць, як на каляровай вокладцы кнігі Гогаля “Вечары на хутары...” Утульна свеціцца жоўтае вакенца за гіпюрнымі фіранкамі. Абсалютна сіні снег. І пах дыму з коміна

– салодкі, першабытна-радасны, як пах смажанага мяса летам у курортных гарадах каля мора.

Вось так стаяў на гэтым самым месцы, калі мне было 5 гадоў, глядзеў на плот, ад якога і тады ляжаў такі самы зубчасты цень на сінім снезе. І якая ж тады, у 5 гадоў, была радасць, якое шчасце! – не ад пазнавання новага жыцця, а ў 100, у тысячу разоў большае – ад вяртання ў жыццё старое, знаёмае (з якім нядаўна так страшна развітаўся, здавалася, назаўсёды); і з кожным удыхам гэтае жыццё ўлівалася ў кроў, з кожным зіркам павялічвалася; вастрэлі пахі, колеры, гукі...

Мае сябры чакаюць мяне на вуліцы, клічуць мяне, і вось мы зноў разам, абдымаемся, радасныя, жывыя, і ўсе блізкія побач, смяюцца, віншуюць: ну вось і скончылася твая вандроўка, і нічога страшнага, а цяпер зноў усё пановаму! – менавіта так і ўяўляецца мне смерць – як вяртанне да пачатку, да дзяцінства, да маці, сяброў, да маіх дзяўчынак, напаленай печы, дарогі ў школу, да кніг, хакея, цнатлівасці... Усё зноў упершыню, зноў так востра і зусім нястрашна. Калі б людзі не ведалі, што яны бессмяротныя, яны не жылі б і аднаго дня, і адной хвіліны, а, сабраўшыся разам, адной вялізнай атамнай бомбай узарвалі б і сябе, і ўсё на свеце. Але кожны выдатна ведае, што ён бессмяротны, што калі аднойчы нарадзіўся – гэта ўжо навек.

У хаце Валодзя сядзіць, панурыўшыся, Таня ківае яму пальцам:

“...І не дай Бог! не дай Бог! – з лукашэнкаўскім надрывам выгаворвае яна, – яшчэ на мяне падымеш руку! Вазьму якую лапату...”

Ён падняўся з-за століка, уціснуў у попелку недакурак (“ну што, хлопцы, хадзем, павяду вас”), і пайшоў – няспешна, маленькімі крокамі, каб расцягнуць час, балазе, ісці было недалёка. Каля метро U-Oranienburger Tor ледзь не пасярод тратуара, упрытык да жоўтай лініі веласіпеднай дарожкі, стаяў кіёск кшталту нашага “Белсаюздрука”, толькі ў гэтым за вітрынным шклом замест газет, часопісаў і канцылярска-школьна-пісьмовых прыладаў стаялі напаказ спіртныя напоі ў пляшках розных калібраў. Ён абышоў кіёск вакол, нагледзеў бутэльку з цёмна-зялёнага шкла, пляскатую, з зялёным яблыкам на этыкетцы, назбіраў па кішэнях цяжкіх манет па два еўра і дробных, каб без рэшты; фраў з белымі валасамі, перахопленымі чырвонай павязкай, як у біятланісткі Лауры Дальмайер, падзякавала і ўсміхнулася яму. Пляшка прадбачліва была выгнутая пасярэдзіне, яна легла ў кішэню, як там і была; прыемным цяжарам адвісла левае крысо курткі. Ніколі не перастану здзіўляцца такім, здавалася б, простым, а на самой справе дзівосным рэчам: у чужым горадзе, на чужой мове нешта папрасіць, разлічыцца чужымі грашыма, і табе, як ні ў чым не бывала, з падзякай, з ветлівай усмешкай імгненна падаюць менавіта тое, што ты і хацеў, – акурат як некалі ў нашым вясковым магазіне падавалі мне “Яблучнэ міцнэ”.

Яго абагнала маладая мама, немачка з прыгожымі, хоць крыху поўнымі ў калготках ножкамі; за спінай рукзачок, у руцэ ля вуха мабільнік, ззаду сынок, маленькі немчык, адстаўшы, бегаў зігзагамі ад аднаго краю тратуара да другога і на ўсю вуліцу мяўкаў: “мяў! мяў! мяў!” Не паспеў ён здзівіцца гэтаму славянскаму мяўканню, а таксама пазайздросціць, што вось такі маленькі, а ўжо без усялякай вучобы, без курсаў-семінараў-практыкумаў-стажыровак так ведае мову, – як мама ўстрывожана крутнулася ўправа-ўлева, назад, усклікнула – з раздражненнем і адначасова з палёгкай – па-руску: “Руку дай, т-ваю макаўку!..”– і зноў затрашчала ў тэлефон па-нямецку.

Фрыдрыхштрасэ перацякла ў Chauses str., злева паказаўся хмарачос на Robert-Koch-Pl., справа – цагляная, тэракотавага колеру сцяна, у якую метраў праз сто ўкліньваўся бокам новы хай-тэшны аляпаваты будынак Каталіцкай акадэміі. У сцяне ён убачыў уваход, якога раней не было, – вузкі, мажнаму чалавеку і бокам не праціснуцца, зайшоў і апынуўся на цэнтральнай алеі могілак. Ён ніколі не быў тут зімою. Зіма, нават такая, як цяпер – еўразіма, перамяніла ўсе дэкарацыі. Ён зразумеў, што дарэмна сюды ішоў. Хай бы заставаўся ў памяці зялёны, з сонечнымі плямамі, з птушыным шчэбетам, чысты, ціхі яго куточак. Цяпер больш рэзка кідаўся ў вочы чорны і шэры мармур магіл, засыпаных апалым лісцем; сям-там у цёмных кутках нават ляжалі латачкі снегу, які нібы саромеўся, што такі брудны і так мала яго; ствалы дрэў былі ў плямах лішайніку, у голых вершалінах – гнёзды; унізе слалася нейкая ненатуральна-зялёная расліннасць, падобная на наш брусьнічнік ці барвінак, і плюшч – дзе карычневаты, дзе падсохлы, дзе пабіты марозікам. На яго любімай лаўцы, якая і ўлетку заўсёды пуставала, цяпер сядзеў з непакрытай галавой, у расшпіленым паліто, у сініх акулярах сляпы, заціснуўшы між калень белую палачку, падстаўляючы, як сланечнік, твар нябачнаму сонцу. Магіла Брэхта, як заўсёды, была засыпана алоўкамі і шарыкавымі ручкамі і застаўленая лампадкамі. Каля маленькага помніка Гегелю стаялі тры рабочыя (адзін нагнуўся) і разглядвалі зроблены наўскос сінім маркерам надпіс: “Veralten! dummes Lehre!”

Ён пайшоў назад, скараціўшы шлях, і неўзабаве зноў апынуўся ля Каталіцкай акадэміі, толькі з другога боку. На маленькім пляцы паўкругам былі драўляныя лавачкі, пасярэдзіне тырчэлі пірамідкі туй, блакітных елак і з краю – адна маладая ліпа. Ён памацаў лаўку – халодная, дастаў газету, спецыяльна на гэты выпадак прыхопленую са століка каля рэсэпшн; перад тым, як паслаць, зірнуў на першую старонку. Карыкатура, перадрукаваная з “Шарлі Эбдо”. Міжземнае мора, перакуленая лодка з мігрантамі, зверху над усім аграмадны, з барадой, як у Саваофа, Пуцін, з вады цягнецца дзіцячая ручка, сутаргава сціскаюцца пальчыкі, адчайнымі намаганнямі стараючыся ў апошні міг ухапіць хоць валасінку барады і ўратавацца.

Паслаў і сеў. Можна было пачынаць тое, дзеля чаго ён сюды ішоў, і вёў сваіх бедных сяброў: паспрабаваць яшчэ больш ажывіць іх, уваскрасіць цалкам, каб пагаварыць з імі, паўспамінаць, сказаць кожнаму добрае слова, якое адшкадоўвалася пры жыцці.

“Ну што, хлопцы, вып’ем?”

Але паблізу круціліся, выбіраючы месца для сэлфі, дзед з унукамі (двайняткі гадоў па пяць, у чорна-аранжава-жоўтых камбінезончыках, на першы погляд зусім аднолькавыя, і ўсё ж адразу можна было вызначыць, хто дзяўчынка і хто хлопчык), ды на пляцоўцы перад уваходам у Акадэмію таптаўся малады чалавек, абвязаны паўзверх каўняра спартыўнай курткі шалікам з лагатыпам мюнхенскай “Баварыі”. Шустрыя двайняткі, шчабечучы артыклямі: die, das, dem, ein – пабегалі вакол елак (“blau Baum”), туй, выбралі ліпу (“kleine Linden”). Ліпа і праўда была вельмі прыгожая, асабліва на гэтым рассеянным берлінскім сонцы – уся абсыпаная насеннем, нібы жоўтымі вялікімі стракозамі; здалёк можна было падумаць, што яна забыла скінуць восеньскае лісце. На лаўцы ляжала адна такая “страказа” – два празрыстыя сухія крыльцы, прымацаваныя да ножкі, на якой яшчэ і шарык, як гарошынка чорнага перцу. Дзед у цірольскім капелюшы трымаў у адной руцэ сумку, з якой вытыркаўся з’едзены да паловы батон-багет, у

другой – сэлфі-палку, выставіўшы яе, як рыбак-мармышачнік вудку, і гэтак сама дзюбаючы ёю. Нарэшце – пайшлі. А малады чалавек усё сланяўся ля паркоўкі, як непрыкаяны; кудлатая галава ўціснута ў каўнер, рукі ў кішэнях; то ён ставіў нагу на бардзюр, то нагінаўся і правяраў надзейнасць металічных слупкоў, якімі ад праезджай часткі былі агароджаны газон і тратуар, то закладваў рукі за спіну, задзіраў галаву ў неба і калываўся з насоў на пяты, і па ўсім было відаць, што чалавеку абсалютна няма чым заняцца.

Дарэчы, на смак і на пах “Апфель” – як кальвадос.

Ён заплюшчыў вочы. Вось зіма, Сержык – у кажушку, у шапцы з апушчанымі вушамі, збіраецца на паляванне, чапляе на плячо стрэльбу руляю ўніз і робіцца падобным на героя-падлетка з партызанскіх аповесцяў Валянціна Тараса...

Вось лета, сцежка ў лесе, шышкі пад нагамі, пах чарнічніку і багуну, Віця Смолер вядзе веласіпед, правай рукой трымаючы руль пасярэдзіне, у левай – цыгарэта, па-школьнаму схаваная ў кулак, – ён нешта ціха гаворыць, а напампаваныя колы пругка стукаюць аб карэнні, і пазвоньвае сам сабою званок...

Вось мы ўтрох, галава да галавы, нагуляўшыся ў хакей, ляжым на жыватах на снезе каля расчышчанай нашай хакейнай пляцоўкі і смокчам кавалачкі лёду...

І зноў лета, ружовая раніца, возера, чмокаюць каля берага ў траве карасі, і такі туман, што ледзь можна разгледзець паплаўкі... А вось мы вясною спрабуем футбольным мячом яшчэ не нагрэтую зямлю; а вось позняй восенню чакаем аўтобуса, каб ехаць у горад у кіно, на новую камедыю з Рышарам і Дэпардзьё, звінім у кішэнях капейкамі, спрачаемся, каму чарга купляць білеты, і кожны хоча паказаць, што менавіта ён сёння багаты...

Не, нічога не атрымлівалася. Толькі-толькі яны пачыналі збірацца разам, як усё рассыпалася. Ён напярод ужо быў вінаваты перад імі. Баяўся глядзець ім у вочы. І зразумела, чаму: ён ведаў іхні фінал, а яны – не. Увесь час недзе за кадрам гэтых успамінаў – рэфрэнам да іх – гучала: “Што са мной будзе?”, а ён адводзіў вочы і ніяк не мог вымавіць: “Загінеш ад лапаты”... Тут, канечне, не да рамантыкі і не да лірыкі.

Раптам ён зразумеў (а можа, памаглі некалькі глыткоў “Апфеля”) – так, не атрымліваецца, рассыпаецца, не выходзяць тут і цяпер памінкі па сябрах – бо ўжо яму не трэба гэта. Ён ломіцца ў адчыненыя дзверы, а яно ўжо робіцца само, паміма яго волі, і пачалося яно адразу ж тады, на вясковых могілках, калі, не пытаючы ў яго дазволу, пачаў пісацца ў галаве новы твор. І за гэты час ужо намахана – ён паглядзеў на растапыраныя пальцы – ого, пяць раздзелаў, кожны па 10 старонак... І ў гэтым новым творы, вядома ж, знойдзецца месца і маім бедным сябрам таксама. А цяпер трэба іх адпускаць і вяртацца ў наша апавяданне, тым больш, што малады чалавек, якога я палічыў за гультая-тунеядца, які быў знік, а цяпер зноў з’явіўся – з поліпрапіленавым, вясёлкавых колераў венікам і з сагнутым шуфлікам на доўгай ручцы, і ўжо старанна падмятае і без таго чысты пляц, усё бліжэй да мяне падступаючыся. Можна паспрабаваць угадаць, што будзе далей. Зараз наблізіцца, скажа “хай”, ці старамоднае “гутэнтаг”? Папросіць “раўхэн”? Зробіць выгляд, што яго не цікавіць зялёная, да палавіны адпітая пляшка ў маёй руцэ? Вось ён ужо, спадцішка на мяне пазіраючы, перакладае ў левую руку венік і, выціраючы аб штаны правую, з сарамлівай, вінаватай, як у Танінага Валодзі, усмешкаю падыходзіць да мяне.

*2017 г.*

паэзія

Леанід Галубовіч



...ніхто ўміраць не хоча за Айчыну
без славы і святарнага прыходу...

# Восем прысвячэнняў

* * *

Калі я згадваю Стральцова –
ягоны верш ці прозы твор –
то разам з ім прыходзіць слова
журба – як скруха і дакор.

І ўжо калі яно знаходзіць
прытул у сцішанай душы,
Стральцоў спагадліва сыходзіць:
“Ну, старычок, давай, – пішы...”

*21 лютага 2017*

* * *

*памяці Веніяміна Айзенштадта*

Тут не стрэў я паэта Блажэннага –
а ў псіхушцы за жоўтай сцяной,

ён, як муха над стравай кашэрнаю,
зумкім духам кружляў нада мной.

Брат ты мой па жывёльнай спагадзе,
крэўнік мой па бязжальнай радні,
ты не ў райскім самоцішся садзе,
і не ў Пекле гарыш на агні,

а гуляеш з лінялаю кошкай
каля брамы святога Пятра,
і апошняю дзелішся крошкай
з прыхаджанамі зла і дабра.

Ты жывы ў царстве мёртвых паэтаў, –
дзе сябе называеш Айцом,
і канаеш, як праведнік свету,
пад Ягоным цярновым вянцом...

*20 лютага-2 красавіка 2017*

* * *

*Стасю Карпаву*

Сталічныя хіпстэры сучаснай літаратуры
выдзёўбваюць рыфмы з трохмоўнай клавіятуры.
Жывуць будзённым, а мрояць пра вечнае
ў айфонах бяссонных праграмай прыгнечаных...
Люблю іх за прывіднае і віртуальнае
магчымае заўтра – наўрад ці рэальнае...
Праз нашы пакуты, памылкі, няўдачы
люблю іх таксама, бо хто ж нас іначай
па смерці ўзгадае, уздыме, увенчыць
такіх састарэлых братоў сваіх меншых...

*14 сакавіка 2017*

* * *

*А. К.*

Хачу я выбегчы з гэтай дзяржавы –
ваўком за межы сцяжкоў крывавых...

З прымружнай памяці ўжо сціраю
прывязкі, дружбы, гурты і зграі,

бутэлькі, шклянкі ў брыдзе і ў блудзе
і ўсё бязладдзе ў сваім бязлюддзі...

З якім высокім ні жыў бы ціскам,
пад стол пісьмовы я, безумоўна,
спаўзу, –
ён стане мне абеліскам
наўсцяж пакінутага бязмоўя...

*18 сакавіка 2017*

## ***ПАКЛОН***

Аж, як траўка на кургане,
Яно ўзыдзе – песняй стане.

**Янка Лучына**

На грудку па Неслухоўскаму трава
да пліты прыпала ніцма, бы ўдава.
Ледзь увіднае зацёртае імя,
хоць лучынаю высвечвай сярод дня.
Быў запісаны ў іваны, зваўся – Ян.
Беларус, шляхцюк па роду і з мінчан.

Інжынерыў і пісаў на мовах дзвюх –
рыфмай рэек вёў свой рэй і слоўны рух.
Паміж Польшчай і Расіяй моўны шлях
ён наладжваў покуль духам не зачах.

А калі радзінным холадам прамёрз,
то сабраў вязанку слоў сваіх і кроз.
Адагрэўся словам матчыным, ажыў,
ды нядоўга ўжо Айчыне паслужыў...

На Кальварыі ляжыць ён не адзін,
беларускага пісьменства крэўны сын.
Дзеці родныя прытулены з бакоў:
Ніл, Адамчык, Асташонак, Пісьмянкоў...

Мне здалося, расхінаючы кусты,
быццам голас яго чую з-пад пліты:

"Як ты Бога ў Божым храме ні малі,
а, галоўнае, Айчыне не змані.
Пакладзі ёй на алтар сваю душу
і скажы, што, вось, паэзіяй грашу,

не імперскай, а тутэйшаю, сваёй,
як з каханкаю, што станецца ўдавой.
Тут сем вершаў я пакінуў, каб ты мог
груд знайсці мой, расхінаючы мурог,
і, над надпісам схіліўшыся ў быллі,
пакланіўся роднай мове да зямлі”.

*25 красавіка 2017, (вярнуўшыся з Кальварыі)*

* * *

О, белакроўе зболенай Айчыны!
Дакуль жа оды складваць нам Зянону,
як быццам ён прапаў альбо загінуў,
пакінуўшы свой вобраз за ікону.

Гавораць, ён гартуе ля Гудзона
змагарны дух ліцвіна-беларуса,
пакуль у Менску розныя гапоны
харугвы носяць новага ісуса.

Ніхто ўміраць не хоча за Айчыну
без славы і святарнага прыходу,
тут нават светлакосыя дзяўчыны
цнатлівасць не губляюць без выгоды.

І ты, Зянон, не будзеш тут героем.
Бо тут і непатрэбныя героі,
дзе рыцары – забыты пад гарою,
а сённяшнія – ўзведзены ў ізгоі...

Вярніся ж не героем – чалавекам,
на вуснах з перасохлым пакаяннем,
разгубленым, старым, сабраным спехам –
і мы цябе пад сэрцам пахаваем...

*1 траўня 2017*

* * *

*Марыі Вайцяшонак*

Марыя садзіць сад,
Марыя поле поле –
свой вечны агарод...
Жыве, нібы ў прыгляд, –

насупраць нашай долі,
сусвету пасярод.
Марыя, ты – любоў,
ты – вуснае пасланне
да тых, што тут жылі;
з няўрымснасцю сляпой
чарвяк твайго пытання
звіваецца ў зямлі.

Схілёная вясной,
распростаная летам,
ты восенню цвіцеш,
сама сабе віной,
за ценем сваім следам
з мінулага ідзеш...

Цябе твой лёс вядзе
з алтайскае вальеры* –
праз Соўчын і Грыдзькі –
па быльніку надзей
няўвіднай сцежкай веры
да Бога напрасткі...

*9 ліпеня-9 жніўня 2017*

* * *

На Якуба Коласа пляцы
зажурыўся Кастусь Міцкевіч,
Столькі дзён-начэй тут сядзіць,
несціханы шум-гоман слухае –
хоць бы слова хто беларускае...

Але вось падышла жанчына
з перазвонам шкляным у торбах
і мармыча штосьці пад нос
на амаль зразумелай мове...

Ажывіўся ён і пытаецца:
– Падкажы, будзь ласка, кабета,
я яшчэ ў сваёй Беларусі
ці яна мо пайшла ўжо ўпрочкі?

---

* Змеінагорск у Алтайскім краі – месца высылкі бацькоў Марыі, польскіх асаднікаў, горад, дзе яна нарадзілася.

– Тута ты. І мавчав бы, выкапень...
Банаэфавец!.. Нам ат вас нікакое тары...

Пахіліў галаву засмучана, скамянеў
Канстанцін Міхайлавіч,
але з месца свайго не рушыў...

Божа, колькі ў яго цярплівасці?!

*Плошча Якуба Коласа-дзіцячы парк імя Горкага,*
*23 верасня 2017*

Адам Глобус



...смерці баяцца

ўсе без выключэння...

# Парыжскія казкі

## Залацістыя бэры

Франсуаза Лось нарадзілася і расла ў Лацінскім квартале, таму бабуля вадзіла яе, узяўшы за ручку, у сабор Сэн-Северын. Ён быў крыху бліжэй за Нотр-Дам. У бабулі, як і ва ўсіх старэнькіх людзей, балелі ногі, адпаведна, усё, што бліжэй, было для яе і найлепшым. У саборы бабуля шмат разоў казала маленькай Франсуазе, што Ён прыходзіць на дапамогу тым, хто можа забыцца на сябе, але ніколі не забудзецца на Яго. У свае тры-пяць-сем гадоў Франсуаза Лось уяўляла Яго як вялізную каменную скульптуру з сабора Сэн-Северын. А як яшчэ можна было ўявіць Яго?

Аднойчы бабуля купіла на вячэру тры бэры. Пакуль старая глядзела тэлевізар, Франсуаза гуляла з аднакласнікамі ў двары. Хлопчыкі паскардзіліся на голад, і добрая дзяўчынка вынесла ім бэры. Калі ўвечары бабуля спытала пра грушы, Франсуазу ахапіў сорам. Ад страху і сораму дзяўчынка

*Заканчэнне. Пачатак у №4 (89).*

папрасіла дапамогі ў Яго, у каменнага з сабора Сэн-Северын. І Ён дапамог. Пасярод стала на талерцы з’явіліся тры залацістыя бэры. Такіх смачных і салодкіх груш ні Франсуаза, ні яе бабуля ніколі не каштавалі. Дзяўчынка так уразілася дапамогай, што больш ніколі ні пра што ў Яго і не папрасіла.

### Чырвоны сшытак

У паспяховага выдаўца коміксаў Рамэна Рыся памёр бацька. Нарэшце Рамэн знайшоў нагоду сысці ў доўгатэрміновы запой. Выйсці не змог. Спрабаваў – і не атрымалася. Буяніў. Піў без продыху другі тыдзень. Страціў сон. Давялося паўзці да доктара і класціся пад кропельніцу. Доктар даў Рысю шмат заспакаяльнага. Мужчына праваліўся ў глыбокі сон і сасніў бацьку-нябожчыка.

Яны разам пайшлі ў бар, селі каля стойкі і пачалі піць тэкілу. Рамэн спрабаваў патлумачыць нябожчыку пра свой запой, які трэба скончыць, каб вярнуцца ў выдавецтва да коміксаў. Бацька паставіў умову: ён выведзе сына з запою, калі той паабяцае выдаць таемны дзённік, які бацька вёў усё жыццё ў чырвоным сшытку. Рамэн паабяцаў выдаць таемны дзённік і прачнуўся.

Тыдзень выдавец шукаў чырвоны сшытак, а калі знайшоў, дык неадкладна выдаў яго тыражом у тры асобнікі. У дзённіку было шмат таго, што людзі стараюцца не казаць і не запісваць. Выдадзеныя тры асобнікі і чырвоны сшытак выдавец Рысь паклаў у працоўны сейф да лепшых часоў. Рамэн, як і яго бацька, усё яшчэ верыць, што лепшыя часы абавязкова надыдуць.

### Сіні матылёк

Анатоль Жук перабраўся з Наваградка ў Парыж. Шлях той быў доўгі. На ім ляжаў шэры Мінск, блакітная Варшава і залатая Прага. У кожным з вялікіх гарадоў Жук сумленна папрацаваў прыбіральшчыкам. Хлопец любіў чысціню. Ён умеў яе наводзіць. Яго паважалі і хвалілі. У Парыжы хвалілі найбольш. Анатоль вылізваў парыжскія вуліцы да бляску.

Праблемы пачаліся ў жнівеньскую спёку. На Парыж насунулася такая гарачыня, што горад атрымаў сонечны ўдар. Ён страціў прытомнасць, засмеціўся і засмярдзеў. Прыбіральшчык Анатоль Жук вымаліў у неба навальніцу. Яна прыйшла і памыла Парыж.

Горад вярнуўся ў цвярозы розум. Толькі прыбіральшчык Жук страціў амаль усе свае жыццёвыя сілы на вымольванне жыццядайнай навальніцы. У час малітвы Анатоль пачаў змяншацца, ён зрабіўся зусім маленькім чалавечкам, які ператварыўся ў сіняга матылька. Той матылёк паляцеў у Наваградак, дзе і цяпер ціха жыве на Замкавай гары.

### Чорны парасон

Карлу Бабру давялося перабрацца з прасторнай кватэры ў маленькую студыю. Бацькоўскую пяціпакаёўку ён прадаў, каб разлічыцца з пазыкамі. Карл спадзяваўся, што год-два пажыве ў студыі на ўскрайку Парыжа, а потым вернецца на свае Елісейскія Палі. Бобр служыў у паліцыі. Працаваў самаахвярна. Зарабляў добра. Каб не бацькоўскія пазыкі, што перайшлі на яго, усё было б выдатна. Калі памерла маці, бацька напрыканцы жыцця захапіўся покерам і моцна прайграўся.

Карл, дзякуючы пераезду, выкараскаўся з фінансавай ямы і сутыкнуўся з чарговай бядой. Новая суседка – алкагалічка з вялікім стажам – піла дні напралёт. Яна піла і слухала радыё. Уключала яго на поўны гук. Сама спала, а радыё раўло на ўвесь дом. Бобр не ведаў, што рабіць з суседкай. Размовы, запалохванні і біццё не дапамаглі. Яны не дапамаглі, бо алкагалічка не памятала, хто і пра што з ёй гаварыў, сварыўся і дамаўляўся. Яна нават не запомніла, хто яе моцна пабіў.

Бабра ахапіў адчай. Ён глядзеў з акна сваёй студыі на вымыты дажджом чужы Парыж і плакаў. Праз слёзы Карл убачыў на вуліцы самога сябе. Другі Бобр шыбаваў па тратуары пад чорным парасонам. Мужчына дагнаў самога сябе, павітаўся і папрасіў дапамогі. Другога сябе ён завёў у бар і даў таму грошай на пачастункі. Пакуль другі Бобр піў і весяліўся з распуснымі дзявулямі ў бары, першы задушыў падушкай сваю суседку. Задушыў, выклікаў паліцыю і вярнуўся да другога Бабра, які зрабіў яму жалезнае алібі ў бары.

### Чорныя берэты

У ціхамірным гарадку Крутагор’е некалі жыла-была вядзьмарка Анжэла Лотаць. Пад паўночным халаднаватым месяцам лётала яна пад Заслаўе на Лысую гару. Сусед Ян Барсук высачыў вядзьмарку і паабяцаў расказаць ксяндзу пра яе палёты на шабаш, калі Анжэла яму не заплоціць. Лотаць паабяцала заплаціць Барсуку і нават кінула суседу нейкую грашовую драбязу, каб крыху памаўчаў. Пакуль дурань Ян маўчаў, Анжэла дабегла да ксяндза Апалона Качара і на споведзі шчыра і ярка расказала пра свае палёты пад месяцам і пра танцы з любошчамі на шабашах. Ксёндз так захапіўся апавяданнямі Анжэлы, што ўгаварыў вядзьмарку ўзяць яго ў палёт.

Анжэла і Апалон разам злёталі пад Заслаўе на шыкоўны шабаш, дзе атрымалі ад чорта чорныя берэты. Як толькі яны надзелі іх на галовы, дык праз імгненне апынуліся ў родным Крутагор’і. Вядзьмарка ўгаварыла ксяндза, каб яны разам прыдушылі шантажыста Барсука. Апалон спрабаваў адмовіцца, але Анжэла настойвала. Ксёндз і вядзьмарка схапілі шантажыста Яна за рукі, узнялі ажно пад воблака і кінулі з неба ў лясное балота. Барсук так глыбока праваліўся ў багну, што ніхто ніколі яго больш і не пабачыў.

Калі ў наступны раз пасля заканчэння шабашу на Лысай гары чорт даў Апалону чорны берэт, той вырашыў надзець яго і адразу зняць. Як толькі Качар сцягнуў з галавы берэт, дык апынуўся не ў родным Крутагор’і і не на знаёмай Лысай гары. Ён апынуўся ў Парыжы!

Вопраткі на Апалоне не было. Голы ксёндз стаяў каля парыжскага супермаркета «Monoprix». Добра, што грузчыкі ў гэтай краме былі добрымі людзьмі. Яны апранулі мужчыну, выслухалі і завялі ў найбліжэйшы касцёл. Там браты па веры доўга слухалі апавяданні і раскаянні Качара, а потым прынялі рашэнне выправіць яго назад у Крутагор’е. Каб там ён мужна змагаўся з вядзьмаркамі і вядзьмарствам.

Ксёндз прыехаў у родны гарадок і расказаў крутагорцам пра палёты Анжэлы Лотаць на Лысую гару, пра яе распусныя танцы з чортам і скокі на шабашах. Крутагорцы паверылі Апалону Качару і так зненавідзелі Анжэлу, што ёй давялося разабраць свой дамок і перавезці яго ажно ў Заслаўе. Цяпер яна не лётае на шабашы, а ходзіць на іх пешкі ці ездзіць на ровары. Анжэле цяпер і чароўны чорны берэт не патрэбны.

## Залаты ліст

Марыяна Собаль кожную восень ездзіла ў Булонскі лес збіраць букеты з кляновага лісця.

Выхавальніца дзіцячага садка навучыла маленькую Марыяну любавацца залатой восенню і збіраць букеты. Марыяна Собаль пражыла доўгае спакойнае жыццё кладаўшчыцы са шпалернай фабрыкі і штогод наведвалася ў лес па жывапісны букет. Чырвоныя і жоўтыя кляновыя лісты ставіліся ў рубінавую вазу і цэлы тыдзень упрыгожвалі кватэру спадарыні Собаль.

У Парыж прыйшоў чарговы верасень. Марыяна выправілася ў Булонскі лес і знайшла пад клёнам залаты ліст. Ён быў зроблены з самага сапраўднага чырвонага золата. Марыяна падняла з зямлі важкі металічны ліст і пачула ціхі голас:

– Дарагая спадарыня, гэта не ваш ліст. Я рабіў яго ў падарунак для сваёй каханай і выпадкова згубіў. Вы яго знайшлі... Ён вам страшэнна спадабаўся... Разумею! Але, можа, вы мне яго аддасце? За гэта я вам заплачу. Я магу добра заплаціць...

Марыяна азірнулася і пабачыла зусім маленькага барадатага Лесавіка. Ён павёў жанчыну ў падземны лабірынт, дзе абмяняў залаты ліст на пакунак з папяровым скарбам у мільён еўра. Марыяна спрабавала адмовіцца ад такой вялікай сумы, але шчодры Лесавік настаяў на сваім. Ён сказаў:

– Я шмат гадоў назіраю за вамі. Магу шчыра сказаць, што, на мой густ, у Марыяны Собаль самыя цудоўныя кляновыя букеты ва ўсім цяперашнім Парыжы. Раней найлепшыя букеты былі ў выхавальніцы з вашага дзіцячага садка, а цяперака яны штогод з’яўляюцца ў вашай кватэры.

## Шэры кот

Маладая і высокая Мацільда Рысік мела рэкламнае бюро «Парыж-Парыж». Яно спецыялізавалася на ўсхваленні ювелірных вырабаў парыжскіх майстроў. Справы ў Мацільды ішлі добра, але ёй падавалася, што яны пойдуць значна лепей, калі яна звядзе са свету сваіх канкурэнтаў з іншых рэкламных бюро. Асабліва ёй надакучыла канкурэнцыя з бюро «Каір-Каір». Канкурэнты нахабна перакупалі найлепшых дызайнераў з «Парыж-Парыж». Прапаноўвалі заробак, большы на сто еўра, і дызайнеры пераходзілі ў варожы лагер. Яны перабягалі і зносілі ўсе напрацоўкі, зробленыя ў «Парыж-Парыж». Можна нават сказаць, што дызайнеры-перабежчыкі абкрадалі Рысік.

Мацільда паскардзілася сваёй бабулі, расказала пра паскудствы, зробленыя канкурэнтамі з «Каір-Каір». Тая выслухала ўнучку і зрабіла ёй падарунак – шэрага ката. «За кропельку тваёй крыві з мезенца гэты кот выканае любое пажаданне. Загадаеш яму знішчыць «Каір-Каір», і ён зробіць гэта. Першую кроплю крыві з мезенца ты дасі шэраму кату не для выканання жадання, а для таго, каб ён пагадзіўся перайсці да цябе жыць...» Мацільда пракалола іголкай скуру на мезенцы левай рукі, выціснула вялікую кроплю цёмнай крыві і паказала яе шэраму кату. Той злізаў кроў і ўдзячна замуркаў.

Пару тыдняў Мацільда Рысік не магла сабрацца з духам, каб заказаць шэраму кату знішчэнне рэкламнага бюро «Каір-Каір». Яна нават хацела вярнуць жывёлу да бабулі, але чарговы перабежчык і чарговы крадзёж ідэй падштурхнулі Мацільду да жорсткіх дзеянняў. Яна прабіла мезенец

на правай руцэ. Кот злізаў чырвоную кроплю і атрымаў заданне знішчыць «Каір-Каір».

Праз тры дні ў памяшканні «Каір-Каір» выбухнула вялікая бомба. Выбух атрымаўся такі магутны, што загінулі ўсе як адзін супрацоўнікі рэкламнага бюро. Пасля таго здарэння справы ў «Парыж-Парыж» пайшлі значна лепей, бо ніхто з дызайнераў не ўцякаў да канкурэнтаў і не краў ідэі. Мацільда Рысік падаравала любімай бабулі вялікі букет зялёных гладыёлусаў, а старая нагадала ўнучцы, што ў той яшчэ ёсць два мезенцы на доўгіх і прыгожых нагах.

## Куфар з вядзьмаркай

У кватэру да настаўнікаў Салаўёў прыйшла вядзьмарка. Яна нейкі час сачыла за сям'ёй і падпільнавала, калі Марсэль пойдзе на працу ў ліцэй, а яго маладая жонка Разалінда застанецца ў кватэры адна. Вядзьмарка са старой і кульгавай ператварылася ў прывабную і свежую жанчыну са знешнасцю Разалінды. Сапраўдная Разалінда Салавей страціла мову, пабачыўшы на парозе другую сябе. Вядзьмарка ўзяла жанчыну за руку, завяла ў сутарэнні і там зачыніла ў цесным цёмным пакойчыку, поўным слоікаў з памідорамі ды гуркамі. Каб Разалінда не грукала і не крычала, вядзьмарка запалохала жанчыну: паабяцала прыйсці на шум і вырваць з яе ўсе вантробы.

Ведзьма разлічвала, што нейкі час пажыве з Марсэлем Салаўём як ягоная жонка і гаспадыня. Не атрымалася. Разалінда заўсёды добра пахла, яна пахла нядаўна скошаным сенам і бэзам, а вядзьмарка смярдзела, ад яе патыхала плесняй, гніллю і склепам. Адчуўшы смурод, Марсэль схапіў вядзьмарку і засунуў яе ў куфар. Тая прасіла, каб яе выпусцілі, і расказала, што сапраўдная Разалінда Салавей сядзіць у сутарэннях. Марсэль схадзіў туды і вызваліў перапалоханую жонку. Куфар з вядзьмаркай Салаўі прадалі праз інтэрнэт. Яго купіў заможны і шчодры вядзьмак, які ў вольны ад вядзьмарства час выкладаў ва ўніверсітэце гісторыю.

## Чорны хітон

Дыктар Бенжамен Смоўж не баяўся смерці. Разважаў ён проста: усе жывуць і ўсе паміраюць, лёс такі ў чалавека – пад*ы*хаць і сканаць. Што тут моцна перажываць, прыйдзе час – і трэба будзе спакойна выправіцца ў цішыню. Смоўж нават выхваляўся сваёй смеласцю. Так было, пакуль у начным клубе «Блакітная ружа» ён не пазнаёміўся з доктарам, які працаваў на пасадзе псіхолага ў хоспісе. Доктар сказаў Бенжамену, што смерці баяцца ўсе без выключэння. Баяцца вернікі і атэісты, веселуны і меланхолікі. Смоўж не паверыў псіхолагу. Спрачацца пачаў. Крычаў. Тады доктар запрасіў крыкуна дыктара ў свой хоспіс. Сказаў, што Смерць наведваецца да іх пад раніцу і яны якраз могуць яшчэ сёння яе напаткаць.

З-за сіняга святла начных лямпачак у хоспісе было гнятліва. Доктар пакінуў дыктара ў пустым калідоры, а сам схаваўся ў прыбіральні. Бенжамен прытуліўся спінаю да сцяны і заплюшчыў вочы, яму страшэнна захацелася спаць, але ў гэты момант па калідоры пацягнула халаднаватым водарам эфіру, а затым у калідор зайшоў велічэзны мужчына. У ім было росту метры са тры. Чорнавалосы, чорнабароды, у чорным хітоне, ён

схіліўся над Смаўжом і сказаў: «Не мой! Не сягоння! Бывай!» Бенжамен з'ехаў па сцяне на падлогу і сціснуўся ў клубок. Такім яго і знайшоў доктар. «Бачыў?» – спытаў псіхолаг. «Та-та-так...» – дыктар пачаў заікацца.

З перапуду Смоўж пачаў так моцна заікацца, што яму нават давялося пакінуць працу дыктара і пайсці працаваць на сваім жа радыё малодшым рэдактарам.

## Фатограф і вядзьмарка

Фатограф Анры Пугач працаваў у дзіцячым часопісе. Здымаў катоў і сабак, святы ў школах і садках, фатаграфаваў у цырку і ў заапарку. Менавіта ў заапарку яго і пабачыла вядзьмарка Вікторыя. Фатограф меў знешнасць малавыразную і малапрыкметную. Такога чалавека пабачыш, а праз хвіліну забудзеш. Іншая справа вядзьмарка, якая мела знешнаць кіназоркі і магла лёгка зачараваць любога з арабскіх прынцаў. Толькі зачараваць Пугача вядзьмарка Вікторыя не змагла. Анры вырашыў, што жанчыны падобнай знешнасці яму не падыходзяць, да таго ж і ростам яна была вышэйшая за фатографа на цэлую галаву. Вядзьмарка прапанавала Анры разам выпіць кавы, а ён спаслаўся на занятасць і адмовіўся. У спакушальніцы ажно дыханне перахапіла. Ёй ніхто ніколі не адмаўляў, а тут нейкі недаростак сказаў не.

Тады Вікторыя ператварылася ў какаду, якраз такога і збіраўся фатаграфаваць Пугач. Птушка села на плячо фатографа і сказала яму на вуха голасам вядзьмаркі: «Я магу прыняць аблічча любой істоты, што ёсць на зямлі. Я буду ператварацца ў тых, каго ты пажадаеш сфатаграфаваць у сваёй студыі. Толькі адразу скажу пра адну-адзінюткую ўмову. Калі ты некаму раскажаш пра нашы адносіны, я прападу з твайго жыцця назаўжды!»

Анры Пугач прыняў прапанову вядзьмаркі. Праз пару месяцаў ён стаў самым знакамітым фатографам у Парыжы, бо ніхто не мог так эфектна сфатаграфаваць ільвіцу ці жырафу, як гэта рабіў Анры. Ён здымаў анаконду і сланіху, зебру і антылопу гну, пантэру і ягуара... А якія птушкі з'явіліся на сайце ў Анры Пугача! А якія матылькі! Найлепшыя выставачныя пляцоўкі прапанавалі фатографу свае паслугі. Анры спакусіўся на прапановы і зрабіў вялікую выставу, якая яшчэ да адкрыцця мела шалёны поспех.

Пасля адкрыцця выставы Анры Пугач моцна напіўся. Вядзьмарка прасіла яго не піць з журналістамі, але фатограф напіўся і расказаў пра дзівосныя ператварэнні сваёй каханкі. Ён расказаў, а вядзьмарка прапала, як і папярэджвала.

Без чароўнай мадэлі творчасць фатографа паблякла. Ён зноў стаў звычайным супрацоўнікам дзіцячага часопіса. Калі ў Анры Пугача спытаць, ці шкадуе ён, што страціў вядзьмарку, ён вам шчыра скажа: «Не шкадую! Мы абое ведалі наперад, што наша каханне будзе кароткім!»

## Белая машына

Луі Бобік уладкаваўся начным ахоўнікам на сметнік пад Парыжам. Яму, як навічку, даручылі наглядаць за самым дальнім краем сметніка. У дашчаным будане можна было схавацца ад дажджу і ветру, але не ад холаду. Таму Луі развёў агонь у жалезнай бочцы. Глядзенне на языкі полымя заварожвае, а таму Бобік не адразу заўважыў, што каля бочкі, поўнай агню, з'явіўся доўгабароды гарбун. Луі хацеў прагнаць яго, але

гарбун сказаў, што заплоціць, каб крыху пагрэцца. Бобік хацеў адмовіцца ад платы, але змаўчаў. Вечная беднасць прывучыла яго браць, калі даюць.

У якасці платы за цяпло доўгабароды крывун прапанаваў Луі белую машыну цацачнага памеру. Гарбун яшчэ сказаў, што, калі паднесці цацку да вуснаў і падуць ёй на лабавое шкло, машына павялічыцца ў сорак адзін раз і стане сапраўдным аўто. Калі патрэба ў аўтамабіле знікне, можна падуць на руль – і белая машына зноў набудзе памер цацкі.

Бобік вырашыў не адкладаць праверку і ціхенька падзьмухаў на лабовое шкельца падарунка. Цацка за нейкія тры хвіліны павялічылася да памераў звычайнай машыны. Пасля таго, як узбуджаны ад шчасця Луі падзьмухаў на руль, машына пачала змяншацца і ўсе яе дэталі вярнуліся да цацачных памераў.

Раніцай Луі Бобік вырашыў прадаць белую машыну за вялікія грошы. Каб доўга не шукаць пакупнікоў, Луі прапанаваў чароўнае аўто гаспадарам сметніка. Тыя невыказна ўзрадаваліся. Яны нават заплацілі Бобіку невялічкі аванс за белую машыну.

Калі Луі прыйшоў на сметнік, каб атрымаць поўны разлік, новыя гаспадары белай машыны прыстрэлілі Бобіка. Цела беднага Луі закапалі на самым дальнім краі сметніка, а замест помніка паставілі над ім жалезную бочку, у якой новы ахоўнік у халодныя ночы пачаў разводзіць агонь.

## Вогненнакрылая хімера

Ліцэістка Мадлен Курка пачала худнець. Мадлен і ў малодшых класах не вызначалася паўнатою і ростам. Яна заўсёды была маленечкай і хударлявай, здыхлікам, а тут за адзін месяц вучобы ў шостым класе зблажэла так, што засталіся адно скура ды косткі. Гэта было ненармальна, бо кожную раніцу маці давала сваёй любай Мадлен сытную ссабойку з белым хлебам, вяндлінаю і свежым агурком. Да ссабойкі дадаваліся кішэнныя грошы на сок, какаву і гарбату, каб на вялікім перапынку дзяўчынка змагла перакусіць.

Маці занепакоілася і пачала сачыць за Мадлен. Жанчына пабачыла, як яе дзіця з ліцэя накіравалася на могілкі. Там, стоячы каля закінутага касцёла, Мадлен паклікала да сябе каменную хімеру. Тая зляцела з даху на зямлю і, уладкаваўшыся паміж крыжоў, няспешна з'ела бутэрброды з гурком і вяндлінай. Перад тым, як сысці з могілак, Мадлен напаіла сваю каменную сяброўку сокам манга.

У наступную раніцу, пакуль Мадлен сядзела ў ліцэі, яе маці схадзіла на могілкі. Яна паклікала хімеру так, нібыта збіралася яе пакарміць і пачаставаць сокам манга. Калі каменная пачвара ўладкавалася паміж крыжоў, жанчына выхапіла з сумкі вялізны малаток і разбіла галаву хімеры. На гэтым яе вандалізм не скончыўся: яна біла малатком пачвару так, што ад той засталася адно гурба дробна пакрышаных камянёў.

Калі Мадлен Курка прыйшла на могілкі і замест сваёй сяброўкі пабачыла друз, яна зарыдала. Маці слухала плач дачкі, хаваючыся ў напаўразбуранай капліцы. Жанчына спадзявалася, што, калі яе дачушка выплачацца, яна вернецца да звычайнага жыцця парыжскай ліцэісткі. Дзе там... Мадлен стала каленямі на шэры друз і папрасіла Ваду, Зямлю і Неба, каб яны зрабілі з яе вогненнакрылую хімеру. Неба, Зямля і Вада пачулі дзявочы плач, расчуліліся і ператварылі Мадлен Курку ў вогненнакрылую хімеру. Яна ўзляцела на касцёльны дах і там замацавалася назаўжды.

## Тры хвіліны

Аўтамеханік Клод Шашаль прысніў дзеда-нябожчыка. У наступную ноч да яго прыйшла маці-нябожчыца, а яшчэ праз ноч з'явіўся бацька-нябожчык, які запрасіў сына Клода паляжаць у труне. Аўтамеханік зразумеў, што дабром падобныя з'яўленні не скончацца, і падрыхтаваўся да найгоршага. І не памыліўся, бо раніцай да яго ў майстэрню заехала сама кашчавая Смерць на шыкоўным англійскім ровары. Шашаль не паспеў і рот раскрыць, як тая загадала яму напампаваць колы. Клод пайшоў па насос, а Смерць выйшла з цемнаватай і халоднай майстэрні ў заліты вясновым сонцам Парыж.

Шашаль напампаваў колы, ускочыў на ровар і куляй вылецеў з майстэрні. Клод ціснуў на педалі як толькі мог. Ровар набраў такую хуткасць, што адарваўся ад зямлі і ўзляцеў да аблокаў. Аўтамеханік ляцеў і ляцеў па небе, ажно пакуль сілы не пакінулі яго. Давялося спыніцца ды адпачыць на Месяцы.

Клод Шашаль спаў, лежачы на срэбным Месяцы, калі да яго падышла Смерць з маленечкай дзяўчынкай на руках. Смерць пабудзіла ўцекача і загадала завезці яе з дзяўчынкай-нябожчыцай на зорку Венеру. Клод выканаў загад. Там Смерць выдала Шашалю аднаразовыя крылы, на якіх ён і вярнуўся ў сваю парыжскую аўтарамонтную майстэрню. Самае дзіўнае ў гэтай гісторыі тое, што падарожжа на Месяц і Венеру ў аўтамеханіка Клода Шашаля заняло ўсяго нічога – тры зямныя хвіліны.

## Мёртвая мова

Старой Жанне Крот было пад шэсцьдзясят, калі яна адчула цяжарнасць. Жанчына і думаць не думала нараджаць, але цяжарнасць праляцела надзіва хутка. Ад зачацця ў выпадковым загуле з невядомым маладзёнам, якога жанчына падчапіла ў бары, да выхаду на свет хлопчыка прайшло роўна дзевяць дзён! Добра, што Крот здагадалася і не пасаромелася прыйсці ў радзільню. Праўда, цяжарная не паспела дайсці да радзільнай платы. Нарадзіла ў калідоры і памерла.

Хлопчык выжыў. За тры дні ён з немаўля ператварыўся ў дарослага чалавека. Дактары далі яму імя ў гонар маці – Жан. Малады Жан Крот з радзільні адразу пайшоў на могілкі. Каля іх ён знайшоў напаўразбураны дом, у якім жыла сям'я нябожчыкаў. Усе яны гаварылі на мёртвай мове. Першае сваё слова Жан Крот прамовіў у кампаніі нябожчыкаў. Ён прамовіў яго на мёртвай мове, і было тое слова «рок». Нябожчыкі вельмі ўзрадаваліся, калі пачулі слова на роднай мове. Яны дапамаглі Крату заснаваць уласнае бюро рытуальных паслуг, якое было названа «Добры шлях».

Безумоўна, гэта найлепшая пахавальная кантора ў Парыжы, але ёй мала хто карыстаецца, бо яна страшэнна дарагая, цэны ў ёй проста касмічныя. Жан Крот нікому ніколі не зрабіў скідкі. Не саступіў ні цэнта. Ён, можа, і саступіў бы, каб нехта з кліентаў звярнуўся да яго на мёртвай мове, але ніхто не звяртаўся. Крот не саступае нікому і ніколі, як тая смерць.

## Помнікі і вянкі

Анатоль Голуб рабіў помнікі, а яго жонка Маргарыта наладзіла вытворчасць жалобных вянкоў. Справы ў Галубоў ішлі добра, ажно пакуль помнікі, зробленыя Анатолем, не пачалі хутка псавацца. Маргарыта сказала мужу,

што помнікі рассыпаюцца з-за ягонай сястры-варажбіткі. Маўляў, яна не хацела, каб брат пераязджаў з Беларусі ў Францыю, таму варожыць у сваім Магілёве, а ў Парыжы разбураюцца каменныя помнікі.

Анатоль не паверыў жонцы, але выкарыстаў нагоду, каб наведацца ў родны Магілёў. Сястра-варажбітка зазірнула ў чароўны смартфон і паказала брату дзіўны ролік. У тым роліку Маргарыта здраджвала мужу, а потым разам з палюбоўнікам псавала помнікі на могілках.

Анатоль вярнуўся ў Парыж і падпільнаваў каля свайго новага помніка жонку-здрадніцу і яе паскуднага палюбоўніка. Голуб забіў абаіх молатам. А потым закапаў пад свой новы помнік. Каб ніхто не заўважыў вялікіх змен у справах Галубоў, сястра Анатоля перабралася з Магілёва ў Парыж і занялася вырабам жалобных вянкоў. Дарэчы, вянкі ў яе атрымліваліся значна лепшыя і прыгажэйшыя, чым у здрадніцы Маргарыты.

## Белы голуб

Неверагоднае здарэнне адбылося ў Парыжы. Там шмат розных дзіваў здаралася, але не з маімі знаёмымі. Тут самым непасрэдным удзельнікам гісторыі з цудоўным пераўтварэннем быў мой знаёмы Валер Крыловіч. З юнацтва ён марыў пра Парыж – горад мастакоў. Казаў: «Або я буду жыць у Парыжы, або павешуся!» Крыловіч не павесіўся, перабраўся ў сталіцу Францыі і пасяліўся на ціхай вулачцы. Валер нават на працу ўладкаваўся. Дапамагаў праводзіць заняткі ў дзіцячай студыі выяўленчага мастацтва. Калі казаць праўду, яго ўзялі прыбіраць майстэрню. Плацілі не шмат, але плацілі. Валер лічыў, што на першы час яму і гэткага заробку больш чым дастаткова. Вольны час Крыловіч праводзіў каля свайго невялічкага мальберта. Пісаў марскія краявіды, які добра прадаваліся.

Адзінай непрыемнасцю ў жыцці мастака Крыловіча былі сутычкі з двухметровым мурынам. Той дні напралёт сядзеў у бары і глядзеў праз вялікае вітрыннае акно на выхад з метро. Там ён і ўгледзеў Валера. Мастак не спадабаўся мурыну. Так не спадабаўся, што ён выйшаў з бара, дагнаў мастака і адлупіў.

Пасля першай сутычкі Крыловіч не пайшоў у паліцыю. Ён пайшоў туды пасля таго, як мурын пабіў яго другі раз. Паліцэйскія параілі Валеру не хадзіць каля бара, дзе сядзіць п’яны мурын. Крыловіч паслухаў паліцэйскіх, але мурын праявіў актыўнасць: ён высачыў мастака і пачаў падпільноўваць яго каля дому. Валер пачаў хадзіць па вуліцы з вялікім нажом у сумцы. Ён даў сабе слова, што калі п’янчуга палезе да яго з кулакамі, то напарацца на сталёвае лязо.

Пэўна, так і было б, каб гэтая гісторыя была пабытава-крымінальнай, а не казачнай. Дзеці, што хадзілі ў студыю выяўленчага мастацтва, неяк злавілі голуба. Яны накрышылі белай булкі на зямлю, над крошкамі паставілі скрыню і адзін яе край абаперлі на аловак, да якога прывязалі доўгую нітку. Белы голуб дзяўбаў булку і зайшоў пад скрыню. Дзеці тузанулі за нітку, аловак выскачыў з-пад скрыні – і птушка апынулася ў пастцы.

Валер Крыловіч забраў у дзяцей голуба, не даў ім зварыць з яго суп. Прыбіральшчык вызваліў і выпусціў птушку на волю. Голуб зрабіў у небе вялікае кола, вярнуўся і прапанаваў Крыловічу выканаць адно ягонае жаданне. Валер, не падумаўшы, папрасіў ператварыць баявітага мурына ў кавалак вугалю. Пазней Крыловіч страшэнна шкадаваў, што так неразумна

абышоўся са сваім шанцам. Мог бы стаць заможным і знакамітым, мог бы злётаць у космас і аб'ехаць увесь свет...

Бармен, які знайшоў на крэсле, дзе звычайна сядзеў мурын, кавалак вугалю, страшэнна абураўся: «Ну, добра, ты не заплаціў за выпіўку... Заўтра заплоціш! Але нашто вугаль у бар прыносіць? Нашто крэсла пэцкаць?» Кавалак вугалю раззлаваны бармен выкінуў на вуліцу, там яго знайшоў і падабраў Валер Крыловіч. Ён яго цяпер трымае ў майстэрні на палічцы з карцінамі, каб не забывацца пра змарнаваны шанц, які падарыў яму лёс, і не прапусціць шанц наступны.

## Скразнякі

Анатоль Пацук неяк адчуў моцны скразняк. Ён нацягнуў коўдру на галаву, але гэта не ўратоўвала. У пакоі стаяў такі холад, што не заснуць. Давялося ўставаць з ложка і бегчы да прачыненых дзвярэй. З-за іх у пакой дзьмуў такі моцны ледзяны вецер, што Анатоля пачала біць дрыготка. Ён наваліўся на дзверы ўсім целам, каб зачыніць. Тыя не зачыняліся. Пацук вырашыў адступіць, разагнацца і ўдарыць у дзверы плячом. Ад удару пакой задрыжаў так, што здалося – столь абваліцца. Не абвалілася, але Пацук прахапіўся са сну.

Ён ляжаў у халодным ложку. З прачыненых дзвярэй дзьмуў ледзяны скразняк. Пацук выслізнуў з-пад коўдры і пайшоў прычыняць дзверы. Яны зачыніліся на дзіва лёгка, але, як толькі Анатоль падышоў да ложка, дзверы зноў прачыніліся.

Ён зачыняў і зачыняў дзверы, ажно пакуль не замерз і не прачнуўся, седзячы на сваім ложку. Як толькі галава Анатоля Пацука дакранулася да падушкі, дзверы з рыпеннем адчыніліся – і пакутнік зразумеў, што ён не ў сваёй парыжскай студыі, а ў пекле.

## Шэратвары тапелец

Жнівеньская гарачыня насунулася на змучаны Парыж. Сонца пякло так, што, здавалася, не сёння, дык заўтра новазбудаваная вежа спадара Эйфеля абавязкова расплавіцца. Шмат хто з парыжан нават на поўным сур'ёзе ішоў у заклад і рабіў стаўкі на гэты конт. Часам нават дзіву даешся ад таго, у якое глупства можа паверыць адукаваны сталічны і выхаваны чалавек.

Гастон Чарот, Жуль Аер і Блез Мак у падобныя глупствы не верылі. У свае восем гадоў хлопцы лічылі сябе дарослымі і разумнымі. У іх хапіла розуму не паслухацца бацькоў і цішком выправіцца на Сену, каб пакупацца. Хлопцы гадзіну плюхаліся, плавалі і давалі нырца ў цёплай рачной вадзе, а калі выйшлі, дык зразумелі, што Блез прапаў. Гастон і Жуль дамовіліся не казаць бацькам пра паход на рэчку. Не хадзілі! Не купаліся! Нічога не ведаем! Нікога не бачылі. З такімі дамоўленасцямі хлопцы вярнуліся ў свой двор на пляцы Пігаль і разышліся па кватэрах.

Аер і Чарот нічога не сказалі ні сваім бацькам, ні бацькам Блеза. Іншая рэч паліцэйскія, майстры распытваць і дапытваць. Гастон і Жуль не проста расказалі праўду паліцэйскім, яны нават месца паказалі, дзе разам з Блезам давалі нырца ў Сене. Мужчыны на чаўнах тры дні праплавалі па рэчцы. Доўгімі баграмі абмацвалі дно і спрабавалі знайсці цела тапельца. Блеза Мака так і не знайшлі.

Яго бацькі верылі, што іх любімец Блез не патануў, а быў скрадзены цыганамі, а зараз вандруе па свеце разам з табарам. Бацькоўская вера раз-

веялася як дым, калі пасярод двара ля іх дома з’явіўся прывід Блеза. У яго быў такі шэры твар, што суседзі адразу назвалі яго шэратварым тапельцам. Гастон Чарот не пабаяўся прывіда і падбег да яго, каб павітацца. Шэратвары запрасіў Гастона прайсціся. Чарот паспрабаваў адмовіцца, але прывід паабяцаў паказаць яму дрэва, пад якім закапана вядро з залатымі манетамі. Шэратвары тапелец не падмануў былога сябрука і ў парку каля Луўра паказаў дрэва, пад якім і сапраўды адкапалі вядзерца, поўнае залатых манет.

Другі раз шэратвары тапелец запрасіў на прагулянку другога сябрука – Жуля Аера. Жуль выкапаў з-пад клёна на Елісейскіх Палях вялікую скарбонку з каштоўнымі камянямі. Больш шэратвары тапелец у свой двор на пляцы Пігаль не завітваў, ён пачаў з’яўляцца ў самых розных кутках Парыжа. Так што кожнаму можа пашанцаваць сустрэцца з шэратварым тапельцам і атрымаць ад яго сапраўдны каштоўны клад.

## Чырвоная запальнічка

Луіза Мятлік магла ператварацца ў што захоча. Каб стаць каменем ці кустом бэзу, ёй было дастаткова сказаць «Я – камень» ці «Я – куст бэзу». Дзяўчына не злоўжывала сваімі здольнасцямі. Ператваралася ў розныя рэчы толькі ў тых выпадках, калі жаданне рабілася неадольным. Аднойчы яна зрабілася белай аблачынай і яе ледзь не паглынула чорная навальнічная хмара. Самым надзвычайным жаданнем Луізы Мятлік была яе прага зрабіцца свежым паслянавальнічным паветрам. Дзяўчына баялася, што не зможа з паветра вярнуць сабе форму чалавечага цела. Але, паспрабаваўшы, вярнулася чыстай і абноўленай. Таму ніякай небяспекі ў сваім жаданні стаць звычайнай чырвонай запальнічкай Луіза не адчула.

Дзяўчына стала запальнічкай у краме. У гэты момант яе і прыдбаў цемнаскуры хлопец. Ён выйшаў з крамы і адразу ж на ганку выпаліў з чырвонай запальнічкі ўвесь бензін. Гэта была навагодняя ноч, і хлопцу заманулася пастаяць на марозным паветры пад зорным небам з агеньчыкам у высока ўзнятай руцэ. Ён так і прастаяў. Выпаленую да рэшты чырвоную запальнічку рамантык выкінуў у снег. Луіза Мятлік спрабавала вярнуць сабе аблічча дзяўчыны, але не змагла: сілы яе скончыліся назаўжды.

## Каралеўства прывідаў

Жан-Жак Арол з дзяцінства бачыў прывідаў. Яны з’яўляліся, здзіўлялі хлопчыка і знікалі. Ён спрабаваў расказаць дарослым пра ўбачанае дзіва, але тыя толькі пасмейваліся і насміхаліся з яго. Жан-Жак дакладна апісваў прывіды ўбачаных людзей, катоў і сабак.

Аднаго разу ён нават бачыў чырвонага пеўня. Зазвычай прывіды былі белыя або чорныя, а чырвоны сустрэўся ўпершыню. Бацькі не захацелі слухаць апавяданне Жан-Жака пра прывід чырвонай птушкі, які прагульваўся па Каралеўскім мосце. Больш за тое, яны паабяцалі завесці свайго сына да псіхолага, калі ён яшчэ хоць раз пачне расказваць пра прывідаў.

Хлопчык не стаў спакушаць лёс. Ён бачыў прывідаў, але больш нікому пра іх не казаў. Самае дзівоснае было тое, што яны вельмі хутка рухаліся. Так хутка, што праз гэта іх ніхто і не заўважаў. У Жан-Жака было сапраўднае чортава вока, якое магло бачыць нават прывідаў. Ён іх заўважаў усё жыццё і любаваўся іх хуткімі рухамі. А потым прывіды пачалі рухацца павольна, зусім як звычайныя людзі і жывёлы. Жан-Жак Арол не адразу заўважыў, як перайшоў у каралеўства прывідаў, а калі заўважыў, дык парадаваўся.

Анатоль Брусевіч



...Мае верныя вершы,
Як анёлы-ахоўнікі
Паміж злом і дабром
Сцерагуць мой сусвет...

# Апошні паэт

* * *

Вяртаюся з лістападу
Слядамі мёртвай вясны
У горад, сонцам пракляты,
Што спіць на лязе слязы.

Вяртаюся, каб пастукаць
У шыбы праведных слоў,
Якімі спавіты вусны
І вочы блудных сяброў.

Вяртаюся, каб убачыць,
Як здзейсніцца неба суд
Над рэхам ціхага плачу
Дажджу і смехам пяску.

Адно баюся, што здрадай
Сады забеляць сляды
Вясны, каб я з лістападу
Не змог вярнуцца сюды...

* * *

Сыходзяць сябры –
Хто ў быт, хто ў нябыт.
Адзін толькі я
Не крочу туды,
Бо пуста ўнутры
Ад шчасця і крыўд.
А ночы змяя
Паўзе да вады –
Нап’ецца, і свiт
Абвесцяць званы.
Прачнуцца сябры,
Каб кінуць мяне
У быт і нябыт,
У яву і сны,
У моўкнасць і крык,
Што камнем на дне...

* * *

Дзе ты, светлы, наіўны хлопчык,
Той, што верыў: зменіцца свет?!
У люстэрку іншыя вочы,
А ад веры прастыў і след.

Бедны хлопчык, ты спіш, спавіты
Сном атрутным, часу смугой.
Пасля вашай са светам бітвы
Свет застаўся самім сабой.

Толькі часам бывае ноччу,
Калі свету прыціхне звон,
У душы зварухнецца хлопчык
І гаворыць вершы праз сон.

* * *

Страшны свет. І не зменіш ні трасцы.
Застаецца адно – зачыніцца
Ад калгаснага змроку сталіцы,
Ад сталічнага бляску калгасаў,

Ад званоў златаглавай хімеры,
Ад хіджабаў свабоднай Еўропы,
Ад утопій і антыутопій,
І ад іншай усякай халеры.

Страшны свет. Зачынюся ў Гародні
На замкі ўсіх касцёлаў і замкаў,
А на вокны павешу фіранкі,
Вышываныя позіркам поўні.

І не буду глядзець ні на захад,
Ні на ўсход, толькі ў неба начное,
Дзе душы маёй стомлены човен
Праплывае над плахамі дахаў.

Праплывае, каб зьнікнуць нарэшце
У вірах непрыдуманых фобій,
Каб на дне непрытомнай жалобы
Край прысніць па-за кратамі вершаў.

## *РАЗМОВА*

– Ойча, за што мне гэта –
Плыць насустрач сумленню
Хвалямі чорных кветак,
Плёсам бялёсых ценяў?

Ойча, за што мне гэта –
Плыць на скалы і рыфы,
Свет замыкаць у гета
Светлых словаў і рыфмаў?

Ойча, за што мне гэта –
Піць цыкуту маўчання?
– Сыне, дай цыгарэту,
Кінь дурныя пытанні.

* * *

Мае верныя вершы,
Як анёлы-ахоўнікі
Паміж злом і дабром
Сцерагуць мой сусвет
Ад халодных усмешак
Срэбралюбных іконнікаў,
Ад цукровых сяброў
І слязлівых кабет.

Знаю, час праглыне
І апошніх, і першых,
І самоту, і смех,
І сяброў, і кабет.
Не пакіньце ж мяне,
Мае верныя вершы,
Калі сонца ў расе
Не пакіне свой след!

* * *

Восень – туга даматканая,
Бераг нязбытных трывог.
Разам з лістотаю п'янаю
Гніць мне на ўскрайку дарог.

Бо ні самоты, ні памяці
Не засталося ўва мне.
Добра, паспеў хоць пакаяцца,
Перш чым спачыць на дне.

Восень, туга мая шэрая,
Вырай для зграі варон.
Золата цэрквы ашчэрылі
Зрэбным Дзядам наўздагон...

* * *

Не хацелася быць адзінокім,
Але толькі былыя грахі
Не стамляюцца – слухаюць крокі
Адзіноты і нішчаць шляхі,
Што вядуць ад хвілёвага шчасця

У пустэльню нямога кіно.
І няма больш Святога Прычасця –
Толькі звыклыя хлеб і віно.
І няма ні святла, а ні свету.
Усміхаецца змрочны Хаос
Адзіноце, наіўным паэтам
І грахам, набрынялым ад слёз.

* * *

Камяністай пустэльняй трывогі
Адыходзяць апошнія дні.
Што ж, бывайце, шчаслівай дарогі!
Не параньцеся аб камяні.

А калі і параніць хто ногі,
Не вяртайцеся – не прыму.
З камяністай пустэльні трывогі
Я чакаю ночы сурму.

* * *

Крычаць вароны крыкам чорным –
Заблыталіся ў нечых снах.
Іх крык над мёртваю Гародняй
Плыве, як пахавальны сцяг.

Ну што ж, бывай, мой любы горад,
Мая свабода, мой палон.
Да дна я выпіў мёд твой горкі
Пад песню чорную варон.

### *СОН ПРА АНАТОЛЯ СЫСА*

Сніўся Паэт – у вачах адчай,
Але са смакам корсткім спакою
Мне кажа: “Толічак, выбачай
За вершы, якія цяпер з табою.

Не праганяй іх, а прытулі,
Так, як цябе туліла матуля,
Бо без любові мы ўсе – нулі,
І верш памрэ, калі беспрытульны.

Бо не бывае вершаў чужых,
Як і дзяцей чужых не бывае.
Не пакідай жа, Толічак, іх –
Без вершаў няма ні краю, ні раю...”

* * *

Я – апошні паэт, спадкаемца маўклівых прарокаў,
Чые словы-шляхі зараслі пустазвоннай травой,
А сляды патанулі ў глыбокіх, як гурбы, аблоках,
Сярод матчыных песняў, спяваных на мове чужой.

Я не бачу слядоў, але чую іх пульс пад нагамі.
Я іду ў цішыню, дзе Радзіма пакуль што жыве,
Я адзін, бо астатнім хацелася стацца багамі,
І будуюць бажніцы яны ў пустазвоннай траве.

Хай будуюць, блішчаць і крычаць пра надзею і веру,
Пра каханне, свабоду, самоту, аблом і надлом.
Я адзін адыходжу – за мной зачыняюцца дзверы.
Больш паэтаў не будзе, і я выключаю святло.

Людміла Рублеўская



...сумленне
вартае тысячы сведкаў...

# Пантофля Мнемазіны

***Раман***

## Раздзел восьмы. СЦЕНЫ ІЕРЫХОНА

Сайт "Пад знакам Урабораса".
Назва фанфіка: Ордэн захавальнікаў.
Фандом: арыджынал.
Жанр: агнст.
Памер: максі.
Статус: у працэсе.
Рэйтынг: NC-17.
Катэгорыя: гет.
Аўтар: Grjaznyj ubljudok.
Бета: Kobaabba.
Папярэджанні: асабліва жорсткія сцэны.
Анатацыя: Ты думаў, што ты на дне, але нехта пастукаўся знізу.

### *Раздзел пяты*

*Заканчэнне. Пачатак у №4 (89).*

Каментары. *DoktorHaus*: Памылка аўтара – занадта шмат персанажаў на пляцоўцы аднаго раздзела. Немагчы-

ма запомніць і выпісаць. Мы так і не пабачылі ксяндза, рабіна і папа, якія ратуюцца ў лепразорыі ад савецкага таталітарнага рэжыму. А дзе адзіны пракажоны? Як аўтар выблытаецца? Пазабівае ўсіх?

*Racional*: А мне не зразумелая роля магрэткі, пафасна аўтарам перайменаванай у чырвонага дракона. Занадта лабаво, калі вуаля – і гэта і ёсць той недастатковы інгрэдыент для лекаў, што вынаходзіў Корвус з калегамі.

*Тор Магутны*: Прыемна бачыць, што аўтар улічвае каменты. Сітуацыя з галеннем лагічна апраўдалася. Але сеанс псіхатэрапіі са збіццём доктара – наіў. Каб так посттраўматычны сіндром вылечваўся, псіхатэрапеўты былі б усе шматкроць згвалтаваныя і збітыя.

*Fljor Delakur*: здаецца, люцыян корвус усё-ткі падобны да снэйпа! grjaznyj ubljudok, рэспект!!!

*Проста Локі*: Распаўсюджаная памылка: падзеі бачацца спачатку вачыма аднаго персанажу, потым – другога, потым – самога наратара. Калі ўсё ўспрымалася праз забаўнага персанажа, недалёкага Ромку Цвічка, было цікава. Потым аўтар збіўся.

*Тор Магутны*: А вось тут не пагаджуся. Гэта таксама можа быць аўтарскім прыёмам. Адразу ацэньвае падзеі адзін персанаж, пасля – другі. Аўтар, пешы ісчо!

*Трандуіл*: хня фанф не панімаю што за пляскі вакол такой хні адмін выдалі фанф Grjaznyj ubljudok

*Тор Магутны*: Адмін, выдалі адсюль усіх Трандуілаў. Хай трандуіляць пра серыял “Абшчага”.

*Fljor Delakur*: Аўтар, не слухай!!! Твой арыджынал проста жэсць!!!!! Хутчэй пішы рэйтынгавую гетную сцэну!!!!!!!!

З плаката паглядаў белазубы калгаснік у заліхвацкай кяпурцы. За ягонай спінай бачыўся прыгожы дом, поле з раўнюткімі баразнамі і бярозкамі, якія, здавалася, таксама бадзёра ўсміхаюцца ўсімі чорнымі плямінамі на кары. “Таварышы калгаснікі і калгасніцы перасяляюцца ў КФССР”.

Пад плакатам, на адмысловай драўлянай падстаўцы, красаваліся брашуры “Памятка перасяленцу ў КФССР” і “Рэспубліка зямнога золата”.

Бібліятэкар, блакітнавокі стары з сівымі пасмамі, у якіх яшчэ трохі ўгадваўся руды колер, і вечнай іранічнай усмешкай на сіняватых тонкіх вуснах, заўважыў позірк наведніка, што сядзеў па той бок стала, і коратка патлумачыў:

– Для правяраючых. Трэба ж быць палітычна граматнымі і ў лепразорыі.

– М-да... Палітычна граматныя пракажоныя – гэта правільна, – нейтральным тонам азваўся хударлявы мужчына гадоў сарака з перабітым носам і вельмі светлымі, трохі запалымі вачыма. Трохі прамарудзіў, быццам чагось баючыся, і акуратна разгарнуў фаліянт у чорнай скуранОЙ вокладцы, што ляжаў перад ім на стале, там, дзе бялела закладка – звычайная бібліятэчная картка.

– Беларусаў заўсёды перасяляюць, Саламон Барысавіч. У часы Аляксея Цішайшага колькі вывезлі рамеснікаў – у Маскву, у Пскоў, у Каломну. Пасля ўціхамірвання кожнага паўстання – вёскамі адпраўляліся ў Сібір. Пры Сталыпіне ў Прыбайкалле паўмільёна, мусіць, перасялілі. У часы першай сусветнай сотні тысяч беларусаў – у бежанстве. А цяпер, калі і так фашысты нас павыбілі, – заманьваюць у Карэла-Фінскую Рэспубліку, у Казахстан, у Краснаярскі край, на Сахалін...

– Не трэба засяроджвацца на бедах толькі свайго народа, – мякка заўважыў бібліятэкар. – Што тады казаць пра блуканні майго, якія доўжацца тысячагоддзі? А зараз лінія такая... – стары стоена ўздыхнуў. – Змешваць нацыі, як нашаткаваную гародніну, каб атрымалася аднародная поліўка. Асабліва гэта тычыцца народаў памежжа – украінцаў, беларусаў, прыбалтаў... Літоўцаў дасюль чыгуначнымі саставамі вывозяць. А з другіх краёў, наадварот, завозяць. Наш партызанскі камандзір вунь па разнарадцы ў Кагул паехаў з сям'ёй. Увесь свет мусіць стаць сацыялістычным Бабілёнам. Памятаеце, таварыш Люцыян, фільм "Шукальнікі шчасця", пра габрэйскі калгас у Бірабіджане?

– Ну як жа ж... Мае вучні цытатамі з гэтага фільма на ўроках перакідваліся, – усміхнуўся Люцыян, і ягоны строгі бледны твар пасвятлеў. – Асабліва Піню любілі, адмоўнага гэтага героя, які хоча фабрыку падцяжак адчыніць. "Скажыце, калі ласка, колькі, прыблізна, канечне, можа каштаваць такі параход?"

Мужчына са знешнасцю інквізітара смешна змяніў голас, пераймаючы коміка.

– А Піню, дакладней, артыста Веніяміна Зускіна, арыштавалі, – бібліятэкар перайшоў на шэпт, нібыта калгаснік з плаката мог падслухаць і данесці. – І аўтар сцэнарыя Кобец знік, а пра Міхоэлса, кансультанта фільма, чулі, мабыць...

– Пад грузавік трапіў у Мінску? – нахмурыўся Люцыян, а калгаснік на фоне шчаслівага карэла-фінскага жыцця нібыта павярнуўся правым вухам да крамольнай размовы.

– Пад грузавік... – шэптам пацвердзіў бібліятэкар. – Той жа, што многіх пераехаў... – і загаварыў гучна. – Ну, няма нічога новага пад сонцам, і мудрасць ранейшых вякоў нікога не ратуе. І гора таму, хто адсякае свае карані, бо завяне.

– Значыць, карані... – субяседнік задумліва крануў пальцам шурпатыя старонкі кнігі, што ляжала перад ім. – Дык вы ўпэўненыя, Саламон Барысавіч, што ўладальнікі маёнтка – мае сваякі?

– Ды змірыцеся ўжо з гэтым абуральным для савецкага ўрача фактам, таварыш Корвус! – іранічна азваўся бібліятэкар. – Я не збіраюся гэтымі звесткамі размахваць, як вяхоткай. Але – вось радавод Корвусаў-Дзякловічаў...

Жоўты палец старога вадзіў па старонцы.

– Ваш дзед – Канстанцін? Вось ён запісаны... Штабс-капітан, жанаты на Адэліне з Марашэўскіх. Вось ваш бацька, Станіслаў Канстанцінавіч Корвус-Дзякловіч, 1880 года нараджэння. Пад ім мусілі занатаваць ваша імя.

– Як спадчынніка лепразорыя?

Люцыян скептычна пакрывіў вусны.

– Бацька не хаваў дваранскага паходжання. Але і не даражыў ім. З сям'ёй ніякай сувязі не меў і нічога пра яе не расказваў. Сышоў з дому ў шаснаццаць, далучыўся да народніцкага гуртка. Так і займаліся з маці хаджэннем у народ... Медінстытут, эпідэміі халеры, пасада сельскага доктара... І назвалі мяне Люцыян – святло, а значыць, асветніцтва. Але мяне цікавіць у архівах продкаў іншае...

– Сакрэт вечнага жыцця?

Бібліятэкар з дакорлівым уздыхам павярнуўся да этажэркі, заваленай старадрукамі, пацягнуўся за кнігай. Мыліцы, прыстаўленыя да ягонага фатэля, ледзь не паваліліся на падлогу, іх падтрымаў доктар Корвус.

– Вось інвентар батанічнага саду вашага прадзеда. Якія расліны, калі і адкуль выпісаныя... Вось дзённік Жыгімонта Корвуса. Толькі вы яго не прачытаеце.

– Чаму?

Доктар Люцыян разгублена гартаў старонкі сшытка ў зялёнай скуранoй вокладцы, спісаныя дробным почыркам.

– Нічога не разумею... На якой гэта мове?

– Ні на якой.

Стары ўсміхаўся, але не насмешнічаў.

– Гэта неіснуючая мова. Паверце, я маю дастатковую лінгвістычную адукацыю, каб гэта сцвярджаць. Я вывучаў не толькі Тору і Талмуд. Я ўвогуле прафесійны лінгвіст, закончыў два ўніверсітэты, выкладаў.

– Але мне казалі, вы рабін... – падняў вочы доктар.

– Проста калі мяне ў трыццаць сёмым у якасці асколка буржуазнай адукацыі "із'ялі" з Харкаўскага ўніверсітэта і я вярнуўся ў наша мястэчка, да мяне пачалі прыходзіць людзі па парады. Больш, відаць, не было да каго. Я звычайны грэшнік.

У голасе старога не чулася горычы.

– А што тычыцца рукапісу, не дзівіцеся. У васямнаццатым стагоддзі вельмі захапляліся living рознымі шыфрамі. А што вы спадзеяцеся знайсці?

– Сакрэт лекаў, якімі дапамагалі здымаць боль парадзіхам, – упарта нахмурыўся доктар. – Звесткі, як ужывала траву "чырвоны дракон" жонка Жыгімонта Корвуса пані Люцында. Усё, што дапаможа ратаваць людзей.

– Homines Quod volunt credunt... (Людзі вераць у тое, у што жадаюць – *лац.*) Ратаваць людзей трэба не лекамі, малады чалавек, – стары крануў скурчанымі пальцамі сшытак. – Вечна адцягваць смерць? Навошта? Калі пагналі немцаў і я нарэшце выпаўз на свет Божы з падвала, дзе мяне хавалі, даведаўся, што, акрамя мяне, у мястэчку не засталося габрэяў. Усіх закапалі ў яры. Каго прыстрэлілі, каго і... жыўцом. Як вылечыць – такое?

Корвус апусціў галаву.

– Мы можам мала. Але ўсё-ткі – каб хоць трохі ў свеце стала менш болю, варта працаваць.

У пакоі, прапахлым вечнасцю і пакутай, запанавала маўчанне.

– Добра, малады чалавек. Мне ўсё адно асабліва няма чым заняцца – нават усё ваша майстэрства не верне маім нагам былую рухавасць... Я займуся гэтым рукапісам. Некалі ж клінапіс разбіраў...

Над Апошнім Прытулкам ззяла сляпучае летняе сонца, але лета ўжо адолела сваю вяршыню, за якой пачынаўся непазбежны шлях уніз, да звядання, змярзання і буцвення.

А потым прыйшла ноч, абвешаная такімі буйнымі зорамі, што яны здаваліся падробнымі дыяментамі на даме паўсвету, якая збіраецца ў госці да фанабэрыстых знаёмых.

І зноў лілася кроў... Але ў ёй былі выкупленне і надзея.

Да двух стамлёных людзей у белых халатах, што стаялі на асветленым самотным ліхтаром бетонным ганку, наблізіўся малады чалавек у светлай кашулі, зашпіленай пад горла, з цёмнай палоскай барады на бледным разумным твары.

– Я чую крыкі немаўлятаў... Усё прайшло добра?

Прыгожая жанчына з укладзенымі каронай валасамі азірнулася на

асветленае вакно, за якім таненькія, але такія моцныя і патрабавальныя галасы зліваліся ў спрадвечнай песні жыцця.

– Так, Ганна нарадзіла... Двойню.

Голас жанчыны прагучаў няўпэўнена, праз паўзу.

– Я магу туды зайсці? – настойліва спытаў малады чалавек, і зоры за ягонымі плячыма раптам бліснулі, як сапраўдныя дыяменты.

– Вядома, не! – кабета ў белым халаце строга падціснула вусны. – Роды былі вельмі цяжкія. Давялося рабіць кесарава. І дзеці... не вельмі ў добрым стане.

– Тым больш!

Малады чалавек падняўся на адну прыступку.

– Яўгенія Міхайлаўна, я ведаю, вы выхаваныя ў непрыняцці рэлігіі. Але вы добры чалавек і разумееце, што нельга пазбаўляць чалавека таго, у што ён верыць. Ганна прасіла мяне ахрысціць дзяцей. Тым больш калі ёсць пагроза іх жыццю – нельга адкладаць...

Мужчына ў белым халаце, што стаяў ля загадчыцы, адмоўна пахітаў галавой:

– Дзяцей аглядае наш калега, знакаміты хірург. Яму нельга перашкаджаць.

– Я пачакаю.

У бледным твары маладзёна было столькі ўпартасці, што стала зразумела – не адступіцца. Доктар уздыхнуў, кінуў запытальны позірк на жанчыну.

– У дзяцей паталогія. Непадрыхтаванага гэта... спалохае.

– Мяне не палохае звыродства цела! – рашуча прамовіў маладзён. – Звыродствы душы куды страшней.

– Серафім Мікалаевіч, я... не маю права... У нас савецкая ўстанова. Калі даведаюцца, што з майго ведама тут адбыўся абрад хрышчэння – гэта катастрофа, – глуха прагаварыла жанчына, але яе перарваў калега.

– Мы пра гэта і не будзем ведаць, – азірнуўся на вакно, за якім галасілі немаўляты. – Мы з Яўгеніяй Міхайлаўнай пойдзем адпачываць. І калі хтось самавольна, дачакаўшыся, пакуль медперсанал пакіне палату, зойдзе адведаць дзяцей... Вядома, у халаце, які я выпадкова пакінуў...

Корвус нетаропка зняў халат і павесіў на ручку дзвярэй.

– ...і скарыстаўшыся тым, што я забыўся зачыніць чорны ход на ключ...

– Дзякую, Люцыян Станіслававіч, беражы вас Гасподзь.

Магістр і ягоная былая вучаніца павольна брылі па цёмных прысадах. У густых шатах час ад часу штось шаргатала, нібыта нейкая істота сачыла за людзьмі, пераскокваючы з галінкі на галінку.

– Мне страшна, бо я не ведаю, ці радавацца, што няшчасныя дзеці засталіся жывыя, – глуха прамовіла Яўгенія. – Якое жыццё іх чакае? І іх бедную маці?

– Жыццё – дарунак, які нельга вяртаць, – цвёрда прагаварыў Магістр. – Упэўнены, што дзяўчынкам дастанецца свая доля любові.

– Але раздзяліць іх немагчыма... – сцвердзіла-спытала Яўгенія.

– Немагчыма, – пацвердзіў Люцыян. – Нават прафесар Візенталь не бярэцца. Без рэнтгену цяжка сказаць, але, падобна, некаторыя важныя ўнутраныя органы ў іх адны на дваіх.

Жанчына пацепнула плячыма.

– Як паказаць дзяцей іх і без таго запалоханай маці? Яна ж сябе абвінаваціць... Не ўберагла... Пакаранне звыш...

– Давайце падумаем пра гэта заўтра... А пакуль што паглядзім на зоры, – нечакана дадаў Корвус. Яўгенія неўразумела азірнулася. Былы настаўнік задраў галаву, прывіднае нябёснае святло залівала ягоны твар, падкрэсліваючы рэзкія цені.

– Памятаеце, Яўгенія, як пасля таго, як мы знайшлі бразготку пракажонага ў раскопе і я спыніў даследаванні, Ордэн захавальнікаў сядзеў ля вогнішча. І мы да раніцы глядзелі на неба і гаварылі пра сузор'і...

Загадчыца шпіталя скептычна хмыкнула, але таксама падняла вочы... Якія ж сёння зоры! І чаму яны так нялітасціва скаліся да тых, хто пад імі гадзіну таму нарадзіўся!

Мусіць, апошнюю горкую фразу доктарка вымавіла ўслых, таму што задуменны Магістр, што стаяў за яе спінай, не адрываючы светлых вачэй ад неба, суцяшальна паклаў рукі на плечы жанчыны.

– Жабраку болей шчасця ад адной мядзянай манеты, чым багацею ад тысячы залатых. Будзе шчасце і ў нашых дзяўчынак.

Двое з Апошняга Прытулку моўчкі стаялі і глядзелі на зоры, не падазраючы, што некаторыя з тых зор даўно памерлі, мала што іх святло ляціць да зямлі.

– Люцыян Станіслававіч, вы зараз дакранаецеся да мяне... у тым самым сэнсе? – раптам весела прашаптала Яўгенія. Корвус адскочыў, быццам ягоныя рукі абдало кіпнем, і спалохана замармытаў, не падымаючы вачэй:

– Прабачце, я... я не хацеў... я проста...

Сухія галінкі трашчалі пад ягонымі чаравікамі.

– Вы, дапусцім, проста хацелі праверыць, ці не падаю я па-ранейшаму ў шоку ад вашага дакранання? Як бачыце, не. Ваша лячэнне дапамагло.

Люцыян адступіў на крок, пазбягаючы глядзець на танклявую постаць у зорным святле.

– Паверце, я проста механічна... Мімаволі...

– Можа, час і вам, Магістр, пазбаўляцца сваіх фобій?

Жэнька раптам зрабіла крок да суразмоўцы, і той з цяжкасцю змусіў сябе застацца на месцы, толькі тузануўся назад.

– Вы мяне дражніце, так?

Голас мужчыны гучаў бы пагрозна, каб не быў разгублены.

– А вас вельмі весела дражніць!

Жанчына раптам кранула шчаку былога настаўніка, лёгка правяла тонкімі пальцамі па ўпартым падбароддзі.

– Вось бачыце... Я сябе пераадолела.

– Рады за вас, – суха прамовіў, як выплюнуў словы, Магістр, развярнуўся і хуткім крокам рушыў у цемру.

– Ды стойце ж вы, рыцар з апушчаным забралам! – са смехам прамовіла Жэнька і подбегам рушыла следам. – Я не буду вас чапаць!

Начную цішу парушыў стрэл. І яшчэ адзін... Потым – аўтаматная чарга... Злыя выкрыкі. Надрыўны сабачы брэх – вартавыя сабакі ў Прытулку меліся, але не аўчаркі. Не любілі насельнікі гэтага месца аўчарак.

– Ля брамы страляюць... – напружана прамовіў застылы Магістр. – Яўгенія, бяжыце ў адміністратыўны корпус! Я пагляджу...

І кінуўся туды, дзе чуліся стрэлы і крыкі.

– Ага, зараз, пайду і пад ложак схаваюся! – скрозь зубы працадзіла загадчыца, даганяючы калегу. – Куды цябе нячыстая сіла пагнала, ты ж тут нелегальна! Люцыян, чакайце!

...У адчыненую браму шпіталя павольна, перавальваючыся на рэльсах для жалезных створак варот, заязджаў грузавік. Ягоныя сляпучыя фары нагадвалі вочы бязлітаснага цмока. Штрафбатаўцы-ахоўнікі, зноў у марлевых павязках і белых застрашлівых камбінезонах-халатах, перагаворваліся з прыезджымі – узброенымі вінтоўкамі, у пілотках, гімнасцёрках з трохкутнымі нашыўкамі на каўнярах і ў звычайных нагавіцах і чаравіках, хто ў якіх. Падобна, апалчэнцы з аднаго са знішчальных батальёнаў, што створаныя пад ачолам Берыі. Большасць зусім маладыя, не паспелі ў вайну паваяваць, і цяпер ірваліся ў бой. Адзін, старэйшы, быў у фуражцы, з рэвальверам на баку. Ён няспешна хаваў у тэчку дакументы, якія, відаць, былі дастаткова пераканаўчымі, каб атрад пусцілі ў Прытулак. Апалчэнцы насцярожана азіраліся па баках, асабліва часта спыняючыся позіркам на асветленай шыльдзе “Спецбальніца. Асцярожна, інфекцыя! Уваход строга забаронены”.

– Я загадчыца шпіталя. Што тут адбываецца? Хто страляў?

Яўгенія рашуча выйшла наперад, узмахам рукі змусіўшы Корвуса застацца ў цені.

– Ястрабкі, Яўгенія Міхайлаўна... – змрочна прагаварыў праз марлевую павязку ахоўнік. – З праверкай... Непадалёк напаткалі банду, дваіх застрэлілі... Ляжаць вунь жмурыкі ў грузавіку.

– Лейтэнант НКУС Нашчадны! – назваўся афіцэр. Ліхтар выхопліваў рысы: квадратнае падбароддзе, невыразныя вочы з прыпухлымі павекамі, кірпаты нос, як кажуць, качачкай, сівыя, коратка стрыжаныя валасы. – Правядзіце нашых байцоў па шпіталі, таварыш Яўгенія. Гэта неадкладна... Перадайце мне ўсе дакументы на супрацоўнікаў і пацыентаў. Потым для жывых – начлег, для мёртвых бандытаў – морг... У вас жа ёсць у шпіталі морг, праўда?

Таварыш Нашчадны гаварыў нібыта лена, а позірк ягоны ўвесь час слізгаў па баках, нібыта словы былі толькі прыкрыццём для іншага, больш важнага занятку... Між тым грузавік заехаў на тэрыторыю, з яго выйшла яшчэ двое. Значыць, усіх гасцей – дзясятак.

– Жэнька! Ты?..

Загадчыца мімаволі зрабіла крок назад ад шыракаплечага вайскоўца.

– Рыгор... прывітанне.

Яе голас дрыжэў.

Самусь памкнуўся наблізіцца, дакрануцца да сваёй кабеты, але спыніўся, вінавата прыкусіўшы губу. Ягоны твар падаваўся не па ўзросце азызлым, вакол вачэй амаль чорна.

– Гэта мая жонка, таварыш Нашчадны, – неахвотна прамовіў Самусь да зацікаўленага калегі, не адводзячы хворага позірку ад Жэнькі, якая пачала ўжо дрыжэць усім целам. Пакуль не адчула, што за спінай матэрыялізаваўся нехта недарэчна ўпарты, і яна адхінулася назад, працягнула руку, каб на імгненне дакрануцца да цёплай цвёрдай рукі, гатовай падтрымаць. Гэтае дакрананне дазволіла адолець прыкрую слабасць, выпрастацца...

– І вы тут... – хрыпла вымавіў Рыгор, утаропіўшыся ў Корвуса, як у прывіда, але Яўгенія перабіла:

– Гэта мой намеснік.

І дадала ўладна, трохі павярнуўшы галаву да Магістра:

– Прашу вас, ідзіце і падрыхтуйце асабовыя справы для праверкі.

Люцыян моўчкі схіліў галаву і сышоў, зразумеўшы намёк. Самусь прыгнечана маўчаў.

– Ну што, таварыш маёр, пойдзем аглядаць іхні прытон? – перабольшана аптымістычна прамовіў таварыш Нашчадны.

– Можа, варта пачакаць, пакуль развіднее? – буркатнуў Самусь.

– І, магчыма, даць камусь збегчы? – хмыкнуў лейтэнант. – Вы, таварыш маёр, лепш за ўсіх ведаеце: ворага трэба ламаць адразу, пакуль не ачомаўся і не прыдумаў, як абараняцца.

Чамусьці адчувалася, што не малады маёр, а сівы лейтэнант быў тут галоўным.

Далейшае нагадвала фільм жахаў у стылі "Кабінет доктара Калігары".

...Аднапавярховы будынак з паўкруглымі аркамі, у якія ўстаўленыя звычайныя прастакутныя шыбы, абкладзеныя цэглай. Гасцям выдалі марлевыя павязкі, халаты, пальчаткі, бахілы... Але гэтыя вартыя жалю латы не ратавалі ад жаху: праз адчыненыя дзверы невыносна смярдзела саладкаватым пахам гніення. З электрычнасцю ў корпусе былі перабоі. Твар чалавека, выхаплены з цемры промнем ліхтара, мала нагадваў чалавечы. Вочы выцеклі, нос выгніў.

– І ноччу спакою няма... Як басмачоў біць – дык таварыш Ракуць давай... Біў басмачоў, біў клятых... І яны мяне праклялі... Вузкавокія...

Голас гучаў так гугнява, што з цяжкасцю разбіраліся словы.

– Праказа... Гэта невылечна, – шапнула загадчыца шпіталя. –Мы ўсе, што даглядаем пракажоных, да канца не ведаем, ці не заразіліся.

У глыбіні палаты на ложках яшчэ некалькі постацяў, ухутаных у коўдры.

– І тыя таксама? – здушана пытаецца лейтэнант, для чагосьці сціскаючы рукой у пальчатцы рэвальвер.

– Гэта лепразорый, таварыш Нашчадны. Тут не начуюць здаровыя.

Далей ганку спецатрадаўцы не зайшлі. Усё-ткі магчымасць заразіцца смяротнай хваробай абуджае нават у самых смелых ці чэрствых той пракаветны страх, з якім немагчыма зладзіць, які часам змушае да ганебнага.

Іншы будынак. Цьмянае святло электрычнай лямпачкі б'е па вачах – у каго яны ёсць... Бязногія, бязрукія людзі варочаюцца, як вусені, лаюцца, што пабудзілі... Ідыёт са слінявай шырокай усмешкай, з прыплюснутым чэрапам кульгае, як вялізны павук, у якога абарвалі некалькі ног, мармыча:

– Хар-рошыя! Вы хар-рошыя! Яначка вас любіць!

І не разумее, чаму госці не хочуць з ім абдымацца.

Наступны пункт... Чалавек, спрэс пакрыты нарастам колеру гною, нават адно вока цалкам схавалася... Санітарка з юлёвай паловай твару, падобнай да сырога мяса...

Новае кола пекла. Высокі худы медбрат таксама ў марлевай павязцы:

– Тут корпус сухотнікаў, ва ўсіх вострая форма...

І страшны надрывісты кашаль у палаце... Такі, што мімаволі прыслухоўваешся да сябе, ці не пасялілася ў тваіх уласных грудзях лічынка, якая разрасцецца і змусіць выплюнуць згнілыя лёгкія шматок за шматком?

– Прапаную завершыць праверку раніцай... – мармыча ўзмакрэлы лейтэнант. – Паставім варту па перыметры, ніхто не ўцячэ. Як думаеце, таварыш маёр?

Самусь, які пляцецца апошнім і не заходзіць у страшныя палаты далей ганку, нешта згоднае мармыча. Ястрабкі з палёгкай уздыхаюць і бегма кідаюцца на вуліцу, прыгнечана маўклівыя. Адзін, адышоўшыся да светлай плямы пад ліхтаром, дастае біклажку, прагна адсёрбвае, а далей пачынае нязграбна паліваць змесцівам свае рукі.

– Ліні і мне трохі... – здушаным голасам кажа другі, зусім юнак, у акулярах, і падстаўляе далоні пад празрысты струменьчык, ад якога пахне спіртам.

– Ад праказы гэта не дапаможа, і ад ваўчанкі таксама, – абыякавым голасам заўважае загадчыца, застаецца гадаць, ці хаваецца пад гэтай абыякавасцю помслівая насмешка. І Нашчадны, відаць, саромеючыся праяўленай імі слабасці духа, злосна камандуе ісці на начлег. Няхай медперсанал размяркуе вольныя койкі. Апалчэнцы, змрочна азіраючыся, заяўляюць, як адзін, што будуць спаць у грузавіку. Усё роўна камусь трэба быць у нарадзе, так што якраз змесцяцца. Лейтэнанту прапанавалі месца ў ардынатарскай. Але ён таксама прабуркатаў пра грузавік, што камандзір мусіць быць са сваймі байцамі.

– Ну а вы, таварыш Самусь, напэўна, з жонкай пераначуеце? – неяк знарочыста абыякава папытаўся Нашчадны. Пасля некаторай паўзы Яўгенія кіўнула:

– Так, пайшлі, Рыгор. У мяне ёсць яшчэ адна кушэтка.

Сабакі ўсё яшчэ зрэдку брахалі, а адзін нават завыў. Людзі, што ляжалі на ложках у будынках, дзе калісь таньчылі кадрыль паненкі ў дэкальтэ, альбо дзе трымалі панскіх коней і сцябалі панскіх слуг, перасталі стагнаць, лаяцца, маліцца... Нават высокі светлавалосы чалавек, што вось ужо каторы час пад сховамі адцвілага бэзу насцярожана глядзеў на вакно, за якім свяціўся зялёны абажур і чулася ціхая гаворка, пасля таго, як святло згасла, таксама сышоў... Ноч сцвердзіла права на цішу.

Ненадоўга.

Калі неба пашарэла, яшчэ толькі ў прадчуванні блакітнага колеру, у двухпавярховым шэрым будынку, так званым адміністратыўным корпусе, за вакном, дзе нядаўна ўтульна свяцілася зялёная лямпа, штосьці разбілася, загрукатала. Ускрыкнула жанчына. І страшны мужчынскі голас:

– Сука! Здрадніца! Заб'ю! Заб'ю!

Так мог бы крычаць звер, пазычыўшы чалавечы голас.

І зноў ускрык жанчыны.

Яўгенія з растрапанымі валасамі, у кофтачцы, спехам накінутай на ніжнюю кашулю, прыхінулася да сцяны, абдымаючы сябе рукамі. На шчацэ чырванела свежая драпіна. Сымонавіч і Корвус спрабавалі ўтрымаць Рыгора Самуся на падлозе. Ім няўмела дапамагалі санітарка з юлёвым нарастам і медбрат з корпуса сухотнікаў, але Самусь скідваў з сябе ўтаймавальнікаў, як мядзведзь сабакаў, і лаяўся.

– Яўгенія, укол! – крыкнуў Корвус, і Жэнька скінула здранцвенне. Якраз калі яна выцягнула голку з вены Рыгора, і той абмяк, закаціўшы вочы, у пакой уварваліся ястрабкі з таварышам Нашчадным на чале, а таксама два штрафбатаўцы, сівы ды лысы.

– А ну адпусціць маёра дзяржбяспекі, гады!

Нашчадны гатовы быў націснуць на курок рэвальвера.

– У маёра быў нервовы прыступ! – патлумачыў задыханы намеснік загадчыцы, выпростваючыся. – Мы яго купіравалі, цяпер трэба пачакаць некалькі гадзін...

– Гэта антысавецкая змова! – зароў энкавэдыст. – Мы пра ваша кубло ўсё ведаем.

І кінуў цераз плячо сваім байцам:

– Арыштаваць загадчыцу і намесніка. А тады пачысцім гэты прытон...

– Пачакайце, вы памыляецеся! – уладна выпрасталася Яўгенія. – Праз тры гадзіны скончыцца дзеянне ўколу, і мой муж вам пацвердзіць – мы не жадалі яму кепскага. Ён жа ваш камандзір, вы павінны выконваць ягоныя загады...

– Ваш муж, маёр Рыгор Самусь, зараз на выпрабавальным заданні! – у цьмяным святле раніцы аблічча Нашчаднага падавалася шэрым, як у паўсталага наўца. – Ён праходзіць пакуль сведкам па справе вашай агульнай сяброўкі, Маргарыты Ракуцкай, злоўленай на сувязі з японскім шпіёнам з Міністэрства аховы здароўя. А вы што думалі, Самусь выпадкова сюды трапіў, на гарачае спатканне з вамі?

Малгося арыштаваная... І яе апякун таксама... Яўгенія бездапаможна зірнула на Корвуса.

– Вы ж пераканаліся, тут інваліды і невылечна хворыя, – цвёрда заявіў Люцыян. – Майце сумленне. Пакіньце ахову, але дайце нам рабіць сваю справу – лячыць людзей...

– Настрашыў ката скваркаю... Ведаем мы пра ўрачоў-забойцаў! Ты, сучка, свайго мужа падманвала, пацыентаў травіла...

Куля з рэвальвера патрапіла ў столь, рэвальвер адправіўся на падлогу, а сам лейтэнант паціраў шчаку, па якой угневаны доктар Корвус яму толькі што адвесіў ляшча.

– Яўгенія Міхайлаўна людзей выратавала болей, чым вы загубілі! Хаця хто вас ведае...

Ніхто ачомацца не паспеў.

Яўгенія ўспомніла, што Корвус, інтэлігентны, засяроджаны і хударлявы, у моманты небяспекі мог раптам рабіцца вось такім – па-звярынаму імклівым, нібыта ў ім прачыналася іншая кроў.

Твар Нашчаднага пацямнеў ад злосці:

– Ну, запяеш ты ў мяне, дактарышка! Страляйце ў гада! Супраціўленне пры затрыманні!

Але выстраліць ніхто не паспеў. Пятро Сымонавіч дзейнічаў рашуча і прафесійна. Ягоныя сябрукі таксама. Не прайшло і пяці хвілінаў – ястрабкі на чале з лейтэнантам ляжалі роўненька на падлозе, як і Самусь, атрымаўшы ін'екцыі снатворнага.

– Што вы нарабілі! – голас Яўгеніі зрываўся. – Цяпер забяруць усіх...

– Хай паспрабуюць! – страшна выскаліўся лысы штрафбатавец. – Там на пасту яшчэ пяцёра іхніх, скруцім лапушкоў за тры секундачкі.

– А далей? – загадчыца нервова зашпільвала гузікі кофты.

– Перарэзаць глоткі ды закапаць у лесе, – прагуў сівы ахоўнік, гуляючыся з нажом, зазубранае лязо якога гарэла халодным белым агнём. – Астатнім скажам – праверка з'ехала.

Медбрат, такі худы, што ягоныя шчокі здаваліся ямінамі, ускінуў рукі, нібыта заклікаў у сведкі неба.

– Што вы гаворыце, людзі? – цёмныя разумныя вочы глядзелі з жахам. – Не бярыце грэх на душу! Бачыць Бог, на гэтай зямлі і так залішне пралілося крыві!

– Не хвалюйцеся, Станіслаў, мы гэтага не дапусцім, – цвёрда прамовіў Корвус. – Байцы не вінаватыя. Яны ж і сапраўды фашыстаў ловяць, жыццём рызыкуюць.

– Тады яны заб'юць нас! – сівагаловы з сілай усадзіў нож у падлогу, ля галавы аднаго з ястрабкоў.

Санітарка ля вакна, узяўшыся за галаву, пагойдвалася і вохкала, як на пахаванні.

– І як цяпер? Аблогу трымаць? Утварыць бандфарміраванне? Нас усё роўна знішчаць. Што дасць наш супраціў? – непаслухмянымі вуснамі прамовіла Жэнька.

– Дасць нам час. Можам вывезці адсюль усіх, каго неабходна, – прамовіў Пятро Сымонавіч. – Грузавік на хаду.

Корвус заклапочана пацёр падбароддзе.

– Слушна... А я паспрабую прывесці да розуму таварыша маёра. Наколькі ведаю, паміж прыступамі ён цалкам адэкватны. Можа, яму ўдасца хоць трохі стрымаць сваіх калегаў.

Яўгенія сунула рукі ў кішэні кофты, панура зірнула на Рыгора, які спаў пад яе нагамі.

– Так, пакуль пад раніцу з ім гэта не сталася, мы добра гаварылі.

Калі Гасподзь адпускаў у свет гэтую раніцу, не заўважыў, як яна спатыкнулася і пабіла палец аб нябёсны парог. Вось і пайшла па свеце злючая-падлючая, шукаючы, на кім спагнаць крыўду. Задыханы Сымон Пятровіч падкульгаў да загадчыцы, якая спехам кідала ў печку кабінета нейкія тэчкі:

– Бяда, панёс нас чорт на дзіравы мост. Упусцілі аднаго... Разам з машынай.

Санітар выцер спацелы лоб.

– Хто б падумаць мог – здыхлік у акулярах, але адчайны. Пабачыў, як скручваем ягоных таварышаў, і газануў... Вароты пратараніў. Усё, цяпер лік на гадзіны...

Загадчыца аддала богу Жыжалю яшчэ адзін стос папер. Яе лясныя вочы – бурштын і лістота – былі яркімі, як у сапраўднай гаёўкі, ляснога ацаляльнага духу, у зрэнках трымцеў чырвоны водбліск полымя.

– Ясна... Што ж, трэба дапамагчы сысці тым, каму неабходна.

– У нашу эмку больш чатырох не ўлезе... А калі ляжачыя... – змрочна зазначыў Пятровіч.

– Бярыце тых найперш, каго хавалі ў лепразорыі. Прафесара Візенталя абавязкова. І паведаміце ўсім, што здарылася... Хай хто хоча і можа, сыходзіць сам. Кагосьці можна вынесці на насілках, вывезці ў вазках... Скажыце доктару Корвусу, хай ушпіліць яшчэ дозу апалчэнцам. Няхай размесцяць іх у якой палаце, на койкі, якія вызваляцца. А тады таксама хай не марудзіць.

Паперы курчыліся ў печцы, нібыта іх мучыла не полымя, а занатаваныя на іх крамольныя таямніцы.

– Найперш вам трэба сысці, Яўгенія Міхайлаўна, – цвёрда заявіў Сымон Пятровіч.

Жанчына зноў адвярнулася да зыркай пашчы печкі, у якой ператвараліся ў попел і бязмоўе нечыя імёны.

– Я загадчыца Апошняга Прытулка. Я не буду ўцякаць. Хворых усіх мы ўсё адно не вывезем, а я іх не кіну. Давайце, часу мала...

Наступныя гадзіны прайшлі ў мітусні, якая, прынамсі, мае ўласцівасць адганяць адчай.

– Пятро Сымонавіч, а вы чаму вярнуліся? – разгублена пыталася Жэнька.

– Трэба ж было машыну назад прыгнаць, – роўным тонам адказаў санітар. – Яшчэ чатырох паспелі адправіць. І я не для таго сваіх скалечаных аднапалчан выратаваў, каб зараз збегчы. Буду з імі да канца. Можа, пакінуць хоць бязногіх франтавікоў у спакоі?

І раптам дадаў сурова:

– Мой бацька быў афіцэр. Палкоўнік. Так, царскай арміі. Ён герой – ваяваў пад Гумбіненам, на Балканах. І мяне вучыў, яшчэ калі я быў кадэтам: армія гіне не тады, калі яе разбіваюць, а тады, калі яна пакідае сваіх параненых жаўнераў. А ты, доктар, чаму застаўся? – Пятро Сымонавіч зацікаўлена зірнуў на Корвуса. – Чэкіст не забудзе, як ты яму па пысе заехаў.

– А ёй што, адной усё разграбаць? – Корвус кіўнуў у бок жанчыны. – Я таксама клятву Гіпакрата даваў і хворых кінуць не магу. У нас жа ёсць такія цяжкія, што без догляду і на гадзіну нельга. Вунь, толькі што прыступ у аднаго здымаў... Ледзь паспеў.

Раптам усміхнуўся амаль весела.

– Я ж Магістр Ордэна Захавальнікаў. Не расказвала Яўгенія Міхайлаўна? Не? Калі я быў у іх настаўнікам і вёў археалагічны гурток, яны вось такое прыдумалі... Суполка захавальнікаў гістарычнай справядлівасці. Я сам іх гэтаму вучыў. Мушу адпавядаць. І што рабіць, уцёкшы? У лесе хавацца, як лясныя браты?

Людзі маўчалі, і было ў гэтым маўчанні дужа шмат... І горыч, і безнадзейнасць, і сіла.

У кустах заценькала птушка.

– Што ж, час абходу... – неяк па-будзённаму прамовіла Яўгенія. – Пойдземце, Люцыян Станіслававіч, да пацыентаў. Зоймемся сваёй справай.

– Пойдзем, Яўгенія Міхайлаўна, – гэтак жа спакойна прамовіў Корвус. – Макараў з другога корпуса на сэрца ўчора скардзіўся, я адмяніў таблеткі... Трэба праверыць, які вынік...

Калі да падазронай спецбальніцы, хітра схаванай у лясных нетрах, пад'ехалі машыны з вайскоўцамі, хмары над пушчай не згушчаліся, вараннё не збіралася ў гатычныя зграі, над магіламі не рыдала прывідная Плачка... Усё было шарагова і звычна.

Забралі ўсіх.

Амаль.

У палаце з пракажоным прагучалі стрэлы. Не трэба савецкаму народу нават ведаць, што побач яшчэ існуе паганая хвароба, ад якой няма лекаў. Мы – народ-пераможца.

Над дзіцячым ложкам прыхадні нейкі час пастаялі, лаючыся і плюючыся ад агіды... Але савецкая навука мае патрэбу ў феноменах. Дзівосы трэба раз'ясняць. І феномен у выглядзе двух зрослых немаўлятаў забралі. Іх матку, з пачварным швом на разрэзаным жываце, што яшчэ сачыўся крывёю, занеслі на насілках у другую машыну, дзе валяліся покатам бязногія-бязрукія.

Загадчыцу бальніцы і яе намесніка адправілі самымі першымі. На жалезным кузаве перавозкі красаваўся надпіс “Хлеб”. Акрамя жывых, у машыне былі мёртвыя. Два ўхутаныя ў брызент целы лясных братоў, з якімі ястрабкі прыехалі ў Апошні Прытулак, здавалася, вечнасць таму. Ад цёмных скруткаў яшчэ слаба, але сыходзіў пах распаду плоці, саладкаватаатрутны. Праз шчыліны кузава прабівалася святло, нібыта неба вінавата

падглядала за няўдала прыдуманымі лёсамі. Машыну трэсла на карэннях і калюжынах лясной дарогі. Двое, што сядзелі, прыхінуўшыся да борта, за якім была кабіна, матляліся, як лялькі. Мужчына асцярожна накрыў даланёй руку спадарожніцы на дарозе ў чарговае пекла. Нейкі час маўчалі.

– Люцыян Станіслававіч, цяпер вы дакранаецеся да мяне... у тым самым сэнсе? – прашаптала жанчына. Пасля нязграбнай паўзы мужчына выціснуў прызнанне:

– Так.

І таропка дадаў, перарваўшы дотык:

– Можа, вам брыдка...

Але яна ціха засмяялася, павярнулася, закінула руку яму на шыю і адшукала вуснамі ягоныя сухія, няўмелыя вусны...

Праз некалькі імгненняў ён адхінуўся.

– Навошта вы... Вы ж кахаеце Рыгора...

Яўгенія ўздыхнула і мімаволі памацала сваю шчаку, на якой красаваўся пластыр.

– Я не думала, што выйдзе так... А ўчора сустрэліся... І адчула – перагарэла ўсё. Сышло, мабыць, з крывёй. З ненароджаным дзіцем. А вы?

– Што – я? – Корвус насцярожыўся, бы яшчарка, на якую ўпаў цень ад дзіцячай далонькі.

– Наконт сталёвага забрала вашага шлема... Вы яго трохі прыўзнялі?

Люцыян быццам закамянеў.

– Я ніколі не забудуся на...

– Гэтага і не патрэбна! – даланя жанчыны слізнула па ягонай шыі, пагладзіла шорсткія валасы патыліцы, і мужчына міжволі закінуў галаву ад задавальнення. – Мы павінны памятаць дарагіх людзей. Нават калі гэта прыносіць боль.

– Але болю бывае занадта шмат... – глуха прагаварыў Корвус. – Каб мне далі палячыць вашага мужа, паэксперыментаваць... Ведаеце, Саламон Міхайлавіч пачаў перакладаць для мяне сшытак Жыгімонта Корвус-Дзякловіча, уяўляеце сабе – напісаны на прыдуманай мове! Дарэчы, гэта сапраўды мой продак, як вы намякалі. Там пра рэдкія расліны, у тым ліку – магрэтку, “чырвонага дракона”. Ягоныя рэчывы працуюць на ўзроўні рэгенерацыі клетак...

– Цікава назіраць за фанатыкамі, – іранічна прагаварыла жанчына. – Вы нават забыліся, куды і навошта нас вязуць. Наўрад нам па прыездзе прадаставяць лабараторыю... Хіба што мы будзем у якасці лабараторных мышак.

– Прабачце... – Корвус сціснуў тонкую руку былой вучаніцы. – Я... пастараюся... хаця б на кроплю палегчыць ваш лёс. Вы нічога не ведалі. Я вас падманваў. Прымушаў.

– Не спрацуе, – горка засмяялася жанчына. – Мне расказвала адна пацыентка... Яна да вайны патрапіла ў НКУС за тое, што муж чытаў студэнтам Гумілёва. Зняволеную змусілі прасядзець на краёчку крэсла трое сутак. Потым яна, інтэлігентная жанчына, ідэалістка, гатовая загінуць за справядлівасць, падпісала ўсё ва ўпэўненасці, што тым ратуе бязвінных людзей, бярэ правіну на сябе. Арыштавалі яшчэ тры дзясяткі чалавек.

– Не вер, не бойся, не прасі... – прамармытаў Корвус. – Так казаў мой сусед па камеры, у трыццаць сёмым.

– Давайце лепш, Магістр... Каб было што светлага памятаць...

Яўгенія зноў пацягнулася да яго, але Корвус затрымаў яе, схапіўшы за тонкія запясці.

– Нават цяпер, ад жудасці, не варта гуляцца ў такія гульні, Жэня. Побач нябожчыкі, я нашмат старэйшы за вас, я ваш былы настаўнік...

– І нядаўна вы ўсю ноч, як верны паладын, прастаялі ў кустах, гледзячы на маё акно, калі я прыняла да сябе Рыгора.

У голасе была лёгкая насмешка і... падалося, ці не? – пяшчота.

– Я проста... – у прыцемку не было відно, але Яўгенія з задавальненнем паназірала б, як шаноўны неўрапатолаг чырванее.

– Вы проста хацелі ўпэўніцца, што са мной усё ў парадку, – падказваючы нейтральны адказ, прагаварыла яна, як да малога дзіцяці. Але мужчына не мог прыняць гульню.

– Ты разумееш, што ў хуткім часе мы будзем бачыцца хіба што на допытах, дзе нас змусяць тапіць адно аднога? Будуць збіваць нас на вачах адно аднаго? А потым – потым... у лепшым выпадку лагер. Для прыгожай жанчыны гэта...

Грузавік моцна падскочыў на чарговай карчажыне, мерцвякі заварушыліся, а жывыя, каб не паваліцца, ухапіліся адно за аднаго.

– Паабяцай, што, калі выжывеш, знойдзеш мяне! – прашаптала яна ціха.

– Абяцаю... – прашаптаў у адказ ён і сам крануў яе вусны сваімі... А праз незлічоныя імгненні вымавіў, задыхаючыся, з сумным гумарам: – Спраўджваем анекдоты наконт прафесійнага цынізму дактароў, якія снедаюць у моргу і прызначаюць спатканні ў празектарскай?

Пальцы Яўгеніі заблыталіся ў валасах Магістра.

– Мы ў адным крузе пекла з нашымі нерухомымі спадарожнікамі. Цынізм тут не выжывае. І калі нам застаецца толькі гэтая лапінка прасторы і гэтыя хвіліны для апошняга чалавечага шчасця – хто нас асудзіць?

Машына з надпісам “Хлеб” на кузаве вырульвала на асфальтавы бальшак. Дрэвы паабапал, таўшчэзныя ліпы, пасаджаныя калісь у гонар прыезду расейскай імператрыцы Кацярыны, былі нядаўна спілаваныя.

...Дзве дзяўчынкі, якім Гасподзь даў адно цела, адчайна крычалі ў кабіне “газіка”. Салдат, якога змусілі везці пачварнае стварэнне, баяўся лішні раз апусціць вочы, яго кожны раз скаланала ад агіды, калі захутанае ў бальнічную коўдру “яно” варушылася асабліва моцна на ягоных каленях.

У машыне ніхто не думаў пра “гэта” як пра дзве душы Божыя, ахрышчаныя як Любоў і Дар’я.

Малады ксёндз айцец Станіслаў, праваслаўны святар айцец Серафім і прызнаны ў мястэчку за рабіна Саламон Барысавіч знаходзіліся зусім у розных месцах і абставінах, але ў гэты час узносілі малітвы за адно і тое ж...

## Раздзел дзявяты. ПРА СПРАЎДЖВАННЕ МАРАЎ І НАСТУПСТВЫ

Калі Ной выпусціў з каўчэга, які атабарыўся ля Арарата, першую жывую істоту – крумкача, той і не падумаў вяртацца, каб паведаміць прарокувыратаваўцу, ці скончыўся патоп. Паляцеў сабе дый паляцеў.

Давялося Ною слаць голуба, які сумленна вярнуўся з галінкай алівы. Выходзьце, маўляў, усё разрулілася!

А я часам раздумвала над лёсам таго няўдзячнага крумкача-мізантропа. Вось ён ляціць у невядомае месца. Дзе ніводнай жывой істоты. І не думае вяртацца да кампаніі тых, з кім прыплыў. Чаму? Абрыдлі? Перасварыўся?

А як усе вывалілі на сушу, хаваўся, каб не спаткалі ды не пакаралі? Хіба не заставалася ягонай пары на каўчэгу, і чаму ён яе кінуў? Сказана ж, Ной выпусціў менавіта аднаго самотнага крумкача. Значыць, яго сяброўка пасля знайшла яго, ці ён яе? Іначай крумкачы вымерлі б, як птэрадактылі.

Таямнічая птушка Крумкач...

Я глядзела на спіну Віталя Корвуса, які сядзеў за рулём новенькага “Сітраена”, падрульваючы да майго пад’езда, і спрабавала супакоіцца. Шчокі мае былі залітыя слязьмі пасля прачытання чарговага раздзелу арыджынала “Ордэн Захавальнікаў”. Тэкст гэты я прачытала не на сваім сайце. А ў расшыфроўцы чорнага сшытка прафесара Люцыяна Станіслававіча Корвуса. Хіба што стыль быў прымітыўнейшы – а што хацець, калі пісалася на прыдуманай продкам доктара мове, гэткім эсперанта. Калі групе знаўцаў далі перакласці ўрывак з Гогаля, фраза пра тое, як гераіня пляткарыла і ела вараныя буракі, прапушчаная праз два дзясяткі моў, ператварылася ў “выпіўшы кампот, яна выкінула з будана старызну”.

Значыць, гэта не сучасны фанф... Гэта ўспаміны рэальнага чалавека. Хтосьці дасылае мне іх па частках... Хто? Калі тэкст зараз вось толькі расшыфраваны...

Усю дарогу да Мінска мы з Корвусам прамаўчалі. Пытанняў было занадта шмат. Яны прыцiскалі, як у рамане Гюго кампрачыкоса, гандляра скалечанымі дзецьмі, катавалі, паклаўшы на грудзі камяні, адзін за другім, ламаючы рэбры.

Мне той цяжар падаваўся ўжо невыносным.

Мы падымаліся па лесвіцы – я глядзела на спіну ўваскрэслага мужа, і ў галаве круцілася: вось твой фанцік, кацяня дурное, на вяровачцы перад табой трымаюць. У кватэру зайшлі так будзённа, звычна, як быццам Корвус проста вярнуўся з камандзіроўкі. У сувенірную шпакоўню на сцяне вітальні, на дзюбку ружовай драўлянай птушачкі адправіўся ключ. Скураныя пантофлі, прывезеныя з Вільні, зноў запаўзлі пад шафку – я падазравала, што там, у цемры і пыле, даўно зладжаны падпольны клуб пантофляў.

Віталь павесіў куртку на чорнага металёвага лася, прывезенага калісь Мацеем са Стакгольма, і я ўжо набрала паветра, каб задаць першае пытанне і нарэшце атрымаць адказы...

Але атрымала палкі пацалунак. Што не спяшаўся перарывацца.

Было так нязвычна: барада колецца, а пацягнешся да валасоў – пальцы гладзяць паголены чэрап.

Калі б я ўмела апісваць рэйтынгавыя сцэны, мусіць, у маіх фанфікаў было б болей чытачоў. Але варта мне пачаць пра “ён правёў вуснамі па яе шыі” альбо “засунуў даланю за рызінку ейных майткоў”, рагатаць цягне, і фальш такі, быццам на дзіцячым ранішніку дарослую цётку змусілі выяўляць Сняжынку ў кардоннай кароне. Дастаткова сказаць, што праз паўгадзіны мы ляжалі ў ложку на змятых прасцінах, а адзенне было раскідана па падлозе, быццам яго спецыяльна пасеялі ў спадзеве вырасціць гай з калгот, джынсаў і швэдароў.

Гай атрымаўся б кітайскага паходжання.

Корвус соп побач, тварам у столь, яго гарачая рука ўладзілася на маіх плячах. На ілбе блішчэлі дробныя кропелькі поту. Я павярнула галаву: цікава, раней не заўважала, што на тыльным баку Віталевай далані россып рабацінак і цёмныя валаскі. А на носе чаму рабаціння няма? Павярнулася, прыгледзелася... А не, ёсць!

А ўвогуле, гэта нармальна, што я па завяршэнні першага сэксу пасля сямі гадоў расстання філасофскі разглядаю плямкі на целе каханага чалавека, а ў галаве стукае “на табе твой фанцік, кацяня”?

Столькі разоў мы ляжалі на гэтым ложку з Мацеем... І кожны раз – ну вядома, у хвілі, калі мазгі пачыналі працаваць, – я думала, што вось цяпер – гэта проста так, ад самоты. Таму што сапраўднае, лепшае магло быць толькі з Корвусам.

І Мацей, напэўна, адчуваў, што я яму проста дазваляю сябе суцешыць... І само сабой, ён павінен быў быць шчаслівы гэтым, і старацца апраўдаць маю паблажлівасць... І ён стараўся. Я была ў гэтым ложку неверагоднай каштоўнасцю, недасяжным шчасцем...

Цікава, а Корвус таксама лічыць, што ён – маё недасяжнае шчасце, што я павінна быць шчаслівая проста таму, што ён мне зноў дастаўся?

Я разумею, чаму ён адразу пацягнуў мяне ў спальню. Ведаў жа, што жыла з іншым. Захацелася падцвердзіць сваё права. Самец мусіць меціць тэрыторыю. Адысей вярнуўся, жаніхоў трэба перастраляць.

Цяпер я, напэўна, мусіла плаваць у жаночым шчасці, як шарык марозіва ў сіропе, паціху плавячыся побач з моцным мужчынскім плячом.

Алё, камрад, прайшло сем гадоў. Няма той дзяўчыначкі, якая напілася ў парку Горкага нейкага бухла і потым рыдала на чужым лецішчы, страціўшы цнатлівасць.

– Тваім знаёмым і не патрэбны быў сшытак Люцыяна Корвуса. Ім патрэбная была кампутарная праграма Мацея.

Рука на маім плячы ўздрыгнула, але засталася на месцы.

– Прабач, я выконваў тое, што мне гаварылі бандыты.

– Гэта не бандзюкі прыходзілі. А людзі на дзяржслужбе.

Віталь ажно прыўзняўся, каб зазірнуць мне ў твар сумленнымі зялёнымі вачыма.

– З чаго ты вырашыла?

– Я не першы год з такімі працую. Нагледзелася. Тут памыліцца немагчыма.

Я перакацілася на бок і прыўзнялася, каб лепей бачыцьаднойдзенага мужа, свайго Корвуса, Фініста Яснага-блін-Сокала. Толькі вось жалезныя прасвіры замест мяне мусіў згрызці дзеля ягонага ўратавання іншы персанаж.

– Мне не вельмі прыемна, што мяне выкарысталі ў якасці кансервавага нажа, каб скрасці далікатэс з чужой бляшанкі.

– Паслухай, ну нічога кепскага з тым Мацеем не будзе, – Корвус пачухаў рудую бараду, мне падалося, сам яшчэ не прывык да такога іміджа. – Калі ты маеш рацыю наконт дзяржслужб, прапануюць яму супрацоўніцтва, ён пагодзіцца... Урэшце, што добрага, калі наш грамадзянін аддае свае вынаходніцтва заакіянскім дзядзькам?

Ну, так, я ж сама крывілася на планы Саломы з’ехаць ды працаваць у амерыканскай карпарацыі...

– А калі Саламярэцкі не пагодзіцца?

– Пагодзіцца! – Віталь упэўнена ўсміхаўся... У паветры завісла не прамоўленае “дзеля цябе”. Я ўспомніла шнары, якія Мацей хаваў пад фенечкамі. І як ён машынальна паціраў запясці, калі згадваў пра сваю “дурасць” ад звесткі пра маё замужжа.

– Паслухай, а хто ты такі насамрэч? Толькі не залівай, што сапраўды Корвус, а доктар Люцыян – твой дзед.

Не тое, каб Віталь моцна здзівіўся майму пытанню, – не, пасля ўсіх дзесяці вазоў маны, што вываліў на маё жыццё.

Помню, ішлі мы з Мацеем з выставы, якую прывёз у Мінск піцерскі музей Дастаеўскага. А побач сунуліся тынэйджэры, якіх прыгналі на адкрыццё выставы. Адна дзеўка ўсё дапытвалася аднакласнікаў, а што, Дастаеўскі – драматург? Не? А што ён пісаў? Бедныя навуковыя цётачкі, якія толькі што ў музеі захліпаліся “а памятаеце, як Сонечка Мармеладава...” Дык вось, другая школьніца тады гучна і амаль з гонарам сказала сяброўцы: “Мой хлопец гаворыць, што я – дэпрэсіўная пісі...пісі... містычная дура”.

Мы паржалі... А тады я падумала – добрае вызначэнне... Я ж таксама дэпрэсіўная песімістычная дура.

І з усім песімізмам – не веру.

– Можа, мне Яўгена Капытко распытаць? Не ведаеш, як яго знайсці?

Мой Фініст Ясны Крумкач спахмурнеў:

– У бардачок машыны залазіла?

Здагадлівы... Адразу відаць, прафесіянал, хаця і дапускае памылкі.

– Так, пакуль ты на запраўцы ў прыбіральню хадзіў. Знайшла тэхпашпарт на імя Яўгена Хведаравіча Капытко. А ў куртцы правы кіроўцы з тваёй фоткай, на таго ж Капытко.

– Паслухай, я змушаны быў хавацца...

Ільдзінка ў маіх грудзях усё разрасталася, і было балюча...

– Прабач, але ў Старавежску я выпадкова падгледзела, як ты за руку развітваўся з тымі чувакамі, што з Мацеем засталіся. Як з добрымі калегамі.

– Яны мне не калегі.

– А па плячы вы адзін аднаго з радаснымі ўсмешкамі паляпалі ад шчырай нянавісці?

Я адвярнулася, устала і нацягнула чорную майку з белай выявай Кафкі – Мацей прывёз з Прагі сабе і мне. Быццам хацеў, каб нас паяднаў хоць песімістычны лапавухі геній.

Як жа мне было пагана... Ажно каленні дробна дрыжэлі. Усё ўнутры крычала, патрабавала – кінуць свае расследванні і проста жыць далей са сваім каханым.

Але я змусіла сябе выпрастацца і не плакаць... Ні ў якім разе не плакаць.

Корвус першым адвёў вочы.

– Мяне так назвалі. У дзетдоме. Яўген Капытко.

Ільдзінка ўжо ператварылася ў цэлую ільдзіну, і не факт, што яна не патопіць урэшце мой няшчасны “Тытанік”.

– Добра, хоць слова праўды... Вырас у дзетдоме. Зваць Яўген. А як ты тады стаў Віталём Корвусам?

Віталь (ніколі не падабалася імя “Яўген”, неяк наждаком чамусь па нервах), таксама апрануў майку і майткі. У голым выглядзе няёмка лёсавызначальныя размовы весці.

– Так трэба было. Ты – гарадская дзяўчынка, кватэра ёсць, клапатлівая сям’я апране-накорміць... А я сам з сябе зрабіў чалавека.

– Дакладней, прафесійнага стукача.

У мяне ўсё ўнутры трымцела.

– Ведаеш, Віталь, у нашым коле былі не толькі такія дэпрэсіўныя дурніцы, як я. Той-сёй цябе раскусіў. Маўляў, вызначыць сэксота няцяжка – ён ходзіць на ўсе тусоўкі і мерапрыемствы, і сядзіць да канца, хоць

відно, як часам нудзіцца. Задае правакацыйныя пытанні. Сам жа асабліва не вытыркаецца. Умела сыходзіць ад роспытаў.

Я ледзь стрымлівалася, каб голас не сарваўся на істэрычныя ноты, каб захаваць хоць падабенства сарказму.

– Я, вядома, шчыра абуралася такімі гнюснымі плёткамі. Але варта ўспомніць – і ўсё сыходзіцца. Дзе якая беларуская тусня – ты там, быццам кланаваны. Кожны дзянёк. Як на працу. І мяне там паказваеш, як бэйджык. А цяпер што, цябе зноў на заданне паслалі? У тваім бардачку я яшчэ знайшла раздрукоўкі маіх перасоўванняў па станцыях метро.

– Ты нічога не ведаеш! – Корвус ускочыў і стаяў перада мой, такі дужы і прыгожы, як вікінг, са сваёй рудой барадой і паголенай галавой, зялёныя вочы ледзь не іскрыліся. – Я, між іншым, не адзін у вашай кодле назіральнік быў. І думаеш, цяпер нікога няма? Былі і будуць! Таму што так трэба. Я сумленна служыў радзіме. Прайшоў армію, спецназ... Каму я што благога зрабіў? Усе з вашай тусоўкі жывыя-здаровыя...

Так, толькі тусоўка тая неяк незаўважна распалася. Не забілі, але пазвальнялі з працы многіх. Некаторыя ў пастарунках пабывалі, “на сутках”. Ніхто больш туды не імкнецца, зухаватых учынкаў не робіць. Бухцяць на кухні пра помнік Каліноўскаму і чытаюць пра раман тыгра і казла. Выгарэла рамантыка.

– Любая дзяржава мусіць клапаціцца пра бяспеку...

У мяне аж сківіцы звяло.

– Вось толькі не трэба мне тут палітінфармацыі!

– А я цябе і не агітую! Я спрабую да цябе данесці, што ў любой дзяржаве ёсць людзі, якія не даюць утварыцца хаосу і тэрактам. Што я Беларусь шчыра любіў і люблю, у чым ніколі не маніў! І я сем год таму адмовіўся ад свайго задання! З-за цябе! Сарваўся, як пацан!

Я падышла да вакна, нібыта інстынктыўна шукала выйсце на крайні выпадак – у мазгах засела яшчэ са школы інструкцыя, маўляў, калі цябе гвалцяць у кватэры, пастарайся разбіць вакно. Гэта прыцягне ўвагу мінакоў ды суседзяў.

– А чаму ты выбраў мяне? Я, як гэта... прыкрыццё? Ці заданне?

Каб умеў, пачырванеў бы. Але пятка сораму не мае.

– Ты была ідэальная для таго, каб стаць маёй сяброўкай у моладзевай групоўцы... Даверлівая, чыстая дзяўчынка, якую ўсе любілі. І я... закахаўся. Вельмі хутка.

– Прыемны бонус, значыць... – я змушала сябе да іроніі. – А ёсць тое, чаго я пра сябе не ведаю?

Віталь-Яўген пацёр твар далонямі... Ну што мне перашкаджае зараз проста прыхінуцца і даць гэтым далоням абняць сябе? А штосьці ж перашкаджае... Сумленне, напрыклад.

– Ёсць. І я скажу, хоць і нельга. Увогуле ўсё, пра што мы зараз гаворым... Спадзяюся, ты ўсведамляеш, якія будуць наступствы ад балбатні... Але хачу, каб ты ведала, што можаш мне давяраць. Вось табе інфармацыя. Люцыян Корвус калісьці склаў запавет на тваё імя.

– Што? – калі я пабачу прызямленне іншапланетнага карабля на пустыры за ўласным домам, магу не напружвацца. Мацней ужо не здзіўлюся. – Я ж пра гэтага дзеда толькі нядаўна дазналася!

У кішэні чорнай байкі Віталя, якая звісала з крэсла, зайграў смартфон песню “Металікі”. “Unforgiven... Непрабачаная... Кладзіся побач... Раскажы,

што яны ўтварылі... Раскажы тое, што я хачу пачуць... Прагані маіх бесаў... Дзверы зачыненыя, але твая шчырасць адчыніць іх. Кладзіся побач са мной, пад гэтымі злымі нябёсамі...”

Мы абодва любілі гэтую песню, урачыста-тужлівую. Але Віталь нат не зварухнуўся, як не чуў званка.

– Доктар не тлумачыў натарыусу, чаму. Але адпісаў усю сваю маёмасць Вірынеі Максімаўне Нарушэвіч. Табе было гады два. А праз дзесяць год доктар запавет знішчыў. Зноў нічога не тлумачачы. І новага не пакінуў. Ты дакладна нейкая сваячка ці яго, ці, хутчэй, ягонай жонкі. Хоць гэта так і не высветлілі.

Смартфон змоўк. Корвус усеўся на край ложка, быццам чакаў цягніка.

– Я нічога пра гэта не ведаю... – не магла ачомацца я. – І тады ягоным спадчыннікам зрабілі цябе, каб навуковыя адкрыцці прыўлашчыць?

– Ты ўжо, падобна, нейкага Нікола Фламеля ўявіла, вынаходніка філасофскага каменя... Ну так, вакол навуковых адкрыццяў Корвуса чутак хадзіла шмат, – хмыкнуў былы Віталь. – Ледзь не эліксір маладосці вынайшаў. Але расчарую, ягоныя экспeрыменты праваліліся з трэскам, як асістэнтка ілюзіяніста праз дэкарацыі. Эксперты, як адзін, пацвердзілі – несур’ёзна. Затое ў дзеда заставалася шмат падазроных сувязяў. Пасля вайны звязаўся з антысавецкімі элементамі. Шпіёны, дыверсанты...

– І ты заявіўся да яго ў якасці пляменніка, каб тыя сувязі выведаць?

Корвус замяўся, відаць, узважваючы, што можна з праўдзівага мне скарміць:

– Ды якая розніца? Дзед усё адно самотны быў. Праўда... Не веру ва ўсялякую эзатэрыку, але калі існуюць ведзьмакі, ён дакладна ім быў. Вочы светлыя, амаль белыя, і глядзяць так, што, здаецца, наскрозь бачыць. І вусцішна робіцца.

– У раманах пра Гары Потэра гэта называецца легіліменцыя... – мімаволі прамармытала я. – Северус Снэйп гэта ўмеў...

– Ну ўжо не ведаю, ці сапраўды дзед думкі мае чытаў, – паморшчыўся Віталь, – але мяне ён вытурыў. Нават не памятаю, як з дому ўцякаў – нібыта нешта вынесла. І паніка – а мяне ж баязліўцам ды панікёрам не назавеш.

Не назавеш... Віталь усё-ткі падышоў, абняў. А я ўсё-ткі заплакала, носам у ягоныя грудзі. А ён усё гаварыў... Намовіў поўную шапку пацераў. Як хацеў мяне ўберагчы. Не выконваць адно асабліва паганае заданне. Як сарваўся, псіхануў. У адчаі адправіў аўто з абрыву... Цудам не загінуў. Як у адной парванай, скрываўленай цішотцы, заміж таго, каб у шпіталь ці амбасаду, пацёгся ў горы. Тады бухаў месяц у нейкай глухамані ці то з лесарубамі, ці то з кантрабандыстамі... Як потым (відаць, прыстроены ўжо да іншага задання) прасіў прыглядзець за мной сяброў (што значыла – з органаў бяспекі). І аднойчы яму паведамілі, што ёсць план “распрацаваць” праграміста-вынаходніка праз мяне. Віталь вар’яцеў ад рэўнасці і трывогі. А потым мар’інагорская цётка (ніякая яму не сваячка, а супрацоўніца) перадала, што я пачала шукаць уваскрэслага нябожчыка. І ён вырашыў умяшацца...

У аповедзе відавочна былі нестыкоўкі. Але я засяродзілася толькі на тым, што цяпер уваскрэслы муж жыве ў Калінінградзе, працуе ў кіраўніцтве вялікага холдынгу. Мы паедзем разам туды, на Куршскую касу. Наноў пажэнімся, і я стану Капытко...

А мой погляд упаў на хлопчыка, што спраўляе малую патрэбу на стаў-

бурку ля майго ложка. Статуэтка такая бронзавая, прывезеная Саломай з Брусэля. Сімвал горада. Малец, пабачыўшы агеньчык, з якога мог узнікнуць страшны пажар, патушыў яго натуральным спосабам. Каб увайсці ў гісторыю, трэба часам проста насц...ць.

Колькі ж Мацей за апошнія тры гады ў маю хату ўсялякай лухты навалок... Неразумны верабейка, які цягаў ды цягаў па травінцы, па пушынцы ў гняздо, якое звівалася для іншага птаха.

Я столькі чытала пра рэпрэсіі савецкага часу... І неаднойчы ладзілі з сябрамі дыскусіі – калісьці ў іх удзельнічаў і Віталь – як магло такое адбывацца? Як людзі, яшчэ ўчора шчырыя сябры, што прыносяць малінавае варэнне, калі захварэеш – раптам пішуць на цябе даносы, адракаюцца, патрабуюць пакарання... А потым, як душу пазычыўшы, аднаўляюць сяброўства з тымі, хто прайшоў катаванні і лагеры...

А вось так.

Чалавек можа пераканаць сябе ў чым заўгодна.

Адны ахвяры верылі, што і сапраўды вінаватыя, другія – што адбылася памылка.

Даносчыкі верылі, што робяць добрую справу: іншыя б нашкодзілі горш, а яны так, шкадуючы, з асцярогай... Ну і, вядома, не было выйсця, кожны ўчыніў бы на іх месцы гэтак жа...

Не кожны.

Каты і ахвяры сапраўды мяняліся месцамі. І каб не было сярод іх людзей-камертонаў, якія проста не ўмелі здраджваць, не была б такой відочнай гнюснасць большасці.

Вось Віталь... Каханы мой... Сэксот, што пісаў такія самыя сакрэтныя "адчоты" пра настроі ў інтэлігенцкім асяродку, як семдзесят гадоў таму некаторыя класікі беларускай літаратуры.

Гэта не перашкодзіла ім стварыць сапраўды цікавыя творы, пра юных рэвалюцыянераў і хцівых вучоных.

І не перашкаджае Корвусу быць прыгожым і ўпэўненым, гэткім рамантычным героем...

– Слухай, Віталь... Ці там Яўген... Сыдзі. Проста пакінь мяне цяпер адну.

Віталь трохі разгубіўся, потым прафесійна хутка ўвайшоў у ролю "ўсё разумею і дам уражлівай дзяўчынцы час звыкнуць да шчаслівых пераменаў лёсу".

– Памятаеш гісторыю пра Хведара Бельскага і Ганну Кобрынскую? Не? Бельскі ўдзельнічаў у змове супраць караля Казіміра Ягелончыка. Вяселле з юнай князёўнай Кобрынскай скарыстаў, каб завабіць караля ў пастку. Ягелончыка павінны былі забіць на паляванні. Змова правалілася, усіх схапілі, адзін Бельскі ўцёк да маскоўскага цара. А Ганна, жонка адной ночы, засталася ў закладніцах. Сямнаццаць гадоў Бельскі спрабаваў яе вярнуць, але польскі кароль адказваў: "Прыязджай і забірай". Гэта значыла аддаць сябе на верную смерць. Але Хведар усё-ткі не вытрымаў: кінуў усё і паехаў на радзіму... Але за перабежчыкам пільна сачылі... Бельскага арыштавалі маскоўцы і саслалі ў Галіч. Ён так і не з'яднаўся з жонкай. Урэшце ажаніўся. Праз дваццаць адзін год пасля першага вяселля выйшла замуж Ганна. А мы можам з'яднацца, Вірынейка. Нягледзячы ні на што. Ну, да заўтра!

Пяшчотна пацалаваў – я не знайшла сіл ні адказаць на пацалунак, ні адвярнуцца, і пайшоў.

Белы Трактарыст, які аднойчы кіраваўся да каханай і не заўважыў, як пераехаў яе коламі свайго механічнага дрыганта.

Двойчы.

Толькі брудная стужка з нацыянальным арнаментам на прыдарожным палыне трапеча.

Няма нічога пэўнага ні пад сонцам, ні пад поўняй, што шчыра свяціла ў маё вакно, прабіваючы наскрозь паласатыя ікееўскія шторы. Я дачытала расшыфраваны сшытак... Потым звярала тэкст па сайце... Grjaznyi Ubljudok даслаў туды пакуль не ўсё, папярэджваў чытачоў, што працяг будзе. Што ж, я гэты працяг ужо мела. Каментаў усё большала – Ублюдак відавочна выходзіў у лідары. Колькасць чытачоў хутка дасягне сарака тысяч, для “Ураборaса” рэкорд. Арыджынал дадавалі ў выбранае, слалі аўтару прызы – смешныя значкі ў выглядзе спартыўных кубкаў... Лаялі за рэйтынгавыя сцэны, дакладней, іх адсутнасць. Чым доктар Корвус і Яўгенія Равіновіч займаліся ў машыне, якая везла іх у турму, ды яшчэ ў адным кузаве з нясвежымі трупамі? Толькі пацалункамі, ці справа зайшла далей? Уй, як закіпелі жарсці! Свет фанфікшана, наіўны, дурны, сублiматыўны, як заўсёды, дапамог не абрынуцца ў бездань рэальнага адчаю.

Пад раніцу я ведала, што мне трэба рабіць.

Але напачатку належала заснуць тады, калі не хацелася, каб устаць тады, калі не хацелася, каб паспець туды, дзе быць не хацелася, карацей, на працу. Мабільнік адключыла. Ілюзорная абарона ад упэўненасці ілжэ-Віталя, што я нікуды ад яго не падзенуся. Працоўны тэлефон не падымала. Туга была такой невыноснай, што я два разы выходзіла ў залу над станцыяй, клалася тварам уніз і глядзела праз шкляныя ячэйкі падлогі, як праплывае пада мной мітуслівае бессэнсоўнае жыццё... Мы ж усе – толькі часткі сістэмы. Бязвольныя шрубчыкі, якіх аднойчы завінцілі ў належнае месца. Мы не ведаем нават, што за дэталі намі прымацавалі, і тым больш – як выглядае ўся канструкцыя і для чаго яна. Можа, танк, можа, міксер, можа, сістэма ўнітазнага зліву. Мы нічога не ў стане змяніць. Толькі зламацца.

Мент Паша павярнуўся да мяне са змоўніцкай усмешкай.

– Ну што, каліся, Ірыша... Калі замуж?

З чаго ён узяў? Паша незадаволена цыкнуў.

– А я думаў, усё ўдалося... Бегала такая закаханая, нетутэйшая... Эх, дарэмныя клопаты... Добра, скажу. Хлопец жа твой праз нашага палкоўніка папрасіў зрабіць табе сюрпрыз – маўляў, пасварыліся, даўно не сустракаліся, дык хоча, каб ты заўважыла яго на нашым маніторы. Ён разоў дзесяць туды-сюды хадзіў, у камеру зазіраў, а ты ўвагі не звяртала, пакуль я бляшанку з-пад фанты на падлогу не скінуў. Бачыла б ты сябе... Нібыта прывід табе з’явіўся.

Паша хмыкнуў і разадраў чарговы пачак чыпсаў.

– Таму я і здзівіўся, калі ты да другога хлапца пабегла. Ну, які на станцыі тры гадзіны сядзеў.

Сусед па пакоі захрумсцеў хімічнай бульбай.

– Ты не перайм айся. Галоўнае, выбраць правільнага мужыка. Які сам усё за цябе вырашыць.

Ага, вырашыць... Адразу ў закалот, тады – ва ўцёкі, а маладая жонка ў закладніцах.

А жонцы і наілгаць можна. Усё – мана, як пластыкавы магніцік у выглядзе канапкі з чырвонай ікрой. У карпарацыю можна дабрацца праз

Мацея, да Мацея – праз мяне, да мяне – праз былога мужа. Хуценька яго ўваскрэсілі, актывізавалі цётачку з запаветам. Вывучаючы слабасці Саламярэцкага, даведаліся, што доўга біўся над рукапісам Войніча. Вось і падсунулі сшытак, для прачытання якога спатрэбіцца ўжыць “Агату”. А змусіць незалежнага айцішніка да крадзяжу магла толькі я. Што і зрабіла.

Не люблю быць прадказальнай.

А мая мама не любіць сюрпрызаў.

Прынамсі, калі я прыходжу не папярэдзіўшы, злуецца і мітусіцца: не паспела згатаваць есці. Я ж галадаю, я ж сама не магу нічога прыгатаваць...

Вось і цяпер – заміж каб пагаварыць, я чакала, пакуль спякуцца катлеткі і асабліва пышная запяканка з разынкамі, рэцэпт якой мама засвоіла ў адным з дзіцячых садкоў, дзе працавала выхавацелькай.

Тут было царства парцалянавых сабак і пастушак. Бабуля скупляла на сціплую зарплату медсястры статуэткі, якіх пасля вайны багата навезлі з Германіі. Дзяўчынка ў белым фартушку на лавачцы корміць галубоў. Хлопчык у кароткіх штоніках пасвіць гусей. Два ласі ідуць, як... два ласі. Мама са студэнцкіх гадоў пачала папаўняць хатнюю калекцыю ўвогуле жахлівымі белымі савецкімі істуканчыкамі. Прыгажуня ў какошніку, рукі ў бокі, какетліва адставіла магутную нагу ў боце. Калгасніца са снапом і блазенскай чырвонай усмешкай. Белавокі матрос з гэткай жа ўсмешкай прысядае ў скоках. Бэ-э... Я люта ненавідзела тую парцалянавую мяшчанскую безгустоўнасць і пасля смерці бабулі, успадчыніўшы кватэру, не захацела пакідаць сабе нават маленькай вазачкі ў форме сэрцайка. А Корвус захапляўся ды тлумачыў, як гэты кіч цяпер цэніцца на антыкварным рынку. Меў рацыю Джэром К. Джэром: археолагі будучага, адкапаўшы блакітнавокага парцалянавага сабачку з камоды кансьержкі, панапісваюць кніг пра Эпоху Стваральнікаў Парцалянавых Сабачак.

Праўда, статуэткі ў матчынай кватэры былі ўсе пакоцаныя. Я і малой іх ненавідзела і цішком разбівала, таму гусіныя шыі і ласіныя рогі былі ў брунатных “каўнерыках” клею.

Нарэшцэ, ужо за гарбатай з аўсяным печывам, я задала пытанне, дзеля якога прыйшла і выцерпела запяканку з разынкамі:

– Мама, ты калі-небудзь чула такое імя – Люцыян Станіслававіч Корвус?

Не быць маёй маме ў адным ведамстве з маім мужам. Не ўмее хаваць узрушанасці. У яе нават лыжачка ўпала на стол, накрыты абрусам у белачырвоную клетку.

– Чаму ты пытаешся?

– Мне сказалі, гэта мой сваяк.

Мама нават устала, каб нервова патупаць туды-сюды па пакоі. Яе выбеленыя валасы, начасаныя ў самавітую прычоску, здавалася, сваціліся ад гневу.

– Сволачы! Колькі гадоў прайшло, а яны ўсё брудныя плёткі пускаюць! Вось, да цябе дабраліся!

Я не магла ўцяміць, што адбываецца.

– Пра каго ты гаворыш? Якія плёткі? Скажы ўрэшце, хто нам доктар Корвус?

Маці спынілася і ваяўніча выгукнула:

– Ніхто!

Нарэшце села, адсёрбнула гарбаты.

– Ты дарослая, зразумееш... Я ніяк не магла зацяжарыць. За дзесяць год мы з тваім бацькам усё пераспрабавалі. Нават да знахарак ездзілі.

Калі я была маленькая, у сям’і бацьку зусім не згадвалі. А як падрасла, зразумела, што менавіта яго персону мама і бабуля маскіруюць словам “ідыёт”. “Памятаеш, ідыёт гэтыя дзверы рамантаваў”.

І алюзія на князя Мышкіна тут была ніякім бокам.

Між тым таямніца майго нараджэння разгортвалася ў меладраматычны серыял, якія я таксама шчыра ненавіджу. Аднойчы маці параілі звярнуцца да доктара Корвуса, які працуе ў абласным дыспансеры дзесьці ў глыбінцы, спецыяліста па нервах. А ўсё ж ад іх, ад нерваў! Цудадзейны доктар сапраўды дапамог майму з’яўленню.

І калі ўспомніць пра запавет...

– Доктар Корвус... мой бацька? – вырвалася ў мяне.

Маці зноў раз’ятрылася. Запэўніла, што доктар у гэтым сэнсе ні пры чым. Прыстойны, інтэлігентны і грошай не браў. Была аперацыя. Сеансы псіхатэрапіі. Курс лекаў.

А вось мой рэальны бацька не быў упэўнены, што доктар ці нейкі іншы мужык ні пры чым. Я ж расла зусім ні да кога з сям’і не падобная. Крычаў, што я ці “падменыш”, ці вынік здрады. І сышоў.

– Не слухай ніякіх плётак. Ты мая дачка. Я цябе вынасіла, нарадзіла, вырасціла, ты мая радасць. Я ўдзячная Люцыяну Станіслававічу. Але пра дапамогу доктара Корвуса і я нікому не расказваю, і табе раю забыцца. Злыя языкі, як восы.

Мама пацалавала мяне ў макаўку...

А я цяпер зразумела, чаму яна так хваравіта аднеслася да прозвішча свайго будучага зяця, а пасля пераконвала мяне застацца Нарушэвіч.

У кожнай казцы герой па дарозе наведвае некалькі “пунктаў атрымання інфармацыі”: звар’яцелую яблыньку, старую канібалку, чараўніцу з ружовага саду, ката з залатым пратэзам замест ілба... Хто дарогу падкажа, хто чароўны меч падорыць, хто хаця б піражкамі пачастуе... У маёй казцы цяпер па сюжэце належала знайсці цудоўнага памочніка.

Але ісці па яго было так цяжка і сорамна, што я спынялася на кожным скрыжаванні – набыць асадку ў кіёску, паглядзець у новай крамцы майткі... У знаёмым пад’ездзе затрымлівалася на кожнай пляцоўцы, нібыта след ад раздушанага недапалка – вогненная руна, паўз якую не магу прайсці, не вывучыўшы. Перад чорна-дэрмацінавымі дзвярыма кватэры доўга шукала ключ, колючы пальцы невядома аб што, завалянае ў сумачцы, – ціснуць на кнопку званка было яшчэ страшней.

Пасярод хрушчоўскай аднапакаёўкі – пабеленыя сцены, кампутарныя прыбамбахі, гімалаі кніг на жалезных стэлажах – узрушана распавядала пра нешта прыгожая дзяўчына ў аліўкавым кардыгане, аздобленым лісіным футрам, у залацістых штоніках і батыльёнах на шпільках.

У батыльёнаў былі падэшвы чырвоныя, як лапы ў гусі.

“На лабутэнах, нах, і ў васхіцiцельных штанах...” – закруцілася ў галаве хуліганская песенька гурта “Ленінград”.

Дзяўчына змоўкла, азірнулася на мяне рэзка, аж чорныя бліскучыя валасы матлянуліся, як у салісткі французскага кабарэ-гурта “Крэйзі хорс”. У сініх, акуратна падведзеных вачах раптам запалілася такая нянавісць, што я міжволі адступіла... І тут жа давялося прыціснуцца да сцяны, бо незнаёмка выбегла з пакоя, ледзь не збіўшы мяне з ног. Яе шпількі адчайна

працокалі па падлозе, бо гаспадар не прызнаваў дываноў, тады па лесвіцы, і цяпер рэха стукалася ў мазгі, як марзянка з карабля, што тоне.

А гаспадар быў тут жа. Стаяў, прываліўшыся да кампутарнага стала, і моўчкі, без усялякіх эмоцый, пазіраў на мяне шэрымі вачыма. Шырокія плечы абцягвала чорная майка з белай выявай Кафкі, такая ж, як ёсць у мяне. Паўзверх Кафкі звісаў крыжык, сплецены з чорнага шнура – набытак з чарнагорскага горнага манастыра. Рукі скрыжаваныя на грудзях, запясці абвітыя фенечкамі, кончык мезенца абрэзаны...

– Што ты тут забылася?

Прагучала так халодна, што я апусціла вочы... На падлозе бялелі два пакеты з супермаркета, набітыя прадуктамі. Гэта ж дзеўка ў лабутэнах, мусіць, прынесла... З аднаго пакета тырчэў хвост вэнджанай рыбы ў вакуумнай упакоўцы, з другога высоўваўся багет – пах свежай выпечкі быў такі мірны...

Але спакою не было і блізка. Аж у вушах звінела ад напружання. Я адышлася да кніжнай паліцы, правяла пальцам па карэньчыках... Плутарх, Борхес, Урсула ле Гуін...

– Калі ад'язджаеш за мяжу? Рэчы сабраў?

Язык ледзь варочаўся ў перасохлым роце.

– Я нікуды не еду.

Я ўтаропілася ў спакойнае аблічча, зарослае шчэццю, і прамармытала:

– Але ў цябе тады будуць праблемы.

Мацей абыякава пацiснуў плячыма – так мог рэагаваць капітан толькі што патанулага карабля на звестку, што яму дзесьці ў далёкім горадзе выпісалі штраф за няправільную паркоўку.

– Я звольніўся з працы.

У мяне перахапіла дыханне.

– Цябе... здалі?

– Я сам здаўся, – Салома хмыкнуў. – Не люблю, разумееш, калі мною маніпулююць... Абрыд-дла.

Я не магла падняць вочы.

– Цябе ж цяпер знішчаць...

– Знішчае мана і баялівасць, – цвёрда заявіў былы аднакласнік. – Гэта я яшчэ ў школе засвоіў. Саслужыўцы т-твайго К-корвуса паставілі мяне перад выбарам – п-працаваць на іх, гэта значыць, шпіёніць у сусветнавядомай карпарацыі, альбо кіраўніцтва д-даведаецца, што я скраў і прадаў новую п-праграму. А я п-паехаў у сваю фірму і прызнаўся, што незаконна вынес “Агату”. Узяў усё на сябе, каб не п-падводзіць Марго...

Дык гэта ж Марго зараз і прыходзіла! Прыносіла прадукты апальнаму калегу... І яна ж, закаханая ў яго, дапамагала здабыць часткі “Агаты”... А тая праграма каштуе, мабыць, мільёны! Я ўспомніла галівудскія баевікі пра ўсемагутныя карпарацыі, якія праштрафленых супрацоўнікаў акулам скормлівалі...

– Цябе не засудзяць?

– Д-дзякую за клопат, – гэта прагучала з належнай доляй сарказму. – Але я ведаў, на што іду. Той варыянт “Агаты”, якім я карыстаўся, я сапсаваў. Ён з кодам самазнішчэння. Так што сябрукоў Корвуса чакала расчараванне. І, дарэчы, – Мацей выпрастаўся, адышоў ад стала і чамусь асцярожна патыкаў наском скуранога пантофля ў адзін з пакетаў, нібыта баяўся, што там адгукнецца штосьці жывое, – можаш не п-пераймацца з-за

нашай дамовы. Я ведаў ад п-пачатку, што нікуды ты са мной не збіралася ехаць. П-проста бачыў, што не можаш жыць без свайго Корвуса... Ну, ты яго атрымала. І я п-пазбавіўся ад функцыі сурагату. Бывай. Будзь шчаслівая.

І ўсеўся за комп, дэманстратыўна заварушыў мышкай, стылізаванай пад бэтмабіль. На загрыўку Мацея шыльдачкай "не турбаваць" пад чорным шнурком крыжыка шчэрыла лацінскія літары татуха. І на маніторы па чорным фоне апантана беглі белыя лічбачкі і літаркі, быццам уцякалі ад кампутарнай Гадзілы.

Я моўчкі стаяла і глытала слёзы, выдатна разумеючы, што заслужыла гэтую абыякавасць. Яшчэ і далей працягваю чалавеку гадзіць... Зараз вось прыгожую дзяўчыну сагнала, з якой ён быў бы шчаслівы... Без мяне ён увогуле даўно б з'ехаў.

Мацей засяроджана працаваў, надпіс на патыліцы "Аднолькава вартыя ўхвала ад годных і ганьба ад нягодных" сведчыў, што лавіць няма чаго. А я ўсё не магла скрануцца з месца. Чагосьці ўспомнілася, як валяліся на гэтай бела-чорнай канапе, елі крабавыя палачкі і глядзелі фільм "Сны Акіры Курасавы". Там ёсць класная сцэна пра вясёлае пахаванне ў вёсцы. Людзі жывуць пастаральным жыццём, і, калі паміраюць, гэта свята – бо добры чалавек адправіўся ў добрае месца. Магу бясконца пераглядаць, як рухаецца пад нейкі магічны рытм яркая працэсія, час ад часу выдыхаючы "Хэ"...

Нарэшце Мацей не вытрымаў майго маўклівага нахабства і развярнуўся ў крэсле.

– Ну? Расказвай. Ч-чым яшчэ трэба памагчы?

Ён зноў пачаў часта заікацца... Я праглынула даўкі камяк у горле і нясмела працягнула чырвоную пластыкавую тэчку.

– Можаш гэта зараз прачытаць? Ты ж хутка чытаеш... Тут тэкст са сшытка Люцыяна Корвуса і фанфік, які мне два месяцы дасылаюць па частках на сайт. І... яны аднолькавага зместу.

Уздыхнуў, пацёр даланёй няголены твар.

– "Хадзі т-тудой, хадзі сюдой. Мо святло ты і заслужыш, ды ніяк жа не спакой..." Давай.

Я ледзь утрымалася ад нервовага смяшка: Салома працытаваў нашу ўлюбёную песеньку з рэфрэнам "Е...тым нет покоя".

– Чайнік па-ранейшаму на кухні. Заварку мусіла п-прынесці Марго.

Гэта Салома прагаварыў, паглыбіўшыся ў тэкст. Я падхапіла два пакеты, прынесеныя не мной, і пайшла на кухню чалавека, якога пазбавіла ўсяго, чаго ён цяжка дабіваўся ўсё жыццё.

На гарбату, якую я яму прынесла, Мацей зыркнуў паўзверх папер, як на зелле са скалапендраў. Дасюль гэта ж ён заўсёды падносіў мне кубкі з гарбатай, кавай, какавай і свежавыцiснутым сокам. Мае шчокі запалалі. Кубак сапраўды выглядаў вартым жалю выбачэннем за зламаны лёс.

Наступныя дзве гадзіны я ціха прасядзела ў фатэлі, складваючы на смартфоне пасьянсы. Ну проста нічым больш плённым ды разумным не ў стане была заняцца. Маю няўклюдную спробу штось падрыхтаваць на вячэру – гаспадыня, сем гародаў, адна дыня – Мацей пасля першага бразгання рондалем перапыніў злоснай рэплікай "Мне кампенсацыі не трэба. Не мітусіся".

Калі неба між салатавых палосак жалюзі зрабілася цёмна-шэрым з кропляй юлёвага, Саламярэцкі сунуў аркушы назад у тэчку.

– Дык ты паедзеш са мной у Апошні Прытулак? – напружана задала я пытанне, дзеля якога, уласна кажучы, і прыехала. Салома задумліва пашкроб пазногцем чырвоны пластык тэчкі.

– Чаму ты раней мне не гаварыла, што табе гэты аповед дасылаюць?

Я замармытала пра нелюбоў Мацея да майго хобі і фанацкай творчасці...

– Ты захавала ў сваёй скрыні лісты Бруднага Ублюдка? Адчыні... Паспрабую вылічыць, адкуль яны дасланыя.

Я зноў пачувалася ідыёткай. Магла ж звярнуцца раней, але старанна ахоўвала таямніцу зніклага мужа, як курыца – яйка-баўтун. Пальцы Мацея лёталі па клавіятуры, нават падкарочаны мезенец не дазваляў, каб яго шкадавалі, і быў такім жа спрытным, як іншыя.

– Спадзяюся, адрас не абаронены якой спецслужбай... – бурчэў Мацей. – Калі пра Корвуса твайго шукаў – увесь час напорваўся на такую абарону, быццам прадзіраешся праз мільён паўсталых зомбі з адным пагнутым відэльцам у якасці зброі... Нат калі прарвешся – уся інфармацыя зачышчана. А, не, твой фікрайтэр, здаецца, не гуру. Але і не ламер. Чакай...

Твар Саломы стаўся натхнёным, як у хармайстра, калі ягоны саліст нарэшце ўзяў до дыез. На экране высвеціўся кавалачак геаграфічнай карты з маркерам. Яшчэ адно набліжэнне... Яшчэ... Чырвоная кропля вострым канцом уніз падала на саменькі цэнтр Волатавай пушчы непадалёк ад Старавежска.

– Вядома, запраста можа быць пагрэшнасць... – мармытаў Мацей, спрабуючы зрабіць карцінку больш яснай. – Ведаеш, нават у Гугле няма дакладнага здымка гэтага месца, нібыта спадарожнікі над ім не лётаюць. Паказвае лес... Непадалёк піянерскі лагер... Але штосьці мне падказвае, што менавіта тут мусіць знаходзіцца зачынены туберкулёзны дыспансер. Падобна, твой Брудны Ублюдак ці сядзіць тут, ці схітрыўся, каб сігнал праходзіў праз тое месца. Сімвалічна, так сказаць.

Салома павярнуўся і ўтаропіўся ў мае вочы.

– А цяпер скажы, чаму ты не з п-панам Капытко. Ён... цябе п-пакрыўдзіў?

Аж голас затрымцеў ад падазрэння і блізкага гневу...

Я хуценька запэўніла, што не. Проста занадта доўга не бачыліся, цяпер як чужыя... Трэба час на прывыканне... Пагаварылі, разышліся. Успомніўшы “размову” з Віталём на змятых прасцінах, сумелася.

– Сп-падзяюся, мне не трэба ўладжваць справу пра яшчэ адзін патоплены байк?

Ну навошта я ў свой час распавяла Салому пра свой няўдалы раман...

– Тады давай далей без нед-дагаворак. Калі ты шукала свайго ненагляднага Віталя – я разумеў т-твой матыў. А цяпер?

Я пастаралася быць сумленнай найперш з сабой.

– Ты ж прачытаў да канца, так? Да вяртання ў Апошні Прытулак? Не павінна на тым скончыцца. Мне патрэбныя адказы. Дзеля чаго, урэшце, сапсавалася і маё жыццё, і тваё. Я мушу...

– Ты мусіш усвядоміць, што адказы т-табе па любому не сп-падабаюцца, – аблічча Мацея раптам пасуровела, і таўсманы хлопчык-батанік з 4-га “А” знік назаўсёды. – П-помню твае пафасныя развагі, што п-праўда заўсёды ўсплыве, і трэба аднаўляць гістарычную справядлівасць. А няма тае сп-правядлівасці!

Мацей адкінуўся на крэсле і скрыжаваў рукі на грудзях, паўзверх выявы Кафкі, так што выглядалі толькі вырачаныя вочы пражскага мізантропа.

– Думаеш, чаму дасюль не адкрылі таямніцу гібелі Купалы? Чаму даследчыкі лёсаў рэпрэсаваных увесь час сутыкаюцца з незразумелым супрацівам – фонд зачынены, тэчкі зніклі, спісаў не існуе... Таму што ўсё працягваецца. Няхай п-пакаленне катаў адыходзіць – жывыя іх нашчадкі. Дзеці. Унукі... Звычайна людзі яны не п-простыя, пры ўладзе. І вось, дапусцім, ты даведваешся, што твой родны дзед страляў людзей у Курапатах. Чаму такога не можа быць? Быў бы пад п-прысягаю, загадалі – і страляў бы ворагаў народа, як на фронце фашыстаў. І як бы ты аднеслася да таго, што хтосьці хоча інфармацыю пра гэта, з фотаздымкамі і дакументамі, са сп-пісамі тых, каго твой продак забіў асабіста, надрукаваць у газеце, вывесіць у сецівe. А ў цябе тое ж п-прозвішча. І ты заўсёды ганарылася дзедам, расп-павядала ўсім, што ён герой. А ў яго вось якая старонка біяграфіі... Як табе тады жыць? А такіх гіпатэтычных дзядоў – мільёны. І ў іх мільёны нашчадкаў. І мільёны п-прадаўжальнікаў іх справы. Якія хочуць быць упэўненымі, што іх саміх у свой час не прыцягнуць да адказу нашчадкі сённяшніх ахвяраў. Гэтыя людзі п-проста сумленна выконваюць свой доўг. У іх прысяга. Як у твайго мужа.

Па маёй спіне прайшоўся халодны ветрык.

– У мяне самога адзін п-прадзед быў вайскоўцам, а другога ў 1937-м загналі ў Сібір ды закатавалі, – нечакана прызнаўся Саламярэцкі. – У сям'і пра гэта не прынята было гаварыць. Я выпадкова даведаўся ад бабулі. І тое яна сказала, што яе бацьку “п-паслалі працаваць у Сібір, а там бандыты яго забілі”. Я п-пачаў расшукваць. Хакнуў некалькі архіваў. Сфабрыкаваная справа – стаматолаг раённай п-паліклінікі выявіўся японскім шпіёнам. А заадно ангельскім. Таму што п-падчас п-ператрусу ў кватэры знайшлі томік Бёрнса ў арыгінале. А калі сядзеў у турме ў Томску, у іх камеру падсадзілі п-прафесійную “наседку” гарадскога НКУС. Той называўся прадстаўніком польскага генштаба і вербаваў аднакамернікаў у “П-партыю народных герояў”. Даведзеныя да адчаю людзі, якія не маглі больш выносіць сваю бездапаможнасць, лавіліся лёгка. Як і мой п-прадзед. Следчым асабліва спадабалася, што п-прозвішча “Саламярэцкі” лёгка кладзецца на канву “польскай змовы”. П-побач з японскай і ангельскай.

Манітор без увагі гаспадара “заснуў”, і на ім пачалі звівацца, нібы ў агоніі, рознакаляровыя змеі.

– Дзеда расстралялі. Я ведаю, хто з калег напісаў на яго данос. Ведаю імёны следчых. І як звалі стукача – Іван Хведаравіч Бушнеў. Ведаю, хто яго ўнукі. Але што я выпраўлю? Што тут увогуле магчыма выправіць?

Салома задумліва круціў на запясці стыльныя скураныя фенечкі, пад якімі хаваўся белы шнар. Я прашаптала:

– І ўсё-ткі трэба збіраць імёны. Хаця б збіраць. Тады і нашы сучаснікі будуць ведаць, што іх справы не знікнуць, ні добрыя, ні кепскія. Гэта так страшна – калі знікае памяць. Ведаеш, я ж яшчэ сем гадоў таму пачала маляваць партрэты рэпрэсаваных пісьменнікаў. І калі перабірала архіў Тамары Цулукідзэ, грузінскай актрысы, якая ў высылцы выйшла замуж за беларускага празаіка Алеся Пальчэўскага, знайшла аркушык... На ім Цулукідзэ пасля пекла сталінскіх турмаў ды лагероў напісала імёны і прозвішчы сваіх катаў. Жанчын-следчых. Каго магла ўспомніць. Часам толькі імя, ці нейкую прыкмету. “Падольская (імя не памятаю, муж у яе Кулагін)”... “Вера Марцірасян”... “Ніна Цэрэтэлі, кат”... Апошняе імя – буйным, няроўным почыркам, думаю, ад узрушэння. Я за гэтым аркушыкам

столькі пабачыла... Дні ў карцэры, страшныя допыты, адчай і бяссілая нянавісць да садыстак... І гэты аркушык – уся помста, якая аказалася магчымай. Пракрычаць у вечнасць: гэта тварылі яны! Не забудзьце!

Пантофлі багіні памяці Мнемазіны пратупалі свінцовымі абцасамі дзесьці побач, і Саламярэцкі ўздыхнуў.

– Добра, заўтра паедзем. Я разумею, з мужам пасля ўсяго, што высветлілася, у такую вандроўку табе ехаць... няёмка. А ты ўсё адно пацягнешся, сама, у лес... Усё, прабач, мне трэба адну халтурку закончыць. Заўтра а дзявятай выедзем.

Мацей зноў адвярнуўся да кампа, змеі на маніторы зніклі, але я адчувала па ягонай спіне – напружаны, трывожны... У ягоных словах я вычула, што ён нібыта шукаў апраўданняў, каб не выглядаць смешным, што пасля ўсяго па адным маім кіўку зноў гатовы служыць...

А мне зараз вяртацца ў сваю кватэру... Куды ў любы момант можа прыйсці мой каханы муж.

– Мацей, можна я ў цябе пераначую?

Сказала і сама спалохалася. А што, калі мой верны паладын няправільна зразумее, падумае, што я гатовая выкупіць віну больш, чым кубкам гарбаты...

Саламярэцкі павольна павярнуўся і ўтаропіўся ў мяне, як у праграмны глюк.

– Мне проста занадта складана зараз... – мармытала я, паціху адступаючы да дзвярэй.

– Рэчы твае ў п-пакеце, у белай шафе, – прамарудзіўшы, прамовіў роўным тонам Мацей. – Зубная шчотка і начнушка таксама там. Бялізну ведаеш дзе браць. Мне п-пасцялі на крэсле. Але п-папярэджваю, што буду сядзець яшчэ доўга, заказчык чакае.

Ясна, грошы ж трэба зарабляць...

Я ляжала тварам да сцяны, на якую скрозь жалюзі прасявалася святло вулічных ліхтароў. Побач ціха стукаў па клавіятуры Мацей, нібыта адбівалі няроўны рытм кроплі, што падаюць з даху пасля дажджу. А Белы Трактарыст выехаў на туманісты поплаў, каб паклікаць сваю каханую, ды забыўся яе імя, нат апошнюю літару. Закінуў раз'еты на беларускай бульбачцы твар да поўні і замычэў, застагнаў... А раптам усё-ткі пачуе ды прыдзе тая каханая, бязмоўная, безыменная, тутэйшая.

## Раздзел дзясяты. ПРА АСАБЛІВАСЦІ БЕЛАРУСКІХ ТУСОВАК

Сайт “Пад знакам Ураборaса”.
Назва фанфіка: Ордэн захавальнікаў.
Фандом: арыджынал.
Жанр: агнст.
Памер: максі.
Статус: закончаны.
Рэйтынг: NC-17.
Катэгорыя: гет
Аўтар: Grjaznyj ubljudok.
Бета: Kobaabba.
Папярэджанні: асабліва жорсткія сцэны.
Анатацыя: Ты думаў, што ты на дне, але нехта пастукаўся знізу.

Каментары. *Fljor Delakur:* О, нарэшце гетная сцэна. Толькі незразумела, якога рэйтынгу. Дык доктар і дактарыца пераспалі ў машыне ля трупаў ці толькі пацалаваліся? Хачу графічны сэкс!

*Racional*. Fljor Delakur, гэты арыджынал не для тваіх мазгоў. PWP шукай у іншых фанфах. Тут агнст.

*DoktorHaus*: Аўтар такі схітрыўся паказаць у адным раздзеле ўсіх святароў з гэтага Ноева каўчэгу. Толькі дужа схематычна. Аўтар, пракансультуйся наконт рабіна. Хто можа быць рабінам, якія ў іх правілы жыцця.

*Racional*: Дурацкая магрэтка так і засталася нявысветленай. Ураженне, што аўтар сам не ведае, як яе прыстасаваць да сюжэту.

*Проста Локі:* У мяне пытанне: чаму ўсе героі не ўцяклі з Апошняга Прытулку? Чаго вярнуліся, сядзелі і чакалі, пакуль іх арыштуюць? Што за мазахізм?

*DoktorHaus*: Локі, я б таксама не кінуў сваіх цяжкіх пацыентаў. Нават пад пагрозай смерці.

*Трандуіл*: хня фанф адмін выдалі фанф Grjaznyj ubljudok

## Раздзел пяты

Малюнкі былі адзін страшней за другі: старанна расфарбаваныя каляровымі алоўкамі лёгкія, пячонка, вантробы... І не знаўцу зразумела, што ўсё хворае, пачварна змененае, у чорных плямах і зялёных прожылках...

На вокладцы альбома, які ніяк не спалучаўся з утульным абрусам, вышытымі валошкамі, змрочна выштукоўваліся словы “Дэфармацыя ўнутраных органаў у выніку працяглага галадання. З дадаткам малюнкаў і схем. На падставе практычных даследванняў. Доктар медыцынскіх навук, загадчык 3-га аддзялення санградка Затока Люцыян Станіслававіч Корвус”.

– Уражвае! – чалавек з кароткай чорнай барадой, у шэрым швэдары з тоўстых ваўняных нітак на два памеры больш, чым належала, з павагай пагладзіў па вокладцы страшнаватую манаграфію. – Але вы ўпэўненыя, Люцыян Станіслававіч, што вашу працу не спасцігне тое ж, што даследаванне пра пелагру? Таксама было выдатнае, з малюнкамі. Як вы здорава тады назвалі сутнасць пелагры: “тры Д”. Так у народ і пайшло. Дызентэрыя, дыстрафія, дэменцыя. А ў Маскве паклалі ў архіў. Нат падзякі не даслалі.

– Добра яшчэ, тэрмін высылкі не павялічылі, – спакойна адказаў хударлявы чалавек, што сядзеў па той бок стала. У яго таксама была кароткая барада, толькі светлая, трохі запалыя светлыя пранізлівыя вочы і швэдар – чорны.

– Самі пагадзіцеся, Уладзімір, гэта лагічна – праігнараваць працу пра хваробу, якая ўтвараецца ад нішчымнага харчавання, таму што ў Савецкім Саюзе не можа быць голаду.

На сцяне з магутных сібірскіх бярвенняў мірна цікалі ходзікі. Дзве бронзавыя шышкі на ланцугах, што звісалі пад цыферблатам, нібыта асуджальна пазіралі на мітуслівы маятнік, які так і не навучыўся, як яны, паважна завісаць у прасторы, а ўсё даганяў і даганяў чужы час. Побач, на магутным круку, убітым у мёртвае цела сасны, вісеў на плечыках акуратна распраўлены і выгладжаны медыцынскі халат. Пакой быў дзіўны, падзелены на дзве часткі сіняй паркалёвай занавескай, зараз напалову адсунутай. З аднаго боку ад яе грувасціліся кніжныя шафы з класікай

марксізму-ленінізму, аптымістычна шчэрыліся плакаты – “У здаровым целе – здаровы дух”, “Фізкультура – лепшы доктар”. У куце, як фанерныя крылы пралетарскіх анёлаў, састаўленыя транспаранты... Тыповы “чырвоны куток”. Так і мроіцца, як румяныя кабеты, прытупваючы па драўлянай падлозе, выпяваюць:

– Мяне мілы правадзіў
Да зялёненькіх рабін.
Усіх трацкістаў корні знішчым,
Не застанецца ні адзін.

А па другі бок занавескі – сціплае жытло. Стол, тапчан, няхітры посуд на паліцы. Падобна, тутэйшаму доктару вылучылі куток у службовым памяшканні.

– Пра голад лепш не згадвайце, Корвус, – сціснуў зубы суразмоўца. – Я ж з Украіны. Памятаю 1933-ці. Счарнелых людзей з рукамі-трысціначкамі.

– І я памятаю такіх – на Беларусі.

Аўтар страшнага даследавання адкінуўся на спінку пашарпанага венскага крэсла, яшчэ, мусіць, з царскай эпохі.

– Мой бацька быў доктар. Ён прыязджаў з камандзіроўкі па вёсках і не мог ні есці, ні спаць... Плакаў. Лаяўся з мачыхай, якая казала пра кулакоў. Так міраедам і трэба. А ён усё паўтараў: дзеці, гэта ж дзеці, Валя! Звычайныя сялянскі дзеткі з распухлымі жыватамі. Яны паміраюць з непражаванай карой у роце... А потым, калі я быў студэнтам... – Люцыян Станіслававіч пацёр пальцам пераносіцу, якая відавочна была калісь зламаная. – Практыка ў калгасе “Святло Ільіча” на Віцебшчыне... І першыя пацыенты – жанчына і хлопчык, заварот кішак. Малодшы сын у сям’і памёр ад голаду. Звар’яцелая кабета для старэйшага, яшчэ жывога, прыгатавала мяса трупа... Не, прабачце, Уладзімір, не хачу ўспамінаць нават цяпер. Што я мог зрабіць? Толькі аддаць усё, што меў. Людзі капаюць карані дзядоўніка. У хаце маіх гаспадароў дзеці на печы гуляюць у гульню, у каго большая ямка ў лобе. Яны апухлі ад голаду, і націскалі адзін аднаму пальцам на лоб, каб у тканках утваралася выёміна... А медпункт абклеены плакатамі “Захаваем ураджай для дзяржавы!”

Той, каго звалі Уладзімір, устаў з-за стала і падышоў да этажэркі, над якой вісеў партрэт Правадыра. Пастаяў, счапіўшы рукі за спінаю, узіраючыся ў вочы партрэта. І раптам выгукнуў з тужлівай нянавісцю:

– Паўгады ўжо як гэты вупыр памёр. А партрэт усё вісіць. І мы тут сядзім... Крымінальнікаў паадпускалі. Швэндаюць бандамі. А нам толькі тэрмін напалову скасцілі. Добра, хоць вам, Люцыян Станіслававіч, далі вызвольную. Хоць як без вас будзе бальніца – не ведаю.

– Я ж паабяцаў – затрымаюся, пакуль не дашлюць медперсанал, – доктар уздыхнуў. – А перамены ўсё роўна непазбежныя. Дагрызуцца ў Крамлі за ўладу, і ўсё. Лагернае начальства вунь якое ўсё разгубленае – не ведаюць, як ставіцца да зэкаў. А раптам заўтра ўсіх вызваляць, і якісь асабліва важны зноў стане вялікім начальнікам? А яны яму зубы ўласнаручна выбівалі. Паедзеце і вы на радзіму...

– Хто там мяне чакае...

Чарнабароды зноў усеўся за круглы стол, накрыты белым абрусам з вышыванымі валошкамі.

– Вас тут яшчэ не было, а другія спецпасяленцы памятаюць, як мяне

халоднай вадой адлівалі. Былая жонка паведаміла, што наша адзіная дачка памерла. Ад менінгіту. На пяці аркушах распісала – як малая захварэла, пакутвала, памірала. Алічка мая. Донечка, рамоначак мой... Я тады і пасівеў.

Скроні Уладзіміра сапраўды былі зусім белыя, быццам хтось мазануў фарбай па чорных яго валасах шырокім пэндзлем.

– А потым высветлілася праз агульных знаёмых, што Надзя мне зманіла. Алічка жывая-здаровая. Любіць новага татку. А каб стары татка, лагернік, не перашкаджаў, не ўздумаў лезці ў наладжанае жыццё, нат калі раптам вызваліцца, былая мая жоначка скляпала ліст...

Мужчына грукнуў па стале, ажно манаграфія пра голад пасунулася, нібы ў спалоху.

– Але перашкаджаць ім сапраўды не варта, – спакойным тонам зазначыў Уладзімір. – Так што вяртацца ў Кіеў не збіраюся. А геолагі трэба паўсюль.

Ціканне ходзікаў пункцірам пракрэслівала цяжкое маўчанне. А зусім разбілі яго дзверы. Расчыніліся з грукатам, нібыта ўпускалі разбойніцкую гурму. Але насамрэч у пакой забегла невысокая дзяўчына ў плюшавым палітончыку і белай пуховай хустачцы. Ясныя сінія вочы, шырокія выліцы, ружовыя шчокі... Хоць зараз на плакат. Праўда, для жыццярадаснага плакатнага тыпажу патрабаваўся кірпаты задзірысты носік, а ў госці нос быў танкаваты і нават з гарбінкай.

– Люцыян Станіслававіч, даслалі адказ на запыт! Пра вашу знаёмую!

Знаўца голаду і пелагры неяк вельмі хутка і зграбна пасунуўся наперад, быццам на хвілю з-пад засяроджанага аблічча паказаўся дужы драпежны звер, прагна выхапіў складзены аркушык з рук дзяўчыны.

– Дзякуй, Лізанька!

Суровы твар мужчыны палагаднеў, вочы хутка бегалі па радках. Худыя шчокі паружавелі, як ад ліхаманкі.

– Яна ўвесь год была побач, у Хантлагу. Каб жа я ведаў! А ў наступны чацвер яе выпускаюць! – голас Люцыяна Станіслававіча трымцеў ад радаснага хвалявання. – Амністыя. Якраз паспею дабрацца да лагера...

Дзяўчына радасна ўсміхнулася, але неяк адразу пасумнела. Сінія вочы зірнулі няўпэўнена.

– Вы ж вернецеся сюды, доктар?

Мужчына няўважна кінуў, думкамі ў іншым.

– Не ведаю, Лізанька... Я даўно ўжо выракся штось планаваць.

Чарнабароды геолаг раптам пляснуў у ладкі, усміхнуўся шырокімі вуснамі:

– Слухайце, таварыш Люцыян, гэта трэба адзначыць! І амністыю, і ўсе перамены... Дзе вы трымаеце спірт?

Доктар нейкі час марудзіў, а потым махнуў рукою:

– Ат, давайце... Экстраных выпадкаў няма, цьху-цьху... Абход увечары Анціпаўна правядзе. У мяне дзесьці сухары яшчэ былі, і нават скрылёк сала.

З абдоймаў змятай, у тлустых плямах “Праўды” сапраўды дастаўся бела-ружовы скрылёк памерам з партсігар.

– Ого, адкуль такое багацце, доктар? – галодна выскаліўся геолаг.

– Той паляўнічы прынёс, у янотавай шапцы, якога я ад заікання вылечыў, – трохі збянтэжана патлумачыў Корвус. – Вы ж ведаеце, я ў хворых нічога не бяру. І яго адправіў з норкавымі скуркамі... А тады агледзеўся – ляжыць скрутак на падваконні. І пахне... Большую частку аддаў людзям, але зграшыў. Пакінуў для сябе лустачку.

Хутка на стале, з якога прыбралі манаграфію пра наступствы голаду, апынуліся тры алюмініевыя кубкі ў кампаніі са згаданымі сухарамі і танютка парэзаным салам на парцалянавым сподку, прыкрашаным чырвоным пеўнікам. За вакном загуў восеньскі сібірскі вецер, сціскаючы ў нявветлых абдоймах арабіну, на якой крывавых гронак засталося больш, чым рудога лісця.

– Ну, за волю! – падняў свой кубак чарнявы сіваскроневы Уладзімір.

– За справядлівасць! – строга дадала Ліза. – І маглі б наліць мне больш за чайную лыжку. Пакуль зімой з пасёлка сюды, у санчастку, дабягу, скалею часам так, што толькі глыток спірту ратуе.

Сказана з выклікам, на хмыканне – маўляў, маладая яшчэ вадкі агонь ужываць.

– За тых, хто не дажыў... – ціха прамовіў Люцыян Станіслававіч і кульнуў свой кубак, нібы берсерк перад бойкай адвар з мухаморчыкамі.

– Дзіўна нам будзе, мясцовым, калі вы ўсе з'едзеце, – задумліва прагаварыла расчырванелая Ліза. – Мы прывыклі, а калі ўдумацца... У маленькім сібірскім пасёлку ў доме культуры вядзе гурток заслужаная артыстка, у бальніцы прымае хворых не проста доктар, а доктар навук, у школе выкладае сапраўдны пісьменнік, а ў канторы налічвае працадні прафесар эканомікі. Вы ведаеце, Люцыян Станіслававіч, вас завуць Чараўнікам з Затокі.

– Экзатычныя птушкі ў клетцы... – прамармытаў доктар. – Ці перамруць, ці разлятуцца. Нічога, Лізанька, затое колькі ў вас цікавых знаёмстваў будзе па ўсім Савецкім Саюзе! На вашу дабрыню ніхто не забудзецца. Калі я ўсё-ткі вярнуся да даследаванняў... – у Корвуса ажно голас сарваўся ад такога яшчэ нядаўна фантастычнага ўяўлення, – дапамагу вам паступіць у медінстытут. Спадзяюся, не ўсе мае былыя калегі... скурвіліся.

– Дзякую, Люцыян Станіслававіч! – Ліза круціла ў пальцах сухар, так і не надкусіўшы. – Але гэта наўрад. Паходжанне ў мяне не тое. Уладзімір Пятровіч вунь ведае, ён даўжэй за вас тут... – кіўнула дзяўчына ў бок чарнявага, трохі прамарудзіла, але працягнула прызнанне. – Мае бацькі прыехалі сюды яшчэ ў дваццаць сёмым. Бацька быў начальнікам аховы партыі зняволеных, а маці – адной са зняволеных. Ён – з вёскі на Пскоўшчыне, а яна – графіня. Сапраўдная. З Ленінграда. Генрыета Бястужава-Штольц, – іранічна працягнула арыстакатычнае імя дзяўчына. – У мяне, дарэчы, нос – як ва ўсіх гэтых граф'ёў на партрэтах, пачынаючы з чатырнаццатага стагоддзя. І вось – тайга. Партыя контррэвалюцыянераў. У асноўным – раскулачаныя. Пры іх ахова. А тут нічога няма. Трэба будаваць жытло. Здабываць ежу.

Ліза абвяла пальцам валошку, вышытую на абрусе.

– Першую зіму ледзь выжылі, палова, мабыць, паўмірала... А маці мая яшчэ ў Ленінградзе, калі вучылася ва ўніверсітэце, скончыла курсы сясцёр міласэрнасці. І тут ратавала, лячыла... А бацька мой... Ён сумленны. Ён таксама ратаваў. Сам бярвенні з зэкамі цягаў для баракаў. На паляванне хадзіў – ён добры паляўнічы.

– А хіба людзі з Затокі не дапамагалі? Лагер жа побач з пасёлкам... – папытаўся Уладзімір.

– Хто ж будзе дапамагаць ворагам народа? – Ліза прамовіла гэта, як само сабой зразумелую ісціну. – Уявіце... Вось ходзім па беразе сажалкі, у ёй кішыць жыццё. Мы праз ваду можам бачыць, як там адзін аднаго ядуць, гінуць нейкія гідкія стварэнні... Ніхто ж не палезе ў брудную ваду ўмешвацца ў іх справы.

Гэта прагучала страшна – і мужчыны не насмеліліся запярэчыць. Бо многа трэба перажыць, каб прыйсці да такіх спакойных словаў... Сінія вочы Лізы, аднак, засталіся яснымі.

– Яны праўда адно аднаго пакахалі, тата і мама. Я нарадзілася, калі мама яшчэ тэрмін адбывала. Але і потым, калі сюды, у Затоку, перасяліліся... Кляйно. Мяне нават у піянеры не хацелі прымаць. Так што ў інстытут...

Доктар Корвус упарта прыкусіў губу.

– У Маскве, Ленінградзе – магчыма, будуць складанасці... Але ў Мінску заўсёды з гэтым было прасцей. Да таго ж, спадзяюся, настануць сапраўдныя перамены.

Ліза сумна ўсміхнулася.

– Дзякую, Люцыян Станіслававіч, за клопат. Але вам адразу трэба са сваімі бедамі разабрацца. Гэтая вашая знаёмая, да якой вы паедзеце... Яна вам хто?

Голас дзяўчыны чамусь гучаў трохі напружана, нібыта яна баялася пачуць адказ. Доктар трохі сумеўся пад настойлівым сінім позіркам.

– Я ў школе выкладаў, Яўгенія – мая былая вучаніца.

– Ого, Люцыян Станіслававіч, закруцілі раман проста ў класе? – весела азваўся геолаг. Корвус нахмурыўся.

– Мне і ў галаву такое не прыходзіла. Ніколі б сабе не дазволіў нават пажадлівай думкі... І для Жэні я быў проста настаўнік. Яна закахалася ў аднакласніка, добрага, смелага хлопчыка Рыгора. Я вёў у іх археалагічны гурток. А потым... Вайна.

На рабіне за вакном адчайна гайдаліся крывавыя гронкі.

– Вы ваявалі? – папыталася Ліза. Корвус кіўнуў.

– І я, і мае вучні... А з Жэняй зноў пабачыўся пасля вайны, калі сустрэўся з ейным мужам. Тым самым Рыгорам. Пасля кантузіі ў яго пачаліся прыступы гневу, некантраляваныя... А ён працаваў следчым НКУС.

Уладзімір прысвіснуў.

– Самы іхні кадр. Я не аднаго такога бачыў... Як спецыяльна іх вышукваюць.

– Ну вось, пасля спаткання з Рыгорам, які зусім не хацеў мне зла, я ў непрытомным стане патрапіў у спецлячэбніцу, якой загадвала Яўгенія... Расказваць усё не буду. Але ўрэшце мы абое апынуліся ў турме.

– Справа ўрачоў-забойцаў? – скрывіўся геолаг.

– Не без таго... – доктар зноў машынальна пацёр перабіты нос. – Рыгор удзельнічаў у допытах нашай... так бы мовіць, злачыннай групоўкі. Зразумела, пад наглядам таварышаў, каб не скалечыў каго да смерці. Ведаеце, якое ў яго было прозвішча? Касталом.

На твары геолага з'явілася невясёлая ўсмешка.

– Люцыян Станіслававіч, такія Касталомы – у кожным НКУС. У Кіеве я спаткаўся з тыпусам з такой жа мянушкай, але яму было гадоў пяцьдзясят, лысы, чырванаморды. У перасыльнай турме ў Тамбове кабета працавала, наглядчыца, якую звалі Касталомка.

Доктар углядаўся светлымі, быццам вада ў вадаспадзе, вачыма ў нешта вельмі далёкае і не вельмі радаснае.

– Самае страшнае было не калі мой нядаўні вучань нас збіваў. А калі пару разоў мне ўдалося прывесці яго да розуму. Калі ён усведамляў, што адбываецца... Крычаў ад роспачы, маліў аб прабачэнні... Пакуль яго не

забіралі калегі. Тады мяне пачалі прыводзіць на допыты з кляпам у роце. І вочы завязвалі.

Корвус саркастычна засмяяўся.

– Вось вам увесь сэнс іх правасуддзя. Допыт з кляпам у роце. Для пацверджання віны досыць твайго існавання.

Ходзікі на сцяне тахкалі да крыўднага абыякава.

– Ну а з Жэнькай... Што ў вас з ёй? – не цярпелася дазнацца Лізе. Корвус правёў па вуснах тонкімі пальцамі з акуратна, па-ўрачэбнаму абрэзанымі пазногцямі, нібыта ўспамінаючы дотык іншых вуснаў.

– Што ў нас з ёй было? Пацалунак у варанку, у кампаніі двух трупаў. Тады я даў слова, што калі выжыву, знайду яе. А аднойчы, на вочнай стаўцы, я злавіў Жэньку, калі яна падала. А я і сам асабліва падняцца не мог. Канвеерны допыт, стаялі на расцяжцы... Пакуль следчыя нешта доўга пераціралі між сабою – наш трэці саўдзельнік вельмі ўдала адцягнуў увагу на сябе, узяў ды пачаў паміраць, – мы так і ляжалі з ёй, абняўшыся, на халоднай падлозе, у плямах крыві, блявоціны і мачы... Вось такая рамантыка, Лізанька.

Вочы дзяўчыны напоўніліся слязьмі.

– Няхай будзе вам шчасце, Люцыян Станіслававіч.

...Перад жалезнай брамай тоўпілася няшмат народу. Пару дзясяткаў. Хтось апрануты папрасцей, у ватоўках ды валёнках. А вунь нейкая цётка ў капялюшыку, паўзверх якога наматаная шэрая пуховая хустка, і ў пацёртым лісіным футры. Гнілая інцілігенцыя. Былі і дзеткі. Дзяўчынка ў завялікай для яе чорнай цыгейцы, крысо па зямлі валакаецца, тузала за руку немаладую кабету: “Бабуля, а дзе мама? Мама хутка прыйдзе?” З шэрага нізкага неба паляцелі цяжкія снегавыя згусткі, нібыта хтось наверсе вычэсваў белага лінючага сабаку. Высокі хударлявы мужчына ў ватоўцы і шапцы-аблавушцы, з чыста паголеным разумным засяроджаным тварам падняў каўнер. На мужчыну касавурыліся, бо ён трымаў букет. Галінкі арабіны з чырвонымі гронкамі і піхтавыя лапкі. Таксама інцілігент. Хоць і ў ватоўцы.

Дзверы натужліва зарыпелі. Людзі змоўклі ў напружаным чаканні, пасунуліся наперад... Ахоўнік з вінтоўкай за спінай адпусціў жалезную створку і пахмура агледзеў купку сустракаючых, перасунуў рэмень вінтоўкі, нібыта карцела сарваць яе з плеч і прыцэліцца з крыкам: “Разысціся, сукі, а то страляю!”

Але толькі павярнуўся назад і махнуў рукою... Першая нерашучая фігура, у ватоўцы з нашытым нумарам, здранцвела пратупала за лінію варотаў, нібыта нацягвалася гумка, што вось-вось тузане назад...

За першай постаццю пачалі выходзіць іншыя. Падобныя між сабою, як мерцвякі. Гэта мусілі быць жанчыны. Шэрыя твары, апухлыя ад марозу, недасыпання і голаду... Шэрыя хусткі... Нязграбныя рухі... Ніхто не азіраўся радасна па баках, ці не сустракаюць яго. Не ўсміхаўся. Страх гучна гаварыць, усміхацца, ісці без канвою і ўвогуле рабіць шмат якія простыя чалавечыя дзеянні для многіх зрабіўся такім звыклым станам, што проста не асэнсоўваўся.

Зрэшты, сустракалі мала каго.

“Гэта не мая мама! Мая мама не такая!” – плакала побач дзяўчо.

Толькі адна постаць не была прыгорбленай. Высока паднятая галава, з-пад пачварнай шэрай хусткі паказваюцца зусім сівыя валасы.

– Жэнька!

Мужчына з букетам кінуўся да вызваленай зэчкі. Яго рукі дрыжэлі, калі ён прытуліў бясформную постаць у ватоўцы. Вусны цалавалі лоб, белую пасму, худую шчаку, абсівералыя вусны...

– Гэта табе... – успомніў, працягнуў рабінавы букет. Жанчына павольна, нібыта ўспамінаючы, як гэта робіцца, прыняла падарунак... У нязграбнай тоўстай рукавіцы гэта было нязручна, зубамі яе сцягнула, узяла так, голай рукой, усё яшчэ прыгожай, хоць і з абламанымі пазногцямі.

– Дзякуй... – варухнуліся вусны. – Як толькі пазнаў...

Ён шчасліва засмяяўся і зноў прытуліў да сябе.

– Глупства гаворыш.

Яна падняла галаву і нарэшце сустрэлася з ягонымі светлымі вачыма сваімі, зялёна-брунатнымі, не выцвілымі на сібірскіх маразах. І, відаць, штось такое пабачыла ў позірку мужчыны... Таму што яе вусны задрыжэлі, з грудзей вырваўся глыбокі ўздых, які перайшоў ва ўсхліп.

– Мой верны паладын...

Рыданні рваліся з грудзей, скаланалі жанчыну, і было зразумела – гэта першы раз за гады. І ён прыціснуў да сябе былую вучаніцу, і ведаў, што ягоны дотык больш не палохае, а дорыць спакой. А шэрыя постаці ўсё ішлі і ішлі з-за жалезнай брамы. Многія паглядалі на абдымкі парачкі з зайздрасцю, самі патроху ажываючы, адтайваючы ад гэтага відовішча. Наставала эпоха Вялікага Рэабілітансу.

...У пакойчыку са сценамі з бярвення, з ходзікамі, што ўсё гэтак жа абыякава даганялі чужы час, пры цьмяным святле настольнай лямпы з жоўтым абажурам, крэсла ля крэсла, сядзелі двое. На стале ў слоіку адаграваліся галінкі рабіны і піхтавыя лапкі. Чырвоныя ягады моршчыліся і пацелі ад цяпла.

У грубцы ўтульна трашчалі дровы. Самыя лепшыя, бярозавыя – прыпасеныя на выпадак важных гасцей. Чырвоны куток хаваўся за заторгнутымі занавескамі, праз якія не сягаў пагляд вусатага партрэта. Гарбата з мясцовых зёлак была выпітая, вараная бульба даедзеная... Многае перагаворана... А засталося яшчэ распавесці – цэлае жыццё.

– Я зусім пасівела... Гэта пасля карцару, – ціха прагаварыла жанчына, апусціўшы вочы. Мужчына асцярожна кранаў яе за падбароддзе.

– Ты гожая, як гаёўка. Памятаеш, распавядала мне легенду пра лясное бажаство-ацаляльніцу? За цябе трэба скрыжоўваць мячы і шаблі. А паглядзі на мяне... Ну! Стары, сівы, ламаны дзядзька з цяжкім характарам. Скажы праўду, я табе патрэбны?

Яна задумліва правяла пальцам па яго высокім ілбе, на якім намячаліся зморшчыны, па перабітым носе, па двух птушкападобных шнарах – адзін на шчацэ, другі ля скроні... Мужчына толькі прыжмурыўся ад задавальнення.

– Магістр... Падобна, мы абое вылечыліся ад сваіх фобій. Радыкальнымі, так бы мовіць, метадамі.

– Давай праверым... – прашаптаў ён і пацягнуўся да яе вуснаў.

Нават ходзікі, здавалася, прыспешылі хаду ў такт двум сэрцам.

– І табе праўда не брыдка? – прашаптала яна. – Пасля таго, як на тваіх вачах мяне... Утраіх...

Ён пасуровеў.

– Нават думкі такой не дапускай! Гэта мне мусіць быць невыносна сорамна – што нічога не зрабіў тады. Працягваў маўчаць...

– Ты шмат зрабіў... – тонкая рука пагладзіла яго па паголенай шчацэ. – Колькі табе з-за мяне перапала... Калі адцягваў на сябе ўвагу, спецыяльна злаваў следчых... А каб ты зламаўся, распавёў пра нашых нелегальных пацыентаў – усё намі пражытае страціла б цану. Ведаеш, некаторыя з тых, з кім я сядзела, кажуць, лепш усё забыць, – Жэнька апусціла сівую галаву. – Выкрасліць з памяці. Пачаць жыццё нанова. А мне здаецца, гэта несумленна. Як я магу забыць васьмідзесяцігадовую бабку, якую вадзілі кожны дзень на допыты і збівалі гумавымі палкамі, каб нагаварыла на кагось са сваякоў? У яе ўсё цела было сінім. Калі я забудуся на яе і на тых, хто яе збіваў, – гэта будзе паўтарацца, бо каты і іх наступнікі ўпэўняцца: нічога ім не пагражае, а значыць, усё правільна. І я баюся, баюся забыць... І баюся насіць з сабою ў памяці...

– Распусці валасы... – раптам папрасіў Корвус. Яўгенія трохі прамарудзіла і пацягнулася рукой да вузла на патыліцы. Белыя пасмы ўпалі на плечы.

– Ты проста казачная прынцэса!

Ён асцярожна крануў гэтую бель.

– Здымі швэдар, Магістр... – яна не папрасіла – загадала. Ён паслухмяна сцягнуў праз галаву свае вязаныя “даспехі”, застаўшыся ў белай кашулі, і цярпліва замёр пад вывучаючым позіркам. Жэнька павольна расшпіліла на ягонай кашулі верхні гузік, яшчэ адзін, агаліўшы ключыцу.

– Я памятаю, як у цябе з’явіўся гэты шнар...

– А я памятаю, як у цябе з’явіўся гэты...

Корвус крануў пальцам белы пасак ля краёчка яе рота.

– Нашы целы – як дзённікі, пражытае запісана на скуры...

За вакном зашамацеў вецер, быццам віж прабіраўся бліжэй да шыбы, за якой стваралася штось неналежна вольнае і светлае.

– Я не змагу нарадзіць дзіця, – горкі шэпт. – Ты мог бы з іншай... Тая сінявокая дзяўчыначка, Ліза... Яна так на цябе закахана пазірае...

– Гэта мы яшчэ паглядзім, пра дзяцей, – абарваў Корвус, цалуючы шыю сваёй Гаёўкі. – Я ж навуковы канкістадор, як мяне празвалі ў інстытуце. Вунь магрэтка чароўная дапаможа... А не атрымаецца – пражывем удвох... Доўга і шчасліва.

– Можа, нядоўга. Можа, не заўсёды шчасліва. Але ўдвох.

...Пад мікраскоп быў падкладзены яшчэ нечытаны часопіс “Новый мир”. Гэта было няправільна, але гаспадар мікраскопа і часопіса славіўся сваёй апантанасцю падчас навуковых доследаў, ясна, што пад руку трапілася – тое і скарыстаў. Вока да акуляра, вусны падціснутыя, адна рука падкручвае колца прылады, другая спрабуе штось накрэмзаць на верхнім аркушы ў россыпе скрэмзаных, да таго ж захляпаных нейкімі рэактывамі і расчыннямі.

– Люцыян, хопіць! Пайшлі вячэраць!

Прыгожая, як кіназорка, жанчына ў бумазейным зялёным у белыя гарохі халаціку, цёмна-каштанавыя валасы, на карэньчыках якіх здрадліва паблісквала сівізна, заплеценыя каронай, ласкава правяла даланёй па напятай спіне даследчыка.

– Жэнька, ты не ўяўляеш... Гэта сапраўды выклікае паскораную рэгенерацыю клетак. Калі трохі павялічыць канцэнтрацыю... Ды каб абсталяванне сучаснае... Як прыедзем у Ленінград, першай справай у лабараторыі паўтару гэты дослед.

Мужчына мармытаў, не мяняючы позы.

– Магістр, ахалонь! – жанчына ўскудлачыла чуб мужчыны – скроні ў яго сівыя, але залысін няма, валасы светлай густой хваляй падаюць на лоб з невынішчальнай пячаткай вышэйшай адукацыі. – Калі ты так зацяўся з-за мяне... То супакойся: мой выпадак безнадзейны. Рэпрадуктыўная функцыя страчаная незваротна.

Апошняя фраза прагучала з выпакутаваным спакоем. Даследчык адразу павярнуўся і прытуліў жанчыну да сябе, прыціснуўся шчакой да яе жывата.

– Ніколі не гавары так. Я веру, што нават смерць не з'яўляецца незваротным працэсам.

– Самы раз з такімі думкамі – у Наўе, да айца Серафіма па духоўныя настаўленні... Ці лепш да ксяндза Станіслава? Кім хочаш быць – каталіком ці праваслаўным?

Жанчына гаварыла жартам, але мужчына адхінуўся, не выпускаючы яе з абдоймаў, і адказаў вельмі сур'ёзна:

– Вечны выбар беларуса. Здавалася б, на фоне ваяўнічага атэізму павінны суціхнуць спрэчкі... Аж не. Баба Параска на бабу Ядзвігу: "Пшэчка!", тая на яе – "Маскалька!" А абедзва спаконвек беларускія сялянкі, сем'і цераз адзін плот два стагоддзі ўжо лаюцца. Маці хрысціла мяне ў праваслаўе. Там і застануся. Не ўсё, што я назіраў за жыццё, усоўваецца ў матэрыялізм, Гаёвачка.

– Глядзі, Корвус, пры старонніх такое не ляпні, – трывожна прамовіла кабета. – Пайшлі, бульба стыне... Ноч на двары.

Але гэтаму сямейству не суджана было мірна павячэраць. У шыбу хтосьці пастукаў. Па-добраму, папярэднічаць гэтаму мусіў сабачы брэх. Але гаспадары не жадалі трымаць на ланцугу нават сабаку. А зачыненая брама і плот для начнога госця, падобна, не былі перашкодай.

У сенцы ўваліўся чалавек у чорным паліто і картузе з нізка апушчаным казырком, з кульбачкай, на якую моцна прыпадаў.

– Стахевіч! – узрадвана ўскрыкнула жанчына. – Як я рада, што вы жывы. І нават ходзіце...

– Хаджу... – адвёў вочы госць. – Дзякуючы вам. І жывы, дзякуючы вам. І вось... Зноў трэба дапамога.

Гарачая бульбачка са скваркамі ўсё-ткі прыдалася. Госць еў прагна, кадык на тонкай шыі так і хадзіў, нібыта з горла хацела вырвацца нейкая маленькая агрэсіўная істота. Худы бледны твар, пад вачыма набраклі мяшкі...

– Я прыйшоў да вас, Люцыян Станіслававіч, таму што ведаю – вы былі знаёмыя са многімі нашымі пакутнікамі, шчырымі беларусамі. Ластоўскім, Ігнатоўскім, Лёсікам... Самі з жонкай пацярпелі... І цяпер у лесе гінуць людзі, якія змагаюцца за волю беларусаў ад бальшавікоў. Якія не хочуць, каб зніклі старажытныя ліцвіны.

Корвус і Яўгенія трывожна пераглянуліся. Неяк не вязалася пачутае з тым, што яны ведалі пра свайго госця. Дый гаварыў ён, апусціўшы вочы, нібыта чытаў улётку.

– Мы гатовыя накарміць вас, Стахевіч, даць пераначаваць... Але мы далёка не ўпэўненыя, што тыя, хто вас паслаў, заслугоўваюць даверу, – памаўчаўшы, асцярожна прамовіў Корвус. Госць пачаў зноў нешта мармытаць пра змаганне супраць маскалёў, але падняў галаву і выпадкова сустрэўся з незвычайна светлымі вачыма гаспадара, якія зрабіліся непрыемна пранізлівымі, і ажно скалануўся.

– І шмат нашых агульных знаёмых вы абышлі з такой прапановай, Стахевіч? – павольна і чамусь страшна прагучала спакойнае пытанне. Госць зноў апусціў галаву, схаваў рукі пад стол.

– Люцыян, чалавеку млосна... – з жалем прагаварыла жанчына. – Ён трапіў у бяду. Што ў вас баліць, Стахевіч?

Госць зноў падняў змучанае аблічча з раннімі зморшчынамі на лобе.

– Жыццё маё баліць, Яўгенія Міхайлаўна. Добра, я пайду. Скажу, што вы адмовіліся дапамагаць бандытам.

Эрнест Хэмінгуэй у брутальным швэдары гнеўна прыжмурыў вока з чорна-белай часопіснай выразкі, прышпіленай да шпалераў колеру сланавай косткі.

– І як вы да такога дайшлі? – так грэбліва прамовіў Корвус, што Яўгенія з неразуменнем зірнула на яго. Госць з выклікам задраў галаву.

– А што, у мяне было выйсце? Турмы я не вынес бы. А так... карысць прыношу. Віну сваю выкупляю.

– Правакуючы і губячы бязвінных?

Грубай вязкі швэдар і кароткая бародка папы Хэма на рэпрадукцыі дакладна нагадвалі аблічча ссыльных з Затокі. Адзін з тых ссыльных зараз сціснуў рукі ў замок, нібыта баяўся, што не стрымаецца і ўдарыць. Былы пацыент Апошняга Прытулку не адвёў позірку.

– Хто з нас бязвінны, Люцыян Станіслававіч? Няма такіх. А я нікога не агарвораю. Нічога не прыдумваю. Не стараюся кагось пасадзіць. Тым больш вас... – перавёў позірк на жанчыну, якая разгублена маўчала, пачынаючы ўсведамляць падбіўку сцэны.

– Я ж разумею, колькі вы сцярпелі на допытах, каб нас не выдаць... – глуха прагаварыў госць і ўстаў, цяжка абапіраючыся на чорную кульбачку з гумавым наканечнікам, не самаробную, куплёную. – Каб не вы, мяне б адразу арыштавалі, і тады – гамон. А так... Аклямаўся, пабадзяўся, падумаў. Тады здаўся сам... Прапанаваў сваю шчырую дапамогу.

Калі дакульгаў да дзвярэй, спыніўся.

– А дзе наш санітар, Пятро Сымонавіч?

– Памёр на допыце, – спакойна і сурова адказаў Корвус. – Яго вы не выпрабуеце на прадмет дапамогі бандытам.

Яўгенія адвярнулася, захінуўшыся рукамі, як ад холаду.

– Ён і сам быў бандыт, – упэўнена кінуў Стахевіч. – Як і дружкі ягоныя... Што так гледзіцё? Я і пра сябе ўсё ведаю. Варты ганьбы. Гэта пра мяне гавораць – пакуль не нагадуеш сваім хлебам, не будзеш ворага мець. Але ніхто не можа прадказаць, як нізка давядзецца ўпасці. Памятаеце маёра, які прыехаў з праверкай у наш Прытулак? Уваліўся тады ў палату, як звер... Думаў, пераастраляе...

– Рыгор Самусь? – перарывіста перапытала жанчына, інстынктыўна ўхапіўшыся за руку Корвуса.

– Не памятаю, як завуць, але гэта дакладна ён...

Доктар абняў Яўгенію за плечы.

– А што з ім?

– Звар'яцеў маёр... – Стахевіч не радаваўся зласліва, але і не спачуваў. – Я нядаўна ў Бабруйскі ваенны шпіталь патрапіў з прыступам, бачыў, як яго ў інвалідскім крэсле вывозілі на двор... Сядзіць, як лялька, галава ківаецца, сліну пускае. А я вось... хаджу.

У апошніх словах Стахевіча была горыч.

Азірнуўся на ганку, ціха параіў:

– Вы б, Люцыян Станіслававіч, можа, пазванілі б у міліцыю, прызналіся, што бандыт прыходзіў. Перакажыце мае словы... Паабурайцеся... Там жа ў курсе, што я мушу наведаць вас. І з вашай пратэжэ ў мединстытуце, Лізаветай Губаравай, менш сустракайцеся. Калі не хочаце, каб дзяўчыну адлічылі. І наконт перапіскі з духоўнымі асобамі, тым больш візітаў у царкву і касцёл... А яшчэ нібыта вам перадалі ліст з Амерыкі, ад аднаго беларускага нацыяналіста... Вы асцярожней, Люцыян Станіслававіч. За вамі пільна сочаць.

Горыч засталася пасля сыходу нечаканага госця.

– Шкада яго... – прагаварыла Яўгенія. – Пераламала добрага хлапца... І што цяпер будзе?

Корвус задумліва азірнуўся на мікраскоп і стосы скрэмзаных папер.

– Здаць ён нас не здасць. Але на Ленінград, думаю, можна забыцца. Ты ж не будзеш зараз тэлефанаваць у міліцыю?

У голасе чулася горкая насмешка.

– Не буду.

...Вакно ў палаце было невялікім, пад самай столлю. Толькі падскочыўшы, вызірнеш. Забранае густымі кратамі. І лямпачка ў кратах, быццам самое святло злавілі і пасадзілі ў клетку. Ад турэмнага карцара невялікае памяшканне адрознівала светлая афарбоўка столі і сценаў, чыстая, накрухмаленая бялізна на ложку, жалезныя ногі якога прыкручаныя да падлогі. Стос кніг на тумбачцы... Ну і людзі, на чые плечы, падобна плашчам крыжаносцаў, былі накінутыя белыя халаты. У каротка стрыжанай жанчыны з уладным абліччам, што прысела на зэдлік, у руках ззялі кветкі. Пунцовыя астры. Іх вострыя пялёсткі варожа цэліліся вакол. Мажны мужчына з палыселай галавой з рэшткамі рудых валасоў разгублена касавурыўся вакол, выкладаючы на тумбачку яблыкі і печыва...

Толькі на двух прысутных доктарскія халаты былі зашпіленыя, як належыць. Гожая жанчына ў кароне каштанавых кос, хударлявы мужчына з пранізлівым поглядам занадта светлых, трохі запалых вачэй.

Пяты чалавек у пакоі відавочна быў сталым насельнікам. У бальнічнай фланэлевай піжаме колеру варанай капусты, пасівелы, худы, хаця косць шырокая. Галава паголеная, у шнарах. Вочы разгубленыя і нібыта выцвілыя, і ўсё аблічча нагадвае чамусь прамакатку.

– Вось і сабраўся Ордэн захавальнікаў... – прамовіў светлавокі доктар. – Не думаў, што дажыву да такога...

– Шмат хто з нас не спадзяваўся дажыць, Магістр.

Па нізкаватым голасе адчувалася, што стрыжаная жанчына шмат курыць.

– Ну як ты, Рыгорка?

Простае пытанне наведніцы змусіла пацыента асобнай палаты скалануцца, па белым азызлым твары нібыта прайшлі хвалі.

– Як вы можаце са мной... па добраму... Пасля ўсяго... Я так вінаваты... Я няварты...

Па бледных шчоках каціліся слёзы.

– Ціха, ціха, Рыгор... – прыгожая доктарка хуценька падала хвораму пластыкавы кубак і змусіла адсёрбнуць. – Мы ўсе ведаем, што гэта не ты... Гэта твая хвароба.

– Люцыян Станіслававіч... Жэнечка... Я так...

– Ціха, ціха! – паўтарала доктарка, нібыта да немаўляці, і хворы паступова супакоіўся, твар пасвятлеў. Мусіць, і лекі падзейнічалі. Нават папытаўся:

– А вы як, Ромка, Малгося?

Лысавата-рудаваты ўсміхнуўся, намагаючыся ні з кім не сустрэцца вачыма.

– Жанаты. Двое дзетак. Хлопец і дзяўчынка. Працую намеснікам загадчыка склада. Кватэру ў Мінску атрымалі, у новым мікрараёне. Дачка ў музычную школу ходзіць.

Стрыжаная кабета таксама намагалася на рудога не глядзець.

– Я ў Харкаве, загадваю рэанімацыйным аддзяленнем абласнога шпіталя. У высылцы пазнаёмілася з людзьмі адтуль, вось і... Хацелася ўсё пачаць наноў.

– Ты не замужам? – вырвалася ў Рамана.

– Не, – цвёрда адказала жанчына. – Не хочацца разменьвацца. Дарэчы, Раман, ты ж быў галоўным сведкам па нашай справе, калі мяне і Паўла арыштавалі, ведаеш, што ў мяне ўжо было вялікае каханне, якому замены няма.

Пастарэлы Ромка Цвічок пачырванеў – але хутчэй ад гневу, чым ад сораму.

– Ну ўжо выбачай, я чалавек просты. Інтрыг не разумею. Як ёсць – так заўсёды і гавару... Я ж не падазраваў, што ты з начальствам раман круціла, пакуль я тваёй ласкі чакаў.

– Пра Апошні Прытулак Раман таксама, відаць, следчым усё распавёў... – занудным голасам прамовіў Корвус, нібыта паведамляў прагноз надвор’я.

– А-ха-а... Што ж з намі сталася... – раптам заблагаў Рыгор, яго твар пачаў тузацца. Пасля патрэбнай на супакой пацыента паўзы ўсе загаварылі зусім іншым тонам, пра нейкія жыццёвыя, прыемныя дробязі. Пачалі ўспамінаць школьныя гады, раскопкі, здабытыя чарапкі і наканечнікі стрэлаў... Ад удаванай весялосці зводзіла сківіцы, як ад няспелага агрэсту. Хворы атрымаў яшчэ лекаў і пачаў засынаць. Паспеў прамармытаць словы ўдзячнасці за тое, што сабраліся, наведалі...

У калідоры Малгося ціха папыталася:

– Магістр, колькі яму засталося?

Корвус не стаў рабіць шматзначныя паўзы і адгаворвацца.

– Тыдні два. Больш наўрад працягне. Працэс у мозгу прагрэсуе.

– Каб мы яго не забралі з Бабруйскага шпіталя, гады два таму памёр бы, – дадала Яўгенія. – Сваякі ёсць, але ніхто да яго не прыходзіць. Выракліся. Вось Люцыян і вырашыў – па-чалавечы будзе паведаміць сябрам. Каб хоць хтось развітаўся.

У гулкіх шпітальных калідорах – зялёныя сцены, шэрая бетонная падлога – агідна заляскала, загрукатала каталка.

– А як ты? – Малгося запытальна зірнула на сяброўку, калі трохі адсталі ад мужчын.

– Мы добра.

Жэнька адказала, гледзячы ў спіну мужа. З адценнем пяшчоты – проста таму, што гэтае пачуццё расчыненае ў адносінах, як цукар у гарбаце... Не відно, але адчуваецца беспамылкова.

– Рада за цябе... – ціха прамовіла Малгося. – Хто б мог падумаць, што ты – і наш настаўнік станеце парай. Хочаце, паспрыяю, каб вас перавялі ў Харкаў? Што вы сядзіце ў Старавежску...

– Не трэба, Малгося... – Яўгенія сумна ўсміхнулася. – Корвус і цяпер, пасля рэабілітацыі, нядобранадзейны. Увесь час баюся, каб не ўчыніў якой бойкі за справядлівасць. У Мінск звалі – не захацеў працаваць пад началам аднаго падлюкі. Мы ж усе... з памяццю. Ордэн Захавальнікаў – усё пакаленне ваеннае, партызанскае, гулагаўскае, што выжылі і засталіся людзьмі. Я, ты, Люцыян... Вось ты пыталася, чаго я колер валасоў змяніла... А яны ў мяне проста сівыя, Малгося. Зусім. Ніхто з нас не застаўся ранейшым, як ні фарбуйся, ні прыстасоўвайся. Не выпусцяць нас са Старавежска. Нічога, тут база добрая. Два карпусы новыя будуюцца. Лабараторны цэнтр. Ёсць планы стварыць рэспубліканскі тубдыспансер.

Малгося не стала ўгаворваць. Толькі прамовіла горка:

– Рыгор дапытваўся: "Што з намі сталася?" Ды тое, што з любой суполкай у таталітарную эпоху. У ёй заўсёды з'явяцца кат, здрайца і ахвяра.

На ганку корпуса – новага, трохпавярховага, абкладзенага дэкаратыўнай жоўтай пліткай, сябры Ордэна захавальнікаў разышліся назаўсёды.

...– Люцыян Станіслававіч, мы ўсе вас паважаем. Вы – наш ветэран. Жывая гісторыя. Але прашу мяне зразумець правільна і не крыўдаваць... У лабараторным цэнтры маюць права працаваць толькі супрацоўнікі дыспансеру. А вы ўжо даўно на пенсіі.

Малады чалавек паправіў на пераносіцы стыльныя акуляры ў тонкай залатой аправе. Ён быў самавіты, як супніца з нямецкай парцаляны. А чалавек, да якога звяртаўся, быў халаднавата-спакойны і небяспечны, як скальпель. Стары, хударлявы, але падцягнуты, і светлыя вочы не пастарэчаму пранізлівыя.

– Вы, Міценька, не хвалюйцеся, вам шкодна. У вас гастрыт хранічны. Слізістая страўніка ад нерваў церпіць куды больш, чым ад няправільнай ежы.

Маладзён, якога назвалі Міценькам, пачырванеў ад раздражнення і зручней перахапіў ручку моднага чамаданчыка пад назвай дыпламат, якім пачалі замяняць партфелі.

– Люцыян Станіслававіч... Я як адказны за...

– Ідзіце, Міценька, ваш працоўны дзень скончыўся.

Стары гаварыў спакойна, амаль ласкава, але маладзён чамусь збляднеў і пасунуўся спінай да дзвярэй. Аднак намаганнем волі затрымаўся.

– Паслухайце, мы ўсе спачуваем, што Яўгенія Міхайлаўна так цяжка хварэе. І нашы калегі зрабілі для яе ўсё магчымае... Усё! – маладзён з дыпламатам націснуў на апошняе слова, як кіроўца на педаль трамвая, які вось-вось камусь адрэжа галаву. – Філасофскі камень вы ўсё адно не здабудзеце...

Пенсіянер ласкава ўсміхнуўся, і маладзён выцер чамусь спацелы лоб.

– Хто ведае, Міценька, хто ведае... У Вольгі Барысаўны Лепяшынскай шмат цікавых ідэй было, якія апярэджвалі час.

Суразмоўца абурана ўздыхнуў, але выказацца не наважыўся.

– Запэўніваю, стары маразматык пакіне лабараторыю ў парадку, Дзмітрый Іванавіч.

Маладзён зусім пачырванеў і выскачыў з пакоя, ляснуўшы дзвярыма. Праз хвілю ён спавядаўся калегу, сіваватаму пульманолагу, па дарозе да аўтастаянкі – абодвум належала дабірацца ажно да Мінска:

– Ну і страшны дзед гэты Корвус! Не паверыце, Пятро Пятровіч, хачу

нарэшце паставіць яго на месца – і язык прыліпае. Уцячы карціць. Я – загадчык лабараторнага цэнтра рэспубліканскага дыспансера, а адчуваю сябе, як хлапчук, што нашкодзіў. Насланнё нейкае!

Пульманолаг спачувальна ківаў галавою, але падтрымаць размову не спяшаўся.

– Што ён там даследуе? Сапраўды – маразм... Памятаю, у Мінску столькі размоў было, быццам доктар Корвус вынайшаў спосаб рэгенерацыі клетак нервовай сістэмы... Чуткі хадзілі пра дзівосныя эксперыменты... А прыслаў даклад – глупства. Лепяшынскую падымае! Гэта ж усё роўна, як Лысенку сёння хваліць, які генетыку пахаваў. Зразумела, жонка памірае, у дзеда глузды едуць.

Пульманолаг нарэшце ціха прамовіў:

– Усё, што магу параіць – не чапайце Канкістадора. Яму нездарма такую мянушку далі. Ніколі не ведаеш, чаго ад яго чакаць. Зрэшты, тыя, што ГУЛАГ прайшлі, рэдка людзі адкрытыя дарэшты. І ўжо зусім не бесхрыбетныя. І самі ведаеце, хто да яго прыязджае лячыцца...

– Шарлатан! – сярдзіта выгукнуў Міценька, і ягоны твар чамусь нагадаў пыску вожыка. – Выйшаў на пенсію – сядзі... Не ствараў другім цяжкасцяў... Баюся я яго, – раптам жаласна прамовіў загадчык цэнтра.

Пульманолаг тупаў проста па дробных лужынах, што ўтварыліся на чорным, нядаўна пакладзеным асфальце, ягоныя разбітыя чаравікі відавочна не ведалі беражлівых адносінаў.

– А ўявіце, Дзмітрый Іванавіч, што вы ці хтось з вашых блізкіх цяжка захварэў. Хвароба невядомая, нічога не дапамагае. Да каго б з усіх знаёмых дактароў вы пабеглі? Толькі шчыра... Ці не да пенсіянера-маразматыка Корвуса?

Міценька сярдзіта фыркнуў, яшчэ больш нагадаўшы вожыка, і моўчкі прыспешыў хаду. Пульманолаг таксама змоўк, толькі вусны ніяк не маглі пераадолець усмешку.

Канкістадор, ён жа стары маразматык, ён жа доктар навук Люцыян Станіслававіч Корвус, былы намеснік загадчыка рэспубліканскага тубдыспансера, сядзеў за лабараторным сталом і задумліва круціў у пальцах падвялую разлапістую някідкую кветку. “Чырвоны дракон”... Ніякая не чароўная расліна, ніякая не панацэя... Але падштурхнула думкі ў патрэбным напрамку, дзякуй святой Маргарыце. Толькі... Не ўсякія веды можна аддаваць у агульнае карыстанне. А той, каму патрэбныя адказы, хай прыедзе ў Апошні Прытулак.

## Раздзел адзінаццаты. ВІРЫНЕЯ Ў ЗАЛЮСТРОЎІ

Людзі спаконвек баяцца нязвыклага. Калі замест аднаго дзіцяці нараджаюцца два. Калі дзіця нараджаецца з зубамі. Нават калі хтось занадта доўга жыве. Ці не з дапамогай нячыстай сілы? Калі ў 1720 годзе на Валыні была маравая пошасць, мешчукі мястэчка Красілава, шукаючы вінаватага, успомнілі пра стодваццацігадовую Проську Каплунку. Усё вялікае сваяцтва доўгажыхаркі на чале з зяцем Хведарам Млынаром не дало рады... Няшчасную схапілі, закапалі па плечы ды спалілі. Ды яшчэ і зяця змусілі аддаць камень са свайго млына, каб наваліць на месца спалення “вядзьмаркі”.

І вось чаму вінаватых звычайна шукаюць не сярод уладных падлюкаў, а пабліжэй ды паслабей? Каб учыніць свайму ж суседу “крышталёвую ноч” альбо “справу ўрачоў”.

Я ехала на заднім сядзенні Мацеевага “Форда” ў настроі самым адчайным. Ва ўласную кватэру пабаялася зайсці. Тэлефон так і не ўключыла. Я не ведала, што са мной будзе, калі сустрэнуся з уваскрэслым мужам. Растану, як Снягурка, выскалюся, як Валькірыя, альбо пайду на другі заход “распавядзі мне ўсё-усё-усё, ды так, каб я паверыла”.

Свет рассыпаўся на пікселі.

Я не ведаю, хто такі мой муж.

Я не ведаю, хто такая я.

Я не ведаю, куды і нашто еду. Чаму еду з Мацеем. Чаму зараз гляджу ў спіну былога аднакласніка, які кіруе сваё аўто па маршруце, пракладзеным чароўным трусам проста ў нару ў сюрэалістычны свет, а не звіваю гняздзечка з аднойдзеным Корвусам. Ці там ён Капытко?

Як ружу ні назаві, яна пахне ружай, казала непаўналетняя Джульетка падшыванцу Рамэа.

Праўда, наконт шкіпінару альбо дзягцярнага мыла тое ж спраўджваецца – як ні называй, смярдзіць.

– Там каля цябе тэрмас мусіць быць, з гарачай гарбатай, – усё яшчэ халаднавата прамовіў Мацей, углядаючыся ў чорны абрус асфальта, прашыты белымі ніткамі разметкі. – Канапкі ў зялёным пакеце. Шампанскага, прабач, у маёй фрэнд-зоне няма.

Я ледзь здушыла істэрычны смех.

– Што такое? – незадаволена папытаўся Салома з прыхаваным адценнем трывогі – ці не ўчыню зараз сапраўдную істэрыку.

– Ды так... – прамовіла я яму ў спіну. – Нядаўна мае калегі гісторыю распавядалі. Адзін мужык з нашай метроўскай адміністрацыі паехаў у Індыю. Яму параілі: лепей за ўсё везці з сабой наша шампанскае. Добра, ён узяў, ды яшчэ выпендрыўся – самае дарагое, “Князь Галіцын”, ці як там, у белай бутэльцы. Прыязджае. Індусы праўда кідаюцца да ўсіх “руса турыста”, выкупляюць “Савецкае шампанскае”. А ў мужыка не бяруць. Не тое, кажуць. Ён не можа зразумець, у чым схібіў. А пасля сябар, які ў індусаў працаваў, завёз яго на фабрыку па апрацоўцы смарагдаў. І мужык пабачыў, што іх там робяць з зялёных бутэлек з-пад “Савецкага шампанскага”. Толькі ў Савецкім Саюзе такія бутэлькі выпускалі, з тоўстым дном... І вось уяві сітуацыю: прыязджае наш турыст і набывае пярсцёнак з сапраўдным індыйскім смарагдам. І гэтая каштоўнасць робіцца сямейным скарбам, і пераходзіць з рук у рукі... А гэта проста зялёнае шкельца ад бутэлькі “Савецкага шампанскага” вярнулася на радзіму...

Я гаварыла як мага больш весела, анекдот жа... Але Мацей не хмыкаў, не смяяўся... Маўчаў, трымаў стырно і кінуў толькі адно:

– Ну, я зразумеў тваю пакаяльную алюзію, п-пра шкельцы, якія пры належнай ап-працоўцы і геройскім флёры ідуць за каштоўнасці. Але ведаеш, Вірынея, калі б людзі кахалі толькі смарагды, чалавецтва вымерла б. Бо ў асноўным тут усе – аскалёп-пкі вялізнай раст-трушчанай бутэлькі. Не знаю толькі, з-пад чаго, але наўрад з-пад добрага шампанскага.

І зноў замоўк.

А мне і не было што запярэчыць. Ну, аказаўся Корвус не тым, за каго выдаваў. Шкельцам, а не каштоўным камянём. Калі маё каханне сапраўд-

нае – гэта не перашкода... Буду далей кахаць спецназаўца ці хто ён там яшчэ... А Мацей – у фрэнд-зоне. Сябар. Верны. Ахвярны.

Што ж мне пагана так?..

Апошні Прытулак паўстаў перад намі высокім бетонным плотам са скруткамі калючага дроту наверсе. Зусім як у фанфіку. Прысада з гонкіх соснаў. Асфальт у трэшчынах. Жалезныя вароты. Шыльдачка “Уваход забаронены. Тэрыторыя ахоўваецца”. Сабачы брэх з-за плоту... Разбітая цэгла ў траве, старая, чырвоная, як чыесь парэшткі. Злосны сабачы брэх, ад якога адразу няўтульна. А груганні тут... Як на могілках.

Хаця, калі верыць аповеду Бруднага Ублюдка, там, за плотам, будуць і могілкі.

А я ж уяўляла, што тут руіны...

Мы з Мацеем стаялі перад варотамі, быццам у кампутарным квэсце. На што тут націснуць, што пакруціць, каб патрапіць унутр? Урэшце Саламярэцкі вырашыў проста і забарабаніў кулаком па жалезе. На суправаджэнне песні “Ліцвінтроляў” ягонага грукання не хапіла б, хіба што на адзін куплет. Метал агідна зарыпеў, і дзверы ад’ехалі па рэльсах убок. Таксама як у фанфіку.

У сваё Залюстроўе я ўвайшла адразу. Раздражняе, калі ў блокбастэрах у такіх выпадках герой доўга марудзіць, слупянее перад уваходам у доўгашуканую скарбніцу, альбо партал у іншае вымярэнне, альбо школу магіі. Саспэнс з паднятай нагой нагнятае, разумееш. Пакуль злодзей не падцягнецца. Якога ўдасца перамагчы толькі ў апошнюю секунду і ўсё-ткі ўвайсці.

Два здаровыя белыя сабакі, хаця толькі што звягалі на ўвесь лес, не кідаліся і не гаўкалі, нібыта хтось аддаў ім загад, толькі насцярожана назіралі за прыхаднямі.

Так, мала што тут засталося ад былой сядзібы Корвус-Дзякловічаў. Мусіць, вунь той будынак з закладзенымі цэглай аркамі і другі, аблезлабелы, з вузкімі вокнамі-байніцамі. Прастаяць яшчэ не адно стагоддзе, як прастаялі ўжо. Магутныя сцены, высокія каменныя падмуркі... Гэта былі пракаветныя лясныя зубры, якія ляжалі на мокрай траве, насмешліва паглядаючы на недакормленых калгасных цялушак. Таму што карпусы, якія ўзводзіліся тут, мабыць, у сямідзясятых-васьмідзясятых і на той час выглядалі пэўна ж шыкоўна, сёння – вартыя жалю аблезлыя бетонныя каробкі. Плітка-кабанчык асыпалася, бетон патрэскаўся, там-сям агаліўся арматурны шкілет... На шэрых слупах аслеплыя ліхтары. У расколінах асфальту – трыпутнік. Пад нагамі хрумсціць шкло. Іржавыя ложкі зваленыя пад вакном, у якім заміж шыбы фанера.

Горад-прывід... Ні жывой душы, толькі вароны незадаволена крумкаюць ды два белыя сабакі ідуць побач, нібыта казачныя праважатыя да мясцовай ведзьмы. Але хтосьці ж нас сюды ўпусціў?

– Гэй, ёсць тут хто-небудзь? – гукнуў Мацей, калі мы параўняліся з галоўным корпусам, самым вялікім, бетонна-шкляным і аблезлым. За нашымі спінамі пад нечымі нагамі захрумсцеў друз... Я ажно падскочыла...

Па разбітым асфальце, праз які прарос палын, да мяне ішоў Люцыян Корвус.

Такі самы, якім быў у час, калі ўпершыню трапіў у Апошні Прытулак. Высокі, хударлявы, а плечы шырэй, чым я ўяўляла. Русявы чуб, светлыя, трохі запалыя вочы – і праўда, пранізлівыя, разумныя... Нос чамусь без прыкметаў пералому...

І не пытайцеся, адкуль, але я дакладна ведала, што гэта менавіта той Люцыян Корвус. Доктар, на чыёй магіле мы нядаўна пабывалі. Не падобны чалавек, не нашчадак... Нягледзячы на тое, што апрануты ў пацёртыя джынсы і чорную байку з белым надпісам “Level X”. Больш за тое, я нібыта памятала, як моцна абдымаюць гэтыя рукі з прыгожымі доўгімі пальцамі, якімі пяшчотнымі могуць быць гэтыя тонкія вусны з цвёрдым прыкусам...

І гэта было так правільна, калі ён абняў мяне, прытуліў, знайшоў вуснамі вусны... А тады прашаптаў узрушанае:

– Вярнулася!

Мацей дзесьці побач разгублена-адчайна тузануўся, штосьці крыкнуў... Забрахалі сабакі... Я нічога не чула. Я глядзела ў светлыя вочы... Адчувала дотык рук... Цені маіх-не-маіх успамінаў праносіліся ў галаве, нібыта апошні танец балю, шалёны кацільён.

– Я што, клон вашай жонкі?

Мой асіплы голас гучаў нібыта здалёк. Корвус – адзіны і сапраўдны – адпусціў мяне, адступіў на крок.

– Вось сучасная моладзь... Нагледзяцца блакбастэраў. Нат каб я і мог – не заняўся б кланаваннем, бо гэта супраць прыроды і Бога. Ты чалавек, як і ўсе, Вірынея. Прабач, я цябе напалохаў... Проста ты так падобная да Яўгеніі...

– Чаму?

Люцыян лёгка правёў кончыкамі пальцаў па маіх валасах, крануў шчаку...

– Для твайго з’яўлення мне прыйшлося выкарыстаць донарскі матэрыял. Жонкі. Я... замарозіў у свой час яго, калі спрабаваў вылечыць Яўгенію ад бясплоддзя. Твае бацькі згадзіліся.

У яго быў прыгожы і дзіўны голас: нібыта глыбокая старажытная амфара, з выгляду цэлая, але дзесьці надтрэснутая. Белыя сабакі ціснуліся да ягоных ног, час ад часу аддана касавурачы на апошняга насельніка Прытулку бурштынавыя вочы.

– Вы яе б-бацька?

Гэта амаль з жахам вымавіў Мацей. Корвус закруціў галавою:

– Ні ў якім разе. Ты, Вірынея, дачка свайго бацькі. І, фактычна, маёй жонкі... Я мусіў бы адчуваць да цябе бацькоўскія пачуцці, але, прабач, не атрымліваецца... Занадта доўга я чакаў...

І мы зноў пацалаваліся – на вачах няшчаснага Мацея, пасярод мёртвага шпіталя, пад кружляннем гругання. Гэтак у мяне ніколі не было... І не будзе. І слоў у мяне няма гэта апісаць. Расейскі пісьменнік Міхаіл Анчараў гаварыў, чым талент адрозніваецца ад рамесніка. Рамеснік узлятае, як птушка, – ёй трэба механічныя намаганні, каб утрымацца ў паветры. А рыба – яна плавае нават мёртвая. Таму што ў яе ёсць паветраны пухір, частачка іншай стыхіі. Рыба не разумее, як у яе атрымліваецца плаваць... Вось і ўва мне выявілася такое нешта... Іншароднае. Над чым я не ўладная.

– Чаму... чаму я памятаю цябе... Цьмяна, але памятаю...

Корвус зноў адступіў на крок, гледзячы на мяне з нейкай сумнай пяшчотай, ад якой пераварочвалася сэрца.

– Пабочны эфект. Гэта не была ўсё-ткі звычайная аперацыя па перасаджванні апладнёнай донарскай клеткі... Выпадак дужа складаны. Я ўжыў эксперыментальныя метады і сродкі. Не толькі пры зачацці, – гаварыў амаль вінавата. – У табе вельмі шмат ад донара. Магчыма, частка яе асобы, рэптыльная памяць...

Божа ж мой... У мяне часам балела нага, левы мезенец. Дактары нічога не знаходзілі, казалі – нервовае... А ў Яўгеніі Равіновіч нага была абмарожаная, і левы мезенец адняты. Я – што, як Гары Потэр, які насіў у сабе харкрукс, частачку душы Валдэморта?

Корвус ласкава і асцярожна – так толькі сняжынкі ловяць на рукавіцу – пагладзіў мяне па галаве.

– Прабач, гэта сустрэча са мной справакавала ўсплёск вобразаў. Потым пройдзе.

А гэта пройдзе, што я зараз адчуваю? Быццам гэтага чалавека я шукала ўсё жыццё. Быццам без яго не змагу жыць далей... Нават Віталя Корвуса я так не шукала, не чакала!

– А вы Мацей Саламярэцкі, так? – Корвус нечакана працягнуў Салому з ветлай усмешкай руку, на якую айцішнік утаропіўся з некаторай разгубленасцю. – Я вам не супернік, Мацей... – чамусьці прамовіў ціха доктар, і рукапацісканне адбылося. – Добра, пайшлі ў памяшканне, мне трэба паспець адказаць на вашы пытанні. Стаўры, Гаўры, ахоўваць!

Белыя сабакі, названыя ў гонар прывідных сабак Дзядоў – а хто ведае, мо гэта яны і былі? – паслухмяна патрусілі да брамы. Неяк само атрымалася, што доктар Корвус вёў мяне за руку... І прывёў у сучасную навуковую лабараторыю на першым паверсе галоўнага корпуса, падобнага знешне да дэкарацый для страйкбола.

Вялікі пакой. Гудуць кампутары. На паліцах кнігі на некалькіх мовах, зразумела, спецыяльныя, медыцынскія. На сталах расстаўленыя слоікі ды рэторты з расчыннямі. Прабіркі шыхтуюцца ў спецыяльных падстаўках. Круглыя шкляныя штуковіны з рэчывам, падобным да жэле, грувасцяцца ў піраміды. Мікраскопы, яшчэ невядомыя мне прылады. Штосьці міргае чырвонымі і зялёнымі лямпачкамі, на датчыках мяняюцца лічбы... А там, у верхнім куце, – не можа быць! – сістэма відэаназірання. За чые ж гэта шышы такая раскоша?

Незасцеленая канапа і талерка з нечым недаедзеным на тумбачцы сведчылі, што гаспадар лабараторыі тут і начуе. У яго ж бяссонне – усплыў мой-не-мой успамін. Ля канапы злавесна застылі два штатывы з так званымі сістэмамі – наверсе празрыстыя мяшкі з мутнай вадкасцю, з іх звісаюць белымі водарасцямі катэтары. А ў куце абразы. Маці Божая Усіх Хто Смуткуе Радасць, Святы Кіпрыян і Святая Іусцінія, і, вядома, Святая Маргарыта. Копія сярэднявечнай карціны. Высоўваецца па пояс з пашчы цмока, трымаючы ў руцэ кветку.

А непадалёк, прыхінутае да сцяны, быццам звычайная кульбачка ці бейсбольная біта – стрэльба.

Корвус няўважна скруціў коўдру разам з прасцінай у валік і вызваліў канапу, каб мы маглі прысесці. Гэта было несправядліва – але Мацей падаваўся мне тут страшэнна лішнім.

– Вы знайшлі філасофскі к-камень?

У голасе Саламярэцкага гучаў выклік. Корвус, цёплую руку якога я зноў намацала і проста не мела сіл выпусціць, усміхнуўся:

– Можна сказаць, што так.

Нейкі час мы маўчалі, толькі побач цікалі прыборы. Люцыян глядзеў на мяне, і за ягоным позіркам праяўляліся то зімовы начны лес, то шырозазная нетутэйшая рэчка, то брудныя сцены страшнага пакоя, дзе пахла крывёй...

– Я не шукаў ані вяртання маладосці, ані вечнага жыцця, – раптам жорстка прамовіў Корвус. Ён сядзеў перада мной на зэдліку, выцягнуўшы худыя доўгія ногі, і дужа нагадваў Дон Кіхота – яго таксама можна намаляваць “адной чорнай ламанай лініяй”.

– Я хацеў выратаваць дарагога чалавека. А лекі, натуральна ж, выпрабоўваў на сабе. Штосьці дапамагала, штось не... Дзве апошнія вакцыны ўвесці ёй не паспеў. Дый на мне яны сказаліся толькі непрыемнымі пабочнымі эфектамі.

– Па метадзе Лепяшынскай? – падазрона папыталася я. Але Люцыян толькі засмяяўся – як прыгожа ён смяецца, так бывае толькі ў суровага мужчыны, што не вельмі часта дазваляе сабе ўсмешку.

– Лепшы сродак адбіць у цікаўнікаў жаданне соваць нос у мае доследы: прыкрыцца імем графаманкі ад навукі. Я ад самага пачатку ўсведамляў, што вынікі лепш нікому не паказваць. А схільнасць да містыфікацый у мяне яшчэ ад бацькі... Ён для мачыхі ўвесь час прыдумляў гісторыі пра пралетарскае паходжанне і рэвалюцыйныя подзігі сваіх улюбёных аўтараў, ад Авідыя да Гётэ. Калі Яўгенія памерла, я і думаць забыўся пра свае эксперыменты... Толькі з цягам часу зразумеў, штосьці са мной не так. І мусілі прамінуць гады, каб я зразумеў, наколькі ўсё пагана...

Люцыян зноў гаварыў вінавата.

– Што я ў сваім арганізме намяшаў – уявіць цяжка. Усе эфекты развіваліся паступова... Я працягваў эксперыментаваць. Адзін сімптом прыбяру, другі вылезе. І калі стала ясна, чым можа скончыцца... Сышоў у балаты. Зымітаваў гібель. А тут, у маёнтку маіх продкаў, для мяне ўжо было падрыхтаванае месца. Я прыняў апошнюю вакцыну і думаў, што проста памру. Клеткі ледзь не ўзарваліся. Але... Вось што ў выніку. Гэта я яшчэ старэў дзесяць год пасля... рэгенерацыі.

– Я нешта не разумею, вы дзесяць год тут седзіцё? Атрымаўшы шанс на другое жыццё? – Мацей зноў нервова круціў свае фенечкі. – Ды з такім вынаходніцтвам... Вас на руках мусяць насіць!

– Ніхто больш не пойдзе за мной у гэтую дрыгву, – цвёрда прамовіў Корвус, я адчула, як уздрыгнулі ягоныя пальцы. – Выглядае, вядома, спакусна. Вярнуць маладосць, вечна працягваць жыццё... Але насамрэч я – гэткі Шалтай-Балтай, памятаеце, які сядзеў на сцяне ды зваліўся ў сне... Вось, шкарлупінне сабранае, нейкім цуд-клеем утрымліваецца форма... Але кожная дробная часцінка ўвесь час выхіляецца, імкнецца выпасці, яе трэба падпраўляць, замацоўваць... Іначай усё рассыплецца. Падчас рэгенерацыі я зразумеў, што нічога дагэтуль не ведаў пра боль. А потым прыступы таго болю пачаў атрымліваць на сняданак і на вячэру, а часам і на абед.

Корвус перахапіў мой спалоханы пагляд і ўсміхнуўся заспакаяльна.

– Нічога, я ўмею спраўляцца. І вунь тым... – ён кіўнуў на штатывы з сістэмамі, – і псіхатэрапеўтычнай методыкай. Але жыць так, паверце, больш ніхто не зможа. Звычайнаму чалавеку альбо на наркотыкі падсядаць, альбо... выбраць іншы шлях.

Корвус лёгка пацісну ў маю руку – мне падалося, ягоныя пальцы пульсуюць.

– Каб я прастымуляваў працэс рэгенерацыі да канца, я проста пазбавіўся б болю зусім. Нервовыя клеткі перарадзіліся б і страцілі адчувальнасць.

– Дык гэта ж лепей! – вырвалася ў мяне. Светлыя вочы Люцыяна глядзелі пяшчотна і вінавата.

– Абсалютная адсутнасць болю – таксама паталогія. Да таго ж працэс дайшоў бы і да псіхікі, мозгу... Зніклі б эмоцыі. Здольнасць ацэньваць падзеі. Нават інстынкт самазахавання. Я ператварыўся б у пачвару, з якой проста небяспечна знаходзіцца побач. Праўда, і скончылася б тое існаванне куды хутчэй. Карацей, я выбраў боль.

– Вы сказалі, што для вас тут п-падрыхтавалі месца... Значыць, ёсць саўдзельнік? – змрочна папытаўся Мацей, які не мог не заўважаць нашых сплеценых рук, але старанна адводзіў позірк.

– Месца вартаўніка закансерваванага Апошняга Прытулку было вакантным, – усміхнуўся Корвус. –А чалавек, у чыёй уладзе даць мне гэтае месца і забяспечыць спакой, не менш за мяне зацікаўлены, каб я заставаўся ценем. Каб не пранюхалі нават сакрэтныя службы. У нас з ім... бартэр.

Люцыян махнуў рукой на паліцы з кнігамі.

– Даследую, пішу... Дзе не спраўляюся адзін з доследамі, раблю замову, іх праводзяць у інстытуце, пад кіраўніцтвам, вядома, майго дзелавога партнёра, і ён высылае мне вынікі. Я аналізую, раблю высновы, фармулюю здагадкі... Артыкулы, манаграфіі... Аддаю не ўсё, наконт цудоўнага амаладжэння – табу, але і так дастаткова.

Што ён гародзіць? Я вырвала сваю руку з ягонай і падскочыла да паліцаў. На ніжняй – з дзясятак кніжак са складанымі навуковымі назвамі, на карэньчыках якіх значылася “Д.І. Каструковіч”.

– Гэта што... ты ўсё напісаў?

Корвус паціснуў плячыма.

– Мне дасталіся плённыя гады.

Я ўспомніла выпадкова пабачаныя кадры з навінаў – тэлевізар увогуле не гляджу, замбаскрынку клятую. Імпазантны маладжавы вучоны з сівымі скронямі, у акулярах у тонкай пазалочанай аправе штосьці разумнае гаворыць у мікрафон, час ад часу ашчаджаючы публіцы галівудскую ўсмешку.

– Гэтага ж Каструковіча на Нобелеўскую прэмію вылучалі! З тваімі адкрыццямі! Несправядліва! Ты апусціўся да становішча навуковага ценявога раба!

Люцыян працягваў лёгка і сумна ўсміхацца.

– Якая розніца, пад чыім прозвішчам – галоўнае, ідэі ўвасабляюцца, удаецца камусь дапамагчы. Я ж даўно мёртвы. Магчыма, Гасподзь даруе мне мой выспятак Пані Смерці за гэтую працу. Але так доўжыцца не можа. Як дзіця ўпадзе, анёл падушку кладзе, як стары ляжыць, чорт камень дзяржыць...

У голасе не было ні адчаю, ні суму.

– Ты збіраешся пакінуць нарэшце гэтае месца?

– Я застануся тут назаўсёды. У сваёй родавой сядзібе.

За простымі словамі ўгадвалася штосьць страшнае.

– Я шчаслівы, што змог з табой развітацца.

Нейкі агрэгат у лабараторыі раптам агідна запіпікаў, Корвус імкліва падбег, панаціскаў на нейкія кнопачкі... Выглядаў цалкам здаровым і спрытным.

– П-паслухайце, Люцыян Станіслававіч, вы што, на Вірынеі т-таксама эксперымент ст-тавілі? Гамункулуса свайго задумалі, сачылі за ёй, ад раддому п-пачынаючы? Чаму ж нічога не зрабілі, калі яе акруціў п-прайдзісвет з вашым прозвішчам?

Саламярэцкі заікаўся ўсё заўважней.

– Вы мяне дэманізуеце, шаноўны Мацей, – Корвус нават не раздражніўся. – Я не збіраўся і не мог умешвацца ў жыццё Вірынеі. Калі ўжо сацыяльныя сеткі з’явіліся – так, мог тое-сёе адсочваць. А той Корвус... – Люцыян паморшчыўся. – Спрактыкаванаму псіхатэрапеўту ілгаць марна. Я адразу зразумеў, што мой так званы пляменнік – засланец. І вельмі шкадую, што ў свой час зрабіў памылку: адпісаў табе, Вірынея, сваю спадчыну. Не падумаў, што адразу прыцягну да цябе непатрэбную ўвагу. Дый маці твая ўгневалася б неверагодна. Але бачыш як – ты ўсё роўна цяпер мая спадчынніца. Здараецца, падманшчыкі пераігрываюць самі сябе.

– Дык гэта вы дасылалі мне фанфік на сайт?

– Дасылаў, – неяк па-хлапечы гарэзна ўсміхнуўся Корвус. – Нік, праўда, пазычыў... Дакладней, выкупіў у аднаго твайго фікрайтэра, які вырашыў сысці з фандома. Але аўтар тэксту не я.

– А хто? – недаверліва папыталася я.

– Ты.

Адказ з прысмакам містыкі.

– Дакладней, не ты, – замяўся Люцыян, – а Жэнька. Прабач, для мяне вы зліваецеся ў адно бясконцае маё каханне. Калі яна не ўставала ўжо, мы з ёй пачалі такую гульню... Жыццятворчасць. Як сімвалісты.Ператвараць перажытае ў захапляльны аповед. Уяўлялі, быццам кіно здымаем. Сачынялі разам, збольшага яна... Я запісваў. Шыфр яшчэ з дапамогай рабіна Саламона Барысавіча засвоіў, у пяцідзясятых. Ну, ты памятаеш... Люблю лагічныя задачы і не люблю, калі мая асабістая прастора не абароненая. Хто ж ведаў, што мой сшытак выкарыстаюць як пастку для вас, Мацей...

Корвус стаяў, выпрастаны, як вой на апошнім шыхтаванні перад бойкай. У яго неяк дзіўна пульсавалі зрэнкі. Сціскаліся і пашыраліся ў рытме сэрца, усё больш. І я чамусь ведала, што зараз яму робіцца... балюча... Вельмі балюча...

– Ну, усё, дарагія сталкеры. Хутка са мной будзе праблематычна весці гаворку. Ідзіце і жывіце.

Я не магла зразумець, што адбываецца, але на мяне насоўваўся нейкі жах.

– Чаму ты развітваешся?

– Таму што мне пара.

Ясны позірк, лёгкая ўсмешка... Нешта дзіўнае з абліччам. Я схапіла свайго самага дарагога чалавека за руку, здагадка пацвердзілася: усё дужае цела нібыта пульсавала... Быццам бомба перад выбухам.

– Мне даўно ўжо трэба было легчы пад кропельніцу. Працэс пачаўся. Я так згвалціў уласныя клеткі, што, думаю, калі перастаць іх штучна ўтрымліваць у форме, і хаваць асабліва не будзе чаго. Віктар Франкенштэйн і ягонае стварэнне ў адной асобе, халера.

Ён яшчэ жартаваў!

– Ну і яшчэ тое-сёе паспею... Мацей, падыдзіце да мяне!

Салома паслухмяна наблізіўся да Корвуса. А той раптам узяў яго абедзвюма рукамі за скроні, утаропіўся ў вочы сваім пранізлівым позіркам – цяпер невыносна пранізлівым, з пульсуючымі зрэнкамі, часам яны наплывалі ажно на ўсю радужку, і вочы здаваліся бяздонна-чорнымі.

– Вы больш не будзеце заікацца, Мацей Саламярэцкі! Будзеце размаўляць выразна. Адгэтуль вы назаўсёды вылечыцеся.

І яшчэ нешта такое выдаваў... Падобнае да сярэднявечных заклёнаў. Голас глыбокі, ажно мурашкі па скуры. Ніколі не верыла ва ўсялякую

месмераўшчыну. Мацей, падобна, таксама толькі з-за трагічнасці моманту стрымліваўся ад скептычных заўваг.

– Ну вось, мой апошні падарунак.

Корвус адступіў на крок, ягоны твар усё больш нагадваў адбітак на вадзе, па якой ідуць кругі, вочы зрабіліся амаль чорнымі...

– Магістр, не ўздумай пакідаць мяне!

Я абшчаперыла яго. Амаль не памятаю, як мяне, заплаканую, істэрычную, адцягвалі, а я ўсё чаплялася за жылістае цела, якое скаланалі сутаргі. Бязважкія пацалункі апякалі мае шчокі, лоб, вочы... Над вухам гучаў задыханы голас, які сеяў лухту: “Эмацыйная залежнасць хутка пройдзе. Я стану для яе проста персанажам фанфіка”. А потым Корвус схапіў мяне за запясці, адарваў ад сябе і літаральна ўсунуў у рукі Мацею.

– Беражы яе...

Я адбівалася, брыкалася. Але была засунутая ў машыну і адпраўленая з Апошняга Прытулку на “Фордзе” колеру шампанскага, як грэбаная сабінянка на загарэлым плячы прыхадня з беднага паселішча Рым. Васковы злепак. Гамункулус. Эмбрыён з клеткі каханай нябожчыцы, які, аднак, тую нябожчыцу не заменіць.

Два белыя сабакі, Стаўры і Гаўры, не праводзілі нас. Яны засталіся сядзець пад дзвярыма будынка, дзе рыхтаваўся ў апошнюю дарогу іх гаспадар.

Калі мы выехалі за браму і пералічылі першую сотню лужын, я ўжо не ведала, люблю я таго, старога, Корвуса – Магістра, Канкістадора, Фаўста гулагаўскага – альбо ненавіджу... І ў тым, і ў тым пачуцці было шаленства, якое вылечваецца толькі... Ды нічым, насамрэч.

Калі мы вырулілі на трасу, на дарогу да Апошняга Прытулку звярнуў чорны джып. Грунтоўны такі джып з бліскучай пысай.

– Хутка яны... м-м... – скрозь зубы выціснуў Мацей. Я не стала перапытваць, што за “яны”. Мне ўвогуле неяк фіялетава ўсё было.

У горад мы заехалі, калі рынкі зачыняліся, а гастраномы яшчэ не. Салома высадзіў мяне перад маім пад’ездам і моўчкі стаяў. Запрашэння чакаў, ясна. Маё вакно было цёмным, што азначала, што Корвус, каторы малады і фальшывы, не з’явіўся. А абмяркоўваць падзеі гэтага дня я не была гатовая ні з кім. Я толькі што сустрэла і згубіла самага важнага чалавека ў сваім жыцці.

Я зачыніла дзверы за сабой на ланцужок і... На плач не ставалася моцы. На думкі таксама. Я проста ляжала ў цемры тварам у столь. Нада мной праплывала святло фараў, нібы я ляжала на дне ракі, а я хацела марозіва. На верандзе ўласнай вілы. Можна і на ганку хібары. Толькі дзенебудзь у Альпах. Ці Андах. Ці ў Новай Зеландыі.

А вось і ключ у замку заварушыўся, як жалезны жук у жалезнай норцы. А вось і ланцужок бразнуў...

– Вірынейка, адчыні! Гэта я, Віталь...

Я нат не павярнулася на канапе. Ну мы ж ужо высветлілі, што ты не Віталь... Цікава, а вось мая непрыязь да імені ”Яўгеній” – ці не была таксама ад рэптыльнай памяці? Ува мне ж частка асобы той Яўгеніі... Госпадзе, яна ж, па-сутнасці, мая біялагічная маці! Цікава, Корвус не стаў маім бацькам па этычных меркаваннях, альбо таму, што не хацеў мець да мяне бацькоўскіх пачуццяў, а нібыта ўваскрэсіць сваю каханую?

Нарэшце настала цішыня – алілуя. Але потым штось бразнула, хуткія крокі – і мой памерлы муж схіліўся нада мной і дыхае, нібыта прабег вярсту.

– Што... што з табой?

– Я табе не дазваляла заходзіць.

Замiж абурэння ён выцер лоб і выгукнуў з палёгкай:

– Дзякуй Богу...

І дадаў ужо буркатліва:

– Немаведама што перадумаў... Дзверы замкнёныя знутры, святла няма, ты не адзываешся, тэлефон недасяжны...

Запаленае святло нявеtла ўдарыла па вачах. Я неахвотна села. Няўжо новая порцыя маны з дастаўкай на дом? Цікава, у кампутарных гульнях “мана” з націскам на першым складзе – энергія для выраблення магіі. Гойсаеш па віртуальным свеце і здабываеш тую ману. Шукаеш яе крыніцы. Бо без яе не ўжывеш ніякага заклінання – ні тэлепартацыі табе, ні ацалення, ні вогненнага шара. З маной, дзе б ні стаяў націск, жыць прасцей...

– Паслухай, я вінаваты, ты мяне, магчыма, ненавідзіш, але нам усё-ткі давядзецца пагаварыць...

Канапа прагнулася пад цяжарам прыхадня.

– Яўгеній, я шаноўная ўдава. Мне пасуе віктарыянская задуменнасць і самота. А яшчэ капялюш з чорным пяром.

– Жартуеш – значыць, ачуняла... Скажы, калі ты ездзіла з Саламярэцкім у зачынены дыспансер, з кім там сустракалася? Можа, штосьці незвычайнае бачыла?

Ого, а кантора працуе... Ці не сядзеў у тым чорным джыпе, з якім мы сустрэліся, Віталь? Я адказала праўду:

– Бачыла прывідаў мінулага. А што? Быў час – ты сам мяне цягаў па закінутых сядзібах кожны тыдзень.

Віталь сядзеў, унурыўшыся, з напружанымі плячыма, нібыта несправядліва арыштаваны на лаўцы падсудных.

– Ты сапраўды верыш, што ўсё, напісанае ў сшытку ды фанфіку, – праўда?

Я не стала расказваць пра сваю абуджаную другую асобу... Пра тое, што я памятала пра Люцыяна Корвуса і што адчувала да яго. Два Корвусы – гэта ўжо дыягназ.

– Пасля вашага ад’езду ў адным з будынкаў дыспансера знайшлі труп вартаўніка. Лук’яна Сцяпанавіча Дзякловіча. Здаецца, ён быў навукоўцам-аматарам.

– Трупа не бачыла.

Галоўнае – не сарвацца на істэрыку.

– І самае цікавае, Вірынея, труп выглядае так, нібыта праляжаў месяц. Хаця Дзякловіча тыдзень таму бачылі жывым. І хто вас запусціў на тэрыторыю дыспансера, калі не было каму адчыніць вароты, акрамя сабак?

Я маўчала. Неяк не адчувала моцы прыдумаць праўдападобныя версіі.

– Ну, у любым выпадку, тут справы закончаныя, мы з табой едзем на Куршскую касу.

Лагічны пераход... І адказ лагічны.

– Не.

Мне цяпер ёсць з чым параўноўваць вастрыню пачуццяў... Цела майго суджанага ўжо збуцвела, стала прахам... Як залатое руна, якое на тысячу год забыліся ў каморы Медэевых нашчадкаў побач з амфарамі з віном і воцатам.

Віталь пацёр пальцам лоб, разгладжваючы неіснуючы шнар.

– Я разумею, што ты крыўдуеш і за свайго батаніка. А я, між іншым, яго выратаваў. Сцёр запісы. Пайшоў на злачынства.

Я недаверліва падняла вочы на колішняга мужа, той патлумачыў са змрочным гонарам:

– Ніхто не даведаецца, што вы там былі. Смерць Дзякловіча спішуць на хранічную хваробу. Занадта вялікія людзі зацікаўленыя, каб усе канцы патанулі ў дрыгве.

Ён відавочна лічыў, што ягоны ўчынак выправіць мінулае.

– Гэта нічога не зменіць. Віталь Корвус памёр і даўно аплаканы.

На мабільніку зайгралі "Ліцвінтролі". "Пахне чабор... Па-па-пахне чабор..." Савецкі паэт Броўка не ўяўляў, колькі металу можна закатаць у ягоныя лірычныя радкі.

– Гэта Мацей Саламярэцкі тэлефануе. Запрасі яго. Ён ужо каторы час пад тваім вакном тырчыць. А то я сам запрашу...

Значыць, двубой? Я, адчуваючы сябе хрушчом, якога праганяюць па кардонным лабірынце з дапамогай шпількі, націснула зялёную кропку на экране і, не слухаючы ўсхваляваных пытанняў Саломы, кінула:

– Заходзь.

Ён уклаўся ў пятнаццаць секунд.

Два мае мужчыны глядзелі адзін на аднаго так, як... як мужчыны, што прэтэндуюць на адну жанчыну (трон, прэмію, месца за столікам). Калі б паміж іхнімі позіркамі паставіць шклянку з вадой, закіпела б.

– Твая праграма аказалася бракаваная, – нарэшце холадна вымавіў Віталь. Мацей нават не спрабаваў схаваць зласлівай усмешкі.

– Ведаеш, злодзей, які наракае, што выцягнуў пусты кашалёк, не выклікае спачування.

Ён не заікаўся! Зусім! Мусіць, падарунак Магістра!

Фальшывы Корвус хмыкнуў:

– А ты ведаеш, геній недароблены, што той вірус, які ты прыдумаў для сваёй праграмы, мабыць, каштоўнейшы за яе?

І, гледзячы на выцягнуты твар Мацея, канстатаваў:

– І не падумаў, значыць. Птушка Божая. Цябе закрылі б. За кампутарнае шалберства. У цябе ж цяпер рэпутацыя... Няма каму заступіцца. Закрылі б, і нікуды не падзеўся ад супрацоўніцтва. Ніхто б мілыя размовы больш не вёў. Хіба што па нырках.

– І... чаму ж мяне не зачынілі? – саркастычна папытаўся Мацей.

– Таму што адзін сентыментальны агент усё сцёр – да таго, як хтосьці зразумеў, што гэта не проста вірус, – гучала таксама з сарказмам. – Сцёр нібыта выпадкова, зразумела. Што не служыць апраўданнем. Так што я цяпер таксама беспрацоўны.

– Дык я табе павінен дзякуй сказаць? – Мацей насупіўся, на ўпарты лоб зухавата, па-шляхецку ўпаў чуб.

– На тым свеце вугалькамі разлічымся, – скрозь зубы прасіпеў Віталь. – Я пра яе думаў, – кіўнуў у мой бок. – Могуць пацягнуць за сведку. А потым да цябе ў зону са шкадобы апельсіны цягаць будзе. Яна ж і была з табой ад шкадобы.

Мацей нядобра выскаліўся, майка на грудзях нацягнулася над напятымі цягліцамі, намаляваны Кафка, здаецца, злавесна вылупіў вочы.

– Шкадавала, кажаш? Ну і добра. Мне і драбочка яе шкадобы хапае. А вось табе, падонак, чаму цэлага яе кахання не хапіла?

З Яўгена ўсё-ткі зляцела прафесійная раўнавага, бо ён больш не думаў, як выгадна выглядаць:

– Вось твая ўдзячнасць, разумнік, за ратунак! Думаеш, я не магу цябе ўмомант на зону адправіць, каб фанабэрыю збілі?

– Адпраўляй, даносчык! Усё роўна Вірынея з табой не будзе! А ўздумаеш на яе маім лёсам ціснуць – дык я лепей з жыцця сыду!

Мацеевым словам я верыла.

І вось тут мусіў прагучаць медны гонг... Альбо турыны рог... Альбо вокліч герольда. Яны стаялі насупраць адзін аднаго. І я пабачыла, што абодва аднолькавага росту, магутныя, гожыя і не Корвусы.

Ды што ж такое...

Слёзы самі пакаціліся з маіх вачэй, істэрыка прабіла канкрэтна. Паладыны адразу сціхлі і схіліліся нада мной, праігнараваўшы істэрычнае “Пакіньце мяне”, “Нікога не хачу бачыць”, і сакраментальнае “Вы нічога не разумееце”.

– Я б гэтага дзеда-эксперыментатара сам па падлозе размазаў... – прагаварыў тужліва Віталь.

– Але каб не ён – і яе б не было, – гэтак жа змрочна заўважыў Мацей.

Ад злосці на сябе, на іх і на глабальную несправядлівасць я села, сцяўшы зубы і выцершы апухлы твар рукавом. У вас не самая гламурная прынцэса, панове. Ну і што? Староста берасцейскі Сапега забараняў пахолкам пасля банкетаў мыць срэбныя талеркі. Каб серабро не змылася. Таксама рукавом пратруць – і далей навальваюць лёды і кумпякі.

Я разумела, што клубок скрываўленых нітак нехта мусіць нарэшце разблытаць... А там, дзе немагчыма – разарваць. Падняла вочы на Віталя. Ён адчувальна напружыўся.

– Скажы праўду: як там было ў Закапанэ з аварыяй?

– Я ж казаў – напіўся. Набухаўся як бабёр. І паехаў у горы. Рэзка расхацеў быць Віталём Корвусам. Мне сказалі, я мушу цябе... перавесці з пасіўнай крыніцы інфармацыі ў актыўную.

– Завербаваць, карацей, – злосна выгукнуў Салома.

Віталь скрывіўся:

– Нейкая ў вас двайная бухгалтэрыя, спадарства, з вашай нянавісцю да “гэбні”. Сістэма дзяржбяспекі існуе паўсюль, тэракты вы асуджаеце, фільмы пра Джэймса Бонда любіце.

Мацей сціснуў кулакі:

– Бонд, блін... Наіўных дзяцей расцвельваць, а потым здаваць. Як там сапраўдны Корвус пісаў? У любой беларускай тусоўцы заўсёды з’явяцца кат, здраднік і ахвяра?

– А вы заўсёды можаце іх адрозніць?

Я пляснула даланёй па часопісным століку, які не асабліва пакрыўдзіўся, бо ўвогуле звык, што я выкарыстоўваю яго заміж лесвічкі.

– Хопіць! Майго мужа Віталя сапраўды больш няма. Бывайце, Яўген.

Не ведаю, ці была я так ужо моцна яму патрэбная, сем год на зямлю, як недаедзены суп, не выплюхнеш, але і пра абыякавасць гаворка не йшла. Думаю, ён сапраўды кахаў мяне. Так, як умеў.

– Добра, жывіце – з маёй ласкі. Але на добрую працу ў бліжэйшыя гадоў дзесяць не разлічвайце. І праз мяжу не раю спрабаваць пераехаць.

Дзверы ляснулі так, што прусакі ад інфаркту маглі б паздыхаць.

Салома схадзіў на кухню, прынёс кубак гарбаты. Рамонкава-мятнай. З чатырма кавалачкамі цукру.

– Мне таксама пайсці?

І за пытаннем не хавалася прыніжаная просьба “Пакінь мяне, я той самы, хто табе трэба”. Але я прамовіла:

– Заставайся. Ты ж усё роўна будзеш у машыне пад маім вакном сядзець.

– Буду, – падумаўшы, згадзіўся Мацей.

Я адсёрбнула гарбаты. “Рэптыльныя” ўспаміны гаслі, сціраліся, ад таго падзеі апошніх гадоў бачыліся ўсё больш ясна... Што ж, трэба вучыцца жыць без Корвусаў у сваім жыцці.

Мацей моўчкі выпростваў суставы складнога фатэля, які ўжо гадоў пяць, пасля таго, як начавала мая стрыечная сястра з Гародні, не выцягваўся ва ўвесь рост.

– Я была з табой не ад шкадобы.

Мацей кінуў на свой часовы ложак плед.

– Толькі не кажы, што ты мяне ўвесь гэты час кахала, але толькі цяпер гэта зразумела.

І сапраўды, неяк тэатральна атрымалася б...

– Я столькі ўсяго наадчувала апошнім часам, што не ведаю, дзе было каханне. Паслухай, а вось табе – нашто ўсё гэта? Калі жыццё – за драбочак шкадобы...

Салома пацісnуў плячыма.

– Помніш, як ты да Люцыяна Корвуса кінулася? Ты можаш рацыянальна свае пачуцці вытлумачыць? Не? Вось і я не магу.

І паклаў на зямлю паміж сабою і прыўкраснай дамай аголены меч, каб ноччу асцерагчыся ад спакусы цялеснай... Жартую. Проста лёг на крэсла, адвярнуўшыся ад мяне, накрыўся з галавою пледам і засоп.

А назаўтра, насуперак пагрозам Яўгена-Віталя, высветлілася, што мяне рэабілітавалі і я праз тыдзень перасяляюся са станцыі метро назад у офіс, на другі паверх някідкай жоўтай будыніны ля вакзала. Я так і называла яе – “жоўты дом”. Мае суседзі па метро, Паша і Вадзім Максімавіч, раптам засмуціліся ад звесткі пра перасяленне, паведамілі, што я ўпрыгожвала іх існаванне сваёй каштоўнай прысутнасцю. Фея сутарэнняў. У пятніцу нават на торцік скінуліся з трускаўкамі.

Я ела пластыкавай лыжачкай торт, пада мной, на станцыі, праходзілі людзі з шэрымі тварамі, і на маніторах соўгаліся яны ж...

Скрайні правы манітор паказваў мужчыну ў цёмным доўгім плашчы, нейкім старамодным... Перад відэакамерай мінак спыніўся і зазірнуў у яе цёмнае вока...

Лыжка выпала з маіх пальцаў.

Я дагнала чалавека ў чорным плашчы, калі ён яшчэ не паспеў адысціся ад станцыі.

І не. Гэта не быў зноў уваскрэслы Люцыян Корвус. І не быў ягоны клон ці штучна зароджаны ягоны нашчадак... Незнаёмы мужык з панылым маршчыністым тварам глядзеў на мяне, як на штрафную квітанцыю і на маё “Прабачце, я памылілася” толькі моўчкі адвярнуўся.

– Ірына!

Да мяне падруліў Белы Трактар. Дакладней, белы старэнькі аўтамабіль з высокай пасадкай, з іржой, што ўспаўзала з усіх краёў на ягонае цела. Няўжо савецкая “Ніва”? Старэча дыхаў з падазроным сіпеннем.

– Сядай...

Белы Трактарыст, які больш не заікаўся, скіраваў антыкварыят з матoрам на разварот. У салоне пахла цвіллю, быццам ім карысталіся вадзянікі.

– Адкуль гэты драндулет? – не вытрымала я.

– Абмяняў на свой “Форд”, – няўважна прамовіў Мацей. – Галоўнае, на хаду. А мне трэба было апошні ўзнос за кватэру зрабіць.

Значыць, і зберажэнняў не засталося... Я ўспомніла нашы паходы па элітных рэстарацыях і паездкі то ў Бруге, то ў Бардо, каву ў Вільні і гарачы шакалад у Львове, усё, зразумела, за Мацееў кошт. Спадзяюся, ён не вырашыць, што калі не зможа мяне вось так песціць, я расчаруюся? На ўсялякі выпадак вырашыла сказаць як мага больш праўдзіва:

– Класная машына!

– Ламачча, – абыякава кінуў Салома. – Бацька пабачыў, доўга смяяўся, бо на такой самай яны студэнтамі на выпускным каталіся, а мая маці на яго бутэльку шампанскага выліла за чаплянне.

Я апусціла вочы.

– Нават калі і такой машыны не будзе – не страшна. Пешкі падарожнічаць яшчэ прышпільней.

Мацей скептычна хмыкнуў.

– Мне тут працу падагналі... Сайт гістарычна-турыстычны. Буду праграмаваць... Хочаш – далучайся, як дызайнер. Заказчыкі настойваюць, каб акцэнт быў менавіта на беларушчыне. Паўстанцы, рэпрэсаваныя... Ты ж хацела галерэю іх партрэтаў стварыць. Пакуль незразумела, ці шмат заробім...

– Я згодная!

Гэта вылецела само па сабе. Радасна.

– Добра. У панядзелак сустрэнемся, пагаворым падрабязней. Цябе адразу завезці дадому, ці куды хацела заскочыць?

Нават не прэтэндуе на маю кампанію? І так цэлы тыдзень мы толькі перазвоньваліся. Лаканічна. Мацей не спрабаваў дамовіцца аб сустрэчы, пытаўся толькі, ці не трэба чым дапамагчы. А мне няёмка было клікаць да сябе. Але цяпер – не вытрымала.

– Паслухай, я... я думала, мы разам правядзем выходныя...

Саламярэцкі спыніў Белы Трактар на светлафоры, жылка на ягонай скроні білася, як шалёная.

– Добра.

Мяне пачала ўжо мучыць гэтая ягоная спакойная лаканічнасць.

– Мацей, я разумею, што я не лепшы чалавек. У мяне прусакі ў галаве такія, што імі ў боўлінг гуляць можна... Я ніколі не думала пра твае інтарэсы...

– Але я цябе ўсё роўна кахаю, – перабіў Белы Трактарыст мой пакаяльны маналог на самым цікавым месцы.

І я раптам зразумела, як мяне насамрэч завуць.

“Алеяцябеўсёроўнакахаю”.

Даўгавата, але мне падабаецца. Вельмі падабаецца.

Белы Трактарыст скасавурыўся на маю шчаслівую фізіяномію, і ягоныя вусны таксама кранула ўсмешка.

Мнемазіна патупала па мінулым і сышла, пакінуўшы па сабе друз таго, што здавалася непарушным, а тое, што падавалася часовым і хрусткім, як ракавінка, раптам вытрымала націск свінцовых абцасаў без драпінкі. Дзесьці ёсць Старавежск з ягонай паўразбуранай ратушай і зарослымі сівой травой

могілкамі. Апошні Прытулак з магіламі Корвус-Дзякловічаў і іх пацыентаў. Дакументы ў тэчках з грыфам “Сакрэтна”, да якіх рана ці позна, але дабяруцца. Таму што Ордэн Захавальнікаў працягвае жыць. Як і Беларусь.

### Каменты да фанфіка “Пантофля Мнемазіны”:

Фандом: “Ордэн Захавальнікаў”.
Жанр: агнст.
Памер: максі.
Статус: закончаны.
Рэйтынг: NC-13.
Катэгорыя: гет.
Аўтар: Kobaabba.
Беты: VikShnip, BarysSPB, GeorgijB, GannaB.
Папярэджанні: AU, героі ў іншым часе.
Анатацыя: Што рабіць, калі ты заўважаеш на станцыі метро свайго памерлага мужа?

*Psi*: Тое, што гераіня засталася з айцішнікам, прадказальна. Я б учапілася ў Люцыяна Корвуса, ўратавала і была з ім.

*Беларускі крытык*: Аўтар нічога не ведае пра спецслужбы. Пачыналася інтрыгоўна, з загадкі, як жа фальшывы Корвус уваскрос? А разгадка ніякая.

*Garetski*: Хіба вы не разумееце, што дэтэктыўны сюжэт – толькі фанцік, а тэкст зусім пра іншае. Пра гістарычную памяць.

*Беларускі крытык*: Я разумею, што аўтар разлічвае на Сіндром Пошукаў Глыбіннага Сэнсу. Але чытач так глыбока не дакапаецца. Уся лінія пра ўваскрэслага Люцыяна Корвуса, псеўданавуковыя тлумачэнні выглядаюць наіўна. Не здзіўлюся, калі Kobaabba – дзяўчына.

*Garetski*: Вы зноў пра факты... А тут – пра людзей. Нагадвае эпоху сімвалізму, калі аўтары задумвалі, а крытыкі нават схемы малявалі пра адносіны герояў: каханне гэтага персанажу адлюстроўваецца ў гэтым, а потым прамень ідзе да трэцяга персанажу...

*Psi*: Вірынея – рэінкарнацыя Жэнькі з “Апошняга Прытулку”. Яна вяртае сабе вялікае каханне да Люцыяна. І праз тыдзень шчаслíва ўсміхаецца Мацею? Не веру.

*Garetski*: Не рэінкарнацыя, а самастойная асоба, чытайце ўважліва. І каханне да Люцыяна – гэта ўспышка, адлюстраванне рэальнасці для іх абоіх. Сутычча светаў.

*Беларускі крытык*: Метафізіка. Галоўнае, я цяпер буду баяцца хадзіць па станцыі метро. Раптам зверху пазірае якая-небудзь вальтанутая Вірынея.

*Трандуіл*: хня фанф не панімаю што за пляскі вакол такой хні адмін выдалі фанф Kobaabba

### Раздзел дванаццаты. СУСТРЭЧА НАД МАГІЛАЙ

Ёсць розныя версіі жыццяпісу святой Маргарыты... У адной з іх дабраверная прыгажуня ў вязніцы выклікала на двубой д’ябла. І перамагла – з дапамогай крыжа, веры і Госпада.

Падумайце... Яна сядзіць у вязніцы. Яе катуюць. Жорстка. І яна выпрошвае ў Госпада жудасны двубой...

Няма такой вязніцы, дзе б не было магчымым працягнуць сваё змаганне.

І няма такой волі, якая не магла б насамрэч апынуцца вязніцай.

Я паныла блукала між магіл Вайсковых могілак, і восеньскае лісце пад нагамі нагадвала згнілое адзенне, якое садралі з забітых. Магчыма, і тут расстрэльвалі... Прывозілі ўночы, пры святле фар змушалі выкопваць яміну... Альбо загадзя была падрыхтаваная прорва. Падводзілі да краю, і – кулю ў патыліцу...

І цалкам магчыма, што тыя, каго з’ядноўвала траекторыя кулі, адзін з пісталетам, другі – з уласным жахам, былі суседзямі, сябрамі, сваякамі...

Наша пакаленне нічым не адрозніваецца ад папярэдніх. У кожнай тусоўцы знойдзецца свой кат, здраднік і ахвяра. І папрабуй вызначыць, хто з іх хто...

Смартфон зноў завібраваў, як звон, у які з усяго лёту ўрэзалася сляпая варона. Я зірнула на экранчык, які даверліва засвяціўся, бы агеньчык на вусе страшнай рыбы. Ведаеце, такія жывуць на дне марскім у непраглядней цемры і заваблiваюць сваім ліхтарыкам усялякую рыбоську да зубастай пашчы. У “пысакнізе”, я так называю для сябе Фэйсбук, людцы кідалі адказы на маё шэкспіраўскае пытанне “Забіваць ці не галоўнага героя ў рамане, які зараз пішу”.

“J.K.: Забіць, але пакінуць магчымасьць „уваскрэшаньня“. У „Гульні прэстолаў“ такое часьцяком адбываецца.

А.А.: Зрабіць адкрыты фінал, каб чытач сам дадумваў чым усё скончылася

V.K.: Не забіваць. Хай куды-небудзь з’едзе.

J.L.: не-не-не!

A.P.: Забіваць. Жорстка

A.M.: Хай жыве. Потым працяг напісаць можна

J.K.: Ільф і Пятроў забойствам Бэндэра ў першай кнізе не замарочваліся.

Г.Б.: Нет!!!

V.L.: Можа проста нагу яму адрэзаць?

A.P.: А потым жорстка забіць.

V.L.: Не, навошта садызм? Сэнс прапановы ў тым, каб не забіваць, а толькі адрэзаць нагу, таму што гэта больш гуманна!

A.P.: Ну можна атруціць.

V.L.: Ты крыважэрны, усё б табе забіваць!

A.P.: Гэта мне кажа чалавек, які хоча адняць нагу герою. Смерць – так лепш для героя і для чытача

V.L.: Калі ён памрэ, ён будзе без усіх ног, усіх рук і ўсёй галавы, а я прапаную толькі нагу адрэзаць.

A.P.: Ён будзе цэльнамёртвы, а чытач задасца вечнымі пытаннямі

П.А.: Nielha, bo atrymajecca “Повесть о настоящем человеке”.

І фота з кацейкамі вывешваць не трэба.

Хаця не, фота з кацейкамі ўсё роўна сабрало б больш водгукаў.

А на могілках, як у моргу. Халадавата... Цені даўжэюць і зліваюцца ў восеньскі вечар. Добра, што чорнае паліто сваё ўлюбёнае апранула.

На шэрым някідкім помніку напісана: “Рут Уолес”. Маладая амерыканка пасля вайны прыехала сюды з місіяй ЮНРА. Гуманітарная дапамога. Беларускі хлопчык пачаў танцуць, яна выратавала. Застудзілася і памерла. Муж вярнуўся дахаты, яна засталася ў беларускай зямлі. Цікава, ці жывы той хлопчык? Ці носіць ён або ягоныя нашчадкі сюды кветкі?

Смартфон зноў задрыжэў, мусіць, ад жаху перад негуманнасцю маіх фрэндоў.

J.A.: Забіваць)

Т.Б.: Адпраўце ў псіхушку

К.К.: А які герой? Харошы ці не?)

А.А.: Лепш на катарзе згнаіць.

І.К.: А ён яшчэ не шкадуе, што на першай старонцы не загінуў?

А.Т.: Пакінуць для працяга наступнага рамана.

N.M.: Не!

Л.Д.: Не, хай жыве!

U.K.: Пытанне, на мой погляд, недарэчнае. Зрабіце галасаванне тады. Падзеі ў рамане адбываюцца пад уздзеяннем вобраза, які, у першую чаргу, сам іх і дыктуе. Творца проста іх фіксуе. Тут больш інтуіцыя. Хаця зараз галоўнае большасці дагадзіць.

В.П.: Нее!

A.D.: Так.

Сама не заўважыла, як, чытаючы каменты, прайшла некалькі крокаў назад да брамы. Яшчэ адзін някідкі помнік... Іван Пуліхаў. Тэрарыст, рабіў замах на генерал-губернатара Курлова... Яго катавалі, цела павесілі на браме Пішчалаўскага замка... Помнік паставіла таварыства паліткатаржанаў. Цікава, калі б Іван, недавучаны студэнт, канспіратыўная мянушка “Вася”, дажыў да трыццаць сёмага, ці мела б помнік ягоная магіла? Ад палкіх рэвалюцыянераў пасля пераможнай рэвалюцыі пазбаўляліся. Адна з паплечніц Пуліхава, нязломная Аляксандра Ізмайловіч, дачка генерала, адбыла адзінаццаць гадоў на Нерчынскай катарзе, а ў трыццаць сёмым сасланая ў ГУЛАГ, у сорак першым па загадзе Сталіна расстраляная дзесь у лясах пад Арлом...

Няма ў свеце іншага жывёльнага віду, які б так нішчыў сам сябе.

S.Z.: Кожны чалавек памрэць, калі прыйдзе ягоны час, літаратурны персанаж таксама. Таму пытанне ня ў тым, забіваць яго ці не. Пытанне ў тым, калі завяршыць раман.

І. К.: Гэта проста тэст на крыважэрнасць :)

Е.К.: Калі шчыра чую такое пытанне ўпершыню ў жыцці... Галасую за...

В.Т.: Пашкадуйце!

М.М.: Так, але не боляче, щоб, раптом що, він міг викарабкатися...

Н.К.: Не!

V.T.: Не сьмяротнаму пакараньню! А герой станоўчы?

S.H.: Пасачыце. Там бачна будзе ))

A.D.: Забіць нельга памілаваць.

А.Ю.: Пакіньце надзею на працяг..... ён загінуў... мізіньчык варухнуўся....

К.П.: Паспытайце ў героя)

П.С.: не трэба

A.D.: Забіць дзеля чытача, ці дзеля аўтара?

Е.М.: Сам умрет... это ж ясно.

С.И.: Только если он погибнет смертью храбрых!)

I.S.-S.: Забіваць

S.S.: Кніга-гульня! Калі вы хочаце, каб герой памёр перайдзіце на старонку 150, калі хочаце, каб выжыў на старонку 170 :)))

Н.К.: Только в том случае, если в этом есть историческая необходимость. ))

А.Ф.: ТАК!!!

Ж.Р.: Пра што раман і хто галоўны герой?

А.С.: А напішы так, каб было незразумела і адначасова ўсім дагадзі: тым хто хоча, каб ён жыў і тым, хто разумее, што station станоўчаму не выжыць...

В.Р.: Ні ў якім разе не забіваць!

М.С.: Ну пакалеч крыху, калі ўжо зусім ня можаш стрымацца...

Л.С.: Няхай жыве і мяняецца да лепшага

Я.М.: Сама не забівай – грэх вялікі! А героі рамана падчас напісання разбяруцца, натхненне прадыктуе... Ужывайся ў сюжэт асцярожна!

В.К.: Не!!!!

І.М.: Хай ще трішки поживе.

Л. В.: Кубик бросить, здесь не отвечать – тянуть интригу))

О.Т.: На мой погляд, калі ён будзе далей мучыцца, пасля завяршэння раману, то хай жыве. А калі яму трэба памерці, тады можна.

Я зноў схавала смартфон і збочыла з асфальтавай сцежкі на вільготную глебу... Тут як ні намагаешся не наступіць на чыюсь магілу – усё роўна не атрымаецца. І ў мазгу ўвесь час круціцца “Выбачайце... Прабачце...”, нібыта ў набітым аўтобусе прасоўваешся да выхаду, мімаволі штурхаючы спадарожнікаў.

А вось і той помнік, які я шукала. Не мармур, не граніт, сціплы бетон. У дробных трэшчынках пасяліўся мох. Ні агароджы, ні кветак, нат збуцвелых штучных. “Люцыян Станіслававіч Корвус”. Даты нараджэння і смерці няма. Ведалі б фрэнды, якія зараз пішуць мне парады, што імя таго, пра каго яны спрачаюцца, выбітае на гэтым сціплым помніку...

Вырасціць “чароўны крышталь”, які я атрымала ў падарунак падчас акцыі на карысць сучбелліту, можна, толькі падставіўшы звычайныя кардонныя палоскі. Вылітае на іх з пластыкавай бутэлечкі рэчыва выпроставаецца цвёрдымі сняжынкамі.

Я мусіла даведацца пра рэальны лёс чалавека, на якім збіралася вырасціць “чароўны крышталь” персанажу. Мне бракавала фактаў. Таму і ўзнікла дыскусія ў сеціве. Таму я зараз і мерзну на гэтых могілках.

Д.К.: Можна закруціць інтрыгу, як у серыяле, што ён памёр, а потым выявіцца – што не)

А.Г.: ЗАБІ!

Я.К.: АДЧУВАЮ СЯБЕ ГЛЕДАЧОМ У КАЛІЗЕІ.

В.Ц.: Забіць! Але жорстка)

М.В.: Смерць ачышчае.

I.-D. R.: Не

М.В.: Яшчэ як. Ачышчае сюжэт ды жыццё.

В.Г.: Забіць! Але так, каб чытач жахнуўся, а пасля падумаў: а я ж трупа не бачыў, дык можа – жывы?

Т.Б.: Калі стары – забівайце, калі ў яго ёсць дзеля чаго/каго жыць, то хай жыве.

А.Я.: ЗАБІВАЦЬ!!!! І ЖОРСТКА!!!!!!!

Л.М.: Пусть умрет неожиданной нелепой смертью.

Ź. J.: “Рэйхенбахскі вадаспад”.

V.M.: Жэстачайшэ

Я.Я.: Прыбіць) цвікамі да сцяны)))

В.Ч.: Ні ў якім разе не забіваць. Канцоўка з жывым гг вымагае ад аўтара большай мужнасці ды майстэрства, чым кікнуць персанажа ў спадзеве на

чытацкі катарсіс. А вось як так зрабіць, каб канцоўка аказалася сапраўды моцнай, як у добрым вершы – асобнае пытанне.

Е.Р.: Смерть ему!

А.М.: Не забіваць! Хочацца пазітыву!

А.К.: Можна скарыстацца прыёмам Фаўлза (“Каханка французскага лейтэнанта”, шматварыянтавы фінал), ці паўтараў хто такі ход у беларускай літаратуры?

Н.К.: Не забіваць!

L.S.: Не, не забіваць! Вунь Роўлінг ледзь не ўсіх станоўчых герояў пазабівала... Будзьце міласэрныя да чытачоў

О.Г.: Калі забіць, то працягу не будзе(((

А.Н.: Канешне не забіваць!

Г.Б: Неяк вельмі жорстка. А калі думкі матэрыялізуюцца?

Г.Б: Ну, проста суд тройкі.

В.К.: Очень странно... Очень странно, когда автор пишет роман, не зная его сюжет. Хотя вот есть „Дом-2“, там голосованием можно спасти героя.

С.М.: Галаву адсекчы.

Y.D: Убить нельзя помиловать.

В.В: Лепш не пішыце...

О, апошні камент – самы слушны... Наколькі б жыццё спрасцілася...

Калі шэры туман і дробны дождж з’ядналіся ў адно халоднае і мярзотнае сутонне, а надмагіллі ў прыцемку нібыта пачалі пагойдвацца і вырастаць, я нарэшце пабачыла дзве постаці, што набліжаліся ад царквы сюды, лавіруючы між помнікаў пад чорным ветразем парасону. Плячысты хлопец у чорнай скуранцы і клятчастай хустцы вакол горла, русявыя валасы забраныя ў хвост, і дзяўчына ў кароткім і шырокім чорным палітончыку, доўгія ногі ў берцах, рудыя валасы ў дрэдах... Дурніца, напэўна. Таму што прыгожая. Такая, ведаеце, вытанчаная гожасць з паштовак эпохі арт-нуво. Калі дапускаць, што ў такой прыгажуні ёсць мазгі, можна давесці свой узровень самаацэнкі да крытычнага. Тым больш спадарожнік час ад часу паглядаў на яе, як на боства, якое зрабіла ласку на нейкі час спусціцца да яго, нявартага. Я адмахнулася ад рытуалу вітанняў.

– Вы знайшлі патрэбныя матэрыялы, Мацей?

Хлопец кіўнуў і дастаў з кішэні памаранчыкавую флэшку. На яго руцэ, якая трымала парасон, мезенец быў з абрэзанай апошняй фалангай, а запясце абвівала цэлая калекцыя фенечак.

– Тут усё, што здолеў здабыць. Спісы расстраляных, спісы супрацоўнікаў НКУС, следчыя справы, прысуды... Спадзяюся, вы разумееце, што, па-першае, гэта незаконна – я ж хакнуў расійскі закрыты архіў, і ў адкрытым доступе вы гэтыя матэрыялы не размесціце. А па-другое, гэта кропля ў моры. Толькі тое, што адлічбаванае.

– Дзякую!

Мне казалі, што Мацей Саламярэцкі, калі захоча, залезе хоць у сістэму Пентагону.

– Не хвалюйцеся. Я ж мастацкі твор пішу, выкарыстаю факты так, што ніхто не прычэпіцца.

– Хадзіла я нядаўна ў оперу, – раптам азвалася дзеўка, імейка ў яе было – Вірынея. – Кармэн такая ўся гламурная, з прыгожа размаляванымі кастаньетамі, вытанцоўвае перад Хазэ... А ў Мэрымэ яна ў тым эпізодзе за няйменнем кастаньетаў разбівае талерку і таньчыць, выбіваючы рытм аскалёпкамі.

На жаль, не дурніца. Маю на ўвазе Вірынею.

– Зразумела намёк. Але прыкрашаць нічога не збіралася. Хаця і не ўсё можна вываліць на чытача... Ён проста не паверыць.

Дзяўчына скрывіла куточак рота, і Мацей зараз жа паўтарыў яе міміку.

– Гэта з майго ўласнага досведу... – і чаго цягне перад смаркачамі апраўдвацца? – Неяк пісала раман пра падзеі дзевятнаццатага стагоддзя, працытавала архіўны дакумент. Пра катаванне маладзенькага садоўніка, якога гаспадар абвінаваціў у крадзяжы. Допісы пайшлі абураныя... Не можа чалавек столькі ўдараў бізуном вытрымаць. Дзве тысячы па спіне. Тысячу па жываце. У аўтара садысцкія схільнасці. У аўтара хворая фантазія. А я ўсяго толькі дакумент працытавала.

Дзеўка важна паківала, прыкусіла губу і кінула сарамлівы позірк на хлапца. Раптам падалося, што яна зусім не фанабэрыстая і не самаўпэўненая, а зусім наадварот.

– Спадзяюся, вы дасцё на наш сайт хоць урывак з вашага новага твору?

Мацей усміхаўся так шчыра, як можа толькі моцны шчаслівы мужчына.

– Не люблю знаёміць з тым, што не скончана... А вось пра яго... – я кіўнула на бетонны помнік з заміраннем сэрца, – знайшлі штось новае?

Саламярэцкі збянтэжыўся.

– Нічога. І наконт гэтай магілы – ні радка. Нат на планах няма. Нібыта помнік сам па сабе ўзнік.

У парадзелых шатах таполі проста нада мной штосьці зашаргатала. На мой улюбёны бэжавы капялюх, брылы якога ўжо абвіслі ад вільгаці, пасыпаліся цяжкія кроплі, быццам хтосьці зверху стукаў мяне па галаве, патрабуючы ачомацца і заняцца нарэшце нармальнымі справамі, за якія плоцяць.

– У нас ёсць версія, – загаварыла Вірынея. – Вы ж мяркуеце, што Люцыян Корвус быў рэпрэсаваны. Магчыма, помнік паставілі сваякі, якім хтось сказаў, што ён быў закатаваны і пахаваны дзесьці тут. На ўсіх мінскіх могілках расстрэльвалі падчас рэпрэсій. Паставілі проста, каб быў хоць які знак. А паколькі гэта адбылося пры Савецкім Саюзе, зрабілі ўсё патаемна. Вось і ўся разгадка.

І броўкі гэтак фанабэрыста прыўзняла, знаёнца...

Тутэйшыя корвусы, крумкачы звычайныя, азваліся тужлівым крумканнем, нібыта хацелі штось падказаць.

– Затое пра Корвусаў з Крукавіч пад Старавежскам нацягаў шмат, – шэрыя вочы Мацея глядзелі вінавата. – У іх падвойнае прозвішча: Корвус-Дзякловічы. Магчыма, продкі вашага героя. Думаю, вам будзе цікава. А грошай не трэба.

На развітанне Вірынея дадала:

– Дарэчы, дзякую, што прызначылі спатканне тут. Я па вашых раманах і ўяўляла вас на фоне старых могілак.

Каб дзеўка ўсміхнулася насмешна, я б яе ўзненавідзела наноў. Але ўсмешка атрымалася сарамяжнай.

Парачка сышла. Пра яе ў літаратурна-гістарычнай тусоўцы хадзілі розныя чуткі. Не заўсёды добрыя. Нібыта прыгажунька была сэксоткай, і нейкая цёмная гісторыя здарылася з яе першым мужам-актывістам. Здаецца, забілі яго, інсцэнаваўшы няшчасны выпадак. А Саламярэцкі быў крутым айцішнікам, але штось непрыгожае ўчыніў. Скраў праграму, ці банкаўскія рахункі хакнуў – не памятаю. Цяпер прысмакталіся абодва да

нейкага гранту, робяць гістарычны сайт, да якога прысабачылі турыстычную рэкламу. Каларытная парачка. Так і просяцца ў персанажы.

Пісьменнік – чалавек бязлітасны. Паколькі дзеўка не выявіла павагі да майго Корвуса, я ствару такую рэальнасць, у якой яна будзе яго апантана шукаць. Свету за ім не пабачыць. Нічога, што яны з розных эпох. Ужыву які-небудзь "элемент фантастыкі". Ці перанясу рамантычнага Люцыяна ў наш час – яшчэ не вырашыла. А Мацейка хай ад рэўнасці памучаецца.

Галоўнае, фактуркі зараз нагрэбсці!

Матэрыялаў Саламярэцкі сапраўды нацягаў – на тамоў пяць варлам-шаламаўшчыны... Нават сто баксаў, якія я адклала за ягоныя паслугі, не было б шкада. Але як грошы не ўзяў, давядзецца на знак удзячнасці якісь раздзел рамана даць для публікацыі. А хіба шкада – мне піяр, а хто зацікавіцца, пасля і цалкам раман набудзе.

Калі, вядома, я яго завяршу. Бо пакуль усё рассыпаецца, як з занадта сухога пяску... Не хапае нейкай дэталі.

Дома – алілуйя, субота! – я пачала вывучаць здабычу. Ну, прывітанне, Корвус-Дзякловічы! Герб "Слепаўрон". Атрымалі пры вялікім князі Казіміры. З пятнаццатага стагоддзя, значыцца. Не самыя радавітыя. Калі Люцыян Корвус – апошні з роду, на ягонай магіле належала раструшчыць каменную пліту з гербам. Разляцеўся б крумкач са скрадзеным каралеўскім пярсцёнкам у дзюбе на шэры друз... Перада мной праходзілі шыхты Корвусаў. Войты, падхаружыя, мечнікі, падпалкоўнікі, стацкія радцы... У васямнаццатым стагоддзі я затрымалася. Цікавая постаць. Жыгімонт Корвус-Дзякловіч, самадзейны батанік, этнограф, астраном, лекар, фізіякрат і хто там яшчэ. Час такі быў, заможныя адукаваныя людзі, у якіх не адмерла прага да ведаў, займаліся адразу ўсім. Не было паняцця вузкай спецыялізацыі. Было жаданне спасцігнуць таямніцы сусвету і змяніць свет да лепшага. Жонка вучонага пана Люцында Карпентэ – з французскага Лангедоку, але толькі напалову француржанка. Маці – з беларускай шляхты, род Аляхновічаў. Займалася акушэрствам. Зладзілі ў Крукавічах шпіталь для бедных, батанічны сад і дэндрарый. Пан Корвус-Дзякловіч перапісваўся з прафесарам Віленскага ўніверсітэта Станіславам Юндзілам. Выкупляў рэдкія расліны. Потым – Жыгімонт раптоўна памірае, пакінуўшы ўдаву з дзіцем, тая выходзіць замуж за суседа, пана Франца Карыбутовіча. Потым пасынак судзіцца з тым Карыбутовічам за спадчыну бацькоў... Захаваліся матэрыялы разбіральніцтва – удавец пан Франц спрабаваў падкупіць суд, ці, як раней казалі, даць панам срэбныя вёслы.

Грукнулі дзверы – муж прывёў з прагулкі сабаку. Валтузня, скрыгат кіпцяў па падлозе, жаласнае скавытанне пад дзвярыма... Ну добра, добра, давай прывітаемся, істотка наша калматая, лінючая... Каб жа ж мопс які, а то аўчара. Сынаў сюрпрыз. Хвастом радасна стукае, быццам Вій праз падлогу ломіцца.

Муж, моўчкі ацаніўшы колькасць раскладзеных вакол кампа папер, прынёс мятнай гарбаты і пайшоў пісаць сваё... А перада мной радаводныя дрэвы вуглавата раслі на аркушах, нагадваючы не дрэвы, а канструкцыі з жалезных пруткоў. Імёны людзей, якіх ніхто ніколі не ўспомніць, павісалі на іх цэтлікамі. Канструктывісцкі лес гісторыі.

Два эпізоды прасіліся ў раман.

Першы. Удзячныя мужычкі ў часы міласэрнага Жыгімонта і Люцынды

двойчы спрабавалі спаліць маёнтак і шпіталь. Вядома, у святой упэўненасці, што паны – чараўнікі.

Другі. У 1896 годзе фальклярыст Павел Шэйн запісаў у Крукавічах ад васьмідзесяцігадовага селяніна Карпа Ваўчка мясцовую легенду.

Страшнаватую легенду, праўду сказаць.

Жыў адзін пан, чарнакніжніцтвам займаўся. Святыя дні не шанаваў, вучоным дужа сябе лічыў. Ехаў ён неяк праз лес ды сустрэў прыгожую дзяўчыну, апранутую як шляхцянка, якая зёлкі збірала. Захацеў ён узяць яе за жонку, а тая і кажа: пайду, калі дазволіш мне зёлкі збіраць ды людзей імі лячыць, бо зарок у мяне такі. Пан згадзіўся. Зажылі яны добра. Пані лекавала, хто да яе прыходзіў, і грошай не брала. А ў пана былі два сябрукі, з якімі разам чарнакніжніцтвам займаўся. Надта ім цікава было, хто ж такая красуня. От падпільнавалі яны, як пані ў лес за зёлкамі ходзіць. Бачаць – валасы распусціла, а па іх срэбная раса коціцца ўверх-уніз. І здагадаліся, што жонка іхняга прыяцеля – гаёўка. Дух лясны, які дарам ацаляльніцтва валодае. А ў куфры ў яе, відаць, лекі ад смерці. Падгаварылі яны пана. Як жонка ў лазню пайшла, той скраў ключы і адчыніў куфар. А там у рушніку трава загорнутая. І напісана на рушніку, што сіла гэтай травы такая... Калі цмоку даць – яго знутры разарвець. Калі парадзісе даць – яна лёгка народзіць. Калі мужчыну даць – ён жыццё нанова пачнець. От закарцела пану паспытаць, як гэта – жыццё нанова пачаць. Нарыхтаваў адвару з тае травы, пайшоў з сябруком у леснічоўку. Вып'ю, кажа, а калі кепска будзе, дай мне з іншага кубка тоўчаны рог азінарога, які ад любых атрутаў дапамагае. Выпіў пан, і стала яму косці круціць, цягліцы рваць. Сябрук лекі не даў, а ўзяў ды ўцёк, і нікому нічога не сказаў. Праходзіць дзень, другі... Сталі пана шукаць. Знайшлі ў лесе яго адзежу, вырашылі, што ваўкі нешчаслівага задзёрлі. А сябрук увесь гэты час ягоную жонку суцяшае, пакуль не згадзілася замуж за яго выйсці. Вось сядзяць яны ўтрох: гаёўка, яе новы муж ды трэці з кампаніі. А ў дзверы хтось стукае. Хлапчыска хворы ўвесь, трасца яго трасе, з лахманоў вошы сыплюцца. Ды кажа, што ён гаспадар гэтага маёнтка. Той, што з гаёўкай ажаніўся, загадаў вар'ята з двара гнаць. А другі сябрук узяў калаціну і давай госця біць. Біў, біў дый забіў. Пані потым выйшла паглядзець, бачыць – на шыі хлапца крыжык, які ў яе мужа быў. Прыгледзелася, скеміла штось. Шусь да свайго куфра, адчыніла – а травы няма. Здагадалася яна, што гэта яе муж нябога, ды позна ўжо. Збегла ў лес, і не бачыў яе больш ніхто.

Нейкая страшнаватая праўда хаваецца за гэтай фантасмагорыяй.

Легенду абавязкова трэба выкарыстаць. Магчыма, перанёсшы ў наш час. Вох, і намучаецца ў мяне Корвус...

Я пацерла вочы, натомленыя маніторам. І зноў у адной кампаніі – здрайца, кат і ахвяра... І водгулле легенды пра святую Маргарыту: цмок, якога разрывае знутры, чароўная зёлка, што дапамагае парадзіхам...

Я з уздыхам абвяла позіркам шыхты энцыклапедый ды даведнікаў на паліцах уздоўж сцен, уласнаручна абклееных мною зверху белымі, унізе шурпата-шэрымі шпалерамі. Вось здаецца, у гэтых тамінах мусіць быць усё... А гэта як нерат у мора закінулі. Што выцягнулі, тое і вывучаюць, і здаецца, гэта і ёсць мора... Мае звесткі пра Люцыяна Станіслававіча Корвуса былі адрывістымі, як у студэнта, што на лекцыях гуляў у таньчыкі.

Зрабіць доктара прататыпам галоўнага героя мяне змусіў кароткі ўспамін беларускага паэта, які ў турме-"амерыканцы" ў 1952-м годзе апынуўся ў

адной камеры з біёлагам Люцыянам Корвусам па мянушцы Канкістадор. Таго арыштавалі па справе ўрачоў-забойцаў. Габрэям не быў, але зацята бараніў калегаў, што "падпадалі", і быў прызнаны саўдзельнікам. Прысуд – дзесяць год лагероў. Ці выжыў – невядома. Корвуса прыносілі з допытаў страшэнна збітага. Саджалі ў карцар, дзе можна было толькі стаяць, а перад вачыма міргала зыркая лямпачка. Пасля такога карцару ў чалавека яшчэ доўга ў такт з тым, як міргала лямпачка, заплюшчваліся і адплюшчваліся вочы, і ўсе мышцы твару сціскаліся і расслабляліся. Чалавек вар'яцеў. У Корвуса, аднак, такога не здарылася. Наадварот, спакойна заявіў, што цудоўна выспаўся. І ўсё, што ад яго маглі дабіцца на допытах – лацінскага выслоўя "Conscienta mille testes". Сумленне вартае тысячы сведкаў. Спадар доктар упарта паўтараў гэта на ўсе цытаванні даносаў і сяброўскіх прызнанняў. Следчыя шалелі. Лічылі за здзек. Корвус яшчэ і лекаваў суседзяў па камеры – без медыкаментаў, рукамі. Здымаў боль. Упраўляў вывіхі. Спыняў кроў. Пасля суда хуткага і няправеднага шляхі паэта і біёлага разышліся.

Згадзіцеся, людзі, якія праяўляюць незвычайную трываласць у экстрэмальных абставінах, чапляюць. Хочацца прасачыць іх лёс. А тут яшчэ падчас блуканняў па Вайсковых могілках натрапіла на помнічак, на якім было выбіта "Люцыян Станіслававіч Корвус", і не мелася ніякіх датаў. Загадка! Я вырашыла, што Люцыян Корвус стане героем майго новага рамана... І ў пошуках звярнулася да надзейнай крыніцы – стваральніка папулярнага сайта "Дзе-Беларусь".

І ўсё-ткі, чаму звестак няма? Можа, я раблю якую-небудзь памылку, прычым відавочную?

Я адкрыла файл з успамінамі рэпрэсаванага геолага Уладзіміра Пятровіча Багацько, які адбываў пакаранне там жа, дзе і мой герой. І хутка натрапіла на згадку пра Лук'яна Сцяпанавіча Дзякловіча, ссыльнага доктара, які працаваў у сангарадку Затока.

Корвус-Дзякловічы! Можа, памылка мая ў тым, што я шукала Люцыяна Корвуса, а ён, маючы падвойнае прозвішча, для сяброў прадстаўляўся Корвусам, афіцыйна называўся Дзякловічам, і фігуруе ў крыніцах пад абодвума імёнамі? Неверагодна – але ўсялякае бывае... "Корвус" – гэта ж для эпохі татальнай падазронасці занадта замежна. А ў высылцы ягонае "Люцыян Станіслававіч" цалкам маглі памяняць на прывычнае "Лук'ян Сцяпанавіч".

Чытаць успаміны былых вязняў ГУЛАГа страшэнна цяжка. Іх аўтары часта людзі інтэлігентныя, якія маглі аналізаваць, што адбываецца. У лагеры, дзе "перавыхоўваліся" геолаг і доктар, меліся ўсе нацыянальнасці... Польскія "акаўцы", баптысты з Валыні, этап чачэнцаў і інгушоў... Хлопец з Мураму, які ў шаснаццаць гадоў збег з завода на фронт, ваяваў, а пасля быў асуджаны на пяць гадоў лагероў за дэзерцірства з працоўнага фронту... Венгерскія габрэі, чые сем'і знішчылі ў Асвенцыме, а іх, працаздольных мужчын, фашысты сагналі ў атрады і змушалі капаць акопы. А пасля вызвалення ўсіх з тых атрадаў адправілі ўжо ў савецкія лагеры. Ваеннапалоннымі небарак не назавеш. Таму на іх лёс проста... забыліся. Сядзяць – і сядзяць.

А яшчэ з аўтарам успамінаў працаваў адзін пралетарый з Ташкента, слесар трэцяга разраду, якога заграблі за тое, што выпісваў газету "Правда Востока". У сорак чацвёртым гэты цалкам правільны орган ЦК Кампартыі

Узбекістана надрукаваў ліст югаслаўскага галоўнакамандуючага Броз Ціта да савецкага галоўнакамандуючага Іосіфа Сталіна. Узбекскі наборшчык прапусціў адну літару. У загалоўку перад прозвішчам “Сталін” буйным шрыфтам красавалася “гаўнакамандуючы”. Усю рэдакцыю расстралялі. Наклад канфіскавалі. Але газетка ўжо разышлася па падпісчыках, адным з якіх і быў наш слесар. Яго заспелі, калі ўслых чытаў прыхопленую на працу “Правду Востока”, а паколькі кашчунны загаловак быў павернуты да ўсіх супрацоўнікаў, гэта палічылі прапагандай. Напэўна, сумленны слесар сто разоў прокляў ліквідацыю непісьменнасці ва Узбекістане...

Доктар Лук’ян Дзякловіч быў у гэтым пазасвецці аўтарытэтам. Нават для крымінальнікаў, якія лічыліся прывілеяванай кастай. Лекаваў лагернае начальства. А мясцовыя жыхары празвалі яго добрым чараўніком з Затокі. Багацько ўспамінае, што Дзякловіч напісаў трактат пра пелагру – страшную хваробу, якая ўзнікае ад недахопу пэўных рэчываў у харчаванні, потым даследаванне пра наступствы працяглага галадання... Праілюстраваў каляровымі малюнкамі... Абедзве працы былі адасланыя “ў цэнтр” і зніклі ў маскоўскіх архівах. Манаграфію пра антыбіётыкі Дзякловіч проста падарыў адной маладой дактарыцы, каб друкавала ад свайго імя. Яшчэ геолаг згадваў, што жонка Дзякловіча сядзела ў лагеры непадалёк, а ён пра гэта не ведаў. Высветлілася толькі пасля смерці вусатага вупыра. Але сустрэцца не паспелі.

У сангарадку была добрая самадзейнасць. Ну яшчэ б, нават народныя артысты сярод зэкаў. Адзін паэт-беларус (геолаг не называе яго прозвішча) напісаў п’есу. Неверагодна фальшывая, але ідэалагічна правільная гісторыя перавыхавання сабатажніка ў іх лагеры. Гэткія “Кубанскія казакі” ў ГУЛАГу. Але, пакуль дайшло да першай рэпетыцыі, аўтара застрэлілі ахоўнікі нібыта за спробу пабегу. Натуральна, твор злачынцы не мог быць пастаўлены. А самадзейны тэатр – гэта і пайка, і цяпло, і, магчыма, выратаванае жыццё! Тым больш сярод артыстаў дзве зняможаныя жанчыны, якія калісь ігралі ў сапраўдным тэатры ў Тбілісі, і іх маглі адправіць назад у лес, цягаць бярвенне... Трэба было ратаваць спектакль. Параіліся, і Дзякловіч, найбольш цанімы начальствам, згадзіўся назваць аўтарам п’есы сябе.

Прэм’ера адбылася ў бальнічнай актавай зале. Зэкі весяліліся. А начлагера вырашыў, што ўсё дзейства – пратэст, бунт, падбухторванне... Ды яшчэ і асабістую абразу ўгледзеў. Яму гэта давялі шасцёркі, якія зайздросцілі “халяўшчыкам”.

Вельмі нагадвае гісторыю з драматургам Васілём Шашалевічам. Ён таксама ў зняволенні напісаў п’есу пра свой лагер, яе паставілі ў лагернай сталоўцы, начальнік абурыўся і адправіў Шашалевіча валіць лес... Васіль быў сухотны, таму сядзеў ля вогнішча з фанеркай і адзначаў нормы. І там на яго знарок павалілі бярозу. І так, што тая, упаўшы, прыціснула драматурга да вогнішча. Дрэва магутнае, не падняць... Давялося распілоўваць... Пакуль вязня вызвалілі – абгарэў. Ажно вочы выцеклі. Але яшчэ быў жывы, памёр у лагпункце.

Дзякловіча таксама ў пакаранне адправілі на цяжкую працу – рабіць цэглу. Крымінальнікам далі ўказанне: расправіцца з нягоднікам. Як мага больш жорстка, няхай памучыцца. Але каб выглядала як няшчасны выпадак.

Гэта былі не “законнікі”, а “сукі” – крымінальнікі, якія супрацоўнічалі з лагерным начальствам. Злодзеі ў законе, магчыма, не сталі б забіваць доктара – персону імі паважаную, альбо зрабілі гэта не так жорстка. А

для “сук” не існавала ніякіх межаў у вычварэнствах над “мужыкамі”. З доктара здзекваліся цэлыя суткі. Побач з цагельным цэхам быў швейны... Камусь у галаву прыйшла “дасціпная” думка: доктар робіць уколы, цяпер трэба зрабіць уколы доктару. Набралі іголак... Не, не змушайце мяне расказваць... Я сама хачу забыць. Ха-чу за-быць...

Потым здарыўся і “няшчасны выпадак”: доктар “уваліўся” ў печ, дзе абпякалі цагліны. Уваліўся па пояс. І некаторы час быў яшчэ жывы.

Ха-чу за-быць...

Дарэчы, забойцаў цудадзейнага доктара Дзякловіча пасля другія зэкі пералавілі і таксама ўчынілі “няшчасныя выпадкі”... А жонцы забітага крадма аддалі жменю голак, змяшаную з попелам. Яна сказала – пахавае ў роднай зямлі, куды доктар так марыў вярнуцца.

Я сядзела, апусціўшы галаву на стол, як Гойя на гравюры, над маёй галавой таксама віліся пачвары, і мне хацелася прачнуцца. Абудзіцца ў свеце, дзе нічога падобнага не можа быць, ніхто не заганяе ў жывога чалавека голкі за тое, што ён іначай думае. Нікога не бэсцяць, не залічваюць у падонкі проста таму, што ён не любіць сістэму ці нейкую ідэю. Дзе не можа быць пад помнікам пахаваная толькі жменя абгарэлых іголак.

І я разумела, што напісаць менавіта так, як вычытала ва ўспамінах геолага, я не змагу. Гісторыя майго героя будзе іншай.

Так, балючай і трагічнай. Але іншай.

І можа быць, хтосьці з тых, хто яе прачытае, аднойчы адмовіцца выбіраць між ролямі ката, здрадніка ці ахвяры.

Таму што застанецца чалавекам. Проста чалавекам на сваёй зямлі.

Ну неяк так... Хопіць пафасу? Альбо яшчэ падкінуць? Я магу. Вось толькі не магу забыцца на забытых.

Мнемазіна ступае па нашай гісторыі свінцовымі абцасамі. Чуеце?

***Каментарыі:***

*Трандуіл*: хня фанф не панімаю што за пляскі вакол такой хні адмін выдалі фанф Рублеўскай

*2016*

Ганна Шакель



...харэй майго
і ямб твайго
імёнаў
не кладзецца
на дактыль...

# Лёс 2.0

* * *

ты мне прысніўся
каляднай ноччу.
заплюшчу свае, каб убачыць
тваe
нязгодныя вочы.
хай іншы анёл
за табой сочыць.
маўчанне ў вечнасць.
размова скончана.

* * *

маё сэрца пячэ невыносна.
ты пасыпаў яго перцам
і нацёр гарчыцай.
смачна есці!

* * *

баюся.
баюся таго, што у іншых расцягвае рота куткі:
баюся атракцыёнаў, вялікіх натоўпаў на святы,
калі каляровы агонь паветра ірве на шматкі,
баюся піць самагонку замест гарбаты.
баюся, што хтосьці падорыць табе мяне –
шкляную фігурку з шэрагу сотні такіх жа самых,
і кожная з іх па-свойму свой лёс кляне, каб
да цябе пераехаць з паліцаў жыцця сувенірнай крамы.
баюся, паставіш мяне пад акно, каб бачыць усю наскрозь.
не страшна, калі разаб'юць мяне дзеці, гуляючы ў снежкі,
баюся, падумаеш, гэта табе здалося. і ўсміхнешся.
найболей баюся гэтай тваёй усмешкі.

* * *

Ты спытаеш,
чаму ў нас
не атрымліваецца
танцаваць разам
вальс.
Я адкажу,
што харэй майго
і ямб твайго
імёнаў
не кладзецца
на дактыль.

## ЛЁС 2.0

марыў быць
мегапісьменнікам.
стаў
мікраблогерам.
памёр
наначалавекам.

## МУЗЧЫНЫ

Шторaз шанцуе на музаў мне.
Шанцуе на муз, на мужчынаў – не.

* * *

выпадковы дотык.
– прабач.
– прывітанне...
вось і ўвесь сэнс
нашага стасавання.

* * *

лічылі дрэвы святымі
спалучальнікамі трох сусветаў
і дасылалі таемнае Богу
з птушкамі

паставілі цэрквы,
вышэйшыя за дрэвы,
і пачалі стасавацца з Усявышнім
сам-насам

збудавалі хмарачосы,
вышэйшыя за цэрквы,
вышэйшыя за дрэвы,
вышэйшыя за Бога,
і самі сталіся багамі
рукатворнага алімпа,
і не засталося ў нас нічога святога

а Бог як кіслarод:
удыхаючы жыццё, непазбежнасць – памерці,
а чым ты бліжэй да зямлі –
тым у грудзях Яго болей

## НЯДЗЕНЬ НЯВОЛІ

Нялюдзі неграмадзянаў навідзяць.
Невіншуюць, неабдымаюць нябольна.
Небеларусы з няўсмешкай няплачуць.
Ненапружанае нечаканне ў непаветры нявісне.
Нясвята. Нягорка.

*25.03.2017*

тэатр

Леанід Дранько-Майсюк



...У выраку сваім не будзь таропкі...
Князь Яраполк высокае крыві,
Не тое што Ўладзімір – сын халопкі,
Якога хоць і князем не заві...

# Полацкі вір

***Драматычная паэма паводле п’есы Аляксея Дударава “Палачанка”.***

*Прысвячаю Аляксею Дудараву*

А с о б ы:

Р а г н е д а – полацкая князёўна.
У л а д з і м і р – наўгародскі князь.
Р а г в а л о д – полацкі князь.
Д а б р ы н я – Уладзіміраў дзядзька.
Р у л а ў – варажскі купец.
Р у а л ь д – памочнік Рулава.
Б л у д.
Л ю б а в а.
Б р а ц і л а.
С е л я н і н.
П а л я с о ў ш ч ы к.
С к а м а р о х, д р у ж ы н н і к і, с л у г і, д з я ў ч а т ы.

*Дзеецца ў 978 годзе ў Полацкім і Наўгародскім княствах.*

### З'ява 1

*Полацкі лес. Прыходзяць д з я ў ч а т ы.*

Д з я ў ч а т ы
*(Спяваюць.)*

Полацкае зайчанятка
Ў хованкі гуляла
І за Палатой-ракою
Ліса напаткала.

Ліс, як раніца, чырвоны!
З зайчаняткам белым
За ракою Палатою
Пагуляй, пабегай.

А таксама, а таксама
За Дзвіной ракою,
Дзе пяе чарот высокі
Па-над асакою.

Ліс, як раніца, чырвоны!
У ліхім сваволлі
Полацкае зайчанятка
Не чапай ніколі.

Добра ля вады і неба
Мець гульню такую...
Нагуляўшыся, вяртайся
У нару глухую.

### З'ява 2

*Ноўгарад. Уладзіміраў палац. Д а б р ы н я прыслухоўваецца да конскага галопу. Галоп толькі што заціх пад акном.*

Д а б р ы н я

Прыехаў там купец,
Або музыка з лірай?

Б р а ц і л а
*(Уваходзіць.)*

Ды кіеўскі ганец
Блуд – ведамы праныра.

«Князь Уладзімір дзе?» –
Пытае ля парога...
Не бачыў я нідзе
Хітрушчага такога.

Д а б р ы н я

Вядзі яго сюды...

*Брацiла выходзіць. З'яўляецца Б л у д.*

Дык навіну якую,
Дружыннік малады,
Прывёз ты нам?

Б л у д

Благую!

Па свой апошні ўздых
Баронячы краіну
Ад печанегаў злых –
Князь Святаслаў загінуў!

І ведаючы толк
У княжацкай уладзе
Сеў грозны Яраполк
На кіеўскім пасадзе.

І загадаў братам,
Як смердам ненавісным,
З крывёю напалам
Рабіць па бацьку трызну.

Крываваму віну
Падкідваючы дрожджы, –
Паднесці Перуну
Па юнаку прыгожым.

І ў Ноўгарадзе, тут,
Князь Уладзімір вінен
Той выканаць прысуд –
Даць Перуну гасцінец!

Д а б р ы н я
*(Аддаўшыся роздуму.)*

То здрада, то вайна,
То з Кіева, як мор,
Благая навіна –
Князь Святаслаў памёр!

І Святаславаў сын
Старэйшы Яраполк
Заняў пасад і чын,
На кроў жадзён, як воўк!

Падданым загадаў,
Каб князеву труну
З іх кожны ўшанаваў
Ахвярай Перуну.

А гэта смерць, – і зноў
Уздыме нож рука,
І маладая кроў
Пальецца, як рака!

Але Ўладзімір сам
Дружыннікам і мне
Пакляўся, што багам
Не дасць ахвяраў, не!

Шануючы народ,
Так будзе і стаяць,
Гатовы свой жывот
Сам Перуну аддаць.

Б л у д

Хай лясне моцны гром,
Агонь пальецца з неба,
А князевым жыццём
Рызыкаваць не трэба.

Няхай які з калек,
Параіць я бяруся,
Старонні чалавек
Развяжа гэты вузел.

Вандроўны скамарох
З якой суседняй пушчы
Прыкінецца, дальбог,
За грошы невідушчым.

Яму, як на запас,
У торбу дай хоць мала,
І ён любы наказ
Твой выканае дбала.

Пакажаш на каго –
Таго ён і прыгорне,
І выбару яго
Паверыць люд пакорны.

Бо выбіраў сляпы –
Раз так, то справядліва...
Пярун, на ўсё скупы,
Здаволіцца спажывай.

## З’ява 3

*Ноўгарад. На гары стодаў, сярод якіх найбольш бачны Пярун, д з я ў ч а т ы пачынаюць спяваць.*

Д з я ў ч а т ы
*(Спяваюць.)*

За маланкаю маланка,
А за громам – большы гром...
Бліскавіца па-над ганкам,
Навальніца за сялом.

Скрозь такая сінізна –
Гэта фарба Перуна!
І з дубовае грады
Долу градам жалуды!

Яры Тур за хмарай страшна
Рогам крышыць камяні,
Грукат доўжыцца працяжна,
Іскры сыплюцца, агні...

Зачыняйце вокны, дзверы,
Добра думайце пра лёс,
Бо ляцяць ужо сякеры
Перуновыя з нябёс.

Калі знойдзеце сякеру,
То Пярун вам дасць тады,
Не шкадуючы, без меры,
Моц на доўгія гады.

## З’ява 4

*Ноўгарад. На гары ля Перуна – князь У л а д з і м і р, Д а б р ы н я і н а р о д.*

Д а б р ы н я
*(Уладзіміру.)*

Я – дзядзька твой!
                    Ты зараз так зрабі,
Як я цябе прасіў зрабіць учора...
Няхай цябе паслухаюць рабы,
І гора князя – стане іхнім горам!

Уладзімір

У гэты дзень, у гэты час,
На месцы гэтым, наўгародцы,
Хачу звярнуцца я да вас:
У Кіеве патухла сонца!

Сканаў мой бацька Святаслаў...
Правёўшы век у ратнай славе,
Ён гарады сынам раздаў,
Мяне на Ноўгарад паставіў.

Паходы Святаслаў любіў,
Гульбу і хуткія набегі,
Ды востры меч свой затупіў,
Калі абселі печанегі...

І з Кіева цяпер мой брат
Старэйшы Яраполк рукою
Уладнай разаслаў загад:
Смерць бацькаву
абмыць крывёю!

Не футра з воскам, не атлас
І не макуху ільняную,
А Яраполк няўхільна з нас
Крыві юнацкай патрабуе.

Я супраць, ведаеце вы,
Для Перуна галовы класці...
Сваёй хіба што галавы
Хаваць не буду ад напасці.

Для бацькі сам жыццё аддам
Пад гэтым перуновым стодам,
Каб толькі вам, маім братам,
Жыць у спакоі год за годам.

Народ

О княжа наш! Мы за цябе як ёсць
Адзін да аднаго надзейна станем –
Хай старасць нашу,
як і маладосць,
Багі бяруць у знак ахвяравання!

Дабрыня
*(Выводзіць Скамароха.)*

Вось гэты старац, гэты скамарох –
Ён невідушчы, бачыць ён душою,
Бо на гары на гэтай кожны бог,
Ягоным сэрцам водзіць і рукою.

І хай гару маланка скалане,
Хай навальніца наляціць на нівы –
На князя ён пакажа, на мяне...
І выбар гэты будзе справядлівы.

*«Сляпы», абмінуўшы князя Уладзіміра і Дабрыню, паказаў у натоўпе на выпадковага юнака. З дзікунскім крыкам яго пацягнулі забіваць.*

## З'ява 5

*Полацк. У Рагвалодавым палацы Любава.*

Любава

Я з простага паходжу роду,
Сям'я звычайная мая...
Я ўдзячна князю Рагвалоду,
Рагнедзе вечна ўдзячна я.

Рагнеда – слаўная князёўна,
Яна дала ратунак мне
У хвілю той журбы гвалтоўнай,
Калі танула я ў Дзвіне.

Мой бацька грошай –
мех з гарою! –
Напазычаў у цівуна,
А разлічыцца думаў мною –
Вось і паклікала Дзвіна.

Быць лепей чайкаю бяскрылай,
Сябе ў вадзе навек схаваць,
Каб не злюбіўшыся з Ярылам,
Ды цівуніхай раптам стаць.

Але, як ранняя заранка,
Мяне ад цёмнае вады
Князёўны добрая служанка
Даставіла ў палац – сюды!

І тут зычлівая князёўна
У тую скрушную пару
Паіла мёдам з чары поўный
Мяне, як родную сястру.

I нават і аб тым скажу я:
Яна – хай неба ёй пяе! –
Мне аддала сваю кашулю,
Уборы княскія свае.

I жыць пакінула ў палацы,
I я забыла пра бяду,
I развучылася баяцца,
I да Ярылы з ёй пайду!

## З’ява 6

*Полацкі лес. Голыя д з я ў ч а т ы танцуюць і пяюць ля Ярылы.*

Д з я ў ч а т ы
*(Спяваюць.)*

Бог урадлівасці Ярыла
I весялун, і здаравіла,
Работу ведае адну –
У вусны цалаваць вясну!

Конь у Ярылы белы, спраўны,
I белы ўбор, і выгляд слаўны,
I сонцам ён спакон вякоў
Рунь будзіць і мацуе kроў!

Ды лёс і да багоў куслівы...
Ярыла – гожы і шчаслівы –
Свой завяршае весні ход
Гаротнай песняю штогод:

«Васіль мой, Васіле,
Удалы Ярылка,
Не пі, мой адзіны,
Не пі, мой рахманы...

Браточак Ярылка,
Заўсёды ж гарэлка
Да торбы даводзіць,
Да голае хаты;

Да жыткі пустое –
Самоты-бядоты! –
Да крайняй хваробы,
Да мелкай магілы...»

*Адспяваўшы, дзяўчаты пакідаюць лес. Уваходзяць С е л я н і н і П а л я с о ў ш ч ы к.*

С е л я н і н

Бачу, дзеўкі падурэлі
Цяжка ў хаце мець дачку,
Не ўтрымаеш пры кудзелі –
Рвуцца ў лес і на раку.

От, вазьмі маю Любаву...
Як бы хто яе дзярэ,
Прэцца з хаты на забаву,
То ў Дзвіну тапіцца прэ.

П а л я с о ў ш ч ы к

Дзеўкі... Ведамая справа...
Задзяўбі іх перуны...
Як твая дачка Любава,
Тут такія ўсе яны.

I каб чэрава пустое
Не было, ці знаеш ты, –
Пеўняў рэжуць і крывёю
Мажуць густа жываты.

С е л я н і н

Вось куды мой певень дзеўся,
А я жонку ўсё дзяўбу...
Занясла дурная дзеўка
На Ярылаву гульбу!

Шмат багоў... У тым і гора...
Мне цівун казаў, што ёсць
Недзе за далёкім морам
Бог адзін – Ісус Хрыстос!

П а л я с о ў ш ч ы к

Бог адзін?! Хлусіць даволі:
З тым, што кінь – усюды клін,
Не, не справіцца ніколі
Бог, калі ён бог адзін.

Добра хоць, што дні за днямі
Рагвалод – наш дабрадзей –
Перад гэтымі багамі
Рэзаць не дае людзей.

*Ідуць, разважаючы, далей і пакідаюць лес.*

## З'ява 7

*Той жа полацкі лес. Чуецца паляўнічы рог. Гучаць зычныя галасы д р у ж ы н н і к а ў. Увальваюцца стомленыя князь У л а д з і м і р і Д а б р ы н я.*

Д а б р ы н я

Дзень ужо хіліцца да ночы...
Жывы алень, далей бяжы...
Мы паляванне тут закончым –
На Рагвалодавай мяжы.

У л а д з і м і р

Мы ў княстве Полацкім?!
Дзіўлюся!
Вось гэта маладзецкі гон!
У паляўнічай завірусе
Мы праскакалі столькі дзён!

*Шчасліва смяюцца, а тады аглядаюць паляну.*

Д а б р ы н я

Стаміліся, ажно трымцяць
калені,
І хіліць стома гэтая на сон.

У л а д з і м і р

А мо далей паскачам і аленя
Таго дастанем, бо стаміўся й ён?!

Д а б р ы н я

Не трэба, князь,
не вытрымаюць коні,
Ды і мяне адолеў гэты шал...

У л а д з і м і р

Тады прывал, даволі той пагоні!

Д а б р ы н я

Дружына, князь нам загадаў:
прывал!

*Чуюцца радасныя воклічы д р у ж ы н н і к а ў. Князь Уладзімір і Дабрыня на хвіліну пакідаюць паляну. Надыходзіць кароткая ноч. З'яўляюцца д з я ў ч а т ы і ля Ярылы пачынаюць спяваць. Князь У л а д з і м і р і Д а б р ы н я вяртаюцца.*

У л а д з і м і р

Такой мелодыі і зместу
Не чуў... Тутэйшыя, відаць...

Д а б р ы н я

Яны – Ярылавы нявесты...
Іх сёння лепей не чапаць.

У л а д з і м і р

Пільнуеш ты мяне і страшыш...
Ідзі, настаўнік мой стары...

Д а б р ы н я

Ярылу сцеражыся, княжа,
Ягоных дзевак не бяры.

*(Пакідае паляну.)*

## З'ява 8

*Князь У л а д з і м і р на тым жа месцы. Як з туману, выплывае Р а г н е д а.*

У л а д з і м і р

Мае не хлусяць вочы,
І кроў губляе лёд,
Я бачу стан дзявочы
Салодкі, нібы мёд.

На сэрцы пасвятлела
І радасна душы
Такой асірацелай...
Ты хто? Ты хто? Скажы!

Паклікана світанкам
І выспела ўначы:
Ты – зорка, ты – заранка.
Ты – шчасце?.. Не маўчы!

Р а г н е д а

Якія чую словы...
Ці на дабро яны?!
Калі з людскае мовы,
Тады яны з маны!

Прыгожы ты і мужны,
І гаваркі такі,

Аднак маіх не руш ты
Ні вуснаў, ні рукі.

Бо ні заранка-зорка,
Што асвятляе цьму,
Я гэтай ноччу жонка
Ярылу аднаму.

У л а д з і м і р

Якія завушніцы
Твае – як два агні!
Нібыта дзве крыніцы
Ад чыстай чысціні!

Святлу такому рады,
Уцёк я ад слаты:
Як цябе клікаць, лада?
Ці не князёўна ты?!

*(Цалуе яе.)*

Р а г н е д а

Бяда – і немалая –
Зрабілася няўчас,
Ярыла пакарае
За пацалунак нас.

*Рагнеда ўцякае. Князь Уладзімір імкнецца за ёй. Набліжаюцца д з я ў ч а т ы.*

Д з я ў ч а т ы
*(Спяваюць.)*

Бог урадлівасці Ярыла
І весялун, і здаравіла,
Работу ведае адну –
У вусны цалаваць вясну!

Конь у Ярылы белы, спраўны,
І белы ўбор, выгляд слаўны,
І сонцам ён спакон вякоў
Рунь будзіць і мацуе кроў...

## З'ява 9

*Бераг Дзвіны. Прыходзяць Р у л а ў і Р у а л ь д.*

Р у л а ў

Мы – рызыканты-ваяры –
Прыйшлі з-за мора гэтым летам,
Але яшчэ мы – гандляры...
Руальд, не забывай пра гэта!

На ўсё глядзі і заўважай,
А гэты край такі багаты...
Рукам жа волі не давай:
Агонь – славянскія дзяўчаты!

Мы спынім тут сваю хаду,
Бо абышлі ўжо ўсю старонку...
Тут жонку я сабе знайду,
І ты знайдзі таксама жонку!

Р у а л ь д

І сапраўды ж багаты край –
Быкі, авечкі, жарабяты
І коней аж за небакрай,
Каровы, козы і... дзяўчаты!

І ўзрадуецца наш кароль,
Што памяняць мы тут гатовы
Жалеза нашае і соль
На іхнія быкі й каровы.

І ажаніцца можна тут,
Не супраць я такое ласкі,
Бо сапраўды – дзяўчаты: цуд!
Як чараўніцы з яснай казкі!

## З'ява 10

*Полацкі лес. Выходзяць С е л я н і н і П а л я с о ў ш ч ы к, а за імі адразу ж і князь У л а д з і м і р.*

У л а д з і м і р

Я – наўгародскі князь, а вы чые?

П а л я с о ў ш ч ы к

Мы – полацкія, князя
Рагвалода...

У л а д з і м і р

Мо бачылі, каханыя мае,
Дзяўчыну?

С е л я н і н

Ды за кожнаю калодай!
Іх процьма, а не тое што адна...

Мая Любава недзе тут блукае...
Такая, князь, крамяная яна...

Уладзімір

Хачу сваю!

Селянін

Як зваць яе?

Уладзімір

Не знаю...

Палясоўшчык

А скуль яна?

Уладзімір

Не ведаю адкуль...

Палясоўшчык

А з выгляду якая?

Уладзімір

Найкрасуня!

Селянін

Мяне Ярыла не скране адсюль,
І сам Пярун мяне
адсюль не ссуне –
Такой прыгожай сорак год таму
Была мая кабета...

Палясоўшчык

Княжа любы!
На кварту піва сябруку майму
І мне падай у гонар
гэткай любай!

*Займеўшы на піва, Селянін і Палясоўшчык хутка знікаюць.*

Уладзімір

Няўжо я страціў
гэтую дзяўчыну,
А прыгажэйшай за яе няма.
Яе аздобілі, як золатам тканіну,
Вясна і восень, лета і зіма.
Вясна дала ёй чысціню крыніцы,
А восень таямніцу позніх зор,
А лета і зіма ўсе таямніцы
Ахвяравалі ёй на шлюбны ўбор.

*Пакідае сцэну. Прыходзіць Рагнеда.*

Рагнеда

Нібыта спевам салаўя,
Нібыта радасцю нябеснай
Пацалаваў мяне, і я...
Я – не Ярылава нявеста!

Хто ён такі, хто ён такі?
З якога лесу ён і поля?
З чужой ці роднае ракі?
Ён дух якога наваколля?

А раптам ён, а раптам ён
Салодкі сон у Шляху Млечным –
Тады хай стане гэты сон,
Як неба нада мною, вечным.

## З'ява 11

*Ноўгарад. Княжацкія палаты. Князь Уладзімір, Дабрыня, слугі, дружыннікі.*

Дружыннікі
*(Спяваюць.)*

Святло наўкол,
Такая ясь –
І поўны стол,
І з намі князь!

За князя п'ём
Мы з чар віно,
Нібыта гром,
Грыміць яно!

І піва п'ём
За князя мы,
І над сталом
Грымяць грамы.

І хмельны мёд
У чары льём –

І так штогод
За князя п’ём!

Хай век жыве
Твой, княжа, лад –
І ў Кіеве
Займі пасад!

*Становяцца перад князем Уладзімірам на калені.*

У л а д з і м і р

Вы – удалыя хлопцы,
Горы зрушыце вы...
Дзякуй вам, наўгародцы!
Дух у вас векавы!

*Дружыннікі падымаюцца і выходзяць.*

Д а б р ы н я

Журба цябе ўзяла
У абцугі, няйначай...
Ні спевы, ні хвала
Не радуюць, я бачу!

У л а д з і м і р

Пачуцці ўсе мае
У непраглядным змроку...
Хачу, хачу яе
Убачыць хоць здалёку.

Нібы стралу ў трысці
Ці ў пушчы той сцяжыну –
Ты абяцаў знайсці
Мне гэтую дзяўчыну!

Д а б р ы н я

Я абяцаў, аднак
Назваць жа ты няздатны
Якісь адметны знак
Яе красы выдатнай?!

А з палачанак тых,
Што вёў табе ахвотна –
Прыгожых, маладых! –
Не выбраў ты ніводнай.

Каб знаць, каго шукаць,
Хоць кожны дзень шукаю...

У л а д з і м і р

Яе, магу сказаць,
Шукай... Яе кахаю...

*(Выходзіць.)*

Д а б р ы н я

Вада ў рацэ ўгару не пацячэ,
А ў чалавечым сэрцы ўсё бывае –
Няшчасце чалавека апячэ,
Калі ён безразважна пакахае.

*Раптам уваходзіць Б л у д.*

Б л у д

Я з Кіева скачу да Рагвалода,
Аднак не ў Полацак спачатку,
а да вас
Я завітаў, бо ёсць таму нагода...

Д а б р ы н я

Заўжды, мой дружа,
ты завітваеш у час!

Б л у д

Ад Яраполка маю, брат, заданне:
Вязу я грамату, але не Рагвалод –
Павінен першы
прачытаць пасланне
Князь Уладзімір... Вось такі
мой хітры ход!

Д а б р ы н я

За гэта будзеш
добра ўшанаваны...
Князь Уладзімір – гаспадар наш,
дух і лёс –
Цябе, як ваяводу, мой каханы,
Узнагародзіць тут, і ў Полацку,
і скрозь!

## З’ява 12

*Полацкі лес. Да Ярылы падыходзяць С е л я н і н і П а л я с о ў ш ч ы к.*

С е л я н і н

Ярылавай той ночы
Я вельмі, браце, рад...

Пасля гульбы дзявочай
Усё пайшло на лад.

Здавалася, магіла
Чакае і навек,
Але памог Ярыла.
І зноў я – чалавек!

Аж пасвятлела ў хаце,
Скупое на хлябы, –
Ярыла маім зяцем
Стаў пасля той гульбы.

Рагнеда – мне на славу,
Як стала шанцаваць! –
Дачку маю Любаву
Забрала ў свой палац.

І грошай мне без ліку
Насыпала ў машну,
І я аддаў пазыку
Старому цівуну.

Такому рады святу,
У сэрцы – дабрыня...
Магу паставіць хату,
Магу купіць каня!

П а л я с о ў ш ч ы к
*(Паказвае на Ярылу.)*

Тады хвала статую,
Што любіць так людзей...
Ярылу пачастуем –
Сапраўдны ж дабрадзей!

Вяндлінаю і брагай...
На ласку, а не здзек
Хай нашаю біклагай
Частуецца хоць век!

І мы глынем па поўнай
Для лепшага ўсяго,
І два разы шаноўна
Абыдзем мы яго.

*П'юць, двойчы абыходзяць вакол Ярылы, пакідаюць яму адну біклагу і выходзяць. Іх месца займае Р а г н е д а.*

Р а г н е д а

А што б ні сніла я,
што б ні рабіла –
Іду заўсёды да цябе, Ярыла.

Душа мая, напоўненая болем,
З каханым не разлучыцца ніколі.

Здаецца мне,
што я даўно спачыла...
Дапамажы вярнуць яго, Ярыла!

Мой дар ясней
ад яснай заранiцы –
Я шчыра ахвярую завушніцы.

*Кладзе на дол перад Ярылам свае завушніцы.*

## З'ява 13

*Полацкі лес. Ля Ярылы спыняюцца князь У л а д з і м і р і Б р а ц і л а.*

У л а д з і м і р

Зноў гэты лес і гэты зноў Ярыла,
І зноў я ў княстве Полацкім
як госць...
Аднак жа пад Ярылам...
Глянь, Брацiла...
Здаецца, золата...
Там нешта ёсць...

Б р а ц і л а

Там завушніцы нейкая дзяўчына
Пакінула Ярылу, дар за дар...
Ахвяра гэтая ляжаць павінна,
Чапаць яе няможна, гаспадар!

У л а д з і м і р

О, гэта ж тыя завушніцы! Тыя!
Яна мне знак пакінула жывы...
О, недарма, багі мае жывыя,
Сюды ляцеў на скрут я галавы!

Я прадчуваў, што ў гэтым
лесе дзікім
Я след жаданы ўбачу сапраўды...
Шчаслівы дзень, удалы і вялікі...
Брацiла, завушніцы дай сюды!

Б р а ц і л а

О, гаспадару, князю мой вяльможны!
Баюся забабонаў я старых:
Браць завушніцы гэтыя
няможна –
Ярыла пакарае ў той жа міг!

У л а д з і м і р

Ярыла за каханне не карае!
Скачы дамоў,
Дабрыню там скажы,
Што я знайшоў –
душа мая палае...
Душа мая не месціцца ў душы.

Б р а ц і л а

Што наўгародскі люд
пра тое скажа,
Калі цябе пакіну аднаго?
Я не магу цябе пакінуць, княжа,
Ты ўзяў мяне з сабой не для таго!

У л а д з і м і р

Не слухаць князя?!
Ах, ты, смерд паганы!
Тады за службу гэткую сваю
Спазнаеш меч,
крывёю гартаваны...
Праслаўішся, бо я цябе заб'ю!

*Князь Уладзімір выхоплівае меч.*
*Раптоўна з'яўляецца Д а б р ы н я.*

Д а б р ы н я

Мне ноччу поўня добрая свяціла,
А сонца ўдзень, таму я і паспеў...
Мне трэба з князем быць...
Ідзі, Брацiла,
І больш не выклікай
у князя гнеў!

*Брацiла хутка знікае з вачэй.*

У л а д з і м і р
*(Схаваўшы зброю.)*

Дабрыня, я чакаў цябе – у час ты
З'явіўся, як з'яўляешся заўжды...
Не проста дзядзька мой,
а сведка шчасця
Майго, бо я знайшоў яе сляды.

Д а б р ы н я

Паслухай, што табе
адкажа сведка:
Ты з Ноўгарада, нібы злодзей –
шась...
Мне млосна стала,
бо дурноты гэткай
Яшчэ не бачыў... Князь ты
ці не князь?!

З адным слугой
паехаць дакумекаў,
А дзе адна бяда – лічы, што дзве!
Над Ноўгарадам вісне небяспека,
Але яму каханне ў галаве!

У л а д з і м і р

Каханне ў сэрцы! Знай,
калі не знаеш,
Але пакуль што проста адкажы:
Ты пра якую небяспеку баеш,
Трывогу не хаваючы ў душы?!

Д а б р ы н я

Пакуль ты бавішся
пад гэтым стодам,
Твой брат старэйшы Яраполк
не спіць –
Ганца паслаў свайго да Рагвалода:
Сябе з Рагнедай хоча ажаніць!

У л а д з і м і р

І што з таго, малое гэта дзіва...
Хай Яраполк з Рагнедай маладой
Жывуць багата, доўга і шчасліва,
І хай багі даруюць ім спакой.

Д а б р ы н я

Ты звар'яцеў, падумай,
што гаворыш:
Ён гэтак Полацк забярэ, тады

I Ноўгарад наш апынецца ў горы,
I большай не захочацца бяды.

Пакуль ганец у нас, мяне за свата
Пашлі да Рагвалода, княжа мой,
Павінен ты раней, раней за брата
З Рагнедай ажаніцца маладой!

У л а д з і м і р

Жаніся сам, як хочацца жаніцца,
Нявесты ж мне і без тваёй стае –
Яна пакінула тут завушніцы,
I тут я дачакаюся яе!

*Князь Уладзімір пакідае разгубленага Дабрыню аднаго.*

## З'ява 14

*Полацкі лес. Да Д а б р ы н і падступае Б л у д.*

Б л у д

Даволі ўжо, Дабрыня,
Мне гасцяваць у вас,
Бо Яраполкаў вінен
Я выканаць наказ.

Яшчэ ён загадаў мне,
Каб я раскрыў як след
Балючы, хоць і даўні,
Сямейны ваш сакрэт.

Я мушу Рагвалоду
Сказаць без лішніх слоў,
Што Уладзімір з роду
Й халопскага пайшоў.

Па бацьку ён – князевіч
Адзін да аднаго,
Але на гэтым веліч
Губляецца яго.

Хоць бацька князь ягоны,
Якому век хвала,
А маці з-пад прыгону,
Бо ключніцай была.

Па маці ён – рабыніч,
I па табе ён – раб,
Па дзядзьку па Дабрыні...
Кіпцюр з халопскіх лап!

З рабынінага вусця,
З пасцелі, поўнай блох...
I Рагвалод не пусціць
Такога на парог.

Д а б р ы н я

Прашу і ў гэтым разе:
Ты зноў нам паслужы
I полацкаму князю
Пра гэта не кажы.

Б л у д

Тады мне плаха – платай,
Бо Яраполк мяне
Сваім найлепшым катам
Аддасць і не міргне.

Маё худое цела
Падвесяць за рабро,
А галава, як цэбар,
Пакоціцца ў Дняпро.

*Блуд развітваецца з Дабрыняй. Ідзе.*

Д а б р ы н я

Не адхіліць рукою,
Душой не адхіліць –
Яшчэ бяда й такою
На свеце можа быць.

А я паспадзяваўся,
Што будзе ўсё і ўраз,
Аднак жа закахаўся
Пляменнік мой няўчас!

## З'ява 15

*Полацкі лес. Празрыстая ноч. Да Ярылы набліжаецца Р а г н е д а.*

Р а г н е д а

На небе светлыя агні,
Але ў душы маёй імгла,

І тоне кроў у глыбіні
Былога шчасця і цяпла.

Туга агортвае душу,
І, як і ўчора, зноў і зноў,
Я аб адным тугу прашу,
Каб ён прыйшоў,
каб ён прыйшоў.

Я адчуваю – блізка ён,
І недзе тут, і недзе тут...
Палон кахання – не палон,
А проста салаўіны кут.

*Да Рагнеды падыходзіць Л ю б а в а.*

Л ю б а в а

Князёўна любая, даўно
Вяртацца трэба нам дамоў,
Бо дрэвы хмурацца адно,
Што мы трывожым іх ізноў.

Карысць малая – кожны раз
Хадзіць сюды, хадзіць сюды
І бавіць неразумна час,
Канца не чуючы нуды.

Няхай развее нам нуду
Такая блізкая зара...
Пайду і коней прывяду,
Даўно вяртацца нам пара.

*Незадаволеная Любава ідзе па коні.*

Р а г н е д а

Стары Ярыла, як яго не стрэну,
Тады адкрыецца мне дно Дзвіны –
Не даляцяць туды
маланак стрэлы,
І сонца стрэлы не ўпадуць туды!

*Раптам узнікае князь У л а д з і м і р.*

У л а д з і м і р

Каханая, цябе шукаў я шчыра...
І нам з табой трубіў
шчаслівы рог...
Раней дапамагаў юнак Ярыла,
Цяпер стары Ярыла дапамог!

Сцякала сонца шмат разоў
за горы,
Нібыта кроў з ахвярнага нажа,
І наша радасць патанала ў горы, –
Ды надышла жаданая мяжа.

Сустрэліся, каб разам
быць заўсёды...
Нічога не прамовіш тут, апроч:
Кахання і пяшчоты, і лагоды
На дзень любы нам хопіць
і на ноч!

*Князь Уладзімір цалуе Рагнеду.*

Р а г н е д а

Ад краю думка рвецца і да краю...
О, доля, ты мяне ўжо пазнаеш...
Так хочацца спытаць, а не пытаю:
«Ты хто і скуль? Ты чый
і дзе жывеш?»

Мінулася бясконцая пакута,
Вярнулася жаданая краса...
Той пацалунак быў, нібы атрута,
А гэты пацалунак, як раса!

Ты ўпарты быў,
і я была ж упартай,
Ты йшоў сюды, і я, каханы мой...
Самой у лес пайсці
аднойчы варта,
Каб з лесу ўжо вярнуцца
не самой.

*Абняўшыся, князь Уладзімір і Рагнеда ідуць углыб лесу. Вяртаецца Л ю б а в а.*

Л ю б а в а
*(Спявае.)*

Князёўна мая,
Гаспадыня мая,
Якая ж наперадзе
Доля твая?

За тою гарой,
За тою ракой
Жаночая ўдача
Будзе якой?

У доме сваім,
Ці ў доме чужым
Заплачаш над хлеба
Кавалкам малым?!

Ці пойдзеш у свет
Ад гора і бед
З дзіцём на руках,
Губляючы след?!

## З'ява 16

*Полацк. Рагвалодаў палац. За размовай Р а г в а л о д і Б л у д.*

Б л у д

Князь Яраполк –
старэйшы Святаславіч –
З табою хоча, слаўны Рагвалод,
У дружбе жыць не ў мары,
а наяве,
Як мудрыя гавораць, з году ў год.

Р а г в а л о д

А ці не хоча ён сваю раскошу
Тым самым павялічыць
хоць на крок,
І Полацак пакласці, як рагожу,
Пад кіеўскія дзверы і парог?!

Б л у д

О, што ён хоча,
гаспадар мой любы,
Аб тым якраз і загадаў сказаць:
З Рагнедай хоча ён пайсці
да шлюбу,
Каб Полацак і Кіеў аб'яднаць.

Р а г в а л о д

Так пільнасць можа, як дзіця,
загушкаць,
І як засне, пад гэты моцны сон
У Яраполка апынуцца ў служках,
Даніну плоцячы да скону дзён!

Б л у д

У выраку сваім не будзь таропкі...
Князь Яраполк высокае крыві,
Не тое што Ӯладзімір –
сын халопкі,
Якога хоць і князем не заві.

Р а г в а л о д
*(Падумаўшы.)*

Дачка – у сена кінутая голка,
Як не хавай, а згубіцца яна...
Чакаю я сватоў ад Яраполка –
Што, гэта неблагая навіна?!

Б л у д

Нібыта ў сэрца
паглядзела сонца...
Ад навіны такой, як ад віна,
Наш Яраполк
усцешыцца бясконца,
Бо гэта залатая навіна!

## З'ява 17

*Полацкі лес. Да Ярылы падыходзяць заклапочаныя С е л я н і н і П а л я с о ў ш ч ы к.*

С е л я н і н

Выпіць хочацца, – хоць лопні
Ад губы да жывата,
А ў біклазе ані кроплі,
Ані беднай – сухата.

П а л я с о ў ш ч ы к

Каб уцішыць, а хоць нечым
Смагі звонкія званы –
Вып'ем, дружа-чалавеча,
З нашай роднае Дзвіны.

С е л я н і н

А хоць пі да каламуту –
Не здаволішся вадой...
Не, з Дзвіны я піць не буду,
А глыну з біклагі той.

*Бярэ з-пад Ярылы біклагу і з яе ў сваю пустую біклагу пералівае пітво.*

П а л я с о ў ш ч ы к

З той біклагі браць няможна
Ні ў касьбу і ні ў жніво,

Ні ў вячэры падарожнай,
Бо ахвярнае пітво!

Селянін

Той жыве, хто жыць умее...
Здуру гром не загрыміць...
Нас Ярыла разумее,
Мы бяром, а ён маўчыць.

*Па-зладзейску знікаюць. Вяртаюцца Рагнеда і князь Уладзімір.*

Рагнеда

Са мной такога не было –
Звідна такія пералівы!
Навокал яркае святло,
І салавей пяе шчаслівы.

Уладзімір

Усё, пра што сказала ты,
Рагнеда любая, – дарунак...
Мякчэе нораў мой круты...
Ты ўся, як светлы пацалунак!

Рагнеда

І не паддамся я мане,
Яе бліскучаму атласу,
І ў Кіеў не паеду, не,
А ў Ноўгарад у твой – адразу!

Пра ўсё сказаць бракуе слоў,
Што фарбай цешацца яскравай,
Аднак мне трэба ўжо дамоў
Вяртацца з вернаю Любавай.

Уладзімір

Маіх людзей бясконцы полк
Узрадуецца найбагата –
Не ў Кіеве, дзе Яраполк,
А ў Ноўгарадзе будзе свята.

Арліца крыллем страпяне,
Арол прылашчыцца наяве...
Чакай, каханая, мяне...
Сватоў прышлю я неўзабаве.

*Уваходзіць заклапочаная Любава.*

Любава

Спяшацца трэба, бо чакаюць дома...
Дружыннікі абнюхваюць сляды...
Вялікае каханне – неба з громам! –
Даводзіць да вялікае бяды.

*Рагнеда і Любава пакідаюць князя Уладзіміра.*

Уладзімір

Каханне таямніцу мне адкрыла:
Жыццё, як «невідушчы»
скамарох!
Я дзякую табе за ўсё, Ярыла,
Бо сёння я не проста князь, а бог!

## З'ява 18

*Паблізу полацкага лесу на беразе Дзвіны ўражаныя Рулаў і Руальд.*

Рулаў

Аж дух замёр ад непрывычкі...
Як шоўк, як подых ільняны,
Дзве конныя мільгнулі знічкі...
Відаць жа, з Полацка яны?!

Мяркуючы па збруі звонкай
І ўборы з ніткай залатой,
Мо князя полацкага жонка
Была тут са сваёй слугой?!

Руальд

Такая сталася прыгода,
Ну, проста яркая вясна...
Не жонка гэта Рагвалода,
Дачка ягоная – княжна!

А з ёю мілая Любава...

Рулаў

Адкуль пра ўсё дазнаўся ты?

Руальд

Гамоніць люд пра іх цікава
Каля Дзвіны і Палаты.

Р у л а ў

Тады, Руальд, благай аб цудзе
І на адным са мною стой:
Княжна маёю жонкай будзе!
Служанка – жонкаю тваёй!

Р у а л ь д

Шчасліва заспявае сэрца,
Уціснутае ў мілату,
Варажская вада пальецца
Сама ў Дзвіну і Палату.

### З'ява 19

*Ноўгарад. На беразе Волхава –*
*Д а б р ы н я і Б л у д.*

Д а б р ы н я

Я рады зноў цябе спаткаці,
Мой сябар кіеўскі адзіны...
Якія з Полацка, мой браце,
Вязеш у Кіеў ты навіны?

Б л у д

Як толькі восень згасіць лету
Яго яскравую вясёлку, –
Князь Рагвалод сваю Рагнеду
Аддасць у жонкі Яраполку.

Д а б р ы н я

За вестку дзякуй і турботы,
І вось табе за гэта плата,
І гэтак нам служы заўсёды,
На тым бывай, жыві багата.

*Дабрыня дае грошы і развітваецца з Блудам.*

Б л у д

Служу разумна я і моцна,
І кожны вораг службу цэніць, –
Бяру з кішэні наўгародскай
І з кіеўскай бяру кішэні.

### З'ява 20

*Рагвалодаў палац у Полацку.*
*Р а г в а л о д і Р а г н е д а.*

Р а г в а л о д

Твае малітвы ўсе – багі пачулі...
Шчаслівы я, бо ты мая дачка...
І Полацак лагодай агарнулі
Дзвіна-рака і Палата-рака.

Р а г н е д а

Цябе такога добра чуць
і бачыць...
Якая ж вестка, поўная святла,
Тваім вачам такі запал юначы,
Такую радасць бурную дала?

Р а г в а л о д

Князь Яраполк, якога свет
баіцца,
Баяцца зоры і ў Дняпры вада,
Ён хоча з намі, чуеш,
парадніцца...
Аднак збялела ты! Што за бяда?!

Р а г н е д а

Нядобра нешта мне...
Паветра мала...
Я выйду ў сад, пабуду там адна...

Р а г в а л о д

Цябе такая вестка напужала?

Р а г н е д а

Благая, калі шчыра, навіна...

Р а г в а л о д

Аднак благою доўга не пабудзе!
Пра тое трэба думаць нам цяпер,
Што мы ў саюзе з Кіевам
здабудзем
Уладу больш трывалую... Павер!

Р а г н е д а

Ты не спытаўся,
ці магу згадзіцца...
Такой бацькоўскай ласкі
не прыму
І з Яраполкам не магу злюбіцца,
Бо не хачу быць жонкаю яму!

Р а г в а л о д

Я слова даў, якое сілу мае
Быць словам і тваім у час любы...
Не злуй мяне, Рагнеда, пакараю!
На кару бацька родны не скупы!

Р а г н е д а

Я на любое згодна пакаранне,
Бо выйшла ўжо з дзявочае тугі:
Ярыла мне падараваў каханне –
Не забірай дарунак дарагі!

Р а г в а л о д

Пакінь каханне дзеўкам
на забаву,
А ты – князёўна, уладарка ты...
Пра княства мусіш думаць
і дзяржаву –
Цябе чакае Кіеў залаты!

Р а г н е д а

Мяне чакае толькі мой каханы...

Р а г в а л о д

Не слухаць бацьку?!
Дык жа на ваду
І хлеб я пасаджу
ў падвал цагляны...
Гэй, варта, дзе служанка?

Л ю ба в а

Я іду...

*Убягае Л ю б а в а, а варта тым часам выводзіць Рагнеду.*

Р а г в а л о д

Давай расказвай,
дыхаючы роўна,
Калі схапіць не хочаш бізуна:
З кім сустракалася твая князёўна
Каля Ярылы там, ці Перуна?

Л ю б а в а

Ну, што магу я гэткага сказаці,
Каб князя роднага не ашукаць,
Князёўна мне заўсёды, нібы маці,
Хіба ж магу я маці прадаваць?!

Р а г в а л о д

У горы жыць і хочаш есці
з перцам?!
Як не раскрыеш, што за маладзец
Забраў маёй дачкі душу і сэрца?
Дастану зброю – і табе канец!

*Князь Рагвалод выцягвае меч.*

Л ю б а в а

Князь Уладзімір –
сокал рызыкоўны...
Сватоў збіраецца прыслаць сюды...

Р а г в а л о д

Калі прыедуць –
ты замест князёўны
Адмовіш ім... Нібы князёўна ты!

## З’ява 21

*Ноўгарад. Уладзіміраў палац. Князь У л а д з і м і р, д р у ж ы н н і к і, с л у г і.*

Д р у ж ы н н і к і
*(Спяваюць.)*

Святло наўкол,
Такая ясь –
І поўны стол,
І з намі князь!

За князя п’ём
Мы з чар віно,
Нібыта гром
Грыміць яно!

І піва п’ём
За князя мы,
І над сталом
Грымяць грамы.

І хмельны мёд
У чары льём –
І так штогод
За князя п’ём!

Хай век жыве
Твой, княжа, лад –
І ў Кіеве
Займі пасад.

Уладзімір

Сябры мае, мы п'ём за палачанку,
За красную князёўну шчыра п'ём!
Яе, нібы пяшчотную заранку,
Чакаю гаспадыняй у свой дом.

*У гэты момант уваходзіць Дабрыня.*

Дабрыня, родны, з гэтай
чары тонкай
Пілі не вусны, а душа мая!
Табе хвалюся будучаю жонкай,
Рагнедай полацкай хвалюся я!

*Князь Уладзімір падае Дабрыні чару.*

Дабрыня
*(П'е.)*

Ад весткі яркай і такой уцешнай
Я на нагах трымаюся ледзь-ледзь,
Але ў сваты патрэбна ехаць
спешна!

Уладзімір

Дык не марудзь, мой дзядзька
родны, едзь!

*Шчаслівы князь Уладзімір выходзіць.*

Дабрыня

Брацiла, на каня і ў ноч, да золку,
Скачы, бо мусіш Блуда пераняць!
Блуд не павінен князю Яраполку
Ад Рагвалода вестку перадаць!

*Брацiла імгненна знікае.*

Дабрыня
*(Загадвае іншым дружыннікам.)*

І мы ў дарогу!
Полацк перад намі!
Рагнеда там, чакае нас яна...
Бярыце золата, куніц з бабрамі,
Грузіце бочкі мёду і віна.

## З'ява 22

*Полацк. Рагвалодаў палац.*
*Рагвалод і Любава.*

Рагвалод

Ідуць па Полацку сваты,
Плывуць і па Дзвіне...
Як я вучыў – так зробіш ты,
Сватам адкажаш: «Не!»

Любава

О, любы князь! Душа баліць,
Сагнутая ў дугу,
Я не магу князёўнай «быць»,
Хлусіць я не магу!

Рагвалод

Свой лёс – кляні ці не кляні –
Не здолееш збароць...
Убор князёўны апрані
І, як скажу, выходзь.

Любава

Багі мае, як у зямлі
Маёй душы вясна...
Душа няшчасная, калі
Залежная яна.

*Любава знікае, і ў гэты момант варта прыводзіць Рагнеду.*

Рагвалод

Сваты прыехалі да нас
З далёкай стараны,
І як адзін усе зараз
Пруць да цябе яны.

Рагнеда

Такая доля ўжо мая
З Ярылам разам быць,
У Кіеў не паеду я
Сваю душу губіць!

Рагвалод

Сваты з далёкай стараны –
Хто йдзе, а хто паўзе,

Але не з Кіева яны,
А з Ноўгарада ўсе!

Р а г н е д а

Князь Уладзімір... Гэта ты
Прыслаў іх, любы мой,
У мілы Ноўгарад тады
Я палячу з душой!

Р а г в а л о д

З вар'яткаю, багі мае,
Спаткаў я час благі...
З-пад варты не пускаць яе,
Хай хлеб грызе сухі!

## З'ява 23

*На вуліцы ў Полацку – Д а б р ы н я і Б р а ц і л а.*

Б р а ц і л а

Напэўна, страшны я маруда,
Хоць коні дохлі пада мной,
Аднак жа не дагнаў я Блуда...
Яшчэ й Дняпро таму віной!

Ганец, прайшоўшы нашы нетры,
Сеў у ладдзю, і, як страла,
Яна пры спадарожным ветры
Дняпром у Кіеў паплыла!

Д а б р ы н я

Дагоніш Блуда іншым разам,
Хай Яраполку хітры Блуд
Усё даложыць... А тым часам
Сваё рабіць мы будзем тут.

Ужо не маючы сакрэту
Ні перад кім, ні перад чым,
Мы тут засватаем Рагнеду...
Багі памогуць нам у тым.

## З'ява 24

*Полацк. Рагвалодаў палац. Р а г в а л о д, Д а б р ы н я, д р у ж ы н н і к і.*

Д а б р ы н я

Мы – вандроўныя музыкі,
Доўга мы былі ў дарозе,
Роў мядзведзь паблізу дзікі,
Нас ласі будзілі ў стозе.

Елі проса мы і мяса,
Запіваючы з крыніцы,
І, як дзеці, самапасам
Лезлі ў грушы і чарніцы.

Д р у ж ы н н і к і

Рагвалодава гаспода –
Лепшая з усіх гаспод,
А мацней за Рагвалода –
Сам асілак Рагвалод!

Д а б р ы н я

Ноўгарад – наш родны горад,
Уладзімір намі правіць.
І калі якое гора –
Гора пад абух ён ставіць!

Ды ў багацці незлічоным,
Горы маючы і долы,
Уладзімір – засмучоны,
Уладзімір – невясёлы.

Д р у ж ы н н і к і

На змярканні і на золку,
І на людзях дзень у дзень
Ён пра полацкую зорку
Марыць і зблажэў, як цень.

Д а б р ы н я

І не проста так пра зорку...
Неўзаметку-неўпрыкметку
Князь наш думае пра жонку –
Лепшую да смерці кветку.

Што хавацца – пра Рагнеду
Думае ён час каторы...
Рады полацкаму небу,
Шле дароў багатых горы.

Д р у ж ы н н і к і

Раз пара дарыць настала,
То прымі, князь Рагвалод, –

Тут бабры і гарнастаі,
Срэбра, золата і мёд!

Р а г в а л о д

Ах, музыкі-скамарохі,
Улагодзілі душу...
Я паслухаў вас і трохі
Разгубіўся, вам скажу.

Ваша ведамая мэта,
Ды прамоўлю, як сватам:
Як не згодзіцца Рагнеда,
То Рагнеды не аддам!

Гэй, Рагнеда, нам на вочы
Стань уся як мае быць,
Уладзіміру ці хочаш
Жонкаю давеку быць?

*Ва ўборы князёўны Рагнеды паволі ўваходзіць Л ю б а в а.*

Л ю б а в а

Я, сватоўская вандроўня,
Свайму слову гаспадыня:
Уладзімір мне няроўня,
Уладзімір – сын рабыні!

Р а г в а л о д

Бачу, ты дарослай стала,
Ясна думаеш і строга...
Як сказала – так сказала,
І не зменіш тут нічога.

Д а б р ы н я
*(Разбітым голасам.)*

Ды за што такая пляга
З першага, як кажуць, разу?!
Гэта поўная знявага...
Гэта поўная абраза...

## З'ява 25

*На беразе Дняпра стаяць Д а б р ы н я і Б л у д.*

Д а б р ы н я

Разляглося злое рэха
Крыўды нечуванай...
Дзякуй, браце, што прыехаў...
На душы – пагана.

Б л у д

У мяне жыццё такое:
Як паклічуць – еду...
Дык пра рэха пра якое
Кажаш?

Д а б р ы н я

Пра Рагнеду!

Уладзімір паланёны
Ёю, злой такою...
А яна сватоў ягоных –
За парог мятлою!

І рабом яго назвала,
Ды пры ўсіх – на людзях!
І ўжо йдзе дурная слава...
Што рабіць мне, Блудзе?

Б л у д

Хай сякера гоіць раны
Разам з тапарышчам –
Хай той Полацак паганы
Уладзімір знішчыць!

А пасля ў паходзе-бойцы
З ходу Кіеў цапне –
Яраполка ж на вяроўцы
У Дняпро зацягне!

Д а б р ы н я

Так пазбыць ураз магчыма
Полацкага яду...
Дзякуй, браце мой, за шчырасць
І такую раду.

Вось табе за гэта, Блудзе,
Грошы немалыя...
Што да Кіева, то будзе
І паход на Кіеў.

*Дабрыня дае грошы Блуду і развітваецца з ім.*

Б л у д

Хай мячы рыхтуюць, лукі –
Мне ж адно патрэбна,
Каб ад іх цякло мне ў рукі
Золата і срэбра.

## З'ява 26

*Рагвалодаў палац у Полацку. Р а г в а л о д, Л ю б а в а і с л у г і, якія нясуць знясіленую Р а г н е д у.*

Р а г в а л о д

І без таго няма спакою,
А тут і новы неспакой –
Што сталася з маёй дачкою
Рагнедай? Любаю дачкой!

Л ю б а в а

То трызніла, то летуцела
Уладзімірам, і – страх сказаць –
Павесіцца яна схацела,
Я ледзь паспела ўратаваць!

Р а г в а л о д

Цябе я не зжываў са свету,
Адно прасіў яе глядзець –
Не даглядзела ты Рагнеду,
За гэта будзеш кару мець!

Л ю б а в а

Карай, аднак жа, княжа, ведай:
Не руш дзявочае душы,
Без Уладзіміра Рагнеда
Так і памрэ ў тваёй глушы.

Р а г в а л о д

Вучыць надумала, зараза?!
Пайшла адсюль з маіх вачэй!
Не трэба мне твае падказы...
Дружынніка сюды хутчэй!

*Любава тут жа знікае. З-за дзвярэй улятае д р у ж ы н н і к.*

У Ноўгарад скачы з наказам
І там паведамі аб тым,
Што я хачу сустрэцца з князем
Уладзімірам – і толькі з ім!

## З'ява 27

*Ноўгарад. У палацы князь У л а д з і м і р і Д а б р ы н я.*

У л а д з і м і р

Загінула навекі вера,
І кроў пастаўлена на кон,
Бо зробіць вострая сякера
Дубовай пласе свой паклон.

Рагнедзе мог жыццё аддаці,
Як і багацце ўсё аддаць,
Ды крыўду кінутую ў маці,
Я не магу ёй даравацъ...

Я, Уладзімір, ёй няроўня?!
Тады, калі я сын рабыні,
Дух рабскі хай мяне напоўніць,
А князеў дух няхай пакіне!

Д а б р ы н я

Збірай паходны свой рыштунак,
Ідзі на Полацак вайной,
Бо толькі помста дасць ратунак
Душы зняважанай тваёй.

Не за палацы і багацце,
Не за Ярылу ці Мару,
А будзеш помсціць ты за маці,
Я буду помсціць за сястру...

Папомніць гэтая свісцёлка
Наш Ноўгарад у гневе дужым,
Што не цябе, а Яраполка
Пасмела выбраць на замужжа.

У л а д з і м і р

Раз так – яго зваду са свету,
На Кіеў кіну войска цьму,
А неразумную Рагнеду
Па-рабску гвалтам я вазьму.

*Князь Уладзімір пакідае ўзрушанага Дабрыню аднаго. Уваходзіць Б р а ц і л а.*

Б р а ц і л а

Ганец ад князя Рагвалода
І з ім такая навіна...

Д а б р ы н я
*(Не даючы дагаварыць.)*

Забі яго і кінь пад плотам,
Бо з Полацкам у нас вайна!

## З’ява 28

*Полацак гарыць. Навокал чыніцца гвалт. Узнікае князь У л а д з і м і р. Ягоныя дружыннікі цягнуць Р а г в а л о д а.*

Р а г в а л о д

Ты ў Полацку і не пакінуў буду,
Усё спаліў і вынішчаў датла...
Аддай мне меч, з табою
біцца буду,
Каб злосць мая
суцішыцца магла.

У л а д з і м і р

Ты – князь, я – раб,
таму і гора мала –
Не можа раб прыняць ад князя
бой,
Твая ж дачка мяне рабом
назвала,
Таму, як раб, распраўлюся з табой!

*Забівае Рагвалода. Д а б р ы н я і Б р а ц і л а цягнуць Л ю б а в у.*

Д а б р ы н я

А вось і тая, што прыносіць
беды...
Дык што, мой князь, уразь яе,
уразь...
Не адварочвайся, князь,
ад Рагнеды,
Пяшчотай атулі Рагнеду, князь!

У л а д з і м і р

Ты не князёўну цягнеш,
а служанку...
Аддай яе дружыннікам маім,
А сам шукай Рагнеду
хоць да ранку,
Шукай паўсюль, хоць выесць
вочы дым!

Д а б р ы н я

Ты не Рагнеда? Ты тады схлусіла,
Князёўнаю назваўшыся сватам?!
Раз так, то не ўратуе і Ярыла –
Цябе, як ёсць,
дружыннікам аддам!

*Усе выходзяць. Чыніцца нябачная расправа. Раптам з’яўляюцца князь У л а д з і м і р і Р а г н е д а.*

Р а г н е д а

Няма дзе падзецца
На роднай зямлі,
І гора мінецца
Не знаеш калі.

За злобай у злобе
Нянавісць відна,
І полацкі попел
Глытае Дзвіна.

Каханне, як хмара...
Як дзвінскае дно...
І сталася карай
Навекі яно.

Згубіўшы з каханнем
Радзіму, сям’ю,
Таму на згасанне
Сябе аддаю.

Завые гасцінна
Ваўкоў чарада,
І вусны пад глінай
Прамовяць: «Шкада...»

У л а д з і м і р

Меч ворага знойдзе,
І ступіць мой бот
На поўнач і поўдзень,
На захад і ўсход.

Любоў і агіду,
І лёс, і зямлю,
І Кіеў на дзіду
Сваю накалю.

Цябе ж адпускаю
З Любавай тваёй,
Ты хоць неласкавай,
А стала маёй.

У першы калодзеж
Кінь грыўню адну
І сына народзіш
На тую вясну.

Забудзецца гора,
З такога дарма́,
Бо што было ўчора,
Таго ўжо няма.

*Князь Уладзімір і Рагнеда разыходзяцца ў розныя бакі.*

## З'ява 29

*На патухлым полацкім пажарышчы стаяць С е л я н і н і П а л я с о ў ш ч ы к.*

С е л я н і н

Ад страху вечнага і здзекаў,
Якія доўжацца павек,
Хто абароніць чалавека,
Калі ён проста чалавек.

Вар'яцтва пачынае дзерці
Спакой на дробныя шматкі...
Ад ранняй, непатрэбнай смерці
Ратунак бог пашле які?!

Сівее попелам вар'яцтва
І кожны груд, і кожны дол...
Дзе можна ад бяды схавацца,
Калі згарэла ўсё наўкол?!

Аднак жа і ў часіну гэту
Адкрыла шчасце воблік свой –
Жывою бачу я Рагнеду,
Любаву бачу я жывой.

П а л я с о ў ш ч ы к

Бажочку кожнаму і богу
Падзякуем, бо ўсё ж далі
Такую радасць на ўспамогу
На спаленай ушчэнт зямлі.

І пасля гэткага разбою
На зло, а мо і на дабро
Дзвіна з малою Палатою
Пальюцца ў бурнае Дняпро...

Аб тым, што цьмее, што віднее –
Не нам з табой судзіці суд...
Князь Уладзімір хай квітнее,
Такую сілу ўзяўшы тут.

Каб доўга не даймалі страты,
Бяры сякеру, дружа мой, –
Адбудаваць нам трэба хаты
Над Палатою і Дзвіной.

*Селянін і Палясоўшчык, абняўшыся, ідуць у адну дарогу. На гэтае месца прыходзяць Р а г н е д а і Л ю б а в а.*

Р а г н е д а

Няхай крывавая зара
Спакойнай робіцца зарою...
Любава, ты мая сястра!
І будзеш век маёй сястрою!

Л ю б а в а

А жыць як будзем, мне няўцям,
У дым загнаныя і сажу...

Р а г н е д а

А так, як скажа сэрца нам,
І так, як нам багі падкажуць.

Л ю б а в а

Мы – дзве самотныя душы,
І ведаем, што цеста долі

Для дзвюх жанчын
з адной дзяжы
Не падымаецца ніколі.

Р а г н е д а

Табе пра тое і пяю:
Адчыніцца да шчасця брама...
Ты будзеш мецць сваю сям'ю,
Я буду мецць сваю таксама.

## З'ява 30

*Тое ж пажарышча. Ля Р а г н е д ы і Л ю б а в ы спыняюцца Р у л а ў і Р у а л ь д.*

Р у л а ў

Я ведаю, бароніць вас Ярыла,
Ці нейкі іншы вам вядомы бог,
Калі ж патрэбна
рыцарская сіла,
То сіла гэтая ля вашых ног!

*Рулаў па-рыцарску схіляе перад Рагнедай галаву.*

Мы гэтым летам прыбылі
з-за мора –
Я і памочнік,
слаўны мой Руальд...
Умеем памагаць і ўцішыць гора,
І кожны з нас – ваяр, гандляр
і скальд.

Не парушаючы парадкаў вашых,
Прызнаюся ў тужлівы гэты час,
Што ўжо нішто душу маю
не страшыць,
Бо я кахаю, я кахаю вас.

Я – лёгкі на руку
чужы мужчына –
Хачу стаць родным вам
на ўсе вякі,
Сваю руку
вам прапаную шчыра,
І сам прашу я вашае рукі.

Р а г н е д а

Так нечакана і знянацку гэтак,
Неспадзявана і раптоўна так, –
Нібыта пчолы ўзятак свой
не з кветак
Панеслі ў вулей, а з сухіх ламак.

У лютасці не ведаючы меры,
На гэтым папялішчы дарагім
Усё загінула, і ці паверыць
Мне чутаму, калі навокал дым?!

Але жадаючы адно спакою,
Вышэй за шчасце ставячы спакой,
Паданае мужчынскаю рукою,
Сваёй дзявочаю прыму рукой.

Душа, крывёй спавітая, жадае
Пазбыцца і знявагі, і жуды...
Таго я пакахаю, хто кахае
Мяне, і гэта будзе назаўжды.

*Рагнеда паволі падае руку Рулаву.*

Р у а л ь д

Ну што ж, такая справа
І навіна такая –
І нас з табой, Любава,
Адна пасцель чакае.

Свайго не страцім грунту,
Бо маю ўсё, што трэба –
І золата два фунты,
І дваццаць грыўняў срэбра.

Л ю б а в а

Гарачы ты, як вехаць
Падпаленага сена...
З такім за мора з'ехаць
Згаджуся неадменна.

З турботаю вандроўнай
Прымаю ласку гэту –
Куды мая князёўна,
Туды і я паеду.

*Любава рашуча падае руку Руальду.*

## З'ява 31

*З'яўляюцца дзяўчаты і пачынаюць спяваць.*

Дзяўчаты
*(Спяваюць.)*

Полацкае зайчанятка
Ў хованкі гуляла
І за Палатой-ракою
Ліса напаткала.

Ліс, як раніца, чырвоны!
З зайчаняткам белым
За ракою Палатою
Пагуляй, пабегай.

А таксама, а таксама
За Дзвіной ракою,
Дзе пяе чарот высокі
Па-над асакою.

Ліс, як раніца, чырвоны!
У ліхім сваволлі
Полацкае зайчанятка
Не чапай ніколі.

Добра ля вады і неба
Мець гульню такую...
Нагуляўшыся, вяртайся
У нару глухую.

*17 чэрвеня 2017 г., субота, 23 г. 54 хв.; Менск.*

---

"Дзеяслоўцы" шчыра віншуюць
свайго сталага аўтара, сябра і паплечніка
**Леаніда ДРАНЬКО-МАЙСЮКА** з шасцідзесяцігоддзем
і зычаць яму новых творчых адкрыццяў,
моцнага здароўя, аптымізму,
душэўнае трываласці і Божае ласкі!

пераклады

Эліза Ажэшка



...некалі адкрыецца магіла
і выйдзе з яе пераможная праўда
вялікіх сноў...

# Яны

***Навела***

*Пераклад з польскай Анатоля БУТЭВІЧА.*

*У знанай нашай землячкі, пісьменніцы Элізы Ажэшкі, ёсць творы, у якіх яна звяртаецца да паўстання 1863 года, згадвае падзеі, якія адбываліся тады на нашых землях. Не абмінае яна гэтай тэмы і ў сваім вядомым рамане "Над Нёманам". Хоць і прыцішана, закамуфлявана, бо ў яе час публічна захапляцца паўстанцамі было небяспечна: царскія ўлады не віталі гэткай цікаўнасці, аднак Ажэшка не магла ні забыцца, ні абмінуць тыя гераічныя і трагічныя справы нашых папярэднікаў.*

*Ды найбольш вядомы зварот да паўстання гучыць у цыкле яе навел "Gloria victis" – "Слава пераможаным". Тут ужо для аўтаркі не было патрэбы нешта камуфляваць альбо замоўчваць. Аднак не пра гучныя вайсковыя баталіі распавядае Ажэшка (хоць і іх не абмінае), а найперш пра чалавечы стан, людскія перажыванні, адносіны насельніцтва да ўсяго таго, што адбывалася там і тады. І ў гэтых душэўных перажываннях мо найбольш той праўды, якая кранае і дагэтуль, захапляе, змушае суперажываць, дапамагае глыбей і паўней зразумець, што і як адбывалася ў асяроддзі барацьбітоў за нашу і вашу волю і як да гэтага ставіліся тамашнія і тадышнія жыхары-насельнікі нашага краю.*

*Хоць варта прызнаць, што і гэтым творам пры жыцці Ажэшкі не надта шанцавала. Бо, напісаныя ў розныя гады, яны змаглі ўбачыць свет толькі ў 1910 годзе, калі ў год смерці самой Элізы Ажэшкі выйшла асобная кніжка “Gloria victis”. Ды не лёсіла ёй быць шырока вядомай сярод чытача – усё тыя ж царскія ўлады заміналі такому пашырэнню ведаў пра паўстанне. Таму, відаць, і на рускую мову гэты цыкл з шасці навел цалкам дагэтуль не перакладзены, вядомы толькі асобныя, вельмі малалікія, творы.*

*Я маю даўняе зацікаўленне перакласці ўсе гэтыя творы на беларускую мову – як блізкія мне па духу, па настроі, па эмацыянальным напаўненні і як людскія сведчанні аб тым, што адбывалася падчас паўстання на нашай зямлі. Першая навела з такой жа назвай “Gloria victis” была надрукавана ў чацвёртым нумары “Дзеяслова” за 2008 год. Зараз прапаную чытачам чарговую зацемку пра паўстанцкія падзеі ў Горацкіх лясах Палесся – навелу “Яны”.*

**Анатоль Бутэвіч**

...Быў доўгі зімовы вечар у ціхім зачыненым пакоі, калі мая даўняя знаёмая, з тварам, скіраваным да святла лямпы, з глыбіні самага глыбокага задумення прамовіла:

– Твае пытанні пра мае ўспаміны, просьбы твае, каб я свае ўспаміны даверыла тваёй памяці, пераносяць “душу маю самотную” ў тую вясну, у той сон, у тую гадзіну, калі гадзіннік прадвызначэння зазваніў гучным голасам.

Вясна прамінула, сон знік, гадзіна памерла, і душы людскія засталіся далёка за імі, віраваннем жыцця яны адносяцца ўсё далей, аднак, я заўсёды памятаю іх.

О, вясна! Хто бачыў цябе ў нашым краі...

Памятная вясна...

Хто бачыў цябе, якой ты была...

Багатая на падзеі, надзеямі поўная!

Я дагэтуль бачу цябе, цудоўны сонны прывід!

Прамільгнула яна на самым пачатку майго жыцця, як залаты і крывавы сон, і знікла. Свет атуліла цемра. У гэтай цемры мая душа, вечна самотная, была ў пагоні за залатымі сонечнымі снамі – па палях, над якімі стаяла глухая цішыня ды забаўляўся пануры вецер.

Хочаш ведаць падрабязнасці, імгненні, фрагменты той вясны. Добра. Слухай!

## I

Было мне дваццаць гадоў, аднак, нягледзячы на такую раннюю маладосць, з-за прычын, якія апускаю, бо яны былі звязаны толькі з маёй асобай, я ведала пра ўсё, што тварылася навокал, і ніхто ніякай таямніцы для мяне не рабіў. Гэтым тлумачыцца, што ў той момант я знаходзілася ў гэтым доме і была сведкай той сцэны, о! надта ўважлівай і ўсхваляванай сведкай.

Дом быў аднапавярховы, прасторны, атынкаваны і пабелены. Перад ім рассцілаўся вельмі вялікі надворак, за ім – высокія садовыя дрэвы. Усё, што атачала гэты дом і знаходзілся ўнутры яго, сведчыла пра значны дастатак і выкшталцоны густ гаспадароў. Добра там было, заможна, прыгожа і пакуль што спакойна.

Але цяпер анёл спакою адляцеў з той зямлі, і разлілося па ёй глухое віраванне, ахінутае таямніцай, ад чаго было яно яшчэ больш страшнае і больш трагічнае. Гэта было віраванне сэрцаў і галоў у катле няволі, пад покрывам таямніцы.

У прасторных і аздобленых пакоях каля трыццаці мужчын рознага ўзросту і рознага аблічча вялі шумныя размовы. У гэтым шуме хавалася нявыказанае, але неспакойнае чаканне.

Былі гэта члены паўстанцкай арганізацыі адразу некалькіх палескіх паветаў. Яны чакалі прыходу аднаго са сваіх суграмадзян, які павінен зрабіць сёння перад імі заяву аб тым, што бярэ на сябе кіраўніцтва мясцовым збройным атрадам, альбо пра тое, што адмаўляецца ад гэтага.

Амаль агульным было меркаванне, што не адмовіцца, але поўнай пэўнасці не меў ніхто. Ніхто з прысутных не ведаў яго блізка, многія не ведалі наогул. Аднак ужо некалькі месяцаў імя яго прамаўлялася ў ваколіцах вельмі часта.

– Адзін ён здолеў бы, – казалі. – Толькі ён адзін!

І твары тых, хто гаварыў гэта, пазначаліся трывогай, бо, калі ён не захоча, ніхто ў гэтай мясціне не справіцца. А давяраць гэткае заданне рукам няўмелым, чужым да вайсковай справы...

Няцяжка было дапусціць і тое, што не захоча, бо згода накладвала вялікую адказнасць і несла вялікую пагрозу.

Той, хто павінен быў згадзіцца на такое заданне, мусіў мець плечы Атласа і сэрца, якое пагарджае мячамі Дамокла. Бо мноствам мячоў было нашпігавана гэтае заданне і крывавіліся на іх надпісы: Адказнасць, Пакуты, Смерць. Трэба было адкінуць усё, што было мілым, любімым, спакойным, бяспечным, і пайсці паміж тымі мячамі, ступіць у іхнія бліскавіцы і іхні смяротны лёскат. Трэба было альбо перамагчы, альбо загінуць; трэцяга выйсця з іхняга кола не існавала. Перамога ж лёгкай не будзе, наадварот, яна стакроць цяжэйшая, чым у папярэднікаў, якія ў мінулых падзеях той ужо амаль стогадовай бітвы не здолелі перамагчы. Бо трэба было мець галаву, захопленую такім пажарам ідэі, каб у ейным бляску зусім аслепнуць і забыцца пра самога сябе, пра ўсё, што не з'яўляецца прадметам гэтай ідэі і яе ахвярным алтаром. Трэба было нават у самой паразе, праз заслону часу бачнай, разгледзець крывавае, але несмяротнае зерне будучай перамогі і здолець на ўласную магілу зірнуць вокам не толькі спакойным, але і ўсцешаным думкай і надзеяй, што некалі, праз пакаленні і далеч часу, з абставін, выкліканых гэтай смерцю, паўстане ўнесмяротнены пралітай крывёю Архіпераможца – Дух.

Праўда, магло здарыцца і так, што ў кола гэтае ўступіла б, у кратар гэты ўскочыла б легкадумнае дзіцячае захапленне, уздым, які не ведае фактаў, лічбаў, магчымасцяў, немагчымасцяў, пагардліва абмінаючы ўсё, што не адпавядае сардэчным намерам, не з'яўляецца марай уяўлення.

Але пра яго ўсе ведалі, што, будучы ў самай сіле мужчынскага веку, не быў ужо маладзёнам, шмат ведаў, умеў, быў на многае здатны ў вайсковым рамястве. Народжаны на палескіх землях, маладосць правёў далёка адгэтуль, браў удзел у войнах, зведаў суровыя законы жалеза і лічбаў. Палкоўнік аднаго з падраздзяленняў вялізнай арміі, ён меў перад сабой шырокі шлях, магчыма, з высокімі вяршынямі напрыканцы. І нечакана збочыў з гэтай дарогі, парваў з мінулым, выракся будучыні, вярнуўся ў сваю родную палескую вёску і ў ёй асеў. Нядаўна, усяго некалькі месяцаў таму.

Ніхто яго тут блізка не ведаў, ніхто таму не ведаў, на якія намеры памкненні ягоныя скіраваны. Бо мецць розум, умельства, прафесійны спрыт не заўсёды азначае быць чалавекам з вялікім сэрцам.

Хто ведае, як ён пастуліць?

Пасланцы, накіраваныя да яго некалькі дзён таму, не прывезлі пэўнага адказу. Паабяцаў, што сёння сустрэнецца з сабранымі разам сябрамі арганізацыі і выкажа сваё рашэнне.

Аднак жа не прыязджае.

Было даволі позна. Калі папраўдзе, то дзень ужо скончыўся. У салонах прыслуга запаліла лямпы. Яркае святло разлілося па карцінах, мэблі, вазонах, якія цвітуць, па раскладзеных на сталах кнігах, часопісах, альбомах. Праз некалькі вокнаў, адчыненых у красавіцкі вечар, дзіўна ціхі і цёплы, залятаў пах нарцысаў і перамешваўся ў паветры з яркім святлом лямпаў.

Светла і пахка было ў салонах, але ж пачынала адчувацца духата і пахмурасць.

Размовы ляніва прыціхалі, галасы змаўкалі, на твары ўзбіралася заклапочанасць.

Гаспадар дома, статны і рослы брунет сярэдняга веку, з высокім ілбом і вуснамі, якія ўсё часцей кранала мудрая, але саркастычная ўсмешка, разам з некалькімі старэйшымі гасцямі рабіў праходкі па салоне, станавіўся ўсё больш задуменнны і знерваваны. Яны, гэтыя госці, з бліскучым срэбрам сівізны на галовах, калі-нікалі спыняліся, да нечага прыслухоўваліся, здавалася, некага чакаючы.

Усё часцей нехта выходзіў з салона, ступаў на ганак і ў прыцемку лагоднага вечара напружваў свой слых і зрок.

Іншыя разгортвалі часопісы, альбомы, якія ляжалі на сталах, аднак было добра відаць, што старонак, на якія пазіралі, яны не бачылі, бо іх займалі думкі аб нечым іншым.

Некаторыя ж, стоячы ля адчыненых вокнаў, абменьваліся нягучнымі словамі, часта змаўкаючы ў задуменні.

Сярод тых, хто стаяў ля вокнаў, найбольш выразна сёння памятаю шляхетны твар Уладзіслава Аршака. Паставу меў крыху цяжкаватую, рухі былі павольныя, мова таксама няспешная, разважная. Выглядаў крыху старэй за свае сорак гадоў, вочы, змэнчаныя і смутныя, былі скіраваныя ў цёмны блакіт за акном, а лагодныя вусны пад густымі цёмнымі вусамі ледзь прыкметна ўздрыгвалі. Нібыта ён маліўся. Магчыма. Святло лямпы залаціла ягоныя цёмныя валасы і бараду, якая спадала на шырокія грудзі.

Самыя маладыя з таварыства падышлі да нас, кабет. Нас было толькі дзве. Гаспадыня дома, ладная, гнуткая, толькі крышку старэйшая за мяне, сядзела каля мяне на невялікай канапцы. Да нас наблізіўся вельмі высокі, атлетычна складзены брунет, якога за рымскі профіль і паўднёвую скуру часам называлі Сцыпіёнам. Знешнасць выдавала ў ім чалавека смелага, моцнага пачуццямі і воляй. Вочы палымнелі чорнымі дыяментамі, вусны пад чорнымі вусамі гарэлі пурпурам. Неўзабаве каля яго спыніўся маладзён зусім іншага тыпу. Поўдзень і поўнач.

Паставы хударлявай, хутчэй слабай, чым дужай, твар белы, валасы залацістыя, у блакітных вачах амаль дзіцячая гарэзлівасць. Вядомы на ўсю ваколіцу мыслярскімі захапленнямі, здольнасцямі конніка, стралецкім майстэрствам. Меў вельмі кароткае мінулае, у якім нічога не сведчыла пра намеры палётаў да зор альбо падзення ў бездань. Трэці, хто наблізіў-

ся да нас, нядаўні студэнт, наш блізкі сваяк, якога мы называлі проста Фларэнцінам. Са сваіх студэнцкіх штудыяў прывёз з сабой гарачы і заўзяты дэмакратызм; думкамі, мовай і сэрцам, нібыта прамаўляючы пацеры, ён нястомна скланяў: народ, народу, для народа, народам, у народзе... Загарэлы, плячысты, ён спалучаў у сабе адначасова з дэмакратычным ладам мыслення дэмакратызм выгляду – знарочыстая праставатасць у рухах і словах, але з шарых вачэй яго пазірала на свет мяккая, літасцівая, заўсёды да вышыняў скіраваная душа летуценніка.

Яны сталі перад намі і пачалі гаварыць пра я г о.

– Я сустракаўся з ім, бачыў яго, гэта незвычайны чалавек, створаны на кіраўніка. Паабяцаў, значыць, прыедзе... Такія людзі, калі нешта абяцаюць...

– Вядомая рэч, што прыедзе. Ці возьме на сябе кіраўніцтва? Невядома...

– Несумнеўна возьме...

– Чаму несумнеўна?

Гаспадар дома наблізіўся да жонкі і ціха прамовіў:

– Ужо так позна, што я загадаў падаваць вячэру. Прасі гасцей, Стэфанія.

Ягоны высокі лоб перацінала маршчынка незадавальнення, а вусны крануў больш выразны, чым калі, сарказм. Адзін з тых маладзёнаў, што стаялі перад намі, з іроніяй у голасе спытаў:

– Пан ужо ўсумніўся?

– Так, усумніўся.

– А я не.

– Я таксама не.

Гаспадар ўсклікнуў:

– Шчаслівая маладосць!

– Чаму шчаслівая? – спыталі тры маладыя галасы, у гучанні якіх былі чуваць водгукі ўсё больш гарачых спрэчак, крыўдаў, скаргаў, якія ўжо год, а мо і болей, выбухалі тут паміж людзьмі старэйшымі і маладзейшымі кожны дзень, кожную гадзіну – горача, часам запальчыва і раптоўна.

Гаспадар дома не меў сімпатый у маладога пакалення, о не! З-за сваёй іроніі, праз тое, што называла яно холадам пачуццяў, магчыма, крышку за сваю ганарыстасць чалавека высокаадукаванага і багатага. Гэтым разам, аднак, з ягоных вуснаў бясследна знік выраз іроніі.

– Таму, – адказаў, – што маладосць гэта вера, якая робіць чалавека шчаслівым, у той час як сумненне балючае.

Казаў шчыра. Па выразе твару і вачах было бачна, што нешта яму моцна балела.

Неўзабаве ўсе мы заходзілі ў вялікую сталовую залу, у якой доўгі стол, застаўлены прыборамі, блішчаў у яркім святле лямпаў і свечак.

У глыбіні сталовай, насупраць дзвярэй, цераз якія мы ўваходзілі, вылучалася на светлым тле сцяны калона з чорнага дрэва з акруглай разьбой угары. Гэта быў старажытны гадзіннік, які амаль пад самую столь узносіў свой белы вялікі круглы воблік, пазначаны чорнымі маршчынкамі-стрэлкамі. Выглядаў як сімвал часу, які зверху і абыякава пазірае на людскія намаганні, турботы, лёсы.

Быў кароткі момант, калі сабраныя ў чаканні знаку гаспадыні дома затрымаліся, стаялі вакол стала. Яна ж таксама стаяла, чакала некалькі асобаў, што спазняліся. Па сталовай плыла прыцішаная гаворка, дзве нашыя кабечыя сукні здаваліся ў бляску лямпаў светлымі і бліскучымі плямамі на фоне чорных мужчынскіх убораў.

Менавіта ў гэты кароткі момант за вокнамі пачулася лескатанне колаў. Галасы размоўцаў прыціхлі, у зале запанавала цішыня. Ніхто не садзіўся. На ўсіх тварах з'явіўся выраз неспакою, некаторыя крыху збялелі.

Гаспадар дома паспешна выйшаў у перадпакой і праз некалькі хвілін прадстаўляў прысутным запозненага госця.

Па ўсёй вялікай зале, залітай яркім святлом, у поўнай цішыні і пад позіркамі звыш трыццаці пар вачэй, сканцэнтраваных у адным пункце, пачулася імя і прозвішча – Рамуальд Траўгут.

Адначасова з гэтым у глыбіні залы, амаль што пад столлю, пачуўся металёвы басісты гук. Гадзіннік з белым, акаймаваным чорным колам тварам пачаў адбіваць час. Дзесяць металёвых гукаў плыло ўгары, калі вакол стала гучалі прозвішчы гасцей, з якімі гаспадар дома знаёміў прыпозненага госця.

Прычына спазнення была простая: звычайная затрымка падчас колькімілевага падарожжа па дрэнных яшчэ вясновых дарогах.

Госць меў трыццаць шэсць гадоў і на гэты век выглядаў, росту быў сярэдняга, цела хутчэй пружыністае і хударлявае, чым дужае, а ў паставе, спрытных рухах адчувалася нешта вайсковае. З самага першага позірку кідалася ў вочы незвычайная чарната ягоных валасоў, такіх густых, што дзве іхнія хвалі, адна над другой, узвышаліся над смуглым ілбом, перарэзаным ад броваў ажно да валасоў вертыкальнай лініяй глыбокай маршчыны. Вочы нельга было разгледзець, бо іх закрывала шкло акуляраў, але пасярод смуглага твару звярталі ўвагу вусны – без аніякага ўсмеху, спакойныя і сур'ёзныя. Мо менавіта сур'ёзнасць вуснаў і маршчынка на ілбе пераканаўча сведчылі, што ў вобліку гэтым пераважаў над усім выраз суровай развагі, сканцэнтраванай думкі, нешматслоўя. Нічога мяккага, згодлівага, лісліва ветлівага, нічога таго, што выліваецца вонкі. Толькі нейкая дамінуючая думка, вялікая, маўклівая, засяроджаная, а пад яе сховамі таемная гарачыня пачуццяў, якая выпаліла на ілбе заўчасную маршчынку і атуліла палымянасцю маўклівы твар.

Было бачна, што ён ахвотней маўчаў, чым размаўляў. Да размовы аб рэчах звычайных, якая зайшла падчас вячэры, далучаўся рэдка і абыякава, кароткімі словамі. Затое нельга было не заўважыць, што позіркам даследчыка вывучае твары прысутных. Мо з намерам падрыхтоўкі да выканання аднаго з найдраматычных актаў, якія толькі здольны выканаць дух чалавека, ён цікавіўся здатнасцю і сілай сваіх актораў-саўдзельнікаў па драме.

За служкамі ціхенька пазачыняліся дзверы залы; усе сядзелі моўчкі вакол доўгага стала, з якога ўжо быў прыбраны посуд.

Гаспадар дома прамаўляў стоячы.

Казаў пра тое, што яшчэ нядаўна ён быў праціўнікам руху, які пачынаўся ў краі, і намагаўся стрымаць яго – не таму, што менш за іншых прагнуў вольнасці і шчасця краю, а з-за таго, што яму здавалася няслушнай выбраная пара, недастаткова падрыхтаванымі былі сілы, шансы перамогі не пераважалі шансаў паразы, якая, калі адбудзецца, прынясе наступствы непрадказальныя і вельмі цяжкія. Разлічваў, што цярплівае чаканне, удалы збег абставін для барацьбы, павелічэнне сіл і прычын да яе не менш важныя за пачатак бітвы – хай сабе са шляхетным і геройскім запалам у сэрцы, але без належнай здольнасці арыентавацца, без сілы ў руках і арыфметычнай табліцы перад вачыма.

– Я прыхільнік розуму і тых мудрых правілаў, высмейваць якія мае

права паэзія, але якіх не мае права не заўважаць палітыка. Таму я адгаворваў, змагаўся з цячэннем, адсоўваўся на ўзбочыну. Быў белы...

З апошнімі словамі ён падняў галаву і смелым позіркам сустрэўся з неадабральнымі, іранічнымі ўсмешкамі, якія з'явіліся на некаторых тварах.

– Не я адзін такі ў той супольнасці, якая так мяркуе, і не я адзін называўся белым. Кожны, хто тут знаходзіцца, мой аднадумец, хіба ж няпраўда?

Яшчэ вышэй узняў галаву, чакаючы адказу. Некалькі галасоў паважна адказалі:

– Так.

Тады ён казаў далей:

– Зараз прагучаў звон, вялікі гістарычны звон, і не белым, а чорным быў бы той, хто не пачуў бы яго. Існуе нешта, што, хоць бы раз на паверхні зямлі выступіўшы, сцёртым з яе быць не можа. Гэтым нечым з'яўляецца факт. Факт збройнай барацьбы стаўся. Значная тэрыторыя краю ўжо ахоплена яе полымем. Якія б пагрозы альбо нязручнасці гэтай барацьбы ні заўважыў розум, ён таксама падказвае, што супраць небяспекі і немагчымасцяў, а таксама супраць ганьбы, якая пакрывае і дзёрзкіх, і бедапаможных, ратунковай зброяй можа быць толькі наша адзінства. Мудры сын дома засцерагае ад распальвання агню неасцярожна і нясвоечасова, але калі дом ужо гарыць, было б шаленствам, больш за тое – было б пракляццем, калі б ён не распасцёр над ім актыўных і ратавальных рук! Перакананні чалавека не могуць мяняцца з кожнай гадзінай, але ў кожную гадзіну могуць быць іншыя абавязкі. Нашымі абавязкамі ў гадзіну, якая наступіла для краю, з'яўляюцца: адзінства і ахвярнасць. У іх наша надзея... Без іх загінем...

Ён спыніўся, апусціў галаву, маўчаў, разважаючы. На шчоках пачаў выступаць румянец, а ў вачах з'явіліся гарачыя блёсткі.

– Вось тыя прычыны, праз якія, калі факт стаўся і наступіла гадзіна новага абавязку, я ўступіў у арганізацыю паўстанцаў гэтай палескай зямлі і стаў на чале яе. І з моманту, калі розум мой усвядоміў дэвіз "Адзінства і ахвярнасць", сябе самога і ўсё, што маё: дом, маёмасць, а пры патрэбе вольнасць і жыццё, усе здольнасці розуму, якімі валодаю, і ўсе памкненні сэрца, найгарачэйшыя за тыя, што спазнаваў дагэтуль, складаю на патрэбы справы.

На супрацьлеглым канцы стала прагучала ціхае "брава", вышаптанае тымі самымі вуснамі, якія хвіліну таму ўсміхаліся іранічна і неадабральна. Але прамоўца на той прыязны шэпт, як зусім нядаўна на непрыязныя ўсмешкі, не звярнуў увагі і закончыў:

– З прычыны новаабранага начальніка арганізацыі палескага краю, ад яе імя і ў прысутнасці яе сяброў пытаюся ў пана Рамуальда Траўгута, ці прымае ён кіраўніцтва створаным арганізацыяй збройным аддзелам гэтай зямлі?

Невысокі, шчуплы, выпрастаны і толькі з крыху пахіленым ілбом, на якім унутраны агонь выпаліў пад хвалямі чорных, як смоль, валасоў заўчасную маршчынку, з крэсла ўстаў Рамуальд Траўгут і адказаў:

– Я вярнуўся сюды з далёкіх краёў з думкай, што мае паслугі могуць зараз спатрэбіцца Айчыне. Прафесія, якой я служыў, дае магчымасць далучыцца да прапанаванага мне задання, таму я прымаю яго.

Гэта было кароткае, простае, сціплае прамаўленне, выказанае голасам, які прагучаў чыста і цвёрда.

Вакол стала ўсе ўсталі і схіліліся ў маўклівым паклоне, пасля чаго ў

зале запанавала хвілінавая цішыня. Цішыня сэрцаў, што abліваліся патаемнымі слязамі ўзрушэння, і цішыня небяспекі, якой дыхаюць рашаючыя моманты; і тая яшчэ цішыня, з якой над гэтым бедным светам на шалях Прадвызначэння ўзважваюцца лёсы людзей і народаў.

Першым цішыню перапыніў Траўгут.

– Прашу арганізацыю перадаць справы аб сваёй дзейнасці для фармавання аддзела – тое, што распачата і здзейснена, аб колькасці гэтага атрада, узбраенні і ягоных рэальных рэсурсах, а таксама карты павету і суседніх паветаў, гэта азначае – тапаграфічнага тэрану, на якім будуць развівацца будучыя вайсковыя дзеянні.

Гэта быў ужо зусім іншы голас, не той, якім прамаўляў нядаўна. Гучала ў ім нотка загаду, адчуваўся чалавек, які з абавязкамі, што прыняў на сябе, жартаваць не будзе, бачыўся спецыяліст, які, добра ведаючы, што належыць яму рабіць, пажаданні свае аб'яўляе без лішніх слоў і абмеркаванняў.

Вельмі хутка на стале з'явіліся карты розных памераў, але перад разгортваннем іх пачаргова пачыналі прамаўляць тыя, хто выконваў у арганізацыі ролю дзясятнікаў і сотнікаў, расказвалі пра справы сабраных імі дзясяткаў і сотняў будучых збройных патрызанаў, лічбы, зрэшты, былі невялікія, бо партызанскія атрады па самім характары гэтага роду вайны шматлікімі быць не маглі, пасля выступоўцы называлі віды зброі, яе колькасць.

Ваеначальнік слухаў з тварам, павернутым да тых, хто прамаўляў; у шкельцах, якія прыкрывалі ягоныя вочы, запальваліся, прыгасалі, мігцелі адбіткі святла, часам ён задаваў кароткія пытанні, часам насупліваліся ягоныя чорныя бровы, а маршчынка на ілбе відочна паглыблялася. Толькі адзін раз па маўклівых рысах прамільгнула, адразу ж знікаючы, хваля радасці. Было гэта тады, калі выступаў начальнік арганізаванай у павеце грамадзянскай пошты Уладзіслаў Аршак.

Як звыкла крышку марудны ў рухах, як звыкла няспешна і развaжна пачаў казаць аб неабходнасці атачыць збройны атрад пільнай вартай з тых, хто застанецца дома, стварыць вакол яе як бы сетку тэлеграфных правадоў з адважных і адданых сэрцаў, якія звязвалі б свет з атрадам і атрад са светам, а таксама людзей-аднадумцаў, якія падтрымліваюць атрад, але раскіданыя па свеце.

З лагодным тварам, прыгаслым ад узросту, са спушчанай на грудзі цёмнай густой барадой, з вачыма, у стомленым, але чыстым блакіце якіх было нешта ад пакутлівага агню, якія доўга палымнелі таемна і безнадзейна, ён казаў аб тым, дзе, як, праз каго будуць прывезены, прынесены паведамленні, засцярогі, пажаданні, указанні.

Такая пошта не з'яўляецца другаснай часткай распачатай справы, наадварот, служыць вельмі важным яе складнікам. Яна павінна быць спрытнай, асцярожнай, умець лятаць і поўзаць, праслізваць і ўцякаць. Аднак людзі, здатныя да такой працы, знайшліся, і хай пан начальнік выбачыць, што не самых старых у яе забралі, але і трохі маладых, якія ў атрадзе служыць не будуць, пакуль ён застанецца ў гэтых ваколіцах. Пасля, калі лёс барацьбы перанясе яе ў іншае месца, яны таксама пойдуць у атрад, але і для гэтай вартавой службы трэба далучыць крыху сіл не старых, з маладым запалам адданых справе. Бо гэта...

– Бо атрад – гэта сэрцабіццё і гарачая кроў некалькіх сотняў людзей, гэта... дзіця нашых мрояў, спадзяванняў, дзіця надзей, што нарэшце не як нявольнікі з забітымі душамі, а як жывыя людзі жыць будзем. Таму

трэба апекавацца атрадам, трэба ягонай крывавай барацьбе дапамагаць клапатлівай дзейнасцю!..

Ён схіліў твар, які разам з ілбом пакрыўся мноствам складак і маршчынак, са звыкла лагоднага стаў пахмурным. З кожнай маршчынкі, з кожнай складкі пазіралі горкія думкі, цяжкая самота, доўга ў маўчанні і цярпенні пераживаныя. Няспешна, глухім голасам пачаў казаць зноў:

– Я сказаў: нявольнікі з пазабіванымі душамі. Гэта праўда. Калі рукі скаваныя, а вусны заткнутыя, то і душа адразу засынае, а пасля памірае. Былі такія, хто казаў: "Чаго вам не хапае? Спакойна сабе жывяце, у дастатку... Навошта здаровую галаву класці пад сякеру?" Ото ж тое... здаровая галава! Горкі смех з такога здароўя! Ніякай волі не мелі мы: ні дзейнічаць, ні гаварыць, ні народ наш з ярма няволі і цемры вызваляць, ані жыцця свайго перарабляць, паляпшаць. Толькі: еш, пі, спі і дагнівай! Гэта дазволена. Не падабаецца табе гэта? Павінна падабацца, а калі так не ёсць, то маўчы! Калі гучна крыкнеш альбо варухнеш пальцам, у Сібір! І было так шмат гадоў. Бог мой! Гэтулькі дзясяткаў гадоў! Былі такія, хто ў гэтым балоце знайшоў сабе раскошу і ёю атруціўся, але былі і іншыя. Божа! Ты адзін ведаеш, колькі цярпелі тыя іншыя! Як ім уласныя думкі палілі нутро, як іхнія сілы і памкненні, ніякім чынам не скарыстаныя, няспынна душыліся, заўсёды канаючы і ніколі не могучы сканаць! Найлепшыя гады жыцця сыходзілі з нас, як той шары дым, які сцелецца па зямлі, а калі спрабуе ўзняцца, суровы вецер адразу ж прыцiскае яго да зямлі, расцягвае па балоцістай паверхні... Так жыць далей было немагчыма. Я ведаю, што сілы нашыя невялікія, таму чырвоным быць не пасмеў. Але і белым не быў таксама, не! Замнога цярпеў, замнога прыслухоўваўся да смяротнй самоты ўласнай душы і душ маіх блізкіх, каб мог стаць белым. А цяпер, што да непасільнай справы, дык лічу, што... З намі Бог і таму справа наша Боская. Тады... які там канец ні будзе, то хай сабе будзе, абавязак свой... абавязак свой выконвайма.

Вельмі ўзрушаны, з дрыготкімі губамі і збялелым тварам ён упаў на крэсла, цяжка дыхаў, а пасля кароткага маўчання толькі дадаў:

– Грамадзянская пошта абавязак свой выканае. Ручаюся.

Менавіта тады па маўклівым твары начальніка збройнага атрада прамільгнуў цень радасці, і хоць ён хутка знік, вочы ягоныя з-за шкельцаў акуляраў доўга ўзіраліся ў шляхетныя, самотныя, заўчасна прывялыя, спаласаваныя рысы твару Аршака.

Адразу ж на стале разгарнулі некалькі рознай велічыні мапаў, і вянок галоў схіліўся над імі, а ў шуме гаворкі гучалі асобныя назвы двароў, вёсак, мястэчак, урочышч.

Ніякай чыгункі тады яшчэ на гэтай мясцовасці не было, а было тут трохі шырокіх гасцінцаў і мноства дарог, сцежак, якія ў розных накірунках разбягаліся па неахопнай вокам раўніне.

Былі ў гэтых краях землі ўрадлівыя, людныя, на якіх хвалявалася буйная збажына, групамі цягнуліся да неба таполі, што аздаблялі двары, былі і крыжы, якія старажавалі ля вясковых уездаў.

І былі амаль бязлюдныя пусткі, мокрыя лугі з купінамі, балоты, якія перамаўляліся толькі посвістам шалёных віхур ды галасамі пералётных птушак, багністая дрыгва станавілася тут смяротнай для чужога чалавека.

І былі там агромністыя лясы, спрадвечныя, непраходныя, вякамі некранутыя сякерай, цудоўныя сховы самотнай і дзікай прыроды, таямнічыя лабірынты з дарогамі, вядомымі толькі звярам, якія там жылі, і людзям з

магутнымі плячыма, пільнымі позіркамі і трапнымі стрэламі, якія аберагалі гэтую лясную непарушнасць.

І быў там, нарэшце, сярод многіх іншых водных шляхоў, разлітых прыродай па зямлі, адзін нешырокі водны шлях, рукамі людзей выпушчаны на паверхню і названы Каралеўскім каналам.

Вянок галоў падняўся над сталом, адарваўшыся ад раскладзеных мапаў, і па вуснах разбегліся словы:

– За Каралеўскі канал! У Горацкія лясы.

Туды намерыўся пайсці атрад і стаць там лагерам.

Аднак перад гэтым ён павінен быў сабрацца. З усяго прастору зямлі, з раўніны, неабсяжнай для вока, з рассыпаных па ёй двароў, мястэчак, лясных хат, дробнашляхецкіх хутароў павінны сабрацца ўсе ў адным месцы. У месцы, дзе найбольш зручнасцяў і найменш небяспекі.

Рамуальд Траўгут падняў ад карты галаву і прамовіў:

– Дзяткавіцкі двор.

А праз хвілю, агледзеўшы позіркам сабраных, спытаў:

– Ці гаспадар Дзяткавіч прысутны тут?

– Так, я гаспадар Дзяткавіч.

Траўгут пачаў гаварыць:

– Улады дыктатарскай я не маю. Падстаўляць пад небяспеку маёмасць і вольнасць людзей без іхняй добраахвотнай згоды я не маю права. Месцу, якое стане зборным пунктам атрада, як і ягонаму гаспадару, пагражае вялікая небяспека. Двор можа быць спаленым, маёмасць забранай, гаспадар зняволеным і сурова пакараным. Збор у Дзяткавічах мае для атрада вялікія зручнасці, якія аднак могуць наступіць толькі тады, калі гаспадар гэтай сядзібы з поўным усведамленнем наступстваў свайго ўчынку можа на тое згадзіцца.

Ужо на палове гэтага выступлення з крэсла ўстаў хударлявы малады бландын з белым тварам, вясёлымі вачыма і невялічкімі залацістымі вусікамі над вуснамі, якія дагэтуль, здавалася, ведалі толькі смех, песні і пацалункі; быў гэта апантаны мыслівец, вядомы на ўсе ваколіцы сваімі здольнасцямі конніка і стральца – той, чыя мінуласць была яшчэ вельмі кароткай, але ў якой нічога не абяцала палёту да зорак альбо памкнення да бездані...

О, ён даўно ўжо сышоў з гэтай зямлі ў невядомую краіну, якая ляжыць на тым баку ракі жыцця, сышоў туды пасля працяглых пакутаў выгнання, беднасці, чысты да канца, мужны да канца, зорцы сваёй маладосці і бездані, якая ягонае жыццё праглынула, благаслаўлёны да канца. Сышоў з гэтай зямлі адзінокі, бяздзетны... і таму вольна мне вымавіць ягонае імя, а табе яго голасна паўтарыць. Можа, на яго, як на магілу, спадзе прамень нейкага чуллівага вока, якое само любіць зоркі і бездань...

З крэсла ўстаў Густаў Радавіцкі і з вачыма, што гарэлі, як два блакітныя агеньчыкі, прамовіў:

– Не толькі згаджаюся, але, паколькі магу быць карысным атраду, цешуся, што менавіта мае любыя Дзяткавічы карысць гэтую могуць даць. А наўзаем толькі адно прашу ў пана начальніка, каб мне было дазволена...

Крыху збянтэжыўся, апусціў вочы, магчыма, ад пільнага позірку начальніка. Але праз хвіліну закончыў:

– Каб мне было дазволена ў атрадзе належаць да конніцы...

Ягоныя вочы і вусны зноў засмяяліся.

– Бо што буду служыць у атрадзе, вырашана і вядома ўжо даўно. А

як жа! Я ж сотнік. Сабраў сто чалавек, ахвотных да паходу, а сам меў бы не пайсці? Гэта ніколі не магло прыйсці мне ў галаву. Але прашу, каб мне можна было служыць у конніцы, бо я на кані магу ўсё, а пешкі гэта неяк... неяк... Але толькі прашу – і як пан начальнік загадае, так і будзе. Толькі тое яшчэ сказаць мушу, што маю каня Эль-Рашыда, такога, што ў самы раз... да такой службы ў самы раз...

Ён зноў збянтэжыўся і змоўк.

Начальнік жа ўсё яшчэ пазіраў на яго пільным позіркам і на ягоных вуснах – упершыню пасля прыезду – пачала квітнець усмешка. Менавіта расквітнела, бо была дзіўна свежай, шчырай, белазубай. Разам з усмешкай хваля радасці ахінула ягоны твар і сцерла з ілба змрочную маршчынку. Амаль што з вясёлым жэстам ён усклікнуў:

– Вядома, я згодзен, каб пан служыў у конніцы і нават...

Тут ягоны голас набраў сапраўднай весялосці.

– Паколькі пан мае каня Эль Рашыда, што ў самы раз, мяную пана сваім ад'ютантам.

Да самых сваіх залацістых валасоў зарумяніўся маладзён, склаў глыбокі паклон начальніку і, сядаючы поруч з высокім брунетам, якога часам называюць Сцыпіёнам, выразна схіліў галаву, кінуў загадкавыя словы:

– А што, Фелікс! Бачыш! I я з табой...

Відаць, яны абодва ў нечым сумняваліся, а той таксама меў намер служыць у конніцы.

Але цяпер устаў са свайго крэсла начальнік.

– На сёння наша нарада скончана. Я не аратар. Мне заўсёды здавалася, што самым выразным словам, якім чалавек можа звяртацца да свету, з'яўляецца справа. Аднак зараз, калі Бог дазволіў мне распачаць справу, аб якой заўсёды марыла маё сэрца, з майго сэрца вырываюцца словы, толькі што прамоўленыя панам Аршаком: "Наша справа – гэта справа Боская". Гэта таксама праўда, аб чым сказаў Аршак, што няволя забівае душы, а я з гэтай праўды раблю высновы, што нікому не дазволена забіваць людскія душы, наадварот: душы людскія не павінны дазваляць, каб нехта іх забіваў. Вось гэта і ёсць наша права на барацьбу, якую маем распачаць, вось чаму справа наша ёсць справай Боскай. Не на рабунак і не на разбой ідзём мы, а па вяртанне адабранага ў нас дару Боскага. Дар Боскі – цнота, годнасць людская, а годнасці няма без вольнасці. Калі мы пераможам, перамогай нашай будзе збавенне душы народа, яго гонару і ягонага зямнога шчасця; калі ж прайграем, па рэках крыві, пралітай намі, іншыя даплывуць да вольнасці. Але – якім бы ні быў наш канец, абавязак наш выконвайма. З надзеяй альбо насуперак надзеі, але з праўдай і з Богам! Мы з праўдай і са справядлівасцю, значыць, мы з Богам. У гэтым наша моц. Мы з Богам.

Ён не пазіраў ні на кога, позірк ягоны блукаў недзе ўгары, і хоць ён змоўк, губы ягоныя яшчэ ўздрыгвалі ад непрамоўленых слоў, а твар і постаць ззялі нейкім ад зямлі адарваным, з містычных сонцаў выбухлым экстазам. У такім экстазе, насуперак зямным разлікам, нараджаюцца вялікія справы і з трыўмфальнай песняй духу, насуперак пакутам цела, паміраюць пакутнікамі.

Вянок твараў, збялелых ад узрушэння і стомы, атачаў доўгі стол, а ў сталовай, якая напоўнілася маўчаннем, гадзіннік пачаў адбіваць час. З-пад столі прагучалі чатыры нізкія металёвыя ўдары.

Ці то людскія вочы былі змэнчаны працяглым чуваннем, ці то прытухлі

лямпы, але, здавалася, што іхняе яркае святло рассыпаецца зараз на мноства светлых атамаў, якія мігацяць перад вачыма, дрыжаць і затуманьваюць абрысы твараў і прадметаў. Полымя свечак, што дагаралі ў высокіх кандэлябрах, стала вялікім, яскравым, з ніткамі дыму на рухомых вяршынях. Паветра, насычанае людскім дыханнем, магчыма, больш частым, чым звычайна, стала душным і гарачым.

Нехта наблізіўся да аднаго з вокнаў, адчыніў яго насцеж, а за тым адчыненым акном аказалася дзіва, цуд: дзіўна цудоўны і прыгожы вясновы ранак.

Незаплямлены блакіт неба, яркая зелень саду, абсыпаная брыльянтамі расы. Белыя зоркі нарцысаў над травой, у траве мноства фіялак, разложыстыя яблыні ў ружовай і грушы ў белай квецені. Хвалі паху і паветра, напоенага расой. І ўсё ад неба да зямлі, ад верхавін высокіх дрэў да нізкай травы і кропель расы ў магутным, поўным, залатым святле сонца было выразным, выпуклым, адасобленым, светлым, залацістым.

Дрыготкія ад спазнаных намі пачуццяў, абапіраючыся адна на адну, мы, дзве кабеты, амаль што дзеці, шырока расплюшчанымі вачыма пазіралі то на гэты райскі від за акном, то на залу, напоўненую залатым, рассеяным, мігатлівым, дымным святлом, то на людскія твары з маршчынамі на ілбах і змэнчанымі вачыма...

Паэма і драма.

Рай і чысцец.

Ціша і бура.

## II

Хто гэтай вясной мог спаць цэлую ноч? Хто бачыў раннія і спакойныя сны?

Позняй ноччу па грэблі, якая між двух радоў вербаў пралягла пасярод двух лугоў, хутка ехаў на кані чалавек, ахінуты шарай буркай. Чалавек гнаў каня на ўсю моц, у канцы грэблі абагнуў вялікую сядзібу, віхрам уляцеў на дзядзінец і спыніў каня каля ганка.

У змроку на ганку бачылася некалькі мужчынскіх постацяў і бялела некалькі сукняў кабетаў. Нечы голас запытаў:

– Хто?

Вершнік саскочыў з каня і адказаў:

– Пасланец.

Ступіў на ганак і пачаў ціха распавядаць.

Атрад ідзе з Дзяткавіч у Горацкія лясы, і на дзве гадзіны спыніўся ў двары, з якога прыехаў пасланец.

Начальнік атрада выклікае тых членаў арганізацыі, якія жывуць бліжэй, для абмеркавання асобных важных пытанняў. Прыехаць трэба як найхутчэй, бо ані мінуты болей за дзве гадзіны атрад не можа там затрымацца. Некалькі гэткіх жа пасланцоў раз'ехалася ў розныя бакі. І вярнуцца павінны з паведамленнем, ці прыедуць пакліканыя. Яшчэ ёсць запіска да пані...

Ён не скончыў гаварыць, як пара людзей, мужчына і кабета, беглі праз дзядзінец да стайні. У маёй руцэ шалясцела запіска з пяццю словамі:

"Прыязджай таксама. Ты патрэбна. Стэфанія".

Будзіць стаенныя службы? Марнаванне часу. Запрагаць коней у каляску? Хто мог бы тут думаць пра каляску!

Мінула некалькі хвілін, і перад стайняй ужо стаяў конь, запрэжаны ў лінейку.

Не ведаеш, што гэта за лінейка? Гэткая гладкая, звычайная дошка, пакладзеная між чатырох колаў і абабітая сукном. Нічога больш. Гэта вузкае, незвычайна лёгкае прыстасаванне для паездкі гаспадара па межах і палявых сцежках... Кабеты рэдка на іх ездзілі, аднак часам даводзілася, і тады яны сядзелі ў такой паставе, як ездзяць конна.

Таварыш мой узяў лейцы, а я села за ім.

Толькі тры вярсты дарогі. Лінейка наша стралой рассякала паветра, лескатала па цвёрдай дарозе, амаль што даганяючы пасланца, які ехаў на кані наперадзе. Ноч была зорная, крыху ветраная. Вербы трошкі хісталіся і шумелі з абодвух бакоў дарогі.

Мы заехалі на вялікі дзядзінец, асветлены лятарнямі і запруджаны людзьмі.

Лятарні на дрэвах, на слупах, ля сцен будынкаў, а ў іх чырванаватым святле віравала гаманкое людское стоўпішча.

Венгеркі, блузы, кароткія світкі, шырокія скураныя паясы, высокі абутак, шапкі, як кветкавы луг, цёмна-чырвоныя, сінія, белыя. На плячах стрэльбы, за поясам пісталеты. Вялікі пук кос, прымацаваных вертыкальна да доўгіх дзяржальнаў, стаяў, прыхінуты да сцяны дома, і ў святле лятарні, што вісела над ім, блішчаў, як сталёвае сонца. Рух, гамана, шум людскіх крокаў і галасоў. Пераклічка імёнаў і прозвішчаў, розныя размовы, тут і там выбухі смеху. У цёмнай глыбіні дзядзінца, каля гаспадарскіх пабудоў ржалі і фыркалі коні, цьмяна бачыліся абрысы вазоў і людзей, бліжэй да дома, на лепей асветленай прасторы, пазвоньваў на доўгіх сталах гліняны і шкляны посуд.

Мноства постацяў і твараў; вялікая разнастайнасць колераў і воблікаў. Ёсць тут сыны дамоў заможных, дзеці дастатку і элегантнасці, з заўважнай прыкметай гэтага ў рухах і вопратцы. Ёсць маладыя вучоныя, дзеці думкі і ведаў, з відочным адбіткам гэтага ў вачах і на тварах. Ёсць амаль што ўсе лясныя стражнікі, шыракаплечыя, з пахмурнымі, але пільнымі позіркамі, якія звыкла пранікаюць у лясны гушчар і начны змрок. А вось моладзь з дробнашляхецкіх хутароў, жвавая, смелая, з добрымі ўсмешкамі і раскаванымі рухамі. І яшчэ ёсць некалькі постацяў кволых, не вельмі адметных, падобных да ценяў, якія ідуць за іншымі. Іх, з мястэчак, з некаторых вёсак, магчыма, з нейкіх цяжкіх, бядотных дарог лёсу, прывялі сюды лозунгі, якія страпянулі сонныя душы надзеяй на лепшую будучыню, чарамі сплылі на нядобрую рэчаіснасць.

Калі наша лінейка паволі прасоўвалася праз тлум, з ганка саскочыла і насустрач ёй бегла тонкая, ладная кабета ў белай сукні, яна схапіла мяне за руку, калі я саскочыла з лінейкі, і паспешна прамовіла:

– Ты прыехала? Гэта добра! Даюць даручэнне мне і табе, а праз нас іншым. Хадзі хутчэй!

Мы разам увайшлі ў дом, які ў параўнанні з дзядзінцам здаваўся дзіўна пустым і ціхім.

Сталовая была асветлена, але пустая. Нікога ў ёй не было. Толькі белы воблік гадзінніка пазіраў з верху чорнай калоны, а ля адчыненых вокнаў вецер хістаў фіранкі.

У суседнім салоне некалькі чалавек сядзелі за адным са сталоў і напаўголаса размаўлялі. Адразу з парога ў вочы мне кінуліся чорныя як смоль валасы Траўгута. Калі мы паволі і крыху нясмела набліжаліся, ён якраз прамаўляў:

– Я сам не хацеў бы гэтага, але як іначай пазбавіцца ад шпігоўства і даносаў? Законы ваенныя заўсёды і ўсюды караюць за гэтыя ўчынкі смерцю. Аднак ці не выкліча прымяненне гэтай меры ў дадзеным выпадку шкодных для справы вынікаў?

Гаспадар дома нахмурыў бровы і адказаў:

– Пры абставінах, у якіх мы знаходзімся, праява энергіі і постраху супраць непрыязных нам элементаў падаюцца мне неабходнымі...

– А я, – перапыніў Аршак, – быў бы за праяву велікадушша, якое можа прывабіць да нас сэрцы.

– Ідэалогія! – мармытнуў гаспадар дома. – Адвыклі мы ад энергічных дзеянняў і, як спешчаныя паненкі, гатовыя страціць прытомнасць ад выгляду кроплі крыві.

– Мне здаецца, – азваўся нехта іншы, – сам пан начальнік павінен вырашыць лёс таго чалавека. І толькі ён. Гэта не наша справа.

– Хіба не было б гэта Пілатавым умываннем рук? – з самым найсаркастычным сваім усмехам кінуў гаспадар дома і казаў далей: – Мы натуральныя дарадцы начальніка і што да мяне, як дарадцы, я галасую за праяву энергіі, за праяву пострасу, гэта азначае – за смерць шпегам і даносчыкам.

Яны былі так занятыя размовай, што толькі цяпер заўважылі нас.

Пасля кароткага прывітання гаспадар дома адразу ж паведаміў пра тое, чаго чакае ад нас арганізацыя. Гэта былі заданні, звязаныя з эканамічнымі патрэбамі атрада, дакладней, з пэўнымі іх праявамі, якія толькі цяпер, пасля стварэння атрада, маглі з'явіцца, і з'явіліся. Трэба было ліквідаваць пэўныя недахопы, задаволіць патрабаванні, якія перавышалі ранейшыя разлікі, папярэдзіць затрымкі і недастачы, якія могуць узнікнуць. Выконваць гэтыя дробныя, але адначасова і складаныя даручэнні, кабеты маглі лацвей за мужчын, з меншай небяспекай.

Справа не ў адной і не ў двух кабетах, гаворка пра цэлы жаночы атрадзік, добра і дбайна падабраны. Асабліва падкрэслівалася апошняе. Памылкі ў падборы маглі пацягнуць за сабой непрадказальныя наступствы.

Вартасцямі атрадзіка, які меў бы знаходзіцца на вялікай тэрыторыі, над якой пасля выступлення атрада непрыяцель наладзіць пільную варту, павінны быць: спрытнасць руху, яго спакойны характар і яго натуральнасць. Другім патрабаваннем стане здольнасць прываблiваць для свайго занятку сэрцы і памкненні людзей. А трэцяе – уменне маўчаць. І яшчэ чацвёртае – адвага.

– І прысутнасці духу ні ў якім выпадку не губляць, – з прыязным да нас усмехам дадаў Аршак.

Мы слухалі шчаслівыя, усхваляваныя, сканцэнтраваныя, у нашых грудзях гучалі геройскія песні, а ў галаве насіліся думкі: хто, дзе і якім чынам? Схіліўшыся да тых, што прамаўлялі, услухоўваючыся ў іхнія словы, з вогненымі шчокамі, зусім яшчэ несвядома мы моцна сціскалі адна адной рукі.

Нечакана мы пачулі голас Траўгута. Позірк ягоны праз шкельцы акуляраў быў пільны, пранiклівы, але не суровы, наадварот, насычаны ўнутраным усмехам. Ён звярнуўся да сабраных:

– Паням гэтым можна даверыцца цалкам.

А пасля да нас:

– З поўным даверам даручаем вам гэтыя на першы погляд дробныя, але на самай справе важныя інтарэсы польскага салдата.

І так, як тады, пасля маладзёжнага энтузіязму заявы ўладальніка Дзяткавіч, ягоныя вусны расцвілі свежым, шчырым, бялюткім усмехам. Відаць, усмешку на гэтым суровым твары найчасцей выклікаў від маладосці, якая накшталт свечкі перад алтаром гарэла перад тварам ідэала прама і святліста.

Яшчэ некалькі пытанняў, адказаў, перасцярог, заўваг, і мы зразумелі, што ўжо тут непатрэбныя.

Нас паклікала да сябе вялікая сталовая зала. Яна ўжо не была пустой. Некалькі чалавек увайшло сюды са шматлюднага дзядзінца, і няцяжка было здагадацца, што яны знаходзяцца пад уплывам узрушэння, магчыма, нават абурэння, якое, хоць і стрыманае, выявілася, аднак, у шэптах, жэстах, выразах на тварах.

Былі там і нашыя блізкія знаёмыя, таварышы па забавах і справах, крэўныя. Нас здзівіла змена, якая адбылася з імі. Здаваліся вышэйшага росту, больш мужныя, чым раней. Манера трымаць сябе, рухі іхнія сталі больш энергічныя, простыя, вочы блішчалі сілаю і рашучасцю. Стрэльбаў пры сабе яны не мелі, толькі на паясах блішчалі похвы, якія хавалі ў сабе розную зброю.

Быў там са сваім рымскім профілем і вышэйшы за ўсіх ростам Фелікс Ягмін, званы Сцыпіёнам, быў Радавіцкі ў блакітнай канфедэратцы, пазаліхвацку ссунутай набок, быў зацяты дэмакрат, нядаўні экс-студэнт Фларэнцін, былі Артур і Генрык Ранецкія, сыны бацькі, названага белым, які за тое аказаўся нелюбімым, а два сыны ягоныя цяпер у атрадзе; малы Тарлоўскі, дзіўны хлопец, белы і ружовы, як паненка, вучоны батанік, а з добрай волі настаўнік сялянскіх дзяцей у суседнім мястэчку; два маладыя медыкі, якія мелі выконваць у атрадзе функцыі дактароў; і іншыя, добра вядомыя, блізкія...

Яны размаўлялі між сабой прыцішанымі галасамі. Можна было пачуць словы:

– Гэта немагчыма! Гэтага не можа быць!

– Пайшлі, патлумачым, выкажам наша меркаванне!

– Пачынаць з гэтага? Ніколі! Гэта было б для нас ганьбай...

– Фальшывым крокам на думку людзей...

– Кім бы ён ні быў, чалавек гэты паходзіць з тутэйшага люду, нарадзіўся на гэтай зямлі.

І яшчэ шмат такіх размоўных абрыўкаў, з якіх нельга было зразумець, аб чым гаворка, але якія сведчылі пра пачуццё заклапочанасці, агіды, неспакою, хоць і стрыманыя, але ўсё ж такі яны выбіваліся вонкі ў жэстах, у нахмураных бровах, у бляску вачэй.

Мы памяняліся з імі прыяцельскімі поціскамі рук і спыталі, у чым справа, што сталася альбо мае стацца. Пытацца мы маглі смела. Паміж імі і намі панавала цалкавітая роўнасць, заснаваная на адной ідэі і агульнай справе для яе дасягнення.

Фларэнцін, моцна разгарачаны, з патухлымі вачыма, схапіў адну з нас за руку.

– Хадземце, я пакажу вам. І раскажу.

Мы выйшлі з ім на дзядзінец. За намі пайшлі Артур Ранецкі і Мар'ян Тарлоўскі.

Хутка перайсці дзядзінец было зараз немагчыма. Усюды грамадкі і купкі людзей, рухомыя, размоўныя.

У хадзе шмат прывітанняў, кароткіх размоў, просьбаў пажадаць плёну,

згадваць дабром тых, хто выпраўляецца ў дарогу. У дарогу блізкую, аднак жа далёкую і для многіх незваротную. Не раз на вочы нагортваліся слёзы, шмат разоў бачылі мы вочы людзей, затуманеныя слязамі. Але гэта былі імгненні, пасля якіх вярталіся вясёлыя размовы, адчуваўся прыўзняты настрой.

Нечакана, калі мы так ішлі, вітаючыся і адначасова развітваючыся, паціскаючы рукі людзей, абменьваючыся кароткімі фразамі, на дзядзінцы пачуўся аглушальны грукат. Нібыта нешта велізарнае ўпала і разбілася на мноства аскепкаў, быццам мноства металёвых вострых чарапкоў ударылі адзін аб другі. Гэта былі косы, якія невядома чаму слізганулі па сцяне, на якую абапіраліся, і, падаючы, сыпанулі ў паветра жменю гукаў, такіх жа вострых, як і іхняе лязо. Іх адразу ж паднялі і паставілі на ранейшае месца, дзе зноў у святле лятарні яны заблішчалі, як сталёвае сонца.

Але ці то сам выпадак, ці то рэакцыя на яго некаторых сабраных выклікала ў прысутных выбух смеху.

Аднак чым далей мы разам са сваімі таварышамі аддаляліся ад дома, тым больш заціхаў людскі тлум і тым выразней у зорным змроку выступалі перад намі сцэны гаспадарскіх пабудоў і раложыстыя дрэвы вакол іх. Са сферы святла і галасу мы ступілі ў сферу ценю і адноснай цішыні. На вялікай тэрыторыі тут гарэла ўсяго некалькі лятарняў, у святле якіх можна было заўважыць абрысы асядланых коней і маўклівыя постаці каля іх рухомых нешматлікіх людзей. Затое зоркі іскрыліся на небе больш выразна, чым там, у чорных дрэвах шалясцеў вецер, а над травамі стаяла бадзёрыстая вільгаць расы.

Шпарка ідучы побач з намі, Фларэнцін распавядаў:

– Ледзь толькі выйшлі мы з Дзяткавіч, як на дарозе перад намі з'явіўся вясковы хлопец, гадоў мо трынаццаці, напалоханы, увесь трымцівы, ён жаласным галасочкам пачаў крычаць Ягміну, які з паловай конніцы ехаў наперадзе атрада:

– Стойце, паночку, стойце! Затрымайцеся, Богам прашу!

Ягмін стрымаў каня, загадаў нам зрабіць тое ж самае і з сядла нахіліўся да хлопца, які падаваў яму нейкую напісаную паперку. Ягмін разгарнуў запіску, прачытаў і паказаў нам. Гэта было ні больш, ні менш як данясенне, накіраванае ў войска, што мы выйшлі з Дзяткавіч, колькі нас ёсць, у якім напрамку рухаемся. Усё адсочана, вышпегавана і выкладзена. Мы да хлопца:

– Ты хто?

– Слуга дзяка.

– Дзе жывеш?

– У дзяка.

– Чаму не ў бацькоў?

– Няма бацькоў, памерлі.

– Хто даў табе запіску?

– Дзяк.

Ён загадаў дзіцяці з усёй сілы бегчы з гэтай запіскай у мястэчка і аддаць яе афіцэрам. Бачыце, які галган! Не хлапец, а дзяк! Хлопца Ягмін падняў на каня, пасадзіў перад сабой на сядле і запытаў:

– Ці ведаеш, што ў той запісцы напісана?

– Ведаю, – адказаў. – Чуў, як дзяк жонцы сваёй чытаў.

– Чаму ж нам яе аддаў?

Тут хлапчук расплакаўся, ці то яго стамілі пытанні, ці мо нечага напалохаўся. Ягмін пагладзіў яго па валасах, пацалаваў у галаву і зноў спытаў:

– Чаму нам яе аддаў? Не бойся нічога. Добра зрабіў, і дзякуй табе за гэта, але чаму?

Хлопец апусціў калматую галаву і так ціха, што ледзьве мы маглі пачуць, сказаў:

– Як убачыў вас, то пашкадаваў... Пакуль не бачыў, то ляцеў туды, куды дзяк казаў, а як убачыў, то пашкадаваў, бо... бо... дзяк жонцы сваёй казаў, што яны вас усіх як качак пастраляюць...

Дзяк відочна меў рацыю! Нечакана, у чыстым полі. Але што вы скажаце пра гэтага сялянскага хлопца? Якое залатое сэрца! Якая чулая душа, га!

– Калі не лгаў! – флегматычна азваўся за намі Артур Ранецкі.

Фларэнцін абурыўся:

– Калі сялянскае дзіця, то ўжо адразу і лгаць павінна! Пасаромся, Артур!

Артур жа з ранейшай флегматычнасцю адказаў:

– Не таму, што сялянскае, а таму, што чалавечае дзіця, а ў тое, што кажуць чалавечыя дзеці, наогул нельга верыць...

– Таксама філасофія! А сам цалаваў хлопца, ажно хлюпала...

– Сантымент абудзіў ён у мяне...

– У нас ва ўсіх.

Ад Ягміна яго забраў Жэмірскі, ад Жэмірскага перайшоў да філосафа, ад філосафа я ўзяў яго, ад мяне нехта іншы. Дзіва, як мы яго да смерці не зацалавалі. А ён асмялеў, амаль што рассваволіўся, пачаў смяяцца і датыкацца да розных месцаў нашага адзення.

– Якія ў вас ладныя шапкі! А якія паясы! А стрэльбы, а-ёй! Вазьміце мяне з сабой... дайце стрэльбу...

Цуд, а не малец! Каб хоць крышку быў старэйшы! Але такі бутуз! Рана яшчэ яго на баль з сабою браць!

– Але што з запіскай?

– Ягмін завярнуў каня і з ёй да начальніка, а начальнік як заведзены: “Той, той і той да дзяка няхай едуць! Рукі і ногі яму звязаць, вочы завязаць, сюды прывезці! Марш! Марш!” У яго ўсё так: тон загадны, тэмп шпаркі. Дзяк, шэльма, блізенька жыў, паездка не заняла і чвэрць гадзіны. Верашчаў, кляў, пляваўся, драпаў, давялося паказаць яму пісталеты. Дапамагло. Ну і цяпер ён з намі.

Тут голас ягоны крыху прыціх, пасур’ёзнеў:

– Мае быць павешаным.

Мы абедзве задрыжалі і пачулі за сабой нейкі асаблівы гук, што сыходзіў з вуснаў Ранецкага, нейкае працяглае “цьфу-у-у-у”! Гэта выглядала на стрыманае жаданне плюнуць.

А малы Мар’ян Тарлоўскі, што ішоў поруч з Ранецкім, шапнуў:

– Дрэнны пачатак! Як бы там ні было... чалавек бяззбройны.

– Ціха, не кажы нічога. Ён можа пачуць.

Мы спыніліся, як прыкутыя да зямлі, маўчалі.

За некалькі крокаў перад намі стаяў пад разложыстым дрэвам просты сялянскі воз, запрэжаны адным канём, а паблізу воза шарэлі дзве абапёртыя на дрэва рослыя постаці паўстанцаў, якія сцераглі яго са стрэльбамі на плячах.

На возе ў зорным святле выразна бачыўся рослы і высмуклы чалавек у доўгім, амаль што да пят, адзенні, са звязанымі на грудзях рукамі і са шматком белага палатна, якое закрывала яму разам з вачыма значную частку твару. Галава была пакрытая толькі густымі сівеючымі валасамі,

сівеючая таксама барада ападала на звязаныя шнурамі рукі. Канцы вяровак, што звязвалі ногі, бачыліся з-пад доўгага адзення.

Калі чалавек гэты, як казаў Фларэнцін, раней пляваўся, кляў, драпаў, то цяпер гэта мінулася. Цяпер ужо ён ведаў, што знаходзіцца на самым дне нядолі, што нічога яго не ўратуе, што праз хвілю мусіць згінуць ганебнай смерцю. Гэтую смерць, магчыма, ён бачыў пад прыціснутымі да зрэнак павекамі, яна вісела і калывалася на тых самых вяроўках, якія адчуваў ён на сваіх моцна звязаных нагах і руках. Магчыма, у ягонай галаве блукалі розныя ўспаміны і выціскалі з сэрца слёзы, можа, гэтае сэрца паліў агонь нянавісці і па жылах разліваліся пякучыя струмені жоўці; але найпэўней – смяротны страх ператварыў ягоную кроў у ледзяныя струмені, а валокны нерваў сціснуў у анямелыя ад жаху струны.

Але што б ён ні адчуваў, што б ні думаў, у гэты момант ён быў увасабленнем той пакуты, якая ўжо не мае ні голасу, ні слоў, ні енку і толькі, як нябачны вецер, калыша цела чалавека. Седзячы на возе, ён няспынна калываўся. З сівеючымі валасамі на галаве і на грудзях, з белым шматком на твары, ён згінаў то ўперад, то назад сваё тонкае і высокае цела, мерна, няспынна, з каменным маўчаннем. Від гэтага мернага, павольнага, няспыннага калывання нашмат мацней за магчымыя крыкі і пракляцці марозіў кроў у жылах і ўразаўся ў памяць назаўсёды.

Аднак не ўсім, хто пазіраў на гэта. Адзін з тых, якія стаялі са стрэльбамі на плячах пад дрэвамі, азваўся голасам, набрынялым смехам:

– Адбівае паклоны... як перад іконай!

Абодва засмяяліся. Гэта былі лясныя стражнікі, дзельныя спецыялісты і пачцівыя людзі, але з некранутай яшчэ ў душах першабытнай нянавісцю, зацятыя і помслівыя, з той сілай, якая, верагодна, на вайне і забяспечвае перамогу.

Ранецкі ціха іх перасцерагаў:

– Не варта смяяцца з таго, хто патрапіў у няшчасце.

– Ого! А ў якое няшчасце гэты шэльма хацеў справадзіць нас!

Прамаўляючы гэта, ужо не смяяліся, а хутчэй рыкалі. Вока за вока, зуб за зуб. Помста страшная, але хто ідзе на вайну, мусіць браць яе з сабой, а мы і тыя найбліжэйшыя нашы таварышы ішлі на вайну без яе... Нам ужо было невыносна пазіраць на пакуты гэтага чалавека.

Вярталіся дамоў паспешна і моўчкі. Толькі адзін раз мая таварышка прамовіла:

– А што сталася з хлопцам? Калі вернецца туды, яго будуць праследаваць.

– Ды дзе там! Ягмін прывёз яго сюды на сваім кані і адразу ж адаслаў да сваіх бацькоў з просьбай паклапаціцца пра яго. Там будзе яму як на небе... сын прасіў...

У сталовай і адразу каля дзвярэй нашых таварышаў сустрэлі папрокамі і запытаннямі:

– Дзе вы былі? Чакаем на вас! Ідзем да начальніка, але без цябе, Артур, нельга. Ты будзеш размаўляць...

– А чаму я?

– Бо ты самы спакойны, а тут патрэбна...

– Добра валодаць сабой. Маеце рацыю. Спраўлюся.

– Тады ідзем. Гісторыя сапраўды прыкрая.

– Тарлоўскі слушна казаў: дрэнны пачатак!

– Пятля павешанага рукі брудзіць!

– Перамагаць безабароннага...

– Гэта сялянскі сын!

– Адной з сялянамі веры!

– Мы настроім супраць сябе народ!

– Хадзем! Час не трывае!

– Хадзем!

Яны ўчатырох увайшлі ў залу і перад Траўгутам, які сядзеў сярод некалькіх членаў арганізацыі, спыніліся ў паставах, поўных шанавання. Паставы іхнія былі поўныя шанавання, але ў вачах, на тварах, на губах нешта такое трымцела, апякала, мігцела, што перш чым нехта з іх паспеў хоць слова прамовіць, Рамуальд Траўгут энергічным жэстам падаў ім руку і, падымаючы галаву, прамовіў:

– Няхай панове нічога не кажуць. Прашу нічога не казаць. Ведаю, аб чым гаворка.

Ён адразу зразумеў гэтыя гарачыя галовы і іхнія непаслухмяныя памкненні; гэта была знарочыстая перашкода сарвацца з вуснаў таму слову, якое нясе з сабой абавязковасць пакарання і непапраўнае няшчасце.

Хвіліну ён маўчаў, проста пазіраючы ім у твар, пасля з тым самым спакоем у голасе, якога былі поўныя вочы і ўся ягоная пастава, пачаў казаць:

– Справа датычыць чалавека, які з нашага меркавання дапусціў данос і займаўся шпегоўствам. Ваенныя законы караюць такія ўчынкі смерцю. Аднак на гэты раз з прычыны, мне невядомай, я памілую гэтага чалавека. Няхай будзе ён адвезены на некалькі вёрст ад дома і пакінуты там сярод поля. Ні павязкі з вачэй, ні вяровак з рук і ног не здымаць. Панове Ягмін, Радавіцкі і Ранецкі будуць эскартаваць воз з палонным і адразу ж пасля выканання майго загаду вернуцца сюды.

Ён зірнуў на гадзіннік.

– Атрад выступае адсюль праз паўгадзіны.

Трое названых начальнікам маладзёнаў склалі глыбокія паклоны і паспешна пакінулі дом. Чацвёрты, Фларэнцін, праходзячы міма нас, прашаптаў нам:

– Што за галава! Усё вычытаў у нашых вачах і нібыта сам усё вырашыў.

Цяжка было адгадаць, ці "нібыта", ці на самай справе. Ён доўга сядзеў задуменны і маўклівы. Гаспадар дома першы перапыніў маўчанне. Ён быў відочна незадаволены, па ягоных вуснах бегалі іскры іроніі.

– Будзеш мець, пане начальнік, клопату цяжкага і доўгага.

– З чым?

– З уціхамірваннем нашых фантазій, нашых сантыментаў, звадаў нашых. Смею запытацца: ці добра сталася, што ты саступіў?

Траўгут падняў галаву і цвёрда адказаў:

– Не саступіў, толькі прыняў канчатковае рашэнне.

Пасля ўжо крыху лагодней адказаў:

– Гэты чалавек, які дайшоў да царкоўнага служкі, усё ж такі селянін. Тыя маладзёны мелі рацыю. Не з мардавання сялян належыць нам пачынаць. Я не спасаваў перад імі, а пасля развагі згадзіўся з іхняй думкай.

Ён устаў з крэсла. Калі варухнуў галавой, у шкельцах акуляраў заіскрылася адбітае святло.

– Колькі буду магчы папярэдзіць выбух непакоры, згодна са сваімі перакананнямі, столькі буду рабіць гэта, колькі б непакора ні стаяла на маёй дарозе, утаймую яе.

Пры апошніх словах рука ягоная міжволі апусцілася на пісталет, што вісеў на поясе.

Трое ездакоў пад'ехалі да ганка і саскочылі з коней.

– Сядзіць сабе паблізу дарогі на загоне, – флегматычна паведамляў Ранецкі, – і чакае, каб яго нейкі прахожы ці праезджы вызваліў з путаў. Відаць, гэта неўзабаве адбудзецца, але чым пазней тое станецца, тым лепей для нас. І толькі адну маю заўвагу да экспедыцыі, гэта тое, што нейкім чынам з ягоных вачэй ссунулася павязка і ён убачыў нас, а ўбачыўшы, пазнаў.

– І што з гэтага можа вынікаць?

– Толькі тое, што ў выпадку... неспрыяльных абставін мы, па словах лесніка Рыгора, можам аказацца на яго месцы!

Яны пайшлі дакласці начальніку, што загад ягоны выканалі.

Лятарні на дзядзінцы і зоркі на небе прыгаслі, ранішняе вясновае святло ўсё больш рабіла паветра блакітным, калі Траўгут у атачэнні сваіх цывільных таварышаў выйшаў на ганак дома. І адразу па дзядзінцы паляцеў яго зычны металёвы голас:

– У шарэнгі станавіся! Вершнікі – на коней!

Радавіцкі паспешна наблізіўся да начальніка і пачціва прамовіў:

– Салдаты пытаюцца, ці можна ім дзень і паход распачаць спевамі гімна.

Траўгут згодна кіўнуў галавой, ад'ютант з ганка на ўвесь дзядзінец гукнуў:

– Спяваць дазволена!

На дзядзінцы адбываліся хуткія маўклівыя рухі. Дзясятнікі і сотнікі строілі ў шарэнгі пяхоту, коннікі сядалі на прыведзеных са стайняў коней.

Траўгут падаў каманду:

– Ягмін з паловай конніцы наперад!

Перад ганкам праехала частка ездакоў на добрых конях, з шаблямі на баку, яны віталі нас канфедэраткамі, і на пачатку дарогі, што вяла з дзядзінца ў поле, сталі перад пяхотай як укапаныя. Другая такая ж група вершнікаў спынілася за двумя коннікамі, што нерухома стаялі крыху наперадзе. Імі былі начальнік атрада і ягоны малады ад'ютант.

Запанавала хвіліна маўчання, хвіліна каменнай ранішняй цішыні ў паветры, якое ўсё больш святлела ад блізкага ўжо дня, пасля на знак начальніка ў страмёнах узняўся ягоны малады ад'ютант і кінуў у ціхае светлае паветра звонкі голас:

– Наперад! Марш!

І тады, як хваля, якая плыве шумна, але паважна, яны сталі ад'язджаць, адыходзіць. Чалавечы поступ і конскі тупат гучалі голасам прыціхлага ветру, а над гэтым пошумам з некалькіх сотняў мужчынскіх грудзей вырывалася песня.

З гэтай песняй яны ішлі і ехалі няспешна, роўна, у непарушным парадку паміж двума радамі высокіх таполяў, насустрач світанку, які распальваў далёкі небасхіл за таполямі ружовым колерам.

У сонечным бляску, які трымцеў у ранішняй святлыні, плыла мелодыя і гучаў усё больш далёкі спеў.

Ганак дома, запоўнены людзьмі, азваўся моцным біццём сэрцаў і малітоўным шэптам:

– Госпадзе, благаславі!

Былі тут людзі, якія рукі са сплеценымі пальцамі выцягвалі да тых, хто аддаляўся, і тыя, хто засланяў вочы далонямі. Аршак пазіраў у неба. З твару

гаспадара дома бясследна знікла ганарыстасць, па ім прабягалі хмары цяжкіх думак, у той час, калі вусны, з якіх канчаткова знікла іронія, шапталі:

– Божа, злітуйся!

.................................................................................

Не блаславіў, Госпадзі!

Не злітаваўся, о Божа!

Чаму?

Хіба там, у нябескай светласці, даведаюцца пра ўсё гэта тыя, хто жыў і памёр у пякельнай цемры?

Хто гэтай вясной прыкмячаў квітнеючыя ружы? Хто слухаў салаўіныя спевы?

Для кветак і для песняў, для вясенніх мрояў, захапленняў, для адпачынку гэтай вясной не было часу, не было жадання, ахвоты, памяці. Гарэлі лясы.

З Горацкіх лясоў часта даходзілі весткі і разносіліся па шырокай раўніне, будзячы ў сэрцах і галовах глыбокія і адэкватныя водгукі.

Грамадзянская пошта ў энергічных руках Уладзіслава Аршака працавала нястомна, звязваючы паўстанцаў са светам, а людзей, рассеяных у свеце, між сабой. Гэты чалавек, якому няспраўджаная мара пра высокі стан жыцця атруціла ўсю радасць маладосці, зараз з радасцю кінуўся ў гэтае жыццё і разам з купкай сваіх памочнікаў знаходзіўся ўсюды, пра ўсё даведваўся, перасцерагаў, радзіў, абвяшчаў свету аб тым, што дзеецца ў глыбіні лясоў, а лясную глыбінку аб тым, што робіць і прадпрымае свет.

Спазнаванае такім чынам унутранае жыццё лагера абуджала пачуццё радасці, не вольнай, аднак, ад пэўнага пачуцця жудасці.

Недзе там, на аточанай адвечнымі дрэвамі шырокай лясной паляне, праходзілі вайсковыя вучэнні – няспынна, настойліва, старанна, яны мелі на мэце ператварыць няўмелых добраахвотнікаў у салдат, якія авалодалі пэўным майстэрствам. Гэта абуджала ўсеагульную павагу да начальніка, а падчас расказаў аб яго цяжкай, нязмернай працы нават пашану. Але разам з тым у лагеры панавала такое суровае, нават жорсткае пакаранне, што людзей, дагэтуль не абазнаных у вайсковай справе, пераймала здзіўленне. Нехта там – ледзьве падрослы маладзён – па загаду начальніка быў расстраляны. Нехта іншы быў блізка да такога самага лёсу. За адсутнасць паслушэнства. А паслушэнства не было лёгкім, не! Распарадак панаваў казарменны альбо кляштарны, з неадменным для кожнай гадзіны распарадкам, з няўмольнымі для кожнага чалавека абавязкамі, з пакараннямі, якія напачатку былі карай смерці для кожнага, без увагі на тое, багаты ты ці бедны, вучоны альбо чалавек просты, маладзён ці састарэлы. Паводле ладу жыцця, харчавання, начнога адпачынку, аб'ёму працы былі ўраўнаваны ўсе без выключэння, незалежна ад звычак, адукаванасці. Воля ўсіх была скавана жалезным абручом абавязку, над усімі галовамі панавала назломная лінія роўнасці. І цяжкая кара пагражала кожнаму, хто паспрабаваў бы выскачыць з таго абруча альбо ўзняць галаву над той лініяй.

У людзей, нязвыклых да моцных ураджанняў, да спраў крывавых, да суровага жыцця, як у "маладых паненак", гэта выклікала дрыжыкі, але яны маўчалі, часам толькі прамаўляючы: "Так, відаць, трэба!" Нягледзячы на гэта, усе ведалі, што там, у глыбіні лесу, поруч з ворагам знешнім затаіўся і пагражае яшчэ і той, якога кожны чалавек сам у сабе носіць.

Сівыя бацькі нізка схілялі заклапочаныя галовы, а маткі ўпотай выціралі з вачэй слёзы. У зацішных кутках дамоў і ў цяністых алеях садоў плакалі

дзяўчаты. Прасветленымі месяцам начамі можна было бачыць ля адчыненых вокнаў постаці, якія стаялі на каленях, з тварамі, узнятымі да серабрыстага неба, альбо каля ганкавых калонаў паднятыя ў паветра і аблітыя месяцавым святлом рукі з заламанымі далонямі. Калі пасля працяглай нядрэмнасці ў дамах засыналі, у цёмных пакоях чуліся кароткія ўскрыкі, неразборлівыя словы, тужлівыя заклікі. Людзі крычалі ў сне, размаўлялі, некага клікалі.

Але белым днём, на адкрытых месцах, яўна і голасна ніхто не скардзіўся, не плакаў, не бунтаваў. Гонар апанаваў галовамі і забараняў ім адкрытую жаласлівасць, а ў грудзях жыла і гасіла жаласлівасць тая таемная радасць, якая сочыцца з ахвяры, забіваемай перад любімым алтаром, а кроў яе ператвараецца ў ялей.

Зрэшты, для бедавання, плачу, размоў не было часу.

Жвава і працавіта па дварах, хутарах, паселішчах выпякаўся чорны хлеб, выраблялiся белыя сыры, рыхтаваліся запасы рознай жыўнасці, разнастайнага адзення.

Карэт на дарогах відаць амаль што не было, затое туркаталі вазы і каляскі, лёгкія і пакоўныя, з іх выскоквалі ля парогаў нізкіх хацін смуглявыя і белыя кабеты, забягалі ў святліцы, дзе насустрач ім кідаліся адарваныя ад гаспадарскіх клопатаў іншыя кабеты – румяныя, поўныя, загарэлыя, але гэтаксама, як і тыя, што прыехалі, ахінутыя нейкім святочным сонечным святлом і духоўнай узнёсласцю.

І тады ў гэтых святліцах, альбо пакойчыках, хатах, чулася шмат шуму, размоў, пытанняў, аповедаў, уздыхаў, выкрыкаў, пацалункаў. З нас смяяліся плячыстыя і дужыя шляхцянкі, калі мы разам з імі пачыналі займацца гаспадарскімі клопатамі, закасвалі рукавы на тонкіх руках, а мы смяяліся са шляхцянак, калі яны пыталіся, ці захочуць тыя маладыя хлопцы, што ў атрадзе, ласавацца такім чорным, хоць і смачным, хлебам. Смяяліся ўсе разам, калі нейкая работа нам вельмі ўдавалася альбо не ўдалася зусім. А калі мы прывозілі нейкую добрую навіну, хай сабе з лесу атрыманую альбо ў газетах вычытаную, адразу выбухала агульная радасць, пасля ўзнікалі сумненні, трывога, а ўсё складвалася ў расчуленасць, сплеценую з радасці, неспакою, сумневу, надзей, і цягнуліся насустрач адны адным слабыя і дужыя рукі, белыя і загарэлыя, сустракаліся ў пацалунках вусны... Як першыя хрысціяне любілі адзін аднаго ў Хрысце, так мы любілі адзін аднаго ў Польшчы.

Нашы вазы і каляскі затрымліваліся таксама перад яшчэ ніжэйшымі, чым гэтыя, парогамі сяліб леснікоў, дваровых слуг, розных малых людзей, якія цяпер сталі ў нашых вачах вялікімі, дарагімі сэрцу. Тут жылі сем'і, пакінутыя мужамі, сынамі, братамі. Быць не магло, каб іхнім целам бракавала хлеба, а душам пацехі. Дзяцей там бывала шмат; на шум нашых вазоў, як на спатканне з добрай навінай, яны вылятаць з вясёлым галасам. Самотныя жонкі ўдзячнымі ўсмешкамі прасвятлялі свае твары, а старыя маткі пільна пазіралі на нас спалавелымі вачыма, у той час, як губы іхнія дрыжалі высахлым лісцем і шалясцелі шэптам:

– Дай, Божа! Дай, Божа!

Пасля нашыя вазы і каляскі, наладаваныя showрознымі каляровымі і пахкімі прадметамі, лоўка перасоўваліся ад двара да двара, усё далей і далей, да Каралеўскага канала, за канал...

Часам па знаку Аршака альбо ягоных памочнікаў усё спынялася, спынялася і слухала: “Зараз не можна! Шпегі сочаць! Войска праходзіць!” Альбо:

“Не гэтымі дарогамі! Тымі! Тымі! Там больш бяспечна!” Затрымкі былі балючымі, таму ніколі не былі працяглымі. Заўсёды знаходзіліся калі не тыя, то іншыя спосабы. І зноў рух, часам з далёкімі аб’ездамі, цераз ваколіцы, раней невядомыя, па берагах лугоў, што свяціліся шклом водных разліваў, ускраінамі лясоў, якія акружалі бязлюдныя землі, ад двара да двара, усё далей...

Не раз у дарозе нас атулялі зорныя альбо пахмурныя ночы, не раз на блакітным досвітку міналі мы нейкую нізкую пабудову з яркім кветнікам перад парогам, а адтуль чуліся знаёмыя галасы, якія запрашалі затрымацца, адпачыць... Бывалі чароўныя ўсходы сонца, ружовыя ад бляску, калі мы, бяссонныя і сасмяглыя, пілі з гліняных кубкаў пеністае малако, стоячы над аблітымі расой кветнікамі з агністымі настурцыямі і півонямі.

І толькі – на жаль – нашыя вазы і каляскі не затрымліваліся каля сялянскіх хат.

Хаты тыя – на жаль – былі перад намі замкнёныя!

Замыкалі іх перад намі рознасць веры і мовы, памылкі нашых продкаў – на жаль, на жаль!

І гэта была скала, аб якую разбіўся наш карабель, выпушчаны ў суровае мора – на жаль!

Скала, аб якую разарваўся наш пекны ветразь – на жаль!

Скала, з якой пасля кароткага сонечнага дня апусцілася на нас цёмная ноч, душная, халодная, непраходная – на жаль!

Замкнутая перад намі сялянская хата сталася гэтай скалой – на жаль, на жаль, на жаль!

Адбываліся бітвы...

Разумееш, што непасрэдным сведкам іх быць я не магла, і хоць шмат, шмат разоў слухала аповеды аб іх саміх удзельнікаў, разумееш, што для іх апісання патрэбна рука, здатная на нешта іншае, чым мая.

На што здатная мая рука, ты ведаеш. На гэтым братазабойчым свеце, жоўтым ад злосці і чырвоным ад крыві, яна імкнулася здымаць з неба высокі, чысты, супакаяльны блакіт. Яна была шалёнай? Гэта праўда. Але не вымагай ад яе зараз чырвонай фарбы.

Аднак скажу, што атрад зладзіў некалькі ўдалых бітваў з войскамі, якія яго па лясных зарасніках, гушчарах, лабірынтах шукалі, насцігалі, раз’ятраныя і раззлаваныя гэтым новым для сябе спосабам вядзення вайны.

Так не раз іншыя краіны бараніліся ад няволі альбо скідалі з сябе рабства пад шчытамі сваіх гор і скал. Мы ж ні горных заслонаў, ні скальных вяршынь не мелі, толькі адзіны зялёны шчыт – лес, адвечнае гняздо народу, з якога народ учыніў сабе зараз крэпасць, а хутчэй шмат крэпасцяў з размешчанымі ў іхніх шаматлівых сценах гарнізонамі.

Гэтыя гарнізоны мусілі быць малалікімі, каб менавіта малалікасць надавала лёгкасці, спрыяла латва перамяшчацца з месца на месца, разлятацца і злятацца накшталт птушак, якія ўцякаюць ад паляўнічага, а пры зручным выпадку кідаюцца на яго крылатай дзюбатай грамадай, гатовай разляцецца і сабрацца зноў.

Гэтыя гарнізоны мусілі быць дробнымі, але адначасова і вельмі шматлікімі. Каб было дастаткова, каб паспяхова супрацьстаяць вялізнаму рэгулярнаму войску, колькасць іх павінна быць вялікай, мусіла пакрыць край так густа, як густа пакрываюць жнівеньскае неба зоркі. Але лік іх быў невялікі, іх было замала. Яго скараціла, рост іх загамавала, да стану шырокага пераможнага пажару не дапусціла – на жаль! – замкнутая сялянская хата.

У зялёнай крэпасці Горацкіх лясоў гарнізон аказаўся стойкім і мужным. Міналі тыдні, бітвы былі страшныя, а атрад не пераставаў існаваць, наадварот, неўзабаве меў вырасці колькасна, умацавацца ў сіле праз злучэнне з іншым, да яго падобным, які з не вельмі аддаленых мясцін ішоў сюды...

Як званочак, які абвяшчае радасную вестку, загучала ў людскіх вуснах імя: Лятіва. Было гэта несапраўднае імя, за ім хавалася іншае, нам, зрэшты, вядомае. Ад імені гэтага сыходзіў бляск пекнай славы, вакол яго кружылі аповеды, падобныя на легенды. Сёй-той прамаўляў, шаптаў: "Калі два такія кіраўнікі, калі два такія атрады аб'ядноюцца..." І бачылі ў гэтым аб'яднанні пачатак народнага, рэгулярнага войска альбо спадзяваліся пасля гэтага на нешта такое галоснае, на такую бліскучую перамогу, што маланкай асвеціць небасхіл, як электрычным токам страсяне людзей і пакліча ўсіх да барацьбы, можа, нават сялянскія хаты адчыняцца перад ёй.

Такія былі мроі – але няхай ніхто не кажа, што ілюзіі. Няхай ніхто не змешвае высокіх мараў з марнымі ілюзіямі, бо ў аснове мрояў часцей за ўсё ляжыць праўда, якой толькі моцная калатнеча злой рэальнасці не дазволіла здзейсніцца. Чалавечая душа створана для вялікай справы, аб ёй тужліва сніць. Сны не спраўджваюцца, але ж у іх жыве праўда, а не ў віхурах, што марна ўздымаюць з зямлі пыл, з якога насыпаецца для іх магіла. Некалі адкрыецца магіла і выйдзе з яе пераможная праўда вялікіх сноў.

Супраць гарнізона Горацкай крэпасці збіраліся шматлікія войскі. Чаму такія шматлікія, прычын было шмат. Вынослівасць гарнізона і стойкасць здзіўлялі, абуджаючы памылковыя ўяўленні аб яго сіле і колькасці; ягоныя перамогі злавалі, раздражнялі, прыніжалі. Патрабавалася рашуча скончыць з гэтым. Паход Лялівы праз лясы і балоты, няспешны і таемны, цалкам таемным аднак быць не мог – ні сам, ні яго мэта. Сіла гэтага атрада, ахінутага лясным сутоннем, балотнай пусткай, не была добра вядомай. Дрымучыя лясы, бязлюдныя пусткі, дарогі, пазначаныя толькі ключамі пералётных птушак, умеюць хаваць таямніцы, ды ў кожнай таямніцы жыве зерне небяспекі, а аптычным прыборам, які найбольш павялічвае прадметы, з'яўляецца іх таямнічасць. Трэба тады перашкодзіць зліццю двух атрадаў, якое, калі адбудзецца, будзе ўяўляць невядомую сілу, як невядомыя і яго бліжэйшыя намеры. Нарэшце, не было такога аргусовага вока, якое кожны дзень і кожную гадзіну магло б ведаць, ці не адбылося гэтае зліццё, мо ўчора, мо мінулай ноччу, а мо гадзіну таму... А калі гэта ўжо адбылося? Супраць лічбы невядомай неабходна было назваць лічбу большую... Такія былі прычыны, чаму супраць гарнізона Горацкай крэпасці мусілі выслаць войска значна большае, чым была колькасць гарнізона.

Аб тым, што так быць мусіла, ведалі мы і ведаў лагер. Нездарма працавалі Аршак і ягоныя памочнікі. Невядомым заставаўся толькі дзень, калі войскі падцягнуцца да Горацкіх лясоў.

Да гэтага дня рыхтаваліся ў атрадзе; арганізацыя мусіла быць гатовай да ягоных наступстваў.

Ва ўсякім разе мяркуемая лічба параненых была вялікай, а ў выпадку разбіцця атрада яшчэ большай была б лічба тых, каго неабходна схаваць на меншы альбо большы тэрмін.

Высветлілася неабходнасць сабраць пэўную колькасць ахвотнікаў як мага бліжэй да месца будучай і, напэўна, недалёкай па часе бітвы.

Сядзіба з вялікім мураваным домам крыху нагадвала руіны, была занядбаная, пахмурная, панурая сярод белых бярозаў і амаль што чорных

елак. Жыў там чалавек самотны, здаўна зламаны цяжкай немаччу, і панавала тут звыклая ў такіх выпадках ціша. (...)

У высокіх пакоях, даўно занядбаных, сярод нешматлікай мэблі і амаль што голых сцен спрытна краталіся кабеты, вялі доўгія размовы мужчыны. Першыя знаходзіліся тут пастаянна, другія то з'язджаліся, то раз'язджаліся, спосабам для людскіх вачэй і вушэй найменш заўважным.

На сталах узвышаліся стосы падрыхтаваных корпій, павязак, рознага роду бялізны і адзення; ля сцен бялелі клапатліва засланыя пасцелі; сям-там знаходзіліся назапашаныя кухонныя і складскія кантэйнеры з харчам.

Пахмурнай і дажджлівай ноччу нехта пастукаў у дзверы, што вялі ў сад.

– Хто там?

За шклянымі дзвярыма стаяла постаць, чорная ў цемені, але знаёмы голас прамовіў вядомае імя. Гэта быў адзін з лекараў, якія знаходзіліся ў атрадзе.

Ён пешкі пераадолеў адлегласць, што аддзяляла лагер ад канала, пераплыў канал і прыйшоў сюды, каб даць указанні і зрабіць распараджэнні, датычныя будучых параненых.

Ён мог забавіцца толькі гадзіну і да ўсходу сонца павінен вярнуцца ў атрад. Адзення сушыць ён не будзе. Паспешна п'ючы саграваючы напой, ён казаў нам, што павінна знаходзіцца ў доме, што рабіць, як паводзіць сябе ў розных выпадках, тады, калі б ніхто з лагерных лекараў не з'явіўся. Гэта магло стацца лёгка хоць бы з той прычыны, што ніводзін з іх можа ўжо не жыць. І аб тым, аднак, варта падумаць, каб нежывых альбо палонных нехта з жывых і свабодных замяніў. Каго, адкуль для гэтага запрасіць. Адразу ж паведаміць, папярэдзіць: дзе, калі.

Перад узыходам сонца малады лекар зноў пераплываў Каралеўскі канал і ляснымі сцежкамі дабіраўся да атрада, а крыху пазней, раннім ранкам, звычайная брычка з дзвюма кабетамі ў ёй кіравалася ад занядбанага двара ў мястэчка, аддаленае на некалькі міляў.

Ружовага світанку гэтым разам на небе не было, шэрыя хмары засланялі ўсход сонца, на пясчанай панурай дарозе дзьмуў моцны вецер і малаціў бічамі халодны дождж. У дажджавой імгле карлікаватыя сосны на жоўтым пяску выглядалі жаласна і панура; з абодвух бакоў дарогі сям-там высокія каравякі (травяністая расліна, якая цвіце часцей за ўсё жоўтымі кветкамі – *А.Б.*), усе ў квецені, хісткія пад ветрам, здаваліся роспачнымі, сплывалі жоўтымі слязамі. Каркалі чорныя вароны, што зляталіся ў зараснікі. На сэрцы ляжаў невядомы цяжар: мо ў смутку прыроды адчуваўся смутак – о, які смутак! – жыцця!

У мястэчку панаваў вялікі рух, нягледзячы на тое, што напалоханыя насельнікі рэдка паказваліся на мокрых гэтым днём вулічках. Рух сыходзіў ад войска, значная колькасць якога толькі што прыбыла сюды, а калі мела сысці адсюль, ніхто не ведаў. Што не зараз, то пэўна, бо афіцэры і салдаты разыходзіліся па гаспадарствах; плечы салдацкія былі ўжо без ранцаў, хрыбты конскія без сёдлаў. Шэрае ад дажджу паветра напаўнялі чырвоныя і жоўтыя плямы мундзіраў, сілуэты жывёлы, абрысы вазоў, ладункаў на вазах, панавала мітусня і лад жыцця неспакойнага, усё гэта, прыціхшы на хвіліну, здзіўляла грубасцю і ўпэўненасцю ў сваёй непераадольнай сіле.

Сярод стракатага вайсковага ўбрання і мітусні смелых рухаў перасоўваліся, прабягалі постаці жыхароў, пакорлівыя, паспешныя, напалоханыя, з бледнымі тварамі; на фоне грубых галасоў выдзяляліся пісклявыя крыкі жанчын і плач немаўлят.

Апоўдні гэтага дня да нас прыехаў Аршак і паведаміў:

– Заўтра!

Чаму заўтра, калі падышлі так блізка да патрэбнага месца? Відаць, чакаюць прыходу іншых...

Надвячоркам начальнік арганізацыі накіраваўся ў лагер для размовы з кіраўніком атрада. Праводзіў яго па невядомым яму лесе стары цесля Антоні, які добра ведаў лес і меў сына ў атрадзе. Стары ўчора прыйшоў з мястэчка, у якім меў сваю майстэрню, з запытаннем, што там чуваць у нашых? А цяпер усміхаўся ў белыя вусы і радасна паціраў рукі: "Хлопца свайго ўбачу!"

Неўзабаве перад поўначчу яны вярнуліся, і па твары начальніка арганізацыі было бачна, што яго не задаволіў вынік размовы. З Аршаком і старым Ранецкім, які позна вечарам з'явіўся тут, яны доўга паціху размаўлялі ноччу. Здаецца, ішло аб тым, каб Траўгут пазбягаў бітвы з пераўзыходзячым ягоныя сілы войскам і цягам ночы сышоў далей і глыбей у лясы, якія ядналіся з Горацкімі, і што ён на гэта не згадзіўся. Здаецца, прычына нязгоды палягала ў непрыдатнасці грунту, па якім паспешным паходам давялося б ісці, і боязь таго, каб загад на адступленне не аслабіў адвагі і ўпэўненасці ў сабе новых салдат.

Ноч была бяссонная і неспакойная. Шмат неспакою прычыніла Чарнецкая, жонка старшага ляснічага, муж якой, выдатны стралок, і адзіны дваццацігадовы сын былі ў атрадзе. Дасканалая гаспадыня, кабета працавітая і пачцівая, яна была для нас вельмі патрэбная, мы любілі яе, хоць таемна пасмейваліся часам з залішняй балбатлівасці, пісклявага галасочка і нязвыкла высокай і тонкай фігуры, на макаўцы якой неяк жаласна тырчала з тылу галавы тоненькая, чорная, спіральна закручаная касічка. З гэтай нашай Чарнусяй, звычайна вясёлай, чыннай, жвавай і занадта гаварлівай, той ноччу невядома што сталася. Усяліўся ў яе нейкі дух неспакою, страху, тугі, ад чаго нельга было ніяк пазбыцца. Дух гэты быў вельмі дзіўны для гаваркой кабеты, бо змушаў яе маўчаць, як магіла, прымушаў няспынна хадзіць, яна снавала каля нас, зазірала ў нашыя твары маленькімі чорнымі вочкамі, у якіх бачылася невымоўная і ніводным словам не выказаная пакута. Паляжаць і адпачыць яна не хацела, есці альбо размаўляць з намі не хацела, рабіць нічога не магла і толькі пастаянна хадзіла са сваёй жаласлівай касічкай на макаўцы высмуклай і тонкай фігуры, з дробным жоўтым тварам, скручаным непераадольнай пакутай, хадзіла, блукала каля сцен, вакол сталоў, а за ёй хадзіў па сценах высокі і тонкі яе цень. Часам яна затрымлівалася каля адчыненых дзвярэй пакоя, у якім размаўлялі мужчыны, і, здавалася, падслухоўвала іхнія размовы... Гэтая постаць, якая доўгімі начнымі гадзінамі ў магільным маўчанні няспынна хадзіла і хадзіла з пакутай на твары, нагадвала нам таго дзячка, што няспынна калываецца і калываецца на возе. Ад выгляду яе балелі і нямелі ўсе нервы.

Дзень пачынаўся сонечны, гарачы, душны, са шматкамі хмар, што праносіліся пад іскрыстым небам.

У высокім пакоі, амаль што пустым, некалькі асобаў, кабет і мужчын, стаялі каля шчыльна пазачыняных вокнаў, пазіраючы праз вялікія, але мутныя ад занядбання шыбы на войска, якое праязджала і праходзіла міма.

Праязджала і праходзіла па шырокай пясчанай дарозе за брамай і агароджай дзядзінца так блізка, што можна было выразна ўбачыць асобныя постаці, барвы мундзіраў і масць коней.

Разложыстыя галіны дрэў за вокнамі частку дэталяў засланялі; даволі моцны вецер то растуляў, то зноў зблiжаў галіны, і выглядала гэта так,

быццам нейкія нябачныя рукі то рассоўвалі, то зноў ссоўвалі зялёныя фіранкі перад рухомай, яскравай, бліскучай карцінай, якая рухалася перад вокнамі доўга... доўга...

Ішлі і ехалі, ехалі і ішлі, з кароткімі часам перапынкамі паміж атрадамі. Іхнія мундзіры ў сонечным святле іскрыліся барвамі і металам, зброя блішчала, крокі аднастайна шамацелі, часам глуха пастуквалі.

Сіла. Сіла колькасці і жалеза. Сіла вялікая. Не сотні, як раней, а тысячы.

У пакоі панавала маўчанне, не парушанае нават дыханнем, бо сіла, што праходзіла перад вачыма, пераймала дыханне, сціскала горла. У гэтым маўчанні нейкі голас прамовіў:

– Генерал!

Некалькі экіпажаў павольна каціліся па пясчанай дарозе. Адзін з іх быў заліты яркай чырванню, у якой свяціліся срэбныя валасы. Некалькі румяных твараў вакол гэтай серабрыстай галавы, мноства ездакоў і коней вакол экіпажа, ад пазалочанай бронзы бліскучага.

Быў момант, калі магло здацца, што экіпаж спыніцца перад брамай сядзібы – і кроў у нашых жылах застыла. Выйдуць з экіпажа, зойдуць у дом, мо пачнуць шукаць тое, чым дом напоўнены, мо будуць пытацца аб тым, аб чым вусны нашыя павінны маўчаць перад імі нават коштам уласнага жыцця...

Але не, гэта толькі ў глыбокім пяску колы экіпажа запаволілі свой рух. Вазніца ў чырвонай сарочцы і з чорнага аксаміту безрукаўцы, з рукамі, выцягнутымі як струны, свіснуў, коні, акрытыя бліскучай і звонкай жоўтай меддзю, рушылі хутчэй, экіпаж мінуў браму, за ім, у атачэнні ездакоў, прасунуўся яшчэ і яшчэ адзін. Генеральскі штаб. За экіпажамі, поўнымі яшчэ маладых людзей, апранутых як на баль, ажыўлена жэстыкулюючых, зноў войска – пешае і коннае, пасля яшчэ памаляваныя на зялёнае вайсковыя павозкі са снарадамі і нарэшце простыя сялянскія вазы, якія, напэўна, служылі нейкім салдацкім патрэбам. Многа сялянскіх вазоў; імі кіравалі людзі ў шэрых сярмягах і авечых шапках над цёмнымі, аброслымі, абыякавымі, стомленымі тварамі.

У сялянскую хату, аднолькава замкнутую для абодвух праціўнікаў, пастукалася сіла, вывела гэтых людзей і павяла за сабой. Маўклівы сфінкс ляніва і абыякава цягнуўся за тысячагаловым калосам, а зборнае аблічча яго з-пад авечых шапак, здавалася, прамаўляе: “Мушу!” і “Мне ўсё-роўна!”

Нарэшце пясчаная дарога апусцела і нічога на ёй ужо не было, апрача воблака пылу, які жоўтымі клубамі ападаў на блізкія дрэвы.

Мы адступіліся ад вокнаў і паселі, дзе каму бліжэй. Ніхто нічога не казаў, здавалася, што ніхто нікога і нічога навокал на заўважаў. Думкі ў галовах маўчалі, на сэрцах ляжалі глыбы лёду.

У адчыненых дзвярах паказаўся слуга і дзіўна ціхім голасам паведаміў, што абед пададзены. Доўга ніхто нікуды не кратаўся, а пасля нехта ўстаў і прыкрыў дзверы пакоя, у якім мітусілася прыслуга і пазвоньваў сталовы посуд. Выгляд звычайных рэчаў стаўся нязносным для душы, звычайныя патрэбы цела заснулі. Нічога, толькі гэты калос, які толькі што цягнуўся перад вокнамі, толькі гэтая вялізная жалезная сіла, а перад вачыма і ў вушах яе бляск, барвы, брынькканне, туркатанне, тупат...

Складана мне паведаміць, колькі часу сплыло да той хвіліны, да той так неспадзявана хутка наляцелай хвіліны, калі за домам, не ў непасрэднай блізкасці да яго, а на невялікім аддаленні, выбухнуў у паветры страшны грукат – усе мы ўскочылі на ногі з адзіным ва ўсіх выкрыкам:

– Страляюць!

Пасля між намі быў кароткі абмен пытаннямі, здзіўленнямі.

– Ужо, так хутка? Як гэта, дзе гэтак блізка? Яны ж у глыбіні лесу... а стрэлы на ўзлеску, над каналам.

Пасярод прасторы, што аддзяляла двор ад канала, узвышаўся невядома як сярод раўніны выраслы пагорак. На ягоных пясчаных узбоччах раслі тонкія і рэдкія сасонкі, ялаўцовыя кусты, мох і чабор.

Дзверы дома за намі засталіся шырока адчыненымі, пакоі апусцелі; мы беглі на пагорак і яшчэ не дасягнулі ягонай вяршыні, як лес выбухнуў магутным разложыстым грукатам.

Так, лес загрымеў. Але калі на гэтым баку недалёкай і нешырокай воднай паласы неагляднай стужкай людзей і коней разгарнулася войска, калі ў розных месцах воднай паверхні, блізкіх, дальніх, далёкіх, бачыліся ягоныя аддзелы, што перапраўляліся па вадзе, то той бок, процілеглы, быў пусты і бязлюдны. Нічога там не было, акрамя надбярэжнага луга, няроўнага па сваёй воднай шырыні, а за ім такой жа няроўнай цёмнай сцяны лесу.

У цёмнай, нерухомай, маўклівай сцяне лесу нешта грымела і бліскала, пасля яна зноў станавілася цёмнай, нерухомай, маўклівай.

У сваім зачараваным палацы абуджалася страшная казка...

Нехта з нас прыцішаным голасам прамовіў:

– Ён вывеў атрад на ўзлесак...

Іншы адразу ж дадаў:

– Бароніць пераправу праз канал...

– Не, не! Гэтага дасягнуць ён не здолеў бы і ён ведае аб тым. Настрой сваіх жаўнераў падымае!..

Начальнік арганізацыі прамовіў да Аршака, Ранецкага і іншых старэйшын:

– Ён паведамляе, што прымае бітву...

Калі ў гэтых словах і была іронія, то яе наскрозь пранізваў боль.

Вялізная ўзброеная маса аднеслася да неспадзянкі, якая яе напаткала, спакойна і маўкліва. Рухалася з няспешнасцю цяжкіх прадметаў, якія змушаюць рухацца па лініях простых і пэўных рэйкі, што стрымліваюць іх. Ніводная часцінка не адрывалася марна ад гэтай магутнай цэласці, ніякая замінка не выяўлялася ў гэтым жалезным парадку. Шматлікія і здаля чорныя яе часткі ў многіх месцах адначасова перапраўляліся праз ваду і, пераадолеўшы яе, пакрывалі лугавое ўзбярэжжа.

А лес на гэтую пераправу ля падэшвы ягонай сілы, вожыкаватай жалезнымі пікамі, доўгі час пазіраў у каменнай маўклівасці, і магло здавацца, што ў ім нічога не існавала, акрамя казкі, якая драмала ў зачараваным палацы. Аж раптам на ягоным зялёным падложжы зноў нешта ўзарвалася з моцным грукатам, які густа пакінуў свае цёмныя сляды на вадзе і на лузе.

То тут, то там на луг і на ваду нешта падала, здаля падобнае на дробныя і чорныя плямы. Гэтае нешта падымалі і складалі на сялянскія вазы, на якіх ужо не было ездакоў.

Сфінкс, калі пачуў грымоты на ўзлеску, рассыпаўся на грамадкі, якія стараліся як мага пашырыць прастору, што аддзяляла іх ад месца дзеяння, каб такім чынам захаваць уласнае жыццё. Некалькі авечых шапак забегла аж на наш пагорак, з-за тонкіх соснаў вызіралі цёмныя твары, зарослыя валасамі, часам цікаўныя, часам зласлівыя, найчасцей абыякава прамаўляючы: “Нас не датычаць ні адны, ні другія, і бітва ваша нас зусім не датычыць. Нам усё адно!”

Відаць, гэтак жа мусілі пазіраць гелоты са сваіх прыземістых сёдлаў на бітвы на горных вяршынях афінян і лакедэманян.

Лес прамовіў громам яшчэ раз, і яшчэ, і яшчэ раз, а пасля змоўк.

Сарвалася была з зялёнай пасцелі казка, ускрыкнула і зноў апусцілася ў зачараваную цішыню. Цяпер у яе таямнічыя, глыбокія сховы ўліваліся шумныя, бліскучыя струмені. У многіх месцах адначасова яны ўліваліся, знікалі, аж пакуль не зніклі зусім. За імі ў цёмную прыціхлую сцяну ўцягваліся вазы з авечымі шапкамі, і нічога больш ужо не было.

Нічога ўжо не было, апрача блакітнай стужкі вады паміж палосамі стаптаных лугоў, акрамя хмараў, якія набрынялымі шматамі блукалі па небе, і ветру, які калываў вершаліны тонкіх соснаў. Моцны пах падымаўся ад раскіданых па пагорку ліловых плямаў чабору.

Доўга, вельмі доўга нічога не адбывалася наогул. Грамадка людзей, якія стаялі і сядзелі на пагорку, зрэдку абменьвалася ціхімі словамі. Патрэбы шаптаць не было. Падслухоўваць нас маглі хіба што дробныя птушкі, якія трывожліва аціхлі на ялаўцовых кустах і соснах. Але бываюць узрушэнні, якія бяссіллем дакранаюцца да галасавых струнаў, і моманты, калі чалавек, у чаканні Божага голасу, не смее падаць свой.

Нехта ціха спытаў:

– А цяпер дзе... дзе...

Нехта іншы дагаварыў недаканчанае пытанне:

– Дзе спаткаюцца?

– Некалі... у глыбінях лесу. Але не цяпер! Не цяпер!

– Такой цяжкай масе ўзброенага войска прадзірацца праз густыя лясы...

На тварах з’явіліся ўсмешкі.

– Нязручна!

– Жаўнер, звыклы да адкрытага поля, ненавідзіць лес...

– Начальнікі яго не ведаюць...

– Сяляне паказваюць дарогі... праводзяць...

Усмешкі зніклі з твараў. Сэрцы пранізаў боль. О, час, разносчык помсты, якая падае на галовы бязвінныя, найлепшыя! Але ці помста гэтая і над галовамі мсціўцаў таксама не развесіць покрыва цемры?

Слухайце! Слухайце! З ціхага ложа лесу зноў зрываюцца зачараваныя казкі і пачынаюць размаўляць самі з сабой! Іх змяняюць грымоты, якія становяцца ўсё больш частымі, працяглымі і гучнымі.

Не відно нічога, толькі два гэтыя грамы, якія точацца ў глыбіні лесу, запаўняюць сабой свет...

Не відно нічога, толькі працуе слых, і праца гэтая цяжкая. Кроў ад яе ва ўсіх жылах стукае, як паспешныя ўдары молатаў.

Нехта з нас ціха тлумачыць:

– Гэтыя манатонныя, цяжкія, як бы прыглушаныя гукі, гэта моцны агонь войска... а гэтыя карацейшыя, слабейшыя, быццам складзеныя з мноства дробных і хуткіх – адзін за адным – пастукванняў, гэта агонь нашых...

– А ці чуеце падвойныя, адасобленыя пастукванні? Таф, таф! – таф, таф! Гэта недастаткова вывучаныя, нястройныя – з дубальтовак!

Чуецца крык. Тлумны, пранізлівы крык, хутчэй вялізны кароткі віск узляцеў над сцяной лесу, і адразу ж за ім загрукатала ў лясной глыбіні моцная, больш працяглая, чым раней, стральба.

Гэта войска крыкнула: “Ура!” У бітву ўступаюць новыя роты.

Нечакана за намі, павернутымі тварамі ў бок лесу, нейчы голас выразна прамовіў:

– Памолімся!

Усе мы азірнуліся. За намі, паміж дзвюх тонкіх соснаў, стаяла Чарнецкая.

Высмуклая і тонкая, яна ўгору да неба падымала дробны і жоўты твар, высока над галавой уздымаліся яе рукі, на якіх хустка, што накрывала плечы, распіналася, як два крылы, вытканыя з чорных і жоўтых нітак, прасветленыя сонцам. Яна ўсклікнула:

– Памолімся!

І ўпала на зямлю з рукамі, выпрастанымі над галавой, прыціскаючы твар да сухога моху. Хустка распасцерлася з абодвух яе бакоў, як самлелыя крылы, а з-над моху моцны голас, пранізаны глухім, глыбокім стогнам, пачаў прамаўляць:

– Хрысце, пачуй нас! Хрысце, выслухай нас! Хрысце з неба, Божухна!..

У лесе грымела няспынна.

Некалькі асобаў укленчыла, іншыя засталіся стаяць.

Сярод тых, хто стаяў, быў начальнік арганізацыі. Рослы, прыгожы, са скрыжаванымі на грудзях рукамі, ён на тле дрэва, аб якое абапіраўся, нагадваў статую, скамянелую ад страшных думак. Страшныя думкі рэзалі ягоны твар мноствам фалдаў і маршчынаў так, што ён здаваўся на дзесяць гадоў старэйшым, чым быў учора. Крыху далей за ім праз іглістую заслону галін былі відны толькі дзве галавы, пакрытыя сівымі валасамі і моцна набліжаныя адна да адной. Гэта Ранецкі, белы бацька двух, мажліва, ужо смяротна пачырванелых сыноў, і цесля Антоні. Верагодна, яны ціха, але ажыўлена, аб нечым размаўлялі, бо з-за іглістай заслоны раз за разам паказваліся іхнія рукі, то бялейшыя, то цямнейшыя, робячы дзіўныя жэсты і рухі. Гэтыя рукі гаварылі, жаліліся, трывожыліся, ненавідзелі...

У лесе грымела няспынна.

Тут жа, каля мяне, прыціснуўшы лоб да сасны, укленчыла сястра Мар'яна Тарлоўскага, маладзенькая Анэлька. Гэтае сваяцтва называлі парай добрых дзяцей. Відаць, ладную, залатавалосую дзяўчыну пакахаў прыгожы Ягмін. Цяпер залатыя валасы яе рассыпаліся па дробнай дзіцячай постаці, засланілі профіль твару, і бачыліся толькі дзве вельмі малыя ручкі, сплеценыя так моцна, што аж пасінелі, і прыціснутыя да слабых і такіх нерухомых грудзей, што здаваліся бездыханнымі і нежыццёвымі. Па апалай іглiцы сасны зашалясцелі лёгкія крокі. Гэта Стэфуня, уся збялелая, ішла да распластанай на зямлі Чарнецкай, каля яе ўкленчыла і белай рукой пачала гладзіць яе валасы, якія жаласна звіліся спіральнай касічкай на патыліцы. Здавалася, яна шаптала над яе галавой нейкія словы падтрымкі ці спачування, якія, відаць, не даходзілі да яе слыху, бо ад зямлі ўсё яшчэ ішоў гучны голас, пранізаны глухім стогнам:

– Ісусе, сонца справядлівасці, злітуйся над намі! Ісусе, Ойча будучага веку...

Паважны голас Аршака, падтрыманы некалькімі галасамі кабет, адказаў:

– Злітуйся над намі!

У лесе ўсё яшчэ грымела.

Нехта некалькі разоў пранізліва крыкнуў, пасля чаго пачаў спазматычна смяяцца і плакаць. Гэта прыслуга мая, Марылька Ярашынская, трое меншых братоў якой былі там. Яе падымала з зямлі, абдымала, супакойвала Клеменціна Ранецкая, высмуклая панна з прыгожымі вачыма і разумным ілбом. На падмогу ім спяшалася некалькі мужчын.

У лесе грымела няспынна.

Я стаяла на каленях на дыванку з ліловага чабору, і такія ж дыванкі, меншыя і большыя, па схілах пагорка збягалі ўсё ніжэй, аж да белага пяску, які слаўся далёка, ажно да паласы надбярэжнага луга. На пясок і на луг клаліся доўгія касыя цені ад соснаў і вербаў, як звыкла бывае на захадзе сонца. Сонца стаяла ўжо нізка, над самым лесам, а вялікі твар яго, залаты,

ясны, пазіраў на нас абыякава і спакойна, так, як тады той гадзіннік з-над чорнай калоны – вечнае, як час, і спакойнае ў сваёй вечнасці.

У лесе ўсё яшчэ грымела.

..................................................................................

Наступаў змрок. Ужо не было над лесам сонца. Вецер разагнаў пад небам хмары і аціх. На небе выступіла толькі крышку бляклых зорак, як гэта звыкла бывае падчас поўні.

У лесе заціхлі грымоты, але не стала зусім ціха. У ягоных блізкіх, дальніх і далёкіх глыбінях чуліся і разносіліся гучныя, ціхія, а то і зусім ледзь чутныя водгукі, заклікі, гуканне.

– Гэ-эй – га-а-а-а! Го-о-о – го-о-ой! – крычала там зачараваная казка, якая сёння не магла аціхнуць і заснуць.

Тут і там, далей і бліжэй быццам нехта некага даганяў, як бы нехта некага прыспешваў да пераследу. І сярод гэтых таямнічых, працяжных, прыцішаных крыкаў калі-нікалі чуліся гучныя, кароткія, падвойныя стрэлы: таф-таф! таф-таф!

Што азначалі гэтыя стрэлы – ніхто не ведаў. Што значылі гэтыя крыкі – ніхто не ведаў.

Раптам у лесе прагучаў такі самы, як некалькі разоў да гэтага, грымотны, шматгалосы крык, хутчэй выбух. Гэта было жаўнерскае шматтысячнае "ура!"

Пасля такія самыя, як і раней, крыкі, толькі ўсё далей і далей, і такія самыя, як раней, двайныя стрэлы з дубальтоўкі: таф-таф! таф-таф! Толькі ўсё радзей...

Валасы на галаве станавіліся дыбам.

З-за далёкай дугі лесу пачала паказвацца чырвоная поўня. Гадзіна ўжо мусіла быць позняй: павінна быць ноч, бо месяц гэтай парой з'яўляецца апоўначы. Па вадзе, па пясках, па пагорку разлілося чырванаватае паўсвятло. Лес заціх цалкам.

Што там адбывалася? Што там адбываецца? Адсюль нельга было ані ўбачыць, ані пачуць кідання ў ваду канала людскіх цел, хаця да той вады найперш звяртаўся наш напружаны зрок і слых.

Месяц уздымаўся над лесам і спыніўся над ім – круглы, вялізны, чырвоны.

У цішыні, недзе ўнізе пагорка, паміж соснамі нешта прагучала, спачатку неразборліва, пасля больш выразна:

– Мама! Мама!

Гэта быў шорах, шэпт, а хутчэй самотны выдых, аднак Чарнецкая пачула яго і з крыкам: "Стасік!" ускочыла з-пад соснаў. Як высокі і тонкі цень, з крылом развязанай хусткі за плячыма, у чырвоным святле яна неслася з пагорка і разам з ёй злятаў яе здушаны голас, які крычаў:

– Стасік! А бацька? Ісусе, Божа моцны! Што сталася... Дзе бацька? Ісусе, праз пакуты і крывавы пот Твой! Ты жывы, Стасік! А бацька? Што сталася?.. Кажы...

Але змораны і моцна збялелы падлетак, з шырокім поясам на змоклым адзенні, гаварыць не мог. Ён падняў руку да шыі, ахінутай шматом, чырвоным ад крыві, пахіснуўся і ўпаў на матчыны рукі...

Ад канала пачалі паказвацца на лузе і пяску цені, якія кіраваліся да нас, дробныя здаля, у чырвоным святле чорныя людскія цені...

..................................................................................

...Ісусе, сонца справядлівасці, Ойча будучага веку, калі ж век Твой і справядлівасць узыдуць над светам?

# Аўра таленту

***Да 70-годдзя Міхася Шавыркіна***

Алесь БЕЛЬСКІ

## Жыццё з Родным Словам

У «Зводным электронным каталогу бібліятэк Беларусі» датычна персаналіі Міхася Шавыркіна, які выступаў таксама пад псеўданімам Андрэй Міраславіч, найперш пазначана «Беларускі пісьменнік», а потым ужо журналіст, рэдактар... Калі я паведаміў пра гэта Міхасю Мікалаевічу, то яму, здаецца, было прыемна. Сказаў М. Шавыркіну пра ідэнтыфікацыю ягонай асобы бібліёграфамі нездарма, бо параіў падаваць дакументы ў Саюз беларускіх пісьменнікаў, каб урэшце зацвердзіць свой прафесійны літаратурны статус. «Падстаў, каб стаць сябрам саюза, больш чым дастаткова. Вы не самотны – аж сем дзіцячых кніжак маеце», – агітаваў я М. Шавыркіна за ўступленне ў СП. На маю параду-прапанову Міхась Мікалаевіч адрэагаваў з уласцівым яму гумарам і досціпам:

– Я і так сябра пісьменнікаў, сябра вашага саюза, а вы са Скоблам – члены СП.

Так ён гаварыў, быццам тлумачыў моўныя тонкасці адносна размежавання і выкарыстання слоў «сябра» і «член». А потым чамусьці сваю адмову выказаў па-нямецку: «Найн», ды на развітанне, нібы апраўдваючыся, дадаў: «Пісьменнік – гучыць горда. Званне пісьменніка заслужыць трэба». Упэўнены, што М. Шавыркін на сто адсоткаў і болей заслугоўваў, каб быць у Саюзе пісьменнікаў. Але стрымлівалі крытычная самаацэнка, сціпласць... Магчыма, гэта была справа часу, каб ён апынуўся ў шэрагах найстарэйшай творчай арганізацыі. Ведаю, што не адзін я гаварыў яму, каб рыхтаваў дакументы ў СП, і ён ужо не быў такі катэгарычны. Ды, на жаль, крыху жыцця-часу не хапіла...

Здаецца, няма вялікай патрэбы знаёміць з асобай Міхася Шавыркіна, бо ў літаратурных і педагагічных колах яго добра ведалі і шанавалі, для нашай беларускай супольнасці ён быў свой чалавек. І ўсё ж, напэўна, ёсць сэнс у тым, каб хаця б сцісла пазнаёміць чытача з жыццём і дзейнасцю Міхася Шавыркіна, бо ў энцыклапедычнай і даведачнай літаратуры яго імя практычна не фігуруе. Выключэнне – кніга «Памяць: Жлобін, Жлобінскі раён» (2000), якая ўлучае біяграфічныя звесткі пра свайго вядомага земляка.

Гомельскае Палессе, Жлобінскі раён – радзіма Міхася Шавыркіна. Прыйшоў ён на свет 15 верасня 1947 года ў вёсцы Дзяніскавічы. Ці не самы першы адмет-

ны факт яго біяграфіі: з 1965 г. працаваў у жлобінскай раённай газеце «Камуніст». У 1970 г. ён скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Заўсёды з цеплынёй гаварыў пра філфакаўскіх выкладчыкаў М. Ларчанку, Н. Гілевіча, А. Лойку, Л. Шакуна і інш. У студэнцкія гады вызначаўся як камсамолец-актывіст. Удзельнічаў у будатрадаўскім руху, ездзіў на асваенне цалінных земляў у Казахстан. Неяк у маёй прысутнасці Міхась Шавыркін разам з Уладзімірам Карпавым, доктарам філалогіі і прафесарам, згадвалі будаўнічы атрад БДУ «Буравеснік». А яшчэ ён пераказваў мне вясёлыя гісторыі з цаліннага жыцця. Аднойчы пры сустрэчы з літаратуразнаўцам Анатолем Вераб'ём запытаў: «Памятаеш, як тады на цаліне...» Па дарозе на радзіму, вяртаючыся з Казахстана, студэнты-філолагі запыніліся ва Уральску, наведалі і прыбралі магілу Змітрака Бядулі. У час свайго студэнцтва Міхась асабліва захапіўся народнымі танцамі, запісаўся ва ўніверсітэцкі ансамбль «Крыжачок», дзе авалодваў танцавальным майстэрствам.



*Міхась ШАВЫРКІН.*

Затым Міхась служыў у Савецкай Арміі, апынуўся ў Чэхаславакіі. Лейтэнант Шавыркін быў сведкам драматычных падзей 1968 г., калі на Прагу рушылі савецкія танкі. Як і многія афіцэры, адчуваў сябе не ў сваёй талерцы, бо мясцовыя жыхары, выказваючы пагарду, звярталіся не інакш, як «Пан акупант!». Пасля дэмабілізацыі М. Шавыркін пачаў працаваць у выдавецтве «Беларуская энцыклапедыя»: з 1972 г. навуковы, потым – старшы навуковы рэдактар. Гэта быў надзвычай важны перыяд прафесійнага станаўлення і росту Шавыркіна-рэдактара. У выдавецтве ён працаваў поруч з такімі выдатнымі рэдактарамі-энцыклапедыстамі, як Я. Скрыган, А. Петрашкевіч, Я. Саламевіч, С. Самуэль, В. Скалабан і інш. У 1976 г. М. Шавыркін скончыў Вышэйшую партыйную школу. Калі некалькі гадоў таму трапіў зноў у будынак былой ВПШ на К. Маркса, 31, то на сустрэчы са студэнтамі падчас майстар-класа прызнаўся, што навучанне ў гэтай установе мела карысць для яго як будучага кіраўніка – атрымаў дадатковыя веды па журналістыцы, навучыўся сістэмна мысліць, мадэляваць і выбудоўваць стратэгіі.

Міхась Шавыркін працягваў працу ў «Беларускай энцыклапедыі». Мабыць, двойчы апавядаў мне, як на парткаме выдавецтва слухалася ягоная справа ў сувязі з разводам, ускладненнем у асабістым жыцці, за што ў выніку атрымаў партыйную вымову, хоць пагражала больш суровае пакаранне. У 1983 г. М. Шавыркін перайшоў працаваць рэдактарам аддзела ў часопіс «Народная асвета». А яшчэ стаў зяцем народнага паэта Пімена Панчанкі. Міхась Мікалаевіч жартоўна апавядаў, як напярэдадні ўрачыстай рэгістрацыі шлюбу трапіў на агледзіны да будучых цесця і цешчы. Пімен Емяльянавіч быў здзіўлены, што ў час пачосткі сялянскі сын не захацеў пакаштаваць вэнджанае сальца. Таццяна, дачка паэта, патлумачыла: «Ён сала не есць». На пачатку лета 2016 г. з Міхасём Мікалаевічам мы гаварылі пра 100-годдзе П. Панчанкі і пра ягонае, Міхасёва, 70-годдзе. Ён казаў, што папрасіў пасынка (унука паэта), каб той пакрысе пісаў успаміны пра Пімена Емяльянавіча, бо, маўляў, хутка 100-годдзе, а час бяжыць-мільгае. «Алесю! Ды і ты, спадзяюся, выкажашся», – сказаў мне, бо ведаў, што я сабраў

нямала матэрыялу для кнігі пра П. Панчанку (яе план-праспект ухваліў НМЦэнтр вучэбнай кнігі, ды неўзабаве цэнтра не стала, а праца працягвалася). «Галоўнае, каб ты нікуды не з'ехаў», – папярэджваў наконт святкавання свайго 70-годдзя. Артыкул пра П. Панчанку напісаў, слова, здаецца, стрымаў. Але няма Міхася Мікалаевіча, каб пачуць яго меркаванне пра напісанае.

У 1985 г. у Савецкім Саюзе была абвешчана перабудова. Апрача іншага, у БССР пачыналася беларусізацыя, аднаўлялася забытая ідэя беларускага адраджэння. У 1987 г. М. Шавыркін узначаліў рэдакцыйны калектыў новага выдання для настаўнікаў «Беларуская мова і літаратура ў школе». Зацвярджалі яго на пасадзе галоўнага рэдактара ў ЦК КПБ. Першы нумар часопіса выйшаў у 1988 г. З 1992 г. выданне атрымала новую назву – «Роднае слова». Гэты беларускамоўны часопіс паўстаў як адзін з культурна-адраджэнскіх сімвалаў найноўшага часу. На хвалі нацыянальнага адраджэння М. Шавыркін імкнуўся ўзняць адукацыю і культуру ў незалежнай, суверэннай Беларусі на якасна новы ўзровень. Дзякуючы арганізатарскай дзейнасці Міхася Мікалаевіча быў створаны аўтарытэтны філалагічны, педагагічны і культуралагічны часопіс. Гэта было першае выданне такога тыпу ў краіне. Часопіс «Роднае слова» набыў шырокую вядомасць і вялікую папулярнасць. І не толькі сярод настаўнікаў і выкладчыкаў. У 1990-я гг. кіраўнікі ў сферы адукацыі і культуры, розныя чыноўнікі на сталах у сваіх кабінетах выкладвалі беларускамоўны часопіс – хтосьці сапраўды меў беларусазнаўчыя зацікаўленні, нехта дзеля свайго культурнага прэстыжу як інтэлігента, а камусьці хацелася знарочыста падкрэсліць неабыякавасць да беларускай мовы, беларушчыны... Часопіс «Роднае слова» пры М. Шавыркіну дасягнуў свайго піку – у асобныя гады наклад набіраў 12-14 тыс. асобнікаў. Галоўны рэдактар за плённую дзейнасць быў адзначаны знакам «Выдатнік адукацыі Рэспублікі Беларусь» (1996). Аднак з цягам часу збіраць вялікі наклад стала справай нялёгкай і невыканальнай, пачаўся паступовы і няўхільны спад. «Але які можа быць рост накладу, калі роля беларускай мовы ў грамадстве памяншаецца?» – засмучана гаварыў Міхась Мікалаевіч пра сітуацыю з падпіскай. Змяншэнне накладу паставілі яму ў сур'ёзную віну, як знайшлі і іншыя «пралікі» ў дзейнасці. 14 снежня 2006 г. М. Шавыркіна змусілі па «згодзе бакоў» сысці з пасады галоўнага рэдактара часопіса. Насамрэч прычына была іншаю: па ягоных словах, «надаваў зашмат увагі не тым пісьменнікам». Міхась Шавыркін меў уласную грамадзянскую пазіцыю, а гэта камусьці не падабалася. Ён, рэагуючы на прэтэнзіі і закіды, казаў у недаўменні: «Часопіс змяшчаў матэрыялы пра класікаў, народных пісьменнікаў, хрэстаматыйных аўтараў – тых, хто фігуруе ў школьных праграмах і падручніках. Многія з іх адбыліся, сцвердзіліся як выдатныя творцы яшчэ ў савецкі час». Між іншым, дзякуючы выдадзенаму бібліяграфічнаму паказальніку «Беларускія пісьменнікі на старонках часопіса "Роднае слова"» (2008; 256 с.), чытач мае магчымасць упэўніцца, як шмат літаратурных артыкулаў, метадычных распрацовак і іншых матэрыялаў – прысвечаных пісьменнікам! – было надрукавана ў час рэдактарства М. Шавыркіна. На старонках часопіса быў высокі культ класікаў, пісьменнік, фігуральна кажучы, уздымаўся на п'едэстал гонару і пашаны. У сувязі з сітуацыяй вакол пазбаўлення М. Шавыркіна пасады галоўрэда можна прывесці выказванне знакамітага У. Чэрчыля, які, вядома ж, меў рацыю: «У цябе ёсць ворагі? Добра. Значыць, у сваім жыцці ты штосьці... адстойваў».

Па рэдактарскай працы ў часопісе сумаваў. Зрэдку заходзіў у бібліятэку – і праглядаў свежы нумар. Самае галоўнае для яго было Роднае Слова (і ў двукоссі, і без двукосся, як ён любіў гаварыць). Міхась Шавыркін як шматгадовы галоўны рэдактар часопіса, педагагічны дзеяч, чалавек культуры рабіў усё магчымае, каб пашырыць прастору беларускага слова. Ён марыў і працаваў дзеля таго, каб школа была беларускаю, адукацыя была беларускаю, Беларусь наша была беларускаю. Ён

імкнуўся актуалізаваць значныя ідэі і важныя сэнсы для нас, сучаснікаў. Найчасцей выступаў у друку па праблемах навучання і выхавання, пытаннях развіцця нацыянальнай школы. Беларусацэнтрычны погляд, нацыятворны дыскурс утрымліваюць артыкулы Шавыркіна-мысляра, публіцыста і асветніка, асобныя назвы якіх вельмі ёмістыя, красамоўныя: «Рамантыка і мова» (2003), «Я жыву тут...» (2004), «Асоба і мова» (2005), «Мова і патрыятызм» (2005), «Патрыятызм і дзяржава» (2005), «Малітва за родны край» (2006), «Хто мы? Беларусы...» (2006), «Імунітэт нацыі і школа» (2006), «Дзяржаўнай мове – клопат дзяржаўны і народны» (2010) і інш. Постаць М. Шавыркіна бачыцца ў кагорце выбітных і пасіянарных адраджэнцаў, руплівых асветнікаў, палымяных беларускіх патрыётаў канца XX – пачатку XXI ст. Ёсць катэгорыя людзей, якія жывуць з роднай мовы, а М. Шавыркін з ёй жыў у сэрцы, з клопатам пра яе жыў і працаваў, узвышаў, прапагандаваў і папулярызаваў яе, хваляваўся пра лёс і будучыню беларускага слова.

Свой 60-гадовы юбілей Міхась Шавыркін сустрэў на новым месцы працы. «З адзнакай годнасці», – так назваў М. Кенька сваё слова пра юбіляра і загадчыка літаратурнай рэдакцыі выдавецтва «Мастацкая літаратура» М. Шавыркіна («Краязнаўчая газета», № 35, верасень). Назва добрая, яна красамоўна характарызуе асобу знанага рэдактара і журналіста. Артыкул М. Скоблы «Па сонечным гадзінніку» ў «Родным слове» (2007, № 9) успрымаўся як даніна павагі М. Шавыркіну, былому галоўнаму рэдактару часопіса. Праз некаторы час, у красавіку 2009 г., Міхась Мікалаевіч сышоў з выдавецтва ў часопіс «Пралеска», а з 2013 па 2015 г. працаваў рэдактарам у выдавецтве «Пачатковая школа». З апошняй установы пайшоў, як кажуць, на заслужаны адпачынак. Але, нягледзячы на ўскладненні са здароўем, жыў актыўным жыццём. Ён быў у курсе ўсіх культурных падзей, паспяваў пабываць шмат дзе: і на канцэртах, і на музейных выставах, і на літаратурных святах, сустрэчах ды імпрэзах. Надаралася, кудысьці хадзілі з ім разам, абменьваліся ўражаннямі і думкамі. Наогул, ён быў вельмі лёгкі на пад'ём, ды і іншых падахвочваў да руху, да мабільнасці і актыўнасці. Ён мог зранку патэлефанаваць з рэдакцыі ў прыўзнятым настроі: «Заўтра еду ў Старыя Дарогі. Бельскі таксама абавязкова павінен патрапіць да Белага». Зразумела, ён меў на ўвазе Анатоля Яўхімавіча Белага, вядомага калекцыянера, стваральніка знакамітага прыватнага музея на сваёй радзіме, у Старых Дарогах. Або чую яго ўтрапёны голас, Міхась Мікалаевіч паспешліва паведамляе, запрашаючы да супольнай вандроўкі: «Алесю! Паехалі ў Жыровічы, там з паэтам Зьнічом сустрэнемся. Па дарозе да Алега Антонавіча ў Слонім завітаем (меў на ўвазе Алега Лойку. – *А. Б.*). Мо і я ў манахі падамся...». Наконт манаства не ведаю, ці жартаваў ён у той момант, ці сапраўды меў нейкі сур'ёзны намер, але, гаворачы пазней са Зьнічом (тады інакам Мікалаем), распытваў пра манаскае служэнне, рэгламентаванае жыццё ў манастыры і да т. п.

Свет для Міхася Мікалаевіча быў разнасцежаны. Ён як галоўны рэдактар прэстыжнага і папулярнага часопіса ці выдавецкі супрацоўнік, культурны дзеяч адгукаўся літаральна на ўсе запрашэнні – выпраўляўся на сустрэчы і мерапрыемствы ў Гродна і Брэст, Віцебск і Полацк, Валожын і Чэрвень, Лунінец і Друю, Тураў і Заслаўе, Навагрудак і Паставы, Оршу і Слаўгарад... На святкаванне 100-годдзя з дня нараджэння Кузьмы Чорнага завітаў ён і ў мае родныя Цімкавічы. Абураўся, што канцэрт у гонар класіка нашай нацыянальнай літаратуры сталічны калектыў пачаў з песні «Эх, полным-полна моя коробушка...». З канцэрта дэманстратыўна сышоў, затое наведаў маю бацькоўскую хату.

Міхась Шавыркін быў глыбока перакананы (і пастаянна гаварыў пра гэта), што ў нашай нацыянальнай прасторы можа па-сапраўднаму адгукнуцца толькі роднае слова і наша родная песня. На старонках часопіса «Роднае слова» і газеты «Звязда» актыўна папулярызаваў беларускую песенную творчасць і песні народаў Беларусі. У «Звяздзе» амаль дваццаць гадоў быў вядучым рубрык «Анталогія

беларускай песні», «Песню бярыце з сабою». Гэты яго вялікі збор лепшых узораў песеннай творчасці – аўтарская анталогія. М. Шавыркін быў сапраўдным шчырым прыхільнікам, добрым знаўцам і апантаным прапагандыстам беларускай песні. У Міхася Шавыркіна былі прыязныя чалавечыя стасункі з кампазітарамі І. Лучанком, Л. Захлеўным, В. Івановым, У. Буднікам, Э. Зарыцкім, І. Капланавым і інш. Шанаваў ён паэтычна-песенны талент М. Ясеня, У. Някляева, Л. Дранько-Майсюка, У. Мазго, Л. Пранчака, А. Бадака і іншых аўтараў, з некаторымі паэтамі сябраваў. Ён любіў сам спяваць, асабліва ў гурце роднасловаўцаў і сяброў, ведаў шмат песень на памяць. Стаў адным з заснавальнікаў фан-клуба Данчыка, у час свайго рэдактарства ў «Родным слове» стварыў куток беларускага спевака з Амерыкі. Часта наведваў музычныя, песенныя канцэрты ў філармоніі і іншых сталічных залах ды пляцоўках.

Міхась Шавыркін – і як рэдактар, і як літаратар – дасканала валодаў беларускім словам. А хіба можна неяк інакш, калі мова – твой галоўны інструмент? Міхась Мікалаевіч тонка адчуваў сэнсавыя і моўныя нюансы ў выкарыстанні роднага слова, чуйна, замілавана ўспрымаў яго хараство і спеўнасць. Ён мог пісаць сцісла, умеў фармуляваць думкі ёміста, дакладна. Скрупулёзнасць, інфарматыўнасць характэрна для яго тэкстаў, надрукаваных у энцыклапедыях «Янка Купала» (1986), «Максім Багдановіч» (2011). Больш за ўсё ён, захоплены новай ідэяй ці думкаю, любіў пісаць сэрцам, пранікнёна і вобразна. Пісаў аргументавана, імкнуўся да аналітычнага аналізу праблемы, яе ўдумлівага, узважанага, усебаковага асэнсавання... Праводзячы рэдакцыйныя лятучкі ці выступаючы перад аўдыторыяй (настаўніцкай, выкладчыцкай, студэнцкай), таксама часта браў у рукі крэйду і графічна выяўляў тую ці іншую думку-ідэю.

Літаратурны талент М. Шавыркіна асабліва ярка раскрыўся ў яго кніжках для дзяцей «Якуб Колас» (2007), «Янка Купала» (2007), «Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч» (2008). Аповеды пра класікаў напісаны эмацыйна-пранікнёна, вобразна, даходліва, да таго ж яны добра праілюстраваны мастаком У. Сулкоўскім. Адметнымі сталі і папулярна-прыродазнаўчыя кнігі М. Шавыркіна (нагадаю, на вокладках фігуруе яго псеўданім Андрэй Міраслвіч) пра поры года для чытачоў сярэдняга школьнага ўзросту – «Зіма», «Вясна», «Лета», «Восень» (усе – 2012). Надрукаванае на старонках часопіса «Пралеска» таксама можна было б выдаць асобнымі кніжкамі.

Міхась Шавыркін быў адным з вялікіх кнігалюбаў. Сапраўдны філолаг, бібліяфіл, чалавек глыбокай кніжнай культуры і высокай эрудыцыі. Ён сабраў вялікую ўласную бібліятэку. Большая частка гэтай кніжніцы доўгі час захоўвалася ў рэдакцыі «Роднага слова», энцыклапедыямі, слоўнікамі і кнігамі карысталіся ўсе супрацоўнікі. Перад адыходам з жыцця Міхась Мікалаевіч пачаў шчодра раздаваць свой кніжны збор сябрам і добрым знаёмцам.

...Міхась Шавыркін пасля вяртання з-пад Барысава, дзе лекаваўся і адпачываў у санаторыі, затэлефанаваў мне: голас гучаў бадзёра і радасна. Падумалася, што недарэмна ён узяў пуцёўку і падаўся паправіць сваё здароўе, і я адразу пракаментаваў яго такі жыццяўздымны настрой, згадваючы знаёмую вясковую кабету, якая, прыехаўшы з адпачынку з нейкай саюзнай здраўніцы, весела казала маёй матулі: «Сініторый той гоіць, поіць ды спакусы тоіць». «Тоіць, тоіць...» – падхапіў ён і распавёў пра час, праведзены ў санаторыі. Заезд Міхася Мікалаевіча пачаўся няўдала – са страсцей па беларускай мове. Яго засялілі з вайскоўцам-адстаўнікам, які запатрабаваў: «Говорите со мной по-русски, ни черта не понятно». Міхась Мікалаевіч, нягледзячы на абурэнне і нават на абразу ў свой адрас, імкнуўся трымацца спакойна, патлумачыў, чаму ён будзе гаварыць на роднай мове. Унутраных высілкаў і нерваў каштавалі яму тыя слоўныя баталіі. Напрыканцы ад'езду з санаторыя рускамоўны вайсковец ужо спрабаваў гаварыць з Шавыркіным па-беларуску.

А яшчэ Міхась Мікалаевіч, якога больш ведаў як вялікага жыццялюба і

аптыміста, раптам паведаміў: «Скончыў раман “Адпачынак на могілках”». Як на тваё, пісьменніка, успрыманне гэткая назва?». Шчыра кажучы, ён агаломшыў мяне, я нават крыху знiякавеў, не ведаў, што і сказаць. У адказ пачаў разважаць і прыводзіць прыклады, як нашы пісьменнікі давалі загалоўкі раманам. «Трэба чытаць тэкст. Але мо “Шпацыр па могілках”?» – прапанаваў я, бо назва, агучаная сп. Міхасём, не прыйшлася мне да спадобы: яна несла ў сабе песімізм і трагізм, і я падбіраў варыянты, дзе былі словы «ў засені», «на ўскраі», «наўзбоч» і да т. п. Мне хацелася размежаваць жыццё і смерць, а ў аўтарскай назве рамана насцярожвала штосьці фатальна-непазбежнае.

Міхась Шавыркін часта называў сябе прыродацэнтрыстам. Ён быў сонечным чалавекам, сонцапаклоннікам. Гэтак, як і наш вялікі паэт Янка Купала. Ён вельмі любіў Купалле – свята сонца і прыроды-маці, росквіту роднай зямлі, маладосці і кахання. Памятаецца, як разам з беларускай сябрынай мы ездзілі святкаваць Купалле ў Вязынку: пасля купальскай ночы ранкам Міхась Мікалаевіч следам за дзяўчатамі і хлопцамі падаўся ў ваду, каб адчуць яе жыццядайную прахалоду і гармонію з прыродай. Ён жыў па сонцы і прыродным календары. Не стала М. Шавыркіна 5 ліпеня 2016 г., а развіталіся з ім 7 ліпеня, акурат на Купалле, у рытуальнай зале мінскага крэматорыя. Штосьці было ў тым знакавае, сімвалічнае, што ён адыходзіў у вечнасць у дзень летняга сонцастаяння – змагання святла і цемры. Ён сабраў нас, каб мы адчулі: нягледзячы на захмараны небасхіл, беларускае сонца высока, і наперадзе ў нас, нашых дзяцей і ўнукаў сонечная будучыня. Прырода і Бог не пакінуць дзяцей сонца...

## Алесь ГІБОК-ГІБКОЎСКІ

### Аўра таленту

Напрыканцы лютага 1993 года я працаваў настаўнікам беларускай мовы і літаратуры ў адной з мінскіх школак. Паралельна атрымліваў вышэйшую адукацыю ў Беларускім дзяржаўным універсітэце на вячэрнім аддзяленні філфаку. Трэба сказаць, атрымліваў з вялікім спазненнем, бо паступіў ва ўніверсітэт ва ўзросце каля 40 гадоў. Дасюль я меў адукацыю тэхнічную і амаль 20 гадоў працаваў у канструктарскіх бюро Мінска. Але мара атрымаць гуманітарныя веды ніколі мяне не пакідала, і на хвалі нацыянальнага ўздыму канца 80-х – пачатку 90-х гг. мінулага стагоддзя мне ўдалося пачаць яе рэалізацыю.

Са мной у групе навучаўся Серж Мінскевіч – цяпер вядомы беларускі пісьменнік і навуковец, кандыдат навук. Серж хоць і быў значна маладзейшым за мяне, але ўжо плённа займаўся літаратурнай творчасцю, друкаваўся ў вядомых беларускіх выданнях. Ён усяляк падбіваў і мяне пазмагацца за месца на творчым Парнасе, і ўрэшце пачалі з’яўляцца ў друку і мае спробы пяра, першым рэдактарам якіх якраз і быў Мінскевіч.

Неяк у кавярні тагачаснага будынку Саюза пісьменнікаў Серж пазнаёміў мяне з ужо добра вядомым на той час паэтам Міхасём Скоблам, які працаваў намеснікам галоўнага рэдактара часопіса “Роднае слова”. Даведаўшыся, што я настаўнік, Скобла пацікавіўся, ці пішу вершы. Я адказаў станоўча, і Міхась прапанаваў з маімі вершамі “пратаптаць сцяжынку” ў часопіс “Роднае слова”.

Неўзабаве я ўжо сядзеў у рэдакцыйным пакоі насупраць няўсмешлівага Міхася Скоблы. Ён ўважліва прачытаў мае вершы і ўрэшце адабраў тое-сёе для будучай публікацыі. На развітанне я запрасіў Міхася выступіць перад маімі класамі, у якіх я тады выкладаў родную мову і літаратуру. Акурат падчас той сустрэчы і адбылася падзея, якая стала ў маім жыцці пераломнай. Пры развітанні Скобла раптам спытаў



*Супрацоўнікі рэдакцыі часопіса “Роднае слова”. 1995 г.*

у мяне, ці не хацеў бы я памяняць сваю працу настаўніка на больш творчую. І ўдакладніў – на працу рэдактара аддзела літаратуры ў часопісе “Роднае слова”. Ці трэба казаць, наколькі мяне тая прапанова здзівіла! Пра такую працу я не мог тады нават і марыць! Міхась прапанаваў не адкладваць справу і заўтра ж наведацца ў “Роднае слова”.

Скобла сустрэў мяне каля ўваходу ў рэдакцыю і адразу завёў у кабінет галоўнага рэдактара, які крыху затрымліваўся. Неўзабаве не ўвайшоў, а літаральна ўляцеў і сам галоўны – Міхась Шавыркін, на дзіва імпазантны чалавек, – і папрасіў прабачэння за затрымку. Тая першая сустрэча з Міхасём Мікалаевічам была кароткай, але стала пачаткам нашага знаёмства, якое доўжылася 23 гады.

З таго дня для мяне пачалося новае жыццё, у якім мяне чакалі, без перабольшання, мае самыя лепшыя і плённыя гады. Менавіта ў “Родным слове” я меў шчасце асабіста пазнаёміцца з сапраўднымі зоркамі нашай беларускай літаратуры і культуры, а з некаторымі і пасябраваць асабіста.

Не сказаць, што я вельмі лёгка ўвайшоў у новую працу. Беларускую літаратуру я, зразумела, шчыра любіў і нядрэнна ведаў, але апрача навыку праверкі школьных дыктовак і сачыненняў у мяне не было зусім ніякага рэдактарскага досведу. Таму напачатку было даволі няпроста, улічваючы “кантынгент” аўтараў, з якімі даводзілася працаваць, у асноўным людзей вельмі салідных – кандыдатаў і дактароў навук, вядомых пісьменнікаў і паэтаў. Даводзілася вучыцца, як кажуць, на хаду.

Існуюць два асноўныя метады выхавання дэбютантаў – першы, калі настаўнік вядзе свайго падапечнага ледзь не за ручку, папярэджваючы кожны ягоны няслушны крок. Другі – калі пачаткоўца кідаюць, як шчаня, у ваду, даючы яму магчымасць або выплыць і заняць месца пад сонцам, або пусціць бурбалкі... Менавіта такім быў і метад выхавання Міхася Шавыркіна як галоўнага рэдактара. Ён не ўмешваўся ў працэс і даваў магчымасць выбудоўваць маю прафесійную і творчую прастору цалкам самастойна. Але вельмі патрабавальна ставіўся да канчатковых вынікаў – да адрэдагаванага тэксту. Напачатку я часам нават не мог зразумець, чаго яшчэ хоча ад мяне галоўны рэдактар, калі, здаецца, усё зроблена як след. Прызнаюся, часам нават злаваўся ў душы, уважаючы некаторыя заўвагі Шавыркіна як прыдзіркі. Але потым у пераважнай большасці выпадкаў разумеў,

што ён мае рацыю, і што так і насамрэч лепш... Я і не падазраваў тады, што ў тым "супраціўленні матэрыялу" я актыўна гартаваўся як сапраўдны рэдактар, што рэдактарская школа Міхася Мікалаевіча стане надалей адной з самых карысных у маім творчым і працоўным жыцці. Што менавіта гэтая школа дасць мне вельмі важны творчы навык, які і сёння, ужо на пенсіі, дазваляе мне не толькі зарабляць дадатковую капейку, але і працягваць сваё развіццё як творчай асобы.

Як кіраўнік Міхась Шавыркін быў па характары далёка не цукар, таму не ўсе здолелі спрацавацца з ім. Сам будучы асобай яркай і своеасаблівай, Міхась Мікалаевіч, відаць, не пераносіў пасрэднасцей і шэрых людзей. З-за гэтага ў рэдакцыі пэўны час была даволі актыўная цякучка кадраў. Ніколі не забуду адзін канфлікт, які адбыўся ў мяне з Шавыркіным дзесьці праз паўгода маёй працы ў "Родным слове". Прычына яго была, на мой погляд, нязначнай. Але тым не менш Шавыркін выклікаў мяне ў свой кабінет, дзе разам са сваім намеснікам Міхасём Скоблам, зладзіў мне добрую "лазню". Я выслухаў начальства, але паколькі быў упэўнены ў сваёй слушнасці, то нечакана нават для самога сябе даў жорсткі адпор, прычым настолькі, што ў душы з сумам зразумеў, што пасля гэтага мне ў "Родным слове" ўжо больш не працаваць... У нялепшым настроі я пайшоў у свой кабінет і затым некалькі дзён чакаў прапановы напісаць заяву на звальненне.

На маё здзіўленне, галоўны маўчаў, наадварот, з таго дня стаў да мяне значна больш прыязным. І толькі праз шмат гадоў, згадваючы гэтую гісторыю, Міхась Мікалаевіч распавёў мне, што тая "лазня" была нечым накшталт своеасаблівага тэста для мяне і што я яго паспяхова вытрымаў: "Ёсць людзі, як надзьмутыя шарыкі-балёнікі, у які бок націснеш на яго пальцам, туды ён і пахіснецца (тут ён назваў некалькі імёнаў былых нашых супрацоўнікаў). А ёсць такія, як сцяна, вось на іх і можна абаперціся ў выпадку чаго... Тады я зразумеў, што на цябе можна абаперціся!.." Тыя яго словы былі для мяне вельмі патрэбнымі тады.

Дзесьці на другім годзе маёй працы выкрышталізаваўся касцяк калектыву "Роднага слова". Адмысловая шавыркінкаўская селекцыя дазволіла сабраць, я б сказаў, па-сапраўднаму зорны яго склад. Калектыў тады склаўся, без перабольшання, вельмі таленавіты і прыгожы як знешне, так і духоўна, якому былі па плячы самыя складаныя творчыя задачы. Апрача згаданага Міхася Скоблы ў рэдакцыі працавалі Іван Ждановіч – рэдактар аддзела культуры, паэт, песні якога нярэдка гучалі па беларускім радыё. А якія былі ў нас жанчыны – усе сапраўдныя прыгажуні! Лідзія Камінская – рэдактар музычнага аддзела, якая выдатна спявала сама, паспяхова прэзентавала ў часопісе беларускую песню. Аддзел мовазнаўства ўзначальвала фантастычна абаяльная Ларыса Сагановіч, надзвычай адказная і скрупулёзная ў падрыхтоўцы самых складаных рэдакцыйных тэкстаў – мовазнаўчых матэрыялаў. Тэхнічным рэдактарам працавала дабрэйшая Валянціна Кузьміна – душа ўсялякай кампаніі!..

Пералік імёнаў можна доўжыць доўга, бо кожны з тагачасных супрацоўнікаў быў Асобай. І "Роднае слова" тады літаральна грымела на беларускай культурнай прасторы, маючы не толькі папулярнасць, але і вельмі добрую падпіску. І, зразумела, што найбольшай тут была заслуга галоўнага рэдактара, які не толькі слушна выбіраў стратэгічны курс, што ў тыя складаныя часы станаўлення "другой беларусізацыі" было няпроста, але і змог стварыць у часопісе па-сапраўднаму творчую атмасферу.

Тая творчая атмасфера выяўлялася не толькі ў працы. Вялікі руплівец беларушчыны Міхась Шавыркін быў яшчэ і заўзятым аматарам беларускай песні. Нашыя нярэдкія рэдакцыйныя пасядзелкі, якія адбываліся, зразумела, не ў працоўны час, хутка сталі сапраўдным клубам беларускай песні, дзе ярка бруіла надзіва жыццядайная атмасфера. З захапленнем спявалі практычна ўсе супра-

цоўнікі, нават тыя, хто не меў голасу і слыху! На тыя нашы "роднасловаўскія" пасядзелкі імкнуліся патрапіць самыя розныя людзі – рэдактары іншых выданняў, вядомыя паэты і пісьменнікі, літаратуразнаўцы, артысты, тэлевядучыя, нават замежныя госці, словам, сапраўдная беларуская эліта! І ў цэнтры іх заўсёды быў Міхасць Шавыркін!..

Тая непаўторная "роднасловаўская" часіна, тая атмасфера застанецца ў памяці назаўсёды. Менавіта пра такія перыяды жыцця гавораць: "быў час, быў век, была эпоха!"

Воляю лёсу фрагмент таго слаўнага часу трапіў у гісторыю, калі ў 1997 годзе быў зняты дакументальны фільм пра часопіс "Роднае слова". Яго і сёння лёгка знайсці ў You Tube, набраўшы "Роднае слова. Міхась Шавыркін". Я асабіста ўжо не працаваў у часопісе, але на маё месца ў той час прыйшла пасля заканчэння філфаку мая дачка Юлія – тады салістка ансамбля "Неруш". Яна годна замяніла мяне не толькі на пасадзе рэдактара "Роднага слова", але і за песенным сталом, у згаданым фільме яны разам з Міхасём Мікалаевічам з імпэтам саліруюць перад камерай...

Але нішто не вечнае пад месяцам. І неўзабаве той наш зорны "роднасловаўскі" калектыў паціху распаўся. Я перайшоў на працу ў часопіс "Беларусь". І тым не менш даволі часта наведваў рэдакцыю "Роднага слова", найперш заходзіў у кабінет галоўнага рэдактара і нам заўсёды было пра што пагаварыць.

На жаль, неўзабаве ў жыцці Міхася Шавыркіна адбыліся драматычныя падзеі. Спачатку было звальненне з пасады галоўнага рэдактара "Роднага слова", дзякуючы руплівасці некаторых "добразычліўцаў", якія, дарэчы, і сёння яшчэ "на кані". А праз пару гадоў і страшны ўдар па здароўі – інфаркт.

Ужо пазней, калі на пахаванне Міхася Мікалаевіча сабралася каля сотні людзей, я згадаў нашу апошнюю сустрэчу з Міхасём Мікалаевічам, якая адбылася за некалькі месяцаў да ягонага сыходу. Мы тады сядзелі ў кавярні ГЦ "Замак", якую Шавыркін любіў. Акурат тады выйшлі дзве мае новыя кнігі, якія я і прэзентаваў Міхасю Мікалаевічу. Дарэчы, ужо назаўтра ён патэлефанаваў і выказаў сваё першае, прычым, вельмі станоўчае, уражанне пра мае кнігі, паабяцаўшы пры наступнай сустрэчы зрабіць больш грунтоўны аналіз. Зразумела, я не ведаў тады, што наступнай сустрэчы ўжо не будзе. Падчас той нашай размовы Міхась Мікалаевіч, мажліва ўпершыню, нечакана для мяне сказаў колькі слоў пра сваю самоту...

Напэўна, толькі пасля апошняга развітання са сваім былым галоўным рэдактарам і сябрам я зразумеў, гледзячы на мноства людзей, якія прыйшлі з ім развітацца, як не хапала ў апошні час Міхасю Мікалаевічу, чалавеку, які доўгі час быў на самай высокай хвалі грамадскай вядомасці, элементарных зносін з людзьмі. Ды хаця б самых простых званкоў па тэлефоне. Падумалася пра тое, што як было б добра, калі б нават дзясятая частка ўсіх гэтых людзей, што прыйшлі на пахаванне, хоць бы раз на месяц тэлефанавала Міхасю Мікалаевічу. Тады, магчыма, усё ў ягоным жыцці склалася б па-іншаму... Але гісторыя як цэлых грамадстваў, так і асобнага чалавека катэгарычна не прымае ўмоўнага ладу. Яе нельга пераіграць, як тэатральны спектакль, нельга зрушыць з месца нават пылінку з усёй гэтай няўхільнай і жорсткай інерцыйнай масы, якая завецца лёсам...

Але, не зважаючы на ўсе аб'ектыўныя і суб'ектыўныя абставіны, Міхась Мікалаевіч Шавыркін, на мой погляд, паспеў, здолеў выканаць галоўную функцыю нашага чалавечага жыцця – пакінуць свой адметны след. І ён не толькі ў некалькіх сотнях унікальных нумароў "Роднага слова" – мікрапомнікаў нашай культуры і мовы, а і ў дзясятках цікавых і неардынарных ягоных твораў, след той і ў ягонай чалавечай аўры, якая і сёння разам з намі.

## Віктар ЖЫБУЛЬ

### "– Рэдакцыя, Шавыркін!"

...Яго можна было пазнаць здалёк па шпаркай, імклівай хадзе, стройнай падцягнутай постаці і даўгаватых сівых валасах, што злёгку пакалыхваліся на ветры. У халоднае надвор'е ён апранаў чорнае паліто і надзяваў цёмны берэт, якія дадавалі да ягонага аблічча нейкі прыцягальны кантраст. Аднойчы на вуліцы на яго заглядзелася кампанія дзяцей, і нейкі хлопчык прамовіў: "Стары металіст ідзе!" Металіст не металіст, але бачна было адразу: ідзе чалавек неардынарны і хутчэй за ўсё творчы – відаць, звязаны калі не з музыкай, дык з літаратурай ці мастацтвам.

Насамрэч паводле роду сваёй дзейнасці Міхась Шавыркін быў злучаны з усім гэтым адразу. Рэдактар штомесячнага навуковага і метадычнага часопіса! І хоць "Роднае слова" было задумана перадусім як філалагічнае выданне для настаўнікаў і вучняў, у ім можна знайсці матэрыялы не толькі пра мову і літаратуру, але і пра жыццё і творчасць мастакоў і кампазітараў, пра архітэктурныя помнікі, пра гісторыю тэатра і кіно, пра народныя абрады, пра традыцыйныя беларускія назвы сузор'яў і яшчэ шмат пра што. Такі вось шырокі і разнастайны дыяпазон. А чаму? А таму што, як слушна лічыў Міхась Шавыркін, настаўнік ці вучань – а зрэшты, і любы чалавек – павінен быць асобай гарманічнай і ўсебакова развітой.

Спачатку я чамусьці быў упэўнены, што ён, сівы і мудры рэдактар "Роднага слова", сам абавязкова мусіў мець навуковую ступень – калі не доктарскую, дык прынамсі кандыдацкую. Толькі ж вось у якой галіне?

Ну, пэўна ж, у педагагічнай. Ён выдатна арыентаваўся ў школьнай праграме і, публікуючы які-небудзь матэрыял, заўсёды ставіў пытанне: а чым гэта будзе карысна для школы? На старонках часопіса заўсёды друкаваліся шматлікія метадычныя распрацоўкі і сцэнары ўрокаў, тэсты і віктарыны для вучняў... І ўсё гэта суправаджалася сур'ёзнымі канцэптуальнымі артыкуламі галоўнага рэдактара. Вось назвы толькі некаторых публікацый: "Выхаваць асобу", "Рамантыка і мова", "Грэх: Асэнсаванне гармоніі і разладу ў зносінах", "Сумленне", "Я жыву тут...: Краёва-нацыянальны дух і станаўленне асобы", "Асоба і мова", "Хто мы? Беларусы...", "Імунітэт нацыі і школа", "Малітва за родны край", "Жыцця няспынны кругабег: Прыродацэнтрысцкі змест развіцця і трансфармацыі"... Уласныя артыкулы Міхася Шавыркіна поўняцца глыбокімі развагамі, стракацяць тэрміналогіяй, сярод якой асабліва вылучаецца слоўца-канцэпт "прыродацэнтрызм". Дык можа, думаў я, навуковая ступень у яго ў галіне філасофіі?

Не, напэўна, усё ж такі ў філалогіі. Тут ён выглядаў сапраўдным эрудытам. Гэта менавіта ад яго я даведаўся пра такія тонкія моўныя нюансы, з якімі знаёмы, напэўна, далёка не кожны выпускнік філфака. Міхась Шавыркін, напрыклад, навучыў мяне адрозніваць значэнне словаў "напрамак" і "кірунак", "скончыць" і "закончыць", "той жа" і "той самы", патлумачыў, чаму пісаць "падарыць" і "навучальны" – больш карэктна, чым "падараваць" і "вучэбны"... Падчас падрыхтоўкі матэрыялаў да друку ён вычытваў тэкст апошнім і часам знаходзіў такія дробныя хібы, якіх не заўважылі ні галіновы рэдактар, ні літаратурныя, ні намеснік галоўнага. Можа нават гэта былі і не хібы, а проста трошкі сумнеўныя варыянты нормы, але яму, галоўнаму рэдактару, хацелася, каб усё было ідэальна. «"Роднае слова" павінна быць узорам! На нас будуць арыентавацца!» – казаў ён.

Тут у сваіх здагадках я быў, бадай, найбліжэй да ісціны: Міхась Шавыркін калісьці пасля заканчэння Белдзяржуніверсітэта сапраўды здаваў кандыдацкі мінімум па філалогіі, але дысертацыі так і не напісаў. Памятаю, як я здзівіўся, калі даведаўся, што ніякай навуковай ступені ён не мае, а ягоная адукацыя завяршылася Вышэйшай партыйнай школай. Хоць, з іншага боку, калі б ён не закончыў гэтую

ўстанову, яму ў 1987 годзе не далі б заснаваць і ўзначаліць дзяржаўны часопіс.



*Роднасловаўская лятучка.*
*Міхась ШАВЫРКІН і Віктар ЖЫБУЛЬ. Кастрычнік 2006.*

Галоўны рэдактар “Роднага слова” быў членам камуністычнай партыі і быццам бы ніколі з яе не выходзіў, але ставіўся да гэтага не без іроніі. Ён любіў паўтараць словы, сказаныя яму калісьці Міхасём Скоблам: “Міхась Мікалаевіч, я вас паважаю за тое, што вы верны ленінец. Не за тое, што ленінец, а за тое, што верны”. Многім, аднак, ён больш нагадваў гэткага старасвецкага беларускага шляхціца і запомніўся хутчэй інтэлігентам-адраджэнцам, якім ён, па сутнасці, і быў. Мне і дагэтуль прасцей яго ўявіць на фоне бел-чырвона-белага сцяга, а не чырвонага.

Памятаю, калі ў 2004 годзе пошукі працы прывялі мяне ў рэдакцыю “Роднага слова”, Міхась Мікалаевіч наўмысна абраў для залічэння мяне ў рэдакцыйны штат не звычайную дату, а 25 сакавіка – Дзень абвяшчэння БНР, Дзень Волі. Каб гэтая дата запомнілася мне на ўсё жыццё і, мала таго, была ўпісаная ў маю працоўную кніжку. Праўда, ужо другі мой працоўны тыдзень азмрочыўся даволі прыкрай падзеяй: за выходныя знікла рэдакцыйная шыльда, што вісела ля ўвахода ў пад’езд. Магчыма, мы асабліва моцна і не шкадавалі б, калі б нашая шыльда не была адной з трох, на якіх тады яшчэ захаваўся герб “Пагоня”, – адна з трох на ўвесь вялізны Менск. Міхась Шавыркін быў засмучаны, казаў, што ўсё гэта адбылося нездарма. Напісалі заяву ў міліцыю, але зразумела, што выкрадальнікаў шыльды так і не знайшлі.

На той час у дружным рэдакцыйным калектыве “Роднага слова” працавалі намеснік галоўнага рэдактара Яўген Рагін (ён прыйшоў у часопіс адначасова са мной), рэдактары Юры Жыбуль (мой цёзка па прозвішчы), Эдвард Карбановіч, Крысціна Пучынская, Ларыса Сагановіч, Ларыса Сівалобчык, Лідзія Шагойка, наборшчыцы Сафія Некрашэвіч і Тамара Пыльцова, вярстальніца Ганна Каўганчук, галоўны бухгалтар Валянціна Навіцкая... Рэдактарскі вопыт Міхася Мікалаевіча паспяхова перанялі яго жонка Вольга Смольская і дачка Міраслава Шавыркіна, якія даволі доўгі час таксама працавалі ў “Родным слове”.

Дзверы рэдакцыі былі заўсёды адчынены для навуковых кансультантаў, сяброў рэдкалегіі і рэдакцыйнай рады і, вядома ж, – шматлікіх аўтараў. Вакол галоўнага рэдактара гуртаваўся асяродак тых, каго мы называем нашай культурнай і навуковай элітай. Частымі гасцямі рэдакцыі былі вядомыя пісьменнікі Ніл Гілевіч, Янка Брыль, Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Уладзімір Някляеў, Анатоль Сыс, Антаніна Хатэнка, Міхась Скобла, вучоныя-мовазнаўцы Валянціна Выхота, Алесь Каўрус, Мікалай Крыўко, літаратуразнаўцы Міхась Мушынскі і Мікола Мішчанчук, артысты Таццяна Мархель, Віктар Скорабагатаў, Галіна Дзягілева, кіраўнік гурта “Ліцвіны” Уладзімір Бярбераў – усіх і не пералічыць... Сустракаючыся, размаўляючы з гэтымі людзьмі, Міхась Мікалаевіч і сам набіраўся ведаў і неабходнай у працы жыццёвай і творчай энергіі. Вядома ж, маючы такое кола стасункаў, а таксама багатую бібліятэку, якой былі занятыя ўсе паліцы ў кабінеце, проста цяжка было не стаць шматгранным і абазнаным ува ўсім эрудытам!

Ён ствараў уражанне чалавека энергічнага, актыўнага, бадзёрага і жыццяра-

даснага – заўсёды хадзіў хуткім крокам, заўсёды спяшаўся, і кожны ягоны дзень быў распісаны па гадзінах: ён імкнуўся вельмі шмат паспець. І ад нас, сваіх падначаленых, патрабаваў таго самага – працоўнай дысцыпліны і своечасовага выканання нашых месячных рэдакцыйных планаў. Ён так і паўтараў нам: "Планы, планы, планы!.." Калі спадар Шавыркін хацеў нешта патлумачыць суразмоўцу, ён даставаў аркуш паперы і пачынаў распісваць усё па пунктах і маляваць у выглядзе схемкі. І на рэдакцыйных планёрках ён стаяў перад намі ля дошкі, як выкладчык перад студэнтамі, і накрэсліваў крэйдаю тыя схемкі, лесвічкі, пірамідкі...

Міхась Шавыркін быў паглынуты сваёй працай – часопіс, можна сказаць, быў ягоным жыццём. Па словах родных, нават дома спадар Міхась, пачуўшы тэлефанаванне, мог узяць слухаўку і па звычцы сказаць: "Рэдакцыя, Шавыркін!" І пры гэтым ён заставаўся шчырым і адкрытым чалавекам, з якім можна было пагутарыць не толькі пра справы працы, але і пра ўсё, што заўгодна. Добры і спагадлівы, з лагоднай усмешкай і жывымі вачыма, ён умеў радавацца жыццю, любіў, калі на святы за бяседным сталом збіраюцца госці і спяваюць песні. Пра яго захапленне музыкай ведалі ўсе – нездарма на старонках і "Роднага слова", і газеты "Звязда" ён цягам не аднаго дзесяцігоддзя вёў своеасаблівую анталогію беларускай песні. Любіў ён часам і фрывольна пажартаваць. Напрыклад, збіраючыся замовіць каму-небудзь з аўтараў артыкул для часопіса, хітравата-ўсмешліва казаў: "Так, і каго б гэта нам згвалціць?" А неяк аднойчы падарыў мне на дзень народзінаў вельмі ёмісты фаліянт пад назвай "Библия секса".

Некаторыя свае артыкулы Міхась Шавыркін падпісваў псеўданімам Андрэй Міраславіч. Нават аднойчы ўзяў сам у сябе інтэрв'ю, падпісаўшы: "З Андрэем Міраславічам гутарыў Міхась Шавыркін". Дадам, што псеўданім застаўся з ім да канца жыцця: ужо пасля працы Міхася Шавыркіна ў "Родным слове", у 2007-2012 гадах, выйшлі некалькі кніжак для дзяцей пра пісьменнікаў і прыроду – аўтарства ўсё таго самага Андрэя Міраславіча...

Часам мы бачылі нашага шэфа не ў гуморы, калі ён нерваваўся, чапляўся да дробязяў, мог павысіць голас. Але мы не заўсёды ведалі, што адбывалася на нарадах у міністэрстве інфармацыі, куды Міхася Шавыркіна перыядычна выклікалі. А там яму перыядычна даставалася з-за таго, што нейкія асабліва пільныя чытачы-нядобразычліўцы знаходзілі ў часопісе крамолу – часта на пустым месцы – і пісалі зласлівыя даносы. Аднойчы Міхась Мікалаевіч дастаў з сейфа і паказаў мне адзін з іх. Да яго прыкладаліся ксеракопіі часопісных старонак, дзе такі вось пільны чытач старанна павадзіў асадкай пад радкамі найбольш крамольных, на ягоную думку, абзацаў і дапоўніў іх несправядлівымі абуранымі каментарамі на палях. А абзацы былі прысвечаны ўсяго толькі аналізу твораў народнага паэта Ніла Гілевіча... Таму, калі нехта скажа, што праца рэдактара спакойная, – не верце. Але Міхась Шавыркін не баяўся ніякіх перашкодаў і ўспрымаў сваю працу як ускладзеную на яго высокую місію. У адным са сваіх артыкулаў ён напісаў: "...Усе мы як зоркі. Згараем у працы, каб асвятліць прастору і пазначыць шлях наперад. Да светлай будучыні".

...Хацеў напісаць успаміны, а атрымалася хутчэй нейкая спроба асэнсаваць асобу. Менавіта толькі спроба – бо, хоць я і працаваў некалькі гадоў разам з Міхасём Шавыркіным, аказалася, што ведаў яго мала. "Нават мы ведалі пра яго мала", – сказала яго дачка Міраслава, перадаючы ў Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва бацькавы рукапісы і дакументы. Выходзіць, што і для блізкіх сваякоў многае знойдзенае ў хатнім архіве стала неспадзяванкай. Напрыклад, тое, што Міхась Шавыркін цягам доўгіх гадоў захоўваў энцыклапедычныя картатэкі, вёў дзённікі, пісаў аповесць. А многія з яго ўласных артыкулаў захаваліся ў некалькіх варыянтах, што адлюстроўваюць усе этапы працы над тэкстам: ад плану і чарнавых накідаў да канчатковай карэктуры. У адрозненне ад многіх іншых працаўнікоў слова, Міхась Шавыркін ніколі нічога не выкідаў...

## Алена ІГНАЦЮК

### Яго раўнадзенная страла

*"Віншую! – сказаў Ён мне. – Сёння Дзень зімовага Раўнадзенства – самы кароткі светлавы дзень. Сонца паварочваецца да лета, як і твае раўнадзенныя вершы... А летам раўнадзенная страла ўпадзе ў жыта..."*

Маё знаёмства з Міхасём Шавыркіным адбылося ў 1997 годзе. Тады я працавала ў Брэсцкім дзяржаўным універсітэце, які яшчэ некалькі гадоў назад быў педагагічным інстытутам. Недзе ў маі Вера Якаўлеўна Зарэцкая – загадчыца кафедры методыкі выкладання беларускай літаратуры і краязнаўства – арганізавала сустрэчу з рэдакцыяй часопіса "Роднае слова", каб мы, маладыя навукоўцы, больш актыўна давалі свае артыкулы ў часопіс. Разам з галоўным рэдактарам часопіса Міхасём Шавыркіным прыехаў малады супрацоўнік рэдакцыі Сяргей Харэвіч.

Гасцей сустракалі па традыцыі: пілі каву, елі цукеркі, гаварылі пра літаратуру, чыталі вершы. І я прачытала свой верш. А пачынаўся ён так:

Паўстанак знік у моры сініх траў,
а разам з ім цягнік "Масква-Варшава",
калі на беразе адных прыгожых мар
сябе я ад самоты ратавала...

Міхась адчуў, што я паэтка, ён прапанаваў надрукаваць мае вершы ў "Родным слове".

А далей былі творчыя сустрэчы. Па меры таго, як я спазнавала Міхася (асабліва калі працавала ў Нацыянальным навукова-асветніцкім цэнтры імя Францыска Скарыны), зразумела, што гэты таленавіты рэдактар перш за ўсё – філосаф-эстэт, і на ўсе рэчы ў свеце ён глядзіць не з боку эстэтычнай ацэнкі, а бачыць іх больш з духоўна-каштоўнаснага боку. Таму і са мною, як мне здаецца, ён пачаў сябраваць, бо ўбачыў у маіх вершах нешта духоўна-важнае для сябе. Памятаю яго словы: "Усё, што адбываецца з намі і вакол нас, успрымаецца спачатку нашымі пачуццямі, а развагі, роздумы прыходзяць крыху пазней".

Міхась тварам нагадваў маладога гусляра-язычніка: з доўгімі , як шоўк, светлымі валасамі і акуратна прычэсанай бародкай. Я нават уяўляла яго *блакітнавокім тытанам (ці Дажбогам)*, які трымаў на сабе *неба – неба* ўсіх тых людзей, якія былі *прасветленыя* яго "Родным словам".

Міхась Шавыркін часта дапамагаў мне: знаёміў з вядомымі журналістамі, паэтамі, літаратарамі (напрыклад, з Алесем Бельскім, Лявонам Баршчэўскім, Раісай Баравіковай, Наталляй Салук – галоўным рэдактарам газеты "Голас Радзімы": з сярэдзіны 1990-х гадоў гэта было адзінае беларускае выданне, якое распаўсюджвалася сярод нацыянальнай дыяспары і ў асяроддзі замежных беларусістаў) для таго, каб гэтыя сустрэчы паспрыялі майму творчаму росту. Як цяпер памятаю нашу вандроўку ў рэдакцыю часопіса "Бярозка". Была адліжная вясна 1998-га года. І ў пакоях рэдакцыі атмасфера была такая ж – адліжная, свежая, пераменлівая. Міхась пазнаёміў мяне з Міхасём Скоблам і Алесем Бадаком. На той час яны працавалі ў "Бярозцы" рэдактарамі. А мой верш "На волю адпусці свайго каня" яны адабралі для друку.

Міхась прыязджаў і на абарону маёй кандыдацкай дысертацыі, якая адбылася ў 1999 годзе ў Брэсцкім дзяржаўным універсітэце. Заўважу, маім навуковым кіраўніком быў паэт, таленавіты даследчык беларускай літаратуры ХХ стагоддзя, прафесар Мікалай Іванавіч Мішчанчук.

Адразу пасля абароны дысертацыі да мяне не раз прыходзіла думка: патрэбна пі-



*Міхась ШАВЫРКІН.*

саць доктарскую працу. Міхась пазнаёміў мяне з Валерыем Максімовічам, які выконваў абавязкі дырэктара Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі. Валерый Аляксандравіч параіў мне азнаёміцца са спісам навуковых тэмаў, над якімі я магла б працаваць, але прапанаваных менавіта ВАКам. У гэты спіс "мая герменеўтыка" не ўваходзіла. Міхась Шавыркін суцяшаў: "Галоўнае, каб чалавек быў. Доктарскай не заўсёды вызначаецца навуковы талент. Вось паглядзі... Уладзімір Мархель, як доўга і плённа працуе ў Акадэміі навук, друкуецца, а ён жа доктарскую не пісаў..."

Хочацца адзначыць яшчэ адзін талент Міхася. Ён умеў слухаць музыку. І слухаў яе, як нібы тварыў у думцы новы музычны твор. У 2-м нумары "Роднага слова" за 2008 год было надрукавана 5 маіх вершаў. А з "Вінна-жоўтым тапазам" звязана цікавая гісторыя: у 2004 годзе тэкст быў дапрацаваны і пакладзены на музыку (кампазітар Генадзь Ермачэнкаў), атрымалася прыгожая песня. Міхась Шавыркін гэта заўважыў, надрукаваў песню і напісаў да яе таленавітую прадмову.

Нашыя вандроўкі з Міхасём па Мінску часам нагадвалі "Адысею", з абавязковым адчуваннем прыгод. Памятаю, як на плошчы Якуба Коласа, ля Белдзяржфілармоніі , была арганізавана выстава *"Катарскай культурнай вёскі"*. І як чарнавокія смуглявыя арабкі-катаркі ля аднаго з шатроў раздавалі наведвальнікам акцыі – чароўныя флаконы з парфумай. Але да століка з флаконамі не дацягнуцца. Замінае людская сцяна. Вось дзіва! Калі да шатра падышоў Міхась Шавыркін, ён нібы загіпнатызаваў сваім абаяннем адну з катарак. І яна парадавала Міхася тым, што вылучыла яго з натоўпу і перадала яму ў рукі два флаконы з парфумай.

Міхась быў смелым чалавекам. У 2006 годзе, у кастрычніку, я запрасіла яго выступіць перад студэнтамі (я тады жыла і працавала ў Пінску). Ён не адмовіўся, але сказаў, што прыедзе не адзін, а з сябрамі Саюза беларускіх пісьменнікаў. Сустрэча з Алесем Пашкевічам, Барысам Пятровічам адбылася ў Пінскай гарадской бібліятэцы. Яны перадалі бібліятэцы поўнае выданне збору твораў Васіля Быкава (ініцыятарам і кіраўніком гэтага выдання быў палітык, кандыдат у прэзідэнты Аляксандр Казулін). Выступаў на той сустрэчы і Міхась Шавыркін.

А далей – у Пінску – пачаліся непрыемныя разборкі. Маўляў, навошта Казулін... Ды яшчэ перад прэзідэнцкімі выбарамі...

А крыху пазней я даведалася: Міхась Шавыркін больш не галоўны рэдактар часопіса "Роднае слова". І вось тут я адчула сябе вінаватай перад ім. Мне здавалася, што менавіта гэтая яго паездка ў Пінск і была прычынай звальнення Міхася з пасады.

У 2016 годзе, у чэрвені, мы дамовіліся сустрэцца на Плошчы Дзяржаўнага Сцяга. Гулялі. Я прыязджала ў Мінск з нагоды выдання майго новага зборніка "Будзе ўсё наадварот". Не абышлося без філасофскіх разваг.

Памятаю словы Міхася: "Што цябе хвалюе? Глядзі на *неба*, яно супакойвае. Але ў апошнім часе мяне супакойвае і тэлепраграма "Камедзі-клаб". Так! Зараз

пішу аповесць, дзе галоўны герой глядзіць на людзей іранічна... А тваю кнігу я перадам Леаніду Дранько-Майсюку. Няхай чытае. Нядаўна з ім пабываў у Давыд-Гарадку. Не перажывай, што пакінула сталіцу. Чалавека робіць шчаслівым і таленавітым не абавязкова прасторавая тэрыторыя. Галоўнае, каб чалавек быў. Яго Дух!" І Міхась пачаў маляваць на паперы дрэва, дзе крона і карані зліліся ў нешта суцэльнае. Казаў пра светабудову, пра злітнасць чалавека з прыродай, што ўсе ў жыцці грамадскія стасункі (сяброўскія, сямейныя, сацыяльныя) трэба ўспрымаць душою. І душа – гэта як верхавіны дрэва (самы высокі ўзровень быцця), яны перадаюць цягу да мастацкасці і хараства, "гэта як глядзець на заход сонца". А карані і ствол дрэва – гэта ніжэйшы ўзровень быцця, яны перадаюць фізічнае існаванне чалавека, яго цягу да падаўжэння роду, а вось галіны – гэта другі ўзровень, рацыянальны, ён як пазнавальныя захапленні грамадоўцаў ("гэта як абмяркоўваць новыя кнігі"). Галіны злучаюць верхавіны і карані дрэваў у адно цэлае, але "абмяжоўваюць чалавека ў спазнанні самога сябе, менавіта гомацэнтрызм".

Я слухала Міхася, і адчувалася, што ёсць у яго філасофіі нешта ад Гегеля, ад тэорыі абсалютнага ідэалізму, ад "разгорнутага духу". Мяне гэта вельмі цікавіла. І я адчувала сябе адным цэлым з *мінскай прасторай.*

І зноў жа ўзгадала нашыя мінскія вандроўкі з Міхасём на мяжы стагоддзяў (паміж 90-мі і нулявымі гадамі), а падземны пераход станцыі метро "Плошча Перамогі" здаваўся нам тым парталам часу, дзе можна было ўбачыць, як разам з намі паспяшаліся ў новае тысячагоддзе постаці многіх беларускіх творцаў: Уладзіміра Конана, Віталя Скалабана, Вячаслава Вайткевіча, Віктара Скарабагатава, Ганны Зайцавай і многіх іншых. І ў маіх дыялогах з Міхасём адчуваўся смак *гарачага шакаладу* ад фабрыкі "Камунарка"... А да летняга Раўнадзенства было яшчэ далёка.

## Вера МІЦКЕВІЧ

### "Дзе кожны міг кладзе свой след..."

З Міхасём Мікалаевічам Шавыркіным мы спачатку пазнаёміліся завочна. У 1993 годзе па просьбе галоўнага рэдактара часопіса "Роднае слова" мне патэлефанаваў яго намеснік Іван Ждановіч: "Вера Данілаўна, можа Вы зробіце падборку цытат з твораў Якуба Коласа да карцін мастака Уладзіміра Сулкоўскага?" Карціны ішлі каляровымі ўклейкамі, Уладзімір Якаўлевіч коратка падаваў свой матэрыял, а ў рэдакцыі вырашылі аздобіць кожны мастацкі твор адпаведнай цытатай-ілюстрацыяй. Я пагадзілася. На той час ужо два гады працавала ў аддзеле фондаў Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа, дапамагала бацьку разбіраць хатнія архівы, спрабавала пісаць. У газеце "Культура" на той час выйшла мая невялікая нататка пра верхменскі школьны званок з экспазіцыі музея. З Уладзімірам Сулкоўскім я ўжо была знаёма. Ён стварыў цыкл жывапісных работ на радзіме Якуба Коласа – Стаўбцоўшчыне. Даніла Канстанцінавіч Міцкевіч падтрымаў маладога мастака, ухваліў яго работу, атрымалася цудоўная серыя краявідаў, інтэр'ераў, рэканструкцый пабудоў. Пасля выхаду ў лістападзе 1993 года той першай маёй роднаслоўскай падборкі мы і пазнаёміліся з Міхасём Мікалаевічам. Першае ўражанне: хуткі на ўсе справы, камунікабельны, рухавы, няўрымслівы, гаваркі чалавек. Як кажуць, усё гарэла ў яго руках. Ён гаварыў па тэлефоне, хтосьці з супрацоўнікаў заходзіў-выходзіў з яго кабінета, галоўны рэдактар хутка аддаваў распараджэнні, падпісваў паперы. Тут жа гасцінна прапанаваў мне гарбаты з печывам і цукеркамі. Неяк адразу прыцягваў да сябе госця і суразмоўцу.

Пазней менавіта Міхась Мікалаевіч падштурхнуў мяне да творчай, а далей і

пісьменніцкай працы. З таго часу мне выпаў гонар быць сталай аўтаркай “Роднага слова”.

Міхась Мікалаевіч быў цэнтральнай фігурай у часопісе, генератарам ідэй. Часопіс набываў вагу і па рубрыках, і па матэрыялах, і па накладах. Значна пазней слынны прафесар Адам Восіпавіч Мальдзіс адзначаў, што ў 1990 – пачатку 2000-х гадоў часопіс “Роднае слова” быў узорным, лепшым з беларускіх часопісаў і гэта ацэняць належным чынам нашчадкі можа і праз стагоддзе.



*Міхась Шавыркін, Аляўціна і Вера Міцкевічы. Лунінец, кастрычнік 2004 года.*

У самой рэдакцыі панавала творчая атмасфера. Галоўны рэдактар заўсёды быў рады прывітаць у рэдакцыі аўтараў, вакол яго збіраліся таленавітыя людзі і больш сталага веку, і моладзь, сярод якой ён вылучаў будучых зорак. Гэта былі пісьменнікі, настаўнікі, мастакі, музыканты, літаратуразнаўцы, мовазнаўцы, фалькларысты, мастацтвазнаўцы і нават даследчыкі “зорнага неба”!

Запомніліся два выпадкі. На Каляды, перад 25 снежнем, я прыехала ў рэдакцыю з хатнім тортам павіншаваць супрацоўнікаў. У той жа час пад’ехалі яшчэ некалькі аўтараў і з Мінска, і з Палесся. Мы так хораша, па-сяброўску пасядзелі, пагутарылі і песні паспявалі. Другі раз успамінаецца 19 студзеня 2006 года, Вадохрышча, 33-градусны мароз, я адстаяла на вуліцы доўгую чаргу па ваду, страшэнна змерзла і зразумела, што дахаты не дабяруся з праспекта Пераможцаў, таму забегла ў рэдакцыю “Роднага слова” і... проста расцягнулася на ацяпляльнай батарэі ў кабінеце галоўнага. Міхась Мікалаевіч, пабачыўшы мяне ў такім заледзянелым і анямелым стане, хуценька нагрэў чайнік, заварыў гарбату, жартамі-перасмешкамі вярнуў да жыцця.

З лёгкай рукі Шавыркіна ў часопісе пастаянна друкаваліся матэрыялы на коласаўскую тэматыку навукоўцамі, супрацоўнікамі Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа і яго філіяла на Стаўбцоўшчыне. Для будучай (і па сённяшні дзень не створана!) энцыклапедыі “Якуб Колас” рэдакцыяй і, у першую чаргу, яе галоўным рэдактарам былі замоўлены і надрукаваны невялікія сціслыя артыкулы пра коласаўскі радавод, мясціны і г.д. Міхась Мікалаевіч заўсёды апярэджваў час, апантана працаваў на заўтрашні і паслязаўтрашні дзень.

Адно з маіх першых уражанняў нейкай сумбурнасці ў справах у наступныя гады знаёмства і сяброўства кардынальна змяніліся, таму я пра гэта і не ўзгадала напачатку. У сапраўднасці Міхась Мікалаевіч меў зусім іншы, глыбокі, дасведчаны, настолькі не падобны да іншых, свой унутраны светапогляд, які было няпроста, вось так з ходу, з наскоку, зразумець і адчуць ягонаму суразмоўцу. Ён быў як перапоўненая да краёў “чаша Грааля”.

Мая маці Аляўціна Цімафееўна і Міхась Мікалаевіч таксама пасябравалі. Было ў іх нешта агульнае: аптымістычны погляд на жыццё, уменне ствараць атмасферу радасці, весяліцца, жартаваць, смяяцца ад душы. Карацей – абое жыццялюбы. Міхась Мікалаевіч нават прыдумаў такую гісторыйку, што яны з маёй маці – аднакласнікі, вучыліся разам у Ленінградзе. Гэта, безумоўна, быў жарт, розыгрыш, паколькі мая матуля старэйшая за нашага сябра на 17 гадоў. Але

спадар Шавыркін так пераканаўча і ўпэўнена пра гэта казаў, што многія людзі спачатку верылі, пасля здзіўляліся і, нарэшце, зразумеўшы жарт, смяяліся. Але бывала і такое, што прымалі на веру, і тады смяяліся “загаворшчыкі”.

Міхась Мікалаевіч меў добрае чуллівае сэрца, стараўся прыйсці на дапамогу. Ён даваў начлег сябрам-падарожнікам, ездзіў сустракаць-праважаць людзей на вакзалы, быў хуткі на пад’ём, калі што абяцаў, то вельмі адказна ставіўся да гэтага.

Калі ў 1998 годзе мне зламалі нагу, то я доўгі час, амаль тры месяцы, сядзела ў хаце пустэльніцай, перасоўвалася на мыліцах па першым паверсе, бо на другі ўжо не было як дабрацца. Міхась Мікалаевіч часта тэлефанаваў, падбадзёрваў, арганізоўваў сустрэчы ў нашым доме. Памятаю, адзін раз зайшоў з аўтарам “Роднага слова” Канстанцінам Цыркуном. Маці мая была тым вечарам на працы ў Вялікім тэатры оперы і балета. Мне ж трэба прыняць гасцей. Паставіла каля пліты табурэт, паклала на яго загіпсаваную нагу, напякла бліноў, а мужчыны сабралі на стол. Іншым разам, пасля моцнага снегападу, неяк забег Шавыркін, а матуля грэбла на вуліцы снег, яны пагаварылі, гляджу, а Міхась Мікалаевіч узяў шуфель і пайшоў на другі паверх разграбаць наш вялікі балкон ад снегу. Мы былі вельмі ўдзячныя яму за гэтую дапамогу.

Міхась Мікалаевіч трапятліва адносіўся да сваіх сямейнікаў, асабліва клапаціўся пра здароўе дачкі Міраславы, радаваўся поспехам унучкі Волечкі, быў вельмі шчаслівы, калі нарадзіўся ўнук Марк, якому далі дзедава прозвішча – Шавыркін. Часта ў нашых тэлефонных размовах гучалі іх імёны, і я не раз чула: “Забягу на Камаріўку [так называў Камароўскі рынак – *В. М.*], адтуль – да Міраславы і ўнукаў”. Міхась Мікалаевіч заставаўся ў добрых адносінах і з дзецьмі былой жонкі – пасынкам Андрэем, і падчаркай Ксеніяй.

Міхася Шавыркіна ведалі не толькі ў Беларусі, а і за яе межамі. Беларусы, якія жылі ў розных краінах свету, з энтузіязмам успрынялі дэмакратычныя перамены ў беларускім грамадстве на пачатку 1990-х гадоў. Змясцоўныя, рознапланавыя, арыгінальныя матэрыялы прапаноўваў часопіс “Роднае слова”.

Аднаго года на пачатку восені я паехала ў Эстонію па запрашэнні старшыні беларускай суполкі “Бацькаўшчына” ў Таліне Ніны Савінавай. Яна прасіла прывезці камплекты “Роднага слова” за апошнія гады. Міхась Мікалаевіч патурбаваўся, падабраў, запакаваў часопісы, падвёз да аўтобуса на Цэнтральны аўтавакзал, праводзіў мяне ў дальнюю дарогу. На расейскай мытні з падазрэннем агледзелі пакункі, запыталі, што за літаратуру я вязу, але ўсё ж такі прапусцілі. Эстонскія мытнікі такіх пытанняў не задавалі і без перашкод прапусцілі “груз”. Праз тыдзень я вярталася на радзіму. Ніна Савінава ў знак удзячнасці перадала праз мяне падарункі і спадару Шавыркіну – знакаміты лікёр “Вана Талін” і салаку вострага салення. Салаку тралілі на рыбалавецкім судне “Кліа”, гаспадар якога – беларус родам з Наваградка, Васіль Падалянчык, запрасіў мяне ў госці на карабель. Гэта было незабыўнае падарожжа ў халодным Балтыйскім моры, ды яшчэ ў трохбальны шторм. У Мінску я з радасцю ўручыла Міхасю Мікалаевічу эстонскія дары. А ён трохі збянтэжыўся і кажа: “А я рыбу ніколі не еў, наогул не ўжываю”. Тут разгубілася мая маці: “Як жа так, ніколі не есці рыбы за 50 гадоў жыцця!” Трэба ведаць Аляўціну Цімафееўну, як яна можа ўгаворваць, пераконваць ды частаваць. Яна хутка падрыхтавала вячэру на стол, дзе пачэснае месца заняла тая ж салака (я прывезла 10-12 такіх запакаваных скрынак і для падарункаў і нам у хату). Рыба Міхасю Мікалаевічу спадабалася. Госць нам распавёў забаўную гісторыю свайго першага блізкага знаёмства з народным паэтам Піменам Панчанкам у якасці жаніха яго дачкі Таццяны. Гаспадар запрасіў будучага родзіча за стол, стаў частаваць салам, рыбай. А Міхась Мікалаевіч адмаўляецца есці. Тады Пімен Емяльянавіч акінуў яго здзіўленым поглядам і запытаў: “Чаму ж нічога не ясі, можа ты яўрэй?”

Наогул, да ўсіх рэлігій, прадстаўнікоў розных канфесій, што на працягу стагоддзяў жылі і жывуць у згодзе на тэрыторыі Беларусі, Міхась Мікалаевіч ставіўся паважна і тактоўна. Сябе ён вызначаў чалавекам Сусвету і прыродацэнтрыстам.

Не ўкладвалася ў галаве, як паспяваў столькі спраў адначасова рабіць Міхась Шавыркін, толькі цяпер зразумела, што за кошт свайго здароўя. Ён кіраваў часопісам, тварыў, пісаў свае арыгінальныя нататкі, часопіс быў для яго сэнсам жыцця. У газеце "Звязда" на працягу некалькі гадоў Шавыркін вёў адметную рубрыку "Анталогія беларускай песні", матэрыялы якой варта сабраць пад адну вокладку і выдаць асобнай кнігай. Галоўны рэдактар "Роднага слова" быў жаданым госцем на розных культурных мерапрыемствах, навуковых канферэнцыях, мастацкіх выстаўках, імпрэзах. Калі Міхась Мікалаевіч ужо працаваў у выдавецтве "Мастацкая літаратура", шмат увагі надаваў выданню якаснай і цікавай літаратуры для дзяцей. У артыкуле "Сумленне" ("Роднае слова", 2004, № 5, с. 110-111) Міхась Шавыркін, вызначаючы сутнасць сумлення, дбаў пра выхаванне моладзі, пра школу, якая "ў сучасны надзвычай сацыяльна землятрусны перыяд планеты яшчэ здольная шматаспектна напоўніць духоўным святлом дзіцячыя душы". Пад псеўданімам Андрэй Міраславіч выйшлі яго кніжкі для дзяцей малодшага школьнага ўзросту пра Янку Купалу, Якуба Коласа, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча ў серыі "Славутыя імёны", мастацкае афармленне – Уладзіміра Сулкоўскага. А таксама прыродазнаўчыя нататкі для сярэдняга школьнага ўзросту з серыі "Поры года", мастак Галіна Іванова.

У апошнія гады жыцця Міхась Шавыркін пісаў раман, пра што казаў сваім сябрам.

У студзені 2016 года Міхась Мікалаевіч адгукнуўся на маю просьбу адрэдагаваць маю першую кніжачку "Якуб Колас: пясняр зямлі і неба Беларусі" з серыі "100 выдатных дзеячаў беларускай культуры". Рэдагаваў ён на грамадскіх пачатках і, як заўсёды, строга, дэтальна, пакінуў па тэксце свае заўвагі. Адным студзеньскім вечарам мы ўсё гэта прапрацавалі на кватэры Шавыркіна. Праз некалькі гадзін нашых спрэчак-пагаджэнняў жонка гаспадара Вольга Леанідаўна ласкава запрасіла на гарбату з глазураванымі сыркамі "Бульба", якія мне прыйшліся даспадобы, і дагэтуль я купляю менавіта такія. Творчыя эмоцыі саступілі месца звычайным хатнім чайным размовам. Праз два месяцы тая кніжачка выйшла з друку. І я на ўсё астатняе жыццё буду ўдзячна майму сябру спадару Міхасю за тое, што ён так шчыра, прафесійна працаваў над тэкстам, зрабіў слушныя заўвагі. Шмат з чым я пагадзілася і паправіла ў тэксце, але было і такое, што пакінула ў першапачатковым варыянце, так, як бачыла і адчувала як аўтарка.

Бібліяграфічны паказальнік «Беларускія пісьменнікі на старонках часопіса "Роднае слова"» выйшаў у 2008 годзе, калі ўжо Міхась Мікалаевіч не па сваёй волі пакінуў выданне, але тое, што было зроблена за 20 гадоў, па справядлівасці належыла калектыву пад кіраўніцтвам Шавыркіна. У сваёй рабоце часта карыстаюся даведнікам, які падпісаў Міхась Мікалаевіч: "Дарагім і непаўторным Аляўціне Цімафееўне і Веры – нястомным памочнікам у роднаслоўскай справе, шчырым суперажывальнікам за адраджэнскі лёс краю і яго верных сейбітаў. З пашанаю і павагаю роднасловец Міхась Шавыркін. З думаю пра вас ад 25. 01. і да сёння – 20.04.08 і на будучыню. Менск". Падараваў і падпісаў кнігу спадар Міхась у красавіку, а 25 студзеня 2008 года ў ліцэі БДУ адбылося ўрачыстае мерапрыемства з нагоды 20-годдзя часопіса.

Апошні раз з Міхасём Шавыркіным мы бачыліся 29 чэрвеня 2016 года ў аўторак на прэзентацыі кнігі спадара Янкі Запрудніка ў Пушкінскай абласной бібліятэцы. Зала была паўнюткая людзей, вокны ўсе расчынены, але ўсё роўна было вельмі душна. Міхась Мікалаевіч выглядаў трохі стомленым і засяроджаным на сваіх думках-летуценнях. У нядзелю, 3 ліпеня, мы стэлефанаваліся, трохі па-

гаварылі на штодзённыя тэмы. Той тыдзень быў вельмі спакотны, а з наступнага панядзелка тэмпература рэзка пайшла ўніз. Па панядзелках Міхась Мікалаевіч заўсёды вечарамі бываў у дачкі і ўнукаў, па скайпе гаварыў з сястрой, якая жыве ў Казахстане. Так было і ў той, яго апошні панядзелак.

5 ліпеня 2016 года сэрца нашага дарагога сябра спынілася. Сумная вестка ашаламіла. Для родных, блізкіх, сяброў, калег, знаёмых гэта было нечакана, балюча, незразумела і несправядліва.

Містыка і адпаведная сімволіка, на маю думку, існуюць у тым, што развіталіся з Міхасём Мікалаевічам і праводзілі яго ў апошні шлях 7 ліпеня, у дзень нараджэння Янкі Купалы, а 40 дзён выпалі на 13 жніўня, 60-я ўгодкі з дня смерці Якуба Коласа. 8 ліпеня планавалася вянчанне ў касцёле ўнучкі Міхася Мікалаевіча, як жа перажывалі маладыя, што не будзе з імі побач дзядулі, і цырымонію давялося перанесці на восень.

7 ліпеня і для мяне асабіста сумная дата, таму што ў гэты дзень у 1996 годзе памёр мой бацька.

У маім мабільным тэлефоне так і застаўся нумар Міхася Шавыркіна. Здаецца, пазвоніш сябру і пачуеш знаёмыя інтанацыі ў адказ: “Калі ласка...”, адчуеш яго бадзёры настрой, і на душы адразу стане светла, радасна і лёгка.

Калісьці пісала і яшчэ раз паўтару: памяць – гэта антытэза бяспамяцтва. Дарагі Міхась Мікалаевіч! Мы, Вашы сябры, памятаем, любім Вас і будзем захоўваць у сваіх сэрцах і думках, зразумела, кожны па-свойму, часцінкі Вашага Космасу.

## Міхась СКОБЛА

### Ён жыў па сонечным гадзінніку

Міхась Шавыркін ніколі не насіў наручнага гадзінніка. А спыніш яго ці на зацішным рэдакцыйным калідоры, ці на людным шумлівым праспекце і спытаеш: “Каторая гадзіна?” – і ён беспамылкова адказваў з пагрэшнасцю да пяці хвілінаў. Зірне на сонца (калі на вуліцы), проста на імгненне задумаецца (калі ў будынку) – і вызначыць няўлоўныя гадзіны і хвіліны.

Беспахібная хада ягонага ўнутранага хранометра, незалежнага ад надвор’я і пары сутак, мяне заўсёды здзіўляла і бянтэжыла. Я неаднойчы зладжваў яму нечаканыя праверкі і шторазу быў змушаны прысаромлена пагадзіцца – Шавыркін адчуваў час, як...

І тут мне заўсёды было складана падшукаць параўнанне. Бо хто ці што ў прыродзе ўмее арыентавацца ў часе паводле ўласных адчуванняў? Вельмі рэдкія істоты. Напрыклад, лілея на вадзе вечарам стуляе свае пялёсткі, каб раніцай ізноў распусціцца. Дык тое кветка, небасхіл над якой святлее або цямнее з дакладнай перыядычнасцю. А тут чалавек, закручаны ў віры жыццёвых клопатаў настолькі, што часам сапраўды свету белага не бачыў...

Калі я ў шматспадзеўным 1991 годзе прыйшоў працаваць у рэдакцыю “Беларускай мовы і літаратуры ў школе” (пазней – “Роднае слова”), часопіс ужо быў на ўздыме. Рос наклад, шматтысячная кагорта настаўнікаў-беларусаведаў па ўсёй краіне рупілася на ніве нацыянальнага адраджэння, школа патрабавала і новых падыходаў да прадметаў, і новых несавецкіх праграмаў. А перад Годам Незалежнасці былі тры чорнарабочыя гады, на працягу якіх трэба было ўпершыню ў гісторыі Беларусі, не па гатовых лякалах, стварыць навукова-метадычны беларусазнаўчы часопіс. Гэта значыць: падабраць калектыў аднадумцаў, падшукаць памяшканне, знайсці аўтараў, наладзіць рэдакцыйна-выдавецкі працэс. І ўсё было падабрана, падшукана, знойдзена і наладжана – галоўным рэдактарам Міхасём Шавыркіным.

З 1988-га да 2007-га, дзевятнаццаць гадоў, ён цягнуў рэдакцыйны воз без перадыху. Часам забываўся на летні адпачынак, на васьмігадзінны рабочы дзень, на абед – абыходзіўся гарбатай. А перад рэдакцыяй, зранку, паспяваў абысці міністэрскія кабінеты – выбіваў дадатковы лістаж, штатныя адзінкі, каляровыя ўклейкі... І так дзень за днём, месяц за месяцам, год за годам. Як толькі не надакучвала. Мабыць, і надакучвала, але ведаў галоўны рэдактар: нацыянальная школа – падмурак Беларускага Дома. Будзе нацыянальная школа – будзе стаяць і Дом, разбурыцца падмурак, выцягне якісьці злыдзень з яго адзін-два кутнія камяні – і перакосіцца Дом, заваліцца і стане непрыдатным для жыцця.



*Каляды ў выдавецтве "Мастацкая літаратура". Студзень 2009 г.*

Разумеў Міхась Шавыркін і ролю настаўніка-беларусаведа. Так ужо гістарычна склалася, што ў Беларусі выкладчыку роднай мовы і літаратуры не толькі неабходна выдатна ведаць свой прадмет, але і нярэдка даводзіцца быць абаронцам усяго беларускага. А таму не зашкодзіць ведаць і нацыянальнае мастацтва, і беларускую міфалогію, і культуру ў розных яе праявах, і родныя песні.

Таму пераўвасабленне "Беларускай мовы і літаратуры ў школе" ў "Роднае слова" ў 1992 годзе бачыцца мне своечасовым і мэтазгодным. Методыка, гэтак неабходная на ўроку, у часопісе засталася, але цяпер настаўнік мог не спяшацца ў бібліятэку, каб пашырыць свой светагляд. Усе неабходныя веды ён мог знайсці на старонках патаўсцелага "Роднага слова". У рэдакцыю пачалі наведвацца мастакі, гісторыкі, культуролагі, кампазітары, псіхолагі, музеязнаўцы, нават астраномы... І ўсе атрымлівалі рэдакцыйныя заданні, усе вучыліся бачыць свой прадмет, сваю спецыяльнасць у рэчышчы школьных патрэбаў.

Міхась Шавыркін глядзеў на настаўніка як на творцу, як на чалавека таленавітага не толькі ў педагогіцы. Цяпер ужо і падлічыць няпроста, колькі настаўнікаў адчулі сябе паэтамі, надрукаваўшы вершы ў часопіснай рубрыцы "Літаратурны ветразь"... Памятаю, як слынны наш гісторык Мікола Ермаловіч (а перад гэтым – выкладчык мовы і літаратуры ў Маладзечанскім настаўніцкім інстытуце) прынёс свае паэтычныя творы ў "Роднае слова". Не ў "Полымя", не ў "Маладосць", дзе яны былі б апублікаваныя без чаргі. Бо ведаў Мікола Іванавіч – з сяўні "Роднага слова" зярняты ўпадуць на самую ўдзячную глебу.

Натуральна, ведалі дарогу ў часопіс і майстры слова – пісьменнікі. На вузкіх рэдакцыйных калідорах можна было сустрэць Янку Брыля, Ніла Гілевіча, Івана Навуменку, Вячаслава Адамчыка, Генадзя Бураўкіна, Анатоля Вярцінскага, Генрыха Далідовіча, Алеся Жука, Сяргея Законнікава, Вольгу Іпатаву, Васіля Зуёнка, Віктара Казько, Віктара Карамазава, Анатоля Клышку, Анатоля Кудраўца, Адама Мальдзіса, Вячаслава Рагойшу, Масея Сяднёва, Міхася Тычыну, Алеся Пісьмянкова, Хрысціну Лялько, Раісу Баравікову, Алеся Разанава, Анатоля Сыса, Антаніну Хатэнку, Язэпа Янушкевіча, Уладзіміра Арлова, Леаніда Дранько-Майсюка...

Усе лічылі за гонар надрукавацца ў "Родным слове", засведчыць сваю павагу і рэдакцыйнаму калектыву, і галоўнаму рэдактару.

А ён сам, калі ўзнікала неабходнасць, лёгка пакідаў свой начальніцкі кабінет і на грамадскім транспарце ехаў на другі канец горада – па пісьменніцкі аўтограф на вокладку, па цікавы фотаздымак да чыйгосьці артыкула, па ноты для песні...

Беларуская песня для Міхася Шавыркіна была любоўю асаблівай. І сам аматар пасяваць, ён прыкладаў немалыя высілкі, каб спявалі і іншыя. Патрэбныя ноты – з-пад зямлі дастане і надрукуе. Нездарма ён шмат гадоў вёў у газеце "Звязда" адмысловую рубрыку "Анталогія беларускай песні". Нездарма ў рэдакцыйным кабінеце сядзеў пад партрэтам Данчыка. І славуты спявак, калі прылятаў у Беларусь, проста з аэрапорта разам з фанатамі ехаў у "Роднае слова".

У тым, што Беларусь яшчэ спявае, – немалая заслуга якраз Міхася Шавыркіна. Маэстра Міхаіл Фінберг мусіць быць яму ўдзячны – столькі песняў з рэпертуару Нацыянальнага дзяржаўнага аркестра пайшло ў народ са старонак "Роднага слова" і "Звязды" дзякуючы Шавыркіну!

Міхась Мікалаевіч у сваім рэдактарскім кабінеце звычайна сядзеў за сталом, загрувашчаным рукапісамі. З белымі доўгімі валасамі – як індыйскі махатма. З гэтым ягоным абліччам настолькі ўсе звыкліся, што пасля цырульні, пастрыжанага і паголенага, не пазнавалі. Калі ў 1996-м у мінскім Доме літаратара адзначаўся выхад сотага нумара часопіса, доўга не маглі пачаць вечарыну. А як пачынаць, калі галоўны рэдактар недзе затрымліваецца? А той рэдактар хадзіў па шматлюднай зале і хітравата ўсміхаўся.

Махатма ў перакладзе з санскрыту азначае "вялікая душа". Безліч разоў мне даводзілася разам з Міхасём Шавыркіным выязджаць на выступы ў розныя рэгіёны, бываць у самых розных калектывах. І паўсюль – ці то на жнівеньскіх нарадах з настаўнікамі, ці то на сустрэчах з творчай інтэлігенцыяй, ці то на сяброўскіх застоллях – ён рабіўся душой кампаніі, умеў пажартаваць і развесяліць самых няўсмешлівых.

Вядомы фільм "Белыя росы" заканчваецца кранальнымі кадрамі: галоўны герой моліцца сонцу. Міхась Шавыркін таксама быў сонцапаклоннікам і малітвы адпаведныя ведаў. Ён жыў па сонечным календары. 22 чэрвеня – дзень летняга сонцастаяння – для яго быў святам, не раўнуючы як Новы год. Я быў звыкся чуць ад яго віншаванні ў гэты дзень.

"Я – прыродацэнтрыст", – любіў самахарактарызавацца Шавыркін. І тлумачыў, што без яднання з прыродай стану душэўнага прасвятлення, стану сатори, дасягнуць немагчыма. Шкада толькі, што стан той перадсаторны вымагаў яшчэ і адзіноты. А яе акурат і не было. Не было ў "Родным слове", не было і ў выдавецтве "Мастацкая літаратура", дзе Міхась Мікалаевіч быў вымушаны дапрацоўваць да пенсіі (за нейкі год да шасцідзесяці яго выклікалі ў Міністэрства інфармацыі і проста-з-моста абвесцілі: вы ўжо не рэдактар...).

Ён тады моцна перажываў. Відаць, перажыванні тыя не прайшлі бясследна. Здарыўся інфаркт... Калі мы з Язэпам Янушкевічам адведалі яго ў Аксакаўшчыне – перад намі быў другі чалавек: спакойны, ураўнаважаны. Толькі ўсмешка засталася ранейшая, шавыркінская.

Тады ж, на лясных сцежках, Міхась Шавыркін прызнаўся, што задумаў напісаць апавяданне пад назвай "Адпачынак на могілках". Мы з Язэпам у адзін голас тую назву забракавалі... У казённай двухмясцовай палаце Міхась Мікалаевіч прыгадаў словы Рамэна Ралана: "Цішыня і адзінота патрэбныя ў меру". І мы зразумелі, як яму, жыццялюбу і веселуну, некамфортна ў тым рэабілітацыйным цэнтры. Вось бы зараз, тыц-грыц (яго ўлюбёны выраз), у звыклай рэдакцыйнай мітусні апынуцца ці песні над ракой пасяваць...

Сябры ведалі пра мару Міхася Шавыркіна – знайсці свой "приют спокойствия,

трудов и вдохновенья”. Ведалі і не верылі. Не верыў і я, хоць аднойчы ездзіў разам з ім у Жыровіцкі Свята-Успенскі манастыр. Вярнуўшыся, усіх супакойваў – келлі Міхась Мікалаевіч сабе не выбраў, хоць малітваў у галоўным храме стараўся не прапускаць.

Дзейны па сваёй натуры, ён і пасля інфаркту не мог сядзець склаўшы рукі. Напісаў тры кніжкі для дзяцей – пра Купалу, Коласа і Дуніна-Марцінкевіча, якія ў прыгожым аздабленні выйшлі ў свет пад імем Андрэй Міраславіч. Псеўданім – у гонар дачкі Міраславы, чые па-майстэрску напісаныя апавяданні мы аднойчы абмяркоўвалі. Было відно, што бацька ганарыўся таленавітай дачкой, як і ўнучкай Вольгай, што віртуозна грае на віяланчэлі.

Свой “трохтомнік” пра класікаў Міхась Шавыркін падараваў майму сыну Вячку, а са мной зноў і зноў дзяліўся задумай “Адпачынку на могілках”. Як выглядала, апавяданне ўжо мусіла стаць аповесцю, у ім з’яўляліся новыя героі і сюжэтныя лініі. Як быццам нейкая сіла цягнула яго на тыя ўяўныя могілкі...

Мяне не было ў Беларусі, калі Міхась Мікалаевіч сышоў з гэтага свету. Я не змог правесці ў апошні шлях яго цела, але прысутнасць ягонай душы па-ранейшаму адчуваю. Ён неаднойчы мне сніўся, я чую яго жыццярадасны голас, ён нібы растварыўся для мяне ў лісці, кветках і траве. Як у тым вершы Юльяна Тувіма:

Я зросся з лісцём, з травою,
Яны ж зрасліся са мною.
Адзін нас гайдае вецер,
І сонца грэе вясною.

Каб гаварылі ў свеце
Усе, каго мы прытулім,
Або трава – на абодвух,
Або на абодвух – тувім.

Наколькі ведаю, польскі паэт не быў прыхільнікам усходніх рэлігій, якія праз падобныя пераўвасабленні абяцаюць чалавеку несмяротнасць. Ён проста так адчуваў. Што ж, не трэба баяцца ні смерці, ні несмяротнасці. Як не баяўся іх мой дарагі і незабыўны цёзка. І няважна, якой травой ці якім дрэвам назавуць калісьці нас абодвух...

## Міраслава ШАВЫРКІНА

### Дзед

***Памяці майго бацькі Міхася Шавыркіна***

Апошні падарунак дзеда. Новенькая двухкапеечная манетка. Пяцігадовае хлапчанё разглядае дзівосную бліскучую рэч, не ведаючы, што з ёй рабіць, і заціскае ў далоньцы. Гэта было 3 ліпеня 2016 года. Першага ліпеня былі ўведзеныя новыя грошы, другога – дзеду ў магазіне далі рэшту манетамі. Трэцяга – пры сустрэчы ён падарыў адну з іх унуку, расказаў, як лёгка цяпер будзе таму лічыць грошы, і вельмі ўзрадаваўся, што ніхто з сямейнікаў новых грошай яшчэ не бачыў і ён быў першы, хто паказаў гэтае дзіва маломý. А ў ноч з чацвёртага на пятае дзеда не стала...

Пазней, праз колькі дзён, мы ашчадна загарнулі гэтую манетку ў паперку і падпісалі: “Апошні падарунак дзеда Марку. 3.07.2016”. І той пакуначак не проста напамін пра дзеда, бо вельмі шмат што пра яго нагадвае. Гэта своеасаблівы сімвал яго па-дзіцячы шчырай непасрэднасці і ўмення радавацца жыццю. Рэдкаснае ўменне радавацца нейкай, на першы погляд, дробязі. Падумаеш, манетка! Але ж тут і дзедава жаданне здзівіць малога, навучыць і – галоўнае – паказаць нешта



З унукам Маркам.

новае ў навакольным свеце, ды не проста паказаць, а даць мажлівасць прыпыніцца, разгледзець, успрыняць, ацаніць – зрабіць уласным жыццёвым досведам, адкрыццём. Я, дарослая, у найгоршыя свае хвіліны вяртаюся да гэтай манеткі – апрадмечанага дзедавага імператыву радавацца жыццю, нягледзячы ні на што.

...Чаму дзед – дзед? Усё проста. Ён стаў дзедам у 1996 годзе, калі нарадзілася мая дачка – Вольга, Вальжына. І гэтае "дзед" так пасавала яму, што ў вельмі хуткім часе так пачалі зваць яго ўсе сямейнікі.

Белыя доўгія валасы дзеда – асаблівы гонар унукаў. Пазнавальны – здалёк відаць, – іхны дзед вызначаўся і вонкава, і гутаркай, і фантазіяй. Неяк прыйшоў дзед па ўнука, Марка, у дзіцячы садок, а мяч малога хтосьці закінуў на дах веранды. Выхавальніца папрасіла дзеда дагледзець дзяцей, пакуль яна сходзіць па лесвіцу, каб дастаць мяч. Выходзіць – на пляцоўцы нязвыклая цішыня, усе малыя збіліся ў гурт вакол дзеда і, літаральна разявіўшы раты, слухалі.

– Так, я Дзед Мароз! Вы ніколі не бачылі Дзеда Мароза ўлетку?! А я той Дзед Мароз, які прыходзіць летам, калі цёпла...

На гісторыі дзед быў мастак. І прыдумаць на хаду казку, і распавесці пра кветкі і дрэвы, пра птушак і звяроў, пра Сонца і зоркі. Зоркі – асаблівае захапленне дзеда. Неаднойчы згадваў, як студэнтам дапамагаў пры адкрыцці мінскага планетарыя і яму дасталася афіша пра першы сеанс. Глядзець у неба і адшукваць у ім сузор'і вучыў мяне з братам, а пасля і ўнукаў. Згадалася, як дзед з унучкай ляжалі (!) на лаўцы ў гарадскім (!) двары і разглядалі зоркі. Любоў да зорак паспеў прывіць і ўнуку. Невыпадкова Марк за жалобным сталом трапна адзначыў: "Дзед расказваў пра зорку Венеру і прыносіў прысмакі".

А ў гэтым і быў увесь дзед. Ягонае самае частае пажаданне: "Трымайся за зямлю і глядзі ў неба!" Там, у нябесным, усё ўзвышанае, светлае, тое, што дапамагае трываць жыццёвыя мітрэнгі. Ну а для падтрымання аптымістычнага настрою, вядома ж, прысмакі. А прысмакамі магло быць усё што заўгодна. Дый нагодай прыйсці з прысмакамі таксама магло быць усё што заўгодна – ад Дня піянерскай дружбы да Міжнароднага дня сям'і, не кажучы ўжо пра сапраўдныя святы, найперш сямейныя.

І сам прыход дзеда быў для ўнукаў падзеяй. Падзеяй не таму, што дзед завітаў у госці (а бываў ён у нас апошнім часам часта: і два, і тры разы на тыдзень), а таму, што ўсё міжволі вакол яго актывізавалася, напаўнялася стваральнай энергіяй. Розніца паміж унукамі – чатырнаццаць гадоў, таму і так званая праграма гасцявання дзеда для кожнага была свая. Са старэйшай – пагаварыць пра яе надзённае, паслухаць, як яна іграе на віяланчэлі ці фартэпіяна. З малым, натуральна, пачытаць кніжку, пагартаць мастацкі альбом, потым гульні.

Дзякуючы дзеду, апрача вялікай колькасці кніг па мастацтве, набытых яшчэ за савецкім часам, з'явілася і калекцыя на сто тамоў, выдаваная "Камсамольскай праўдай". Сам дзед любіў перасоўнікаў, асабліва творы з трагічным сюжэтам, напрыклад, Васіля Пярова. Быў выпадак, пачула, як наўзрыд заплакала дачка (ёй

было гадоў пяць). Што здарылася?! А яна на канапе з дзедам, у руках паштоўка з рэпрадукцыяй "Апошніх провадаў": "Тата памёр!.." І я ж ведаю гэтыя творы з маленства, і мне ж калісьці бацька паказваў гэтыя самыя рэпрадуцыі, у піцерскім Рускім музеі не мела патрэбы чытаць назвы карцін і аўтараў – усё было знаёмае...

Дзіцячая душа ўразлівая. Праз такія шчымлівыя моманты і выхоўваецца спачуванне, здольнасць суперажываць. Тое, што дазваляе чалавеку застацца чалавекам, у якім гарманічна спалучаюцца розум, душа і дух, – аніяк інакш, на думку дзеда. Такія простыя і адначасова складаныя рэчы інтуіцыйна адчуваюць дзеці. Неяк Марк, ведаючы не вельмі прыхільнае стаўленне дзеда да мульцікаў, папрасіў яго: "Дзед, давай пакажу табе мульцік! Я ад яго развіваюся". Пасля таго як малы ўпэўнена адказаў на дзедава пытанне, што канкрэтна ў яго развіваецца, мульцік быў паспяхова прагледжаны.

Але гульні з дзедам па весялосці перасягалі любыя мульцікі. Чаго вартае майстраванне адмысловых прыладаў для дрэсіроўкі катоў, а потым і сам працэс дрэсіроўкі! Тэатр ценяў, выраб самалётчыкаў і чоўнікаў, прыдумлянне ўсемагчымых казак... Неаднойчы Маркаў пакой ператвараўся ў вялізны будан з крэслаў, падушак ад канапы, пледаў. Усё змацоўвалася адмысловым чынам, і толькі дзед з унукам ведалі, як дабрацца ўсярэдзіну, дакладней, як выбрацца адтуль. Іх не было відаць – чуваць толькі шэпт ды смех.

Аднак галоўнае – дзедавы расповеды. Расповеды пра тое, як ён быў маленькі. Звярнула ўвагу, што дзед расказвае малому гісторыі з свайго дзяцінства, якія я ніколі не чула. На пытанне, чаму не расказваў гэта мне з братам, пацiснуў плячыма. Можа, гэта прыйшло з узростам – моцнае жаданне расказаць пра сябе менавіта ўнуку? І чэпкая дзіцячая памяць збірала эпізоды дзедавага жыцця.

Вось маці купіла ў Жлобіне кавун, везла, а потым колькі кіламетраў пехатою – несла экзатычны прысмак дзецям. А яны, малыя, пакаштавалі і... ніякага захаплення, не ацанілі – дзіва што, вясковыя дзеці (для дзеда на ўсё жыццё ўлюбёнай садавінай засталіся яблыкі)... Шчымлівы ўспамін старога з запозненай удзячнасцю маме...

Вось ён, вясковы хлопчык Міша, басаnож, з парэпанымі нагамі, хаваецца ў высокай траве з хмялёва-духмянымі праскамі, услухоўваецца ў рытмічнае стракатанне конікаў, узіраецца – ажно рэжа вочы! – у таямніча-глыбокае неба... Ці не тут – у неўсвядомлена-дзіцячай самоце на ўлонні прыроды ў яго з'явілася думка: што ёсць радзімай?..

Вось ён упершыню святкуе дзень народзінаў. Да шаснаццаці гадоў і не ведаў, калі ў яго той дзень, – не прынята было святкаваць. А тут бацька прынёс сыну мяшэчак з цукеркамі: "На, ідзі пачастуй сяброў: у цябе сёння дзень народзінаў". Вось так і даведаўся, калі нарадзіўся...

Вось ён, цікаўны хлопчык, бяжыць у школу. Бяжыць радасна і шчасліва, на поўныя грудзі ўдыхаючы жыццядайнае паветра роднай падняпроўскай зямлі. Столькі неспазнанага наперадзе, столькі адкрыццяў!

Час школьніцтва – шчаслівы час. Школьнае заданне Вольгі разгледзець і апісаць птушынае пяро ператварылася ў захапляльны паход з дзедам у парк на Камсамольскім возеры. Унучка з дзедам – твары свецяцца, у кожнага ў руках букеты з даўжэзных чорных пёраў – літаральна засыпалі імі роднасловаўскі рэдактарскі пакой. Дзе ж столькі назбіралі? Колькі варон абшчыпалі? Матэрыялу для вывучэння, на думку дзеда, шмат не бывае.

З далечы школьнага маленства Мішы Шавыркіна – і любоў да кніг. Гэта ж цэлы сусвет! Прага да чытання, спазнання новага і выспела ў справу жыцця. Любоў да кніг сумеў прывіць і мне, і маім дзецям. Асабліва ўнук цешыў дзеда сваім захапленнем кнігамі. У кожны прыход дзеда да нас яны чыталі. Твор – на выбар малога. Калі па-руску, дзед адразу перакладаў і "чытаў" па-беларуску.

І Марк пасля, калі гэтую ж кніжку чытала яму я, так бы мовіць, у арыгінале, дзівіўся, што я “не тыя словы” чытаю.

Уваччу стаіць: ляжаць на канапе ў бібліятэцы (ацепленая лоджыя са стэлажамі кніг) абодва, абодва М. Шавыркіны (Міхась і Марк), дзед ужо прыснуў, а малы ўсё малюнкі разглядае – ціхенька, каб дзеда не разбудзіць.

...Маламу Мішу Шавыркіну не было каму чытаць: жыццё вясковае нялёгкае, клопатнае, сям’я шматдзетная, дарослыя заўсёды занятыя справамі. Дый адукацыя ў бацькоў – чатыры класы ў бацькі, Мікалая Міхайлавіча, і адзін – у маці, Пелагеі Яфімаўны. І школьнік Міша чытаў сам. Напачатку браў кніжкі ў сваёй настаўніцы. Электрычнасці ў Дзяніскавічах не было яшчэ. Палілі газніцу, падвешаную да столі. Маці спаць ужо ляжа (уставала а пятай), а каля адзінаццатай падымецца:

– Міша, колькі можна чытаць?! Усю газу папаліў... У школу рана ўставаць, спаць кладзіся!..

А сын чытаў. І еў... цукар. На стале кніга, а побач мяшэчак з цукрам (тады цукар прадавалі ў палатняных мяшэчках). Чытаў і час ад часу нахіляўся над мяшэчкам лізнуць той цукар – есці ж хацелася. І хрумсціць цукрам, чытаючы... Пазней, калі сын ужо вучыўся на філфаку Белдзяржуніверсітата, маці казала:

– Божа, калі б я знала, што такі вумны будзе, хай бы ўсю ноч гарэла тая лямпа і цукар еў бы...

Дзед неаднойчы згадваў такую важную для яго дэталь пра сваю маці. Яна – беларуска, бацька – рускі, з Паволжа. Калі ён, Міша, нарадзіўся і трэба было запісаць яго, паўстала пытанне, якую ж нацыянальнасць пазначаць (славутая пятая графа). Маці шчыра падзівілася: “Якая ж нацыянальнасць можа быць? Ён жа тут нарадзіўся. На гэтай зямлі. Беларус”. Пры рознага кшталту спрэчках пра статус беларускай мовы ў нашай краіне дзед падкрэсліваў, што тады, напрыканцы саракавых, малаграматная вясковая жанчына не сумнявалася, якой нацыянальнасці дзіця, народжанае і гадаванае на Беларускай зямлі, на якой мове з ім гаварыць. Вось такая беларускасць была ў генах, у крыві, у, здаецца на першы погляд, простым сялянскім выхаванні. І менавіта так, па-простаму, дзед выхоўваў нас, дзяцей і ўнукаў: вы нарадзіліся тут, вы беларусы.

І дзедава сэрца цешылася, калі ўнукі гаварылі па-беларуску, калі ўнучка вучылася ў 23-й беларускамоўнай гімназіі (а сёлета і ўнук пойдзе ў першы клас гэтай гімназіі – як бы ганарыўся дзед!..), калі ўнучка выходзіла замуж і строі маладых былі ў нацыянальным стылі, як калісьці і ў яго самога, а рэгістрацыя шлюбу на беларускай мове...

...А тады, у пяцідзясятыя, хлопчык Міша чытаў, адукоўваўся... Родная беларуская ў мясцовым варыянце мова выцяснялася “правільнай” школьнай, а потым і рускай, каб потым зноў вярнуцца і стаць усвядомленай жыццёвай пазіцыяй. Рэдка калі дзед згадваў, што ён выдатнік асветы Беларусі. Але ён быў насамрэч выдатнікам асветы: і ў гады школьніцтва, калі ў хату Шавыркіных прыходзілі непісьменныя бабулькі-суседкі, каб Міша ўголас пачытаў ім кніжкі, і на пасадзе галоўнага рэдактара “Роднага слова” – галоўнай справы ўсяго жыцця, бо часопіс быў для яго больш чым праца. І, вядома ж, ён быў найпершым і найлепшым настаўнікам для ўнукаў. Нават не настаўнік – выхавальнік. Па дарозе на лецішча, а дарога лесам і полем, у парку паказваў дзецям траўкі, кветкі, дрэвы, расказваў пра іх, вучыў адрозніваць (як бедаваў дзед, калі трохгадовы Марк пераблытаў лісты клёна і дуба!). Натуральна, такім чынам і выхоўвалася любоў да Беларусі. Вось якраз тут і ёсць дзедава “трымайся за зямлю”...

Дзед – гэта папяровыя караблікі на першых ручаінах (і яны даплывуць да Чорнага мора – не сумнявайцеся і вучыце геаграфію). Гэта ахапак рознакаляровых восеньскіх лістоў, з якіх можна зрабіць лістапад нават у гарадской кватэры. Гэта гурбы, з якіх па жаданні можна зрабіць і снежны замак, і нару, каб хавацца, і горку

акурат пад свой памер. Гэта зоркі, безліч зорак, недасягальных і таямнічых, і сярод іх – абавязкова! – Венера, Мілавіца. Гледзячы на яе, як не згадаць Багдановічавы радкі! І як хораша марыцца пад зоркавым святлом! І дзед ва ўсе сезоны – гэта неба. Высокае і нізкае, сонечнае і хмарнае, з рознымі – ад пяшчотна-блакітнага да смарагдава-зялёнага – колерамі (заўсёднае дзедава пытанне “Колькі бачыш адценняў, напрыклад, сіняга?”) і аблокамі самых дзівосных формаў (і наступнае пытанне “Да чаго падобнае вунь тое воблачка?”). Вось тут яно – дзедава “глядзець у неба”...

Дзед быў вялікі жыццялюб. Гэта выяўлялася і ў паўсядзённых справах – уменні шчыра радавацца любой, нават найменшай дробязі, напаўняючы яе жыццяносным сэнсам. Прыгадваецца ягоная звычка падскочыць і пляснуць у далоні, калі хто паведаміць прыемную навіну. Жыццялюбнасць была і ў стаўленні да могілак і смерці. Калі трапляў у новыя мясціны, абавязкова наведваў могілкі, казаў, што могілкі – наша будучыня. У апошнія гады абяцаў напісаць “Адпачынак на могілках”. Неяк я заўважыла: “Дзед, ты гэта ніколі не напішаш...” Ён толькі ўсміхнуўся. Ягоная няўрымслівая душа ніколі не ведала спачыну, выпадаў адзіны варыянт адпачыць – сапраўды на могілках... Па ім засталіся толькі радок у электронным варыянце і колькі старонак накідаў – магчыма, таго самага “Адпачынку...”. Відавочна, гэта пісалася для себе – расчытаць заскладана (прызначанае для чытання заўсёды пісаў акуратна)...

За дзень да свайго адыходу ў тэлефоннай размове дзед нечакана для мяне сказаў:

– Думай пра малога. Думай толькі пра будучыню. Тое, што зараз, гэта дробязі...

Памятаеце, як заканчваюцца казкі? Напрыклад, вяселлем галоўных герояў. Тое, што пасля, застаецца за кадрам. Дзіўнае адчуванне, што дзед выгадаваў унучку, прайшоў з ёй амаль дваццаць гадоў яе жыцця, убачыў яе першыя публікацыі – на беларускай (!) мове, як яна стала студэнткай Акадэміі музыкі і як выйшла замуж – у белай ільняной сукенцы з чырвонай вышыўкай. Да меркаванай даты вянчання заставалася ўсяго тры дні. Такі быў канец дзедавай казкі. І нібыта прадчуваў, што казку пра ўнука яму недагледзець... Ён вельмі хацеў, каб Марк яго запомніў (пры першым жа нашым наведванні яго пасля інфаркту ў бальніцы запытаўся, ці ёсць фотаздымкі, дзе ён з малым, – вядома ж, ёсць). Ва ўнука ён укладваў усё, што сам назбіраў за сваё жыццё, і імкнуўся ўкласці як мага болей, паспець... І Марк яго запомніў.

У лагодна-блакітным небе малы адшуквае празрыстае воблачка – там дзедава душа. Упэўнены: яе радуюць ягоныя хлапечыя радасці і засмучаюць – беды... І гэта не проста ўспамін пра дзеда, а нябачная повязь, трывалая памяць, якая жывіць сілай, каб трымацца за зямлю і глядзець у неба...

Янусь Малец



...пра гэты твор гавораць, спрачаюцца, а вось прачытаць лішні разок уважліва саму паэму, выглядае, шмат хто часу не знаходзіць...

# Кароль смеху, або Сказ Гілевіча нашчадкам

***Трыпціх***

*Светлай памяці Ніла Гілевіча*

## *Частка першая.* **Капуснік? Падключыце мазгі!**

2016 год быў юбілейны для Ніла Сымонавіча Гілевіча. На вялікі жаль, свайго святочнага дня нараджэння Народны пісьменнік не дачакаўся. Ён пайшоў з зямнога жыцця ў іншае вымярэнне ў канцы сакавіка, а пахаванне адбывалася 1 красавіка, калі звычайна адзначаюць Дзень смеху.

Старэйшае пакаленне памятае артыстку размоўнага жанру Ганну Рыжкову. У народзе яе называлі каралевай смеху. Адметны голас, манера паводзін на сцэне, выпраменьванне якойсьці неспасцігальнай энергіі з вачэй – не пакідалі нікога абыякавымі.

Вось як запісаў у дзённіку пра гэта аднойчы Гілевіч: “Рыжкова ў маёй прысутнасці чытала ўрывак з “Родных дзяцей”. Мала сказаць – поспех: фурор і гвалт! Не проста рагаталі – раўлі і стагналі”. У смех яна ўкладвала, здавалася, усю душу. Але іншы як ні імкнецца, як ні напружваецца, а паміж сцэнай і залай – глухая пустэча. Тлумачыцца ж гэта проста: адсутнічае дар з неба. А ў дадзеным выпадку адбылося спалучэнне двух д*а*раў: артысткі і паэта!

Кажуць, таленавіты чалавек – таленавіты ва ўсім. Апошні Народны паэт такім і быў. Пералічваць яго шматграннасць наўрад ці варта, бо зойме гэта плошчу не адной часопіснай старонкі. Хіба толькі адзначыць, што ў гаспадарчых справах не ўдалося сябе праявіць належным чынам, у чым ён праўдзіва прызнаваўся. У асноўным хатнія клопаты трымаліся на плячах незабыўнай і вернай спадарожніцы па жыцці Ніны Іванаўны. Аднак, вядома: з артыста і пісакі гаспадар ніякі. Каб ён аддаўся напоўніцу хатняй, дачнай, яшчэ нейкай бытавой бегатні, тады б наша сённяшняя размова насіла зусім іншы характар, калі б увогуле была.

Дарэчы, падчас развітання, калі труна нябожчыка знаходзілася ў царкве, у эфіры адной з радыёстанцый гучалі з вуснаў некаторых прамоўцаў разважанні, што Ніл Гілевіч не быў аратаем. Што ж, на дачных сотках амаль не быў. Затое як годна працаваў на творчай ніве! У той час, як большасць успамінала ў гэты дзень самае важнае і светлае пра нябожчыка, памянёным вышэй некаторым карцела расказаць, што нейкая цётка ў гілевічаўскай Слабадзе не можа дасюль дараваць жулікаватаму хлопцу Нілу ўкрадзены ім у дзяцінстве сланечнік. Таксама гучалі самаўпэўненыя разважанні пра знакаміты “Сказ пра Лысую гару”. Бачыце, каб Гілевіч не прызнаўся ў аўтарстве, то гэта быў бы шэдэўр, а так ператварыўся ў капуснік. Нейкая недарэчная логіка. Дый час жа знайшлі! А можа, каб на месцы Ніла Сымонавіча быў які пажаданы іх сэрцам і мазгам іншы творца, то гучаў бы хваласпеў нябожчыку і не плялі б не да месца непатрэбшчыну? Ды што гадаць, як ёсць, так ёсць.

Парадавала выказванне Міхася Скоблы ў часопісе “Верасень” (№1 за 2016, стар. 162): “У артыкуле пра эпіграму ў вышэйзгаданым “Паэтычным слоўніку” (слоўнік В. Рагойшы. – *Я. М.*) названыя ажно трыццаць тры класікі жанру, пачынаючы ад Катула і Вальтэра і заканчваючы айчыннымі майстрамі эпіграмнага досціпу Анатолем Вялюгіным і Рыгорам Барадуліным. На дзіва, чамусьці сярод гэтых трыццаці трох не згадваецца імя Ніла Гілевіча – як на маю думку, беларускага сатырыка №1, аўтара бліскучых сатырычных паэмаў, найперш славутага “Сказа пра Лысую гару”.

Што не згаданы Ніл Гілевіч, вядома ж, не парадавала. Дарэчы, многа дзе яго не згадвалі, калі трэба было згадаць. Іншая справа, скажам, калі не згадаў нехта з “надта дасведчаных” маладых крытыкаў у сваіх разважаннях, скажам, пра нейкія міфічныя перамогі беларускіх літаратараў за мяжой. Калі называецца імя Васіля Быкава, то пагадзіцца можна, але ж называюцца некаторыя імёны, якія здзіўляюць Еўропу і Амерыку, ды пра якіх беларускія чытачы і многія крытыкі часам нават не чулі. Ды будзем лічыць, як гаворыць М. Скобла, што проста здараюцца прыкрыя выпадковасці. Парадавала ж мяне асабіста іншае – выказванне пра сатырыка №1!

На маю думку, Ніл Гілевіч – Кароль смеху, менавіта з вялікай літары. Яго вострая сатыра і неверагодна вясёлы гумар з беларуска-народнай асновай і маштабнасць зробленага на гэтай ніве дазваляюць зрабіць такую выснову. Нават у творах, якія ён не імкнуўся данесці да чытача, праяўляецца талент, здольны выклікаць смех і ўзняць надоўга настрой. Ведаю, што ў аўтографах, падпісаных сябрам, гэта часта здаралася. Напрыклад, у кніжцы “З Божай ласкі – дасеўкі”, якую ён падарыў свайму сябру і аднагодку Яўгену Стасевічу, такое вось чатырохрадкоўе:

Не магу гарэлку піць,
Не хачу да дзеўкі.
Думаў, думаў, што рабіць,
І зрабіў “Дасеўкі...”

Ён умеў быць такім, нават у цяжкім жыццёвым становішчы, калі хваробы і нястачы атакавалі адна за адной...

А вось яшчэ адзін верш, які гуляў па інтэрнэцкіх прасторах, але чамусьці яго, наколькі мне вядома, Ніл Сымонавіч нідзе не друкаваў і ў зборнікі не ўключаў. Можа, лічыў яго не надта значным ці думаў яшчэ над ім папрацаваць. А можа, збіраўся ўключыць у дадатковыя тамы да 23-томнага збору, якія планаваў выдаць. Напісаў яго паэт пасля наведвання піўзавода ў Маладзечне з дэлегацыяй падчас свайго дэпутацтва. Лепшай рэкламы, відаць, ніякаму іншаму прадукту ў сусветнай літаратуры не было і няма. Напісаў яго віртуозна сапраўдны Майстар!

**ОДА МАЛАДЗЕЧАНСКАМУ ПІВУ**

Маладзечанскае піва –
Гэта, братцы, казка-дзіва,
Гэта – проста нейкі цуд!
Пра яго і слова тут.

Я на свеце шмат дзе быў
І такія півы піў,
Што, бывала, дух займала
Ад шыпучага каўша.
І здавалася спярша,
Што і бочкі будзе мала,
Каб адмякнула душа.

Ды аднойчы гонар выпаў –
Маладзечанскае выпіў!
З пылу, з ходу, не ўрасцяжку
Асушыў да донца пляшку.
І павінен быў прызнацца:
З ім не можа параўнацца
Аніякае другое –
Нават вельмі дарагое:
Ні ў фігурыстых бутэльках,
Ні ў піжоністых бляшанках.
Пій, Амелька, лыкай, Фэлька,
І што кепска жыць – не шамкай!
Глянь, як смачна нашы госці
П’юць і хваляць ад мілосці.

Быў з Баварыі баварац
(Там ад веку піва варaць),
Выпіў пляшку і сардэчна
Заявіў зусім спакойна,
Што на фоне Маладзечна
Іх пітво – не больш чым пойла.

Быў і чэх – нашто ўжо шчыры
Патрыёт сваёй Айчыны –
А забыўся, што хваліць
Канкурэнтаў – небяспечна.
Сем разоў прасіў падліць –
І ўсё: “Брава, Маладзечна!”

Быў і фін – маўчун, аднак жа
За піўцо хваліў адважна

Суайчыннікаў сваіх,
А як гакнуў кіло з гакам
Маладзечанскага – плакаў,
Што абчыкалі мы іх.

Мужыкі! Апошні дурань
Смокча гару з вінакурань,
А хто мае добры густ,
Хоча добра жыць шчасліва,
П'е, пакуль не змякне вус,
Маладзечанскае піва!
П'е, бо ведае, сябры,
Што якой не будзе стома,
Калі вечарам ён дома
Абамберыць шклянкі тры –
Як рукою стому здыме,
Так у жылах кроў памкне –
Што аж нават гаспадыні
Падміргне і намякне.
Вось такое гэта піва:
Проста цуд і казка-дзіва,
Перад ім усе пачціва
Півы іншыя – набок!
Маладзечанскага піва,
Што з бутэлькі прэ імкліва,
Белапенна і шумліва –
Дайце, братцы, хоць глыток.

Ну як? Нават непітушчы, магчыма, захацеў паспытаць казку-дзіва. І ўсё таму, што аўтар тут умела падпарадкаваў харэй і стварыў элегантную сінтаксічную структуру твора, выкарыстаў багаты, трапны слоўнікавы запас. І сумнявацца ў аўтарстве няма падстаў, бо адчуваецца гілевічаўскі стыль, які нават спрактыкаваны парадыст наўрад ці зможа годна перадаць.

У Ніла Гілевіча ёсць асаблівы шарм, кажучы ягонымі словамі, – *паходка верша*, якімі б паэтычнымі сродкамі ён ні карыстаўся. Асабліва ярка паэт здолеў падпарадкаваць сваім задумам той жа ямб у такіх значных творах, як “Родныя дзеці” і непаўторны “Сказ пра Лысую гару”.

На даследаванне раней ананімнай паэмы я патраціў два дзясяткі гадоў і не шкадую. Самае галоўнае, што, дзякуючы маім даследчыцкім намаганням, давялося бліжэй пазнаёміцца з таленавітым літаратарам, грамадскім дзеячам і фантастычна адданым Беларусі і беларускай мове чалавекам. Ён бескампрамісна змагаўся за свае ідэі, за сваё разуменне будучыні Айчыны. Часам нават блізкія сябры не маглі зразумець і ацаніць ягоную праўду і адчайныя дзеянні і ўчынкі. Дзякуй Богу, з ім верна і самаахвярна прайшла па жыцці каханая жанчына, лагодная і ў той жа час мужная Ніна Іванаўна!

Маштабнасць зробленага Нілам Гілевічам яшчэ будзе асэнсаваная належным чынам. Хочацца верыць! Хаця пасля смерці апошняга Народнага паэта як бы нешта ўнутры мяне надламалася. Прычым падобнае я чуў і ад іншых. Трывожна ў Беларусі, неспакойна на свеце... А патлумачыць, што да чаго, пазмагацца – сумленна, смела, шчыра, разумна, як нашыя папярэднікі... Часам здаецца: ужо такіх моцных духам і розумам асоб як бы і няма, або ім не даюць годна несці сцяг змагання за роднае, бацькоўскае.

Але што гэта я пра сумнае? Кажуць жа, смех ратуе! Давайце вернемся да твора, які “можа больш сказаць народу, чым іншы збор у шмат тамоў”. Пра гэты твор гавораць, спрачаюцца, а вось прачытаць лішні разок уважліва саму паэму, крытычную палеміку і дыскусіі вакол яе, выглядае, шмат хто часу не знаход-

зіць.Гавары ім: хто аўтар – і ўсё тут! А не каб самім прачытаць з розумам, пра што прасіў у паэме колішні ананім. А без розуму, без належнага асэнсавання, галаслоўна мянціць языкамі і прыніжаць аўтара і ягоную працу – ці сумленна гэта?

Тут Караткевіч рухам звыклым
Насупраць сонца ўзняў бакал:
– Дык і давайце, хлопцы, лыкнем
Мы за здароўе Ведзьмака!

Вядома, праўда вочы коле,
Дык без яе, скажу вам я,
Нічога людскага ніколі
Не выйдзе з нашага рая.

Пакуль не станем як належыць
Цаніць сумленнасць у сабе –
Вядзьмак не кіне нас драпежыць:
Не гэты – іншы дадзяўбе!..

Падключылі розум? Пра што гэта вуснамі Караткевіча? Гэта капуснік? Эх, вы... У вас іншае разуменне смешнага. Гэта я пра некаторых самаўпэўненых крытыкаў.

Вось так і вучанаму Яську
І ў думках мроіцца, і ў сне,
Што ён адзіны варты бляску
“За дасягненні ў галіне...”

Таму калег з саней агульных
Ён выштурхоўвае плячом
І едзе гэтакім культурным,
Інтэлігентным дзеячом!

А каб ідэй яго зыходных
Ніхто не здолеў агаліць –
Давай на “ўсходніх” і “заходніх”
Адзінакроўны гурт дзяліць...

Ах, Яські, Яські! І калі вы
Паразумнееце, дальбог?
Калі замест культурнай нівы
Наўсцяж раскінецца аблог?

Калі ўзбуяе пустазелле,
Як на гародзе Васіля?
Ах, Яські, помніце: пахмелле
Вам будзе страшнае пасля!..

І гэта капуснік? Не, даражэнькія! Ці не пра гэта ж самае ў адным з сур’ёзных сваіх вершаў, “Спярша...”, пісаў Н. Гілевіч:

Спярша прывучаць вуха, вока
Да чужамоўя, а тады...
Тады ўжо будзе недалёка
Да непапраўнае бяды –

Калі па кроплі, як атрутай,
Чужым напоўніцца душа
І ўжо не ўспомніць у пакутах,
Якой была яна спярша.

Каб твор мастацкі чытаўся, каб чытач не закрыў кнігу, трэба ўнесці інтрыгу, знайсці нейкія хады, чаго і хапае ў “Сказе...” Тут і элементы пародыі, і гратэск, і іронія, і сатыра, і карнавальнасць. За гэтым усім праглядваецца, адчуваецца тое сурёзнае, што як бы і не заўважаецца, але вось ужо больш за чатыры дзесяцігоддзі не адпускае, прымушае спрачацца, нават рабіць падробкі. Несумненна, усё дзякуючы вялікаму таленту аўтара паэмы.

Ацэнак станоўчых пра “Сказ” хапала, але найбольш трапна, на мой погляд улавіў значнасць і сутнасць працы Ніла Гілевіча Іван Штэйнер у сваім ёмка-грунтоўным артыкуле ў “Краязнаўчай газеце” (№36 (389), верасень 2011 г.), які потым быў уключаны ў кнігу “Узрост вышыні” (Мінск: “Канфіда”, 2012 г. Укладанне Сяргея Гілевіча). Назва артыкула: «“Сказ пра Лысую гару” Ніла Гілевіча і “Карабель дурняў” Себасцьяна Бранта». Ужо з назвы можна зразумець, што сучасны беларускі твор узносіцца да аднаго з узораў еўрапейскай сатырычнай літаратуры. Зроблена гэта крытыкам бліскуча і пераканаўча. Не сумняваюся, што ў далейшым сапраўдныя даследчыкі творчасці народнага паэта будуць неаднаразова звяртацца да гэтай крытычнай працы.

Так, Ніл Гілевіч быў няпростым ва ўзаемаадносінах з некаторымі людзьмі, калі бачыў крывадушнасць, няшчырасць, нахабнасць, цынізм і да таго падобнае. Так, ён не цырымоніўся з уладнымі каралькамі-прыстасаванцамі, не глядзеў на іх рангі і пасады. І пакрыўджаных, відаць, хапае. Колькі зайздроснікаў балбочуць аб тым, што ён нібыта ўсяго нахапаўся, што ўсё рабіў для нейкай міфічнай кар’еры і славы. І бяздоказна прыпісваюць яму ўсялякія грахі, як гэта шматкроць рабілася пры жыцці...

Вось як незадоўга да смерці Ніла Гілевіча ў крытычнай палеміцы пра аўтарства “Сказа пра Лысую гару” ў інтэрнэце ставіў мяне на месца адзін творчы чалавек: “Шкада, Вас, Янусь! Адзін аўтарства прыгрэб, а Вы смакуеце гэта. А як жа Анатоль Астрэйка? Ці Вы хоць ведаеце дзе накідваліся строфы паэмы. Нілу і засталося потым усяго стыль шліфануць. Чалавека, які цьмяна быў знаёмы з Лысагорскімі рэаліямі, узяў нафантазіраваў праўды на цэлую паэму. Ну і падыход у Вас. Абгрунтаваны і ўзважаны. Вярніцеся да гісторыі стварэння Сказу яшчэ раз. Дарэчы, у мяне выпадкова маецца Трэцяя частка рукапісу Сказу пра Лысую гару. Нідзе не друкавалася і чытаная толькі адзінкамі. Цікава? Дык і там Ніл Гілевіч таксама побач не стаяў”.

Прыйшлося даць такі адказ: “Рукапісаў і падробшчыкаў было мора. Плётак таксама. Мне Вас яшчэ больш шкада, бо Вы з Нілам ГІЛЕВІЧАМ і побач стаяць не павінны. Вы хоць разумееце, якія абвінавачванні робіце і якому чалавеку?.. Падыход Ваш “супераргументаваны”. Калі Вы так добра ведаеце гісторыю стварэння Сказа і маеце нейкую Трэцюю частку рукапісу, то дзе ж Вы раней былі? Дзіўная нейкая сціпласць і сарамлівасць... Толькі, мне здаецца, ёсць гэты “трэці” машынапіс і ў мяне. Пасрэдная спроба ці то пародыі, ці то нейкага працягу плагіяцкага, вялага і бязмэтнага. Дзякаваць Богу, там Ніл Сымонавіч, сапраўды, і блізка не стаяў. Такую слабую рэч ні адна сур’ёзная рэдакцыя не возьмецца друкаваць, а калі і купіцца, то чытачы прэсны блін есці не паквапяцца”.

Мяне здзіўляла і здзіўляе, як смела і самаўпэўнена шмат хто разважае пра славутую паэму, абапіраючыся на сумніўныя крыніцы, не ўнікнуўшы ў тэкставую сутнасць твора, лянуючыся параўнаць і прааналізаваць створанае з творчымі набыткамі магчымых аўтараў, пасачыць за крытычнай палемікай у прэсе. Мне вось так хочацца! так здаецца! – і ўсё тут! Пераканаць амаль немагчыма. Будуць шукаць “забойчыя” аргументы, як, напрыклад, такі: твор калектыўны, бо аднаму стварыць такую рэч было не пад сілу.

Эх, хлопчыкі і дзядочкі, вам не пад сілу, а Нілу Гілевічу з яго талентам і працаздольнасцю яшчэ як пад сілу! Пабачылі б вы, у якім стане, з “букетам

хвароб", амаль аслеплы (толькі на нейкі час быў адноўлены зрок на адным воку) ён працаваў, акружаны стосамі архіўных папак і папер, часопісаў і кніг у апошнія гады свайго жыцця. Выдаць 23 тамы выбраных твораў і шэраг іншых зборнікаў, каля дзесяці кніг пайшоўшай з жыцця Ніны Іванаўны і да таго яшчэ актыўна друкавацца ў перыёдыцы... Каму з вас такое пад сілу? Не чалавек, а Акадэмія нейкая! Дык пазайздросціце па-добраму, а не зласліва ці проста бяздумна мянціце языкамі, абы мянціць...

## *Частка другая.* **Пра выклік Ведзьмаку, пра шыфроўкі і пра аўтографы-падзякі ад былога ананіма**

У 1995 годзе ў здвоеных 1-2 нумарах часопіса "Крыніца" быў надрукаваны нашумелы "Сказ пра Лысую гару", крыху адрозны ад ранейшых "вожыкаўскіх" выданняў. Там жа былі апублікаваны крытычныя артыкулы і пісьменніцкія водгукі з меркаваннямі пра магчымага аўтара.

Прызнаюся, раней я асаблівай увагі гэтаму твору чамусьці не надаваў. А тут раптам часопісная публікацыя выклікала неадольнае жаданне знайсці таямнічага ананіма. Як бы нейкая няведамая сіла падштурхоўвала да неадкладных пошукаў. Ужо не памятаю, як да мяне трапіла памянёная "Крыніца", але менавіта яна дала штуршок да напісання за вельмі кароткі адрэзак часу "выкрывальнага" артыкула ("Звязда", 19 сакавіка 1996 г.).

Помніцца, артыкул ствараў у нейкім эйфарыйным стане. Адшукаў у двухтомніку Ніла Гілевіча раман у вершах "Родныя дзеці" і стаў праглядаць яго, параўноўваючы з ананімнай паэмай. І быў яшчэ больш узбуджаны: дык гэта ж адзін да аднаго стыль ананіма і Ніла Гілевіча! Стаў аналізаваць іншыя ягоныя кніжкі з гумарам і сатырай і дзівіцца: чаму ж ніхто не хоча сказаць пра відавочнае? А калі і гавораць, то неяк асцярожна, з бояззю, а Вядзьмак жа не асцярожнічаў у тэксце і нават правакаваў на пошукі...

Артыкул напісаўся на адным дыханні. Аднёс яго ў "Чырвоную змену", аднак там не асмеліліся на друкаванне, а вось у "Звяздзе" галоўны рэдактар уважліва прачытаў і паведаміў, што матэрыял яму спадабаўся. Праз некалькі дзён ён быў апублікаваны на поўны разварот газеты з каментарыямі рэдакцыі і некаторых вядомых літаратараў. Помню, пачаліся розныя званкі, у часе аднаго з якіх, напрыклад, Міхась Скобла, здалося, хапаўся за галаву: "Янусь, што ты нарабіў?!" З далейшай размовы стала зразумела, што ён не зусім пагаджаецца з маімі меркаваннямі, але адчувалася зацікаўленасць.

А сам я быў як бы і ўзрадаваны такой вялікай публікацыяй і без умяшання ў аўтарскі тэкст, а ў той жа час апанавалі ўсялякага роду сумненні і страх за зробленае, за будучую рэакцыю з боку Ніла Гілевіча. Адразу скажу, што аніякай відавочнай рэакцыі і не было. Аднак, толькі праз працяглы час пра гэта будзе ўпершыню сказана публічна ў дзённікавых запісах у "Дзеяслове". Рэакцыя, аказваецца, была. Вось яна:

"*14 сакавіка.* Занёс у "Звязду" вершы, а там для мяне "сюрпрыз": Наркевіч папрасіў пазнаёміцца з рукапісам, у якім даказваецца, што аўтар "Сказа пра Лысую гару" – Ніл Гілевіч. На думку Наркевіча – доказ вельмі пераканаўчы. "Сам я цяпер ужо амаль не сумняваюся!" – "А як жа быць, – пытаю, – з інтэрв'ю ў "Крыніцы"? – "Самазванец нейкі!.." Рэдактар просіць маёй згоды на публікацыю – іначай аўтар Янусь Малец надрукуе дзесьці, і гэта будзе горш, бо – "без нашага каментара", "мы дык яшчэ можам падтрымаць ауру таямнічасці". Рабіце, кажу, як хочаце, усё роўна ад мяне прызнання не пачуеце... Падобна, што будуць друкаваць".

І ўжо працяг рэакцыі непасрэдна ў дзень публікацыі: "*19 сакавіка.* "Звязда"

апублікавала “навуковае даследванне” Я. Мальца пад грознай назвай: “Вядзьмак! Рукі ўгору!” Змешчаны і меркаванні паэтаў наконт аўтарства “Лысай гары”. Р.Б. са скуры лезе – што гэта фальклор і шукаць аўтара не трэба. І ўжо больш умерана ацэньвае паэму. У свой час выдаў па вышэйшаму разраду. Цяпер, відаць, пачалі адкрывацца вочы на сапраўднага аўтара, а гэта для яго крайне не пажадана; вось і хапаецца – то за Звонака, то за фальклор, – абы адвесці ўбок ад ісціны. Ах, дарагі-шаноўны калега, давядзецца ўсё-такі прызнаць аднойчы!”

Пра артыкул і доказы аўтарства гаварыць буду па магчымасці коратка; хто вельмі захоча, той знойдзе, як прачытаць. Адно мяне самога дзівіць да сёння нечаканае “азарэнне”. Прычым мной быў выказаны шэраг здагадак, вызначаныя накірункі ў пошуках аўтарства, якія ў цэлым аказаліся слушнымі. Пасля ўжо раптам з’явіўся і стаў актыўна развіваць даследаванне, уносячы больш разгорнутыя штрыхі, Яўген Стасевіч, аднагодак Ніла Гілевіча і блізкі сябар яшчэ з юначых гадоў. Ён нават выдаў на аснове пошукаў Ведзьмака ў 2003 годзе кніжку “Хто ты, Вядзьмак-Лысагорскі?”, якая была перавыдадзена з дапаўненнямі ў “Беларускім кнігазборы” ў 2004-м, калі ўжо стала вядома імя аўтара “Сказа...”

Самы галоўны кірунак, які быў абазначаны мной, гэта пошук стылявога і моўнага падабенства Ведзьмака і магчымага аўтара, ягоная грамадзянская пазіцыя і таленавітасць. А яшчэ быў кірунак, які я намацаў, дзякуючы правакацыйна-сэнсавай гульні Ведзьмака, якая асабліва ярка праявілася ў памянёнай публікацыі ў “Крыніцы”. Аднак гэты кірунак яшчэ можа несці нейкія нечаканасці, бо пра яго Ніл Гілевіч публічна нідзе і нічога не гаварыў. Я маю на ўвазе адкрытыя мной шыфроўкі. Іх пакуль толькі дзве.

Першую я адшукаў адразу і апублікаваў тады ж у “Звяздзе”. Мяне насцярожыла назва раздзела “Хто адкрые аўтара” і асабліва чатырохрадкоўе:

Дык што ж выходзіць? Дзед старэчы
Пісакам крыкнуў “Каравул”?
Панове! Творца гэтай рэчы –
Ні аксакал, ні саксаул.

Выкіньце ў экзатычных і не да месца словах **аксакал** і **саксаул** па першых шэсць літар, пакінуўшы толькі па апошняй літары, і ўбачыце, што атрымліваецца. Для нагляднасці вылучу ў гэтых словах літары, якія трэба чытаць:

Панове! Творца гэтай рэчы –
**Ні** аксака**л**, **ні** саксау**л**.

У пазнейшых публікацыях паэмы раздзел прапаў і не публікаваўся. Знік ён ці то з-за разгадкі шыфроўкі, ці то з-за граматычнай няправільнасці, якая, напэўна, была спецыяльна зроблена і якую адразу не заўважыш: трэба ўсё ж, відаць, “не аксакал, не саксаул”. А можа, і з-за таго, і з-за гэтага. Ці з нейкіх іншых прычынаў. Шкадую, што не запытаўся ў аўтара, хаця мог і не атрымаць адказ, бо ён любіў і ў жыцці пагуляцца, калі заходзіла размова і запытанкі пра яго любімы твор. Хітра ўсміхаўся і спрытна выкручваўся. Гэты стыль паводзін трапна заўважыў паэт Мікола Шабовіч:

Ён вершаў напісаў гару,
А “Сказ пра Лысую гару”?..
На гэта хітра так смяецца –
І ўсё ж... ніяк не прызнаецца.

Другую шыфроўку я адшукаў не адразу, бо яна больш прыхаваная. Напэўна, Ніл Сымонавіч сумняваўся, што яе могуць разгадаць, таму і даў больш просты варыянт у “Крыніцы”. Другі шыфр-ключ у такіх радках:

А хто пісаў паэму гэту,
**І** дзе тварыў ён, і калі –
**Н**авечна канула у **Л**ету –
**І** толькі бурбалкі пайшлі!

Прачытайце, калі ласка, як бы праводзячы ўяўныя лініі ад вылучанай пачатковай літары **Н** у трэцім радку (літары вылучаны мной. – *Я. М.*) да **І** ў другім радку і да **Л** у Леце. А яшчэ ад таго ж **Н** у тым жа трэцім радку чытаць да пачатковага **І** ў чацвёртым і да **Л** у Леце. Атрымліваецца трохкутнік, дзе двойчы, як і ў першай шыфроўцы, што была ў "Крыніцы", паўтараецца імя творцы, якое канула ў Лету. Дзякуй Богу, не навечна.




Разгадку другой шыфроўкі, насамрэч самай першай, якая была ад самага пачатку ў рукапісах, я апублікаваў у артыкуле "І камп'ютар непатрэбны" ў "ЛіМе" 20 жніўня 1999 года. Там жа сцісла паўтарыў галоўныя меркаванні наконт магчымага аўтарства Ніла Гілевіча, які аніяк не рэагаваў на мае патугі і нічога не аспрэчваў. А Яўген Стасевіч і ў вуснай размове, а потым і ў артыкулах надта ж упэўнена пацвярджаў разгадку шыфровак. Прывяду адну цытату:

"Раней (Звязда, 1996, 19 сак.) "падняць рукі ўгору" прасіў яго і Янусь Малец, які, дарэчы, на мой погляд, найбольш дасканала прааналізаваў тэкст паэмы і нават адкрыў закладзеную аўтарам у "Сказе" шыфроўку "Ніл" (Літаратура і мастацтва, 1999, 9 ліп.). Але, як відаць, гэтага было недастаткова, каб аўтар загаварыў. Мусіць, патрэбны больш грунтоўныя доказы аўтарства "Сказа", якіх ён чакае. Не хачу быць арыгінальным, але лічу, што галоўны "ключ" да разгадкі схаваны аўтарам у калектыўным подпісе пад "Сказам аб незвычайнай эпідэміі ў старажытнай Тутэміі". Імёны аўтараў гэтай рэчы размешчаны ў наступным парадку:

Францішак Вядзьмак-Лысагорскі,
Баркулаб Дамавік-Крывіцкі,
Базыль Раскапэнда-Бабэцкі,
Вавіла Ваймяцца,
Зімавей Зюзя,
Амільян Заткала-Задняпроўскі.

Хто такі Баркулаб Дамавік-Крывіцкі і Базыль Раскапэнда-Бабэцкі, нам ужо вядома. Аказваецца, ён жа і Францішак Вядзьмак-Лысагорскі! Дык вось і ўсё... У справе пошукаў аўтара паэмы "Сказ пра Лысую гару", на маю думку, час паставіць кропку. Да вышэйпералічанага спіса трэба дадаць яшчэ адно імя: Ніл Гілевіч" ("Крыніца", 2001, №3).

Не магу не сказаць колькі слоў пра галоўны "ключ". На яго я звярнуў увагу Яўгена Стасевіча падчас першай нашай сустрэчы ў яго кватэры. Думаў выкарыстаць заўважанае мной у будучых сваіх даследаваннях. Ды праз нейкі час убачыў публікацыю з гэтым "арыгінальным" адкрыццём без аніякай ссылкі на мяне.

Аднак крыўдаваць не выпадала, бо галоўны "ключ", на мой погляд, настолькі бачны, што яго і разгадваць было вельмі проста. Гэта ўжо, лічу, быў прэвентыўны ход да прызнання ў аўтарстве Нілам Гілевічам. Зроблены ён быў у "ЛіМе" ад 27

снежня 1996 г. Як і яшчэ такі ж прэвентыўны, бачны нават сляпому не “ключ”, а “ключышча”, змешчаны ў літаратурна-мастацкім выданні ў Беларускім выдавецтве Таварыства “Хата” ў 1999 годзе з сатырычнымі паэмамі “Ачмурэнне” і “Гэй, наперад! Гэй, назад!” У кніжцы і эпіграф “Быў час, быў век, была эпоха”, і малюнкі-шаржы, у якіх яўна праглядваўся вядомы паэт, і прадмова Васіля Вільтоўскага з намёкамі, і рэдактарства самога Ніла Гілевіча – усё гаварыла пра тое, што ананімныя аўтары паэм – гэта наш знаны паэт, ён жа Францішак Вядзьмак-Лысагорскі.

Быў і яшчэ шэраг намёкаў у публікацыях у прэсе, з якіх можна было меркаваць, хто аўтар. Аднак прызнаваць і гаварыць пра гэта публічна чамусьці, за выключэннем адзінак, ніхто не хацеў. І, напэўна, правільна сказана было Яўгенам Стасевічам: “Наогул, прычына прычын таго, чаму да гэтага часу не названы аўтар “Сказа”, тоіцца, як мне здаецца, у тым, што многія сучаснікі Н. Гілевіча надта не хочуць аддаць належнага яму як выдатнаму, непараўнальнаму паэту-сатырыку беларускай літаратуры другой паловы XX стагоддзя. Бо не могуць жа яны не бачыць магутнай сілы яго сатырычнага таленту, яго глыбока народных па духу сарказму і гратэску”.

Дапушчальна, што гэтыя слепата і глухата, а таксама спробы аддаць аўтарства творцам, якія былі слабейшыя па ўзроўні майстэрства, спараджала адчай, які і прымусіў ананімнага аўтара зрабіць нарэшце рашаючы крок і адкрыцца ў папулярнай у масах газеце “Народная Воля” (30 жніўня 2003 г.).

Асобна раскажу пра нашую першую сустрэчу з Нілам Гілевічам пасля апублікавання майго артыкула ў “Звяздзе” з наіўным заклікам падняць рукі ўгору. Адбылося гэта праз тры гады, калі нахлынула новая хваля пошукаў ананіма ў “ЛіМе”. А пачалася яна з маёй пародыі на гарбату ў Шніпоў “Па чыёй галаве сумуе лаўр?” (“ЛіМ”, 1 студзеня 1999 года). На яе нечакана адрэагаваў памянёны вышэй Яўген Стасевіч. А потым падключыліся іншыя і – пайшло-паехала. Прычым, Яўген Дзянісавіч здзіўляў мяне неверагодным веданнем творчасці Ніла Гілевіча, і ягоныя погляды і знаходкі дзіўным чынам супадалі з маімі і як бы апярэджвалі мае з паспешлівай актыўнасцю.

Дык вось, падчас дыскусійных баталій аднойчы, каля ўваходу ў метро на Плошчы Перамогі, асмеліўся спыніць Ніла Сымонавіча, які ішоў насустрач. Мы раней трошкі былі знаёмыя, калі я вучыўся ў БДУ і слухаў яго лекцыі па фальклоры. Паколькі прайшло шмат часу, адразу ж прадставіўся: “Добры дзень! Я той самы Янусь Малец, які прасіў Ведзьмака падняць рукі. Вы не пакрыўдзіліся за артыкул і што без дазволу разважаў пра Вас?” За дакладнасць размовы ўжо не ручаюся, але адказ быў прыкладна такі: “Добры Вы былі б крытык, каб у кожнага пыталіся дазволу пра яго напісаць. Вы ж пішаце пародыі, дык няўжо пытаецеся ў аўтараў, ці можна іх спарадзіраваць?” Размова была не надта працяглай. Але па інтанацыі паэта зразумеў, што ён нават унутрана задаволены маімі пошукамі, хаця, хітравата ўсміхаючыся, адмаўляўся ад аўтарства. Нечакана задаў яму пытанне наконт Яўгена Стасевіча і сказаў, што хутчэй за ўсё нехта піша пад псеўданімам, што такога чалавека, відаць, няма. Добра помню, Ніл Сымонавіч захваляваўся: “Не, не, ёсць! Хлопцы яго бачылі ў «ЛіМе»”.

Потым у нас адбылося знаёмства з Яўгенам Дзянісавічам і шмат сустрэч з ім у пошуках Ведзьмака. Я разумеў, што яму як больш даўняму і блізкаму сябру Ніла Сымонавіча было лягчэй дакопвацца да ісціны. Нават з’яўлялася падазронасць, што яму той прызнаўся даўно ў аўтарстве і рэдагаваў даследчыка, бо надта ж стыль таго нагадваў гілевічаўскі. Але што толькі не намалюецца ў мазгах, таму прашу прабачэння і ў нябожчыка, і ў даследчыка, калі гэта не так.

У рэшце рэшт, па паводзінах Ніла Гілевіча было многае зразумела, хоць ён асабіста мне прызнаўся, што гэта ён напісаў паэму, толькі 16.04.2000 года. Урачыста абвясціў: “Сёння я Вам зраблю падарунак!”

І трэба сказаць, пасля “падарунка” ўжо было складана нешта гаварыць у прэсе пра ананімную паэму, заставалася толькі чакаць, ці прызнаецца ён усяму народу.

А цяпер пра паводзіны ананіма. Яны былі доўгі час такімі ж са мной, як, відаць, з тым жа Стасевічам і з іншымі ягонымі сябрамі, якія цікавіліся “Сказам...”, як і ў апублікаваным у “Крыніцы” ў №3 (63) за 2001 год цікавым інтэрв’ю з Леанідам Галубовічам. Усё працытаваць складана, але вось такія выбарачныя цытаты, якія нібыта прызнанне і ў той жа час як бы адмаўленне:

“Прынамсі, мяне асабіста многія “пошукі і знаходкі” на шляху да ісціны нямала павесялілі, ды і працягваюць весяліць. ... Сапраўды, калі не чытаюць, характару і стылю пісьма сваіх калег не ведаюць, не адчуваюць, дык тады нічога і не застаецца, як толькі гадаць і наладжваць допыт: “Ну прызнайся: ці не ты зварганіў гэтую штуковіну?” І калі хто заяўляў у адказ: “Я!” – дык той і прымаўся за аўтара. Калі светлай памяці Анатоль Астрэйка сказаў аднойчы ў Літаратурнай рэдакцыі беларускага радыё: “Гэта я напісаў, хлопцы, толькі не кажыце нікому”, дык сёй-той і дагэтуль – чвэрць стагоддзя! – паўтарае адкрытую яму на хвалі сяброўства даверу таямніцу. ... Вас не задавальняюць аўтарытэтныя сцверджанні прафесараў і дактароў філалогіі? Або тыя ж сведчанні Максіма Танка?.. Ах, не задавальняюць усё-такі? Ну гэта ўжо цікава... ... Раптам ні з таго, ні з сяго ўзбунтаваліся “самавукі” – эканаміст Я. Стасевіч, паэт Я. Малец (дзіўныя людзі трапляюцца ў нашым краі!). Ну і дарэмна, мушу я сёння паспачуваць ім. Навукоўцаў і аўтарытэтаў трэба слухаць і насуперак ім не ісці. Усё роўна апошняе слова будзе за імі. Так і здарылася.

Ужо ў гэтым, новым стагоддзі і новым тысячагоддзі ў справе адхілення маёй кандыдатуры ад аўтарства “Сказа” паставіў апошнюю кропку і падвёў, што называецца, рысу член-карэспандэнт НАН... ...Ён зрабіў гэта надзіва пераканаўча і адразу на двух узроўнях – і на эстэтычным, і на псіхалагічным. Па-першае, у “Сказе пра Лысую гару”, падкрэсліў ён, “стыль смеху – ёмісты, экспрэсіўны, сціпла-канкрэтны, а не лексічна-выкрунтасны, з расцягнутасцямі, як гэта бачым у “Родных дзецях” Н. Гілевіча. Па-другое, як чалавек, што ведае Н. Гілевіча ўжо амаль паўвека (з 1931 г.), ён спаслаўся на яго характар і заявіў: “Каб Ніл Сымонавіч напісаў славутую паэму, ён бы ў гэтым ужо прызнаўся...” Правільна! Даўно б прызнаўся і не дазволіў бы, каб яе на працягу 30 гадоў прыпісвалі камусьці іншаму. Не той характар!..

То давайце пачакаем: можа, хто канчаткова, праз той жа камп’ютар, супакоіць мяне і пацвердзіць праваТу тых, хто ўжо ведае аўтара і не сумняваецца...”

Вось у такім ключы адказваў Л. Галубовічу Ніл Гілевіч. Як бачыце, ці то прызнаўся, ці то не.

Аднойчы вычытаў у артыкуле Я. Стасевіча пра ратапрынтнае выданне студэнцкіх гумарыстычных паэм Ніла Гілевіча, якое знаходзіцца ў Нацыянальнай бібліятэцы. Тут жа з’ездзіў і перапісаў ад рукі. Не помню, чаму не зрабіў копію. Калі сказаў пра гэта па тэлефоне Нілу Сымонавічу, ён паспачуваў: “Навошта ж Вы гэта рабілі, я ж магу падарыць, у мяне яшчэ знойдзецца экзэмпляр”. І прызначыў мне сустрэчу на былым праспеце Машэрава, дзе ўручыў абяцаную брашурку з інтрыгоўным подпісам: “Янусю Мальцу — паэту, сатырыку і праніклівому даследчыку загадкавых з’яў у літаратуры. Ніл Гілевіч. 25/XI-99”.

У гэты дзень мы прагульваліся і доўга размаўлялі. Калі ў чарговы раз зайшла размова пра “Сказ”, ён з усмешкай паглядзеў уважліва на мяне і сказаў: “Ну, Вы ж ведаеце, што я гэту рэч не пісаў”. Я інтанацыйна падыграў: “Ніл Сымонавіч, ну Вы мяне засмучаеце!!!” У адказ прагучала: “Што ж, даказвайце, даказвайце, а раптам і мяне пераканаеце!”

Трэба сказаць, што нашы адносіны складваліся так, што я імкнуўся трымацца

як бы на дыстанцыі, не залазячы ў душу, не навязваючы нейкія лішнія і нахабныя пытанні , бо і сам не любіў, калі нехта навязліва пераступаў этычную мяжу. І Ніл Сымонавіч, хоць і распытваў на правах старэйшага пра маю сям'ю, пра працу, рабіў гэта таксама тактоўна.

Часам мне сябры задавалі пытанне: вось ты даследаваў паэму, а чаму аўтар пра цябе маўчыць? Усяму свой час. У каго ёсць вочы і розум, той убачыць і зразумее. Галоўнае – я атрымаў асалоду ад судакранання з дзіўнай, таленавітай творчасцю і ў мяне ёсць вельмі дарагія аўтографы-падзякі, якімі ганаруся і якімі будуць, спадзяюся, ганарыцца мае дзеці. Вось пакуль некалькі з іх:

*"Дарагому Янусю Мальцу – першаму, хто публічна і без агаворак назваў імя сапраўднага аўтара "Сказа".*

*Дзякую, Іван Вільгельмавіч!*

*З сяброўскай шчырасцю – Ніл Гілевіч*

*2. II. 2004*

(Гэты аўтограф у кніжцы "Сказ пра Лысую гару" ў апошняй аўтарскай рэдакцыі – Мінск: "Белфранс", 2003).

*"Дарагі Іван Вільгельмавіч, прыміце ад мяне гэты унікальны том як узнагароду за актыўны і беспамылковы пошук аўтара паэмы "Сказ пра Лысую гару".*

*З нязменнай павагай і любоўю*

*4.02.08 Ніл Гілевіч*

(Аўтограф у 5-м томе 23-томніка, дзе змешчаны літаратурныя містыфікацыі.)

І вось яшчэ аўтограф у кніжцы "Сказ пра Лысую гару", якая пабачыла свет у мінскім выдавецтве "Конфідо" ў 2011 годзе:

*"Дарагому Янусю Мальцу – аднаму з першых, хто апазнаў аўтара гэтай "крымінальнай" паэмы і таленавіта абараняў сваё перакананне.*

*Ад сэрца – Ніл Гілевіч*

*23.2.12.*

Дзякуй і Вам, дарагі чалавек, за цёплыя і добрыя словы! Няхай вечнае сонца асвятляе і грэе вашу душу ў тым іншым вымярэнні, пра якое мы практычна анічога не ведаем, але як бы адчуваем!

## *Частка трэцяя.* **Накшталт пастскрыптума**

Не ведаю, магчыма Нілу Сымонавічу было б прыемней, каб імя аўтара ўпершыню прагучала з вуснаў вядомых даследчыкаў з рэгаліямі, але яны чамусьці зацята маўчалі, часам спасылаючыся на нейкую этычнасць у адносінах да ананіма: калі аўтар не хоча адкрывацца, то нельга яго называць. Трошкі для мяне такая логіка дзіўная. Хутчэй за ўсё, многія баяліся прамахнуцца і апынуцца "ў лужыне". Ды хоць сто разоў назаві імя аўтара, пакуль ён сам не назавецца – усе здагадкі і доказы крытыкаў застануцца толькі меркаваннямі. Трэба ж было адчуваць, што чалавек, які напісаў такую рэч, – смелы рызыкант, які правакаваў на пошукі. Нават падказваў на магчымыя шыфроўкі, напрыклад, такімі радкамі:

Ды ў той жа міг падняўся Ставер
(Ста-ры, іначай, вер-шаплёт).

Для чаго было аддзяляць склады ў словах **Ста**-ры і **вер**-шаплёт? Мне думаецца, для падсказкі, што ў паэме можна прачытаць не толькі Ставер, а, пашукаўшы, і нешта іншае. Ва ўсіх вядомых мне выданнях "Сказа пра Лысую гару" ніхто не

здагадаўся правіць ананіма. Толькі ў нью-ёркскім выданні, пра якое будзе далей сказана, гэта было зроблена. Але невядома, ці ў рэдакцыі зрабілі, ці хто рукапіс ім такі прапанаваў. І нядаўна з'явілася пасмяротная кніжка з "Роднымі дзецьмі" і "Сказам" у серыі "Мая беларуская кніга", дзе хтосьці вырашыў паказаць сваю "граматнасць" і прыбраў дэфісы. Не каб паглядзець, як сам Гілевіч публікаваў тэкст паэмы. Недаравальная няўважлівасць!

А вось як іранічна і здзекліва біў ананім па самалюбстве крытыкаў і знаўцаў беларускай паэзіі ў спецыяльным дадатку ў "Крыніцы", пра які ўжо вялася размова, "Хто адкрые аўтара":

Адкрыцця аўтара не зробіць –
Хоць зад натрэ да мазалёў –
Ні крот Сцяпан Александровіч,
Ні кротус Генус Кісялёў!

І толькі ёсць адзін даследчык,
Які нідзе не спасаваў –
Сваю вучонасць так засведчыў,
Што ўсіх свяціл закасаваў:

Узяўшыся самааддана,
Зняў фігавы лісток з Адама,
На яйцы пасадзіў Сцяпана,
Уткнуў Івану кацатыг,
Генадзю выгнаў матыліцу,
З Рагойшы выкруціў сырыцу,
Пад нуль Майхровіча пастрыг,
Лазарука падсек пад корань,
Уздзеў Ісідара на швoран,
Расшкамутаў Юльяна ў пух,
Прыпёр Івашына да сценкі,
Спусціў кальсоны з Каваленкі,
І земляку прамыў каўбух,
І нават з Лойкі выбіў дух!

Вось калі ён не пройдзе міма,
Дык нейкіх год праз дваццаць сем
Раскажа ўсё, як пра Яфіма,
Тварца праслаўленых паэм.

*1975*

Помніцца, калі я шукаў шыфроўкі, падступаўся і да гэтага кавалка крыніцаўскага варыянта паэмы, але натыкаўся на прозвішчы і імёны, пра многія з якіх чуў упершыню, таму і адступаў, бо лічыў, што трэба будзе даследаваць, пра каго ідзе размова, іх жыццё і творчасць. Адным словам, не надаў вялікай увагі, бо разумеў, што для мяне як для непрафесійнага даследчыка гэта непад'ёмная праца.

І толькі зусім нядаўна ў размовах з літаратарам Анатолем Кудласевічам пра загадкавыя месцы ў "Сказе..." той раптам звярнуў маю ўвагу на **гіпатэтычнасць** намаляванага даследчыка. Перачытаў уважліва тэкст, і стала відавочна, што аніякай рэальнай асновы ў ім няма, а за персонай даследчыка не прыхаваны канкрэтны тыпаж. Кудласевіч пажартаваў, што гэта мяне прадказаў ананім. Што ж, і сапраўды мне ўдалося трапіць у васьмёрку ці ў дзявятку. Але ж не ў дзясятку! Яшчэ столькі таямніц прыхавана ў "Сказе". Не ўсё сказаў і Ніл Гілевіч. Нейкія новыя таямніцы маглі б праясніцца, калі б ён не пайшоў з жыцця. Хочацца спадзявацца, што сын паэта Сяргей Нілавіч нешта знойдзе цікавае ў бацькавым архіве, і адкрыецца шэраг новых нечаканых момантаў. І як бы хацелася, каб знайшоўся малады, энергічны, разумны даследчык, які аддаўся б даследаванню ўсёй творчасці нашага геніяльнага сучасніка.

Той жа “Сказ пра Лысую гару”, пра што мала хто ведае, двойчы друкаваўся ў Нью-Ёрку. Спачатку ў 1984 годзе ў газеце “Беларус”, а потым асобнай брашурай пры гэтай жа газеце ў 1985 годзе з анатацыямі Антона Адамовіча, беларускага эміграцыйнага крытыка. Прычым у брашуры была яшчэ адна ананімная самвыдатаўская паэма “Роздум ля параднай брамы”. Аўтар яе называў сябе Ведзьмаком-Лысагорскім і як бы прэтэндаваў на аўтарства “Сказа”. Аднак адчувалася, што стыль розны і паэма на тэатральную тэматыку значна ўступала па глыбіні думкі, па пабудове і філасофскіх абагульненнях, хаця і ў ёй адчувалася таленавітая рука. Ды гэту паэму лёс не ўзнёс да такіх вышынь, як знакамітую каляжанку, думаецца, па прычыне рознасці талентаў. А хто яе аўтар, так і невядома. Яго, напэўна, ужо няма сярод жывых. Былі меркаванні, што гэта Пятрусь Макаль, але даследаванняў, напэўна, ніхто не праводзіў і сведчанняў ніякіх няма.

У публікацыі ў газеце ў “Сказе” не было канцоўкі з шыфроўкай. Вось як пра гэта сказана ў брашуры:

“Апошніх дзьвюх строфаў (васьмёх радкоў – ад “А хто пісаў...”) ня было ў тэксьце паэмы, калі ён друкаваўся ў газэце “Беларус” (нумары 287-292 за 1984 г.); мы дасталі гэтыя радкі з тае ж крыніцы, што і ўвесь тэкст, але ўжо ладна пасьля, калі паэма была ўжо блізу цалком перабраная для гэтага выданьня асобнай кніжыцай. Тады-ж і з тае крыніцы мы дасталі “на 99 працэнтаў пэўнае”, як сказалі нам, раскрыцьцё запраўднага прозьвішча аўтара-ананіма, але паважаючы выразнае жаданьне таго аўтара застацца поўным ананімам, мы таго прозьвішча ня публікуем”.

Бываюць дзіўна-містычныя перакліканні ў часе. У сваёй публікацыі ў “Звяздзе” з заклікам падняць рукі ўверх я пісаў: “ На мой погляд, баяцца і асцерагацца няма сэнсу, бо Вядзьмак-Лысагорскі, ён жа – упэўнены на 99 працэнтаў – Ніл Гілевіч, пабываў і не ў такіх варунках, змагаючыся за нашу мову, за нашу дзяржаўнасць”.

99 працэнтаў... Вунь як перагукнулася праз гады! Але ж я і дыхам не чуў, не ведаў, калі займаўся даследаваннем, пра выданні ў Нью-Ёрку. Толькі праз пэўны час пазнаёміўся з замежнай брашурай у Ніла Гілевіча і з ягонага дазволу ў сябе дома зрабіў копію. Дарэчы, пра “прозьвішча” ананіма. Мне здаецца, яго тады наўрад ці ведалі выдаўцы, хутчэй блефавалі, як і многія іншыя знаўцы пазней, калі заходзіла размова на гэтую тэму – нават здзіўляліся: “А вы што, яшчэ не ведаеце, хто аўтар?!” Аднак хто, чамусьці не называлі. Да таго ж не прозвішча ў шыфроўцы, а імя. Прозвішча і імя па бацьку я, дарэчы, шукаў у тэксце паэмы, аднак не знайшоў – напэўна, іх там і няма.

Аднойчы я асмеліўся запытацца пра шыфроўку ў самога Гілевіча, аднак прызнання прамога не атрымаў. Ён сказаў, што гэта стварылася магчыма з Божай дапамогай, а ён сам як бы нічога спецыяльна не рабіў. Спаслаўся, відаць, на мае развагі пра шыфроўку з “аксакалам” і “саксаулам”. У мяне было так: “А ці не зашыфравана тут імя творцы? Калі прачытаць злучнік “ні” і апошнюю літару ў назоўніку “аксакал” (тое ж самае з другім злучнікам і назоўнікам “саксаул”), то атрымаецца “Ніл”. Магчыма, гэты адказ аўтар даў сам таго не падазраючы, як кажуць, з Божай дапамогай”. Больш на гэтую тэму ў нас размоў не было. Шкадую, што запамятаваў, калі задаваў пытанне: ці ўжо пасля разгадкі і другой, асноўнай шыфроўкі, ці да таго. І ці пасля прызнання ў аўтарстве, ці да гэтага. Магчыма, мае меркаванні набылі б новыя адценні.

Хочацца сказаць колькі слоў пра тэкст з гіпатэтычным даследчыкам. У ім сказана, што праз нейкіх год дваццаць сем той раскажа пра ананіма. Напісана гэта было, як пазначана пад тэкстам, у 1975 годзе. Ніл Гілевіч прызнаўся ў аўтарстве ў “Народнай Волі” ў 2003 годзе. Атрымліваецца, паколькі канкрэтна памесячна разлічыць цяжкавата, адкрыццё сапраўды адбылося праз нейкіх 27-28 гадоў. І тады асноўны даследчык... сам Гілевіч! І гэта справядліва. Ніхто лепш за яго не



*У кватэры Ніла Гілевіча — Янусь МАЛЕЦ, пастаўская школьніца Лада ШАЙТАР і Ніл ГІЛЕВІЧ.*

ведае гісторыі стварэння і сутнасці знакамітай паэмы. І ніхто перакананей за яго не змагаўся за твор. Пра гэта сведчаць ягоныя публікацыі, датычныя "Сказа пра Лысую гару", у прэсе і ў дзённіках і запісах, што ў асноўным змешчаны ў 23-томніку. На вялікі жаль, да шырокай публікі гэтыя запісы пакуль не дайшлі. А цікавасць да паэмы не згасае, ведаю гэта добра і з размоў, і з інтэрнэта. І большасць прызнае аўтарам Ніла Гілевіча і адзначае яго несумненны талент. Хаця шмат і тых, хто хоча прынізіць, аспрэчыць відавочнае аўтарства, але важкіх аргументаў у іх пакуль не было, няма і не будзе! "Сказ пра Лысую гару" арганічна ўплецены ва ўсю яркую, насычаную народным духам гілевічаўскую творчасць.

Час Караля смеху і Народнага творцы з моцнымі каранямі і нацыянальным духам – наперадзе! Удзячныя нашчадкі будуць несумненна праз дзясяткі і сотні гадоў прыходзіць да ягонай магілы на Кальварыйскіх могілках, што размешчаны на ўзвышшы. Узвышша гэта, усеянае крыжамі, з Храмам на самай вяршыні, несумненна з'яўляецца Святой гарой. На гэтай гары знайшоў спачын аўтар сказа пра іншую гару – Лысую. А ўсю ягоную творчасць можна аб'яднаць у геніяльны Сказ для нашчадкаў пра краіну Беларусь і яе жыхароў.

*Кастрычнік-лістапад 2016 г.*
*Фотаздымак Ігара ПРАКАПОВІЧА.*

Алесь Наўроцкі



...слова – гэта тое, што гавораць тады,
калі “маўчыць піраміда Хеопса”...

# Слова пра слова

*Заканчэнне. Пачатак у №89.*

*Падрыхтоўка да друку і каментары Віктара ЖЫБУЛЯ.*

## 1962 – 1968 гг.

Я ў невялікім пакойчыку, дзе на стале ляжаць гісторыі хваробы, амбулаторныя карткі, заляпаная чарнілам лінейка, а ў шклянцы, зверху прыкрытай марляю, у двухпрацэнтным растворы хлораміну ўсунут шпатэль... За акном санітарка лапатаю расчышчае снегавую дарожку. Зафыркаў конь, заскрыпелі санкі, і нейкая цётка ў валёнках, абкручаных белай ватаю, сунецца, асцярожна не сучы на руках скрутак...

– Зноў нейкае дзіця загрыпавала... – з усмешкаю заўважае медсястра – назавем яе па-другому – Люба Цыбульская.

Скрутак праз нейкі момант уносіцца ў амбулаторыю і лажыцца на засланую жоўтай цыратаю цвёрдую канапу... Маці разгортвае бясконцыя коўдрачкі і коўдры, і нарэшце пісклянё, падобнае на маленечкага зморшчанага дзядка, пачынае хліпаць... Тэрмометр, які прыстаўлен да ножак ружовага хныкалы, паказвае тэмпературу – трыццаць дзевяць... Хутка дзіця вынеслі з пакоя, і я пазіраю за акно, на ўсё тыя ж прысыпаныя снегам дахі, на сіняватыя гурбы абапал расчышчанай дарожкі, на казачна-белае галлё ясакараў...

Свежы халадок малодзіць мае шчокі, калі я выходжу на ганак, дзе вуркочуць галубы... Так выразна відаць на сіне-белай бухматасці адзінокія сляды нечых кірзовак...

Мне і хочацца і не хочацца ісці дадому... Дома мяне чакае ўсё адзін і той жа стогн жонкі:

– Як ты надаеў мне са сваёй пісанінаю! Ты хоць дачку на руках пагушкай!

Як бы добра было, калі б на гэты раз сышла куды-небудзь да суседзяў... На гэты раз мне пашанцавала... Я, надзеўшы на сябе кухвайку, каб востры халадок ад аконных шчылін не прымушаў мяне ўздрыгваць, сяджу за сталом...

Колькі за гэты час пражыта! Здзеелася вялікае цуда: я – бацька... Эх, вось калі б зараз мне сустрэць Козачку! Але яна недзе там за гэтым белым мільганнем пушынак за акном, яна недзе далёка-далёка... А замест яе нехта тупае ля мяне чужы і раз-пораз тузае мяне: “Зноў усеўся... Ніяк ты не напішашся, чарнільная крыса...”

Мне ўжо столькі гадоў, колькі аўтару “Героя нашага часу”[1]. У яго раман ёсць, акрамя вершаў, і мне трэба спяшаць таксама напісаць і свой... І я зараз пішу яго... Здаецца, у мяне нешта атрымліваецца... А вершы? Ох, не ведаю... Мне нешта трывожна, калі я параўноўваю свае вершы з ім... Сваю новую кнігу мне то хацелася назваць зноў “Неба ўсміхаецца маланкаю”, то “Усё нараджаецца з болем”[2]... Чаго-чаго толькі не закранаў я ў сваіх вершах... Зноў мяне трэсла як у ліхаманцы і я хапаўся то за раззбраенне, то за каханне, то за Леніна... Вось, напрыклад, сёе-тое.

**РАЗВАЖАННІ НАКОНТ ПАЛАМАНАГА КРЭСЛА**

У крэсле сядзелі
дні і нядзелі,
вязалі хусткі з паветра спіцамі.
І дзюры ў крэсле адсядзелі,
і адсядзелі ягадзіцы.
Трэба выкідаць старое крэсла,
хоць і зроблена яно было надзейна.
Выцвіла спінка яго і трэснула,
і ножка яго адклеена.
Бура вакол новага крэсла
то падымецца, то ўляжацца.
І горкія думкі падобны пчол раенню...
Праўда, некаторыя сцвярджаюць,
што ў крэсле
не хустка з паветра вяжацца,
а вядуцца перамовы па раззбраенню.
. . . . . . . . . . . . . .

Ад інтанацыі Маякоўскага мяне раптам кідала да інтанацыі Лермантава.

**ДУМА**

Нібы ракета зараз час імклівы.
Ляцім уперад мы – аж ветру свіст.
Але... самотна пазіраю на аптымістычныя парывы
я – непапраўны песіміст.

У пытаннях цёмных быць павінна яснасць.
Сябры! Я невясёлыя вам думкі перадам.
Нам падстаўляе галаву сама сучаснасць.
“Пагладзь!” – камандуе і пагражае нам.
. . . . . . .

Дзе слоў знайсці, тых страшных слоў знайсці,
каб выказаць той гнеў, што ў нас жыве,
калі мы вымушаны гладзіць галаву сучаснасці
і вошы бачым мы на галаве?

Пакутаў нашых вось у чым прычына,
і вось чаму нам слёзы засцяць пазіраць на свет,
і вось чаму над яблыні адломанай галінай
галосіш ты, паэт[3].
. . . . . . . . . . . . . .

Ад Лермантава мяне кідала да нейкай асаблівай арыгінальнасці, навеянай Хікметам і Маякоўскім.

**СУСТРЭЧА З ЛЕНІНЫМ У 1963 г.**

Закураны раённы гарадок
абгрызлі козы. Вясна пеніць.
У цэнтры гарадка стаіць кіёск.
Гляджу – ідзе **Ленін**.
Да кіёска таропка падыходзіць.
Я пазнаю яго.
Так, гэта ён, а не прахожы нейкі.
Газету трэба купіць яму,
але не знаходзіць
Ільіч у кішэні капейкі.
– Уладзімір Ільіч, я заплачу! –
я заплачу, Уладзімір Ільіч! –
мой голас дрыжыць.
Павярнуўся ён.
Зірнуў на мяне, як на сына,
нібы адгадаў, што я з Аравіч,
што я ўрач,
што мяне не слухаецца медыцына,
нібы адгадаў, чаму ў мой кволы верш
сум часамі сочыцца...

Эх, мары, мары,
якімі жывеш
і якімі жыць хочацца!

*27.2.1963 г.*

Нейк не па сабе мне становіцца ад радкоў верша, падобных на металічныя ржавыя пруты, і тады мяне часам закалыхвае мелодыя, якая і папраўдзе некалі гучала ўва мне... Але яна аддае не столькі перажытым, колькі чытаным у Пушкіна.

**ПАДАЮЦЬ КРОПЛІ Ў ПАЗАЛОТУ ДАЛІН**

Падаюць кроплі ў пазалоту далін,
а вакол мяне стэп, я ў стэпе адзін...
Усплывае вобраз забыты, далёкі –
аганёк у стэпе маім адзінокі.
Падаюць кроплі ў пазалоту далін
і сцякаюць па твары сеткай маршчын,
і размыюць хутка ціхі мой крок,
і патушаць у стэпе маім аганёк.
Падаюць кроплі ў пазалоту далін.

*6 – 19/2-1963 г.*

Мелодыя – мелодыяй, але не трэба і забываць, што і Пабла Неруда таксама пісаў здорава. І тады ў мяне атрымлівалася:

+++
+++

**МАЛЕНСТВА ДАЛЁКАГА РАДАСЦЬ!**

Дзе ты?
Помню:
цябе, як цялушку,
прывязалі да забітага ў зямлю коліка.
Нацягваючы вяроўку,
ты капыціла зямлю
і рожкамі,
якія ледзь праклюнуліся,
з пагрозай кідалася
забадаць вясну.

А потым... нажом шчарбатым
табе перарэзалі шыю.
І толькі вочы не паміралі,
вочы жылі,
яшчэ доўга вочы жылі
на акрываўленай тваёй
галаве.

+++ +++ +++

Лёд скідаюць з грузавіка ў яму і прысыпаюць пілавіннем. У душны жнівень можна апускаць ільдзінкі ў збанкі з вадою.

Як лёгка загатаўляецца холад і які ён жывучы, як і ўсё, што звязана з ім пад гэтым небам!

Ці не таму часцей за ўсё нам **холадна**?

§§§ §§§ §§§

Раптам я задумваюся над тым, што трэба ўслаўляць працу, і ў мяне атрымліваецца:

Хлынь жа,
зерне-зярно!
Утвары завалы!
Сыпся ў бункераў
дно!
Ускіпай, як віно,
ў бакалах!
Ліся, як лівень!
Апякай,
як агонь!
Жнівень,
жнівень
звонам
азвонь!
Сушыся на сонца скавարадзе!
Цурчыся па зернавой градзе!

Што б мне яшчэ такога выдумаць? Як мне быць арыгінальным? Не падобным ні на каго? Можа мне засяродзіцца на цыркавых вершах? Але ж іх не надрукуюць! Дарэмна толькі патраціш час. Калі я буду крытыкаваць – таксама не надрукуюць... Я ўжо некалі падсоўваў вершы, але іх чыталі і разводзілі рукамі... І мне прыпамінаюцца такія радкі:

. . . . . . . . . . . . . .
Вунь калгаснік едзе па пясчанаму грунту,
коніка панукае пад скрып калёс,
паўпуда мускулаў і нерваў паўхунта
на калгаснае поле павёз.

Там яны згінулі драсёнам пакрытыя.
І дарэмна ён праганяў стому.
Паўпуда саломы і паўхунта жыта
ён прывёз на тым возе дадому.
. . . . . . . . . . . . . .

І яшчэ прыпамінаецца такая страфа:

Ты стаіш ля каровячага стойла,
набраўшы травы ў замурзаны андарак.
О, няўжо з думкай, як замяшаць карове пойла,
ты і памрэш вось так?

Калі крытыкаваць, то мяне ніхто не надрукуе. Калі я буду паэтам-цыркачом, то мяне зноў-такі ніхто не надрукуе... Што-небудзь трэба за мір напісаць... Але ж я ўжо напісаў за мір паэмку “Палячыце нас, доктар!”[4] Пра што ж мне пісаць? І як пісаць?

Я схіліў галаву над чыстым аркушам паперы... Ат, паспрабую на гэты раз што-небудзь “сногсшибательное”.

. . . . . . . . . . . . . .
Мне пераехала нагу трамваем.
Тое, што некалі было часцінаю мяне,
валялася ў гразі...
Цела маё стала лягчэй на тры кілаграмы...
. . . . . . .

Не, нешта не клеіцца ў мяне... Паспрабую-тка я што-небудзь другое...

Лыжня растае,
і сляды ваўка растаюць,
і зайца сляды, што ўцякаў ад ваўка,
растаюць.
След палазоў растае,
след галёш растае,
след шынаў растае.
Я за поручні маста ўзяўся,
я пазіраю туды,
дзе клакочуць у пене сляды.

Там клакоча лыжня,
след ваўка
і след палаза.
Адзінокая падае ў пену
мая сляза.

Можа, нешта атрымалася на гэты раз... Але што? Я і сам не ведаю – што... Пра што ж пісаць? **Пра Што? Як пісаць? Дзеля чаго пісаць?**

На гэтыя пытанні я ўсё яшчэ адказваў так: пісаць пра ўсё. Пісаць так, як пісаў вунь той і вунь той і вууунь тooой. Пісаць дзеля таго, каб быць гэткім жа вялікім, як...

## Жнівень, 1966 год

Калі я выходжу на балкон сваёй кватэры, то бачу, як пышна цвітуць унізе жоўтыя вяргіні, бачу, як на трохколавым веласіпедзе шпарыць малыш да тэлефоннай будкі па асфальту... а вунь белая цэлулоідная лялька, прывязаная паперадзе радыятара "Волгі", якая праімчала разам з рознакаляровымі шарамі... Ён і яна сядзяць у той "Волзе", а праз гадзіны чатыры я, урач хуткай дапамогі, пад'еду да іх і ў яго будзе разбіта галава, а разаб'е яе яго сябар, які падбадзёрыць сябе за вясельным сталом... Эх, колькі папаездзіў я на машыне па сталіцы... Цікава, хто будзе маёй памочніцай на гэты раз? Вось было б здорава, каб Сюзана! Трэба схаваць падалей той ліст, які я пісаў да яе! Разарваць яго не хапіла сілы! А ён можа мне прынесці бяды! Жонка толькі і ведае коўзацца па маіх лістах!

Як жа я вырас за гэты час! Праўда, раман мой не надрукавалі, але ж ён так спадабаўся многім...

А вершы? Як жа быць з вершамі?

Я сеў за стол і падпёр далонню шчаку...

А што калі б асмеліцца і пачаць пісаць пра сябе? А што калі б расказаць пра сябе ўсё тое, што **нясу я ў сабе** на працягу ўсяго жыцця? Звычайнымі, простымі словамі? Пра тую далёкую пяцікласніцу? Пра Козачку? Расказаць пра сябе? Які? Хто я? А што калі б асмеліцца? А што? Павінна ж атрымацца! Дык закасвай жа, браце, рукавы! Яшчэ нешта паспееш! Табе ж няма яшчэ трыццаці!

Калі я азіраю свае новыя вершы, а таксама некаторыя і ранейшыя, то я бачу, што недарэмна пачалося ўсё гэта тым далёкім-далёкім снежнем тысяча дзевяцьсот сорак дзявятага года.

*20 верасня 1979 года*

## М. ТАНК

Здаецца, ці не ў маі пяцьдзясят дзявятага года я палажыў перад Анатолем Сцяпанавічам Вялюгіным, рэдактарам аддзела паэзіі ў "Полымі", адну з самых пачварных сваіх рэчаў, якія толькі хоць калі-небудзь мне даводзілася пісаць. Я з задавальненнем знішчыў бы яе зараз, але яна выклікала сварку і таму я рашыў расказаць, як жа ўзнікла гэтая сварка, і перапісваю гэты верш.

Хітра прыжмурыўшы свае вока, Анатоль Сцяпанавіч, які, канечне ж, не мог не разумець, што я напісаў "паскудства, брат, і не пытайся"[5], прачытаў вось што:

**ДА КАМУНІЗМА ІДУЧЫ**

**І. Жываты**

Стол. На стале пад шклом Расія. З сінімі рэкамі. З лясамі зялёнымі.
Чырвоныя стрэлкі накіраваны да Петраграда.
З крэслаў выпаўзлі і над сталом навіслі тонамі
жываты Часовага Урада.

Над Расіяй навіслі. На хаты без даху і з дахам,
на дарогі, магазіны, хлявы, заводы, масты...
Прачынаюцца раніцаю людзі і бачаць са страхам:
над галовамі ў іх вісяць і на іх абваліцца гатовы жываты.

– Бі гадаў! – Партыі голас грымучы.
І білі. І змялі, трымаючы хто вінтоўку, хто пісталет.
І нарадзіўся новы, дакамунізмаідучы
свет.

### II. Цагліна

Узводжу сцену дома. Стаю на рыштаванні. Рухам рукі прывычным
да цагліны падганяю цагліну, хоць валіць змора і сон.
Стукнула цагліна аб цагліну, і меладычны
ў паветры паплыў звон.

Звон не сціхае. Звонам я запалонены.
Проста не верыцца. Можа гэта звініць у галаве?
А звон імчыць па вуліцы і за горад азвонены
плыве.

Плыве туды, дзе бялеюць акяніцы пасёлка,
і ад пасёлка яшчэ далей.
І як нітка праходзіць праз вушка голкі,
так праходзіць ён праз вушы людзей.

Хоць і сёрбаюць людзі боршч ды суп нішчымны,
але дзе праходзіць звон – там у людзей дум камуністычны палёт.
Так звычайная цагліна ў Расіі неабдымнай
зрабіла пераварот.

### III. Шапка з арлом

Маршчыны на лбе – гэта невад. А вочы – мора.
Ловіць невад з мора чалавечае гора.
Так і лавіў бы невад гора-бяду
дзень за днём,
каб у гэты час у Нямеччыне ва ўсіх на віду
не вісела шапка з арлом.
Вырадак шапку на галаву надзеў. І адразу кулі зазвенькалі.
І бомбы завылі над галавой.
На ўсю Еўропу заплакала дзіця маленькае
з перасечанай нагой.
Я гранату шпурнуў. Асколкі – са свістам.
Пазіраю – ад шапкі з арлом прапаў нават цень.
І граюць на цымбалах цымбалісты
перамогі дзень.
Маршчыны на лбе – гэта невад. А вочы – мора.
Вылавіў невад з мора чалавечае гора.

### IV. Секундамер

Эх, і дзянёк! Хоць ты адбі яго на кінаплёнцы!
Мы накідалі сена стог і прыселі ля стога.
Настрой у мяне прыўзняты (хоць раніцай даваў наганяй жонцы,
што доўга на сонцы трымае сына малога).
**Секундамер секунды адлічвае ў гэты час.**
Гарачыня. Нават не відно нешта і сабакі Боба.
– “Дзе ён?” – “Ды недзе забіўся ў цянёк”.
– Спраўляе, мусіць, бядняга, жалобу:
на спадарожніку загінуў жа яго дружок.
**Секундамер секунды адлічвае ў гэты час.**
– Ну, годзе сядзець! Эй, сена давай!
Я падняў ахапак, ды такі,
што, несучы яго, зямля ў вачах кружыцца,
нават мускул малога пальца левай рукі
Амерыку перагнаць тужыцца.
**Секундамер секунды адлічвае ў гэты час.**
**Секундамер секунды адлічвае:** дзве секунды, адна, палова, чвэрць...
Яшчэ імгненне – і капіталізму смерць.

Эх, толькі б надрукавалі гэты верш! Колькі яшчэ такіх я напішу! Свет павінен па-сапраўднаму пачуць маё імя! Усё тое, што было надрукавана раней, гэта нішто перад гэтым дзівам, перад гэтым цудам... Надрукаваць адзін такі, а потым другі, трэці і – пайшло-паехала... Праўда, наўрад ці я змагу пабораць Маякоўскага, але ж трэба паспрабаваць... Як весела свяціла ў небе сонца, а наздраваты снег ужо скідалі з дамоў на тратуар, чырвонымі сцяжкамі акальцаваўшы тое месца, куды яму трэба было падаць... У прыкрытыя чыгуннай рашоткаю вадасцёкавыя ямы бруіла, пенілася вада... Прыгравала зверху, і бухалі грабянцы з дахаў... Хутка ўсе будуць хадзіць у басаножках... Хутка я буду самым вялікім...

Я з хваляваннем палажыў верш на стол перад Анатолем Сцяпанавічам... Ён прачытаў:

– Я думаю, што яго можна надрукаваць...

Ух ты! Пакарыў! Будзе, канечне будзе надрукаваны гэты верш, вось толькі хай прачытае яго Максім Танк яшчэ... Але за Танкам супынку не будзе...

Назаўтра Маскім Танк прачытаў...

– Ну, што вы тут яшчэ напісалі... Ды тут жа якая ідэя з усяго гэтага вынікае... Не, бацэнька...

– Ідэя, самая што ні на ёсць сапраўдная... Я ж камунізм слаўлю...

– Э-э, ты славіш камунізм... А ты знаеш, што ў Польшчы таксама знаходзяцца малойчыкі, яны славяць камунізм... А знаеш, як яны славяць?..

Танк расказаў, як гэта там робіцца ў Польшчы...

Я згарнуў свой верш, высунуўся на вуліцу... Глыба снегу скацілася з даху і разляцелася на мелкія друзгалкі... Нехта тузануў мяне за рукаў:

– Ты што, не бачыш? Скідаюць жа снег з дахаў... От як храсне зараз лёду кавалак па галаве...

Хістаючыся, я ледзьве зайшоў у нейкі завулак і прытуліўся да плоту... Слёзы хлынулі ў мяне раўчукамі з вачэй. Ідэя, аказваецца, не тая! І недзе нехта там нешта ў Польшчы таксама за ідэю камунізма, але ідэя там падаецца ў такой жахліва-здзеклівай форме... Значыць, і ў мяне так?

Я не спаў ноч... Я качаўся ноч у ложку, думаючы пра тое, што трэба ў чым бы то ні стала адстаяць верш... Бо калі не адстаіш, то загінеш... Яны знарок не хочуць друкаваць яго, ён жа бачыць, што як толькі пачне друкаваць мае творы, тады аніхто нават і плюнуць на яго вершы не захоча... Вось дзе ідэя захована... Ну, пачакай жа!.. Не, я так не спушчу.

У 14 гадзін наступнага дня маладое сонца гуляла па стопцы папер, па бліскуча-чорным тэлефоне, па карычневай паліроўцы рэдакцыйнага стала. Загаманіла ў пакоі цэлая купа пісьменнікаў – Уладзімір Карпаў[6], Алесь Бачыла[7], Мікола Аўрамчык[8], здаецца, Рыгор Шкраба[9] (але Вялюгіна не было)...

Я рашуча раптам абвясціў:

– Таварышы! Я мушу затрымаць вашу ўвагу. Слухайце...

Стрымліваючы дрыжанне ў голасе, я прачытаў свой бессмяротны твор.

Я сказаў:

– Справа тут не тычыць, паэтычны ён ці не паэтычны... Справа тычыцца ідэі... Я ніяк не магу зразумець Яўгені Іванавіча, якую ён тут не тую ідэю знайшоў... Па-мойму, лепшай ідэі і быць не можа...

Яўгені Іванавіч (Максім Танк) ускінуўся:

– Ды тут жа ніякае паэзіі няма.

– Не, чакайце, вельмі можа быць, што няма, але ўчора вы мне пра гэта ні слова не сказалі... Учора вы мне сказалі...

– Ды ёсць пра што тут гаварыць?.. – узвысіў голас Максім Танк.

– Ёсць! Я сцвярджаю, што тут ідэя!

– Ну, бацэнька... Ды тут жа паэзія не начавала.

– Не, чакайце, – я сціснуў зубы. – Гаворка ідзе пра ідэю... Мне гэтая ідэя...

– Ды няма, няма пра што гаварыць...

– Ёсць пра што гаварыць... Я сцвярджаю, што ідэя яго самая...

– Дык жа няма верша! Няма паэзіі! Што вы дурыце мне галаву...

– Я пра ідэю гавару! Ёсць тут ідэя! Самая вялікая...

– Верша, паэзіі тут няма... – ускіпяціўся Максім Танк.

– Тут справа тычыцца ідэі... Я не дазволю вам кідацца марксісцкімі фразамі! – сек я...

Купка пісьменнікаў у здзіўленні сачыла за намі: хто з нас праў, хто вінават...

– Ды няма тут верша... Няма тут пра што гаварыць... – ускрычаў Максім Танк.

– Не, справа ідзе пра ідэю...

– Што ж ідэя, калі паэзія адсутнічае!

– Вы не крычыце...

– Як жа не крычаць... Ды я не магу без хвалявання гаварыць пра паэзію... Ну, знаеце, гэта таксама прыёмчык: з такім алімпійскім спакоем... Ну, вы зірніце... – і Максім Танк звярнуўся да прысутных: – Што ж гэта за верш?

Усе паціскалі плячыма.

Артур Вольскі[10] вымавіў:

– Я не ведаю, што гэта за верш... Я можа і не разбіраюся... Вось там, дзе ён піша: “На ўсю Еўропу закрычала дзіцё”[11]. Гэты радок, па-мойму, добры...

– Ідэя правільная верша! – стаяў я на сваім...

– Дык жа няма верша... – кіпяціўся Танк.

– Не, дазвольце... – наступаў я...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Пазней, калі я прахаджваўся з Барысам Сачанкам[12] па праспекту, я пачуў ад яго:

– Пісьменнікі гаварылі: яшчэ ні разу не бачылі такога Танка, але і маладога пісьменніка такім таксама ні разу не бачылі...

Я ўсміхаўся, але мне было не па сабе: я адчуваў, што гэтай гаворкаю на ўсё жыццё нанёс рану Максіму Танку, а значыць, і самому сабе...

Калі ўзяць і ўдаліць сэрца ў чалавека, то ніхто ўжо не скажа пра такога чалавека, што гэта чалавек, а ўсе скажуць, што гэта труп. Так і з ідэяй. Няма паэзіі, і ніякай ідэі не можа быць. Танк раззлаваўся, і, канечне, гэтага гневу не было б, калі б ён мяне, як вужаку віламі, прыпёр да сцяны. А ў такой справе, як паэзія, гэта зрабіць не так проста, тым болей, што за маёй спіною стаіць вялікі абаронца – Уладзімір Уладзіміравіч...

– Мы былі рады кожнаму вашаму радку... – з горыччу ўсклікнуў Максім Танк у часе тае навальнічнае буры.

Успамінаю, як Танк сядзіць у рэдакцыйным пакойчыку і правіць мой верш “Малако”[13] (пазней строфы з яго былі змешчаны ў паэме “Стрэл у вочы смерці”).

– Чакай жа, малако таксама дыхае параю... – задумаўся ён, седзячы за сталом, і адразу ж спахапіўся: – Ах, гавару не тое... Малако падоенае не паруе, а пеніцца. Гэты твой радок трэба павярнуць па-другому.

Праз нейкі момант Максім Танк упісаў у мой верш радкі:

“І калі сопкая бульба дыхае ўкропам і парай...”

Я адразу ж адчуў, як гэта здорава, што ўставіў гэты ўкроп. Радок нібы ўспыхнуў святлом...

Адчуць-то я адчуў, але я не ўсведамляў тады, што здорава атрымалася таму, што Танк дабавіў дэталь... Я яшчэ не ўсведамляў, што заўсёды будзе здорава, калі адшукаеш нешта непаўторнае ў самой з’яве ці прадмеце...

Заадно ўпішу ў гэты дзённік, што ж я думаю пра паэзію Максіма Танка. Як гэта можа ні здасца дзіўным, але я ў яго знаходжу меней вершаў, чым у Максіма

Багдановіча, які ў свае 25 гадоў ужо пачуў, як камякі зямлі сыплюцца на вечка тае скрынкі, у якой яго апусцілі ў зямлю. 25 гадоў і 64 гады. Ледзь не на сорак гадоў перажыў... Вершаў так мала, што я магу іх усе і памясціць у гэты дзённік і гэта зойме зусім мала месца.

*[Далей змешчаны вершы М. Танка ў наступнай паслядоўнасці: "Паслухайце, вясна ідзе..." (1937), "Матыль" (1937), "Далёкі снег" (1953), "Свавольнай была маладая суседка..." (1961), "Цот ці лішка" (1952), "За тое, што я лішні круг..." (1953), "Я знаю яе" (1957), "Быццам па няроўнай" (1960), "Заліла верхаводка..." (1963), "Апала зорка, і на міг..." (1945), "Ляжаць пакошаныя травы" (1946), "Ave Maria" (1957), "Пчаліны звон" (1956), "Касманаўт" (1962), "Тасцінец" (1962).]*

Да гэтых вершаў можна далучыць яшчэ "Песню кулікоў"[14] і "Смаленне кабана"[15]. Вось і ўвесь Максім Танк, што тычыцца вершаў. На шчасце, ёсць у яго яшчэ і вельмі-вельмі прыстойная паэма "Янук Сяліба"[16]. Калі б гэтая паэма была напісана з багаццем непаўторных дэталяў, яна б магла быць і такім творам, ад якога жмурыш вочы. Гэта, бадай што, адзін узлёт Танка.

Чым жа Максім Танк займаецца зараз? А піша ён так званыя нерыфмаваныя вершы. Я іх не раз некалі пісаў і ведаю, як яны пішуцца. Паэт сядзіць звычайна за сталом і задае сабе пытанне: пра што б сёння напісаць? Пра гадзіннік, пра карабок запалак, пра пустазелле ў полі, пра ракету, пра атам, пра мікроб... Ён можа пра ўсё пісаць, але толькі не пра тое, што ляжыць у яго на душы... Толькі не пра сваё перажытае... А чаму ён не можа напісаць пра гэта? А таму што ён не можа, каб выліць на паперу сваё, перажытае, трэба тая самая дробязь, якой у паэта няма. Няма гэтай самай Дробязі ў яго, а без яе можна стаць нават Лаўрэатам Ленінскай прэміі, толькі нельга стаць паэтам... Піша Максім Танк вершы накшталт такіх:

**ПАД ХВОЯЙ**

Дзве пары лыжных слядоў
сышліся між сабою пад хвояй.
Недакурак на снезе ляжаў.
Значыць, тут быў нейкі курыльшчык.
Значыць, тут быў ён...
Некалі снег растане вясною
і можна будзе ўбачыць,
што пад хвояй
валяецца і прыколка...

Вось пародыя на ўсе тыя вершы, якія піша паэт.

*[1976]*

## МАЯ ПРОЗА

### Сустрэча з Шамякіным[17]. *Кастрычнік 1957 года*

Яшчэ ў лістападзе 1955 года, калі я працаваў фельчарам у Вышкаве, я напісаў аповесць памерам у пяць сшыткаў... Па маёй просьбе аповесць перадалі Шамякіну.

У кастрычніку 1957 года я ўпершыню зайшоў у тэлефонную будку і набраў нумар тэлефона, круцячы кружок з лічбамі. Голас класіка прагучаў у трубку:

– Зайдзіце.

Роўна а дванаццатай гадзіне я сядзеў у яго пакоі на мяккай канапе, і пакуль ён дачытваў апошнюю старонку, я ўзіраўся ў яго паласатую піжаму, у трохі пухлявы і жаўтлявы твар і стараўся адгадаць, што ж ён думае, дачытваючы радкі майго бессмяротнага твора.

Нарэшце на мяне зірнулі яго блакітнаватыя вочы:

– Вось што, я не бачу ясна акрэсленай думкі ў творы, а? Лявон, Максім, Васіль... Экспазіцыя твора разгортваецца правільна, фігуры размешчаны няблага, усё правільна: і тое, як Лявон становіцца шпіёнам, і як немцы дзяцей забіраюць донарамі... Адным словам, аповесць яўна партызанская, а? Дык навошта ж тады было адпускаць столькі мірнага часу, а? Тут ужо трэба ўменне зацікавіць чытача, а? (Класік пачухаў валасатую руку, крыху адсунуўшы рукаў паласатай піжамы.) А ты знаеш, гэта вельмі важна, каб чытач, прачытаўшы старонку, падумаў: а што далей. А? Трэба нейк адразу браць чытача ў палон. Другі піша-піша, і ніяк не ўцяміш, што да чаго... Вось хоць бы з нашых пісьменнікаў – Лынькоў[18]. Ох, і любіць пагаманіць стары. (Ён засмяяўся.) Чытаеш яго, чытаеш, ды так і нельга дабрацца да галоўнай думкі, а? Цяпер я хацеў бы табе сказаць наконт тваіх ворагаў. Занадта ж яны ў цябе прамалінейныя. І да ворагаў трэба другі падыход. А можа, хто-небудзь з іх і да забойстваў адносіўся інакш... Мы ўсе грашылі прамалінейнасцю. Я вінаваты ў гэтым. Клімковіч[19], дарэчы, нябожчык ужо, усе свае пасляваенныя апавяданні напіхваў такімі забойствамі, стрэламі... Праўда, пра нябожчыка і грэх так казаць, але ж... Я і сам, калі пачаў пісаць перад вайною, напісаў пра шпіёна. Лынькоў нават паабяцаў надрукаваць маё апавяданне ў “Полымі рэвалюцыі”, а якраз вайна наскочыла, рукапіс загінуў, адказ яго захаваўся... Сюжэт таго апавядання помню нават цяпер. Усе мы пісалі пра гэта, але мяне такімі сюжэтамі, такімі сцэнамі зараз не здзівіш, бо я і сам нямала пісаў так, а? (Ён хрыпла зацягнуўся смяшком.) А калі што і добра ў цябе, дык гэта сцэны пра мірны час. Я калі чытаў іх, то яны мяне цікавілі ўсё болей і болей. Я ўжо нават і думаў, што аповесць і будзе развівацца ў такім плане, аж тут яе перабіла вайна... Трэба ж было адразу і пачынаць з гэтага... Вось у мяне ў “Глыбокай плыні”[20] адразу ж дзеянне і пачынаецца з вайны: Таццяна на пераправе. А калі пісаць па-твойму, дык цэлага паўрамана трэба адпусціць пра мірны час... Навошта так, а? Лішняе трэба адкідаць. Трэба імкнуцца да кампактнасці. Ты чытаў мае “Крыніцы”[21], а? Я вось быў у Маскве. Талковы рэдактар рэдагаваў пераклад на рускую мову[22]. Прачытаў ён тэкст і кажа: “А навошта табе гэтыя сцэны?” Я падумаў-падумаў і – выкінуў. Кніга атрымалася танчэйшая крышку, але яе прыемней чытаць.

Іван Пятровіч увесь час гаварыў, гаварыў, а я стараўся запомніць кожнае слова яго.

Чаго-чаго толькі не гаварыў ён! Пра тое, як некалі ў маленстве прачытаў сорак тамоў Ляскова[23]. Пра тое, як цяжка было дастаць яму новую кнігу. Пра тое, як адна аповесць яго блукала па рэдакцыях, ды так і засталася ненадрукаванай.

– Дык вы кажаце, што з маёй аповесці можна зрабіць рэч? – уклініўся я ў паўзу, каб гаворку накіраваць па неабходнай мне дарозе.

– Я ўжо гаварыў, што можна, можна. Ты валодаеш вельмі добрай мовай. Правільнай, беларускай. А галоўнае: у цябе ёсць адчуванне слова. Я прыйшоў к вываду, што той, хто валодае гэтым адчуваннем, становіцца пісьменнікам. Чытаў апавяданні Паўла Кавалёва[24]? (Ён хрыпла засмяяўся.) І праблемы аўтар узнімае, а к адчуванню слова – дурны як пешка. Пык-мык і ні чарта не атрымліваецца. Калі маеш жаданне, дапрацуй аповесць, толькі адразу трэба разгарнуць дзеянне... Вайна ў цябе апісальна паказана.

Іван Пятровіч пераключыў гаворку пра Рабіндраната Тагора[25], пра яго паэзію.

– ...паэзіі ў нас не чытаюць, гэта праўда, – згадзіўся ён са мною. – Ну, хай беларуская паэзія не вельмі, але ж класічная руская... Ды і то – Васілія Цёркіна[26] любяць за сюжэт.

Маленькі, куцы чалавек і вялікі класік пачухаў зноў валасаты локаць сваёй рукі, пазяхнуў, пацягнуўся за сталом, як кот.

– Я вось напісаў п’есу[27], паслаў на конкурс. Пабачым, што атрымаецца. Першы блін – комам... Ну, нічога...

Гаворка вялася зусім пра другое, і я нясмела прамовіў, што буду працаваць над аповесцю.

– Ах, чуць не забыў! – Іван Пятровіч раптам прыпомніў магутную сілу маёй Алесі. – Калі яна ў цябе такая здаровая, што хапае гітлераўца і падымае яго ўгору і бразгае яго як камень аб камень, калі яна ў цябе такая, дык ці можа яна быць такой прыгожаю, а? Трэба пачуццё меры. Хаця і то праўда, што наконт прыгажосці Талстой гаварыў: двараніну трэба тоненькая, стройненькая фігурка, а мужыку – во, баба! (Ён паказаў рукамі – якая і засмяяўся.) Дык ці не зблізіліся гэтыя два пункты ў сучасны момант, а? Ты зірні на вёску. Які-небудзь вясковы хлопец, а ён выглядае сабе дзяўчыну стройную, а?

Іван Пятровіч прапанаваў мне падняць адной рукою тоўстае крэсла, каб даказаць мне, што, надзяляючы такою сілаю сваю гераіню, я перабаршчыў.

– Не падымеш гэтага крэсла, – упэўнена заявіў ён. – Не толькі ты не падымеш, а нават Янка Брыль не падыме.

Я выйшаў з кабінета, зайшоў у сквер імя Янкі Купалы. Трапятала над галавою жоўтае лісце, я сядзеў, перачытваючы сваю аповесць і ўжо сам не ведаў: падабаецца яна мне ці не...

---

Зараз верасень тысяча дзевяцьсот семдзесят дзявятага года. Мінула дваццаць чатыры гады з тае пары, як напісана гэтая аповесць... Зараз я, аўтар трох ненадрукаваных раманаў, знішчу гэтую аповесць, але некалькі ўрыўкаў з яе наклею на гэты дзённік.

Вось першы ўрывак. Ён вельмі ж напамінае сабою прозу Кузьмы Чорнага[28]. Нават прозвішча Нявада ўзята з рамана "Пошукі будучыні". Што ж тычыцца самой чорнаўскай прозы, то наўрад ці знойдзецца лепшы раздзел ва ўсёй яго творчасці, чым той, якім пачынаюцца яго "Пошукі".

## МЁРТВЫ ХВАТАЕ ЖЫВОГА

***Аповесць***

Мікалаеўка – сяло вялікае. Пасля рэвалюцыі хутары мала-памалу пачалі зносіць і, як успамін, на месцы іх высяцца плоймай старыя грушы-дзічкі. Адну з цэнтральных сядзіб сяла займае хата Нявады. Ажаніўся ён другі раз на здаровай рабой Тэклі, страціўшы жонку і дзяцей у 1914 годзе. Тая таксама не мела ні кала, ні двара, увесь час перабівалася то ў маёнтку, то ў багацейшых хутаранінаў. Як пачалі жыць разам – разжыліся. Камень за доўгі час абрастае мохам, чалавек – жыллём. Па ўсёй ваколіцы хадзіла гамана, што нідзе не знайсці дужэйшай жанчыны, чым Тэкля. Першыя вянцы хаты магла яна класці сама, без мужчынскай дапамогі. Ну, затое і дзеці нараджаліся – дзіву дайся. Першы сын Мікалай праславіўся тым, што свабодна браў пад паху два дзесяціпудовыя мяшкі і праносіў па ўсёй вуліцы сяла. Ён пайшоў у прымы за многа вёрст адсюль. Такі ж удалы быў і меншы Змітрок. Але галоўная радасць маці была, калі нарадзілася дачка Алеся. З таго часу прайшло пятнаццаць год і дзяцей у Нявадавых не было. У саракавым годзе Змітрака забралі ў войска, дома засталіся ўжо пастарэлыя Нявадавы і дачка. З пятнаццаці год адчула і Алеся кіпучую сілу сваіх братоў, і аднойчы на адзіне, каб ніхто не бачыў, паспрабавала яна паднімаць дзесяціпудовы мех, і падняла без асаблівых намаганняў. "Якая ж я буду дужая, калі вырасту, калі мне прыбавіцца пару годзікаў!" – падумала яна тады і жахнулася. Сем класаў так і не закончыла; асталася працаваць у калгасе даяркай. [...]

– Выганяй!.. Я-я-я-й! – малады мужчына знарок забаўляўся сваім голасам.

Уладальнік яго не любіў застойвацца на адным месцы і не чакаў, покуль выгане карову нерастаропная жанчына. Але тут ля весніц Нявадавага дома ён прыпыніўся, паўзіраўся ў зачыненыя акяніцы, сказаў "Выганяй!" і кінуўся ў двор. Па драбінах узлез на нізкія і пакатыя сенечкі і пачаў чакаць. Зараз павінна выйсці Алеся. Ён спрытна саскочыць на зямлю і перапалохае яе да смерці. Старая Нявадзіха ўчора збіралася ехаць да сына Мікалая, і таму Алеся адна. Бацька спаць будзе. О, Лявон скарыстае гэты момант! У хаце штосьці прашамкала. Зараз выйдзе яна. Толькі гэта падумаў Лявон, як з хаты выйшла... Тэкля. "Старая качарга", – зазлаваў Лявон на самога сябе і на ўвесь гэты свет, які падбіў яго забрацца на сенечкі. Глянуў Лявон на вуліцу і абамлеў: некалькі кароў заскочыла ў двор да цёткі Марыны і пачалі разбрыдацца па азіміне. Як выскачыць з свайго наглядальнага пункта?

– Ліха матары, дзе той пастух? – заламіла рукі Марына, убачыўшы нечаканую патраву. З хаты выскачыла яе дачка Насця і, схваціўшы ёмкі дубец, пачала прыгаць па гародзе. Каровы кінуліся ўрассыпную. З хат павыскаквалі яшчэ гаспадары. Узнялася калатэча. І як на тое зло Нявадзіха стаіць ля веснічак і ў хату не ідзе. Пастаяла і пайшла ў хату. У момант вока Лявон быў на вуліцы.

– А каб ты праваліўся, а каб ты не дачакаў ні свету, ні людзей, ні зямлі етай грэшнай! – крычала Марына.

– Цётка, бойся ўсявышняга і не гавары лішняга.

А вось кавалачак прозы пахне Якубам Коласам:

Ціха скрыпнулі дзверы. Ад клуба чуліся гукі гармоніка. Ноч стаяла цёплая, парная. Алеся рушыла па вуліцы сяла. Але чамусьці ногі яе не слухаліся. "Што ж гэта са мной робіцца?" – падумала яна і прыхінулася да плоту. "Ці кахаю я каго-небудзь?" – запытала яна зноў сябе і здрыганулася ад нечаканага выніку. Няўжо? Няўжо яна нікога-нікога не кахае? А Лявон? Ты хіба забылася пра яго!? Не, я нават не думаю пра яго. А аб кім жа ты думаеш? Ні аб кім. Ёй раптам захацелася, каб быў той, аб кім трэба было думаць, хто б змог падысці да яе і сказаць кароткае і хвалюючае "Ідзі за мной!" І яна пайшла б не азіраючыся і аддала б таму чалавеку самае дарагое багацце – каханне. Але таго чалавека няма і, магчыма, па-віне гэтай вясковай вуліцы, па віне самога жыцця, ці самой сябе. Ёй захацелася раптам вырвацца да іншай плыні жыцця, каб пазнаць яго радасць. Там...

Якой жа вялікай прозаю здаваўся мне гэты ўрывачак!

– Якая з цябе карысць? Як з казла малака. Вось каб ты навучыўся вышываць, можа б і быў які толк! Знаеш, вышый мне разбітае сэрца на хусцінцы – трэба хлопцу падарыць аднаму!

Апошнія словы ўскаршунілі яго. Крумкачовыя вочы-нажы бліснулі пагрозна. А яна расцвіла недасяжнай усмешкай. Ён схваціў яе руку і прынік да яе вуснамі. І самае страшнае для яго было ў тым, што яна не аднімала сваёй рукі. Калі ён узняў абнятыя надзеяй вочы, то ўбачыў, як яна ўсміхнулася над ім, кацёнкам, усмешкай ільвіцы.

– Не любіш ты мяне, відаць! Лізнуў усяго два разы маю руку, мала-мала... На вось гэтую...

А вось перажыванні Лявона, які толькі што пабачыў свайго забітага дзядзьку. Забіў жа дзядзьку Лявонаў бацька – Паўлюк. Гм, вельмі і вельмі непагана. Дастаеўскі[29] некалі перакачаваў да Чорнага, а ад Чорнага да мяне.

Лявон нічога не бачыў, нічога не чуў перад сабою. Са страхам ён прыбліжаўся

да апусцелага парога роднага дома. О, як жаласліва заплакала калітка зачыненай брамы! Сабака Жук весела кінуўся лізаць яму рукі. На стале валяліся ў нейкім бязладдзі бутэлькі з гарэлкай... Ён зморана апусціўся на ўслон. Стаяла жуткая цішыня. Потым штосьці зашкрабала. З нейкай дзюры ў падлозе выскачыла велізарная крыса і гэтак жа спакойна знікла. Ён зайшоў у другую палавіну хаты. На акне, папаўшая ў сетку павука, забілася, затрапятала крыльцамі муха. Ён зноў сеў на ўслон і глянуў на сцяну – адтуль з фатаграфіі пазіраў бацька. Поўны твар, чорныя вусікі. На пінжаку відзён быў ланцужок ад гадзінніка. Лявон стаў углядацца ў партрэт і з жахам убачыў, што бацькавы вусікі заварушыліся, бацька ўсміхаецца і... рагоча, аж заходзіцца і... выпівае раптам шклянку крыві. Вось яго твар робіцца крываваю плямай і ўжо зусім не відно твару. Нехта дзесьці плача... Хто ж гэта такі? Дзе ён чуў гэты плач?.. Лявон услухоўваецца ў голас: плача цётка Марына. “Не плачце, цётка!” – хоча крыкнуць Лявон, але хтосьці адабраў яго голас. Раптам перад ім з’яўляюцца бярозавыя венікі. Лявон бярэ іх і падае цётцы, ды з венікаў закапала і палілася кроў. Страшная крывяная пляма ўтварылася навакол, яна пачынае заліваць усё, яна прыбліжаецца да Лявона. Лявон уцякае, але шлях яму перагарадзіла зноў крывяная пляма.

Лявон ускрыкнуў, адчуўся ад забыцця – сабака Жук ліжа яму рукі. Праз раскрытыя дзверы хаты певень заскочыў і загаласіў. Следам за пеўнем у хату ўскочылі куры і дзяўбуць крошкі на стале. Дзесьці ў кутку...

Бацька Лявона вызваліўся з-пад абломкаў цягніка, які бамбілі немцы, і прыйшоў да сына. Гаворка пахне Кузьмом Чорным.

– Мне Гімлер абяцаў маёнтак, Лявон...

– Маёнтак-то ён абацаў, але не абяцаў, ці будзе цэлай галава, а калі і абяцаў, то не ад яго залежыць... – сказаў на гэта Лявон.

– Эх, сын! Мы зажывем з табою, як у раю. Чаму ты такі, ад бацькі нос адварачаеш? Ты можаш быць спакойны, я знаю, што цябе дзяржыць у Нявадавых!.. Алеся! Мо скажаш няпраўду? Галава зялёная! Ды тут устанаўліваецца новая культура, сюды будуць прыязджаць і дзівіцца на гэты край немкі. Мы будзем маць такіх сабе баб, што Алеся твая ля іх будзе хадзіць і г... выносіць... А калі хочаш яе маць за паню, то возьмеш і яе. Табе ўсе будуць біць паклоны, калі сядзеш у фаэтон і паедзеш па вёсцы... Старыя дзяды будуць перад табою агаляць свае лысіны. А калі захочаш гарэлкі, то... табе тут не самагонка, а віны, а наліўкі розныя, якіх ты і не сніў, і не бачыў... Ну, што апусціў галаву?

– Каб жа яно было так! – глуха адказаў Лявон, і натхнёная прамова бацькі заараніла ў яго душу нягаснучую іскру.

А вось дыялог, пад якім мог бы паставіць подпіс сам Міхась Ціханавіч Лынькоў:

Усе, хто быў, слухаючы, як спявае Нявадзіха старасту, ехалі з рогату. П’янаваты Дубовік не дужа ўслухоўваўся ў гаворку. Сяк-так яго зацягнулі за стол і налілі яшчэ гарэлкі. Дубовік напіўся і пацяшаў усю кампанію. Ён лез цалавацца да Нявады.

– Піліпка, хто я?

– Цюцік.

– Праўду ты кажаш, дай я пацалую цябе за ета.

– А хіба цюцік цалуе чалавека?

– Не.

– А каго ж ён павінен цалаваць? – пытаў Нявада.

– Сучку.

– А ў якое месца?

– Пад хвост, Піліпка...

Ужо ўсе паразыходзіліся, разносячы пошапкам па хатах п'яныя оргіі нямецкага паслугача.

А вось зноў гумар Міхася Ціханавіча Лынькова:

...Не паварочваючы галавы, Алеся шапнула Лявону:

– Ты схавайся за дровамі тут, а я пайду ім насустрач...

У Лявона ўсё замярцвела ўнутры.

Алеся ішла насустрач. Старая кошка выскачыла з сенечак і пабегла па двару. Фашыст зняў аўтамат і стрэліў па кошцы.

– Дзе твой мужык? – Ларывончык сіпеў ад злосці.

– У сваю хэўру зацягнуць хочаш? – рубанула Алеся.

– Падлюка! Малі бога, што пан (ён кіўнуў галавой на фашыста) замужніх не чапае!

– Такі пан, як і ты – баран...

Невядома, чым бы закончылася гэтая гутарка, калі б раптам на дрывотні не загрымелі дровы па старым, іржавым вядру. Гэта Лявон, напалоханы да смерці кароткай аўтаматнай чаргой, так дрыжэў, калі лез за гурбу дроў, што яны ашурыліся. За хату кінуўся Ларывончык.

– Рукі ўгору! – штык упіраўся ў грудзі.

– Ларывончык, гэта ж я...

– Ха-ха-ха! Знаю, што ты! На расстрэл павядзём!

– Ларывончык, міленькі... мы ж... выпівалі з табой!

– А зараз маіх дзевяць грам вып'еш!

– Ларывончык...

– Страляю!

– Я выла́жу, я выла́жу... Не страляй! – заскуголіў Лявон, калі Ларывончык ляснуў затворам вінтоўкі. Яму здалося, што застрэлілі Алесю.

Калоцячыся, нібы ў ліхаманцы, Лявон падняў угору рукі, але картовымі штанамі, як вылазіў, зачапіўся за жалезны крук... і разадраў штаны. З распарэхі вытыркала тое, чаго, звычайна, саромеюцца дзяўчаты. У такім выглядзе, баючыся апусціць рукі, Лявон з'явіўся перад гітлераўцам і Алесяй. А ззаду, наставіўшы вінтоўку, крычаў Ларывончык:

– Рукі ўгору трымаць! Страляю!

Гітлеравец убачыў і дзіка зарагатаў.

А вось ваенныя хітрыкі. Справа ў тым, што пасля гэтага плявання Лявон як патрыёт прыгадзючыць да партызан і будзе шпіёніць:

– Будзеш служыць нам? – раздалася рэзкае пытанне (перад натоўпам людзей).

Лявон горда ўзняў галаву і... плюнуў у твар каменданта.

– Узяць яго! – закрычаў пабялелы камендант. Да Лявона першым кінуўся паліцай Ларывончык. Ён быў п'яны і хістаўся на нагах. Лявон выхваціў з рук Ларывончыка вінтоўку і ўсадзіў яму ў грудзі штык. Гэта адбылося так нечакана, што ўсе ахнулі.

З дзясятак гітлераўцаў кінуліся на Лявона, звязалі яму рукі, білі прыкладамі. Звязанага і змучанага, нахлёстваючы бізуном, павезлі яго па Мікалаеўцы. І яшчэ, калі яго везлі, Лявон паспеў крыкнуць: “Прашчайце, людзі!.. Прашчай, Алеся!”

О, як павінна было замерці сэрца чытача, калі ён прачытае:

Гітлеравец убег у двор, трымаючы напагатове аўтамат. Ён убачыў бачонак з бензінам, пакулле, і яму здалося, быццам яго сабраты ў хаце рабуюць, перш чым яе падпаліць. Аб гэтым можна было меркаваць і па разбітай шыбе акна. Не раздумваючы і не гледзячы ні на каго, ён кінуўся ў хату, але, калі параўняўся з Алесяй, страшная Алесіна рука рванула аўтамат да сябе, а правая ўпілася ў горла. Гітлеравец упаў ля яе ног, нібы падкошаны.

– Алеся! Уцякай: ад Базыльчыхі ўчатырох ідуць! – ледзь не загаласіла цётка Марына.

– Цётка Марына, ідзі бяжы да людзей, скажы, каб разбягаліся... Калі ўзнаюць, жыцця не будзе. Трэцяга прыдушанага гітлераўца шпурнула ў акно і сама пабегла ў хату. Схапіла на камінку ў хаце пачак запалак, абліла бензінам пакулле і чыркнула запалкай. Чарвячкі агню пачалі распаўзацца па хаце. Падуў сільны вецер, і полымя выбліснула пад крышу. Непадалёку гергеталі фрыцы. То там, то тут раздаваліся аўтаматныя чэргі. Алеся схапіла аўтамат і, не ведаючы, як ім дзейнічаць, паспрабавала націснуць на спускавы кручок – раздаліся два аўтаматныя выстралы.

А вось яшчэ:

– Хлопцы, трымайся! Жывымі не здамося!

У хату да старасты (яны былі ўпэўнены, што тут нікога няма) ішлі два фашысты. Стараста выхваціў сякеру і прыкончыў іх на парозе хаты. Адзін аўтамат даў жонцы, а дванаццацігадовы сын са слязамі на вачах пачаў выпальваць другі аўтамат, так не хацеў хавацца пад падлогу. У момант вока Максім Баравы і яшчэ адзін малады партызан закідалі чым папала вокны, вырашаючы прыняць бой.

У хату ўжо ішлі і гергеталі між сабой чатыры немцы.

– Хлопцы, вырвемся на вуліцу! Закідаем іх гранатамі! – скамандаваў камбрыг.

Дзве гадзіны працягваўся няроўны бой.

Калі пачала палаць хата і палаючая сцяна гатова была абваліцца, Трахім застрэліў сваю цяжка параненую жонку і маленькага дзіця. Апошнюю кулю камбрыг палічыў лепш паслаць у ворага, чым пусціць у сябе. Хутка абвалілася палаючая страха. Пажар перакінуўся на другія хаты, і на месцы іх яшчэ доўга дыміліся папялішчы...

І яшчэ:

...Гімлер адкрывае свае вочы-карыта і пачынае паласкаць у іх анучу Лявонавай душы.

– Прабраўся да партызан?

– Так, пане камендант...

– Дзе яны размяшчаюцца, якая зброя, колькі яе, колькасць чалавек, што яны загадалі табе даведацца ў нас?.. Усё! Усё! Усё!

Лявон расказаў.

– О, фюрэр цябе не забудзе... Ты будзеш мець свой маёнтак, слуг... Ты хочаш мець свой маёнтак, а?

– Я хацеў бы, пане камендант...

– Пане камендант! Выбачайце, што мой сын такі няўдзячны вам, але ён будзе старацца, пане камендант! – Паўлюк Дубовік сіліўся нацягнуць на твар ідыёцкую ўсмешку.

– О, я веру! Для такіх людзей у нас загатоўлена будучыня!

“Загатоўлена труна!” – падумаў Лявон, і ў яго па целе пабеглі мурашкі.

Як жа пасталела мая рука ад тае далёкае пары, калі летам 1950 года я напісаў сваё першае апавяданне “Кніга”:

Міколка да болю ў руках сціснуў спінку крэсла.
Фашыст ірваў перад ім на шматкі кнігі.
Раптам Міколка ўбачыў, што фашыст узяў тую кнігу.
“Яна!” – пранеслася маланкаю ў галаве хлопчыка.
– Не дам гэтай кнігі! – Міколка вырваў яе з рук фашыста.
Аўтаматная чарга ўрэзалася ў хлопчыка.
Фашыст каваным ботам павярнуў яго акрываўленае цела.
З рук яго выпала Сталінская канстытуцыя[30].

Як жа пасталела мая рука, калі ўспомніць, як я пісаў:

Жніво.
. . . . .
Рабяты падышлі да камбайнера.
– А дзе хедэр?
– А, дзядзя Анціп, вы будзеце жаць?
– А дзе штурвал камбайна?
Хутка камбайн залязгаў сваімі калёсамі і рабяты з настаўніцаю пачалі збіраць каласкі...

Рука пасталела, але наперадзе яшчэ будуць пісацца і знішчацца апавяданні, а недзе ў 1962 годзе будуць напісаны два сцэнарыі...

Будзе лета 1963 года, калі слёзы будуць стаяць на вачах ад бяссілля... Ах, як здорава піша Цвэйг[31], а я?

І недзе ў 1965 годзе ўрэшце будзе напісаны першы раман[32].

Але і ён яшчэ не задавальняе мяне цалкам. Толькі паасобныя раздзелы з яго скарыстаю я.

*[Верасень 1979]*

## МУЗЫКА І ЦЫРК

Слова – гэта архітэктура. Твор можа ўразіць класічнай строгасцю сваіх ліній, і твор можа быць напышлівым і парадным, як каралеўскі палац у стылі барока.

Слова – гэта скульптура. Са звычайных слоў, нібы з мармуру, можна высечы сучасную Венеру Мілоскую, якая шпарыць цягнікам на цаліну.

Слова – гэта жывапіс. Шмат хто, блукаючы па Трэцьякоўскай галерэі, спыняецца перад Левітанаўскай “Уладзімеркай”, “Залатой восенню”, “Сакавіком”[33], спыняецца і ўсклікае: “Ды гэта ж Антон Паўлавіч Чэхаў жывапісу!”

Слова – гэта харэаграфія. Па законах рытму рухалася гусінае пяро і рухаецца зараз шарыкавая ручка паэта, празаіка, драматурга і крытыка.

Слова – гэта фатаграфія. На трыбуну Трэцяга ўсерасійскага з’езду прафесіянальных саюзаў 7 кастрычніка 1920 года, не ведаю ў колькі гадзін, хвілін і секунд падняўся Уладзімір Ільіч. “Диктаторская власть и единоличие не противоречат социалистическому демократизму”, – вымавіў ён, а стэнаграфістка навекі вечныя прымацавала яго слова да паперы.

Слова – гэта графіка. Графічна строгі аўтар “Па кім б’е звон”[34]

Слова – гэта музыка. Нібы з зорнай вышыні, прабіваючы тоўшчу тысячагоддзяў, вечна будуць свяціць сваім нашчадкам вочы цвэйгаўскай незнаёмкі і ў душы чытача будзе гучаць “Песня Сольвейг” Грыга[35].

Слова – гэта цырк. “А луна канула”[36] – піша адзін сучасны вершатворца, і радок яго верша можна чытаць злева направа і справа налева, як і слова “казак”.

Слова – гэта агонь і пажар. Калі яно шматмільённа забушуе ля станкоў у цэхах і ля плугоў на палях, ім, словам, як запалку можна спаліць імперыю, здавалася б, такую магутную і непрыступную.

Слова – гэта тое, што гавораць тады, калі “маўчыць піраміда Хеопса”.

Словам, слова ўвасабляе ў сябе і ўсе віды мастацтва, і наогул усё.

Але мне хочацца спыніцца зараз на дзвюх якасцях, якімі валодае слова: на музыцы і на цырку.

Музыка! Нават калі не завостранае рыфмаю слова можа гучаць летуценнямі Шумана[37], то што ўжо гаварыць пра слова, якое завострана. Каго не паланіла пяшчотная мелодыя гукаў таго паэта, у якім, нібы ў люстэрку, Расія ўпершыню ўбачыла самую сябе.

[...][38]

Мелодыя першых вершаў дакранаецца да мяне як бліскучае месячнае трымценне, якое вырывае на соннай і цёмнай завадзі белыя пялёсткі лілей, яна дакранаецца, як спелая бронза каласістых хваль, над якімі ў чыстым блакіце срэбразвоняць трапяткія кропкі, махаючы крыльцамі. Музыка ж апошняга верша – гэта чалавечы крык у снежных віхурах, гэта крык у пякучым завыванні марозных д’яблаў. Нездарма музыка яго надрывала Дастаеўскага, калі ён працаваў над раманам “Бесы”.

Калі думаеш пра музыку вершаў, нельга не думаць пра Блока[39]. Прымушае схіліць галаву яго музыка-рэквіем. У глыбокай жалобе павольна, няўмольна і несупынна плывём мы, людзі-рэкі, да таго Вечнага Акіяну, да якога плывуць, каб растварыцца ў ім, і эпохі, і народы, і рэвалюцыі, і нават наша планета, і нават наша галактыка.

[...][40]

Па-някрасаўску бязлітасна, сатырычна запяваецца блокаўская “Незнаёмка”, і раптам нас зачароўвае, закалыхвае сонечная пяшчота музыкі.

[...][41]

Як часта заядаюць дробязі жыцця! Заробак – з макавае зерне, а ў гэтае зерне трэба ўціснуць і цёплыя боты жонцы, і дачцы – сукенку, і квартплату... А да ўсяго гэтага ад неасцярожнага дотыку дзынкнула на падлогу крыштальная ваза і зламалася яе ножка... Нафарбованыя сінню жончыны вочы журацца: і ваза-то не яе, а суседкі... Як яна пастарэла за апошнія гады! Сысці б куды-небудзь з хаты, але куды? З балконнай вышыні відаць, як павольна плыве яна. Успыхваюць завушніцы на макавінках яе вушэй, тонкі і гнуткі стан абкругляе блакітны шоўк, рытмічна патукваюць абцасікі туфляў... І пазіраючы на яе ў душы нараджаецца знаёмая блокаўская мелодыя, і вусны шэпчуць яго радкі: “...и очи синие бездонные цветут на дальнем берегу”. І хочацца бегчы, бегчы за ёю, але яна растала, і толькі злёгку трапеча зелень ясакараў і ліп, якая паглынула яе... Але з ёю яшчэ можна сустрэцца... І шэпчуць вусны радкі блокаўскага верша “У рэстаране”: [...][42].

У пачатку дваццатага стагоддзя паэтычнае слова раптам набыло новую якасць: яно стала цыркам. Музыкаю верша ўдоволь налюбаваўся Вісарыён Рыгоравіч[43], што ж тычыцца верша-цырка, то яго ўвагу хіба толькі мог спыніць радок Дзяржавіна[44]: “Я иду с мечем судия”. Радок гэты можна чытаць злева направа і справа налева. Цырк – гэта мастацтва акрабатыкі, эквілібрыстыкі, жангліравання, дрэсіроўкі жывёл... А што калі слова ператварыць як бы ў сабачку і прымусіць яго гаўкаць? Ператварыць у слана яго і прымусіць гэтага слана пад рытм музыкі дырыжыраваць? Аказваецца, са словам можна зрабіць усё. З яго можна выдзеліць корань і дабавіць які-небудзь новы суфікс і прыстаўку і ўтварыць слова-сабачку і слова-слана. Аказваецца, можна змайстраваць нават цэлую паэму, якая будзе

чытацца гэтак жа, як радок Дзяржавіна. Велімір Хлебнікаў упершыню палажыў слова пад павелічальную лупу і мікраскоп і пачаў драбіць яго. Атрымаліся асколкі, за якія ўхапіліся потым Маякоўскі, Кірсанаў, Вазнясенскі... Матэматык, гісторык і філолаг Велімір Хлебнікаў ездзіў на дахах вагонаў у гады грамадзянскай, качаўся ў тыфозных бараках, спаў на падушцы, набітай замест пер'я сваімі вершамі...

"Я не люблю Маякоўскага, я люблю Ясеніна[45]", – ад каго толькі можна не пачуць гэтыя словы. Але ж сказаць так – гэта ўсё роўна, што сказаць: я не люблю цырка, я люблю музыку... Канечне, да музыкі мы звяртаемся часцей, але ж сядытады заходзім і ў цырк, і гэтыя хвіліны, калі мы глядзім на арэну, таксама даюць нам асалоду, ды яшчэ і якую.

Вось некалькі вершаў з паэзіі-цырка Маякоўскага.

[...][46]

Давайце прыгледзімся да верша "Хорошее отношение к лошадям". Паэт ранены адзінотаю! Як жа не разумеюць яго! Хіба не хочацца яму, каб яго, як таго каня, не сцябалі насмешкамі, калі ён спатыкнецца і ўпадзе?.. Але Лермантаў таксама ранены адзінотаю! Якая ж вялікая розніца між "Выхожу один я на дорогу..." і вершам Маякоўскага! Калі рана Лермантава – гэта жывапіс, то рана Маякоўскага – гэта шарж. Жывапіс супрацьпаказаны паэзіі-цырку. На яе долю застаецца сатырычнае, дабрадушна-гумарыстычнае адлюстраванне свету. Слоўныя карыкатуры Маякоўскага! Чым яны адрозніваюцца ад карыкатур Кукрыніксаў? Ды гэта ж адно і тое ж! Пачуццё "бренности" ўсяго зямнога выказаў і Блок у вышэйцытаваных намі вершах: "...Миры летят...", "...Ночь, улица, фонарь, аптека..." і "Похоронят, зароют глубоко...". Але хіба не аб тым жа гаворыць Уладзімір Уладзіміравіч у сваёй "Мелкой философии на глубоких местах"? Але зноў такі ў межах сваёй паэзіі-цырка, не могучы парушыць яе законаў, як эпіграмна, як іранічна, з якім гумарам глядзіць Маякоўскі на гэтую "бренность"!

Паэзія-цырк адлюстроўвае рэчаіснасць шаржыравана. Паэт можа намаляваць вобразы другіх людзей і самога сябе, але гэта будуць карыкатуры, "шаржы". З улікам магчымасцей паэзіі-цырка Маякоўскі і намаляваў свой вобраз, але вобразшарж. Яго паэмы і вершы расказваюць аб пакутах нераздзеленага кахання, але гэта ўсё той-жа расказ-шарж.

Мама!
Ваш сын прекрасно болен!
Мама!
У него пожар сердца[47].

І гэтыя, і шмат якія другія падобныя радкі малююць вобразамі-шаржамі. І калі б заставаліся для нас толькі гэтыя радкі, як бы мала яны гаварылі для нас пра ўсё тое, што прымусіла ў рэшце рэшт паднесці яго да сваёй скроні куцанькую і злавесную рулю. Так, Маякоўскі, не могучы вырвацца за межы паэзіі-цырка, не стварыў свайго вобраза ў такой земнай рэальнасці, як гэта зрабілі аўтары Анегіна і Цёркіна. Але за вобразам Анегіна не стануць некалькі тамоў успамінаў яго сучаснікаў, а за шаржыраваным Маякоўскім яны, гэтыя ўспаміны, стаяць. І ўспаміны гэтыя дапамагаюць нам пабачыць рэальныя рысы паэта...

Хочацца напомніць чытачу пра тое, як каханая не прыходзіла да яго і гадзіну і дзве на спатканне, спадзеючыся, што ён не будзе чакаць яе, але паэт "стоял со скрещёнными ногами, с папиросой, прилипшей к массивной нижней губе, поднятой головой, с пламеневшими от гнева глазами..."[48]. І была другая каханая, да якой ён пісаў: "Я не растекаюсь по бумаге (профессиональная ненависть к писанию), но если бы дать запись всех, моих со мной же, разговоров о тебе, неписанных писем, невыговоренных ласковостей, то мои собрания сочинений сразу бы вспухли втрое и все сплошной лирикой"[49]. Так, была яна, гэтая другая каханая, але не дазволілі

яму ўпершыню ў жыцці паехаць у Парыж на спатканне з ёю... І зусім неабавязкова, каб забіць чалавека, апусціць на яго галаву, скажам, бутэльку ад шампанскага, для гэтага трэба толькі не даць яму візы (“Огонёк” № 16 за 1968 год[50]).

Шмат прыемных часін можна правесці ў паэзіі-цырку ўжо пасля таго, як геніяльнага таленту не стала.

Хачу прывесці тут адзін з цудоўнейшых вершаў Сымона Кірсанава.

*[Прыводзіцца верш С. Кірсанава “Больничный сон”.]*

Цудоўнейшы прыклад, калі словам можна жангліраваць і можна прымусіць хадзіць яго па канату. І як маленечкі кавалачак золата можна расплюшчыць у шматмятровую пласцінку, так і слова можна расплюшчыць: “глазоухощёконосодышащее”. Вырванае з кантэксту, яно выклікае недаўменне, а ў самім тэксце – захапленне. А як цудоўна гучыць наватвор – “спящерицы”.

І ўсё гэта пачалося на нейкім даху вагона, на якім у тыфознай гарачцы ён, Велімір Хлебнікаў, выкрыкваў:

О, рассмейтесь, смехачи!
О, засмейтесь, смехачи!
Что смеются смехами, что смеянствуют смеяльно.
О, засмейтесь усмеяльно!
О, рассмешищ надсмеяльных – смех усмейных смехачей!
О, иссмейся рассмеяльно, смех надсмейных смеячей![51]
. . . . . . .

На арэне паэтычнага цырку выступае паэт “усяленскі” – Андрэй Вазнясенскі. Але кожны нумар яго чарговай праграмы ў выглядзе бясконцых кніжак не выклікае ў мяне захаплення. А між тым на самым пачатку як захаплялі яго цыркавыя нумары! Як гэта здорава: “Лобная баллада”, “Баллада работы”[52] і інш... Але такіх удач я нешта не помню на працягу многіх гадоў...

Музыка і цырк! Слова можа быць і тым і другім! Калі сустракаеш новага паэта, адразу відаць, дзе ён працуе... Ага, вы працуеце ў паэзіі-цырку? А ну-тка пакажыце мне, што вы ўладыка слова! Выступіце перада мною на цыркавой арэне! Эге, ды нешта вельмі заблытаны вашы нумары! Нешта вельмі ж яны незразумелы! Нешта ж яны не паддаюцца ўспрыманню! Паслухайце, а што калі гэта не вершы, а слоўны ананізм? Паслухайце, дарагі, а што калі вы хочаце ўкрасці ў мяне мой дарагі і такі неабходны мне час! А што калі вы не паэт, а злодзей? Нічога, даражэнькі, не атрымаецца ў вас. І кніжачкай вашай я падбадзёру рыбацкае вогнішча. А вы, даражэнькі, дзе працуеце? Вы хочаце зачараваць мяне музыкаю? Гм, цікава, цікава! А музыкі, аказваецца, няма ў вас, а ёсць скрыгат нейкае іржавае бляхі! І кніжка ваша рванецца насустрач сонцу, выкінутая з вагоннага акна!

І там і там паэты сустракаюцца вельмі і вельмі рэдка.

– Паспрабуйце ўсславіць адкрыццё компаса, і ў вас нічога не выйдзе! – упэўнена заяўляла нам паэзія XIX веку.

– А мы вам праспяваем не толькі пра компас, а нават і пра сметніцу (верш Маякоўскага “Плюй в урну”)! – грымотным басам заявіла нам паэзія XX веку.

Сродкамі музыкі і на самай справе нельга гаварыць ні пра компас, ні пра сметніцу, а вось сродкамі цырка можна гаварыць і пра гэта. Чаму ранні Маякоўскі падабаецца многім болей? А таму што яго вершы там падуладны законам цырка поўнасцю. У ранняга Маякоўскага ўваходзіш нібы ў пакой смеху, дзе па-рознаму выпуклыя люстры могуць даць вам “чалавека без вока і нагі” і “чалавека без вуха” (персанажы яго трагедыі “Уладзімір Маякоўскі”). Больш позні Маякоўскі падабаецца многім меней, больш позні, ён як бы спрабуе скінуць з сябе гэтыя законы – гэта значыць прапанаваць сарваць са сваёй галінкі такі арэх, які не

мае ядра, а мае толькі шкарлупіну і зялёныя лісточкі, якія аблямоўваюць яе! Не спрабуйце такі арэх раскусіць! Ваш твар адразу ж перасмыкнецца, скрывіцца, і шпурнеце вы гэты арэх у яшчарку, якая паўзе па траве! Колькі такіх "арэхаў" у позняга Маякоўскага! Можаце, заплюшчыўшы вочы, тыцнуць у любую старонку і напароцца на што-небудзь такое:

Враг –
    разгильдяйство –
                    не сбито начисто.
Не дремлет
        неугомонный враг.
И вместо
        высокого,
                настоящего качества —
порча,
    бой,
        брак[53].

Там жа, дзе пра ўсялякіх там разгільдзяяў Уладзімір Уладзіміравіч апавядае нам у межах цыркавых законаў, там атрымліваецца здорава. Давайце ж яшчэ раз перачытаем яго такі славуты верш:

[...][54]

"Не знаю, как насчёт поэзии, а насчёт политики ручаюсь, что это совершенно правильно"[55], – гаварыў Уладзімір Ільіч.

"Не ведаю, як наконт паэзіі", – разгублена разводзяць рукамі перад Маякоўскім і зараз. Але наспеў час, каб даць ясны адказ на гэтае пытанне: Маякоўскі – паэт, які працуе ў паэзіі-цырку. У тых выпадках, калі ён спрабуе скінуць з сябе гэтыя законы, ён цярпіць няўдачу. Верш "Прозаседавшиеся" – адзін з цудоўнейшых яго цыркавых вершаў... Зноў тая ж знаёмая атмасфера, калі трапляеш у пакой смеху. Толькі ў гэтым пакоі і можна ўбачыць чалавека, які сядзіць на двух пасяджэннях адразу, толькі ў гэтым пакоі фраза "Яны на пасяджэнні главупрома" можа прагучаць як: "яны на пасяджэнні а-бэ-вэ-дэ-кома". І вось без гэтага "а-бэ-вэ-гэ-дэ" не можа існаваць паэзія-цырк, і гора таму паэту, які, выходзячы на арэну цырка, спрабуе гаварыць без гэтай прыстаўкі. Што можа быць незразумелым у гэтым цыркавым вершы? Абсалютна зразумела ўсё. І ў вершы Кірсанава, які я цытаваў вышэй, таксама ўсё зразумела. Ствараць цыркавы верш – гэта не азначае словамі ляпаць-мазаць па паперы як папала. Чым больш намазаў, чым больш незразумела, тым больш ты геній! Не, і ў паэзіі-цырку дзейнічае таксама свой закон прастаты, які парушаць не дазволена. У адваротным выпадку паэт застанецца толькі адзіным чытачом свайго верша.

Хачу спыніцца на партыйнасці Маякоўскага. "Но ничего нет хуже, когда поэт делается отголоском какой-нибудь партии: его удел доводить до смешного учение, которое ему навязано", – так пісаў некалі Вісарыён Бялінскі (Поўны збор твораў, том X, стар. 100). Я поўнасцю згодзен з Бялінскім, але я вымушаны тут сказаць яшчэ вось што. Партый існуе ў свеце на самай справе многа, але, акрамя іх, існуюць яшчэ дзве партыі – партыя сытых і **прозаседавшихся** і тая партыя, якая супрацьстаіць гэтай партыі. Няма неабходнасці пераконваць чытача, да якой з гэтых дзвюх партый належаў Уладзімір Уладзіміравіч. А належаў ён усё да той жа партыі, да якой належаў і Мікалай Аляксеевіч Някрасаў...

"Маякоўскі нічога не гаворыць майму сэрцу, а толькі майму розуму", – часта можна пачуць такі папрок. Ну што ж, правільна гавораць. І на самай справе, хіба мы ходзім з вамі ў цырк, каб пачуць там "Летуценні" Шумана? Не, мы ходзім туды, каб падзівіцца і надарваць жывот ад смеху. Ад паэзіі-цырка вы не маеце права патрабаваць летуценняў...

"Ай, я яго амаль ніколі і не чытаю", – можна зноў пачуць. Што ж, і тут правільна. Ці так ужо часта мы ходзім у цырк? Да музыкі, канечне ж, мы звяртаемся часцей. Але ўявіце раптам на хвіліну: паэзія-цырк знікла, яе няма? Хочаце вы таго ці не, але вы будзеце вымушаны прызнаць, што вам стане не па сабе, што яна, гэтая паэзія, неабходна, што яна заняла і ўжо навекі нейкі куточак у вашай душы.

Ёсць геніі-акіяны і ёсць геніі-моры. Ні да акіянаў, ні да мораў я не аднашу Маякоўскага. Далей ёсць геніяльныя таленты. Геніяльны талент скажа так, як толькі ён адзін можа сказаць. Гэта – рака. Канечне ж, Маякоўскі – рака. А за ракою звычайныя таленты цякуць рачулкамі і рачулачкамі...

Успамінаю залу, дзе сабраліся слухачы Вышэйшых літаратурных курсаў. Аляксандр Межыраў[56], нізкарослы і шырокі, з вялікім запалам чытае вершы Аляксандра Пракоф'ева[57] і пад канец гаворыць:

– Это пламенеющая риторика. Она имеет тоже право на существование.

Я не вытрымаў (хаця я быў у секцыі прозы, але зайшоў паслухаць паэтаў) і з месца задаў пытанне:

– Як вы лічыце, Маякоўскі геніяльны талент?

– Ох, цяжкае пытанне, – адказаў Межыраў. – У ім ёсць задаткі геніяльнага паэта... Але вось як з ім "распорядится время"?

У другі раз, калі былі заняткі па прозе, я гэтае ж самае пытанне задаў і пушкіністу-крытыку Яроміну М.[58]

Ён упэўнена адказаў:

– Геній? Усе гэтыя агіткі? Усе гэтыя мітынгі? Ведь у него ни разу мысли не воспарили над всей этой суетой...

Слухачы згодна züківалі галовамі.

Значыць, пытанне аб геніяльнасці Маякоўскага не такое і простае.

Але не трэба забываць, што першага, хто адкрывае Амерыку, не забываюць людзі. А Маякоўскі адкрыў нам цырк. Канечне, абмежаваны магчымасці гэтага цэху паэзіі, але што б мы значылі без яго... Бясспрэчна, гэта талент геніяльны (не блытаць з геніем). Яго ж паслядоўнікі проста таленты.

Пераймаць Маякоўскага вельмі лёгка, а развіваць цяжка.

*[1976;] 16 кастрычніка 1979 года*

---

[1] "Герой нашага часу" – першы ў рускай прозе лірычна-псіхалагічны раман, напісаны М. Лермантавым у 1838–1840 гг.

[2] Кніга "Усё нараджаецца з болем" (іншая назва – "Зерне пад каменем") была адхілена выдавецтвам ад друку, а аўтар абвінавачваўся ў "фальшывых пазіцыях у асвятленні сучаснага жыцця народа". Замест яе ў 1968 г. А. Наўроцкаму давялося выдаць зборнік інтымнай лірыкі "Гарачы снег".

[3] У лісце дырэктара выдавецтва "Беларусь" З. Матузава А. Наўроцкаму ад 17.01.1964 г. гэты верш згадваўся як прыклад шкоднай ідэйнай скіраванасці аўтара.

[4] Першыя варыянты паэмы друкаваліся ў час. "Маладосць" (1965, № 5) і кнізе "Гарачы снег" (1968); у далейшым А. Наўроцкі істотна дапоўніў твор.

[5] Стаўшая крылатым выразам цытата з паэмы Якуба Коласа "Новая зямля" (раздзел "Дзядзька-кухар").

[6] Карпаў Уладзімір (1912–1977) – празаік, крытык.

[7] Бачыла Алесь (1918 – 1983) – паэт, драматург, заслужаны дзеяч культуры Беларусі.

[8] Шкраба Рыгор (1919–1997) – крытык, літаратуразнавец.

[9] Аўрамчык Мікола (нар. у 1920) – паэт, перакладчык, празаік, заслужаны работнік культуры Беларусі.

[10] Вольскі Артур (1924–2002) – паэт, празаік, драматург, перакладчык.

[11] Пазней А. Наўроцкі ўжыў гэты вобраз у вершы "Пачатак" (1960–1961): *"І раптам дзіця закрычала. На ўсю Еўропу / Закрычала яно".*

[12] Сачанка Барыс (1936–1995) – празаік, перакладчык, выдавец.

[13] Упершыню апублікаваны ў час. "Полымя", 1957, № 6.

[14] Упершыню – у кнізе “На этапах” (Вільня, 1936).
[15] Упершыню – у кнізе “Мой хлеб надзённы” (1962).
[16] Упершыню выйшла асобным выданнем у 1943 г.
[17] Шамякін Іван (1921 – 2004) – празаік, народны пісьменнік Беларусі.
[18] Лынькоў Міхась (1899–1976) – празаік, народны пісьменнік Беларусі.
[19] Клімковіч Міхась (1899–1954) – паэт, драматург, празаік, крытык.
[20] “Глыбокая плынь” – першы раман І. Шамякіна, выйшаў асобным выданнем у 1949 г.
[21] “Крыніцы” – раман І. Шамякіна, выйшаў у 1957 г.
[22] Перакладчыкам быў А. Астроўскі.
[23] Ляскоў Мікалай (1831–1895) – расійскі празаік.
[24] Кавалёў Павел (1912–1995) – празаік, драматург, перакладчык, заслужаны работнік культуры Беларусі.
[25] Тагор (Тхакур) Рабіндранат (1861–1941) – індыйскі паэт, празаік, кампазітар, мастак, грамадскі дзеяч.
[26] “Васілій Цёркін” (1942–1945) – вядомая паэма расійскага паэта Аляксандра Твардоўскага.
[27] “Не верце цішыні” (упершыню – “Полымя”, 1958, № 5).
[28] Чорны Кузьма (сапр. Раманоўскі Мікалай; 1900–1944) – празаік, драматург, перакладчык.
[29] Дастаеўскі Фёдар (1821–1881) – расійскі пісьменнік, мысляр і публіцыст.
[30] Гл. таксама ў аповесці “Дома” (Наўроцкі А. Выбраныя творы. Мінск: Бел. навука, 2016. С. 181).
[31] Цвэйг Стэфан (1881–1942) – аўстрыйскі празаік і крытык.
[32] Маецца на ўвазе раман “Пазыка”, перапрацаваны пазней у аповесць “Дома”.
[33] Карціны расійскага мастака, майстра “настраёвага пейзажу” Ісака Левітана (1860–1900).
[34] Раман амерыканскага пісьменніка, лаўрэата Нобелеўскай прэміі Эрнэста Хемінгуэя (1899–1961).
[35] Грыг Эдвард (1843 – 1907) – нарвежскі кампазітар, піяніст, дырыжор.
[36] Паліндром А. Вазнясенскага.
[37] Шуман Роберт (1810 – 1856) – нямецкі кампазітар, педагог, музычны крытык.
[38] У арыгінале прыведзены вершы “Ночной эфир...”, “На холмах Грузии лежит ночная мгла...”, “Что в имени тебе моём?..”, “Бесы” А. Пушкіна.
[39] Блок Аляксандр (1880 – 1921) – расійскі паэт, публіцыст, драматург, перакладчык.
[40] Прыведзены вершы “Миры летят. Года летят. Пустая...”, “Ночь, улица, фонарь, аптека...”, “Похоронят, зароют глубоко...” А. Блока.
[41] Прыведзены верш А. Блока “Незнакомка”.
[42] Верш прыведзены цалкам.
[43] В. Р. Бялінскі (1811–1848), расійскі літаратурны крытык.
[44] Дзяржавін Гаўрыла Раманавіч (1743–1816) – расійскі паэт і дзяржаўны дзеяч эпохі Асветніцтва.
[45] Ясенін Сяргей (1895–1925) – расійскі паэт.
[46] Прыведзены вершы “Гимн критику”, “Хорошее отношение к лошадям”, “Вам!”, “Мелкая философия на глубоких местах” У. Маякоўскага.
[47] Цытата з паэмы У. Маякоўскага “Воблака ў штанах” (1914–1915).
[48] Цытата з успамінаў “Маякоўскі, рускі паэт” (1939) Эльзы Трыяле (1896–1970), французскай пісьменніцы, малодшай сястры Лілі Брык.
[49] Цытата з ліста У. Маякоўскага да сваёй каханай Тацціяны Якаўлевай ад 3 студзеня 1929 г.
[50] А. Наўроцкі спасылаецца на артыкул У. Варанцова і А. Каласкова “Любовь поэта”.
[51] Цытата з верша В. Хлебнікава “Заклятие смехом” (1908–1909).
[52] “Лобная баллада”, “Баллада работы” – вершы А. Вазнясенскага, напісаныя, адпаведна, у 1961 і 1959 гг.
[53] Цытата з верша У. Маякоўскага “Тревога” [1930].
[54] Прыводзіцца верш У. Маякоўскага “Прозаседавшиеся”.
[55] Цытата з прамовы У. Леніна “О международном и внутреннем положении Советской республики” на пасяджэнні камуністычнай фракцыі Усерасійскага з’езда металістаў 6 сакавіка 1922 г.
[56] Межыраў Аляксандр (1923 – 2009) – расійскі паэт і перакладчык. Шмат гадоў вёў паэтычны семінар на Вышэйшых літаратурных курсах пры Літаратурным інстытуце імя А. М. Горкага ў Маскве.
[57] Пракоф’еў Аляксандр (1900 – 1971) – расійскі паэт і журналіст.
[58] Яромін Міхаіл (1914 – 2000) – літаратуразнавец, крытык, прафесар Літаратурнага інстытута.

Анатоль Трафімчык



*...лірычны герой разважае, куды яму ісці па жыцці, якое, аднак, яго прыводзіць за краты...*

# Мастацкі свет першай кнігі Якуба Коласа “Песні-жальбы”

## *Новае прачытанне*

Творчасць класіка беларускай літаратуры наўрад ці калі будзе вывучана вычарпальна. Аднак, нават канцэптуальны ўзровень асэнсавання Коласавай спадчыны грашыць прагаламі. Адным з іх з’яўляецца феномен першай паэтычнай кнігі “Песні-жальбы” (1910)[1].

Айчыннае літаратуразнаўства, натуральна, не абыходзіла гэтае выданне ўвагай. Але звычайна яна звярталася ці то на эстэтычны бок змешчаных у выданні твораў, ці то на іх значэнне або значэнне ўсёй кнігі ў гісторыі беларускай літаратуры. Яскравым прыкладам тут выступае ці не самы першы аналітык Коласава ўзыходжання на Парнас Максім Багдановіч. Ён, ідучы па свежых слядах літаратурных публікацый, на самым пачатку 1911 г. бачыць у творчасці Якуба Коласа, маючы на ўвазе ў прыватнасці першы зборнік “Песні жальбы” (без злучка ў М. Багдановіча), “якуюсь акамянеласць”, адсутнасць развіцця: “На працягу аж 4-х гадоў Колас не зрабіў значнага кроку ўперад




і ў самых апошніх вершах пяе аб тым жа і так жа, як і ў пачатку сваёй працы”[2]. Не варта перабольшваць гэтае абагульненне, зробленае на аснове лаканічнага аналізу, таму што насамрэч (і час гэта даказаў) у Якуба Коласа якраз тады пачалі “здарацца” вершы, якія ўвайшлі ў залаты фонд беларускай літаратуры, сталі яе класікай[3]. Дый сучаснае літаратуразнаўства адзначае пэўны суб’ектывізм у той Багдановічавай ацэнцы “Песень жальбы”, падкрэсліваючы пашырэнне творчага дыяпазону і павышэнне мастацкага ўзроўню (пазней і М. Багдановіч змяніў сваю ацэнку ў бок павышэння вартасцей паэзіі Якуба Коласа)[4].

Такім чынам, М. Багдановіч, як і яго наступнікі ў крытыцы і літаратуразнаўстве, бачыў “Песні жальбы” як *зборнік* вершаў. Першыя крытыкі акрэслілі таксама кола тэм і праблем Коласава выдання. Тут хоцькі-няхоцькі абавязкова трэба згадаць і Альгерда Бульбу – аўтара першай рэцэнзіі на “Песні жальбы” (таксама без злучка), дзе сказана літаральна наступнае: «“Песьні жальбы” Коласа я бы назваў жывой фатаграфіей з беларускаго жыцьця»[5]. Такія падыходы ў далейшым сталі прэваліраваць у айчынным літаратуразнаўстве.

У якасці КНІГІ выданне Якуба Коласа не разглядалася. Між тым яно з’яўляецца само па сабе творам – са сваёй задумай і кампазіцыяй. Прычым канцэптуальнасць кнігі шматслойная, перадусім з дзвюма лініямі – рэалістычнай і метафізічнай, якія аўтарам звязваюцца ў адно цэлае, ствараючы філасофскую карціну перажыванняў-роздумаў лірычнага героя, яго мастацкі свет.

Рэдагаванне (спачатку самім аўтарам) і адаптацыя да зменены ужо тройчы нормаў літаратурнай мовы прыкметна сказаліся на некаторых творах “Песень...” у аспекце іх ідэйнай трансфармацыі, а таксама падтэкставых сэнсах. Першасную карціну кнігі немагчыма аднавіць па свежым Зборы твораў Якуба Коласа: дастаткова таго, што паводле прыведзенага ў томе рэестра нельга ўстанавіць змест выдання “Песень-жальбаў”. З такой прычыны для дасягнення пастаўленай мэты – акрэсліць мастацкі свет, у якім экзістэнцуе лірычны герой, сфармуляваць філасофію кнігі як цэласнага мастацкага твора – патрэбна карыстацца першакрыніцай без уліку таго, што з яе напаўненнем зрабілі затым.

* * *

Для аналізу неабходна разглядаць кнігу не праблемна-тэматычным шляхам, аісці “следам за аўтарам” – чытаць кнігу паслядоўна, як таго патрабуе эпічны фармат. Прынамсі, так прарабіць першы раз.

Структурна “Песні-жальбы” складаюцца з верша-“запеўкі” “Не пытайце, не прасіце...”, раздзелаў: “Думкі”, “Родныя абразы”, “Мужыцкае жыццё”, “На розстані”, “С турмы”.

Асобна зазначым, што для свайго першага паэтычнага выдання Якуб Колас адабраў (магчыма, не без пэўнага рэдагавання “нашаніўцаў”) далёка не ўсе вершы і нават не большасць. Канчаткова ў змест увайшло 74 з нам сёння вядомых больш чым 200 вершаў таго часу (без ранніх, у тым ліку рускамоўных). Так, адсутнічаюць выразна палітычныя вершы, любоўная лірыка, байкі. Але і з астатнімі творамі аўтар паступіў вельмі выбарна, і тут нам прынцып селекцыі застаецца невядомы, бо многія тагачасныя вершы ідэйна блізкія і ў святле канцэпцыі “Песень-жальбаў” узаемазамяняльныя практычна для ўсіх раздзелаў, акрамя “турэмнага” (пар., напрыклад: вершы “Палессе” (1906–1907), “Вобраз пакуты”(1908), “Бездараж” (1909) і многія іншыя не ўключаныя ў кнігу), да таго ж некаторыя творы паэтычнага

выдання публікаваліся ў дапаможніку для навучання дзяцей “Другое чытанне для дзяцей беларусаў” (1909): “Весна” – “Йдзе весна ўжо, дзякуй Богу...”, “Вёска” (без дзвюх апошніх, асабліва змрочных строф), “Мужычая ніва”, “Дарога”, “Восень” – “Пуста ў лузі. Толькі стогі...”, “Зіма” – “Белым сьнегам заметае...”, “На гасьцінцы”, “На прадвесні” (без апошняй страфы на тэму алкаголю), “Могілкі”, “Пахаваньне”, “Наш родны край”, “Мужычае жыцьцё”, “Песьня пры калысцы”, “Не нудзіцеся!”, “Што вы, хлопцы, пахмурнелі...” – усіх 14 вершаў[6].

Як паміж раздзеламі кнігі, так і ўнутры іх назіраецца лагічная спалучанасць, якую, дарэчы, заўважыў і М. Багдановіч, кажучы, што “Песні жальбы” выглядаюць цэльнымі “па светагляду, моцна зросшыміся адзін з адным здаюцца вершы”[7] (але аўтар гэтай цытаты не развіў думкі і нават мінімальна не аргументаваў яе). Такім чынам, ствараецца пэўная карціна, якую ў поўнай меры можна назваць ліра-эпічнай. У цэнтры знаходзіцца лірычны герой. Ён асэнсоўвае сваё месца ў жыцці. Прычым у жыцці не абстрактным, а шырокасацыяльным. Жыцці ў кантэксце, куды закінуў, пасяліў Бог. Аднак гэта не значыць, што лірычны герой адносіцца фатальна да свайго шляху і да кантэксту. Хутчэй якраз ідзецца пра духоўныя пошукі на фоне прыроднага і бессуб’ектна-сацыяльнага жыццёвага працэсу.

Першы верш “Не пытайце, не прасіце...” тут выступае як эпіграф. Яго настрой безагаворачна песімістычны, з улікам тагачаснага еўрапейскага (і расійскага) кантэксту – дэкадэнтны. З такой прычыны большасць даследчыкаў лічыла, што «“песні” Якуба Коласа “плакалі” ў рэчышчы, абазначаным “адным з “парнасьнікоу”»: “Гледзючы на гэту несправядлівасць, у паэты радзіўся толькі жаль, што побач лішняй роскашы, народ яго гібее ў хатах, дзе “вокны заткнуты анучай”, што яго шнуры – “грязь, балота ды пясок”, што людзі – “Янка ды Сымонка” – мужыкі беззарадные, пакінутые сваёй інтэлігенціяй”[8]. У далейшым дадзенае рэчышча пашыралася і паглыблялася, стаўшы адзіна правільнай парадыгмай інтэрпрэтацый у савецкі час. Натуральна, такое бачанне мае паўнавартаснае права на літаратуразнаўчае жыццё. Але адно азначаным прачытаннем кніга не абмяжоўваецца. Больш таго, пры ўспрыманні выдання не па частках, а цалкам яго першае, вонкавае аблічча становіцца толькі фонам для лірычнага героя, прататыпам якога з’яўляецца сам аўтар.

Наяўнасць суб’екта (ці лірычнага героя) абазначае сваю прысутнасць з першага эпіграфічнага твора (NB год напісання – 1904). Прывядзём яго пачатак:

Не пытайце, не прасіце
Сьветлыхъ песень у мяне... (падкрэсленне наша. – *А.Т.*) [с. 3]

І хоць у заключнай страфе верша першая асоба ператвараецца ў множны лік (“Нешчасьліва доля наша: / Нам нічога не дала. / Не шукайце кветак ў полі, / Як весна к нам не прыйшла”), адкрываемы пастаронкава мастацкі свет чытачу прадстаўляецца праз прызму перадусім лірычнага героя.

* * *

Кожны раздзел таксама мае сваю кампазіцыю. Прычым пабудова кнігі ў цэлым і раздзелаў паасобку недзе пераклікаюцца. Прынамсі ва ўводных частках. Так, першы раздзел “Думкі” таксама пачынаецца такім уводным вершам, нават двума. Першы з іх (1908) падаём цалкам:

Уюцца думкі, томяць грудзі –
　　Хочуць песьняй стаць лагоднай,
Мілым дзіцяткам маім.
　　Трудна з імі жыць замкнута,
Ў ночнай хараніць цішы,
　　Цесна думкам, цесна бедным,

Хочуць выліцца з душы.
    Ўюцца думкі смутным роем,
Хочуць выбіцца на сьвет.
    Лійцесь, думкі, сэрца дзеці,
На паперку кіньце сьлед! [с. 7]

Як бачым па прыналежным займенніку ў трэцім радку, суб'ект не знікае, не адстараняецца ад аповеду. Зусім тоесныя "думкі" назіраем і ў наступным вершы, з якога працытуем адно апошнюю страфу:

Рад бы я не думаць
І не знацца з вамі,
Толькі-ж проці волі
Плывеце вы самі. ("Думкі", 1909) [с. 9]

Але ўжо ў трэцім вершы раздзела Якуб Колас пашырае дыяпазон: да паэтычнай рэфлексіі дадаюцца сацыяльныя матывы, лірычны герой задумваецца аб прычыннасці сваіх думак, якія "рана засмуціліс":

Ці краіны роднай
Балоты гнілые
Смуткам вас акрылі,
Думкі маладые?

Ці вас песьня-жальба,
Думкі, ўзгадвала?
Ці людзкое горэ
Ў лесі вас спаткало?

Ці маё так жыцьцё[9]
З дзён малых зложылось,
Што мая дарога
Смагаю закрылась? ("Рана засмуціліс...", 1909) [с. 10-11]

Гэтакае цытаванне адмыслова шырокае, таму што якраз у прыведзеных радках закладаецца пераклічка з наступнымі паэтычнымі разважаннямі. Між тым і суб'ект не знікае, а наадварот – падкрэсліваецца праз тыя ж займеннікі чатыры разы. Такім чынам, па першых вершах відаць, што "песьні-жальбы" пра сацыяльнае, але і індывідуальнае жыццё.

Да гэтага і сам аўтар прыйшоў не адразу. А фактычна толькі ў турме. Калі абвастрыліся яго экзістэнцыйныя перажыванні. Спачатку яго вуснамі сапраўды гаварыла народная маса, якая пакрысе выспельвала праслойку інтэлігенцыі, творчай у тым ліку.

Пасля ўступных вершаў лірычны герой акунаецца ў вонкавы свет. І гэты свет пачынаецца з "Вясны" (1906 – 1907): пра гэтую пору года запар тры вершы – прычым, што важна, інтанацый гучна мажорных. У іх кантэксце лірычны герой таксама не хаваецца, заяўляючы ў вершы "На полі вясной" (1908) ад першай асобы пра сваю любоў да краявідаў, у тым ліку створаных мужыцкай працай. Інтанацыі паўтараюцца і пры апісанні дня ("Усход сонца", 1908), і пры апісанні ночы ("Ноч", 1909).

Агледзеўшы першыя творы кнігі, нельга сказаць, што гэта – суцэльная жальба. Па вялікім рахунку, мінорнымі з'яўляюцца рэфлексійныя вершы – аналітычныя радкі пра ўнутраны стан лірычнага героя. Першыя творы пра шырокасацыяльныя відарысы зіхацяць радасцю і аптымізмам, прасякнуты любоўю да жыцця, прыроды і працы.

Разам з тым аўтар не абсалютызуе і мажорныя настроі. Размяшчэннем далей

вершаў “Месяц” (1907) і “Хмары” (1909) дэманструецца, што побач ходзяць пакуты і нэндза. Між тым гэтыя творы абстрагаваны ад аўтарскага “я”. Яно праслізгвае ў наступным вершы – пры супастаўленні лірычнага героя з ветрам:

Ой, ты, вецер непрытульны,
Родны брат мой ў долі:
Раскідаем сьмех і сьлёзы
Мы у чыстым полі! (“Вецер”, 1908) [с. 20]

Карціны вясны, мінаючы лета, змяняюцца восенню. Пра гэта ўперад яшчэ папярэджваў аўтар: “Рана вы завялі, / Веснавыя кветкі” [с. 10-11]. “Адлёт жураўлёў” (1909), “Восенны дождж” (1909), “Скора ў полі забушуе...” (1909), “Восень” (1906–1907) – вершы, у якіх інтанацыі, натуральна, мінорныя, але яны датычацца перш за ўсё прыроды, а не сацыяльнага жыцця, якое хоць і праступае ў радках “Сумна вецер плакаць стане / Над будынкам мужыкоў” [с. 24], але тут жа перакрываецца асабістымі адносінамі лірычнага героя:

Я-ж люблю той сьвіст у полі,
Як вакол усё дрыжыць –
На спатканьне песьням волі
Дух мой рвецца і ляціць. (“Скора ў полі забушуе...”) [с. 24]

“Зіма” (1906–1907) – адзіны верш пра гэту пару года ў раздзеле, які заканчваецца двума творамі пра вясну (абодва 1910). Аўтар такім чынам закальцаваў кругазварот (як паступіў трохі раней, але больш выразна, і ў “Другім чытанні для дзяцей беларусаў”, таму можна лічыць такі падыход да кампазіцыі характэрным для мастака, паўтораным у наступным выданні ў іншым фармаце).

Гэты шэраг вершаў нельга прызнаць жальбай. Гэта хутчэй нейтральнае прыродаапісанне. Аднак аўтарскае “я” цалкам не абстрагуецца ад апісваемага кантэксту. Забяжым наперад, але зазначым, што аўтар нібыта свядома падтрымлівае ледзь бачную (але відавочную!) сувязь лірычнага героя з прыродным светам, падаючы яе ў ключы збольшага нейтральным, пазіцыянуючы яе па той бок дабра і зла.

Разам з тым звяртае ўвагу закальцаваная кампазіцыя раздзела. Вершы размешчаны не ў храналагічным парадку іх стварэння (NB на прыведзеныя адмыслова побач з назвамі твораў гады), а ў свядома абранай паслядоўнасці. З аднаго боку, праз яе закальцаванасць адлюстраваны прыродны цыкл і рытміка народнага, сялянскага жыцця. З іншага боку, праз падкрэсленне матыву адраджэння-ўваскрашэння (“Весна, весна / Жаданая! / Ты прыйдзёш зноў, / Ты вернешся” [с. 28]) павеяла рэлігійнымі матывамі. На лексічным узроўні яны таксама ўвасоблены: аўтар з пэўнай рэгулярнасцю ўжывае адпаведныя словы ў тым ці іншым кантэксце. Так, слова “Бог” і ад яго ўтвораныя ў раздзеле прысутнічаюць шэсць разоў. Але нават не гэта галоўнае. Менавіта мастацкае бачанне прыроднага жыцця праз заўсёднае вяртанне стварае паралелі з уваскрашэннем у хрысціянскай інтэрпрэтацыі. Аўтар мог закончыць круг на зіме. Аднак абазначае пачатак наступнага.

Часавы кантэкст правакуе расчытаць абазначэнне паўтору ў рэчышчы ніцшэанскай ідэі вечнага вяртання (філасофія Ф. Ніцшэ ў канцы XIX – пачатку XX ст. мела вялікую папулярнасць у Расійскай імперыі, пік чаго прыйшоўся на 1900-я гг.[10]). Тым не менш наяўнасць значнага пласту Коласавых твораў, якія складваюцца ў асобную філасафічную лінію існавання аб’ектыўнай рэчаіснасці ў супрацьлегласць суб’ектыўнай экзістэнцыі лірычнага героя, схіляе расцэньваць закальцаваную структуру як падыход Коласа-мастака паводле гегелеўскай дыялектычнай спіралі, не пазбаўленай, дарэчы, прысутнасці аб’ектыўнага / абсалютнага духу, сінанімічнага Богу.

Такое прачытанне можна было б назваць надуманым з нашага боку, але да

азначанага прачытання схіляе і назва кнігі, якая літаральна супадае з найменнем рэлігійнага цыклу для каталіцкага набажэнства, што ўзнік у Рэчы Паспалітай на пачатку XVIII ст.: "Першы раз іх праспявалі ў касцёле Святога Крыжа ў Варшаве. У хуткім часе гэтае набажэнства стала адным з найбольш папулярных набажэнстваў Вялікага посту і на нашай зямлі. Разважанне мукаў Хрыста ў *Песнях жальбы*[11] спрыяе духу пакаяння, а перадусім мае на мэце служыць нашаму навяртанню"[12]. Несумненна, паэту (хоць і прыналежнаму да праваслаўнай канфесіі) яны былі вядомы: "ужо ў другой палове XIX ст. "Песні Жальбы" спяваліся па ўсёй Польшчы"[13]... Пад назвай гэтай краіны яе нацыянальныя дзеячы тым часам нярэдка мелі на ўвазе землі Рэчы Паспалітай, у якія ўваходзіла і тэрыторыя Беларусі, на якую, такім чынам, таксама прыйшоў названы рэлігійны песенны цыкл, значыць, ён, па ўсёй верагоднасці, быў знаёмы Якубу Коласу.

Некаторыя паралелі заўважаюцца таксама паміж структурай Коласавых і рэлігійных "песень": прынамсі абодва феномены маюць уводзіны і па некалькі частак. Так, названы рэлігійны цыкл "пачынаецца ад так званай пабудкі, пасля чаго надыходзяць тры часткі разважанняў Мучэнняў Пана Езуса. Кожнай частцы папярэднічае адчытанне інтэнцыі, г. зн. запаведзі таго, пра якія асаблівасці Мучаніцтва Пана будзе ісці разважанне ў данай частцы і за каго будзе яно ахвяраванае. Акрамя гэтага, кожная з частак складаецца з трох раздзелаў"[14]. Аўтарская кніга змяшчае ў тым ліку плач па зямным чалавеку, яго долі, па роднай старонцы, у чым перагукваецца з рэлігійным цыклам, пра які сказана: "У другой частцы разважанняў над мукаю Пана будзем разважаць аб тым, што Пан Езус выцерпеў ад несправядлівага прысуду ажно да ўкаранавання цернем. Гэтыя раны і знявагі ахвяруем Пану, просячы супакою для нашай Айчыны, згоды паміж народамі, а для нас саміх – прабачэння грахоў, паратунку ад зямных няшчасцяў, а асабліва ад пажару, голаду, вайны і заразы"[15].

Але, як падказвае сам паэт яшчэ ў першым раздзеле, інтэрпрэтацыя жальбы ў яго не супадае з рэлігійнай:

Як бяз долі і бяз хлеба
Працавіты люд наш гнецца...
Кінь ты жальбу <u>нашу</u> ў неба –
Нехай неба ўскалыхнецца! (падкрэсленне наша. – *А.Т.*) ("Месяц") [с. 18]

Таму і думкі незалежна ад аўтара "ўюцца", "томяць грудзі", "хочуць выліцца з душы", "выбіцца на сьвет" (гл. вышэй):

Ці вас песьня-жальба,
Думкі, ўзгадавала?
Ці людзкое горэ
Ў лесі вас спаткало? ("Рана засмуцілісь...", 1909) [с. 11]

Цытаты паўтараем нездарма. У абедзвюх закладзена непасрэдная адсылка да назвы Коласава выдання, якое, такім чынам, не толькі <u>алюзіруе</u> рэлігійныя матывы, але і **<u>апаніруе</u>** ім. Гэты тэзіс лічыць можна ці не цэнтральным у тэме прысутнасці рэлігіі ў творчасці класіка. Месца Ісуса Хрыста ў "Песнях-жальбах" Якуба Коласа займае "працавіты люд" у розных фармулёўках, а ролю іконы выконвае родны вобраз-абраз. Пры гэтым функцыянальнасць Коласавых "Песень" захоўваецца тоеснай рэлігійным, пра якія сказана, што маюць на мэце "пабудзіць у нас спачуванне да церпячага Хрыста, а таксама да жалю за грахі, якія і ёсць прычынай Яго такіх цяжкіх мучэнняў, а ў выніку — смерці. <...>

У гэтай прыгожай і кранальнай малітве, галоўным матывам з'яўляецца жаль за грахі, які вядзе да метамарфозы (навяртання, перамены жыцця), жаль, які выплывае з асабістай любові да Хрыста. Гэтае набажэнства таксама ёсць спробай адказу на пытанне пра сэнс цярпення. Бог у Езусе Хрысце адказвае на гэтае пытанне

не тэорыяй, а салідарным прыбываннем з чалавекам у яго цярпеннях і болі”[16]. “...У канцэптуальным плане, паводле хрысціянскай аналогіі, кніга Якуба Коласа была менавіта разважаннем пра мукі народа, які цярпеў і мусіў праз мастацкае “ўсведамленне” сваёй пакуты адрадзіцца і “навярнуцца” да новага жыцця”[17].

* * *

Фактычна, менавіта са сфармуляванага тэзіса пра алюзійнасць і апаніраванне стасоўна рэлігійных матываў пачынаецца і наступны раздзел Коласавых “Песень-жальбаў”, які называецца “Родныя <u>абразы</u>” (падкрэсленне наша. – *А.Т.*), а не так, як мы са школы прывыклі гэтую назву бачыць (праўда, дзякуючы аднайменнаму вершу). Канечне, маюцца на ўвазе, кажучы сучаснаю ўнармаванаю моваю, родныя вобразы. Аднак жа і супадзенне адпаведнае і – ведаючы стыль алегарызацыі аўтара – наўрад ці выпадковае. Да таго ж лагічна паставіць пытанне, **што** аўтару перашкаджала назваць і раздзел, і вядомы, хрэстаматыйны верш так, як слова падавалася ў тэксце – “образы”. Тым болей што паэт гэтакую форму практыкаваў – адзін з вершаў, апублікаваных у “Нашай ніве” (1907, 24 лют., №8), называўся “Расейскія образы” (1907) [Т. 1, с. 509], у ім крытычна апісаны карціны жыцця ў імперыі, якія ні ў якім разе не маглі быць названы абраз*а*мі. (Названы твор, што паказальна, не ўвайшоў у “Песні-жальбы”!)

Але ж не! Згадваючы за кратамі блізкія сэрцу краявіды, Якуб Колас называе іх менавіта абраз*а*мі, хоць гэта... усяго толькі, як гаворыцца непасрэдна ў хрэстаматыйным вершы, “(в)образы”. Працытуем, забегшы ўвагай у апошні раздзел, з публікацыі ў выданні “Песень”:

Образы мілые роднаго края,
Смутак і радасць мая!
Што маё сэрца да вас парывае?
Чым так прыкованы я... (“Родныя абразы”, 1908) [с. 119]

Такім чынам песняром фактычна абагаўляецца родны край (фармальна – на капыл натурфіласофіі Спінозы, зместава, аднак, гэта ўзыходзіць да прысутнасці ў народнай духоўнай практыцы par exellence культуры паганства), праяўляецца не раўнуючы рэлігійная адданасць да яго. У гэткім святле зусім інакш успрымаюцца радкі з ужываннем слова “абраз*ы*” (а не “образы”):

Я не знаю, я не знаю,
Чым я так прыкуты
Да тваіх, мой родны краю,
Абразоў пакуты. (“Я не знаю”, 1909) [с. 31]

Пасля ўнармавання беларускай літаратурнай мовы і адаптацыі да нормаў Коласавых твораў, зразумела, азначаная нюансіроўка страцілася.

Да таго ж аўтар не толькі стварае ікону з краявідаў Бацькаўшчыны, але і часам прабіваецца стаўленне паэта да сялянскай справы як да вышэйшай за рэчаісную рэлігію:

Хлебароб глядзіць з уцехай,
Ходзіць ў Божым дару...
Так ні поп, ні ксёндз ня ходзяць
Пры сьвятым алтару. (“Хлебароб”, 1908) [с. 40]

Наогул жа У. Конан прыходзіць да высновы, што “Песні-жальбы” “бліжэй да філасофіі хрысціянскай дэмакратыі, чым да сацыяльнага радыкалізму. У аснове сюжэтаў і вобразаў праграмных вершаў праглядваецца архетып евангельскай прыпавесці пра Лазара беднага і багацея (Лк. 16:19-31), пераўтвораных у аспек-

це тагачасных сацыяльных рэаліяў Беларусі ў складзе Расійскай імперыі. <...> Коласавы вобраз селяніна – гэта і вобраз Беларусі – беднага Лазара Расійскай імперыі"[18]. Прычым падобнае прачытанне не абмяжоўваецца толькі названай кнігай. У. Конан указвае яшчэ і на алегарычнае апавяданне "Дудар"[19] (1906 – г. зн. таксама з ранняй творчасці).

Зрэшты, мы адхіліліся ад генеральнай лініі, але адступленне ў многім дапаўняе і абраны намі фокус аналізу.

У цэлым раздзел "Родныя абразы" таксама мае структуру: ідзе ад агульнага відарыса Айчыны да чалавечай экзістэнцыі (людской працы перш за ўсё). Паказальны першы верш – "Я не знаю..." (1909). Дарэчы, сімптаматычна, што яго першапачатковая назва гучала як... "Родныя абразы"! [Т. 1, с. 551]. Воку чытача адкрываюцца сумныя пейзажы ("від палёў благенькіх"). Гэта робіцца праз уважлівую душу лірычнага героя (ізноў-такі гэта падкрэсліваецца шляхам шматлікага ўжывання адпаведных займеннікаў).

> Я не знаю, я не знаю,
> Чым я так прыкуты
> Да тваіх, мой родны краю,
> Абразоў пакуты (падкрэсленні нашы. – *А. Т.*). [с. 31]

Рэзюмуе аўтар, падкрэсліваючы не проста знітаванасць душы з Бацькаўшчынай, але і яе сакральнае значэнне. Ужо ў гэтым вершы зроблены подступы да асэнсавання тленнасці чалавека, яго нялёгкай долі:

> ...І той крыжык адзінокі –
> Вартаўнік магілы...
> <...>
> Дзе чыесь-то косьці тлеюць
> Чый-то прах схаваны... [с. 31]

Аўтар наводзіць паэтычную рэзкасць сваёй прызмы – і мы бачым паслядоўна: "Нашэ сяло" (1908), "Наш родны край" (1906), "Вёску" (1907), "Вось старую хацінку..." (1910), "Мужычую ніву" (1907), "Хлебароба" (1908), прысвечанае "весковым працоуніцам" "Жніво" (1908), "Жытні колас" (1908), "Вярбіну" (1909), урэшце "Палесскія абразы" (1909). Пакольні назвы вершаў характарыстычныя і гавораць самі за сябе, пакінем іх без цытавання. Адно дадамо, што матывы ў іх шматкроць паўтараюцца, дэталі пашыраюць сваё кола і пакрыёма ствараюць эпічнае палатно беларускага тагачасся.

Аб'ядналы тэматычна, пералічаны шэраг твораў лучыцца і сумным тонам. Апісваемае ледзь ні фактаграфічна жыццё-быццё далей уключае ў сябе і "Дарогу" (1906), "На гасьцінцы" (1907), "Чугунку" (1908). Гэтыя шляхі, аднак, можна сказаць, арганічна і лагічна прыводзяць да "Могілак" (1906).

Падагульненнем гучаць "Родныя песьні" (1909):

> Ўсё ў табе, мой родны краю,
> Ўсё спавіто горэм... [с. 50], –

і таму:

> Ў маім сэрцы горэ гэта
> Одгалос знаходзіць... [с. 50]

* * *

Раздзел "Мужыцкае жыцьцё" таксама мае "інтрадукцыю" – амаль аднайменны верш "Мужычае жыцьцё" (дарэчы, паводле "Рэестру" (зместу) кнігі, супадзенне

паміж назвамі верша і раздзела дакладнае), у якім праз некалькі тыповых, на меркаванне аўтара, штрыхоў малюецца доля мужыка з яе смяротным зыходам. У далейшых вершах паэт больш пільна прыглядаецца да жыццёвага шляху селяніна, спрабуючы вызначыць пэўныя этапы і характэрныя бакі. Часам ізноў-такі для разумення гэтага дастаткова ведаць назвы вершаў:

"Песьня над калыскай" (1907) – пачатак жыцця (з надзеяй на добрую будучыню);

"Першы заработак" (1910 – першая рэдакцыя) – спроба далучэння дзіцяці да сур'ёзнай працы (пры ўсёй цяжкасці яе твор хутчэй цёплы);

"У школку" (1909) – скіроўванне ў навучанне (таксама з прыцэлам на лепшы лёс);

"Плытнікі" (1907), "Доля батрачкі" (1908), "За падаткі" (1908), "На прадвесьні" (1906 – 1907) – дарослае працоўнае жыццё (інтанацыі кардынальна змененыя на мінорны лад).

У апошні шэраг укліньваецца верш "Панас гуляе" (1909) на тэму п'янства мужыка, ад чаго церпіць сям'я, – з'явы недругараднай у сялянскім асяродку.

Верш "Мужык" (1908) выступае падагульненнем жыццёвага шляху, асабліва апошнія радкі:

Я мужычы сынок,
Я ня маю дарог.
Мая школка – шынок,
Маё жыцьце – астрог! [с. 78]

"Пахаваньнем" (1906–1907) падводзіцца рыса пад "Мужыцкім жыцьцём". Дарэчы, толькі ў гэтым вершы раздзела з'яўляецца аўтарскае "я" (дагэтуль маем нібы адстароненае назіранне, быццам лірычны герой усё больш аддаляецца ад мужыцкай долі):

Жаль скаваў мне грудзі,
І нуда напала...
Каб вы зналі, людзі,
Як мне цяжка стала! [с. 80]

Завяршаюць раздзел два творы: трохі вышэй згаданая "Наша доля" і "Мы ходзім спатыкаемся..." (1907). Прычым яны падаюцца ад першай асобы множнага ліку ("наша доля", "мы ходзім") – г. зн. аўтар у дадзеным выпадку якраз атаясамлівае сябе з народнай масай. Яшчэ больш важна, што гэтыя, на першы погляд тыповыя, песні-*жальбы* завяршаюцца на *аптымістычнай* ноце:

А ўсё-ж такі, хоць некалі,
А праўды дапытаемся. [с. 82]

Лірычны герой, нягледзячы на цяжкасці долі, верыць у лепшы заўтрашні дзень "мужыцкага жыцьця".

Матывы і кампазіцыя гэтага раздзела відавочна пераклікаюцца з драматычнай паэмай Янкі Купалы "Адвечная песня"[20], якую, аднак, Якуб Колас наўрад ці змог прачытаць перад укладаннем "Песень-жальбаў": Купалаў твор быў закончаны менш чым за месяц да Коласава зняволення, а ў друкаваным выглядзе ўбачыў свет паралельна з "Пенямі-жальбамі". Відавочна, абодвух класікаў хвалявалі адны і тыя ж праблемы, але ў дадзеным выпадку мастацкія стратэгіі прынцыпова розніліся.

* * *

Такім чынам, Якуб Колас арганічна падвёў свайго лірычнага героя да наступнага

раздзела – “На розстані”. Яго важнасць творца ў далейшым ускосна падкрэсліць назвай свайго галоўнага празаічнага твора – аднайменнай трылогіі, робячы гэта напрыканцы творчага шляху, нібы папярэдняя рэцэпцыя “Песень-жальбаў” і названага раздзела не задавольвала. Прычым у аповесці якраз пры знаходжанні на парозе турмы галоўнага персанажа – Андрэя Лабановіча (прататыпа аўтара) – сустракаем яго наступнае выказванне: “Стаю, брат, я на ростанях. Адзін мой этап скончыўся. Трэба кудысь падавацца, а куды, не ведаю. Вось чаму я і рады параіцца з табою” [Т. 14, с. 223]. Думаецца, сэнс гэтых слоў лагічна звязаны і з разгляданым звяном кампазіцыі “Песень-жальбаў” і падмацоўвае гэтакім чынам намі прапанаваную інтэрпрэтацыю.

Лірычны герой, паводле раздзела, пастаўлены перад неабходнасцю зрабіць экзістэнцыйны выбар:

Не відаць мае дарогі...
Горы, лес, балоты, гразь...
Колькі смутку і трывогі
Ў гэты цяжкі нудны час!

Гдзе-ж, дарога, ты другая?
Я стаю адзін, адзін...
Ноч ляжыць кругом глухая.
Ці-ж то сьвет зыйшоў у клін? (“На розстані”, 1907) [с. 85]

Лірычны герой агледзеў (у папярэдніх раздзелах) свой край і жыццё ў ім – і стаіць на ростанях (адзін, як пакажа будучыня, з канцэптаў Коласавай творчасці): яны пачынаюцца з рытарычнага песімізму:

Ты скажы мне, цьма глухая:
Доўга будзеш ты ляжаць?
Доўга будзе думка злая
Сэрцэ жалем калыхаць? [с. 85]

Раздзел “На розстані” у адрозненне ад папярэдняга факусіруецца на перажываннях лірычнага героя, на ўнутраным свеце суб’екта – “Песьняра” (с. 198). У гэтым вершы падкрэсліваецца жыццёвая знітаванасць са знешнім асяродкам:

Ці-ж я сэрцэм не балею?
Ці-ж мне смутак лёгка даўся?!
Я сьпеваю, як умею, –
Я пра радасць пець ня здаўся. [с. 87]

Аўтарскае “я” пазіцыянуецца таксама ў звязку з колам аднадумцаў (вершы “Пад шум ветра”, “Хмары” і “Братом-згнанніком”, усе – 1907), намёкі на якіх даволі празрыстыя, як у вершы, прысвечаным А. Уласаву, “Нягода” (1908), дзе сустракаем, напрыклад, у фармаце імя агульнага выраз “наша ніва” (простая цытата назвы газеты) і зваротак “Карусь” (звернуты, відавочна, да таварыша па зняволенні і літаратуры Каруся Каганца), ці ў вершы “Сябром” (1907), прысвечаным, паводле першапублікацыі ў “Нашай ніве” (25 чэрвеня 1907 г.), “народным вучыцелям, што пацярпелі за свабоду” [Т. 1, с. 510]. Гэтыя песні-жальбы, аднак, не пазбаўлены пробліскаў аптымізму, якім зараджаны, як правіла, апошнія, у пэўным сэнсе рэзюмуючыя радкі вершаў (што важна, бо гэта сведчыць пра надзею на лепшы час), а адзін з іх – “Не бядуй!..” (1907) – у мажорнай танальнасці вытрыманы цалкам.

Такое вырашэнне карэлюецца з думкамі У. Конана пра адраджэнне-ўваскрашэнне. На ім фактычна і заканчваецца раздзел:

За работу жыва, жыва!
Каб нас доля не кідала,
Каб ня сохла наша ніва,
Каб нуда нас не чэпала!
(“Што вы, хлопцы, пахмурнелі...”, 1907) [с. 96]

Відавочна, стоячы “на розстанях”, лірычны герой не прадбачыў яшчэ сваёй бліжэйшай будучыні. Дакладней, перспектывы яму ўяўляліся калі не вясёлкавымі, дык як мінімум з пэўнымі надзеямі – наперадзе насоўвалася выкананне агромністага аб’ёму работы. Прыкладна такія ж пачуцці-прадчуванні вернуцца да Якуба Коласа праз колькі гадоў – падчас уздыму нацыянальнага беларускага руху, у 1917 г. У сувязі з гэтым напішуцца хрэстаматыйныя радкі:

...Жніво настала, працы многа[21], –
Навукі семя засявай! [Т. 2, с. 79]

Такім чынам, асабістая дарога лірычным героем (прад)вызначана. Але куды яна яго прывяла? На гэтае пытанне адказвае аўтар наступным раздзелам – “С турмы”.

* * *

“Розстані” прывялі да тупіковага становішча, у параўнанні з якім рэчаіснасць “мужыцкага жыцця” і тым больш прыроды выглядала больш авантажнай і прыцягальнай. За рэдкім выключэннем вершы раздзела “С турмы” мінорнага гучання, прасякнуты безнадзейным песімізмам.

Цесна мне тут, горка мне,
Просіць сэрца волі;
Плачуць думкі па вясне,
Хочуць лепшай долі... (“С турмы”, 1909) [с. 99]

Так пачынаецца першы верш раздзела. Пра такія свае настроі К. Міцкевіч кажа і ў ліставанні з настаўніцай А. Рамановіч: “Сидя в карцере, мечтаешь о тесной камере, как о тереме, и о жестких нарах и тюфяке, как о чем-то недосягаемом, о каком-то идеале житейской роскоши. И это в то время, когда весна насильно гнала и старика, и ребенка на чистый воздух, когда кругом все покрывалось зеленью и цветами, когда все распологало к игривости... <...> Время теперь как-то тянется. Глянешь за решетку, – хорошо там, в поле, среди леса”, – піша вязень Пішчалаўскага замка 30 мая 1909 г. (па старым стылі) [Т. 18, с. 11], г. зн. прыкладна тады, калі пісаўся вышэйцытаваны верш і, магчыма, наступны, напісаны ад трэцяй асобы – якая пайшла іншым у адрозненне ад паэта, сялянскім шляхам, таму лірычны герой (хоць і “завочна”) радасных нотак перажывае больш, чым *интеллигенствующий* вязень:

Углыбіўся Сыцёпка ў мары,
Думцэ ўвесь аддаўся, –
Пра вастрог забыў, пра нары,
Гдзе ўсю ноч валяўся,
Тут ён целам, там – душою,
Там, ў родным полю,
Гдзе хадзіў ён за сахою,
Гдзе пазнаў нядолю...
Ды забыта ўсё ліхое,
Усё, што дух смуціла, –
Асталося дарагое,
Што так сэрцу міла! (“Сыцёпкаў сон”, 1908 ці 1909) [с. 106]

Большае атаясамленне лірычны герой знаходзіць з “ліпамі старымі”, якія таксама апынуліся “за астрожным парканам” (цытата з новай рэдакцыі верша [Т. 1, с. 216]):

Нас перанесьлі на глебу чужую,
Сьвету, прастору німа;
Ўсе нас забылі, ніхто нас не чуе,
Чуе нас толькі турма!
(“З песень вастрожніка”, 1908 ці 1909) [с. 113]

М. Грынчык адзначаў, што “ў жальбах і нараканнях “ліпаў старых” чуецца душэўная драма чалавека, пазбаўленага волі, прыніжанага і асуджанага на доўгія гады турэмных здзекаў”[22]. Кажучы супольна і ад сябе, і ад імя дрэў (паказальна, што пазней аўтар змяніў найменне верша на “Ліпы старыя”), “вастрожнік” выяўляе жаданне апынуцца ў працоўным кантэксце селяніна (прычым нацыянальна вызначанага, але не ў гэтым бачыцца лейтматыў):

Там бы хацелась расьці, красавацца,
Дол дзе капае ральнік,
Родную песьню дзе ціха сьпевае
Сын Беларусі – мужык! [с. 113]

Гэтым самым астрожная доля імпліцытна супрацьпастаўляецца жыццю на волі, “песьні вастрожніка” – ціхім родным песням, “глеба чужая” – радзіме. На падобных супрацьпастаўленнях, антытэзах выбудаваны многія вершы раздзела: “С турмы”, “Катаржнікі”, “У вастрозе”, “Думкі ў турме”, “Кветка”, “Гусі”, “Песьня няволі”, “У турме вясной”.

Змест апошняй структурнай адзінкі кнігі – як ацэнка асабістага шляху, які, такім чынам, горшы за долю мужыка, што пры ўсім вонкавым беспрасвецці і нэндзе мае кругазварот і цыклічна адраджаецца з характэрнымі радасцямі і горам. Таму заключны верш раздзела нібы падводзіць рысу пад усімі папярэднімі. Сімптаматычна, што і яго думка падаецца ў супрацьпастаўленні натуральнага і перспектыўнага свету з адваротнасцю зняволення:

Сонцэ ўстане, сонцэ зайдзе,
Дзень заменіць ночкі цьма,
А над намі чорнай хмарай
Вісьне цесная турма.
Птушкі вылятуць на зіму,
Птушкі зноў лятуць сюды,
А мы томімся ў вастрозе,
Трацім лепшыя гады.
Дні праходзяць, дні праходзяць,
Летам зьменіцца зіма,
А мы сохнем і марнеем;
Нам тут радасьці няма. (“У турме”, 1910) [с. 123]

Такою канцоўкай Якуб Колас быццам выносіць вердыкт ім жа абранаму шляху, тупіковаму па сутнасці. Аднак гэта не толькі і не столькі надуманы (хоць і прадуманы) мастацкі ход, а адлюстраванне сапраўдных перажыванняў паэта: “Будущее мне не улыбается. Я не падаю духом, смотрю на все эти неудачи взором философа, но обманывать себя, тешить мыльными пузырями в то время, когда на карке двадцать шесть полных лет, считаю великою глупостью”, – даведваемся яшчэ з аднаго ліста А. Рамановіч ад 27 красавіка 1909 г. [Т. 18, с. 8]. У ім жа знаходзіцца і тлумачэнне дэкадэнтных настрояў творцы: “С наступлением весны настроение мое совершенно ухудшилось. У меня всегда так бывает” [Т. 18, с. 7].

Трэба таксама мець на ўвазе, што галоўная праца па ўкладанні “Песень-жальбаў”

праходзіла вясною. Таму нядзіўна, што аўтар абраў такі – упадніцкі – варыянт структурнай арганізацыі свайго выдання і асабліва канцэптуальна важнага завяршэння. Разам з тым, як прызнаецца і ён сам, – "так бывает", а значыць – гэта часова, і не варта абсалютызаваць у такім святле феномен кнігі і ўсяго тагачаснага светапогляду Якуба Коласа (які ў той жа час піша і шмат адваротных па настроі твораў, рыхтуе жыццесцвярджальнае "Другое чытанне..." дый наогул пачынаецца ў якасці класіка нацыянальнай літаратуры[23]. Хоць мастацкі свет разгледжанага выдання сапраўды не праменіцца колерамі цёплай гамы.

* * *

Падагульняючы, яшчэ раз адзначым асэнсаваную кампазіцыю "Песень-жальбаў". Праглядаецца імкненне як усю кнігу, так і кожны асобны раздзел скласці сістэмна: зрабіць уступ, разгарнуць (з элементамі эпічнасці) паэтычную думку, падвесці выніковую рысу. Асаблівая ўвага надаецца так званым моцным пазіцыям – пачаткам і канцоўкам як усяго выдання, так і яго структурных адзінак.

Па змесце назіраецца наступнае. Праз усю кнігу праходзяць такія ідэйна-тэматычныя апазіцыі, як:

- лірычны герой (ад першай асобы, фактычна аўтар) – акаляючы свет у выглядзе роднага краю і мужыцкай долі,
- свет фізічны – свет метафізічны / рэлігійны (у сімбіёзе хрысціянства і паганства).

У першым выпадку лірычны герой разважае, куды яму ісці па жыцці, якое, аднак, яго прыводзіць за краты. Робіцца выснова, што жыццё ў зняволенні ненатуральнае і бесперспектыўнае – у адрозненне ад працэсаў у акаляючым свеце, дзе мяжуюць радасць і гора, але дзе ёсць надзея на адраджэнне. Гэты свет, паводле кнігі, мае два бакі – рэальны і ірэальны, якія асэнсоўваюцца другой апазіцыйнай парай. Аднак галоўнае, што яны аб'ядноўваюцца тоеснымі рытмамі, дзе адраджэнне рэальнага, матэрыялістычнага боку (у выніку гадавога кругазвароту) адпавядае ўваскрашэнню рэлігійна-метафізічнага (абяцанага паводле Біблії).

У другім выпадку супрацьпастаўляецца жыццёвая рэчаіснасць і яе нематэрыялістычны бок. Канечне, вонкавае ўражанне, што рэпрэзентуецца сацыяльная парадыгма лірыкі "Песень-жальбаў" (у савецкі час такая трактоўка як нельга лепей клалася ў пракрустава ложа марксіцка-ленінскага літаратуразнаўства). Аднак аўтар не хавае і пэўнай рэлігійнасці. Пры гэтым аддае перавагу не ёй, а сакральнасці родных вобразаў – як ён сам сімвалічна кажа, абразоў. Яны ствараюцца пэўным колам канцэптаў, якое складваецца ў працэсе разгортвання панарамы "Песень": поры года як чытэльныя сімвалы жыцця (па частотнасці ўсіх апераджае вясна), найменні Бацькаўшчыны ў розных варыяцыях (перадусім родны край), песні як спараджэнне самога сацыяльнага і прыроднага жыцця, падставовыя элементы сялянскага існавання (хата, ніва, жыта, поле, лес, дарога...), абагульненая фігура селяніна, рэлігійная лексіка (толькі слова "Бог" і вытворныя ад яго фігуруюць 20 разоў).

Прапанаванае прачытанне "Песень-жальбаў" не адмяняе папярэднія, але значна пашырае ідэйна-тэматычны дыяпазон выдання і – што галоўнае – прынцыпова змяшчае акцэнты. Увесь час гэтая кніга вершаў расцэньвалася ў першую (а часцей за ўсё тут жа і ў адзіную) чаргу як голас прыгнечанага, забітага народа. Разам з тым цвёрдай, паслядоўнай наяўнасцю лірычнага героя, яго суб'ектнасцю ў аглядзе рэчаіснасці пры ўсім імкненні да аб'ектыўнай рэалістычнасці і нават крытычнага рэалізму падкрэсліваецца засяроджанасць не на вонкавым свеце, а на ўнутраным, на прыватнай душы. Яна прапускае праз <u>сябе</u> <u>асабістае</u> існаванне, хоць і на прыродным ды сацыяльным фоне, да якога <u>яна</u> таксама не абыякавая.

Такім чынам, кніга Якуба Коласа "Песні-жальбы" арганічна ўпісваецца ў тагачасны кантэкст – пачатку XX ст., калі так званыя жыццятворчыя праекты

і паасобныя творы, цесна пераплеценыя, злітыя з жыццём аўтара, былі вельмі распаўсюджаны[24]. Прынамсі ў дыскурсе расійскай культуры – у той час галоўным па ўплыве на беларускую літаратуру. У якасці прыкладу можна назваць дэбютны зборнік (ці кнігу?) У. Хадасевіча (1908)[25] і нават акт сыходу з літаратурна-мастацкай творчасці Л. Сямёнава (1909)[26]. Дый адзіная кніга М. Багдановіча ("Вянок", 1914) і яго апошнія радкі – таксама яркія акты жыццятворчасці.

У расійскай літаратуры жыццятворчасць была характэрна для пісьменнікаў-дэкадэнтаў, перадусім сімвалістаў (у дадзеным выпадку мы канвергуем і інтэрферуем паняцці дэкадансу і сімвалізму). Як трапна сказана, "жизнетворчество как парадигма эстетического самосознания и пафос поведенческой деятельности русского символизма (и, шире – всей культуры Серебряного века) является, на наш взгляд, одним из наиболее универсальных понятий в русском модернизме, от понимания которого зависит адекватность наших представлений об этой уникальной эпохе"[27].

У Якуба Коласа, аднак, жыццятворчасць набывае свае асаблівасці, так бы мовіць, беларускі акцэнт. Прычым не толькі тэматычна, але і ў мастацкім метадзе, які выразна аддаляецца ад сімвалізму (пры ўплыве апошняга) у бок рэалістычнага светапогляду мастака (што абумоўлівалася галоўным чынам яго сялянскім паходжаннем). Дакладней сказаць, метад рэалізму засвоены Якубам Коласам натуральным, адпачатку неўсвядомленым чынам – у сілу свайго чалавечага сталення на ўлонні багатай прыроды і станаўлення на літаратурнае крыло на аснове сацыяльнага кантэксту з яго натуральнай гаспадаркай, і матэрыялістычная арыенціроўка людзей у гэтым асяродку (пры ўсёй развітасці беларускага фальклору і яго міфалагічнай грані) прэваліравала. Да таго ж і мастацкая літаратура да малога Канстанціна Міцкевіча як чытача паступала менавіта рэалістычнага кірунку. Аб'ектыўна кажучы, у тагачаснай беларускай літаратуры тэндэнцыя "чыстай красы" (выраз А. Луцкевіча пра М. Багдановіча, 1914), die Kunst für die Kunst толькі зараджалася. Таму правільна гаварыць пра пэўнае набліжэнне да дэкадансу і сімвалізму, засвоеных пасля знаёмства з шырэйшым літаратурным працэсам, зыходзячы з рэалістычнай платформы творцы, а не наадварот.

Такі погляд вытлумачвае выкрышталізацыю кнігі Якуба Коласа "Песні-жальбы" менавіта ў азначаным намі святле: як з рэалістычных (галоўным чынам) вершаў сфарміраваўся жыццятворчы вынік – выданне, эстэтычна прыналежнае да наступнага гістарычнага перыяду. Паэтычныя творы паўставалі паасобна, без прыцэлу на дэкаданс і сімвалізм, выраслі з пазітывісцкай традыцыі беларускай літаратуры апошняй трэці XIX ст. a la Багушэвіч. Турэмнае зняволенне, аднак, значна змяніла ўспрыманне жыцця паэта. Асабісты шлях праз прызму кратаў стаў выглядаць асабліва безнадзейна – адчуванне, якое ў вясновую пору абвастралася. Таму з літаратурных твораў, напісаных збольшага (некаторыя існыя сімвалісцкія элементы не будзем скідваць з рахунку) паводле аднаго мастацкага метаду, у суме – пры мэтанакіраваным настраёвым падыходзе да ўкладання – нарадзіўся асобны літаратурны твор, выспеліўся мастацкі плён зусім іншага фармату[28], які лёгка суадносіцца са Срэбным векам, што панаваў тым часам у Расійскай Імперыі (дарэчы, першым гэта заўважыў У. Гніламёдаў, але не пайшоў далёка ўглыб аспекту[29]). У сувязі з гэтым варта гаварыць пра ўнікальнасць і выключнасць Коласавых "Песень-жальбаў" (нават у святле іншых праяў жыццятворчасці).

Атрымалася з'ява, якую можна параўнаць з атамамі вугляроду: пры пэўнай мадыфікацыі яны могуць спалучацца ў розныя па свойствах рэчывы – графіт або алмаз. Дагэтуль крытыка і літаратуразнаўства прапаноўвалі нам "Песні-жальбы" ў выглядзе крохкага графіту, бо вершы можна было разглядаць разрозненна. У аспекце жыццятворчасці кніга (прынамсі на ўзроўні канцэпцыі) выглядае як адзін з самых цвёрдых мінералаў, адасабленне ад якога дзе-якіх элементаў не дапускаецца.

Такая рыса, як аўтабіяграфічнасць, становіцца характэрнай для творчасці Якуба

Коласа з першых яго вершаў, першай паэтычнай кнігі і ў далейшым спрычыняецца да стварэння лепшых твораў – паэм "Новая зямля" і "Сымон-музыка", аповесці "У палескай глушы", "Казак жыцця". Аднак у адрозненне ад пералічаных у гэтым шэрагу твораў, напісаных, як правіла, post factum[30], "Песні-жальбы" пісаліся (часткова) і – галоўнае – укладаліся паралельна з адпаведнымі перажыванымі пачуццямі і маюць не проста аўтабіяграфічны характар, – яны адначасна з'яўляюцца старонкай парадку чалавечага жыцця Канстанціна Міцкевіча, на той час турэмнага вязня, а яго жыццё, у сваю чаргу, (з)рабілася філасофска-мастацкай дзейяй, (за)фіксаванай у разгледжанай кнізе Якуба Коласа.

---

[1] Для абранага намі аспекту даследавання няма прынцыповага адрознення паміж напісаннем назвы праз злучок ("Песні-жальбы") і сучасным – без злучка, асобна. У першапублікацыі на форзацы напісана без злучка, але з ім – на ўнутранай тытульнай старонцы. Беларуская мова тым часам яшчэ не была ўнармавана. Таму разнабой у напісаннях здараўся нярэдка. Звернем увагу, што назва паэмы "Сымон-музыка" (цяпер пішацца праз злучок) спачатку пісалася асобна – "Сымон музыка", для чаго падстаў не назіраецца, асабліва пры супастаўленні з "Песнямі-жальбамі".

Тым не менш, верагодна, больш правільна было б назву падаваць са злучком, таму што ён захаваны ў падобным выразе, які фігуруе ў вершы "Рана засмуцілісь..." [с. 11] (тут і далей спасылкі на творы "Песень-жальбаў" даюцца з указаннем у квадратных дужках старонкі па першапублікацыі кнігі: Колас Я. Песьні-жальбы. Вільня, 1910. – 128 с.), прычым злучок пакінуты і пры наступных публікацыях, у тым ліку найсвяжэйшым Зборы твораў (гл. Т. 1, с. 263). Тут і далей спасылкі на творы Якуба Коласа (за выключэннем цытаваных па "Песнях-жальбах") робяцца па наступным выданні ў квадратных дужках з пазначэннем тома і старонкі: Колас Я. Збор твораў: у 20 т. / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т мовы і літ. імя Я. Коласа і Я. Купалы. Мінск: Беларус. навука, 2007–2012.).

У аўтара і пазней праслізгвае напісанне назвы сваёй першай паэтычнай кнігі праз злучок. Так зроблена, у прыватнасці, пры напісанні аўтабіяграфіі (1926): «Я пісаў і па-беларуску. Адзін такі верш "Вясна", змешчаны ў "Песнях-жальбах", папаў на вочы Кудрынскаму, ён мне сказаў: "Вот Ваше настоящее призвание". Гэта заахвоціла мяне, я стаў пісаць больш» (Якуб Колас: Да 100-годдзя з дня нараджэння. Біябібліягр. паказ. / Склад.: Н.Б. Ватацы, М.І. Пратасевіч, Н.А. Адамовіч, А.Б. Дунаеўская; Рэд. В.П. Рагойша. Мінск, 1983. С. 25-26). Гэта, аднак, з нейкіх прычын таксама не ўлічвалася пры падрыхтоўцы 20-томнага Збору твораў [Т. 20, с. 175].

Больш за тое, паводле "Заявы Якуба Коласа ў ДПУ БССР 6 сьнежня 1930 г." сам аўтар назву прыводзіць са злучком (гл.: Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа, Р-1296), аднак пры публікацыі ў Зборы твораў яго неапраўдана прыбралі [гл.: Т. 17, с.155] – у адрозненне ад арганізаванай В. Скалабанам публікацыі названага дакумента (Купала і Колас, вы нас гадавалі. Дакументы і матэрыялы. У 2 кнігах. Кніга першая 1909–1939 / Уклад: В. Дз. Селяменеў, В. У. Скалабан; рэд. калегія: М. І. Мушынскі (гал. рэд.) [і інш.]. Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2010. С. 134). (За слушную падказку і за дапамогу матэрыялам аўтар выказвае ўдзячнасць унучцы Якуба Коласа В. Міцкевіч.)

Пры напісанні са злучком "жальбы" (форма слова ў такім выпадку мае назоўны склон, множны лік) становяцца азначэннем-эпітэтам "песень" падобным да жанравага (як, напрыклад, элегіі, малітвы), без злучка (форма слова тады мае родны склон, адзіночны лік) "жальбы" могуць быць суб'ектам-крыніцаю "песень", ледзь не лірычным героем іх або азначаць іх зместавую напоўненасць. Паколькі апошняга не назіраецца пры відавочнай наяўнасці значэння фарматнай характарыстыкі "песень", дык думаецца, што правільным з'яўляецца напісанне праз злучок.

Для канчатковага вырашэння пытання варта прасачыць – па першакрыніцах! – ужыванне Якубам Коласам слоў "жальба" і "песня", а таксама вывучыць у гэтым аспекце шырэйшую практыку напісання слоў з дадаткамі-азначэннямі. З іншага боку, прыведзеных аргументаў, думаецца, дастаткова. Усе доказы, фактычна, зводзяцца да двух пунктаў:

1. Злучок павінен быць па сэнсе выразу.
2. Злучок ужываў сам аўтар.

Зрэшты, адказ на гэтае пытанне істотна не ўплывае на рэалізацыю пастаўленых у прапанаванай працы задач, вырашэнне якіх, аднак, ускосна схіляе таксама на карысць напісання назвы кнігі праз злучок.

[2] Багдановіч М. Поўны збор твораў : у 3 т. Т. 2: Маст. проза, пераклады, літаратурныя артыкулы, рэцэнзіі і нататкі, чарнавыя накіды. Мінск: Навука і тэхніка, 1993. – С. 189.

[3] Гл. падрабязней: Трафімчык А. В. Паэтычны дыяпазон Якуба Коласа падчас яго турэмнага зняволення // Каласавіны. Якуб Колас. Чалавек. Эпоха. Час: матэрыялы XXVII навуковай канферэнцыі, прысвечанай 130-годдзю з дня нараджэння Якуба Коласа, 2-3 лістапада 2012 г., Мінск / склад.: З.М. Камароўская, Г.С. Спорыш. Мінск: Ковчег, 2013. – С. 65-70.

[4] Багдановіч М. Поўны збор твораў : у 3 т. Т. 2: Маст. проза, пераклады, літаратурныя артыкулы, рэцэнзіі і нататкі, чарнавыя накіды. Мінск: Навука і тэхніка, 1993. С. 514, 224.

[5] Бульба А. Песьні жальбы // Наша Ніва, 1910, 30 вер.

[6] Колас Я. Другое чытаньне для дзяцей беларусаў. Петербург, 1909. С. 10, 27, 29-30, 49, 53-54, 57-58, 60, 71, 74-75, 75-76, 88-89, 89-90, 91-92, 93. (Старонкі пазначаны адпаведна ўказаным вершам.)

[7] Багдановіч М. Поўны збор твораў : у 3 т. Т. 2: Маст. проза, пераклады, літаратурныя артыкулы, рэцэнзіі і нататкі, чарнавыя накіды. Мінск: Навука і тэхніка, 1993. С. 188.

[8] Адзін з “парнасьнікоу”. Чаму плачэ песьня наша? (Атказ Юрцы Верэшчаку) // Наша ніва, 1913, 26 ліп. – С. 1.

[9] Відавочна, у аўтара было адпаведнае рытміцы “ж*ы*цце”, што было перапраўлена рэдактарам ці карэктарам (у далейшым, цытуючы, таксама не выпраўляем відавочныя памылкі, абыходзячы ўвагай такія моманты з прычыны іх непрынцыповасці для нашага аспекту. Аўтарызаваць падрыхтаваны да друку тэкст тым часам было немагчыма: Канстанцін Міцкевіч знаходзіўся ў зняволенні. Ён сам з гэтай прычыны цалкам давераўся супрацоўнікам “Нашай нівы”: “Все имеющиеся работы отдаю в Ваше распоряжение”, – напісана ў лісце ад 24 ліпеня 1910 г. са згадкай пры гэтым “А. Н.” (па ўсёй верагоднасці Аляксандра Уласава) і “Ш.” (Ядвігіна Ш. – Антона Лявіцкага) [Т. 18 с. 13, 465]. Працытаваны ліст не дае падстаў рабіць высновы, што “Якуб Колас... не меў пад рукамі раней апублікаваных твораў і, вядома, не мог адабраць лепшае для зборніка “Песні-жальбы”. Складальнікам кнігі, відаць, быў А.М. Уласаў” , – як даводзяць аўтары каментарыяў да свежага Збору твораў [Т. 1, с. 505]. На нашу думку, калі не ўкладальнікам, дык як мінімум стваральнікам мастацкай канцэпцыі з’яўляўся сам аўтар. Ускосным пацверджаннем з’яўляецца захаванне аўтарскай кампазіцыі яшчэ аднаго Коласава выдання, якое рыхтавалася практычна паралельна, – “Другога чытання для дзяцей беларусаў” [Т. 1, с. 517-518]. У “распараджэнне” адрасата аддавалася справа, несумненна, рэдагавання, і часткова, можа быць, напаўнення вершамі зададзенай аўтарам канцэпцыі.

[10] Гл. падрабязней: Синеокая Ю. В. Ницше Фридрих // Русская философия. Энциклопедия. Изд. второе, доработанное и дополненное. Под общей редакцией М.А. Маслина. Сост. П.П. Апрышко, А.П. Поляков. М., 2014. С. 417-419.

[11] Напісанне без злучка назвы рэлігійнага цыклу з’яўляецца сінтаксічнай калькай з польскай мовы. Па значэнні правільна перакладаць было б са злучком.

[12] Песні жальбы // catholic.by [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://catholic.by/2/home/spetials/105811-piesni-zalby.html. Дата доступу: 13.09.2015.

[13] «Песні Жальбы» // PIJARY.INFO. Афіцыйны сайт Ордэна Піяраў у Беларусі [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://pijary.info/?p=176. Дата доступу: 13.09.2016.

[14] «Песні Жальбы» // PIJARY.INFO. Афіцыйны сайт Ордэна Піяраў у Беларусі [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://pijary.info/?p=176. Дата доступу: 13.09.2016.

[15] Песні жальбы // catholic.by [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://catholic.by/2/home/spetials/105811-piesni-zalby.html. Дата доступу: 13.09.2015.

[16] «Песні Жальбы» // PIJARY.INFO. Афіцыйны сайт Ордэна Піяраў у Беларусі [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://pijary.info/?p=176. Дата доступу: 13.09.2016.

[17] Багдановіч І. “Гэта – вобразы краіны Беларусі роднай...”: да 100-годдзя першага зборніка вершаў Якуба Коласа “Песні-жальбы” // Роднае слова, 2010, №9. – С. 13.

[18] Конан У. Філасофскія погляды Якуба Коласа: пастаноўка праблемы // Каласавіны. Якуб Колас і яго акружэнне: матэрыялы навук. канф., прысвеч. 50-й гадавіне смерці нар. паэта Беларусі Якуба Коласа, 3 лістап. 2006 г., Мінск / склад. З.М. Камароўская, Г.І. Зайцава. Мінск: Выд. цэнтр БДУ, 2007. – С. 108.

[19] Гл. падрабязней: Конан У. Філасофскія погляды Якуба Коласа: пастаноўка праблемы // Каласавіны. Якуб Колас і яго акружэнне: матэрыялы навук. канф., прысвеч. 50-й гадавіне смерці нар. паэта Беларусі Якуба Коласа, 3 лістап. 2006 г., Мінск / склад. З.М. Камароўская, Г.І. Зайцава. Мінск: Выд. цэнтр БДУ, 2007. – С. 110.

[20] Гл. падрабязней пра “Адвечную песню”: Васючэнка П. Драматычная спадчына Янкі Купалы: Вопыт сучас. Прачытання. Мінск: Навука і тэхніка, 1994. – С. 18-47.

[21] У радку закладзена рэмінісцэнцыя біблейскай сентэнцыі: “...Жніва многа, ды работнікаў мала...” (Мц., 9, 37).

[22] Грынчык М. М. Фальклорныя традыцыі ў беларускай дакастрычнікай паэзіі. Мінск: Навука і тэхніка, 1969. – С. 173.

[23] Гл. падрабязней: Трафімчык А. Зняволенне і «Разлука з краем» як галоўны фактар у станаўленні Якуба Коласа ў якасці класіка літаратуры // Верасень, 2012, №2. С.210-235; Трафімчык А. "Песні цягучыя, песні пакутныя". Турма і творчасць Якуба Коласа // Новы час, 2012, 26 кастрычніка, С. 23; Трафімчык А. В. Паэтычны дыяпазон Якуба Коласа падчас яго турэмнага зняволення // Каласавіны. Якуб Колас. Чалавек. Эпоха. Час: матэрыялы XXVII навуковай канферэнцыі, прысвечанай 130-годдзю з дня нараджэння Якуба Коласа, 2-3 лістапада 2012 г., Мінск / склад.: З.М. Камароўская, Г.С. Спорыш. Мінск: Ковчег, 2013. – С. 65-70.

[24] Феномен жизнетворчества в литературе на рубеже XIX–XX веков // [Электронный ресурс]. Режим доступа: http://diplomba.ru/work/95134. Дата доступа: 03.01.2017; Гл. таксама: Кирсти Э. Творец, субъект, женщина. Стратегии женского письма в русском символизме. М.: Новое литературное обозрение, 2914. 560 с.; Иоффе Д. Жизнетворчество русского модернизма sub specie semioticae. Историографические заметки к вопросу типологической реконструкции системы жизнь↔текст // [Электронный ресурс]. Режим доступа: www.nsu.ru/education/virtual/cs8ioffe.pdf. Дата доступа: 03.01.2017.

[25] Uspenskiy P. «Молодость» (1908) В.Ф. Ходасевича как жизнетворческий проект // [Электронный ресурс]. Режим доступа: https://www.academia.edu/12109852/_Молодость_1908_В.Ф._Ходасевича_как_жизнетворческий_проект. Дата доступа: 03.01.2017.

[26] Горячева Т.В. «Уход» как жизнетворческий акт Л. Семенова // Харківський національний педагогічний університет імені Г. С. Сковороди [Электронный ресурс]. Режим доступа: http://worldlit.hnpu.edu.ua/11/1.php. Дата доступа: 03.01.2017.

[27] Нефедьев Г.В. Жизнетворчество Эмилия Метнера. К мифологии русского символизма // Николай Метнер. Вопросы биографии и творчества, 2009. М..: Русский Путь. С. 200.

[28] Прыкладна гэтаксама – з асобных апавяданняў – паўставала паэма-"энцыклапедыя" "Новая зямля" (але тут усё ж параўнанне хутчэй фармальнае, бо задума паэмы адносіцца да пачатку яе напісання – падчас турэмнага зняволення). Большае падабенства можна ўбачыць з "Казкамі жыцця", якія аўтар лічыў асобным творам: Якуб Колас пісаў казачныя аповеды ад пачатку творчага шляху, аднак не ўсе яны "трапілі пад рубрыку" (М. Мушынскі) "Казкі жыцця" (гл. падрабязней: Мушынскі, М. Тэксталогія твораў Янкі Купалы і Якуба Коласа / М. Мушынскі. Мінск: Беларуская навука, 2007. С. 175-204). Канчатковая расстаноўка казак адбылася напрыканцы жыцця Якуба Коласа, прычым – што важна для параўнання і атаясамлення з "Песнямі-жальбамі" – не ў храналагічным парадку, "толькі разам, у той паслядоўнасці, у якой яны змешчаны ў асобнай кнізе, і абавязкова з захаваннем назвы цыкла" (Пшыркоў Ю. Самацветы беларускай мастацкай прозы // Колас Я. Казки жыцця. Минск: Народная асвета, 1976. – С. 105).

[29] Гл.: Гніламёдаў У.В. Янка Купала, Якуб Колас і Сярэбраны век // Янка Купала і Якуб Колас у кантэксце славянскіх літаратур: Матэрыялы Міжнар. навук.-тэарэт. Канф. (Мінск, 3-4 кастр. 2002 г.) / Рэдкал.: У.В. Гніламёдаў (гал. рэд.) і інш. Мінск:Бел. навука, 2002. – С. 7-14.

[30] Выключэннем глядзяцца некаторыя "Казкі жыцця" і "Сымон-музыка" (таксама, дарэчы, "казка жыцця"), але гэта патрабуе дадатковага даследавання.

згадкі

Кастусь Цвірка



...Беларусь мая, сонца,
Дарагая і родная маці!
На якіх раздарожжах
Згубіла ты шчасце сваё?...

# Човен майго часу

***З новай кнігі***

*Працяг. Пачатак у №6 (85) за 2016 год, №1-3 (86-88) за 2017 год.*

## УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ

Ён спакваля падняўся па ўсходках на сцэну невялічкай залы ў старым пісьменніцкім доме па вуліцы Энгельса, высокі, танклявы, з надзіва вялікімі, трошкі раскосымі вачыма, і стаў пры масіўным стале, за якім сядзеў, даўшы яму слова, старшыня Саюза пісьменнікаў Пятрусь Броўка. Усе ўдзельнікі нарады маладых літаратараў, і самі маладыя, і сталыя творцы, з цікавасцю чакалі, што ж у сваёй паэтычнай кайстры прывёз з Украіны, дзе настаўнічаў па заканчэнні Кіеўскага ўніверсітэта, гэты элегантны, нікому з прысутных яшчэ не знаёмы маладзён. А ён, перамінаючыся з нагі на нагу, з хвіліну памаўчаў, потым пракаўтнуў нешта застралае ў горле (мусіць, ад хвалявання), абвёў залу сваімі выразлівымі вачыма, і плаўна, з перакатамі, нібы марскія хвалі, паплылі з вуснаў прыезжага юнака меладыйныя радкі нечага не зусім звычайнага, прыгожага і такога роднага:

Лісце алае засыпае роў,
Пушчу чорную апавіў туман,
Атачон з усіх чатырох бакоў
Золкай восенню мой лясны будан...

Ад усіх я ўцёк, ад усіх я збег,
Буйным воласам да кален зарос,
Годы стаялі, быццам белы снег...

Гэта быў верш пра легендарнага Машэку, вобраз якога так нечакана ўваскрос перад намі, набыўшы жывыя, рэальныя рысы.

А потым загучала “Балада пра паўстанца Ваўкалаку”, таксама з народных паданняў, таксама ўваскрослага з забыцця:

Апошняя ноч над зямлёю.
Каля мяне, як цень,
Праходзіць да вадапою
Вольны лясны алень.

Заўтра нічога не будзе.
Ляжу ў яры ля ракі.
Куляю срэбнаю ў грудзі
Звалілі мяне паюкі.

У полі абшар шырокі,
А тут і вільгаць, і цень.
Няма прасторы для вока...
Лісце аб’еш, алень!

Ажывала, вяртаючыся з вякоў, сама гісторыя, ізноў ва ўсю моц гучалі яе званы, узнаўляліся адвечныя думы-мары беларуса, што віравалі ў колішніх народных баладах.

Голас у гэтага незвычайнага хлопца, калі ўсё тое выгаворваў, быў мяккі, лагодны, нейкі вельмі душэўны. А калі ўбачыў па бляску вачэй вялікую да сябе прыхільнасць і спрыянне, ён пасмялеў, пачаў гаварыць больш упэўнена, разняволена. Прыезжы ўжо як бы спавядаўся перад блізкімі па духу, хоць яшчэ незнаёмымі людзьмі, раскрываючы перад імі ўсю сваю душу і чакаючы разумення і спагады:

Ноч прыйшла да зямлі на спатканне.
Захад скончыў агнём палаць,
І дубы ў малочным тумане
Веліканамі ціха стаяць...

Вы, што маці душу забылі,
Без яе пажадалі пражыць,
Што вы варты без гэтай магілы,
Без каліны на роднай мяжы?

Без дубоў, што ў тумане млеюць,
Без расы на роднай траве?
Павяртайцеся! Вецер мацнее!
Маці кліча, кветка заве!

“Павяртайцеся!” Гэта быў глыбока ўсвядомлены кліч да ўсіх, хто з розных прычын апынуўся на чужыне, а найперш звернуты да тых, хто выракся Радзімы, мовы свайго народа, гарачы заклік вярнуцца дадому, на зямлю продкаў, якая чакае любасці і ласкі ад сваіх сыноў, абароны ад недругаў.

Усе, хто слухаў яго вершы, бачыў абвостраную любоў гэтага хлопца да Бацькаўшчыны, якая ў разлуцы стала для яго яшчэ больш роднай і мілай:

Восень прайшла пералескамі
Па няголеным ржышчы ніў,
Чырвонымі арабескамі
Лісце лес ураніў.
Глянь на зямлю залатую,
Пяшчотную, сумную, чыстую,
Нехта па ёй вандруе,
Ў паветра ўзнімаючы лісце.
Медзь па азёрах сплывае...

А як без хвалявання можна было слухаць спавядальныя радкі верша пра родны гарадок аўтара Оршу, з якім даўно разлучыўся і да якога неадольна кліча душа:

Як толькі цёмнаю ноччу
Вочы свае закрываю,
Адразу я Оршу бачу
З яе нияркай красой,
З бярозамі над Аршыцай,
З вясёлым сонейкам мая,
З блакітам першых пралесак
У косах каханай маёй.

Тут нарадзіліся думкі,
Воля, імкненні, жаданні,
Тут стаў я сынам краіны,
Абпален яе агнём...
Таму і люблю я Оршу
Першым вялікім каханнем,
Якое не знікне, пэўна,
Нават з маім жыццём.

Калі ён скончыў чытаць, усе заварушыліся, загрукалі крэсламі, загаварылі. Кожны бачыў: у беларускую літаратуру прыйшоў сапраўдны, ні на кога не падобны паэт, паэт незвычайнага таленту. Імя яго – Уладзімір Караткевіч – неўзабаве стане на слыху ў кожнага беларуса.

Звычайна ў наш Саюз пісьменнікаў прымалі тых, хто выдаў хоць бы адну кнігу. Уладзіміра Караткевіча на той нарадзе аднагалосна рэкамендавалі ў пісьменніцкі хаўрус і неўзабаве прынялі нават без кнігі – толькі за вершы, якія прагучалі з яго вуснаў і якія потым пачалі друкавацца на старонках перыядычных выданняў.

А кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў знайшло спосаб вярнуць маладога паэта з Украіны на Радзіму.

Тут, дома, у Караткевіча была даволі шырокая магчымасць друкавацца. Вершы яго знаходзілі сваю пляцоўку ў часопісах “Полымя”, “Маладосць”, “Беларусь”, альманаху “Дзень паэзіі” і ў іншых выданнях. У 1958 годзе выйшаў і яго першы зборнік “Матчына душа”. Потым – адна за адной – пайшлі новыя кнігі паэта.

Чым асабліва ўражвае паэзія Уладзіміра Караткевіча, дык гэта той незвычайнай знітаванасцю іх аўтара з роднай зямлёй, з яе прыродай, ад якой ён проста не аддзяляе самога сябе:

Закаханы ў жыццё і ў кожную мушку,
Я іду каля хат і росных садоў,
І са мной размаўляюць звяры і птушкі
На дзесятках і тысячах розных моў...

Ідучы паўз лес, ён чуе, пра што буркочуць, перагаворваюцца паміж сабой галубы:

Пр-роста вар-рвар, варвар, стр-рашэнны варвар,
Крыл не мае, а кр-рочыць, крочыць, дзівак.

А ўначы каля рэчкі ён разгадвае нават размову дзвюх жаб:

– Ку-ума, кума, а што ты вечэраць варыла?
– Борш, боршч, буракі, бура-кі-кі-кі-кі...

Халоднай глыбокай восенню паэту “відушчым зрокам” бачыцца, як у сівым тумане, прысеўшы каля агню, варыць з ячмяню піва заяц, “трыгубы, шэры, касавокі”.

З нейкай асаблівай радасцю расказвае пра гэта Караткевіч. Можна падумаць, што ён сам паверыў у сваё ўяўленне. Бо во як даверліва просіць:

Пабачыш, не гані з абсады,
Дай хоць на гэты дзень спакой,
Павінна ж быць і ў зайца радасць
Перад халоднаю зімой.

У кожным вершы Караткевіча – амаль язычніцкая ласка да роднай зямлі, да такой лагоднай і мілай, сыноўняя любасць да свайго краю, па якім прайшлі тысячагоддзі:

У векавечнай бацькаўшчыне клёны
Нячутна пачынаюць аблятаць
На рыжую траву, на мох зялёны,
На весніцы, на ціхі стаў, на гаць...
Адвечная мая! У сцюдзёных росах,
Як летась, як мільёны год таму...
Ляцяць на ветры косы рыжай восені,
І кліча лісцяў жоўты сум зіму.
На вуснах стыне горкі смак рабіны,
Цалую іх, халодныя, як лёд.
О вы, што будзеце ісці з дзяўчынай
Пад тымі ж клёнамі праз сотню год,
Ці зразумееце, што мы кахалі,
Што зніклі так, як знікнеце і вы,
Што векавечны толькі край, і далеч,
І жоўты ліст на зелені травы...

Адсюль, ад вялікай любові да Радзімы, ідзе і натуральнае жаданне бачыць яе вольнай і шчаслівай, а гэта значыць, самастойнай, ні ад каго не залежнай дзяржавай, такой, якой яна была ў старажытнасці, але якую прыбралі да сваіх рук хцівыя суседзі, што “тлустым задам расселіся на паднявольнай зямлі”, і цяпер “над ёй фанабэрыцца п’яны, разбэшчаны гун”. І от крык душы:

Беларусь мая, сонца,
Дарагая і родная маці!
На якіх раздарожжах
Згубіла ты шчасце сваё?
Ці удасца хоць дзецям
Шчаслівага дня дачакаці
Пасля мужнасці гэткай,
Пасля столькіх крывавых баёў?..

Край сагнуўся ў спіне,
Край баіцца размовы пра волю,
Край згубіў сваю мову
І матчынай песні напеў...

І няўжо не ўваскрэсне
Забытая родная мова
Не на тое, каб енчыць,
А каб крыкнуць да ўсіх на зямлі:

“Ўстаньце, хлопы, да зброі!
Ліце кроў для вялікай любові,
Каб на гэтай крыві
Небывалыя кветкі ўзраслі!”

Беларусь, прачынайся!
Я цябе абуджаю!
Ты павінна прачнуцца,
Не праспі сваё шчасце ўначы...

Гэта з верша “Паўлюк Багрым”. Аўтар выбраў тэму з часоў прыгону. Але гэта была толькі шырма. Ён выгаворваўся якраз пра свой час, бо і ў яго часе нічога не змянілася на Радзіме, якая заставалася ў чужацкай няволі.

У вершах паэта адбівалася ўсё, што яго хвалявала, усё, чым ён жыў. У іх вельмі натуральна гучаць радкі на самыя розныя тэмы. Ну, а ў маладога чалавека не апошняе месца займала, вядома ж, і светлае пачуццё кахання.

Па-свойму, з добрай усмешкай расказаў Уладзімір Караткевіч і пра сваё (думаю, не пра чыё ж іншае) першае юнацкае каханне ў вершах “Праменьчык” і “Гісторыя з першым каханнем”. Пра тое, як ён, “рамантычны, цыбаты хлапчук”, “дурны ад кахання і мук”, марыў пра шчасце.

А шчасце гуляла ў садзе,
Апранутае ў паркаль,
Сабе і птушкам на радасць,
А мне на смутак і жаль.

І як жа было яму не пазайздросціць сонечнаму праменьчыку, які раніцай, калі дзяўчынка яшчэ спала, так смела заскочыў да яе праз акно і “руку голую цёплым ротам, крадучыся, пацалаваў”.

Вядома ж, ёсць у Караткевіча і больш “сур’ёзныя” творы пра каханне, пра хараство гэтага чалавечага пачуцця.

Усе разгледжаныя і працытаваныя тут вершы Уладзіміра Караткевіча ўзяты з яго першай кніжкі “Матчына душа”. Пісаліся яны, калі аўтару было ўсяго якіх дваццаць з лішкам гадоў. Але ў іх мы выразна бачым, што нёс ён у літаратуру.

Усё “намечанае” тут паэт выгаворваў далей у самых розных жанрах – вершах, паэмах, аповесцях, апавяданнях, раманах, п’есах, кінасцэнарыях, публіцыстыцы. Сапраўдным святам для кожнага беларуса было з’яўленне яго аповесцяў “Дзікае паляванне караля Стаха”, “Сівая легенда”, “Чазенія”, раманаў “Леаніды не вернуцца да Зямлі” (“Нельга забыць”), “Каласы пад сярпом тваім”, “Хрыстос прызямліўся ў Гародні”, “Чорны замак Альшанскі”, п’ес “Млын на Сініх Вірах”, “Кастусь Каліноўскі”, “Маці ўрагану”, нарыса “Зямля пад белымі крыламі”, кніг паэзіі “Вячэрнія ветразі”, “Мая Іліяда”, “Быў. Ёсць. Буду” ды і не толькі гэта.

Творы Уладзіміра Караткевіча адкрывалі перад вачамі беларуса яго забытую, занядбаную гісторыю, велічную славу яго продкаў. Усімі сваімі творамі ён паказваў нам, што мы – беларусы не такі сярмяжны народ, якім вякамі малявалі яго нашы недабразычліўцы, што ў нас была вялікая і слаўная дзяржава, што мы мелі выдатных дзяржаўных і грамадскіх дзеячоў, сваю адукаваную інтэлігенцыю, сваіх каралёў і князёў, якімі не можам не ганарыцца.

У свой час я проста праглынаў кожны новы твор Уладзіміра Караткевіча, чытаў і перачытваў. Асабліва чакаў я працягу гістарычнай эпапеі “Каласы пад сярпом тваім” пра паўстанне Кастуся Каліноўскага, паўстанне, якое скаланула тады ўсю Беларусь. На вялікі жаль, мы так і не дачакаліся гэтага. Але і апублікаваныя раздзелы паказалі, чым жылі нашы продкі ў дзевятнаццатым стагоддзі, наша перадавая, высокаадукаваная інтэлігенцыя, беларуская эліта.

З Уладзімірам Караткевічам у мяне было простае знаёмства, такое ж, як і з большасцю супольнікаў нашага творчага Саюза. Былі гутаркі пры сустрэчах, выказваліся нейкія меркаванні пра падзеі нашага літаратурнага жыцца. Запомніліся два званкі Уладзіміра Караткевіча да мяне. Першы з такой нагоды. Яму даручылі былі (не ведаю, хто) падабраць вершы беларускіх паэтаў, радкі з якіх можна б было выбіць на рыхтаваным тады помніку партызанам. З усіх перагледжаных для гэтага вершаў ён выбраў толькі мой – "Голас партызан пад Палікам" ("Мы былі на апошнім маршы..."). Папрасіў мяне толькі яго "падціснуць". Я з ахвотай згадзіўся. Добра скараціўшы, верш перадаў Караткевічу, а ён – заказчыкам. Праўда, ні на якім помніку радкоў свайго верша я не ўбачыў.

Другі раз Валодзя (я так яго зваў) пазваніў мне, каб выказаць свае меркаванні пра мой вялікі дарожны нарыс у "Полымі" пра Яна Чачота: ён вельмі высока ставіў пачынальнікаў нашай літаратуры (тут – новай літаратуры). Нарыс ён упадабаў і хацеў, каб паболей людзей прачытала пра гэтага беларускага паэта-рамантыка. Таму параіў, як зрабіць яго больш чытэльным. Я быў вельмі рады званку Уладзіміра Караткевіча, бо з трывогай дазнаўся перад гэтым, што ён быў у бальніцы. Калі я папытаў у яго пра здароўе, ён толькі адмахнуўся. Я папрасіў яго прынесці, калі ёсць, свае новыя вершы для публікацыі ў "Полымі", дзе я тады вёў паэзію. Ён паабяцаў, але не паспеў. Праз месяц пасля таго званка яго не стала. Няма чаго казаць, якая гэта была страта для ўсіх нас, для нашай літаратуры, для Беларусі.

*26.08.2015*

## СЦЯПАН ГАЎРУСЁЎ

Студэнцкімі гадамі першы раз я пачуў гэтае імя ад Ніла Гілевіча, які з узнёсласцю расказваў мне пра яго як пра новую з'яву ў беларускай літаратуры, пра незвычайна таленавітага паэта. Маладога яшчэ паэта, які адбываў тады вайсковую службу на Далёкім Усходзе.

Таму калі ў мінскай кнігарні трапілася мне на вочы яго тоненькая, блакітнага колеру кніжка "Паходныя кастры", што выйшла ў 1958 годзе ў выдавецтве "Беларусь", адразу купіў яе, адшкадаваўшы ад стыпендыі цэлых 60 капеек.

З вершаваных радкоў хлынула на мяне рамантыка вялікіх дарог, непадроблены пафас змагання за зіхатлівую будучыню савецкіх людзей і ўсяго чалавецтва. Адчувалася, шта аўтар усёй душой успрыняў галоўныя лозунгі часу і рваўся іх здзяйсняць – пракладваць новыя дарогі, шукаць "скарбы зямлі", запальваць "у стэпе і ў глухіх лясах" свае "паходныя кастры", "кастры гарачай маладосці", каб асвятляць імі "шлях наступным, новым пакаленням".

Гэты высокі пафас набыў яшчэ большае гучанне ў далейшай творчасці Сцяпана Гаўрусёва, калі прыкметна ўзрасло – адтачылася яго паэтычнае майстэрства.

У літаўры б'юць мерыдыяны,
Паралелі звоняць у званы,
І, разбег узяўшы акіянны,
Па планеце ходзяць мае сны.

Безаглядна ўспрынятая вера ў зіхатлівы міраж камунізму, шчырая адданасць справе "вождя пролетариата", што "глыбіста нахмурваючы лоб, на тройцы ўсерасійскіх рэвалюцый падняў краіну ў ярасны галоп", прадыктавалі паэту многія творы, найперш яго "планетарныя" паэмы "Аптымістычная кантата", "Палярная араторыя", "Профіль веку". Гэта былі не проста паэмы, а літыя званы-літаўры, у якія на ўсю моц малаціў барабаннымі бітамі чаканных, па-майстэрску выструненых строф аўтар, усё больш і больш распальваючыся і амаль фізічна падганяючы самога сябе: "Грымі, радок, як цэх інструментальны!"

Такую маштабную размашыстасць, такую перакананасць у сваёй рацыі, такую чаканку радка бачыў я хіба толькі ў Маякоўскага, з якога, зрэшты, і браў прыклад беларускі паэт, скіраваны сваім кумірам на ілжывы след. Як мне бачыцца, Маякоўскі сам пад канец жыцця зразумеў, што ішоў "не туды", што мацаваў радком самы бесчалавечны дыктатарскі рэжым, "імперыю зла", крывавы Архіпелаг Гулаг.

Што ж да Сцяпана Гаўрусёва, то ён доўга яшчэ, здаецца, даўжэй, чым хто-небудзь з літаратараў, грымеў у тыя свае літаўры, не адступаючыся ад выбранага шляху.

Добра помніцца адна размова з ім у Каралішчавічах. Прагульваючыся па дарожцы пры доме творчасці, мы ўзгаварыліся пра культ асобы Сталіна. Дзіва дзіўнае: Сцяпан яго абараняў! І гэта пасля таго, як з самых высокіх трыбун былі выкрыты крывавыя злачынствы тырана, развязаны ім нечуваны тэрор над народамі СССР. Прайшлі ўжо тры антысталінскія з'езды партыі – XX-ты, XXI-ты і XXII-гі, на якіх гаварылася пра гэты, нічым не апраўданы чырвоны тэрор і пасля якіх пачаўся вялікі "сталінапад".

Калі я нагадаў Сцяпану Гаўрусёву пра гібель ад рук крамлёўскіх апрычнікаў мільёнаў бязвінных людзей, ён сказаў на гэта:

– Так трэба было.

Відаць, вельмі няпроста было яму прызнаць вызначальную памылку жыцця: веру ў бальшавіцкую ўтопію, у зманлівую сусветную камуну. Памылку, якая перакрэслівала ўвесь галоўны пафас яго творчасці.

Паступова Сцяпан Гаўрусёў пераадолеў усё ж тое планетарнае трызненне, той пустапарожні пафас і вярнуўся з нябёс на грэшную зямлю. Вярнуўся да сваіх вытокаў, да сцежак маленства, да палявых разлогаў роднага Прыдняпроўя, вярнуўся да сябе.

Якраз там, дома, і знайшоў ён сапраўдную паэзію.

Па саміх вершах мы можам прасачыць, як "адбывалася" гэтае вяртанне.

Там, дзе бегаў у траве па пояс,
Там, дзе сокам цешыўся бяроз,
Мяне хутка дзён дзіцячых поезд
Весела і радасна пранёс...

І цяпер, бы праз туман бялёсы
Ідучы ў бацькоўскі край здалёк,
Як пабачу белыя бярозы
І пачую, што струменіць сок, –

Мне здаецца, ў тыя дні вярнуцца
Можна – пажадай таго душа,-
Толькі трэба к латаку нагнуцца
І напіцца соку з гладыша.

І вось ён дома:

За прыгуменнем – ядранае жыта:
Сцяна калоссяў, бабкі і снапы.
Паветра густа промнямі прашыта,
Мучнога пылу гойсаюць слупы.

Я аб іржэўнік вострыя абкалюся,
Шукаючы разору-баразну,
Стамлюся, і зняможана звалюся,
І, плачучы, сярод снапоў засну...

Усё тут яму роднае і мілае, дарагое з дзяцінства:

Хлапчуком белагаловым
Гаспадарыў я на лузе,
Пільнаваў з кіём лазовым,
Каб не лезлі ў шкоду гусі.

Асядлаўшы варанога,
З хлапчукамі ўперагонкі
Я ляцеў – гула дарога,
Вецер біў у перапонкі...

Таму і цягне паэта ў краіну маленства, на родную Магілёўшчыну, дзе сярод лясоў і палявых разлогаў згубілася яго родная вёска Нова-Аляксандраўка глыбіннага Дрыбінскага (цяпер Шклоўскага) раёна, непадалёку ад ціхаплыннага Дняпра.

Няхай паслужыць мне здароўе,
Як пілігрыму кій дарожны, –
Пайду пяшком у Прыдняпроўе
І завітаю ў луг мурожны...

Там лозы хілыя над рэчкай,
Зямля прапахла медуніцай,
І конь мой з мокраю вуздэчкай
Пасецца ў лузе над крыніцай.

Мой конь, ты добра адгуляўся,
Пакуль я ездзіў на машыне.
Мой конь, ты добра назбіраўся
Дарожнай белай канюшыны...

Коні – вельмі частыя госці ў паэтычных радках Сцяпана Гаўрусёва. І не дзіва: яшчэ ж не так даўно нельга было ўявіць сялянскую гаспадарку без каня. Конь там – усё. Асабліва вабілі коні вясковых хлапчукоў. Паскакаць на кані, пасвіць коней на начлезе, ездзіць на кані па сена, па снапы, у дровы – гэта была радасць для малых. З коньмі звязаны ў дзяцей вёскі самыя светлыя ўспаміны.

Я познім вечарам домоў прыехаў,
Стаміўся конь – ледзь ставіў капыты.
І я ў табун павёў яго – туды,
Дзе сыпле восень спелы град арэхаў.

Гай клікаў мяне жоўтымі лістамі
І шолахам прадрогшага галля,
Але пахаладзеўшая зямля
Маўкліва слалася пад капытамі.

Нячутна ноч ішла з усіх бакоў,
І неба, як шкарлупіна арэха,
Ганяла ціха стомленае рэха,
Што глуха вылятала з-пад падкоў.

Ці не праўда – вельмі яркая, праўдзівая карціна вясковага вечара пасля дзённай працы селяніна! Нечым (можа, мяккасцю фарбаў?) нагадвае яна мне палотны галандца Пітэра Брэйгеля.

Шчаслівыя дні вясковай дзятвы на вольнай волі перапыніла вайна. Дзевяцігадовым хлапчуком сустрэў яе Сцяпан Гаўрусёў. Пайшлі гады акупацыі. Не маглі не ўражваць дзіцячую псіхіку сутычкі чырвонаармейцаў з гітлераўцамі, грукат баёў, які ўзмацняўся пры наступленні савецкай арміі: вайна паскарала сталенне вясковага хлопца.

Я вырас пад гарматнымі ствaламі,
Я мераў час секундай, а не днём.

Я вызначаў свой рост не пад сталамі –
Пад расчахлёнай пашчай, пад агнём...

Мы прызнаваліся сваім любімым
І службу ўжо дарослую няслі.
Стаў новым свет, а губы пахлі дымам,
Бо мы з снарадных конавак пілі.

“Прызнаваліся сваім любімым...” Там, у вёсцы, і прыйшло яно, яго першае каханне. Як гэта было, як нараджалася і расло тое светлае пачуццё ў паэта, зноў жа можна лёгка прасачыць па яго вершах.

Каму з нас радасць невядома,
Калі, прыспешваючы крок,
Дзяўчына пройдзе каля дома,
Нібы світальны вецярок.

Зірнеш на косы ільняныя –
Адвага траціцца твая,
І сэрца ёкне і заные,
Бы ў золкай плыні ручая...

Яна яшчэ не заўважае
Тваёй затоенай журбы,
Смяецца з некім, як чужая,
Пад ціхай засенню вярбы...

Гэта радкі верша “Каму з нас радасць невядома”...

А гэта – верш “Рута-мята”:

Вачэй прыжмураных хітрынкі
  На мне – як матылькі.
Дзяўчат праводзім з вечарынкі –
  Падлеткі-хлапчукі.

Як майскі цвет, я быў нясмелым,
  І ў памяці жыве –
Ідзеш ты ў плацці бела-белым
  Па роснай мураве.

А там лясок – маё расстанне,
  Дык не хавай шчакі.
Снуюць над намі да світання
  Іскрынкі-светлякі.

Гармонік зойдзецца заўзята –
  Хмялее галава:
– Ой, рута-мята, ды не прымята,
  Ды не стаптаная трава.

Пра каханне, пра сваю любую трызніць паэт і на далёкім Амуры, куды закінуў яго, дваццацігадовага, воінскі абавязак:

Я прыйду вясною белай,
Як зашэпчуцца дубровы,
Не з душою загрубелай –
Малады і густабровы...

Лёд плыве раздоллем сінім,
Вербы згорбленыя гнуцца.
Разам з выраем гусіным
Я б хацеў к табе вярнуцца.

Скрозь адкрытую фіранку
Смех знаёмы заіскрыцца.
Да цябе зайшоўшы ўранку,
Папрашу вады напіцца.

І за кожным тваім рухам
Загляджуся без трывогі.
Цветам вішань, лёгкім пухам
Нашы ўсцелюцца дарогі...

Усё гэта – юнацкія лятункі, сны, мары.

Ды вот ён вярнуўся з берагоў Ціхага акіяна дамоў, у сваю родную вёску ў Прыдняпроўі. Малады, высокі, "густабровы". І – памужнелы. Ужо смела, з армейскай рашучасцю адчыняе дзверы ў хату той, пра якую трызніў доўгія тры гады службы. Радасць сустрэчы. Радасць першага кахання. Ім, дваім, нішто ўжо не замінае шчасліва блукаць па мілых з дзяцінства разлогах палёў і лугоў, па лясных сцяжынках.

На ўзлессі ўбачылі куст ляшчыны. Дзяўчыне (звалася яна Галіна) захацелася дастаць на версе арэшыны гронку арэхаў.

Палезла ўгору. Верхавіна – хрась...
Хіснулася разгойданае вецце,
Ляціць і долу дакранецца ўміг,
І вось я – самы шчаслівейшы ў свеце:
Я – пераняў! Ты – на руках маіх!
Любімая! Як сэрца гулка б'ецца
Пад кофтай паркалёвай... Як яно
З маім суладна! Праўда ці здаецца,
Што зараз яны б'юцца заадно?

Позным вечарам пайшлі купацца ў Дняпры. Адышоўшыся ў розныя бакі, нырнулі ў ваду са сваіх месцаў. Не адразу заўважае яе хлопец, шукае вачыма. Ды раптам

З Галінай сутыкаюся сваёю!
Яна – убок. Адзін узмах, другі.
І вадзяныя абручы за ёю,
Нібы выратавальныя кругі.
Харошая, навошта ратавацца?
Ці замалая для мяне рака?
Ці сапраўды ты думаеш хавацца,
Як плотка перад пасцю шчупака?
На хвалях месяц гойдаецца хліпка,
Халодна слізнуў па тваім плячы,
Па смуглых локцях... Дарагая рыбка,
Нам ад сябе нікуды не ўцячы.
Адзін ўзмах, другі і – поплеч
Плыву з табой, любуюся табой.
І нечаканага здзіўлення вокліч
Гучыць цудоўней музыкі любой...
Ляцяць угору пырскі вадзяныя,
І хвалі дабягаюць да лазы.
Чакай, чакай: чаго ж ты ільняныя
Рукою папраўляеш валасы?
Ці грабянец маладзіком бялее,
Калышацца, упаўшы на ваду?
Дык не саромся – белыя лілеі
У шоўкавыя косы запляту.
Адно – плыві, плыві са мною... Бераг.
Перад вачамі – зорак мітусня
Ды бліснуў грабянец з чаротаў шэрых,
І ў цэлым свеце мы і – цішыня.

Усё гэта радкі з паэмы “Штодзённы лістапад”, у якой кожнае слова, кожны гук пульсуе каханнем. Гэта – лічу, лепшая паэма Сцяпана Гаўрусёва. Яна – праўдзівы, прыгожы гімн светламу юнацкаму пачуццю.

Як бачым, якраз тут, на бацькоўскай зямлі, дзе бегала маленства і раскашавала маладосць, дзе спазнавалася ўсё хараство і паэзія сялянскай працы, дзе нязменна гучала ў першароднай сваёй чысціні родная беларуская мова і гучалі над разлогамі палёў, глыбока западаючы ў сэрца, вольныя напевы краю, знайшоў Сцяпан Гаўрусёў сапраўднае ў сваёй творчасці. І ўсё гэтае сапраўднае, па праўдзе паэтычнае назаўсёды застанецца з намі, застанецца ў літаратуры.

Тое ж наноснае, што было навеяна паэту д’ябальскай ідэалогіяй і збівала яго з дарогі, адмёў як непатрэбшчыну, як смецце строгі і непадкупны пан Час. Трэба сказаць, яшчэ пры жыцці паэта.

Я пахаўрусаваў са Сцяпанам Гаўрусёвым праз нейкі час пасля яго вяртання з вайсковай службы на Далёкім Усходзе і ўладкавання ў галоўнай рэспубліканскай газеце “Звязда”: мы ж круціліся ў адным літаратурным коле. Рады былі абмяняцца сваімі кніжкамі. Першая, якую ён мне падараваў, была “Шчодрасць”, куды ўвайшла і паэма “Штодзённы лістапад”. Падпісаў яе так: “Кастусю Цвірку, паэту, другу і чалавеку – з любоўю”.

Асабліва часта прыходзіў ён да мяне ў “Полымя”, калі я там працаваў. Не толькі, каб прапанаваць свае новыя вершы для друкавання, а і проста пасядзець, пагаманіць. Нярэдка і для таго, каб пазычыць грошай: усё часцей і часцей заглядваў Сцяпан у чарку. Можа, праз нелады ў сям’і, пра што, зрэшты, ніколі не расказваў: абмінаў гэтую тэму.

Быў ён даволі відны мужчына: высокі, прамы, стройны. І на яго не маглі не заглядвацца маладзіцы. Аднаго разу Нэля Тулупава, якой я, прызнаюся, сімпатызаваў, пры сустрэчы на вуліцы сказала, што ў яе ёсць сяброўка, якая ўпадабала Сцяпана Гаўрусёва, і прапанавала сустрэцца нам учатырох на нейкай кватэры. Я сказаў пра гэта Сцяпану і папытаў, ці згодзен ён на такую сустрэчу. Ён адказаў адназначна: не. Мусіць, апошнім часам чарка была для яго мілей за ўсё.

Помніцца і адзін маленькі кур’ёз. Прыехаў я па нейкай камандзіроўцы ў Магілёў. Вышаў раніцай з гасцініцы. Пераходзячы вуліцу, бачу ўперадзе Сцяпана Гаўрусёва, які ідзе ўслед за Аляксеем Пысіным.

– О, дзед Гудзень! – радасна крычу Сцяпану, наганяючы яго і хапаючы за локаць. – Калі гэта ты сюды прыляцеў?

Тут патрэбна тлумачэнне: ён нейкі час насіўся з ідэяй – напісаць для дзяцей драматычны твор, дзе галоўным героем меўся быць вясёлы і мудры дзед-усявед Гудзень. Дзед Гудзень. Меркаваў прапусціць гэты твор па радыё, дзе я тады працаваў у літаратурна-драматычнай рэдакцыі. Мы і самога Гаўрусёва празвалі жартам дзедам Гудзенем, на што ён толькі ўсміхаўся.

Дагнаўшы яго на сярэдзіне вуліцы (машын тады было мала), хапаю яго за локаць і пытаюся, як ён тут апынуўся: толькі ж учора мы сустракаліся ў Мінску. Ды Сцяпан Гаўрусёў, не падзяляючы маёй радасці ад такой неспадзяванай сустрэчы, атрапнуўся ад маёй рукі і вельмі холадна, зусім адчужана адказаў:

– А я вас не знаю.

Гляджу: не жартуе, кажа на поўным сур’ёзе.

Зніякавелы, іду поплеч і не ведаю, што думаць. Няўжо нешта зрабілася з галавой, што не пазнае сябра? Ці яшчэ што? Аж нейкі прыкры халадок пачуў усярэдзіне.

Ды сітуацыю “разрадзіў” Аляксей Пысін, які чуў нашу гаворку:

– Гэта ж не Сцяпан. Гэта – Віктар Гаўрусёў, яго брат. Яны – блізняты.

Яшчэ раз гляджу на Віктара і дзіўлюся: і аблiччам, і паставай, і голасам – Сцяпан ды і толькі! Не заўважаю аніякай, нават самай малюсенькай розніцы! У народзе пра яго сказалі б: і кропелькі ўсе пабраў.

Калі Сцяпан Гаўрусёў памёр, сябры-пісьменнікі, што прыйшлі развітацца з ім у Дом літаратара, дзе была ўстаноўлена труна з яго прахам, былі ашаломлены: перад труною Сцяпана Гаўрусёва ... стаяў Сцяпан Гаўрусёў! Гэта Віктар Гаўрусёў, выкладчык беларускай мовы і літаратуры адной з магілёўскіх школ, прыехаў праводзіць у дарогу вечнасці свайго брата.

Смерць Сцяпана Гаўрусёва была вялікая страта для беларускай літаратуры. Колькі напісаў бы ён яшчэ цудоўных вершаў і паэм: яму ж было ўсяго 56 гадоў! Да таго ж Сцяпан Гаўрусёў канчаткова развітаўся ўжо з ранейшымі ідэалагічнымі ілюзіямі і быў у самым росквіце сіл.

*19.09.2015*

Наталля Якавенка



...кожны, хто прачытае анталогію,
будзе ўражаны...

# “Імгненне шчасця і сусветны холад”: беларускія паэткі ў міжваенны час

***Бліскавіцы: анталогія беларускай жаночай паэзіі міжваеннага перыяду / уклад., камент. А. Данільчык, В. Жыбуля. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”; выпуск 88). – 448 с.***

Табе – пракляцце, і табе – хвала,
Табе – вар’яцтва і цвярозы розум,
А ты ўсё тая ж – як вякоў імгла,
Як летуценнай будучыні роздым.
Жыццё і смерць – і паміж імі ты:
Імгненне шчасця і сусветны холад.
Яшчэ ніхто – ні грэшнік, ні святы
Не разарваў твайго сакрэту кола...

**Васіль Зуёнак, “Жанчына”**

Прызнаюся: ці не ўпершыню ў жыцці мне давялося пашкадаваць, што не нарадзілася мужчынам, калі сабралася пісаць водгук на ўнікальнае выданне – анталогію беларускай




жаночай паэзіі міжваеннага перыяду "Бліскавіцы", створаную Аксанай Данільчык і Віктарам Жыбулем. Пашкадавала, бо падумала, што лепшыя словы пра жанчын хочацца чуць ад мужчын, тым больш раней за мяне выдатна напісалі аб анталогіі яшчэ дзве жанчыны – Ганна Янкута (для budzma.by) і Алена Карп (у "Літаратурнай Беларусі"). Безумоўна, жаночая душа, раскрытая ў вершах, лепш зразумелая нам, аднак спрадвеку ўсе жанчыны, нават сучасныя феміністкі, любяць мужчынскую ўвагу. Таму перш, чым прадставіць чытачам "Дзеяслова" гэтае выданне, вырашыла працытаваць з беларускай мужчынскай паэзіі тыя радкі, што, на маю думку, несумненна спадабаліся б кожнай з паэтак анталогіі – 61 асобе з Усходняй Беларусі і Расіі, Заходняй Беларусі і Латгаліі перыяду 1920–1930-х гадоў, а таксама ўкладальніцы кнігі, паэтцы, перакладчыцы, літаратуразнаўцы, аўтарцы грунтоўнай і вельмі цікавай прадмовы Аксане Данільчык. Пасля падумалася іншае: добра ўсё ж, што я не нарадзілася мужчынам, бо не напісала б так прыгожа, прачула, разам з тым проста і праўдзіва, як наш слынны паэт Васіль Зуёнак, і не дапамагла б Аксане так дасканала, як зрабіў гэта паэт і навуковец Віктар Жыбуль, удзел якога ў стварэнні "Бліскавіц" з'яўляецца выдатным падарункам жанчынам, знакам асаблівай увагі і павагі да іх.

"На жаль, немагчыма ў межах прадмовы асвяціць усе аспекты варункаў, жыцця і творчасці жанчын-паэтак у 1920-1930-я гады (хоць, прызнацца, вельмі хацелася б), таму давялося абмежавацца толькі асноўнымі, на наш погляд, момантамі", – піша А. Данільчык. Яе засмучэнне можна зразумець, бо, як заўважыла А. Карп, сярод прадстаўленых у анталогіі паэтак шмат жанчын "з яркімі біяграфіямі (часам яны зацьмяваюць вершы і выразней сведчаць пра свой час)". Насамрэч, біяграфіі ўражваюць, асабліва калі гэта лёсы невядомых са школьных ці студэнцкіх гадоў паэтак. У такім выпадку робіш для сябе двайное адкрыццё – літаратурнае і жыццёвае. І тады абсалютна не мае значэння мастацкая вартасць вершаў, бо задумваешся над тым, што давялося перажыць іх стваральніцам, што паслужыла штуршком для творчасці. Менавіта з гэтага – біяграфічнага ракурсу прапаную паглядзець на "Бліскавіцы".

Мужная жанчына – супярэчлівы выраз, які адлюстроўвае супярэчлівую рэальнасць. Пачатак ХХ стагоддзя спрыяў развіццю жаночай мужнасці і ахвярнасці на фоне сацыяльных і палітычных пераўтварэнняў. Пачынальніца беларускага жаночага масавага руху, паэтэса, празаік, грамадска-палітычны дзеяч, актрыса, сястра міласэрнасці і педагог Алаіза Пашкевіч (Цётка) мужна і самаахвярна змагалася за правы работніц і сялянак, заклікала беларускі народ скінуць рабскае ярмо, абараніць сваю нацыянальную і чалавечую годнасць, стварала кнігі і падручнікі для дзяцей.

Ідэйныя паслядоўніцы Цёткі Зоська Верас, Канстанцыя Буйло, Паўліна Мядзёлка і іншыя паэткі міжваеннага перыяду адкрывалі беларускія школы і чытальні, арганізоўвалі мастацкія і драматычныя гурткі, народныя хоры, пісалі па-беларуску вершы для дзяцей, а таксама "небяспечныя" творы супраць тагачаснага палітычнага рэжыму. Гэтая дзейнасць вымагала мужнасці, але не толькі яна патрабавала ад жанчын мужчынскіх высілкаў. Першая сусветная вайна стала для беларускіх жанчын вялікай трагедыяй. Мужчыны – каханыя, мужы, браты, бацькі – накіроўваліся на фронт і абарончыя работы, гінулі і атрымлівалі цяжкія раненні, мірныя людзі хварэлі і галадалі, паміралі дзеці. І менавіта ў гэты час жанчыны сталі яшчэ мацнейшымі і яшчэ больш ахвярнымі.

Так, Зоська Верас, якая скончыла ў 1914 г. варшаўскія агародніцка-пчалярскія і ваенныя санітарныя курсы, з восені 1915 па 1917 г. працавала ў Мінскім аддзяленні Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны. Таварыствам было адкрыта шэсць бясплатных прытулкаў, кожны з якіх змяшчаў па 200 чалавек. У 1916 г. пад кіраўніцтвам Зоські Верас праводзіліся курсы для бежанцаў па пчалярстве і садоўніцтве. Пры тым яна працавала загадчыцай сталовак, ткацкіх майстэрняў, сакратаркай, скарбніцай, лячыла хворых... і была паэткай. Што можна было пісаць у такіх умовах і пры такой занятасці? Вершы-заклікі да змагання? Не! “Бліскавіцы” змяшчаюць адзін яе твор – верш у прозе “Прыйдзі да нас, Хрысце...”, напісаны ў перыяд 1917-1921 гг., які выразна сведчыць пра тое, што запатрабаваная часам мужнасць не здольная, на шчасце, вынішчыць жаноцкасць, асноўнымі складнікамі якой з’яўляюцца любоў, дабрыня, чуллівасць. Паэтка выяўляе сябе не як мужная жанчына-змагарка, якая просіць Бога пакараць ворагаў, а як пяшчотная жанчына-берагіня, што моліцца аб дараванні агульнага граха забойства, нянавісці, страты міласэрнасці і чалавекалюбства, аб вяртанні любові, дабра і міру людскім душам і спакутаванай зямлі:

– *Вярні кахання моцы, устань з мёртвых, бо сканае свет, а грэх запануе на руінах быту... устань з мёртвых, мільёны худых чорных рук з жабрачай просьбай выцягнуты да цябе... устань з мёртвых і прынясі Святло... і прынясі цяпло... і ажыві палі і нівы... і выжні грэх – і выжні крыўду, і выжні здзек.*

*Дай спакой душам нашым...*

*Дай моц Твайго вялікага кахання сэрцам нашым...*

*Прыйдзі да нас, Хрысце...*

Акрамя таго, Зоська Верас зведала турэмную няволю, вынесла з “Лукішак” вершы Міхася Машары і выдала ў 1928 г. за свой кошт яго першы зборнік “Малюнкі”.

Канстанцыя Буйло вяла не настолькі актыўную дзейнасць, як Зоська Верас, бо лёс запатрабаваў ад яе мужнасці іншага кшталту. У 1914 г. Канстанцыя скончыла віленскія настаўніцкія кароткатэрміновыя курсы і настаўнічала на Лідчыне. У 1915-1916 гг. загадвала беларускай кнігарняй у Полацку, а ў 1917 г. знаходзілася ў бежанстве. Пазней, у 1923 г., мусіла выехаць услед за мужам, аграномам Віталём Калечыцам, у Маскву, куды яго запрасілі на працу, а ў 1933 г. ён быў незаконна арыштаваны і праз нейкі час загінуў у сталінскім лагеры.

Не кукуй, зязюля, каля майго дому!
Шчасця год – тут болей не лічы нікому.
..................................................
Не будзі ты суму адзінокай хаты,
Адляцеў далёка сокал мой крылаты...
Слёз ён не убачыць, жалю не утуліць...
Не кукуй ля дома гэтага, зязюля.

*(“Не кукуй, зязюля”, 1934)*

З арыштам мужа, якога яна, мяркуючы па вершах, па-сапраўднаму кахала, шчасце надоўга пакінула дом Канстанцыі Буйло. Паэтка адна гадавала сына, працавала на заводзе, у палітэхлабарсаюзе і іншых установах. Пасля імклівага творчага ўзлёту і папулярнасці (зборнік “Курганная кветка”, блаславёны-адрэдагаваны Янкам Купалам, выйшаў у 1914 г.) наступіў доўгі перыяд зацішша.

Сэрца, сэрца, ты, можа, заснула?
Цішыня навакола настала,
Не чуваць крыві палкага гулу,
Не грахочуць пачуццяў абвалы...

Цішыня...
Можа, смерць гэта,
можа,
Не ачнецца яно ўжо ніколі...

*(“Сэрца, сэрца, ты, можа, заснула?”, 1937)*

У 30-я гады К. Буйло не публікавала свае творы, а наступны зборнік “Світанне” пабачыў свет толькі ў 1950-м). Ёй было вельмі цяжка:

...Сэрца ні біцца, ні жыць больш не хоча.
Цяжка падняць мне стамлёныя вейкі,
Цяжка мне рукі ўгору падняць.
Тут не памогуць ні доктар, ні лекі,
Мукі такой не суняць.
Ты нежывы...

*(“Адчай”, 1937)*

Цяжка было не толькі з прычыны арышту і гібелі мужа. Дастаткова ўспомніць, што 30-я гады неслі сем’ям “ворагаў народа”, каб зразумець, пад якой пагрозай знаходзілася гэта жанчына, якая мела сына і, безумоўна, баялася за яго жыццё. Пры тым яна люта ненавідзела Сталіна, пісала пра яго вершы і знішчала іх – змаганне было актыўным і жорсткім, але схаваным ад чужых вачэй.

Актрыса, паэтка і педагог Паўліна Мядзёлка з’яўлялася сакратаром Беларускага камітэта дапамогі ахвярам вайны ў Петраградзе. Адна з першых выканала ролю Паўлінкі ў аднайменнай п’есе Янкі Купалы (Пецярбург, 1913 г.), удзельнічала ў рабоце Беларускага музычна-драматычнага гуртка ў Вільні. З 1917 г. працавала ў аддзяленні дапамогі ахвярам вайны па арганізацыі дзіцячых прытулкаў у Кіеве, па запрашэнні Магдалены Радзівіл брала ўдзел у арганізацыі і рабоце беларускай школы для сялянскіх дзяцей у вёсцы Жорнаўка Ігуменскага павета, у сакавіку 1918 г. выкладала ў Мінску. З вясны 1919 г. – інспектар беларускіх школ, кіраўнік Грамады беларускай моладзі і драмгуртка ў Гродна. У гэтым жа годзе за ўдзел у выданні газеты “Родны край” была арыштавана польскімі акупацыйнымі ўладамі. З пачатку 1920 г. кіравала ў Мінску жаночай беларускай школай, удзельнічала ў драматычных пастаноўках, была звязана з падполлем, арыштавана польскай дэфензівай, вывезена ў Варшаву і звяволена. Пасля вызвалення ў 1921 г. выехала ў Літву. Брала ўдзел у выданні ў Коўне агітацыйна-прапагандысцкай літаратуры, скіраванай супраць польскіх акупантаў Заходняй Беларусі. У 1921–1922 гг., згодна з прапановай Цішкі Гартнага, працавала ў выдавецкім аддзеле пры савецкім пасольстве ў Берліне, дзе дапамагала Ц. Гартнаму ў выданні беларускіх падручнікаў для школ. Там напісала імпрэсію “Гвалт, гвалт, гвалт!”, надрукаваную ў віленскай газеце “Гоман”.

Прыкладна ў гэты ж час распаўся шлюб Паўліны Мядзёлкі з грамадска-палітычным і культурным дзеячам, адным з лідараў Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў Тамашом Грыбам, які пры падтрымцы чэшскага ўраду сфарміраваў у Празе Цэнтр беларускай эміграцыі. Аднак напярэдадні разрыву адносінаў з мужам, едучы да яго, на той час зняволенага ў кракаўскай турме (1921), П. Мядзёлка напісала і прысвяціла яму “Песню змагання”, разам з іншымі яе творамі прадстаўленую ў “Бліскавіцах”:

Пад гоман вясёлы, пад звон чары поўнай,
пры зборы ўсіх нас тут, ў бяседзе такой,
успомнім мы, брацця, аб долі няроўнай –
усіх тых, што церпяць за край родны свой.
.....................................................

У Познань і Кракаў ў далёку чужыну,
сасланы ў няволю, як быццам навек –
бацькоў старых кінуў і мілу дзяўчыну,
а сам церпіць голад, і холад, і здзек...

Іронія лёсу: рэвалюцыйны рамантызм “мілай дзяўчыны”, якая ставілася з вялікім спачуваннем да пакутаў каханага, прысвяціла яму мастацкі твор, разбіўся аб рэальнасць (з’явілася нейкая прычына для разрыву адносінаў), але ў 20-х гадах песня набыла вялікую папулярнасць, стала неафіцыйным гімнам беларускіх эсэраў і была высока ацэнена кампазітарам Рыгорам Шырмам.

Асабістая драма суправаджала жанчын ва ўсе часы, а ў ліхі міжваенны перыяд дадавала цяжару і пакутаў, перажыўшы якія, яны адраджаліся і мужнелі. Асабліва яркім прыкладам гэтаму могуць служыць наступныя радкі маладнякоўкі Ганны Брэскай:

...Помню чорныя ночы бяссоння:
стынь, імгла...
...Я адна...
Муж у піўной,
муж з другой.
У калысцы галодны дзіцёнак.
А на сэрцы –
тупы боль...
...........................................
А сягоння
чуць дзень спазарання
разбудзіў нас
фабрычны гудок.
Я стаю ля станка,
ўсё мацнее рука.
Шэпчуць пасы машын:
ты жыві,
ты пішы,
ты пішы,
Ты жыві!..

*(“Хочацца жыць”, 1931)*

Муж Ганны Брэскай, які працаваў загадчыкам Полацкага краязнаўчага музея і настаўнікам выяўленчага мастацтва, у канцы 1928 г. быў арыштаваны і сасланы ў Сібір. Паэтка працягвала жыць у Полацку і, як вынікае з верша, працавала на адной з фабрык. З педагогам і мастаком Сямёнам Брэскім пазнаёмілася ў 1920 г., а ў 1922 г. выйшла за яго замуж. Мяркуючы па творах, прадстаўленых у анталогіі, у перыяд ад заключэння шлюбу да арышту мужа былі “песні аб светлай вясне” (“З каўказскіх напеваў”, 1926 г.), сэрца заходзілася ад шчасця (“Зімовае”, 1926 г.) і спраўлялася з “накіпам гора”:

Зялёны свет
дарыла сонца бору.
Зялёны свет...
А лісцям гоман слоў.
Сказала я –
што ў сэрцы накіп гора,
што рвецца дум разблытаных вязьмо.
Сказала так...
а песня звонам стала,
пяшчотных струн кранула перабор.
І дзесьці сум згубіўся і растаяў,
як тае лёд пад праменем вясной.

*(“Зялёны свет дарыла сонца бору”, 1927)*

Пасля арышту мужа – можна зразумець з першага працытаванага верша – Ганна Брэская засталася сам-насам з успамінамі і адраджалася да жыцця і творчасці. Якая вялікая розніца з пачуццямі Канстанцыі Буйло ў выніку рэпрэсій супраць яе мужа! Такое жыццё...

Некаторыя беларускія паэткі пакутвалі не толькі ад рэпрэсій супраць іх блізкіх і родных людзей, але і на сабе зведалі жахі сталінскіх лагераў. Так, у 1939 г. быў арыштаваны і расстраляны бацька Ларысы Геніюш, а маці і яе дзвюх сясцёр выслалі ў Казахстан. Сама Ларыса актыўна ўдзельнічала ў жыцці беларускай эміграцыі (у 1937 г. выехала ў Прагу, дзе жыў і вучыўся яе муж Янка Геніюш) і ў дзейнасці ўрада БНР (пэўны час была яго сакратаркай). У 1943 г. стала генеральнай сакратаркай урада і займалася захаваннем і ўпарадкаваннем архіва БНР, працягвала апекаваць беларускіх эмігрантаў, а таксама палітычных уцекачоў, беларускіх работнікаў і ваеннапалонных у Германіі. У 1948 г. была арыштавана, перавезена ў Мінск, асуджана на 25 гадоў зняволення ў папраўча-працоўных лагерах. У 1956 г. часткова рэабілітаваная са зменай тэрміну пакарання да 8 гадоў.

1930-я гады сталі надзвычай драматычнымі для лёсаў беларускай інтэлігенцыі, галоўным абвінавачаннем супраць якой з'яўлялася нацыянальна-дэмакратычная пазіцыя, і для таго, каб стаць "ворагам народа", дастаткова было выступаць за развіццё нацыянальнай культуры і пісаць па-беларуску. Гэтыя неспрыяльныя для беларускай нацыі варункі знайшлі свой выразны адбітак у паэзіі Ларысы Геніюш міжваеннага перыяду:

Меле млын высокі.
На сівым вяку
меле нашу долю,
меле на муку.

Засыпаюць у жорны
жыта-Беларусь,
перамелюць з горам,
з болем пертруць.

Млынары чужыя,
варажосць наўкруг,
адсяваюць сіты
беларускі дух...

*("Млын", 1939)*

У 1930 г. па справе "Саюза вызвалення Беларусі" быў арыштаваны былы каталіцкі святар і паэт Аляксандр Сак. У 1937 г., як удзельніка нацдэмаўскай арганізацыі, яго арыштавалі паўторна. Пасля гэтага арыштавалі яго жонку – мінскую выкладчыцу беларускай мовы і літаратуры, паэтку і празаіка Ядвігу Бяганскую, і яе бацьку. У 1938 г. Ядвіга была асуджаная на 10 гадоў лагераў і адпраўленая на Калыму. Раней у вершы, прысвечаным мужу пасля яго першага арышту, жанчына пісала:

...Ты навошта, навошта маўчыш
І раняеш слязінкі на снег?
І навошта ў вачах гэты сум,
І чаму ў сэрцы роспач ізноў:
І за кратамі песні красуюць,
І ў кайданах не згасне любоў.
Той, хто моліцца сонечным ўзвышшам,
Пераможа няволю і здзек!..

*("Ў белых далях халодная ціш", 1930)*

Давялося задумацца: што гэта – наіўная спроба падтрымаць блізкага чалавека, або даніна часу і няўдалая “работа на публіку”? Як пазней сама Ядвіга Бяганская паводзіла і пачувала сябе, будучы арыштаванай, у зняволенні і на Калыме – няўжо не было роспачы і суму? Наўрад ці красавалі ў яе за кратамі песні, калі ў тым жа 37-м быў расстраляны муж і сама чакала прысуду. У любым выпадку, з цягам часу перамога мужнай жанчыны над няволяй і здзекам адбылася. Пасля свайго вызвалення, у 1948 г., Ядвіга выйшла замуж за мастака Міхаіла Леберфарба, атрымала дазвол вярнуцца ў Беларусь, пасялілася ў Рэчыцы. Рэабілітаваная ў 1954 г., дачакаўшыся праз год пасмяротнай рэабілітацыі А. Сака, пераехала з сям’ёй у Мінск.

Асабліва напакутвалася Яніна Германовіч – жонка рэпрэсаванага паэта Тодара Кляшторнага. У 1937 г. яна, маці трох дачок, была арыштаваная і асуджаная як жонка “здрадніка радзімы” да 8 гадоў выпраўленча-працоўных работ. У 1938 г. прыбыла з Аршанскай турмы ў Акмолінскі лагер жонак здраднікаў радзімы (Казахская ССР). Вызваленая ў 1945 г., паўторна арыштаваная ў 49-м і высланая ў Кемераўскую вобласць (г. Бялова). Канчаткова вызваленая і рэабілітаваная ў 1955 г. Пасля лагераў засталася цяжкахворай і некалькі разоў перанесла інсульт. У анталогіі змешчаны адзін верш Яніны Германовіч пад назвай “Надзеі”, напісаны ў 1929 г. – праз два гады пасля заключэння шлюбу (1927) з Тодарам Кляшторным і за восем гадоў да арышту і расстрэлу мужа (1937) і пачатку ўласных блуканняў па пакутах. Цяжка чытаць гэтыя радкі, ведаючы, што чакала паэтку праз восем гадоў пасля іх напісання:

...Ах, песні! Песні-надзеі...
І колькі ў тонах чуць веры!
Якой не ўкрадуць зладзеі –
Буры, нягоды не разувераць!

Надзеі, вечныя надзеі!..
Надзеі, сэрца парыванні...
Я вамі сэрца вечна грэю –
Іду ў прасторы, што прывабны.

Не трагічна, але надзіва пакручаста склаўся лёс Наталлі Вішнеўскай. Яна была жонкай трох беларускіх паэтаў: Алеся Дудара (пабраліся шлюбам у 1928 г., у 1937 г. пасля трэцяга арышту А. Дудар быў расстраляны), Алеся Звонака (пазнаёміўся з Наталляй у 1930 г., арыштаваны ў 1936 г. і асуджаны ў 37-м на 10 гадоў пазбаўлення волі ў лагерах Магаданскай вобласці, рэабілітаваны ў 1954 г., памёр у 1996 г., перажыўшы на сем гадоў сваю былую жонку Н. Вішнеўскую), Янкі Бобрыка (пабраўся шлюбам з Н. Вішнеўскай у 1938 г., разам з А. Звонакам і Я. Туміловічам выдаў зборнік вершаў “Пунсовае ранне” (1926), быў удзельнікам абароны Ленінграда, дзе і памёр у 1942 г.). Наталля Вішнеўская, перажыўшы блакадную зіму і аўдавеўшы, у 1942 г. эвакуявалася з дзіцячым домам у Горкаўскую вобласць, у 45-м вярнулася ў Ленінград. Літаратурнай дзейнасцю займалася з 1922 па 1930 г. Сярод яе твораў, прадстаўленых у анталогіі, прываблiваюць сваім народна-песенным стылем і меладычнасцю маладнякоўскія вершы “Плакала дзяўчына...” (1926) і “Варажыла сэрца, варажыла ў ростань” (1926), напрыклад, такія радкі:

Варажыла сэрца, варажыла ў ростань –
Будзе любы, будзе доўгажданы госцем.

Прыйдзе любы ўвосень... Жоўтыя пракосы...
Зноў рассыпле з смехам залатыя косы.

Зазірне у вочы, ласкава прыгорне;
Заспяваю песню, што спявала ўчора:

“Ой ля саду, саду сеяла рассаду,
Слязьмі палівала, цябе паджыдала...

Над ракой каліну гнулі ветры долу...
Дзе ж ты, мая радасць, дзе ты, мая доля?”...

Яшчэ адна маладнякоўка, Іда Чырвань, мела нядоўгі шлюб з ужо добра вядомым на той час празаікам Кузьмой Чорным, з якім пазнаёмілася ў верасні 1925 г. і неўзабаве выйшла замуж. У студзені 1926 г. вярнулася да бацькоў. Можа быць, пад уражаннем знаёмства з пісьменнікам і на хвалі летуценных і рамантычных пачуццяў да яго напісалася:

Закахалася бурай, грымотай,
што бліскоча і б’е перуном.
Закахалася сонцам, асокай,
працай вольнай, яе песняром.
....................................
Закахалася светам ад сонца,
зіхаценнем праменняў ад зор.
Сэрца поўна каханнем бясконцым –
і складаюцца песні ў узор!

*(“Закахалася”, 1925)*

А вось іншая літаратурна-сямейная пара пратрымалася не адно дзесяцігоддзе: Максім Лужанін і Яўгенія Пфляўмбаўм былі разам і ў горы, і ў радасці 65 гадоў – ад заключэння шлюбу ў 1931-м і да смерці Я. Пфляўмбаўм у 1996-м. Гэта не толькі таленавітая, моцная, верная, але і гераічная жанчына паехала ўслед за мужам у Сібір (у 1933 г. М. Лужанін быў без віны асуджаны на два гады пазбаўлення волі і сасланы). Перад Вялікай Айчыннай вайной яны некалькі гадоў жылі ў Маскве. Падчас вайны Максім Лужанін быў прызваны на фронт, удзельнічаў у Сталінградскай бітве, быў кантужаны, а Яўгенія Пфляўмбаўм з’яўлялася байцом супрацьпаветранай абароны Масквы. Яны перажылі рэпрэсіі і дзве вайны, зрабілі каштоўны ўклад у гісторыю беларускай літаратуры, але не пакінулі нашчадкаў. Іх адзіная дачка памерла маладой ад анкалогіі, і аўдавелага ў 96-м пісьменніка да скону (М. Лужанін памёр у 2001-м на 91-м годзе жыцця) даглядала ўнучка яго расстралянага сябра юнацтва Тодара Кляшторнага. Адмысловае перапляценне лёсаў...

У “Бліскавіцах” змешчаны вершы Яўгеніі Пфляўмбаўм перыяду 1926-1929 гг., г. зн. напісаных да шлюбу – да пачатку яе няпростага, светлага і сумнага шляху даўжынёй у 65 год. Якой была яна на той час, калі і падумаць не магла што чакае наперадзе? А вось такой адначасова сур’ёзнай і летуценнай, радаснай і засмучанай, закаханай і расчараванай, маладой, але ўжо прафесійнай паэткай:

...Так я адчула радасць існавання,
І самацветны золак у жыцці,
І безнадзейнасць першага расстання,
І ўслаўленне вольнага пуці...
Красу мелодый гордых і крыштальных,
Прароцтва сноў у чыстаце душы,
Жалобны стогн у песні пахавальнай,
І серабрыстага кахання шыр...

Шаўковы шолах веснавейнай плыні,
Знаёмы рытм сугучнасці палёў,

І непарушны подых багавіння
У каляровасці пяшчотных слоў...

*("Гімн", 1927)*

Увогуле звышскладаны і для многіх жанчын-паэтак амаль невыносны міжваенны перыяд быў толькі прадвесцем далейшага зусім не зайздроснага лёсу. Вось, напрыклад, Наталля Арсеннева – адна з найбольш яркіх зорак таго часу, пра якую Максім Танк пісаў у "Лістках календара": "Трэба прызнаць, што са сваіх інтымных пачуццяў яна ўмее вязаць прыгожыя карункі".

Неба сіняе, сіняе, сіняе
Зямлю будзіць ад доўгага сна.
Адусюль смутна-пекнай княгіняю
Пазірае спакойна вясна.
На ўгорку кусты пахіляюцца,
Ветрык лашчыцца, штось ім пяе.
Тут з пралескай пралескі сплятаюцца,
Сірацінкай фіялка цвіце...
......................................................
У душы маей штось абрываецца,
Штось нячутна канаець, а тут...
Тут фіялкі цвітуць цёмна-сінія,
Ветрык дыхаець пахам вясны.
Адусюль яна пекнай княгіняю
Сее новыя, светлыя сны!

*("Красавік", 1921)*

Гэты насамрэч прыгожы "карункавы" верш маладая паэтка прысвяціла свайму выкладчыку (вучылася ў Першай Віленскай беларускай гімназіі), выбітнаму беларускаму пісьменніку, літаратуразнаўцу, лексікографу, фалькларысту, дзеячу беларускага нацыянальна-дэмакратычнага адраджэння Максіму Гарэцкаму, які першым звярнуў увагу на яе паэтычныя здольнасці і падтрымаў у творчых памкненнях. Хіба можна было тады думаць ці прадчуваць, як трагічна складзецца лёс М. Гарэцкага, расстралянага праз 17 гадоў, як далёка ад радзімы давядзецца жыць самой Н. Арсенневай (у 1944 г. эмігравала ў Германію, з 1949 г. жыла ў ЗША). Тады ж, будучы гімназісткай, таленавітая дзяўчына пазнаёмілася са старэйшым за яе на восем гадоў вайскоўцам Францам Кушалем, за якога ў 1922 г. выйшла замуж. Пазней нарадзіла двух сыноў – Яраслава і Уладзіміра, з якімі ў 1940 г. як жонка палоннага польскага афіцэра была выслана ў Казахстан (застаецца толькі здагадвацца, як ёй з дзецьмі далася тая 20-дзённая дарога ў нечалавечых умовах). У 1941 г., дзякуючы заступніцтву і дапамозе Максіма Танка, вярнулася з высылкі на Беларусь.

А потым настаў самы страшны для Наталлі Арсенневай дзень – 22 чэрвеня 1943 года, пра які яна пазней распавяла так: "Найгоршы, найцяжэйшы дзень у маім жыцці. Наш Ярак, якога я так любіла, быў разарваны мінаю, падложанаю ў тэатры. Разам зь ім загінула шмат, шмат іншых. Немагчыма было, здаецца, перажыць гэтыя дні, а трэба было. І я сапраўды ня ведаю, каму я павінна дзякаваць за тую сілу, той дзіўны гарт, які даў мне перажываць гэты час спакойна, — лёсу, Богу? Пахаваньне ахвяраў бальшавіцкага тэрору было ўрачыстае, ды я мала што памятаю. Памятаю толькі, што трунаў было 14. Памятаю, што сьвяціла сонца і што я плакала і плакалі ўсе вакол..." У жанчыны, акрамя ўласнага, столькі жыццяў, колькі ў яе дзяцей. У той дзень Наталля Арсеннева "загінула" разам са сваім сынам, і на адно жыццё ў яе стала менш, як, дарэчы, "памерла" ад раку разам са сваёй дачкой Яўгенія Пфляўмбаўм. Няма нічога страшнейшага для

маці, як пахаваць сваё дзіця. Яны гэта мужна вытрымалі і засталіся здольнымі да творчасці, ці можа вытрымалі менавіта дзякуючы Богам дадзенай магчымасці тварыць і дарыць людзям прыгажосць і светласць нават у самыя змрочныя часы...

“Бліскавіцы” далі мне не толькі шмат падстаў для роздуму над складанымі лёсамі жанчын-паэтак, але і “прапанавалі” літаратурную загадку, якой стаў верш Веры Мурашкі (Маслоўскай) пад назвай “Малітва”. З ім яна дэбютавала ў 1918 г. у газеце “Гоман”. Справа ў тым, што гэты верш амаль даслоўна паўтарае аднайменны твор члена Расійскага Імператарскага дома, вялікага князя Канстанціна Раманава (вершы падпісваў крыптанімам К. Р.), напісаны ў 1886 г., пакладзены на музыку і па сённяшні дзень папулярны ў якасці раманса, які выконваюць расійскія акцёры і спевакі Аляксандр і Алена Міхайлавы.

| **Малітва** | **Молитва** |
|---|---|
| Навучы мяне, Божа, любіць<br>Чыстым сэрцам і ўсёю душою<br>І душу каб Табе пасвяціць,<br>І вечна бы жыці з Табою. | Научи меня, Боже, любить<br>Всем умом Тебя, всем помышленьем,<br>Чтоб и душу Тебе посвятить<br>И всю жизнь с каждым сердца биеньем. |
| Навучы Ты мяне пазнаваць<br>Адну толькі Сваю міласэрную волю,<br>Навучы Ты мяне, як яе пільнаваць,<br>Сустрэўшы долю й нядолю. | Научи Ты меня соблюдать<br>Лишь Твою милосердую волю,<br>Научи никогда не роптать<br>На свою многотрудную долю. |
| Ты сваёю прачыстаю кроўю,<br>Усіх каторай прыйшоў акупіць,<br>Прасвяці мяне Тваёю любоўю,<br>Навучы мяне, Божа, любіць. | Всех, которых пришел искупить<br>Ты Своею Пречистою Кровью,<br>Бескорыстной, глубокой любовью<br>Научи меня, Боже, любить! |
| **Вера Мурашка (Маслоўская), 1918 г.** | **К. Р. (Константин Романов), 1886 г.** |

Можна сказаць, што беларуская паэтка пераклала твор і выдала яго за ўласны. Або памылка адбылася падчас апублікавання: В. Мурашка папярэдзіла, але выдаўцы забыліся пазначыць, што гэта пераклад?..

У пасляслоўі да “Бліскавіц” Віктар Жыбуль напісаў: “Хочацца таксама верыць, што нашая анталогія паспрыяе з’яўленню новых даследаванняў па гісторыі беларускай літаратуры, дапаможа паглядзець на яе іншымі вачыма, а чытачы атрымаюць задавальненне і карысць ад знаёмства з анталогіяй. У такім разе можна будзе лічыць, што першасная задача ўкладальнікаў выканана, бо пошук і асэнсаванне працягваюцца”. Укладальнік не памыліўся – я зрабіла для сябе некалькі адкрыццяў, знайшла што асэнсаваць і што даследаваць. Не сумняюся: кожны, хто прачытае анталогію (не важна, цалкам ці творы некаторых выбраных для сябе паэтак), будзе ўражаны і задаволены не менш за мяне.

# Забірай маё лета

## *Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»*




**Гуніла Бэргстрэм. Суперкніга пра Біла з Болаю (Біл разумны, а Бола вясёлая) / мастак Гуніла Бэргстрэм; пер. Андрэя Хадановіча, падрадкоўны пер. са швед. Алесі Башармавай і Надзі Кандрусевіч. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”. Падсерыя “Каляровы ровар”; вып. 18). – 68 с.**

Саюз беларускіх пісьменнікаў выпусціў унікальную дзіцячую кнігу “Суперкніга пра Біла з Болаю” пра маленькую дзяўчынку з абмежаванымі магчымасцямі. Гэта першая кніга па-беларуску, дзе пранікнёна і рэалістычна распавядаецца пра сям’ю, у якой расце незвычайнае дзіця.

У хлопчыка Біла з’яўляецца маленькая сястрычка Бола – нагода для радасці, весялосці і гонару. Але час ідзе, і пакрысе сям’я пачынае разумець, што з Болай адбываецца нешта не тое, яна зусім не размаўляе. Кніга ў вершаванай форме распавядае пра жыццё маленькай дзяўчынкі, якая ніколі не будзе як усе. Пра звязаныя з гэтым радасць і гора, надзею і роспач. Пра тое, наколькі мы гатовыя жыць побач з тымі, хто не падобны да нас. Але найперш гэтая кніга пра любоў і здольнасць прымаць.




**Алесь Камоцкі. Забірай маё лета. – Мінск: Галіяфы, 2017. – 94 с.**

Новая кніга Алеся Камоцкага вельмі настраёвая. Напісаная ў часавым прамежку 2012–2014 гг., яна будзе выдатна пасаваць для няспешлівага чытання восеньскай парою – гледзячы, як ападае ў садзе апошняе лісце, альбо седзячы ў любімым фатэлі ля каміна... Акрамя вершаў, песняў і кавераў, у кніжцы змешчаны пераклад “Прогласа да Евангелля” балгарскага багаслова Канстанціна Прэслаўскага (X ст.). Асобна варта адзначыць цудоўную працу фотамайстра-аздабляльніка Вадзіма Грудзько.

*Цемрай глядзіць*
*Заўтрашні ранак,*
*Зноў мы жывём*
*Праўдай адной.*

*Так, як заўсёды,*
*Так, як адвеку,*
*Цемра загіне*
*Наступнай вясной.*

**Свэн Нурдквіст. Фіндус з'язджае. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў "Кнігарня пісьменніка". Падсерыя "Каляровы ровар"; вып. 17). – 36 с.**




Аматараў смешных гісторый шведскага пісьменніка і мастака Свэна Нурдквіста пра дзядулю Пэтсана і кацяня Фіндуса чакае прыемны падарунак! Серыя «Каляровы ровар» Бібліятэкі Саюза беларускіх пісьменнікаў папоўнілася чарговай кнігай, перакладзенай на нашую мову, як і папярэднія, Надзеяй Кандрусевіч.

"Фіндус з'язджае" – шостая па ліку абеларушаная кніга. У 1990 годзе Свэн Нурдквіст напісаў для тэатра гісторыю, Стэфан Муберг зрабіў драматургічную апрацоўку тэксту і паставіў спектакль у тэатры Resenär у Стакгольме. Выданне створана паводле гэтай п'есы.

У гэтай казцы распавядаецца пра тое, як стары Пэтсан вырашыў трошкі правучыць гарэзлівага і непаслухмянага коціка Фіндуса, які будзіў дзядулю а чацвёртай раніцы, і перасяліў яго ў маленькі асобны драўляны дамок а-ля вясковая прыбіральня. Што з гэтага выхаваўчага працэсу атрымалася, і ці можа дзядуля жыць адзін і не сумаваць без кацяняці-непаседы, кожны ахвотны зможа дазнацца са старонак шыкоўна ілюстраванай кнігі.

**Лявон Юрэвіч. Літштудыі. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – 208 с.**




Новая кніга вядомага крытыка і архівіста Лявона Юрэвіча складаецца з літаратуразнаўчых нарысаў, прысвечаных розным жанрам, аўтарам і творам айчыннага пісьменства. Сярод аб'ектаў цікавасці даследчыка беларускай эміграцыі з Нью-Ёрка – творчасць Змітрака Бядулі, Юркі Віцьбіча, Язэпа Дылы, Уладзіміра Караткевіча, Рыгора Крушыны, Вацлава Ластоўскага, Янкі Юхнаўца і іншых.

Як адзначае ў прадмове да кнігі літаратуразнаўца Ціхан Чарнякевіч, "тое, што робіць Лявон Юрэвіч, заўжды цікава, у гэтай жа кнізе самая ідэя раскрыць беларускі мастацкі час падалася акуратна ўвасобленай не толькі дзякуючы тэме. Рэч у тым, што ён, нягледзячы на ўсю грунтоўнасць сваіх ведаў, не імкнецца стварыць "генеральнай лініі". Перабіраючы пацеркі невядомых твораў, ускосных сведчанняў, забытых імёнаў, запыленых класікаў і выпадковых іх спадарожнікаў, Юрэвіч нагадвае гітарыста, які вядзе сваю лінію на тонкіх сугуччах-фліжалетах і стварае ўласную мелодыю, не запазычваючы чужой. Падобнай тонкасці і сціпласці відавочна бракуе нашаму літаратуразнаўству..."

# Нашыя аўтары

**Ажэшка Эліза** — польская пісьменніца беларускага паходжання. Аўтарка раманаў «Пампалінскія», «Сям'я Брохвічаў», «Над Нёманам», «Арганаўты», аповесцяў «Апошняе каханне», «Нізіны», «Марта», «Дзюрдзі», «Хам» і інш. Нарадзілася ў 1841 годзе ў маёнтку Мількаўшчына на Гарадзеншчыне. Памерла ў 1910 годзе ў Гародні.

**Аксак Валянціна** — паэтка, журналістка. Аўтар кніг «Цвінтар», «Капліца», «Віно з Каліфорніі», «Ружоўніца», «Дзікая сліва». Лаўрэатка прэміі «Залаты апостраф» (2008). Нарадзілася ў 1953 годзе ў вёсцы Смалічы на Нясвіжчыне. Жыве ў Мінску.

**Бельскі Алесь** — празаік, літаратуразнаўца, крытык. Аўтар кніг прозы «Ружовая знічка», «Хроніка смутку», «Сны пра дзяцінства» і інш. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя І. Мележа (2000). Нарадзіўся ў 1963 годзе ў мястэчку Цімкавічы на Капыльшчыне. Жыве ў Мінску.

**Брусевіч Анатоль** — паэт. Аўтар кніг паэзіі «Дуэль», «Падаю ў неба», «Апошні дзень», манаграфіі «Фактары беларускай культуры ў творчасці Адама Міцкевіча». Нарадзіўся ў 1977 годзе ў Гародні, дзе і жыве.

**Бутэвіч Анатоль** — празаік, перакладчык, эсэіст. Аўтар кніг «Прыгоды лісціка-карунчыка», «Прыгоды памаўзлівай Рыскі», «Прыгоды віруса Шкодзі», серыі кніг «Сем цудаў Беларусі», рамана «Каралева не здраджвала каралю», гістарычных эсэ «На далонях вечнасці». Перакладаў творы С. Лема, Э. Ажэшкі, Э. Хемінгуэя, Д. Олдрыджа, Р. Курыльчыка і інш. Нарадзіўся ў 1948 годзе на хутары Язавец на Нясвіжчыне. Жыве ў Мінску.

**Галубовіч Леанід** — паэт, празаік, крытык. Аўтар кніг «Таемнасць агню», «Споведзь бяссоннай душы», «Зацемкі з левай кішэні», «апошнія вершы леаніда галубовіча», «Сыс і кулуары», «З гэтага свету», «Поўня». Лаўрэат прэміі «Залаты апостраф» (2013). Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Вароніна на Клеччыне. Жыве ў Мінску.

**Гібок-Гібкоўскі Алесь** – паэт, эсэіст, бард. Аўтар кнігі вершаў «Насамрэч». Пераклаў на беларускую мову кнігу Дж. Радыры «Прыгоды Чыпаліны». Лаўрэат прэміі Беларускага саюза журналістаў «Залатое пяро», Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі. Нарадзіўся ў 1952 годзе ў вёсцы Рупейкі на Ваўкавышчыне. Жыве ў Мінску.

**Глобус Адам (Адамчык Уладзімір)** — празаік, паэт, эсэіст, мастак, выдавец. Аўтар кніг паэзіі «Парк», «Скрыжаванне», кніг прозы «Адзінота на стадыёне», «Дамавікамерон», «Толькі не гавары маёй маме», «Post scriptum», «Браслаўская стыгмата», «Сшыткі», «Дом», «сУчаснікі» і інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Дзяржынску. Жыве ў Мінску.

**Дранько-Майсюк Леанід** — паэт, празаік, эсэіст, перакладчык. Аўтар кніг «Вандроўнік», «Тут», «Над пляцам», «Акропаль», «Стомленасць Парыжам», «Гаспода», «Цацачная крама», «Анёлак і я», «Кніга для спадарыні Эл», «...Натуральны, як лінія небасхілу» і інш. Лаўрэат прэміі «Залаты апостраф» (2005). Нарадзіўся ў 1957 годзе ў Давыд-Гарадку. Жыве ў Мінску.

**Жыбуль Віктар** — паэт, перакладчык, літаратуразнаўца. Аўтар кніг «Калі ў хаце дыверсант», «Рогі гор», «Прыкры крык», «Дыяфрагма», «Стапеліі», «Дзяцел і дупло» і інш. Лаўрэат прэміі «Залаты апостраф» (2011). Нарадзіўся ў 1978 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Ігнацюк Алена** — паэтка. Аўтарка кніг «Нота "ля"», «Летаргія», «Будзе ўсё наадварот». Нарадзілася ў 1962 годзе ў вёсцы Асаўцы на Драгічыншчыне. Жыве ў Пінску.

**Малец Янусь** – паэт, парадыст, крытык. Аўтар кніг «Бедны конь», «Трава ў вушах», «Родны мацярык», «Намінальны людзель», «Таямніца Хрыстова» і інш. Нарадзіўся ў 1951 годзе ў вёсцы Хрыстова на Пастаўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Міцкевіч Вера** – архівістка. Выступае ў друку з публікацыямі пра малавядомыя старонкі жыцця і творчасці Якуба Коласа. Працуе бібліятэкарам сектара навуковых работнікаў аддзела бібліятэчнага абслугоўвання Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Нарадзілася ў Мінску ў 1961 годзе, дзе і жыве.

**Наўроцкі Алесь** – паэт, празаік. У 1964 г. прыняты ў сябры Саюза пісьменнікаў СССР. У 1978 г., пратэстуючы супраць прымянення псіхіятрыі ў палітычных мэтах, выйшаў з Саюза пісьменнікаў. У 1981 г. прымацаваны да псіханеўралагічнага дыспансера і пазбаўлены працы ўрача. Аўтар кніг вершаў «Неба ўсміхаецца маланкаю», «Гарачы снег», «Пакаленні і папялішчы», кнігі апавяданняў «Валун». Нарадзіўся ў 1937 годзе ў вёсцы Давыдаўка на Гомельшчыне. Памёр у 2012 годзе.

**Някляеў Уладзімір** — паэт, празаік, эсэіст. Аўтар кніг паэзіі «Адкрыццё», «Вынаходцы вятроў», «Наскрозь», «Прошча», «Так», «Лісты да Волі», «Толькі вершы»; прозы «Цэнтр Еўропы», «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без» і інш. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (1998), прэміі «Залаты апостраф» (2008), прэміі імя Ежы Гедройца (2013). Нарадзіўся ў 1946 годзе ў Смаргоні. Жыве ў Мінску.

**Пісарэнка Сяргей** – мастак. Скончыў Беларускую акадэмію мастацтваў па спецыяльнасці графіка. Працы знаходзяцца ў фондах Нацыянальнага мастацкага музея, Музеі сучаснага мастацтва, прыватных калекцыях Іспаніі, Германіі, Швецыі, Швейцарыі, Паўночнай Амерыкі, Расіі, Беларусі. Нарадзіўся ў 1967 годзе ў Маладэчне. Жыве ў Мінску.

**Разанаў Алесь** — паэт, перакладчык, эсэіст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (1990). Аўтар кніг паэзіі «Адраджэнне», «Каардынаты быцця», «Шлях-360», «Вастрыё стралы», «У горадзе валадарыць Рагвалод», «З апокрыфа ў канон», «Рэчаіснасць», «Гліна. Камень. Жалеза», «Кніга ўзнаўленняў», «З апокрыфа ў канон» і інш. Нарадзіўся ў 1947 годзе ў вёсцы Сялец на Бярозаўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Рублеўская Людміла** — паэт, празаік, крытык, драматург, нарысіст. Аўтарка кніг паэзіі «Крокі па старых лесвіцах», «Адукацыя», «Замак месячнага сяйва», прозы «Старасвецкія міфы горада Б*», «Сэрца марморавага анёла», «Пярсцёнак апошняга імператара», «Шыпшына для пані», «Сутарэнні Ромула», «Ночы на Плябанскіх млынах», «З'яўленне Інфанты», «Дагератып» і інш. Лаўрэатка прэміі «Залаты апостраф» (2004), прэміі імя Ф. Багушэвіча (2011). Нарадзілася ў 1965 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Рублеўскі Сяргей** — празаік, паэт, публіцыст. Аўтар кніг прозы «Апостраф», «Азярод», «Абмытыя валуны», «Ў, тое, што мы скарацілі», «Маўчанне на ўвесь Божы свет», «Святло лускі», «Паспець надыхацца» і інш. Нарадзіўся ў 1954 годзе ў вёсцы Бабча на Лепельшчыне. Жыве ў Віцебску.

**Скобла Міхась** — паэт, парадыст, перакладчык, эсэіст. Аўтар кніг вершаў «Вечны Зніч», «Вочы Савы», «Нашэсце Поўні», «Акно для матылькоў» і інш., кніг нарысаў «Дзярэчынскі дыярыюш», «Саркафагі страху» і інш. Складальнік анталогій беларускай паэзіі ХХ ст. «Краса і сіла» (2003) і сусветнай паэзіі ў беларускіх перакладах «Галасы з-за небакрая». Лаўрэат прэмій імя Ведзьмака-Лысагорскага (1988), Алеся Адамовіча (2000), «Залаты апостраф» (2016). Нарадзіўся ў 1966 годзе ў вёсцы Паляжын на Зэльвеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Трафімчык Анатоль** – паэт, літаратуразнаўца. Аўтар кніг «Пасведчанне аб нараджэнні», «Ноты цноты», «Лірыка Лірыка», «Вобраз Тадэвуша Касцюшкі ў беларускім мастацкім слове», «1939 год і Беларусь» і інш. Нарадзіўся ў 1976 годзе ў вёсцы Вялікія Круговічы на Ганцавіччыне. Жыве ў Мінску.

**Тураўскі Кірыла** – святы праваслаўнай царквы, аўтар царкоўна-асветніцкіх і царкоўна-літаратурных твораў. Сучаснікамі быў называны Залатавустам. Нарадзіўся паміж 1110 і 1134 гадамі ў Тураве, дзе і памёр каля 1182 года.

**Федарэнка Андрэй** — празаік, драматург. Аўтар кніг прозы «Гісторыя хваробы», «Сінія кветкі», «Шчарбаты талер», «Афганская шкатулка», «Нічые», «Мяжа», «Ланцуг», «Ціша» і інш. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Івана Мележа (1995). Нарадзіўся ў 1964 годзе ў вёсцы Бярозаўка на Мазыршчыне. Жыве ў Мінску.

**Хадановіч Андрэй** — паэт, перакладчык. Аўтар кніг паэзіі «Лісты з-пад коўдры», «Старыя вершы», «From Belarus with love», «Сто лі100ў на tut.by», «Бэрлібры», «Несымэтрычныя сны», «Нататкі таткі», «Цягнік Чыкага-Токіё» і інш. Перакладае з ангельскай, французскай, польскай, украінскай і інш. моваў. Лаўрэат прэміі «Залаты апостраф» (2007). Нарадзіўся ў 1973 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Цвірка Кастусь** – паэт, празаік, перакладчык, фальклярыст, этнограф. Аўтар кніг «Рака дарог», «Зялёная Дуброва», «Чарназём», «Слова пра Сыракомлю...», «Лодка долі тваёй», «Лісце забытых алеяў», «Воўчая выспа» і інш. Лаўрэат прэміі «Залаты апостраф» (2011). Нарадзіўся ў 1934 годзе ў вёсцы Зялёная Дуброва на Старадарожчыне. Жыве ў Мінску.

**Шавыркіна Міраслава** — празаік, паэт. Скончыла філфак БДУ, працавала ў часопісе «Роднае слова». Вершы друкаваліся ў часопісах «Маладосць», «Першацвет», «Дзеяслоў». Нарадзілася ў 1974 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Шакель Ганна** – паэтка. Студэнтка Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта. Нарадзілася ў 1998 годзе ў Маладэчне. Жыве на два гарады – паміж Маладэчнам і Мінскам.

**Якавенка Наталля** – крытык, літаратуразнаўца. Аўтарка кнігі «Аўтарскі пераклад (Праблема аўтарскага перакладу прозы ў беларускай літаратуры ХХ ст.)», шматлікіх публікацый у беларускім друку. Нарадзілася ў 1973 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**




Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры перадруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Юрыя Дзядзінкіна, Юрыя Іванова, Анатоля Клешчука, Яўгена Коктыша,
Уладзіміра Крука, Глеба Лабадзенкі, Віктара Стралкоўскага,
Сяргея Шапрана, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.